СЦЯПАН КУХАРАЎ

# СЦІШАНАЕ ПОЛЕ

АПАВЯДАННІ,
НАРЫСЫ, ЭСЭ,
ЛІТАРАТУРНЫЯ ПАРТРЭТЫ

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1986



## У ЗАВІРУХУ

— Сын, раскажу табе, як аднойчы ездзіла ў Нярахаўку старгавацца наконт гумна. Было ета зімою, на каляды, здаецца. Пачула, што там, ля Мазуравых хутароў, у Нярахаўцы, гаспадар мае прадаць гумно А жылі тады ўсе аднаасобна, то, сам знаеш, як прасіцца са збажыною ў падсуседзі. У аднаасобніцтве без сваёй адрыны, а тым больш без гумна, нельга было зусім жыць. Далібог, праўда, можа, маладыя і не вераць, але ж ета чыстая праўда!

Запрэгла ў сані каня. Ой, а конь жа быў. Дужа-дужа наравісты. Можна сказаць, для вясковай жыткі няздатны. Ці помніш ты каня таго?..

— А як жа, Ардэнцам звалі...

— Так, нейкая нянаская назва, і конь быў нянаскай, казалі, заводскай пароды.— Маці памаўчала, паправіла на ссівелай галаве хустку-гарусоўку і, як павесялелая, казала: — Конь быў, ой жа, пацешны. Можна пра таго каня цэлы дзень расказваць. Не конь то, а цырк на дроце. Вот і запрэгла ў сані я свайго Ардэнца. Паклала ў розвальні мяшок з сенам і адправілася, як сказана ўжо, купляць гумно. А грошай мела ўсяго дваццаць рублёў. Ета ўсяго, каб пакласці на задатак.

Прыехала ўдала ў тую Нярахаўку, знайшла двор таго чалавека, а яго дома не застала. Агледзела будыніну. Яна мне прыдалася. Пра гумно мне наказаў твой бацька, а сам на зіму з'ехаў на шахты. Сказаў, каб гуменца апытала. Знацца, агледзела я тое гумно — яно амаль што новае і страха свежая, нават салома не зашарэлася, як сонейка, блішчыць. Адным словам, пагляднае, спраўнае гуменца!

І што ж. Давялося ехаць у другі раз, бо гаспадыня мне нічога пэўнага не сказала: «Маўляў, гумно прадаецца, а больш яна нічога не ведае...»

Вось і гаспадар дома. Сталі мы рахавацца. Ён, аказваецца, і бацьку нашага ведае. Паверыў мне, і старгаваліся мы на паўтары сотні. А грошай у мяне ўсяго дзве дзесяткі, але я не рашаюся іх аддаць. Бо як жа без сведкі. Я і кажу, што грошы прывязу пасля, а ён усё хіліць на тое, каб я паклала задатак. Без задатку не згаджаецца — усё муляецца.

На тым і парашылі, што я пасля, ускорасці, прывязу задатак. Паехала я дамоў, а ўжо стала сутоньвацца, цямнець. Які ж той зімовы, каляды ўжо надышлі, дзень. Калядны дзень, кажуць, як заечы хвост.

Дарога, як ведаеш, ішла праз лес. Вусцішна. Стараюся, каб хаця да цемначы выбрацца на віднейшае, на палявік, але дзе там. Неўзабаве, як на тое ліха, закруціла, завіхрыла, і завея-завіруха нахапілася: усё перад вачамі закружылася, закіпела, як у гаршку. Усё змяшалася, ні макулінкі не відно, і цемрыва насунулася, хоць вока выкалі. Стала цёмна, як у варыўні. Паверыш, я не з баязлівых, а страх пачаў падбірацца за плечы. Ды і марозік крапчэе, за шчокі шчыпле. Ну, думаю, што будзеш рабіць? Сяджу ў санках-розвальнях і разважаю...

...А конь, Ардэнец наш, соўгаецца, як нежывы. Снегу намяло — пад пахі каню. І што ты думаеш, успомніла, як старыя людзі казалі, што не трэба каня тузаць — ён сам дарогі патрапіць. Яшчэ і бацька мой, твой дзед Ціхан, казаў: «Адпусці лейцы, конь сам дарогу ўчуе і будзе ісці, везці воз куды трэба». Але ж, разумееш, то быў конь нейкі нянаскі; калі сказаць, то ён, конь, быў нейкі, можна сказаць, збаламучаны, дурны. Можа, яго гадавалі для выездаў, для пагулянак, а патрапіў ён у сяло на гаспадарскую, зямельную работу. Яшчэ ж і малады быў, можа, яму было гады якія чатыры, ад сілы пяць. Адным словам, конь мой улез у снег. Пярэднія ногі выцягне, то заднія завязнуць. Убіўся конь у нейкае балота — ні ўзад ні ўперад.

Сяджу і думаю: «Вот і купіла гуменца... Замерзну тут, і дзеці дома не будуць ведаць, дзе іх матка». Ты ўжо быў ладным хлапчуком, падлетак смышлёны. Таксама пра гумно рупіўся, як дарослы. Астаўся ўдома, падахвоціўся глядзець за малою. У нас тады была Дуня, дзіцё саплівае. А табе ўжо, напэўна, гадоў восем было. Вялікі ўжо быў хлопчык. Ва ўсіх хатніх турботах мой памочнік. Жылі ж мы адны. Бацька ўсё па шахтах швэндаўся. Грошы за-

рабляў. Ды ніяк не мог выбавіцца з нястачы. Бо скажу, гуляка быў — аддай чэсць! Але ж неяк на гумно грошай сабраў, калі распарадзіўся, каб купляла...

Маці смяецца, сама сабе разважае:

— Дзівачка сама была. Гэта ж трэба, ехала, дурніца, за блізкі свет зімою. Таргавалася за тое гумно, маючы ў кішэні грошай на задатак. Але слухай жа, як выбавілася з таго балота.

Агледзелася, вылезла з саней. Пачала сяк-так варушыць, выбаўляць каня з сумёту. Пашчасціла неяк выкіраваць каняку на роўнае. А мяцеліца круціць — свету божага не відно. Стала зусім цёмна, нават неба злілося з лесам, і ўсё круціць, вірыць, завіруха — вачэй не адплюшчыць...

«Замерзну,— думаю,— і страху не адчуваю ані, толькі перад вачамі дзеці: ты і Дуня...»

Тады неяк учула, што недзе збоку забрахаў сабака. Ой, як жа я ўзрадавалася! Пачала аглядацца вакол пільней. Бачу: між кустоў бліснуў агеньчык. Падалося: воўчае вока. Але ж не зялёны — у ваўкоў зелена blішчаць вочы. Жоўты агеньчык, ледзь зерыць. Свіціцца, як скрозь сіта. Ну, думаю, ратунак! Жывеш, баба!

Выбавіла ета я каня на роўнае, на цупкую дарогу. І сама ўжо мацаю нагамі, каб не збіцца ў сумёт, у свежы снег; вяду каня, за аброць трымаю адубелымі рукамі. Анямелі пальцы, а дзіўна: холаду не чую... Конь мой асмялеў, пачаў весялей фыркаць ды жвавей і лацвей выцягваць з снежнай куламесы ногі; усё ж і ён, нягегліца, набрыў на дарогу.

Якраз і лес скора парадзеў; сцяна лесу як бы расступілася; як скрозь мярэжку, наперадзе і хаты зачарнеліся. Агеньчыкі, як збавенне, як паратунак, весела бліснулі. Прыгледзелася, ага! Рашатнёўка. А там, сам ведаеш, і да дзярэўні нашай рукой падаць!..

Ну, дзякуй, цяпер ужо як-небудзь дабяруся ўдвору. А ў самой сэрца шчыміць, па целе кошкі шкрабуць — дзеці ж малыя адны насупраць ночы засталіся, без прыглёду. Таксама клопат! Ташната, аж сэрца знібіць, разрываецца. Тады, як у тым балоце, бедавала — як бы і страху не было такога, як цяпер, калі, лічы, небяспека мінавала. Дапяла да першае хаты. Спыніла каня. Паглядзела ў акно. Дапраўды, Рашатнёўка. Здаецца, то была Аўрамава хата. Крайняя ад Дубровы, ад лесу...

Я пужкай каня падварушваю. Давай, конік, хутчэй бяжы. Ужо тут дарога вядомая. Шлях тады быў. Вербы

як абхапіць пры камлі рукамі. Бярозы. У адзін момант даехала дамоў. Радая, не скажы, як на свет зноў нарадзілася.

І ты яшчэ не спаў. Сядзелі абое. Агню не запальваў. На двор уз'ехала і сама сабе не веру: дома!

Распрэгла каня, толькі на парог, а ты да мяне, як дарослы, з пытаннем:

— Ну што, старгавала гумно?

— Ага, кажу, старгавала...

А ў самой на сэрцы млосна, не выказаць ніякімі словамі. Ой, божачка! Ета ж я магла той цемраччу, у тую калядную завіруху, загінуць ды з такім канём бязладным; магла акарчанець на марозе, як піць даць загінуць... Завея ж была, як на тое ліха, калядны мароз усё-такі!..

Чула я, мужыкі расказвалі, што ў дарозе замярзалі, асабліва калі няма дзе сагрэцца. Было такое, што тады падарожнікі, як засцігне іх буран у дарозе, адпрагалі коней, секлі сані, палілі касцёр, каб як сагрэцца і перачакаць завіруху.

...Маці змоўкла. Задумалася. Старанна разгладжвала канцы сваёй любімай хусткі-гарусоўкі.

Маўчаў і я, дзівіўся: якая ў мяне слаўная маці.

## НА ВАКЗАЛЕ

У станцыйнай пачакальні людзей — яблыку няма дзе ўпасці. Пасажыры найбольш маладыя: студэнты, навучэнцы, старшакласнікі таўкуцца, перагукваюцца і напралом ціснуцца да кас, стараюцца хутчэй набыць білеты. Іх як бы прыспешвае хрыплаваты жаночы голас з рэпрадуктара: «Поезд отправляется...» У шырокія шкляныя дзверы хвалямі плыве людская рака — з адпраўленнем аднаго цягніка зала пусцее, а з другіх дзвярэй мкне новая хваля, і неабсяжная пачакальня напаўняецца. Гусцее гамана, патанае і глухне той жа халодна-спакойны голас: «Поезд Могилев — Минск отправляется... в восемнадцать часов три минуты...»

Гэта дадатковы цягнік. Набліжаўся Новы год. І ў перадапошні дзень адыходзячага года і дадатковы цягнік ці зможа забраць усіх жадаючых выбрацца з горада на гасціну да бацькоў, сваякоў, знаёмых. Я апынуўся на вакзале пад вечар і чакаў начнога цягніка, але пачуў аб'яву, што будзе дадатковы, узрадаваўся. Агледзеўся, дзе б пры-

ткнуцца, але ні аднаго вольнага месца на лаўках не было — давялося са сваім дарожным чамаданчыкам прытуліцца да сцяны, дзе такія ж, як і я, пасажыры зайздросна пазіралі на шчаслівчыкаў, што паўселіся на лаўках і бавілі час у размовах ці ўрупіліся ў газеты: іх тут жа прадаваў бразгатлівы жалезны аўтамат.

Праз якую гадзіну непадалёку вызвалілася месца. Я сеў, распрамляючы добра самлелыя ад доўгага стаяння ногі, і пачаў прыглядацца да суседзяў. Гэта былі амаль усе пажылыя і старыя жанчыны ў вязаных і тканых хустках, у плюшаўках, неабношаных ватоўках — пераважна, падалося, вясковыя кабеты. Яны дружалюбна і даверліва перамаўляліся, дзяліліся навінамі і клопатамі, як усё адно добрыя знаёмыя ці аднавяскоўцы.

Прыслухаўшыся, я заўважыў, што рэй у гутарцы вяла старая, захутаная ў дзве ці тры хусткі жанчына ў ношаным, з парыжэлага шавіёту зімовым паліто, аздобленым старамодным коцікавым каўняром (відаць, паліто з чужога пляча — дочкіна ці нявестчына). Жанчыну гэтую я не разгледзеў добра, але ўчуў яе спакойна-пявучы голас. Яна расказвала суседкам пра сваю бяду і клопат, як бы апраўдваючыся, чаму ў такі тлумны час выправілася ў далёкую дарогу.

— Еду я, мае вы людцы, аж у Прыдняпроўскі,— апавядала жанчына.— Ета новы горад такі, блізка ля Днепрапятроўска, можа, якіх вярстоў шэсць будзе... Я, мае вы добрыя людцы, дужа хварэла, у бальніцы два тыдні ляжала. Дужа мне сэрца балела. Так у мяне ўсё ўсярэдзіне крэпкае, яшчэ можна жыць, ды сэрца цісне ў грудзях, не прадыхнуць, паветра не хапае. Лячылі мяне дактары добрыя, уважыцельныя такія, ласкавыя, хаця і маладыя, а нам, старым, уважэнне даюць...

Мне пачулася: наша гэта кабета, як у нас кажуць, мугулёўская — добрая, шчырая душа і ахвочая, падхоплівая на слова. Гаворыць не стамляючыся, як усё адно чытае, як па пісанаму чэша; звычайнае, будзённае, дробязнае, а слухаеш — заслухаешся, бо ў словах — жывая душа. Усё, чым жыве, адкрые першаму стрэчнаму, выкажацца, як на споведзі, раскажа ўсё, як радні ці свайму блізкаму чалавеку.

Прыгледзеўся я да гэтай жанчыны. У яе змаршчакаваты, але прыемны твар: яшчэ жывыя, з адзнакамі чыстай сінечы пад некалі крутымі светлымі брывамі вочы; вакол вачэй і рота — дробныя, неглыбокія зморшчынкі; шчокі не абвіслыя, яшчэ не згубілі сваёй румянасці, хаця і блед-

наватыя. З-пад клятчастай, паверх гарусоўкі-хусткі на скронях — прыхопленыя сівізной валасы, а над ілбом русявыя, не згубілі ранейшага бляску. Толькі губы, мабыць, некалі вабныя, выдавалі як падсіненыя. Жанчына гаварыла чыста, не шапялявячы — можа, у яе яшчэ свае, не ўстаўныя, зубы.

— Мяне ж дужа не пускалі, надта ўгаворвалі, каб не ехала, каб яшчэ пабыла, пагасціла які дзянёк. Угаворваў, проста-такі не пускаў мяне ў дарогу брат мой, да якога я і прыехала была пасля бальніцы. Кажа ён мне: «Пабудзь яшчэ, Настачка, пагасцюй з намі, правядзём стары год, адмецім, як усе людзі, год новы. Хапае ж усяго, дай божа і дзецям і ўнукам нашым — такога жыццейка. Ёсць чым госця прывеціць і ў будзённы дзень, і ў свята. Дзякуй нашай уласці! Хаця во на старасці пабачылі жыцця — жыві, красуйся, весяліся, ды не памірай...» Але дзе ж тут уседзіш, калі там адна яна, мая дочачка... Як яна без мяне, без майго прыглёду? Не, кажу, браточак мой, братанька дарагі. Можа, я ўжо і не пабуду, не пабачуся з табой болей, ды трэба ехаць, не магу я сядзець, калі спомню, як яна там, без мяне, адна...

Ціха, амаль шэптам, бабуля нешта пачала расказваць кабетам, якія сагрэліся на сваіх хатулях і клунках і ўважліва слухалі. Давер, мабыць, мацаваўся не толькі ад яе слоў, якія яна ўмела вязала ў адзін вузел расказу, але і ад усёй яе істоты, ад спакою і ўпэўненасці ў сабе. І апратка яе казала за тое, што чалавек не зманіць. На бабулі была доўгая спадніца, што амаль закрывала халявы зелянкавых бурак з блішчастымі галёшамі. Спадніца, мабыць, няношаная, не абыдзенная, а святочная — ружовы мультан у кветачкі.

Што кінулася ў вочы — дык гэта яе рукі, яшчэ не пакручаныя ў пальцах, не разбітыя работай, са слядамі былой, далёкай ужо маладосці; рукі можна было б назваць і цяпер прыгожымі, каб не такая зморшчаная скура; бабуля не хавае іх, а лёгка і ў такт гаворцы жэстыкулюе, памагае сабе, і яны ўвесь час у руху, у дзеянні. Бабуля раптам наблізілася зусім амаль да твару суседкі, што сядзела бліжэй, і паўшэптам загаварыла:

— Так і засталася мая дачушка ад тэй веі-мяцеліцы інвалідам, без абедзвюх ног. Так і жыве ўжо дзесяць гадоў... І я пры ёй. Жывём, праўда, добра, нечага бога гнявіць. І пенсія добрая ёй, і дзіця ўжо выгадавалася, сынок вырас.... У нас кватэра-двухпакаёўка. Людзі тамашнія яе шкадуюць, уважэнне да яе маюць, бо яна ж на рабоце, на

расчыстцы дарогі была. У завею чысцілі жалезную дарогу, на яе наляцеў паравоз...

Бабуля ўсё гэта расказвала, як падалося, вельмі спакойна, без аніякага хвалявання, нібы ўсё тое адбылося не з яе дачкой і яна толькі пераказвае пачутае з вуснаў іншага чалавека. Ды калі я прыгледзеўся, дык убачыў, што вочы яе ўраз павільгатнелі і па змаршчыкаватай шчацэ кацілася ціхая, скупая сляза.

Вакол завохкалі, заківалі галовамі, а бабуля ўжо апавядала пра тое, які багаты і прыгожы іх Прыдняпроўскі — малады горад, што ўзнік ля старажытнага Днепрапятроўска, і якія харошыя людзі — украінцы і рускія — там жывуць, якое там харáство вясною і ўлетку, калі ўсё зелянее і цвіце чароўнай квеценню.

— І мой жа сынок, Юрка, тамака жыве. Во проста кватэры нашыя блізка, у дамах глядзяцца вокны ў вокны. Ета ў мяне адзіны сынок застаўся,— апавядала бабуля,— і вочы яе ўжо свецяцца шчасцем.— А два загінулі. За нашу родную зямельку, за наша жыццейка склалі галовачкі. Два ў мяне на гэтай вайне былі. Адзін, мой Андрэйка, лёг на вечны сон пад Чавусамі — тады там былі дужа страшныя баі. Забітага ў новым абмундзіраванні прывезлі. Без пары пагібнуў мой хлопчык. Аплакала яго, ды не ведала, што горачка маё не ўсё выплакана. Той жа зімачкай, пад Новы год якраз, прыйшла пахавальная і на другога — пад Кіевам на Дняпры, казалі, геройскай смерцю загінуў...

Я дзіўлюся, як спакойна і вельмі разважна апавядае бабуля. Думаю пра гэта, слухаю, і словы яе цяжкім каменем кладуцца мне на сэрца. А за спіною — гудзе, прыглушаны вялізнымі калонамі залы, шумлівы прыбой галасоў; людзі занятыя сваім звычайным клопатам — кожны спяшаецца атрымаць білет і сесці ў цягнік. Не ведаю, ці спяшаецца бабуля. Мне здаецца, яна бачыць і як бы зноў, ужо ў каторы раз, страчаецца са сваімі сынамі Андрэйкам і Іванкам, якія ёй часта прыходзяць у сне.

З невідочнага дынаміка пачулася: «Пригородный Могилев — Копысь отправляется». І раптам вал людзей, што напіраў на шырокія шкляныя дзверы, рушыў на перон. Бабульчыны суседкі падхапіліся і зніклі ў натоўпе. Бабуля засталася сядзець на сваім перавязаным аборкамі чамаданчыку, не праяўляючы ніколькі трывогі. Мабыць, ёй не хутка на цягнік, і яна не маркоцілася, як маркоцяцца і пакутуюць іншыя, калі наперадзе яшчэ доўгая зімовая ноч, а можа, і дня трэба будзе прыхапіць.

Я прапанаваў бабулі месца, але яна рашуча адмові-

лася. «Не трэба, даражэнькі, не турбуйся, добры чалавек. Я пасяджу на етым чамадане, не разваліцца,— вытрымае!..» Але бабуля ўвішна, нават падалося, вельмі лёгка пасунулася бліжэй і такім чынам апынулася насупраць мяне. Села і адразу, даверліва гледзячы мне ў вочы, ніколечкі не бянтэжачыся, працягвала расказ пра сваё падарожжа, рупілася, ці нават правільней — разважала, як яе ўгаворвалі па дарозе сюды, на вакзал, вярнуцца назад.

— Пляменніца ета мая стрэлася,— паправіўшы хустку, загаварыла бабуля, і я заўважыў, што ў яе трэцяя хустка падыспадам белая, у сінія, ледзь прыкметныя кветачкі, чысценькая,— казала: «Цётка, паедзем назад, бо аўтобус пайшоў ужо». Але мне не хацелася вяртацца — вяртанне не дужа добрая прыкмета. Я б, можа, і вярнулася, але трапіўся шафёр, ехаў аж у саменькі Мугулёў і ахоццю ўзяў мяне ў кабінку. Даехалі добра. Быйстра ён мяне прывёз аж у вакзал. Во, глядзіце, якія бываюць людзі! Прынёс мой еты чамадан сюды, у саменькі вакзал, і плату браць сумысля адмовіўся, як ні ўпрошвала: «Што ета вы, бабуся, я са сваёй маткі, можна сказаць, буду браць еты рубель?» Дак, кажу, у мяне грошай хопіць — вазьмі, дай жа бог, прашу богам, чэсна прашу. А ён: «Добрага вам здароўя, бабуся!» І развітаўся. Ну што ж, не ўзяў дык не ўзяў... Няхай табе добра будзе, на добрае здароўе і пойдзе!..

— А як жа вы адважыліся, бабуся, у такое далёкае падарожжа? Адна, ды яшчэ і пасля бальніцы, як вы кажаце...

— А што? Людзі во кругом, памогуць,— людзі найбольш добрыя. А ёсць, скажу табе, добры чалавек, ёсць і дрэнныя. Вось паслухайце.

Бабуля ўвішна падсунула свой чамадан бліжэй яшчэ, і я бачу цяпер увесь яе твар, спярэшчаны дробнымі маршчынкамі, цёплыя, некалі зваблівыя, апякаючыя, з самага яркага блакіту вочы — яны і цяпер свецяцца мякка, як скупое, але лагоднае зімовае сонейка.

— Ехала я сюды, садзілася на поезд, што ідзе праз Мугулёў на Ленінград з Днепрапятроўска. Пасадка была дужа цяжкая, вадная. Мяне ледзь не ўнеслі ў вагон. Нехта пад пашкі абхапіў мяне, дайжа як перастала балець у сэрцы, як бы палягчэла трохі. Я так ужо і стаю, баюся паварушыцца і не аглядаюся, хто ета мяне так трымае пад пашкі. А поезд ужо пайшоў, загрукацеў коламі... Ну, думаю, буду так і стаяць. А кругом ні аднаго вольнага месца. Усе праходы занятыя, не тое што каб лаўкі. У пра-

ходах людзей не працiснуцца. А тут мне раптам — афіцэр, ён лейтэнант нейкі ці, можа, яшчэ і старэйшы чынам вайсковец, падняўся і сказаў: «Садзіцеся, бабуся». Я села, канечне. Слухай жа, добры чалавек. Сяджу, трохі неяк і няёмка, вадна сябе адчуваю, бо чалавека ж, лічы, з месца сагнала. Баба старая, нездаляшчая. Але афіцэр той як здагадаўся ўсё роўна: «Не беспакойцеся, бабуся, я пастаю — малады яшчэ...» І ўсміхнуўся мне, старой, хараша... Відаць, культурны мужчына. Але, не тут кажучы, насупраць сядзеў — такі бамбіза, нейкі мяжджула. І ўсё зіркаў на мяне нядобрым вокам. Як бы я не таго, афіцэрава, месца заняла, а яго сагнала сілком, насільна ўзяла ды падняла за каршэнь... Нядобры ў яго погляд, дыхае смярдзючым перагарам, відна, яшчэ не працверазіўся — п'яніца, відаць, няўклюда нейкая, што мне аж моташна стала. Але што ж ты зробіш. Маўчу сабе, пацепваюся. А ён як бы і чакаў, каб я што сказала, абы абазвалася... А я маўчу сабе, не аказваюся ніводным словам. А ён усё чмыхае, пазірае, як не б'ець, свідруе п'янымі заплыўшымі бельмакамі. А потым: «Што ета ты, бабка, савецкага афіцэра з месца сагнала? Ета ж наш зашчытнік, а табе, бабка, ужо даўно пара на адыход, на вечны пакой, а ты ўсё яшчэ капыцішся, блытаешся, не даеш людзям ездзіць... Сядзела б у запечку ды не рыпалася...» А што я,— кажу яму,— я тваё грошы праезджваю, ты мне даеш хіба? Мне мая ўласць дае, і я куды хачу, туды і еду і ў цябе, такога дабрачынца, не спрашуся... А што мне месца ўступілі, дык ета — чалавек. А такі, як ты, роднай матцы не саступіць...

Я не хацеў перапыняць бабулю, але яна сама неяк змоўкла, пазіраючы вакол, тады раптам як схамянулася, усхвалявана загаварыла, і я заўважыў, што яе сіняватыя губы — аж задрыжэлі...

— Дак ведаеце, добры чалавек, ён, няўклюда той, заплывак нейкі і бязладдзе, і яшчэ больш асердаваўся, усё бубніць і бубніць. «Гэ,— кажа,— чортава бабка, не на таго чалавека ты наткнулася, я,— кажа,— табе даў бы месца на могільніку, а не ў вагоне...» Дак тут я ўжо не стрымалася, не сцярпела маё хворае сэрца. Я ж ужо і дала яму, дала, што аж усе людзі, што сядзелі і стаялі, паспачувалі мне — падтрымалі і смяяліся, давольныя, што яму так адчытала. Ах ты,— кажу,— падлюга ты, не чалавек ты ёсць, а самы настаяшчы, самы хворменны — падлец. Ты знаеш, каго ты з месца скідваеш, каго ты папіхаеш у пролабку — жывую сваю, можна сказаць, маці род-

ную. Ты знаеш,— кажу,— што мой род увесь лёг за тое, што мы цяпер жывём, красуемся, ездзім, куды нам хочацца, куды душа зажадае?! Ты мяне не чапай, бо калі растрывожыш, то я табе ўраз морду паб'ю... А тады яшчэ і міліцыю пазаву, дак прыпаяюць сутак пятнаццаць, адседзіш як міленькі!..

— І што ж ён, пасажыр той, трохі супакоіўся?

— Ого, яшчэ як!

— А колькі ж вам, бабуся, ужо? Відаць, і сапраўды вам цяжка ездзіць. Мо нядобра там, у дачкі, ці ў сына?..

— А не, дзетка мой любенькі. Добра жывём. Мой жа сынок, еты Юрка, прараб быў. Дамоў колькі панастаўляў і ў Крычаве, і ў Ленінградскай вобласці, і той жа горад новы, Прыдняпроўскі, будаваў. І кватэра ў яго добрая. І ў нас з Ленкай, з дачкой, кватэра велькая. І ванна ёсць, і халадзільнік, і ўсё іншае. Жывецца нам добра. Нас людзі ўважаюць і там, але двору хочацца. Я ўжо думала, што не паеду больш з Ракіцянкі, ад брата. Во каб памерла там, на родным котлішчы, то і няхай бы пахавалі у сваёй зямельцы. Ды во валакуся, можа, ужо і не пабачуся я з роднымі вербачкамі сваімі, бярозамі тымі, што яшчэ са сваім Яшам, з мужыком, садзілі, як калектыўнае жыццейка пачалося...

— А што, старога ўжо няма?

— А нямашака даўно ўжо. Ад саменькае етае вайны. Праўда, прыйшоў быў з фронту ў сорак пятым, як пабеда настала. Пабыў дома, пажыў з паўгода. Кволіўся, увесь зранены, зрашэчаны, як тое дзіравае рэшата. Аднойчы лёг і з начы не ўстаў. Памёр — як заснуў усё адно... За чатыры гады фронту хіба мала яму дасталося!.. Сем разоў, казаў, паранены быў, падлечыцца, і зноў на перадавую. Памёр мой Якаў Іванавіч, не пабачыў тае жыццейкі, за якую здароўе палажыў. Затое мы жывём. Што ж, так здарылася з дачкой маёй, а то жылі б прыпяваючы. Ні ў чым цяпер нястачы не маем, жыві сабе ды красуйся. Хочаш белы хлеб, хочаш чорны — усяго, дзякуй ёй, нашай уласці, хапае. А каб ета ўсё расказаць-апісаць, як мы жылі, як жыў і мой хаця бацька, колькі ён парваў здароўя, каб прыдбаць які кавалак хлеба, дзяцей падгадаваць...

— А хто бацька ваш быў? Вы ж кажаце, што прозвішча ў вас знакамітае — Далецкая?..

— Так,— усміхнулася бабуля, мяккай рукою абцерла вусны, памаўчала, як бы збіраючыся з думкамі: — Ета па мужу я Свістунова, а бацька мой быў Андрэй Далецкі. Як мне расказваў ён і маці мая, то ён нарадзіўся ў пан-

скім двары. Мая маці-нябожчыца служыла ў пана. Яшчэ дзяўчынкай забралі яе з вёскі, з Гуткоў. Ета вялікая была вёска, заможная, і панскі двор быў. То і нарадзіўся хлопчык у яе, бабкі маёй ужо... Як падрос тэй хлопчык, то яго забраў пан, у людской ён выхоўваўся, і сваё прозвішча яму даў. А маці яго памерла маладой, рукі налажыць на сябе наважыла. Пэўна, жыццё няміла ёй стала... Дак чатырнаццаць гадкоў у пана за фурмана быў мой бацька. А тады сабраў грошай трохі, ажаніўся. Ды такая тая жаніцьба была... Узяла яго адна жанчына ў прымы, на чацвёра дзяцей. Пагадаваў усіх, усе дзяўчынкі былі. А з маткай яшчэ нажылі двое — во брат мой Міхалка і я. Настай мяне клічуць. Настасся Андрэеўна, як вам сказаць. А тых яе, матчыных дачок, усіх замуж пааддаваў. Як узялі адну, старэйшую, ды прачулі, што пасаг бацька дае — пяцьдзесят рублёў тымі, яшчэ мікалаеўскімі грашыма, то і пабралі ўсіх. А нас, малых, да ўсякае работы прывучаў. Я і помню, як хадзіла з бацькам у поле, як сена касілі, як малацілі збажыну. А памёр ужо бацька пры нашай уласці. Дужа радасна прыняў етую ўласць, калі ў нас паноў грамілі, панскі двор разбівалі, то і ён з флакам ішоў... І мяне ўзяў з сабою, і я ўсё бачыла, як пана таго, Далецкага старога, у вазок пасадзілі і ў Воршу пад ружжамі адправілі... А тады як паміраў мой бацька, то наказваў дзецям: «Я вам, старэйшым, даў, што мог, а вы етага, Міхалку, не кідайце, памажыце яму». Ён быў ужо хлопец вялікі. Ён і шыць хадзіў з бацькам, і да ўсякае работы быў здатны. І таксама — пайшоў у Чырвоныю гвардзію, заступацца за бедных людзей. Прозвішча, як вы кажаце, вядомае некалі было — Далецкі...

Я, можна сказаць, і сама рабіла нашу савецкую ўласць, душою за яе стаяла. Хадзіла з флакам, ішла з усімі тады, як аб'явілі слабоду... О, я была ў маладосці — можа, самая найпершая дзяўчына ў ваколіцы, на ўсю акрэснасць, можна сказаць. Да мяне сватаўся балтыйскі марак з Усполля Лявон Зябнёў, хацеў мяне замуж узяць, але брат — нізашто... Тады ж зямля, коні — галоўнае... Сказаў, куды ж ты пойдзеш за етага басяка-галетніка. У яго ж зямлі — старой тупічанскай бабе сесці, а ў Свістунова — надзел. Як аддзеліцца, стары Свістун дасць усё — у яго парка коней, толькі на выезд. Усё сваё — гаспадаром будзеш. І ты, сястрыца, не будзеш знаць бяды-гора. А каб жа знаццё тое, як потым стала, і зямля тая не нада, а стаў наш галетнік-марачок вядомы на ўсё Усполле, на ўсю воласць. Каб не ён, не наша знаёмства і ўзаемная любоў,

то пабачыла б і я таго горачка, якое ўгатавана-ўрыхтавана было і мне з тым заможніцкім сынам, з маім Свістуновым...

Бабуля Наста ўздыхнула, змахнула з твару невідочную хмурнасць і далей казала сваю байку — казку жыцця:

— Як пачалася ў нас тады калектывізацыя ды як папраганялі з Ракіцянкі кулакоў, забралі і Якава. А мяне, як жонку варожага элемента, і ў калгас, у новае жыццё, хацелі не пусціць. Але прыехаў Лявонка, марак мой, прыйшоў да мяне, вядома, тайком, каб не бачылі, што з кулацкай жонкай хаўрус мае, і сказаў: «Наста, глядзі, не працюўся, не сядзі, пакуль цябе з твайго етага кулацкага седала турнуць, ідзі з усімі жанкамі ў поле і рабі. Цябе будуць праганяць, не пускаць, а ты ідзі і рабі, як усе ракіцянскія калхознікі...» Я так і зрабіла. Тады прыехаў адзін, вялікі начальнік, невядома адкуль, можа, з Амціслава, а можа, з Мугулёва, і ракіцянскія беднякі пажаліліся: «Навошта яна нам, етая Свістуніха. Яшчэ знутры новую жызню падарве...» А Лявон за мяне заступіўся: «Я,— казаў,— добра знаю Насту. Яна з беднага, можна сказаць, парабчанскага роду. Яна наша. Не здрадзіць». Так я і засталася з усімі ў новым калгасе ў Ракіцянцы.

— А тады ж,— даверліва казала далей бабуля Свістунова-Далецкая,— трэба было і мужа неяк ратаваць. Прачула я, што ён у Чэрыкаве на тралёўцы лесу рабіў. Я да яго некалькі разоў ездзіла, дабілася, што перадачы прымалі. А як жа? Я ж законная яго жонка, двое дзяцей у нас ужо было... Нічога я не магу сказаць, для мяне ён вось законны супружнік Яша, Якаў Іванавіч. Бегала, за дзень спраўлялася, па шпалах бегала — босая, бацінкі свае на плечы і босая па шпалах, а была ета вясна, халаднаватая яшчэ зямля, у пяткі пячэ, як іголкамі, а тады пагрэешся, і нічога — горача, як улетку. Спраўлялася за дзень. Вёрстаў трыццаць пяць будзе, не меней, да тых Верамейкаў, дзе ён тады калоды дубовыя на ваганеткі грузіў... І перадачы яму насіла, і ўсё пісала і пісала, аж у Маскву. І чакала, што паштальён прынясе мне добрую вестку. Аднойчы ён і кажа: «Наста, прыйшоў табе ліст». Я аж абамлела ад радасці. Прачытала і — чула маё сэрца,— слова мовіць не магла: «Якава Свістунова апраўдаць, вызваліць, як незаконна абвінавачанага...»

— Так што і Якаў Свістуноў быў дапушчаны да новай жызні,— закончыла бабуля сваю байку-казку і кранула мяне рукой за плячо: — Чуеш, добры чалавек, можа б, вы пагаварылі з етым во, што ходзіць, з чырвонаю павяз-

кай, з дзяжурным? Можа, ён вас паслухае скарэй. Я ўжо думаю, што дарэмна я не паслухалася пляменніцы. Трэба было вярнуцца назад... Бялета не вазьму аніяк...

— І я так думаю, бабуся. Трэба пагаварыць.

Я памкнуўся ўслед за дзяжурным, але шапка дзяжурнага хутка знікла ў натоўпе, што зноў наплывам запоўніў усе праходы і аж распіраў сцены пачакальні. Я пачаў прабірацца, каб патрапіць за дзяжурным, ды тут з дынаміка пачулася: «Объявляется посадка на дополнительный поезд № 271 направлением на Минск. Поезд отправляется...»

З болем, са шчырым шкадаваннем вярнуўся я назад, узяў свой чамаданчык і пачаў развітвацца з бабуляй, з пасажырамі, што стаялі і сядзелі, слухаючы гэтую размову. Мне падалося, што бабуля Свістунова-Далецкая не хвалявалася; ёй, можа, і заўтра раніцою не ўдасца сесці на цягнік...

* * *

Мяне ўвесь час непакоіла чамусьці, ці сядзе ў таўкатні і перагружанасці паяздоў бабуля, якая пры сваёй нядаўняй хваробе, па сутнасці, і не павінна была б адважыцца на такую цяжкую дарогу. Я дакараў сябе, што не зрабіў спробу памагчы ёй з білетам раней, калі ў мяне яшчэ быў час у запасе, але ж і сама яна не парупілася.

Я ведаў, што цягнік Ленінград — Днепрапятроўск будзе ў Магілёве недзе а дзевятай гадзіне ўранні, і паспяшаўся на перагаворную, каб пазваніць на вакзал, пацікавіцца, ці звярталася да дзяжурнага якая-небудзь бабуля з просьбай. Мне далі размову ўжо а адзінаццатай гадзіне раніцы. У трубку хлынуў вакзальны гул — чутно было, што на вакзале яшчэ вельмі багата народу.

— Так, поезд прайшоў у 9 гадзін 47 мінут,— паведаміла мне жанчына — дзяжурная па вакзале.— Пасадка была вельмі цяжкая.

— А да вас бабуля, такая старая, у яе чамаданчык чырвонага колеру, абвязаны вяроўчынай, не звярталася з просьбай? — непакоіўся я і падумаў: «Хіба яна, гэтая бабуля, была там адна... Дзе там яе запомніш, пры такой таўкатні...»

— Пасадка была цяжкая,— паўтарыла дзяжурная.— Але, помню, падыходзіла адна, такая ветлівая, з бутэлечкай валяр'янкі ў руцэ. Ёй выдалі білет, плацкартнае месца. А цяпер яе не бачна — відаць, села...

Ну, што ж, шчасліва вам, бабуля!

# МАТЧЫНА СЭРЦА

Пра мацярок можна расказваць бясконца.
*М. Горкі*

1

Па бальшаку грукацелі абозы — наладаваныя коўдрамі і падушкамі фуры, запрэжаныя коньмі і нават каровамі — назад, у Маластоўку, вярталіся бежанцы — местачковыя шаўцы, рамізнікі, служачыя, прапыленыя, учарнелыя.

Наша хата стаяла пры саменькай дарозе. За глухой сцяною калодзеж з вышмараваным жураўлём і зялёным унутры цабэркам, акутым накрыж жалезам, каб коней не паілі з цабэрка, а ваду налівалі ў камягу.

Маці выйшла з хаты і, уражаная, пляснула ў далоні: на двор ехалі нашы даўнія знаёмыя з мястэчка — стары Мордух Руцін, яго жонка Фрэйда і хлопчык, Мордухаў унучак Лёва. Яго мы добра ведалі, бо як ездзілі з бацькам на кірмаш у Маластоўку, то заўсёды спыняліся ў Руціных, і стары каваль заўсёды хваліўся сваім унучкам, вельмі дасціпным шчабятуном.

— Чуеш,Іван,— звычайна пачынаў стары, гладзячы шурпатай далоняй рыжыя кучары хлопчыка, які круціўся ля дзеда.— Во, бачыш, ета ж сынок майго Боры. Жаніўся ён, не пытаючыся ў бацькі. Адправіў яго ў Гомель, каб вучыўся, а ён, бачыш, ажаніўся там. Бачыш, Іван, і во прывезлі. Гадуй, дзед, радуйся...

— Сціхні ты ўжо, стары,— падае голас з бакоўкі бабуля Фрэйда.— Не было б горшай бяды. Яны — маладыя, няхай жывуць, а нам во ўцеха, на старыя гады радасць...

Лёвачка быў такі блакітнавокі прыгажун, гаваркі і ласкавы, што яго нельга было не палюбіць. Мы заўсёды падвозілі яго аж да канца мястэчка, і Лёвачка на развітанне махаў ручкай так, як вучыў яго дзядуля: «Лёва, зрабі для дзядзі во так ручкаю!..»

Вярталіся да свайго гнязда бежанцы, і на сэрцы як бы палягчэла. Руціны прывезлі яшчэ такую навіну: «Немцаў пагналі ад Сожа назад». Стары каваль трымае кубак з малаком, рука яго калоціцца, малако пырскае на стол, а ён усё бядуе: «Ай, ёй, што будзе...»

— Маўчы ўжо, стары,— супакойвае бабуля Фрэйда.— Мы, лічы, ужо дома, а дзе цяпер нашы Бора і Наташа?..

Чым жа вінаватыя гэтыя старыя, спрацаваныя людзі? Чаму яны вымушаны ўцякаць са свайго жытла? Усё сваё

жыццё яны адно што працавалі і працавалі, каб як-небудзь звесці канцы з канцамі, пракарміць вялікую сям'ю. Памятаю, калі мы, бывала, прыедзем да Руціных, то бабуля Фрэйда, частуючы нас, жартавала: «Дрэнная я буду гаспадыня, калі не накармлю ўсю сям'ю адным селядцом».

Руціны нас як бы падвесялілі крыху. Усе гэтыя дні ў нас з маці была гаворка; я настойваю эвакуіравацца ці пайсці з якой-небудзь вайсковай часцю, а маці заладзіла сваё: «Куды ж ты, дзівак, паедзеш? У цябе ж яшчэ як мае быць швы ад той аперацыі не загаіліся, што ты будзеш есці ў дарозе, табе ж нельга сухама. Акалееш дзе-небудзь, згінеш, як муха...»

Я, вядома, слухаў, што маці казала, а тым часам з камсамольскім сакратаром Сцяпанам Гомарам цішком рыхтаваўся да выезду. Цяпер жа нашы планы зблыталіся.

Адпачыўшы і падсілкаваўшыся, госці адправіліся дадому. Мне шкада было развітвацца з імі, асабліва з Лёвачкам, які ўжо быў ладны хлопчык, амаль што школьнік, рослы, выцягнуўся, але ўсё такі ж кучаравы, гарэза.

— Прыедзеш да нас, Лёва? — спытаў я ў хлопчыка, калі ён ужо ўсеўся на возе поруч з дзедам.— Ужо яблыкі спеюць...

— Добра, прыеду,— неяк сумна прамовіў Лёвачка.— Вайны не будзе, і прыеду...

Доўга я стаяў на пыльнай дарозе, збоч якой, бы волаты-вартавыя, гойдалі веццем старыя дуплістыя бярозы. Стаяў, пакуль фура Руціных не знікла за пагоркам.

Было ціха-ціха. Па небе спакойна плылі белыя кучаравыя аблокі. У вершалінах прыдарожных дрэў не чутно было ніякага шуму. Не верылася, што недзе недалёка, за Сожам, ужо грымелі выбухі, ірваліся снарады; смерць касіла людзей — кроўю і слязьмі аблівалася зямля.

Раптоўна адтуль, дзе толькі што схавалася фура Руціных, пачулася скрыгаслівае гудзенне — бы нехта надрыўна зароў у кулак ці закугакала надвячоркам сава, а потым неба як бы раскалолася і абрушылася, асляпляльна бліснула полымя; падалося, бы здрыгануліся, падскочылі знянацку бярозы... Адзін за другім два выбухі прагрымелі за пагоркам, і зноў усё аціхла. Было адно чуваць, як у сухім ад спёкі небе надрыўна і млосна загуў чужы, з чорнымі крыжамі самалёт. Мы ўжо ведалі, што гэта фашысты. Мусіць, з самалёта скінулі бомбы на бальшаку.

Ачомаўшыся, я падумаў, што там жа недзе і фура Руціных. Падумалася, што, відаць, больш за ўсіх будзе боязна Лёвачку, ён жа яшчэ амаль што дзіця.

## 2

Увечары нехта асцярожна пастукаў у шыбу. Маці прыпала тварам да акна: хто б мог стукацца, бо суседзі, калі хто заходзіў, ведалі, дзе зашчапка, і без аніякага стуку адчынялі хату.

Стук нясмела паўтарыўся, і маці патэпала ў сенцы.

— Хто там? У нас не зашчэплена!..

— Адчыніце, гэта я, Лёва,— пачулася ў цемры.

Маці адчыніла дзверы і ўвяла за руку хлопчыка — гэта быў Лёвачка Руцiных, увесь перапэцканы, у адной маечцы і ў кароценькіх штоніках са шлейкай. На адной назе ў яго быў сандалік, а другая босая, падрапаная аб нешта вострае — з яе сачылася кроў. Хлопчык калаціўся і ўздрыгваў, прыціскаючы запэцканыя кулачкі да вачэй. Відаць, ён вельмі наплакаўся, і ў вялікіх блакітных вачах стаяла жудасць; твар час ад часу балюча перасмыкаўся.

Лёвачка крыху супакоіўся, і мы пачалі ў яго распытваць, што здарылася. Ён вельмі блытана і са слязамі расказаў, што нешта над іх падводай бліснула і яго як бы нехта балюча штурхнуў; ён ачуняў далёка ад дарогі ў жыце. Калі падняўся, то ўбачыў раскіданыя вакол рэчы, бабуля ляжала далей — уся ў крыві, забітая, а падводы і дзеда не было. Доўга ён шукаў сандалік, а тады, убачыўшы, што цямнее, кінуўся па дарозе ў вёску.

— Я вельмі баюся, цёця Уліта,— румзаў хлопчык.— Дзе мая бабуля?.. Навошта яе забілі? Дзе мой дзед?..

— Не бойся, Лёва, не плач,— супакойвала яго, як магла, маці.— Ранічкаю мы пойдзем з табою, знойдзем дзеда, не плач, дзіцятка маё...

Назаўтра бальшаком і агародамі адступалі на ўсход нашы. Байцы, змардаваныя і змучаныя ад спёкі і голаду, брылі і брылі ўвесь дзень — і з вінтоўкамі і проста так, з кацялкамі ў руках ці пры поясе, у пілотках і з непакрытымі галовамі.

Сяды-тады на двор забягаў хто з салдат і перасмяглымі вуснамі вымаўляў адно: «Піць». У вёдрах ужо даўно было суха. Усё — і ваду і малако — мы даўно аддалі такім жа чырвонаармейцам, якія ўжо заходзілі; цяпер можна было прапанаваць толькі яблыкі.

Вакол студні тоўпіліся салдаты, грымелі кацялкамі, чэрпалі цабэркам пясчаную кашу — вада не паспявала прыбываць. Такое было ўпершыню, каб за якую гадзіну вычарпалі ўвесь калодзеж, а ў ім жа вады было, мабыць, сажні на два...

Усю ноч і яшчэ ўвесь дзень праз Бацькавічы ішлі чырвонаармейцы. Пра тое, каб адправіць Лёвачку ў мястэчка, нечага было і думаць,— трэба было яго неяк супакоіць, пакуль аціхне крыху.

Нечакана стала ціха. Як бы ўсё вымерла. Прайшла пагалоска, што, мусіць, сёння будуць немцы. Што рабіць? Маці ўсё кідалася то на гарод, дзе на ўсякі выпадак быў выкапаны акопчык, то забягала ў хату, нейкая як сама не свая.

Лёвачка крыху пасумаваў, павохкаў, а потым супакоіўся, відаць, адчуў, што трывогай ахоплены ўсе, і ён не прасіўся, каб яго везлі дадому, да дзеда.

Яшчэ ледзь забялеўся ўсход, як мы з Гомарам пагналі ў поле каровы. Бежанцы, якія вярталіся назад, сказалі, што ўжо за Горкамі бачылі, як праехалі нямецкія матацыклісты. Калі ўвечары мы, перапалоханыя і разгубленыя, прыгналі статак, то пачулі, што ўжо бальшаком прайшлі немцы.

Невядома, што тады было на душы ў маці, але яна была зноў жа, як падалося, спакойная. Як заўсёды, на золку даіла карову, працэджвала малако, налівала нам сырадою, моўчкі ставіла гарлачыкі ў суднік і пачынала паліць у печы, і нам з Лёвачкам наказвала:

— Хлопчыкі, схадзіце ў лес, нарвіце травы для Чарнаўкі...

Вярталіся мы з лесу неўзабаве, і было вельмі балюча на душы. Маці падавала нам абед, расказвала вясковыя навіны і прыдумвала для нас новы занятак.

Мінула яшчэ колькі дзён. Неяк увечары ў шыбу пачуўся асцярожны стук — гэта прыйшоў стары каваль. Хто ж яму сказаў, што Лёвачка ў нас? А мажліва, ён прыйшоў так, падзяліцца сваім горам...

— Ой-ёй-ёй, што робіцца, Уліта! — загаварыў стары, атрасаючы пыл з ватоўкі.— Пахаваў я сваю Фрэйду, забітая яна ляжала, от прыкапаў трохі...

Стары няўцямна паглядзеў вакол, і вочы яго, яшчэ нядаўна такія зыркія і вясёлыя, здаецца, патухлі. Чалавека нічога не весяліла, нават тое, што ля яго каленяў цёрся ўнучак, пра якога ён не адразу і спытаўся. Маркотлівы і разгублены, стары шурпатай далоняй гладзіў па галоўцы Лёвачку і ўсё ўздыхаў, перабіраючы яго цёплыя кучары.

— Ой, Уліта, нічога ты не ведаеш, галубка!..

Пераначаваўшы, стары каваль сабраў унука і, як маці ні адгаворвала, ранічкай, узяўшы з сабой невялічкі клуначак, што яна яму напакавала, накіраваўся ў дарогу. Раз-

вітваючыся, яшчэ раз расказаў пра тое, як самалёт кінуў на іх бомбу, як асколкі сыпанулі па конях, як яны рванулі з месца, колькі было сілы...

Стары развітаўся з намі вельмі шчыра, нават усміхнуўся, прыгарнуў унука да грудзей і, як бывала некалі каля сваёй хаты ў Маластоўцы, калі мы з бацькам заязджалі да Руціных, прамовіў: «Лёва, зрабі на развітанне ручкай...»

## 3

Даходзілі жудасныя чуткі. Спачатку ў яўрэяў-местачкоўцаў адабралі маёмасць, хатнія рэчы, затым сагналі іх у адно месца і пад канвоем ганялі на работу. Адзін наш селянін ездзіў у мястэчка і сказаў, што бачыў старога Мордуха ля сталоўкі, ён у пары з вядомым у раёне ўрачом Плаксам пілаваў дровы. Ля іх паходжваў паліцэйскі. Той наш селянін падышоў да іх. Пагаварыўшы з паліцэйскім, ён перакінуўся словам і з кавалём.

— Перадай, братка, там Уліце,— шапнуў ён і адышоў, змахнуўшы слязу.

Маці вельмі балюча перажывала ўсё, моўчкі цяжка ўздыхала. Перад вачыма стаяў Лёвачка. Яго сінія вочкі, звонкі, бы званочак, галасок, бесклапотная дзіцячая ўсмешка, тужлівыя ўздыхі, калі ён успамінаў пра бабулю...

— Каб як можна было яго выратаваць,— загаварыў я, занепакоены, як і маці, лёсам гэтага хлопчыка, што быў нам амаль што родным.— Можа, я пайду і як-небудзь паспрабую вывесці Лёву адтуль, з Маластоўкі?

— А як хто даведаецца, што мы хаваем яго ў доме, тады і нам бяды не мінуць...

— Адвядзём яго ў Селішча, да цёткі Вары. Там зацішна, а людзям яна скажа, што ўзяла сабе хлопчыка з Ухініч, з дзіцячага прытулка.

— А то й праўда! — згадзілася маці.— Калі ж што якое, то можна не прызнавацца, сказаць, што хлопчык прыёмны, і ўсё.

— Дык я пайду, мама.

— Што ты, дзівак,— пэўна, як нешта ўжо вырашанае, сказала маці.— Калі ўжо ісці, то толькі мне!

Маці загарнула ў хустачку кавалак сала, адабрала больших яек, адрэзала акраец хлеба і ўсё паклала ў кошык. На досвітку адправілася ў дарогу. Праз якія чатыры гадзіны была ўжо ля Маластоўкі. Яе ніхто не спыніў. Вуліцы як вымерлі. Рэдка дзе корпалася ў гародзе кабета, ці прасунецца паўз хаты да студні адзінокі чалавек. Вокны ў

многіх дамах зачынены на стаўні, сям-там зеўралі павыбіваныя шыбы...

Вось і знаёмая драўляная будыніна — местачковая сталоўка. На дварэ штабялямі ляжаць дровы, сіратліва стаіць бочка-вадавозка на двух колах, спрэс нацярушана пілавінне...

Маці ўбачыла, як сюды прайшлі двое — згорблены стары каваль у сваёй паношанай і ўжо залапленай бравэрцы і другі, незнаёмы ёй, зарослы чорнай шчэццю мужчына сярэдніх гадоў. З імі клыпаў даўгалыгі Мікіта Канавал, колішні сусед, калі маці яшчэ дзеўкавала ў Бірулях.

Яна асцярожна аклікнула старога. Той азірнуўся, прывітаўся і паказаў на паліцэйскага: маўляў, у яго трэба спытаць дазволу на тое, каб пагаварыць. Нічога не заставалася, як прасіць гэтага боўдзілу.

— Дак ты ўжо, Мікіта, заганарыўся, атрымаўшы такую высокую пасаду,— не без іроніі пачала маці.— Можа, здароў, ці што?

— А як бы ты думала? — у сваю чаргу зафанабэрыўся Мікіта.— Мінулася ваша ўласць — боханы белага хлеба з крамы насіць. Жылі, як на вялікдзень, а цяпер, ваша дышла, пажывём, пакаштуем белага хлеба і мы,— і адвярнуўся, падцягваючы велікаватыя галіфэ.

— Ты ўжо, Мікіта Восіпавіч, як колішні сусед, не крыўдуй,— падладжвалася на вясёлы тон маці і паказала на кошык: — Тутака во гасцінец, я, разумееш, па-зямляцку... А мне адпусці на хвілінку етага во старога, у яго, кажуць, ёсць чыгункі, трэба згаварыцца, бо няма ў чым бульбы зварыць...

Мікіта пакасавурыўся на кошык, азірнуўся вакол, патупаў на месцы, мабыць, разважаючы, што рабіць з гэтай кабетай. Усё ж былая суседка, разнясе, быццам Мікіта ўжо такі злоснік, што да яго і не падступішся.

— Ну, ідзі, стары хрэн, ды хутчэй, жыва каб мне назад! — кіўнуў паліцэйскі і ўзяў з рук маці кошык.

Стары каваль адразу здагадаўся, з якой нагоды прыйшла Уліта: яна сказала пра ўсё вачамі. Па дарозе ўдакладніла свой план, ціха шапнула:

— Няхай хлопчык прыбяжыць у канец, пад Тур'ю. Да канцавой хаты ў вішанніку...

— Добра, Улітачка, галубка, пастараюся!

Маці падалася сцежкаю на тур'еўскі шлях. Сэрца калацілася — было цяжка дыхаць. Яна развязала хустку, аддыхалася. Шчыравала гарачае жнівеньскае сонца. Прыпарвала. Раптам пад нагамі замітусіліся трэскі, падхапіла вет-

рам лісце; злёгку закружылася ў паветры смецце, пажоўклыя паперкі. Зашасцела вецце на ліпах, пасыпаліся, ацярушваючыся, жаўтлявыя лісты... Правуркатаў глуха гром, але дажджу не было — адно пырснула некалькі кропель.

Выбраўшы месца ў вішанніку, маці прысела на пажухлую, прыпыленую траву і пачала прыслухоўвацца. Марудна цягнуліся хвіліны. Не зусім спадзявалася яна, што Лёвачка прыйдзе, бо не так лёгка было цяпер выбрацца з мястэчка. Але не прайшло і паўгадзіны, як Лёвачка з'явіўся, задыханы і нейкі трохі разгублены. Мабыць, яму сказалі, што тут яго будзе чакаць цётка Уліта, а цяпер ён бачыў, што яе няма, і гатоў быў расплакацца. Ва ўсякім разе так падалося маці, і яна, не марудзячы, выйшла насустрач:

— Лёва, дзіцятка маё, ідзі, не бойся!

Лёвачка, як бы прасветлены наскрозь радасцю, ірвануўся да яе, зашчабятаў весела:

— Цёця, а мне дзядуля сказаў, што я з вамі пайду. Цяпер я з вашым Шурам буду гуляць. Добра, цётка Уліта?

— Добра, мой хлопчык. Пойдзем, сынок.

Азіраючыся раз-пораз на зялёнае, зацененае ніzкімі хмарамі мястэчка, маці барзджэй пакрочыла на ўсход, трымаючы за руку хлопчыка, які ледзь паспяваў за ёй і ўсё гаварыў і гаварыў, бы шчабятун які:

— Цётка Уліта, чаму гэта вы ўсё азіраецеся? Дзядуля сказаў, што прыйдзе да мяне, як перастане навальніца, як вернецца з горада мая мама...

Пад вечар яны ўдала дабраліся да Бацькавіч, і Лёвачка застаўся. Праўда, мы яго стараліся не пускаць далёка ад дому, ды ён і сам не надта кідаўся туды, бо быў кемлівы хлопчык. Мы з ім пасябравалі і ўвесь час праводзілі то ў лесе, які быў недалёка, то ў садку, забаўляліся пад паветкай, дзе была бацькава стальмашня.

Маці вельмі чуйна прыслухоўвалася да ўсяго, бо ўжо ў вёсцы пачалі ўводзіць «новы парадак». У Ігліцы стала воласць і новае начальства — стараста, пісар і паліцэйскія. У нашу вёску часта наязджаў Бугай — валасны бургамістр, як ён сябе называў, і агітаваў некаторых, каб пісаліся ў паліцыю — бараніць будучыя свае надзелы ад бальшавікоў. З яго ўсе ў думках пасмейваліся, а на запрашэнні аднекваліся: «Пан бургамістр, якія з нас паліцаі, глядзіце: адзін без нагі, другі без вока, а трэці глухі, як цецярук...» Бугай рагатаў і спяшаўся на хутар, да Ларывона Крука, якога прызначыў за старасту.

Неяк ля калодзежа маці набірала ваду, і Бугай спыніўся, пахваляючыся сваім рыжым жарабком, што гарцаваў пад ім. Угледзеўшы яе, ён з'едліва прамовіў:

— Іваніха, кажуць, у цябе жыве нейкае хлапчанё. Не яўрэйскае ета? Глядзі, бо за ета ведаеш — вешалка!..

— Што ты, пан бургамістр, гэта ж хлопчык маёй сястры з Пакроўкі,— зусім спакойна сказала маці і пакрыўджана дадала: — Вой людзі! Глядзі ты, ужо і навыдумлялі чортведама што... Вой людзі!..

— То я ведаю, Іваніха, што ты паняла...

— Так, пан бургамістр, зразумела.

У той жа дзень маці з Лёвачкам гародамі, па канапляніішчы, шыбанула на дуброўскую дарогу ў Селішча, дзе жыла цётка Вара. На тым хутары было ўсяго два ці тры двары, і людзі там жылі, як свае, як радня. А мо яны і даводзіліся адно аднаму раднёю. Сюды, мабыць, яшчэ ні разу не наведваліся паліцаі.

Цётка Вара ахвотна згадзілася ўзяць да сябе хлопчыка — Лёвачка, вядома ж, не хацеў заставацца, але маці яго ўгаварыла, а можа, ён і сам ужо здагадаўся, што яму ў нас жыць не можна. На хутары хлопчык прабыў усю восень і зіму.

Вясною партызаны ўсё часцей пачалі наведвацца на хутар. А затым і зусім атабарыліся побач, на выжарыне, акружанай балотам. Нехта дазнаўся, што ў Вары Цярэшкі жыве хлопчык з мястэчка. І праз нейкі час у Селішча завітала ў вайсковай форме маладая жанчына, доўга глядзела на Лёвачку, а потым са слязьмі на вачах сказала гаспадыні: «Дзякую вам, дарагая Вара Ціханаўна, вы мне выратавалі сына. Я праз увесь век не забуду. Яшчэ раз дзякую».

Яна забрала з сабою хлопчыка.

А стары каваль загінуў у той дзень, апоўдні, як над мястэчкам усходалася нечаканая навальніца. Яго застрэліў немец, нібы з тае прычыны, што стары спрабаваў адысці ад сваёй хаты.

* * *

Гэта даўняя гісторыя ўжо, мабыць, забылася, бо за час акупацыі было тут шмат усялякіх незвычайных здарэнняў. Людзям давялося пералсыць шмат гора і пакут, і гэты эпізод у жыцці Уліты Іваніхі быў звычайным, і яна сама пра яго не спамінала.

Ды аднойчы, праз многа гадоў, зноў жа апоўдні, у га-

рачы жнівеньскі дзень, ля замшэлай Уліцінай хаты спынілася заляпаная гразёю «Волга» — надоечы джгаў навальнічны, сляпы дождж. З машыны выйшаў высокі, стройны, з залацістымі валасамі хлапчына, запытаў у басаногіх хлапчукоў, якія, нібы авадні, абляпілі машыну:

— Не ведаеце, дзе жыве цётка Уліта?

— А во, хата пад дранкаю,— паказаў адзін з басаногай каманды.— Толькі тут жыве не цётка, а бабуля Уліта.

— Ну, бабуля дык бабуля,— збянтэжыўся хлапчына і насцеж расчыніў дзверцы машыны:

— Мама, выходзьце...

Старая, убачыўшы, што ля хаты спынілася машына, заспяшалася насустрач і ўсё ўзіралася сваімі блізарукімі вачамі, ніяк не могучы ўцяміць, хто б гэта мог быць: каб госці — сын яе, дык ён старэйшы куды; унукі, дык яны меншыя і нявестка яе не такая поўная... А рыжачубы ўсміхаўся ёй і ўжо раскідваў рукі для абдымкаў:

— Добры дзень, цётка Уліта! Добры дзень, маці!

— Здрастуй, здрастуй, сынок,— прамовіла бабуля.— Хто ж ты такі, я нешта не пазнаю?

Яна разгублена глядзела то на хлопца, то на жанчын — маладую і пажылую, што ціха і цёпла ўсміхаліся ёй.

— Чакайце,— прасвятлела і як бы нешта прыгадала старая.— Ці не Лёва ета?

— Ён самы, маці.

— То ж бо я гляджу,— замітусілася старая.— На дзеда падобны трохі, на старога Мордку,— і ўздыхнула, а тады барзджэй загаманіла: — Дык што ж мы стаім? Заходзьце ў хату. Заходзьце, госцейкі!..

...На захадзе, там, дзе ў мроіве гойдаліся, бы нейкія прывіды, гурбы хмар, чулася далёкая навальніца. Сюды даносілася толькі яе буркатлівае, прыглушанае далеччу рэха.

## ЛІПЕНЬ-МЁД

Зіна прыйшла з вечарыны позна. Дамашнія, асабліва бабуля, бадай што ўжо выспаліся. Ціха, як крадучыся, на пальчыках, каб не разбудзіць Паўліка, прабралася ў чыстую палавіну хаты, спехам разабрала пасцель, гэтак жа похапкам выцягла з валасоў заколкі, скінула з сябе сукенку і, пацепваючыся, улеглася ў старым драўляным лож-

ку, у якім любіла спачыць, калі прыязджала дамоў з горада.

Ляжала доўга, намагаючыся заснуць, але сон не ішоў. У нізкія, зацененыя знадворку кветкамі вокны цадзілася кволае ліпнёвае світанне, а Зіна не магла пазбавіцца ўзрушэння — яе на гэтай вечарыне ўзрушыла ўсю, да апошняй нервовай клетачкі.

«Што гэта? Насланнё, мабыць, нейкае?! — трывожна і радасна запыталася ў сябе.— Няўжо мой лёс? Аж смешна. Замужняя. З дзіцем. І раптам, ой, божа, каханне. Дзіўна, далібог!..»

Столькі дзяўчат у Крываліцку. Адна прыгажэйшая за другую. І сваіх, і тых, што з горада прыязджаюць кожную суботу. Кожная, гэта Зіна добра ведае, проста ўскружыць галаву і свайму хлопцу, і кавалеру-гараджаніну.

Не спіцца. Зіна чуйна ўслухоўваецца ў знямела-трывожнае шапаценне кветак за акном і перабірае ў памяці гэты вечар, які начыста перакрэсліў усю яе цяперашнюю жытку.

Дзіва, дый годзе! Нейкі доўгавалосы студэнцік, дзіця горкае, яшчэ, мусіць, і цалавацца добра не ўмее, а выбраў яе, Зіну. А можа, гэта ёй, дзівачцы, усё здалося? Можа, гэта звычайнае хлапечае заляцанне?.. Калі Зіна з дзяўчатамі прыйшла на танцы, Толік — так звалі студэнта — стаяў воддаль, пад старою ліпаю, і адразу прыкмеціў яе, пачаў цікаваць. Зіна гэта адчула ледзь не фізічна, ёй аж нядобра зрабілася. Яна стрэлася з гэтым бадай што гіпнатычным позіркам і аж узлавалася: «Во яшчэ мне нахаба. Ай табе, жаўтароцік, дзяўчат мала? Засляпіла табе, ці што? На замужнюю бабу бельмы пяліш!..» Яе аж дрыжыкі пачалі біць. Падумала, што гэта халадок цягне з балота, ад Пцічанкі. Акрыўшыся матчынай хусткаю, якую захапіла ад назолаў-камароў, ды на заходзе неба было захмурылася, Зіна наважыла ўжо дамоў пайсці, але барадаты студэнт, мабыць, завадатар на вячорцы, паставіў новую пласцінку. Хлопцы і дзяўчаты ў круг рушылі, як на злом галавы. Барадач цырымонна абвясціў:

— Вальс... для закаханых!..

Ціха, бачком да Зіны праціснуўся той хлапчак, што абстрэльваў яе вачмі, у лёгкім паклоне схіліў галаву, доўгія, аж па плечы, цёмныя валасы закрылі яго матава-бледны пры цьмянай лямпачцы твар, а сам ён выдаваў тонкім і доўгім у сваёй студэнцкай кашулі. У хрыплаватым, прастуджаным голасе Зіна ўлавіла непадробную шчырасць:

— Проша...

Дрыготка, аж працяло, Зіна лёгка і квола паклала сваю, здалося, бязважкую руку на яго плячук, адчула — пальцы яе дробненька, можа, ён і не пачуў, трымцяць. Востра ў сэрца штурхнула дакорам: «Навошта я паперлася на гэтае гульбішча! Я ж яшчэ не разведзеная». І ў тое ж імгненне нехта невідушчы, як бы збоку: «Дзівачка, усё адно ты з ім, п'янчугам і слімаком, жыць не будзеш. Пакуль маладая ды прыгожая — развяжы сабе свет. З ім табе не жыццё, а вечная пакута. Лепш адной век звекаваць!..»

...Памыўшыся сцюдзёнай, толькі са студні, вадою, Зіна стаяла перад трумо і прычэсвалася. Разглядаючы сябе ў люстэрка, яна як бы спрачалася сама з сабою. З аднаго боку дакарала сябе за той, як лічыла, неабдуманы крок, вінавaціла сябе, што падахвоцілася з дзяўчатамі на пагулянку. Нават ганіла і ўпікала сябе. З другога, як нехта староннi, бараніла, апраўдвала і падахвочвала: «Зінка, дзівачка ты! Прыгожая, людская і паставай, і з твару. Не азірайся, ідзі ўжо, калі ступіла крок, не бойся!..»

Зіна марудзіла, як не сваімі рукамі, прычэсвалася, абы больш пабыць адной. Зараз бабуля пакліча на сняданак, і можа ўсё раскрыцца. Яна, Зіна, не ўпэўнена, што бабуля не заўважыць, што з ёю робіцца. І, вядома, скажа маці, а тая будзе знібець, чаўпці сваё: «Сцерпіцца — злюбіцца».

Як радае, што так лёгка выбавілася з гушчэчы цёмнага бору за Крываліцкім балотам, ранішняе сонца набгом п'е курдзенькую расу на дрэвах, на траве і кветках, і праз кусты язміну і маліннiку перад вокнамі цёплымі абдымкамі-промнямі лашчыць голыя плечы і рукі Зіны, нячутна, мякка забаўляецца з распушчанымі валасамі. Зіне памроілася: яе асвежанага вадою твару кранаецца нехта нябачны, але такі жаданы, і яна як бы зноў засынае. З такога задумліва-соннага стану яе абуджае знаёмы голас:

— Зіначка, блінцы ачахнуць. Снедай, госцейка!..

Падумалася: якая ж я тут госця? Лічы, кожную суботу ці ў нядзелю з сумкай, напакаванай гасцінцамі, яна спяшаецца на электрычку. Два гады, як тут, у бацькоў, яе Паўлік. Ужо яму тры гадкі. Як на добры лад, Паўлік мог бы быць і з ёю, у свякрухі. Але дзе там — гарадская пенсіянерка. Наадрэз адмовілася глядзець дзіця. «Самі прыспасобілі,— кажа,— самі і гадуйце».

І зімою, і ўлетку Зіна бегала на станцыю і са станцыі паўз гэтую канаву-калектар. І гэтае лета не ведае адхлання. Усё бягом і, як кажуць, прыскокам. Хіба калі падумала яна, што тут, на тым балоце, якое ёй далося ў знакі ў маленстве, стрэнецца і яе доля-спакуса? Недзе там,

на даляглядзе, стаіць між кустоў аграмадзіна-экскаватар, а ля яго, як мурашы, у рыжых, выцвілых кашулях пэцкаюцца, плёхаюцца ў багне хлапчукі. Казалі ёй, студэнты-гідратэхнікі на практыцы. Ды што ёй, Зіне, да іх. Каб жа знаццё, можа б, іншы раз хаця б вокам кінула... А яна ўсё спяшаючыся, з адным клопатам — хутчэй да Паўліка. Дома з сынам, з бацькамі і бабуляй забываліся нягоды жыцця ў горадзе ў хаце свякрухі-скнары. Бацькі ведалі, што ў Зіны не ладзілася жыццё. Муж аказаўся шалапутны, мамчын сынок, злёгся з такімі, як і сам, абібокамі. Пасля вайсковай службы стаў працаваць на заводзе, але што толку? Адбудзе сяк-так змену — і на вуліцу, да такіх, як сам. Вечарамі прападае ля магазіна, а як выхадны — то на рынку. Нешта купляе, нешта прадае, выменьвае. На нейкай махінацыі быў папаўся — яму пагражала адсідка, але заводскія хлопцы, дзе Эдзік рабіў слесарам, пашкадавалі Зіну, бо знайшоўся ўжо Паўлік, і яе шалапута-мужа ўзялі на парукі.

Бедавала, плакала Зіна, праклінаючы сваё няўдалае замужжа. Не думала, не гадала, што ўсё гэтак абернецца, што выпадзе ёй такая палынная доля. Каб гэта ведалася, яна ніколі б не паехала ў той горад, не засталася б на кватэры ў той цёткі з яе сынком. А памяркуеш, то і сама ж разява, дзе яе галава была тады, як пачаў заляцацца гэты Эдзік. Здурнела, пакваплілася — армеец. У вайсковай апратцы выдае зух-хлопцам. Відны з сябе. І язычок нябла-га падвешаны. Заляцаўся, залатыя горы Зіне абяцаў. Канечне, яна верыла і не верыла. Баялася памыліцца, не даць прамашкі — да бацькоў прывозіла Эдзіка на выглёнды, як у Крывяліцку кажуць.

У Зініных бацькоў Эдзік стараўся — еў, піў, не саромячыся, і хваліўся без меры. Ілгаў абы-што, не чырванеючы. Калі пасля Зіна, асмеліўшыся, запытала ў маці пра кавалера, тая няпэўна пацiснула плячамі:

— Хто яго ведае, хлопец як хлопец. А што там у яго наўме, адзін бог — суддзя. У горадзе свой дамок. Як ні кажы, прытулак. А жаночая доля такая: як ні харашыся, а дзеўкаваць век не будзеш, трэба браць на сябе гэты абузак — замужжа.

Паразважаўшы, маці выказалася больш пэўна:

— Ідзі, калі бярэ...

Бабуля маўчала. На сваім вяку яна больш пабачыла людзей, абы кіне вокам, то скажа, што то за чалавек; сцебане па вачах — не будзе заечую сцежку пятляць. Яна паназірала за Эдзікам і сабе зрабіла адзнаку: «Ілгун і зада-

вака». Ды ў яе, бабулі, не папыталіся, і яна не назаляла, але папярэдзіла ўнучку: «Зінка, глядзі, каб не скруцілася твая маладосць. Не наравіцца мне, што гэты Эдзік дужа ж прагны. Гарэлку ў рот лье, як у барылку. І лжэ, як апошні лгун...»

І бацька добранькі, ужо такі маўчун, за дзень іншы раз не выцісне ніводнага слова, а тут як яго прарвала: «П'яніца праспіцца...»

Сказаў і, патупаўшы па хаце, моўчкі пасунуўся ў запечак. Вядома, лясны чалавек, усё жыццё на адзіноце.

Улетку Зіна распісалася з Эдзікам. Сумеснае іх жыццё, калі шчыра,— гарчэй, чым той горкі палын. А гэта ж, як па-людску, самая шчаслівая іх пара. Мядовыя дні, падараваныя ім маладосцю, азмрочыліся скрухай, горкай прыкрасцю. Не было ў іх таго, што дае сумесная блізкасць, калі адно жыве страсцю, ласкаю другога, калі ў самыя, нават першыя хвіліны праяўлення страсці абое нібы адно, маючы найвышэйшую асалоду быцця, паўнаты таго, што дае абаім высокае чалавечае пачуццё.

Зіна намагаецца прыгадаць, ці кахала яна Эдзіка. І што гэта ў іх было? Тое найвялікшае, запаветнае чалавечае шчасце, сіла, з якой можна параўнаць хіба самую маладосць.

«Што было ў яе з Эдзікам? — разважала з сабою Зіна.— Каханне? Мабыць, не. Была простая закаханасць, счэпленая шлюбным счэпам...»

Яе маці, мабыць, век пражыла з гэтым сваім «сцерпіцца — злюбіцца». Мабыць, і яна не мела паўнаты таго шчасця, якое дае сапраўднае, заснаванае на духоўнай і душэўнай блізкасці, каханне.

У памяці ўсплылі словы маці, якія яна выказала аднойчы, калі Зіна збіралася распісвацца: «Важна, каб мужчына любіў цябе, а твая бабская справа — унаравіць яму, мужчыне. Такая наша бабская доля...»

Няхай сабе. Але ж жанчына — чалавек, і ёй уласціва тое, што і мужчыне. І павага да сябе як чалавека — не прыхамаць, а набытак існасці; усё ідзе ад прыроды, з глыбіні чалавечага пачуцця...

...Стыне на стале сняданак — блінцы са скваркамі, якія ў сям'і Чаплікаў на нядзелю традыцыйныя, а Зіна да стала не спяшалася. Сцішана, на дыбачках падышла да калыскі, дзе смачна пасопваў яе ўцеха — Паўлік. (Імя ў гонар дзеда-партызана, што загінуў у час падрыву моста на Пцічы). Нейкі момант стаяла, забыўшыся на ўсё, тады асцярожна, каб не разбудзіць, паправіла коўдрачку.

І моўчкі, задуманая, прысела да стала. Не хацелася есці ані. У вачах, як наяве, стаяў чарнявенькі студэнцік. Ад яго рукі, якой ён трымаў Зінчыну руку, заставалася яшчэ цяпло — гаючасцю яно разлівалася ўсярэдзіне, змушаючы заміраць слодыччу растрывожанае сэрца.

— Можа, нездаровіцца табе, Зіначка? — бабуля адчула, што з унучкай нешта зрабілася.— Заўсёды была ты вясёлая, а сёння нейкая як разгубленая. Ці не хворая? Я ж во блінцоў напякла — твае любімыя дранічкі.

— Ой, бабулечка родная! — Зіна ўспыхнула ружовасцю; яе вялікія шэрыя вочы заблішчалі. І тут жа заклапочана: — А праўда, са мною як нешта робіцца. Я і сама не дам сабе рады... Няма мне з ім шчасця-радасці,— як не праз слёзы прамовіла Зіна. Бабуля аж разгубілася. Спахапіўшыся, пачала ўшчуваць:

— Можа, як-небудзь абыдзецца,— і спачувальна ўздыхнула: — Малады, во й блазнуе, шаленец. А пасля ацішэе, нагуляўшыся, як тая рэчка, што ў паводку разліецца, павіруе, пахвалюецца ды ў свае берагі і асядзе. Кажуць жа: бабе важна аснавацца, тады яна сваё верне, узяўшы лейцы ў рукі. А ты, Зіначка, ласкай, унароўлівасцю старайся. Ты ж добрая. Наша парода такая — усё ласкавасцю ды ўнароўкай. Во й матка твая — ласкавае сэрца. Бацька ж, сама ведаеш, які... Характар мае дужа цяжкі. Ведама, ляснік-лесавік... З дрэвамі прывык, а яны ж, дрэвы, без языка...

Добра ёй было слухаць бабуліны казкі-казанні. Лагодныя і спачувальныя, яны як бы выводзілі Зіну з утрапення, і мала-памалу ў яе хадзе думак намячалася калі не пэўная яснасць, то прасвятленне. Ды раптам тое, на што настаўляла бабуля, павярнулася цяпер зусім інакшым, нечаканым паваротам. Перабіраючы ў памяці пражытае за амаль чатыры гады замужжа, яна цяпер прыйшла да цвёрдага рашэння — разысціся з Эдзікам, бо жыцця з ім, яна пераканалася, не будзе. Яна прыедзе і скажа мужу: «Эдзік, хопіць нам гуляць у хованкі. Таго, што трэба, у нас няма. Няма любові. І не будзе. Для абаіх нас, напэўна, будзе лепш, калі разысціся. Нельга адно аднаму завязваць свет...»

«А дзіця? — скажа Эдзік (гэта яна чула ўжо).— Дзіця нас трымае. Мы з табою, як бычок на вяровачцы.— Потым унурыцца, пачне: — Шкадую сына і таму не дам табе разводу...»

Ён, Эдзік, надзіва незразумелы і супярэчлівы чалавек. Калі цвярозы, то з ім яшчэ можна пагаварыць: ён пра не-

шта марыць, абяцае, што і кватэру з цягам часу атрымае, і машыну набудзе ўласную, а як толькі стрэнецца з сяб-рукамі, усе яго намеры ляцяць дагары, планы лопаюцца, як мыльныя бурбалкі. Эдзік прыцягнецца дамоў п'яны — і не трэба яму ні жонка, ні дзіця. А назаўтра, як учадзелы, споўдаецца, і, мабыць, яму тады і белы свет нямілы.

Колькі паўпрошвала Зіна свякруху, каб яна паўшчувала сына, а тая адно пасміхнецца. «Я,— будзе казаць,— аддала табе хлопца... З арміі як прыйшоў, то быў пармальны чалавек. А ты, акаянніца, яго мне сапсавала: «Выпі, Эдзік, чарку, лепш паясі...» Во цяперака і цацкайся. Я вам не суддзя. Як гаворыцца, аддала на вечнае карыстанне. Радуйся, мілая, і бога не гнявi...»

— Дык што ў вас там? — раптам запыталася бабуля і пільна паглядзела Зіне ў вочы, поўныя слёз: — Можа, надумала разводзіцца? Бачу, дзеўка, што ў вас з Эдзікам не куецца, а плешчацца...

Зіна, супакойваючыся, выцерла набегшыя слёзы, узяла блінец, абмакнула ў тук, што ўжо загусцеў на скавародзе, і пачала неахвотна жаваць. Зацята маўчала, баючыся расплакацца. Не хацела, каб хаця Паўлік не прачнуўся, бо пачне дапытвацца пра тату, чаму да іх доўга не едзе.

І стала збірацца, хаця магла яшчэ пабыць — на работу ёй у другую змену. Маўчала і бабуля. Чакала, што ўнучка памалу супакоіцца і сама ўсё скажа. Узялася ёй памагаць. Адчыніла суднік, дастала збанок з мёдам, наліла ў паўлітровы слоік.

— Вазьмі, Зіначка, на дарогу,— сказала бабуля, падаючы слоік.— Гэта во свежы, бацька толькі што набраў з вулляка. Ліпеньскі мядок. Чысты. З кветак. Ад усякае хворасці помач дае вялікую. Ды не ганарыся, дзеўка, Эдзіка і свякруху пачастуй. Слухай-тка ўважліва, што я табе скажу. Ласкавае цялятка дзве маткі ссе, а ганарыстае — ніводнае!..

Зіна не хацела гэтага слухаць, была аж зазлавала. Ледзьве зноў не раскрычалася. Навошта ёй гэты мёд? Не было ёй клопату, абэрвуса таго яшчэ мёдам будзе частаваць. І свякруху, тую цёмную скнару, каб потым сама ж і насміхалася: «Што, маўляў, і мёд не памагае? Мёд — ліпкі, ды хліпкі...» Але змоўчала: шкада бабулю.

— Не трэба, баба, мне мёду,— выдыхнула праз слёзы. Боль, які ўсё паліць усярэдзіне, ірваўся, аж калола ў сэрцы... Яна, перасіліўшы сябе, як не аднымі губамі прашаптала: — Мабыць, не паможа нішто нам. Гарката такая

ўжо, што і мёдам не супыніш. Даруй, бабуля, але мёду я не вазьму...

Збіраючыся, Зіна, аднак, не забыла прыхарашыцца. Адзела сваю любімую, яшчэ дзявоцкую, васількозую сукенку. Кароткую, нават каленцы відаць, агаляючы стройныя, па-дзявоцку зграбныя ногі. Прычоску падстроіла. А твар харашыць ёй не трэба: лёгкі румянец шчок з ямачкамі, яркая крамянасць сакаўных вуснаў з прытоенай усмешкаю ў самых куточках нібы казалі, што Зіна ў свае дваццаць чатыры гады можа пасапернічаць з любой дзяўчынай у Крываліцку і ў ваколіцы. І ў горадзе на яе заглядваюцца. «Мабыць, я ўсё ж прыгожая»,— сама сабе ўсміхнулася Зіна, закрываючы зябкія з начы плечы лёгкай капронавай хусткай, каб валасы не пыліліся. Тады ледзь чутна, аднымі вуснамі паўтарыла бабуліна слова: «Ліпкая...»

Тым часам бабуля мітусілася, памкнулася была да калыскі, можа, хацела разбудзіць Паўліка, ён жа пасля ёй адхлання не дасць, усё будзе румзаць, дапытвацца пра маму, дзе яна падзелася. На пальчыках падскочыла да калыскі, прагна і пільна пазірала на хлопчыка, які смачна чмыхаў носікам, раскінуўшы ручкі. Чысты анёлак на карціне, якую Зіна бачыла аднойчы ў музеі. Яна не стрывала, дакранулася гарачымі вуснамі да лобіка, але Паўлік не прачнуўся, адно толькі бэцнуў ручкай, адганяючы нябачнага парушальніка яго ранішняга сну.

Зіна амаль подбегам выскачыла з сенечак, выхапілася з двара, не зважаючы на хараство ліпеньскай раніцы, якая ўвачавідкі нараджалася і набірала сілы. Яшчэ вуліца не абудзілася знаёмымі з маленства галасамі. Кіруючыся праз вуліцу на загуменне, дзе пракладзена летняя сцежка паўз канаву да станцыі, Зіна кінула позірк у бок хаты Драздзіхі, дзе кватаравалі студэнты-гідратэхнікі — там ужо на двары чуўся шум і галёканне: хлопцы набіралі са студні вады, мыліся, рыхтуючыся на балота.

Зіну чамусьці абдало нейкай гарачынёй. Яна, не адчуваючы расы, якая калола ў ногі, не азіраючыся, подбегам шыбавала да станцыйнага доміка, што віднеўся на даляглядзе.

Спяшалася Зіна на ранішнюю электрычку, але на гэты раз паспела агледзець і той калектар, які вядуць гідратэхнікі, і Крываліцкае балота, куды ў маленстве бегала басанож па брусніцы і буякі, дзе неаднойчы правальвалася ў «чортавы вокны», і цяпер паспачувала гэтым хлопцам у выцвілых студэнцкіх штармоўках з надпісам на спіне

«Інтэграл». Гэта ж трэба ў такую спёку і ў навальнічныя дажджы цэлы дзень у ржавай багне, з аваднямі і камарамі.

А раніца бралася яркая, гарачая. Над балотам, з кустоўя і зарасніку, дыхала густая, аж сіняя, парнасць. Падсвечаныя першымі, яшчэ не пякучымі промнямі, дыміліся балотныя травы і кветкі, што ўсыпалі старую канаву і балота.

Задыхаўшыся, Зіна сцішыла крок, і яе ахінула ўтрапёнае, радаснае здзіўленне. Яна нібы нанава бачыла ўсё, чым жыло роднае, знаёмае наваколле. І гэтае балота, і недалёкі, збоч вёскі, вячысты бор, і высозныя старыя ліпы над станцыйным дамком — усё яе хвалявала цяпер, у гэтую ліпеньскую раніцу, як бы ўпершыню.

Зіна спахапілася, што глядзіць у той бок, дзе над кустамі, удалечыні, застыла аграмадзіна-машына, куды во праз якую гадзіну прыйдуць хлопцы, той рыжы барадач, што ставіў пласцінкі на прайгравальнік, і сарамяжлівы Толік, з якім яны гулялі, мабыць, як не да рання.

Удыхае Зіна гаючую ранішнюю свежасць і ўся аж свеціцца, а сэрца радасна замірае, як у прадчуванні нечага светлага, неспазнанага ніколі дагэтуль.

Усплыло ў памяці ўчарашняе. Да драбніц прыгадалася тая нечаканая, неспадзяваная сустрэча. Робіцца аж смешна, як усё пачалося. Пайшла яна з студэнцікам на круг у танцы, ён па-гарадскому, а яна звычайна, як раней гулялі ў Крываліцку. Сяк-так станцавалі. Зіна адышлася ў гурт дзяўчат, што стоўпіліся ля агароджы. У яе нешта аж у грудзях перасела — цяжка стала дыхаць. Можа, ад паху кветак, што плыў сюды, на «пятачок», з гародаў і лясной аселіцы. Толік зноў запрасіў Зіну. Танцавалі, а пасля стаялі блізка адно ля аднаго.

Толік маўчыць. Маўчыць і Зіна. Першы асмеліўся Толік. Ён і кажа: «Давайце пройдземся. Пагуляем па свежым паветры». І запрашае Зіну ў той бок, дзе жыў на кватэры ў бабы Драздзіхі.

«Не,— кажа Зіна.— Пойдзем у наш канец, да нашай хаты».

Ішлі павольна, спакваля, і ў Зіны нечага ногі як не свае, як адваліліся — не слухаюць. Хвалюецца, уся дрыжыць, калоціцца... А ён маўчыць, таксама, мабыць, злякаўся...

Была парнасць і духата. Мабыць, тую задуху ўзмацнялі саспелыя кветкі. Іх было досыць і на ўтравелай вуліцы, ля платоў, і на гародчыках. З лугоў і з лесу патыхала чабо-

рам, медуніцамі, канюшынай і з балота — багавіннем, аернікам. Кветкавы пах быў такі, што льга было ўчадзець. А яшчэ пахлі ліпы. Яны дурманяць у ліпені, пасля кароткіх, імгненных навальніц, якія бываюць часта сушаю, на ўзлобку лета.

Ужо легла ноч, светлая, але без зор. Усё вакол: і вуліца, і дрэвы, і травы — сцішыліся, як пасля вялікага напружання. Ён трымаў яе за руку, і Зіна пакрысе супакойвалася. «Толік, глянь, які ты доўгі!» — адхінуўшыся, сказала яна. А ён у адказ: «Давай памераемся...»

То была пара, калі сама што цвіла ліпа. І яе востры, мядовы пах забіваў усе астатнія.

Ужо на лавачцы, пад старым клёнам ля хаты Чаплікаў, Толік як асмялеў, крыху разгаварыўся. Гаварыў пра каханне. Не, не прызнаваўся ёй, што кахае, а як бы разважаў сам з сабою. І Зіне запомнілася нешта з ягоных разваг. «Калі хочаце ўбачыць душу чалавека,— казаў ён прызнаючыся, што недзе аб гэтым вычытаў,— паглядзіце на яго губы. Цудоўныя светлыя вочы і драпежныя губы. Дзявочыя чыстыя вочы і разбэшчаныя губы».

Зіна маўчала як заварожаная. А тады ўсё ж запыталася, а якія ў яе губы. Толік ціха, як падалося ёй, нават задыхана, нахіліўшыся блізка-блізка, выдыхнуў: «Твае губы, Зінок, мабыць, з мёду, салодкія...»

Цяпер, разважаючы, Зіна думае, што пра губы Толік сказаў, бо, напэўна, хацеў пацалаваць яе, але яна адхінулася, хаця колькі намаганняў волі каштавала ёй гэта зрабіць.

«Узаемная любоў,— казаў ён, крыху супакоіўшыся,— гэта вялікае шчасце. Непадзеленая любоў — горкае шчасце».

Зіна больш слухала, чым гаварыла, хаця яна не маўчуння і, калі трэба, за словам далёка не ходзіць. Тым часам думала: «Няўжо гэта і ў нас любоў? А ён жа, Толік гэты, зялёны хлапчак яшчэ...»

Зіна ўжо ведала, што Толік — студэнт другога курса інстытута і гэта ў яго першая летняя практыка.

...Ужо седзячы ў электрычцы, Зіна дакарае сябе за сваю хвілінную слабасць. Не заўважыла, як Толік, гарачы, крануўся яе чамусьці асмяглых вуснаў, і яна не адхінулася, а замерла ў знямелай млявасці... «Зіна,— казаў Толік ледзь не дрыжачым, як спалоханым голасам.— Не ведаю, як гэта можна быць без любові...»

«А скажы, Толік,— шаптала Зіна, гледзячы ў бліскучыя ад узрушэння Толікавы вочы,— што гэта такое — ка-

ханне? Якое яно? Я дык, грэшная, і не ведаю... Не зведала, далібог...»

Толік маўчыць, як нахохлены верабей. Зіне здаецца, што ён хмурыць бровы, раз-пораз праводзіць рукой па сваіх валасах, як зусім разгубіўшыся. Тады прыпыніўся, абняў Зіну, але яна злёгку, ледзь улоўным рухам рукі адхіляе ягоную руку, а самой так хочацца прыхінуцца, што ледзь стрымлівае сябе, сваё парыванне.

Нарэшце Толік супакойваецца. Голас яго набывае цвёрдасць, рашучасць. Ведама, мужчына. «Гэта праўда,— кажа ён ужо спакойна, разважліва.— У нашыя гады, у юнацтве, мабыць, цяжка рашыць, дзе каханне, а дзе закаханасць...» — «Гэта ты пра мяне, Толічак?..» — «Ага, пра цябе,— адказвае. А тады, памаўчаўшы, дадае: — І пра мяне таксама...»

Яны яшчэ ў Крываліцку сустракаліся разоў колькі. Кароткія, але гарачыя, як ліпеньскія ночы без дажджу, з яркімі сполахамі зарніц, былі іх сустрэчы і спатканні.

Зіна за гэты час падала на развод, праўда, без згоды Эдзіка (яго за нейкі хуліганскі выбрык на базары пасадзілі на пятнаццаць сутак), і пры сустрэчы расказала аб гэтым Толіку.

Як і ў першы вечар, яны хадзілі па вуліцы доўга; потым, натаміўшыся, сядзелі на лавачцы, слухалі, як у садзе ад нейкага раптоўнага ўсплёску ветру зрываліся і падалі ў росную траву даспелыя яблыкі-налівы, як аб нечым ціха пашумліваў над імі стары клён...

Толік, як аказалася, не такі ўжо і маўчун, як падалося Зіне з першай сустрэчы. Як і ў першы раз, востра пахла кветкамі, мёдам-ліпцом...

Толік зайшоў у хату да Чаплікаў. Пазнаёміўся з бацькамі. І бацькі, і Паўлік упадабалі яго. Як на парозе з'явіўся Толік, да яго лясцеў Паўлік насустрач: «Дзядзя Толік, дзядзя Толік прыйшоў!..»

Толік не надта цікавіўся, што ў яе было, як яны жылі з Эдзікам, але Зіна, расчуленая, сама ўсё выклала, як перад споведдзю. «Я і сама вінаватая, мабыць, што ў нас з Эдзікам так выйшла. Сляпая я была, калі шчыра. Усяму, мусіць, віною наша жаноцкая слабасць...»

Толік як бы пакрыўдзіўся ці адчуў нейкую няёмкасць, але ненадоўга. Разважліва і доўга гаварыў пра каханне. Не ўсё тое, што ён гаварыў, яна зразумела, але нейкія думкі засталіся: «Чалавек,— казаў ён,— не кожны, асаблі-

ва ў маладыя гады, пакутуе ад таго, што не можа справіцца з парываннямі свайго сэрца. Сэрца ж часта ідзе насуперак волі. Мы часта пакутуем ад таго, што паддаёмся хвіліннай страсці, ап'янелыя, забываемся на ўсё, абы задаволіць сваё жаданне...»

«Во, дык і ты, Толік, мусіць, такі ж самы,— прытворна крыўдзіцца Зіна, а самой так хочацца прыхінуцца да хлопца, але яна стрымлівае сябе і зноў становіцца насцярожана-халоднай. Памаўчаўшы, пераводзіць гаворку на жарт: — Ліпнеш во да мяне, як на які мёд. Не прыліпай, кажу табе!..»

Толік, аказваецца, умеў пагаварыць. Зіна слухала яго, бо ўсё гэта было для яе цікава, ёй як нанова адкрываўся свет, хаця і яна сёе-тое чытала і мела нейкія свае погляды на жыццё.

«Найвышэйшае шчасце,— казаў Толік, захапіўшыся сваімі развагамі,— дае чалавеку каханне. Яно, каханне, моцнае тады, калі ў душы кожнага адчуецца водгук сваіх душэўных струн. Патрэбна зліццё духу, пачуццяў, поглядаў і настрояў. Гэта новае, што нясе сёння каханне закаханым. Ды яшчэ сіла розуму і інтуіцыі, блізкасць ідэалаў, роднасць поглядаў...»

Чаму ж цяпер, у наш час, так часта каханне нетрывалае? Чаму гэтае чыстае пачуццё, дадзенае чалавеку прыродай, цяжэй захаваць, зберагчы?..

Зіна, задумваючыся аб сваім лёсе, прызнавалася сабе і Толіку, што яна — ахвяра легкадумнага кахання. Цяпер зноў нечакана на яе, як гром з яснага неба, абрынулася новая хваля. Яна адчула, што і Толік кінуўся, як у вір, забываўся на ўсё — ён яшчэ не зведаў таго, што дае закаханаму блізкасць з жанчынай. Усё гэта яму было вядома толькі з кніг ды з расказаў сябрукоў у мужчынскай кампаніі.

Спатканні з Зінаю ашаламілі яго, наваліўшыся так нечакана. Яму было добра з ёй, і ён поўнасцю аддаўся пад уладу свайго пачуцця. Нейкая сіла, невядомая і таемная, як шаптала яму: «Во — тваё шчасце. Зіна — твая зорка».

У той жа час Зіна, ацверазіўшыся ад учадзення, якое ахоплівала іх абаіх, пыталася ў сябе: «А што ж гэта такое? Каханне?.. А можа, часовае захапленне...»

Як і пасля першых сустрэч, Зіна аж трымцела ўся, калі ён танцаваў з ёю, калі быў блізка ля яе, калі сядзелі на лавачцы, і яе цягнула, як магнітам, да яго; калі ён цалаваў яе, ёй хацелася зліцца ў пацалунку, але яна стрымлівалася і пасля хваліла сябе за гэта. Магчыма, гэта

было чыста жаноцкае — даць магчымасць яму папакутаваць, і ён аж гарэў ад прадчування асалоды.

Яна чакала кожнага новага спаткання нецярпліва і пакутліва, як асмяглая, звялая на спёцы, расліна дажджу, каб ажыць і асвяжыцца. Яна верыла і не верыла Толіку, але кінула сябе ўсю насустрач невядомасці, якая ўзбурыла яе нечакана і, ашалелая ад шчасця, аддалася свайму лёсу. У тыя кароткія вечары і ночы і ён быў перапоўнены слодыччу шчасця, якое падаравала яна сваёй нерастрачанай сілай і маладосцю. Яна і дагэтуль была прыгожая, вабная, а цяпер як бы памаладзела. Яе вочы, бліскучыя ўвечары, як бы выпраменьвалі святло, а ад валасоў нібы струменілася гаючасць, якая проста п'яніла хлопца.

...Імгненна, як след бліскавіцы, праляцелі іх ліпеньскія вечары, поўныя ўзаемнага ап'янення ад шчасця, якое дае абаім каханне.

Аднойчы, калі яны сядзелі на лавачцы пад клёнам і слухалі далёкія ўсхліпы ліпеньскай ночы, Толік сказаў ёй, уздыхнуўшы і з нейкай бояззю ў голасе: «Заўтра ад'язджаем...»

Яна ўся аж скаланулася. «Я прыйду цябе праводзіць... На станцыю...»

Зіна прыйшла, а Толік крыху прыпазніўся. Ёй стала вельмі балюча і сорамна — яна тады сябе вельмі дакарала: «Вот табе і студэнцік...» Толік жа быў спакойны, нават прабачэння не папрасіў. І ёй кальнула ў сэрца трывога.

На развітанне Толік запытаў яе, Зінчын, адрас, а свайго не даў. Яна стала чакаць пісьма. Але пісьма не было. Ужо ўтравелі, патухлі кветкі на ўзмежках канавы, ля платоў, у гародчыках, пабіла першымі прымаразкамі пышнагаловыя вяргіні і ярка-чырвоныя мальвы.

Зіна, прыспаўшы Паўліка, самотная сядзела ля акна, перабірала ў памяці ўсё, што адбылося, а тады неяк сцішылася і задрамала. Прачнулася раптоўна, як ад нейкага ўнутранага штуршка — за акном мітусілася і біла крылцамі ў шкло жаўтагрудая лясная сінічка. «Мабыць, нейкая вестка будзе»,— падумала Зіна і ўспомніла Толікава: «Як цяжка ў юнацтве, ды і ў маладосці, разгадаць, каханне гэта ці звычайная закаханасць...»

Пад вечар вярнуўся з лесу бацька і падаў Зіне пісьмо. Дрыжачымі рукамі, ледзь не расплакаўшыся, Зіна распячатала яго, прабегла вачамі першыя радкі. Ясенінскімі радкамі Толік вітаў яе. «Ты жива еще, моя старушка? Жив и я. Привет тебе, привет!..»

...Зіна ішла той жа пратаптанай сцежкай, збоч канавы,

на станцыю, не заўважаючы, што няма ўжо тых кветак і чаду спелага ліпеня — аселіца дыхала халадком і першымі жнівеньскімі туманамі. Ды гэтых змен у прыродзе яна як бы не адчувала. Душа яе спявала. Настала яе зорная часіна. Зіна забярэ свае рэчы і назаўсёды развітаецца з Халадзінскімі. Яна верыць Толіку, што ён прыедзе, як і напісаў у лісце.

## ЛЮБАЧКІ

Усю ноч, мабыць, не аціхаў дождж, за акном як нехта вохкаў, плюхаўся. Па шкле паўзлі бураватыя пісягі. Марудліва, як нехаця, святлела. Кволячыся, бралася асенняя раніца. Праз акно віднелася чародка нізкіх аблокаў, што грувасціліся нізка, над самымі дахамі...

А ўчора было цёпла, сонечна. Мы ездзілі ў Маліннік, на ўгодкі нашай цёткі Прузынькі.

Летась, якраз на пачатку восені, ціхім вераснёўскім нядзельным днём, апоўдні, наша добрая, заўсёды ласкавая і прыветная цётка адышла. Той дзень і мы ў Малінніку памагалі вясковай радні выбіраць на сотках бульбу. Нашы гараджане, папалуднаваўшы, паспяшаліся на электрычку, а я крыху затрымаўся і ўжо на чыгуначным прыпынку пачуў сумную вестку: «Памерла ж ваша цётка Прузына».

Казалі, цётка Прузынька памерла вельмі лёгка — калыхала ў суседкі дзіця, і ёй нешта занядобрылася. Яна прыйшла дамоў, наказала меншаму ўнуку Сашку, каб абедалі без яе, а сама прылегла на ляжанцы, у запечку, і заціхла.

Маладыя прыйшлі з бульбянога поля на абед. Дачка Анця пачала ладкаваць на стол, паклікала маці да стала, а яна ўжо і нежывая.

— Яшчэ цёплая была,— абліваючыся слязамі, расказвала ўсім, хто быў на пахаванні, Анця, калі Прузыньку прыбралі і падрыхтавалі ў апошнюю дарогу.— Я і туды, я і сюды, а мамы ўжо і нямаш. Як жа гэта я, хаця б прыглядзела, хаця б я пачула ад яе апошняе слова...

Уся радня, без перабольшання, шкадавала нябожчыцу. Мы з Марыляй, як яшчэ па вайпе пажаніліся, бывала, калі прыедзем у Маліннік, спяшаемся да Прузынькі ў праведкі. Марыля мая, бывала, абавязкова вязе ёй з горада гасцінец — пачку пячэння ці жменьку цукерак, а як пабагацелі, то і абнову якую-небудзь. А ўжо цётка не ведала, дзе нас

і пасадзіць, і ўся аж свяцілася ад радасці. Хто я ёй — чужы чалавек, а сустракала, як роднага сына. І ўсё, бывала, руліцца: «Ну, як жа вы там, у тым горадзе, ці ладзіце? Як ты, Марылька? Як вы, Алеська?.. Хаця ўжо каб усё добра было... Каб хаця вайны не было... Як вы, Алеська, думаеце, не будзе ўжо вайны?.. Бо ў радзіве дужа часта пра вайну гавораць!..»

І ўсё мітусілася цётка Прузынька. Радая. Нейкая ўзрушана-прасветленая. Увішна тупала па хаце. Не дачакаўшыся, пакуль раскатурхаюцца дачка і зяць — маладыя гаспадары,— сама завіхалася і прыспешвала іх: «Аня, Цішка, хопіць ужо гаварыць... Садзіце гасцей... За сталом і пагаворыце». І да нас: «Любачкі ж вы мае, вы ж здарожыліся, сядайце, любачкі!..»

Гадоў дзесяць ужо, як цётка Прузынька была перахварэла — невялічкага росту, сухенькая, яна сагнулася і выдавала бы сярпок, але ўсё такая ж жвавая, рухавая, няглядзячы на тое, што хадзіла скурчыўшыся; вочы яе, некалі, відаць, самай чыстай нябеснай сінізны, свяціліся ласкаю. Мы ніколі не чулі, каб цётка Прузынька скардзілася на свае хваробы ці кволілася, што ёй нешта баліць ці нездаровіцца. Калі Марыля спытае, як здароўе, яна ўсміхнецца, і яе маленькі, увесь у зморшчынках, як васковы, тварык разгладжваецца, святлее, і цётка сваім мяккім голасам як не праспявае:

— А нічога, дзеткі, добрае здароўе, добрае... Дзякаваць богу... Жыццё цяпер настала хлебнае. І ўсім добра. І нам, старым, жыві ды не памірай!..

Яна не вохкала, не ўздыхала, не жалілася, як звычайна чуеш ад старых, на недалужнасць і хваробы, на старасць, на тое, што іх нечым пакрыўдзілі — увагай ці кавалкам хлеба. Кволая, не дужа здаровая ад маладых гадоў, цётка Прузына была надзіва цягавітая, завідлівая на працу, роўная і спакойная характарам, чулая да людзей, мужная ў сваім лёсе.

Ёй, расказваюць, не пашэнціла з маладосці. Яе Ладзіка забралі на фронт яшчэ ў тую, імперыялістычную, вайну з канём у абоз, і ён не вярнуўся. Засталася яна на гаспадарцы васемнаццацігадовай удавою з Анцечкай на руках.

Жыла на паўнадзеле, пры старым, нездалеючым свёкры, які неўзабаве памёр. Добра, што браты, іх было аж чацвёра — Архіп, Сідар, Тодар і Іван, яе не кінулі, а выручалі і вясною, калі самая сяўба, і ў жніво, калі кожны на сваёй паласе, як угарэлы, спяшаўся ўсё прыбраць і ўпарадкаваць у час — жылі ж усе тады са свае палоскі, са свайго

мазаля. Іванка, малодшы, аж млеў, убіваўся па Прузыньцы. Ужо і як ажаніўся і пайшлі свае дзеці, не цураўся сястры, не было таго дня, каб не ўспомніў сястру-ўдаву; калі якога кабанчыка агорае, спяшаецца з дзялкай да Прузынькі; калі ў яе карова запусціцца, выпраўляе сваю старэйшую дачку Вольку з гарлачыкам малака: «Занясі Прузыньцы, няхай абнашчыцца. У яе дзіця малое».

Жонка часам і касавурыцца, а ён, калі выпадзе вольная часіна, бяжыць у канец, на Зарэчча, дзе ў старой, яшчэ дзедавай, хаце жыла-бедавала з адзінай дачкой Прузынька,— то дрывец ёй расстараецца, прыпасе, то хлявушок падправіць. На тым і трымалася яе гаспадарка.

Перад гэтай вайною выцягнулася, набралася ў нявесты Анця, і маці задумалася аб яе лёсе. На Анцю пачаў заглядацца чырвоны камандзір, суседні хлопец Цішка Комлікавых. Цішка пасля звальнення з вайсковай службы ўладкаваўся ў школе фізруком. Напрадвесні згулялі вяселле, а летам грымнула вайна. Як некалі Прузынька, цяпер Анця сабрала свайго мужа ў дарогу, а сама звалілася як нежывая. Не наўме была ні работа, ні свет белы — чула сэрца, што і ў яе, пэўна, такая доля, як і матчына,— застанецца ўдавой-салдаткай. А надыходзіла самая пара жніва. Ды дзе там да таго жніва, калі нямецкія машынынастрашыдлы дзень і ноч грукочуць і людзі, што не паспелі выбрацца з Малінніка, пачуваюць сябе як самі не свае?

Прузынька пазірала, як убіваецца, абліваецца слязьмі дачка, і сама знібела, не магла даць сабе рады. Але неяк жа трэба жыць. Пачала гаварыць з Анцяй: «Пачакай, дачушка,— разважала, падвясельваючы і Анцю, і сябе самую.— Можа, яно неяк і абыдзецца, нашы прагоняць гэтых нелюдзяў-навалокаў. Дасць бог, і Цішка твой вернецца...

Яна, Прузынька, вельмі ўпадабала зяця. Дармо што бядняк, з галецкага роду. Ды чэсны, мяккі душою чалавек. У Цішкі было яшчэ тры браты і дзве сястры — засталіся сіротамі, а бацька, Міхаіл,— хворы, то дзеці і раслі без матчынай рукі, самапасам. Але дарма, жылі ўсе дружна, адно аднаго бераглі, шкадавалі; большы, Сяргей, для Цішкі як за бацьку — так яны, Комлікі, і выраслі ўсе, набралі сілы. Хлопцы сталі — на ўвесь Маліннік, ніхто благога слова не скажа!

Як прыстаў Цішка ў прымы да Прузыньчынай Анці, то ўсё-ўсё ўмеў рабіць. Дарма некаторыя пацвельваліся: «фізкультурнік — гультаю памочнік».

Не надта згаджаўся на гэтыя прымы Іван, Прузыньчын

брат, спачатку ўсё неяк бокам на Цішку пазіраў, на вяселлі быў пахмурны, усё нейк паныла круціў галавою. А калі Прузынька пацікавілася, чаму такі браток невясёлы, Іван і выказаў, што на душы сабралася: «Надта ж ён ужо кволы, малы ў росце».

— Малы залатнік, ды багацька! — усміхнулася Прузынька, і брат адпусціўся крыху, памякчэў.

Цішка хутка даказаў сваё. На двары парадак навёў: якія шаечкі ці бочачкі — агледзеў, перасыпаў, клёпку да клёпкі, як зліў, куды там твой бондар. Адным словам, Прузынька змікіціла: гаспадар ёсць у доме. А што ўжо дабрэнны трапіўся зяць, вельмі ўслужлівы. Благога слова ад Цішкі не пачуеш. Усё спакойна, ласкава, без фанабэрыі. Ды, апроч усяго, і граматны, дармо што фізкультурнік.

Для Анці лепшага і не трэба. Яна ж, лічы, вясковая дзяўчына, скончыла якіх пяць класаў і пайшла рабіць у калгас. Хутка па сяле пайшла пагалоска: працавітая дзяўчына. Замужжам сваім Анця даражыла і старалася быць добраю жонкай.

Расстанне з Цішкам выбіла Анцю з такой удала пачатай жыццёвай сцяжыны. Анця занудзілася, засумавала па Цішку, журылася па сваёй горкай долі. Зблажэла ў твары, не выходзіць на вуліцу, а ўсё плача і плача. «Я, кажа, нешчаслівая, як вы, мама. Вайна некалі ў вас адняла майго бацьку, а цяпер і мая во такая доля»,— і ў слёзы. А для Прузынькі — перажыванне; яна і сама перажывае, на сэрца як хто камень-валун ускаціў — шкада Цішку. Каб хаця здаравяк быў, як іншыя, як хаця б і браты ягоныя, а то так, хлапчанё, нягледзячы што ў гадах, а худоба, адзін нос ды вочы блішчаць, як валошкі сінія-сінія. Развітваўся нейк хутка, як спяшаючыся, а ёй, Прузыньцы, і руку пацалаваў. Ну, дай жа памяць, як яе Ладзік, калі гналі яго ў той абоз, тады забег да яе бацькі, да хлопцаў-шваграў і старому, цесцю, у руку пацалаваў. Такі ў яе, Прузынькі, і застаўся яе Ладзік у памяці — схіліўшыся ў паклоне, высокі, мажны ў плячах — мікалаеўскі салдат, яшчэ і салдацкай той апраткі не знасіў, вярнуўшыся са службы, а яго — зноў на вайну, у той пракляты абоз...

А цяпер з рэчмяшком за плячамі, ужо ў вайсковай апратцы, з рамянямі крыж-накрыж, Цішка заскочыў дамоў развітацца, і ёй, цешчы, руку пацалаваў, яшчэ сказаў: «Мама, глядзіце Анцю, не давайце ёй маркоціцца». Ведаў, небарака, што яна — хліпкая, за ўсё перажывае, а цяпер яшчэ, мусіць, і дзіцятка будзе. А як жа — усё перажыван-

не. Яна ж ведае, як адной, без бацькі, гадаваць дзяцей, без мужчынскай абароны...

Плакалі абедзве — і дачка, і маці. А жыць жа трэба. Жывы, як тая прыказка баіць, у магілу не палезеш. І восень ужо стукалася ў вароты. У Маліннік прыехаў з раёна немец-таўстун у вайсковым, казалі, нейкі Шнайдар, а людзі яго празвалі Цэбар, бо быў ён нізкі і пузаты, не раўнуючы, як цабэрак. Цэбар сабраў людзей на сход і сказаў: «Алес арбайтэн. Абшчына. Кальхоз нікс, абшчына — усім зямля будзет. Всё — для дойч зольдат. Алес арбайтэн!..»

Ужо і захаладалася — туманы сівыя, як трава-сівец, паплылі па-над Свіслаччу, усё поле паблякла, пашарэла, а жыта тое — сыплецца, на пні зярняты ацярушваюцца, а ячмяні рачком сталі; людзі жалі тую нераспелую ўжо збажыну, слязьмі паліваючы снапы, праклінаючы Гітлера, што напаў на нас, патрушчыў танкамі ды гарматамі жыта, парушыў жыццё, якое ўжо было наладжвалася ўсюды, па ўсёй нашай вольнай зямлі.

Жалі тое жыта, а думкі былі далёка, там, дзе фронт, дзе біліся нашы салдаты, дзе, відаць, быў і Цішка — увішны фізкультурнік. А гэта ўсё адно што і вайсковец, што справы салдат. А ён меў і камандзірскія нашыўкі — чырвоненькія трохкутнічкі, аж тры ў пятліцы. Гэта як некалі быў аддзялённы. Ладзік усё ёй, Прузыньцы, расказваў, як вярнуўся быў з тае, яшчэ царскай службы.

Поле палівалася слязьмі.

Сярпы валіліся з рук.

Плакалі людзі. Плакала і поле, прапахлае порахам і дымам...

Ужо бульбу выбралі на гародах, з дрэў пазляталі пажухлыя лісты, усеяліся і стрэхі хат, і вуліцы жаўтлявай іржою; людзі трохі звykліся з той жудой, якая на іх галовы звалілася нечакана, і пачалі як бы разважаць, абдумваць, што з імі зрабілі, як ім быць — жыць жа трэба, жывы пра жывое і думае, не можа не дбаць жывы чалавек пра сябе. На тое ён і чалавек, каб не апускаць рукі, калі цяжка, калі, здаецца, жыццё табе дае нечаканыя загадкі.

Іван цяпер зачасціў да сястры. Гэта былі ягоныя трывогі-разважанні, і яму, свайму брату, яна верыць, і дачку так настаўляе. Трэба, кажа, дзядзьку слухаць. Як дзядзька скажа, так і будзе. Ён — чалавек не абы-які, служыў на чыгунцы, старшы стрэлачнік, а цяпер дома, дастаў даведку ад урача, што ў яго — заразная хвароба і ён нікуды не пойдзе. Прузыньцы шапнуў: «Прыходзіў знаёмы, з-пад Шацка, сказаў: германца спынілі ля Масквы. Збіраюцца

нашыя з сілай. То і нам, каторыя ў тыле, не выпадае сядзець склаўшы рукі. Трэба нешта думаць...»

Яны разам бедавалі, шкадуючы Цішку. Як маглі, супакойвалі Анцю, баючыся, каб тая не захварэла ад жуды-скрухі.

— Што ж, не адзін ён такі, дастаецца ім усім, нашым салдатам-воінам,— казаў дзядзька Іван, усеўшыся на сваім любімым услончыку, ля комінка-пяколачка.— Цяпер усім гора. Вялікая бяда нахапілася на ўсіх людзей. А для салдата — двайная ношка. Яны, салдаты, за ўсю зямлю, за ўсю Айчыну адказ трымаюць. І недзе там, можа, у снягах пад Масквою, б'ецца з фашыстамі наш Цішка, Ціхан Міхайлавіч... Веру, што ён не схібіць, не паддасца звяругам-фашыстам!

— А можа, дзе ўжо ў палоне,— уставіла ненарокам Анця і заплакала: — Палонных жа вунь колькі, цэлыя натоўпы... Я штодня бягу на бальшак, выглядаю, усе вочы прагледзела, можа, гэтак і мой Цішка смягне недзе на дарозе, пад канвоем... Ох, божачка!..

— Кінь, дурніца, не ўбівайся,— ушчувае дачку Прузынька.— Усё нейк абыдзецца, усё будзе добра. Я ўчора ў Паланеі варажыла на картах — жывы твой Цішка, жывы!

...Неспадзеўкі, раптоўна расчыніліся дзверы, і на парозе з вінавата-разгубленым тварам стаў незнаёмы, малы ростам, з выгляду хлапчук-падлетак; твар увесь у шчэці, на ім — запэцканая, у латках ватоўка, на нагах нейкія атопкі ці галёшы, перацятыя вяроўчынай, лапленыя штаны. У руках — зрэбніца-торбачка. Такіх дахадзягаў, што сваім выглядам нагадвалі жабракоў, хадзіла ў тое лета і ўвосень безліч па хатах. Уранні, калі палілі ў печы, пад час сняданку, дзверы не зачыняліся. Толькі і чуеш, як раз за разам на парозе госць; просіць чаго-небудзь перакусіць. Не ганьбавалі і бульбінаю ці лустай хлеба. Гаспадыні звычайна варылі самы вялікі чыгун бульбы, пяклі праснакі з запасам на гасцей-палонных і акружэнцаў, яны бясконца брылі з хаты ў хату, перабіваючыся тым, што спагадлівы чалавек дасць. У тую жудасную восень у вёсках прывыклі да такіх гасцей, і калі чужы чалавек адчыняў дзверы, яго сустракалі дзе-небудзь, можа, і не надта ветла, але не крыўдзілі, не выпраўлялі з пустымі рукамі.

Іван, адказаўшы на прывітанне незнаёмага, запрасіў у хату і далей гаварыў з сястрой. Але Анця кумельгам, як спуджаная, падхапілася з ляжанкі, утрапёна завойкала, залямантавала:

— А вой-вой, гэта ж Цішка. А ёечкі, які ж ты страшны ды хілы...

А сама прыпала да грудзей мужа, ціха плакала.

Цішка, дрыготка абняўшы яе за плечы, маўчаў, як анямелы, у горле перасела нешта даўкае — не пракаўтнуць. Нарэшце ён, вызваліўшыся з Анціных рук, ступіў колькі крокаў па хаце, вінавата і збянтэжана падаў Івану руку.

— Добры дзень, дзядзька,— вымавіў ён пераселым, як не сваім голасам і асекся — не мог выціснуць з сябе ні слова.

— Добрага здароўя, хлопча, з прыбыццём цябе ў сваю хату,— загаварыў Іван неяк суха, як бы з нейкім дакорам.— Значыць, Цішка, адваяваўся?..

— Як бачыш, дзядзька Іван, адваяваўся,— як вінавата, плюскаў пачырванелымі ад доўгай хады вачамі Цішка.— Пад Дарагабужам... акружылі нас. Захапілі ў палон. Гналі сюды, у тыл, у лагер. Прыцемкам збег. Амаль месяц ішоў. Нацянькі, глухімі сцежкамі прабіраўся... Колькі разоў быў на волас ад смерці. Але, бачыш, жыць яшчэ трэба...

— Так, пляменнічак, трэба жыць,— уздыхнуў Іван...

Як на крылах, лятала і мітусілася па хаце Прузынька. Яе ахапіла нястрымная радасць: Цішка вярнуўся! Цяпер і гора не гора, калі ў такую цяжкую часіну мужчына, гаспадар у хаце.

— Во прыйшоў, дзякуй богу! — як птушка ля гнязда, шчабятала Прузынька.— Я ж казала, няйначай жа, наваражыла. Вой ды Паланея, вой ды варажбітка — угадала, як у ваду глядзела!

Ужо немаладая жанчына, што на сваіх плячах зведала ўсе павароты лёсу, яна, можа, нават хутчэй за Івана, які таксама нямала пажыў і пабачыў на сваім вяку, адчула ў радасці і трывогу — нялёгка будзе яму, актывісту і салдату, тут пад прымусам, але пакуль што радасць заглушыла тую трывогу — гэта ж з такой калатнечы, з такога перапуду выбраўся, выбавіўся чалавек — жывы застаўся, а гэта ўжо — шчасце!

Зіма прайшла ў цяжкім, як сон, аняменні, не жыццё было, і пекла пякельнае. І работа не супакойвала, усё валілася з рук. Цішка, як і трэба было чакаць, часта сустракаўся з дзядзькам Іванам, а той быў знаёмы з сакратаром райкома партыі Пракопам Рудчыкам, які цяпер жыў тайна ў знаёмых, перакідаўся па лясных хутарах, і меў ад яго сякія-такія навіны.

Збіраліся найчасцей у Прузыньчынай хаце. Прыходзіў сюды і Несцер Пятровіч, і Цішкаў брат, які не трапіў на фронт, бо меў інваліднасць. Усіх, вядома, турбавала адно: не за гарамі вясна, і з лесу хлопцы пададуць сігнал — трэба падмога, але без зброі які з цябе ваяка! Так Цішка і яго сваяк Несцер Пятровіч, настаўнік, што прыбіўся дадому з Бягомльшчыны, арганізаваліся ў невялікую падпольную групу. Падпольшчыкі наважылі ўліцца ў шэрагі партызан, каб біць ворага зброяй. Употай яны збіралі патроны і вінтоўкі, раіліся, як пайсці ў лес, каб не зачапілі сем'яў.

Нарэшце такі выпадак надарыўся. Аднойчы зімовым завейным днём партызаны нахапіліся ў Маліннік (тры кіламетры ад чыгункі) і заадно прыхапілі з сабой вясковых хлопцаў і мужчын.

Так Цішка Комлік апынуўся ў партызанах. Цяпер хата Прузынькі стала лічыцца ў Малінніку партызанскай, а гэта азначала, што ў любы момант акупанты маглі нахапіцца і забраць усё да ніткі, спаліць двор, а сям'ю знішчыць без аніякага суда, у сваёй жа хаце...

Заставалася адно — хавацца і быць заўсёды начаку. Прузынька з Анцяю (яна ўжо мелася абрадзіцца), пакуль льга было, хаваліся па суседзях, у дзядзькі Івана, у другім канцы вёскі, а пасля, як Іванаў сын-падлетак самахоць уцёк за Свіслач, да партызан, ім не стала ніякага ратунку. «Хоць кладзіся ды памірай»,— праклінала ўсё на свеце Прузынька. Як толькі дзень, так малінаўскія паліцаі — Курнаёў сынок і Варона, што прыстаў быў у прымы да аднае салдацкай брыкухі-жонкі,— не давалі праходу.

— Старая, кажы, дзе ваш Цішка? — настаўляючы рулю нямецкага карабіна, дапытваўся Курнай.— Не выкажаш — самую забяром, адправім у Зарэчанск, у камендатуру...

— Ды што з ёю цацкацца,— выскаляўся чорны, як цыган, Варона і цікаваў нахабнымі вачамі, каб дзе што схапіць у хаце.— Да сцянкі яе, старую качарэжку!..

Гэта было яшчэ не самае горшае. Напрадвесні, калі на чыгунцы, ля Свіслачы, за гародамі суседняй вёскі ўзарвалі вышку, у Маліннік нахапілася аблава — усе партызанскія двары ўзялі на прыцэл і першай з таго прырэчнага канца запалілі хату Прузынькі. Анці дома не было, а Прузыньку папярэдзіў сваяк Зміцер Корсік, які нечага быў каля рэчкі і ўгледзеў карнікаў, перадаў Прузыньцы, каб хавалася. Яна гародамі, пасля кустамі паспела ўцячы

на хутар, схавацца ў добрых людзей — было яшчэ снежна, і трымаліся марозы. Прузынька перакалацілася, калі Цішка сярод ночы, бывала, пастукае ў акно і з хлопцамі-партызанамі зойдзе дадому змяніць бялізну, пераабуецца ў сухія анучы, абагрэецца! Было і такое, што ён, Цішка, толькі забраўся на чэрань, каб адагрэць адубелыя ногі, бо ехалі доўга, у мяцеліцу, з адказнага задання, а ў хату заявіліся паліцаі — збіралі кажухі для сваіх ваякаў, што дубелі ў рускіх снягах, і ў Прузынькі як не выскачыла сэрца, яна, здаецца, ніколі такога страху за жыццё не мела, але ўсё нейк абышлося.

Жыццё — як дарога ў полі, то ўніз, то ўгору... Як скончылася тое ліхалецце, прыйшлі нашы і Цішка стаў працаваць у Мінску, былі радасныя хвіліны. Пакрысе наладжвалася жыццё. У Анці пасля Валерыка радзіўся яшчэ адзін сынок — Воўка, а праз гады два знайшоўся і трэці — Сашка. «Усё хлопцы нараджаюцца ў тваёй Анці,— казалі Прузыньцы суседкі.— Мусіць, быць яшчэ адной вайне...»

— Ат, хай яна, тая вайна, ідзе на сухі лес, на голае голле,— казала Прузынька, а сама часцяком і плакала — ціхенька, каб не чулі свае,— прывыкла ўласнае гора ці бяду перажываць сама, сваім одумам і развагамі.

Больш за ўсё на свеце пад старасць Прузынька любіла ўнукаў. Усіх траіх выпеставала, люляла на сваіх руках. Анця ж, вядома, дзень пры дні на рабоце ў калгасе — за тою работай свету белага не бачыла. Малліннік — гэта прыгарад, якіх сорак кіламетраў ад вялікага горада. Як не з кожнае хаты пасля вайны хто-небудзь пайшоў у горад. Многія, як і Цішка, жылі дома, у вёсцы, а кожнае раніцы, яшчэ на досвітку, спяшаліся на прыгарадны цягнік, каб паспець на змену. І снег, і холад, і паводка, а Свіслач разлівалася каля Малінніка шырока, амаль на вярсту ў якія вёсны, а ты ідзі, падымайся ні свет ні зара.

Не было такога выпадку, каб за тыя трыццаць гадоў, што ездзіў Цішка штодня на працу ў горад, не меў гарачага сняданку ці, як прыездзе дамоў, вячэры — у Прузынькі такое правіла: гаспадара глядзі лепей, як самое сябе, і гэтае матчына перадалося як дарагая спадчына Анці, калі тая ўзялася гаспадыняй.

Прузынька і ўнукаў гадавала. Калі ў школу пайшлі адзін за адным, выпраўляла не абы-як, а заўсёды ў торбачку, а пазней (калі пабагацелі), у партфелік пакладзе аладку са скваркамі ці лусту хлеба, яблычак — нельга ж, каб дзіця цярпела да паўдня на пусты жывот...

Для ўнукаў Прузынька жыла ўвесь час, усе гады, як яны — Валерка, Воўка і Сашка — на свет з'явіліся, у яе было нейкае асаблівае, можа, нават невядомае кожнай маці замілаванне. Сказаць, раслі яны ў яе, Прузынькі, на вачах — гэта тое, што нічога не сказаць, чым яны для яе былі. Клопат і турботы пра ўнукаў займалі ўсю яе, жанчыну, якая, мабыць, мела б сабе дзяцей столькі, колькі, як кажуць, даў бы ёй бог. Але такі ў яе, салдацкай удавы, лёс. Яна засталася з адным дзіцем на ўсё жыццё.

Для Прузынькі, кажуць, унукі — як падарунак лёсу, як падзяка за тое, што не мела для сябе ў маладосці.

Застанецца, мусіць, сакрэтам, калі Анця не ўсё зберагла ў памяці, як гэта Прузынька, бабуля, здолела выхаваць сваіх траіх унукаў такімі харошымі хлопцамі. Во яны — тры браты-здаравякі, адзін да аднаго, каржакаватыя, бялявыя — румянец на ўсю шчаку, сядзяць за сталом, на бабульчыных угодках. Задуманыя, горныя. А ў большага, Валеркі, вочы вільготныя, у слязах.

Праз год пасля таго, як Прузыньку, прыбраную, як на якое свята, у яе любімую зялёную хустку ў кветкі і цёмную сукенку, у новыя сандалікі, у чырвонай, прывезенай з горада труне адвезлі на могілкі, сабралася жалобнае застолле. Каржакаваты і загарэлы да чарнаты, ад гэтага выдаюць белізной валасы на скронях, дзядзька Сяргей, старэйшы з Комлікаў, прапанаваў ушанаваць памяць Ефрасінні мінутай маўчання. На ўгодках, як і на пахаванні Прузынькі, было застолле — ледзь не паўсяла.

Стол Анця і Цішка зрабілі багаты. Усяго, як кажуць, было навалам. Можа хто сказаць: канечне, восень. Увосень, кажа прымаўка, і беднота — кум багачу. Ды пры чым тут восень, калі на стале і шынка вэнджаная, і каўбаса дарагая — сухая, маскоўская, і сыр расійскі, духмяны, і памідорчыкі марынаваныя... Праўда, было і сваё, вясковае — аладкі, як пуховачкі, у смятане і маласольныя агурочкі, застудзіны, трыбушок і, вядома, духмяныя катлеты...

Настойка, па вясковай завядзёнцы, у старых, яшчэ, здаецца, даваеннага ўзору, графінах, простыя і прыдатныя келіхі — на пяцьдзесят грамаў.

Як ні кажыце, хаця ўжо нябожчыца і не можа крыўдаваць на тое, што яе не аплакваюць так, як шкадуюць чалавека, які дачасна адыходзіць, але відаць, якая ў гэтай хаце была ёй павага; не па абавязку дзяцей да сваіх бацькоў, а па шчырасці душэўнай, якая заўсёды жыве ў чалавеку і не прызнае фальшы, іменна за тое любяць і

помняць у гэтай хаце Прузыньку — маці, бабулю, цешчу, «любачку».

...З вулічнага боку, пузырачыся, сцякалі па шкле рудаватыя дажджавыя рáгі. Але ўсё далей кроплі чысцелі і ўрэшце сталі чыстыя, як з калодзежа, і ўгары, над камінамі, якія ўсё яшчэ дыміліся, святлела; кудысьці далёка за горад сплывалі з дажджом сівыя, як чорныя спадыспаду, хмары.

Дзень браўся быць светлым, на пагоду.

## КАЛОДЗЕЖ НА ЗДЗІЧЭЛЫМ ДВОРЫШЧЫ

На доўгай, выгінастай вуліцы Роўнага Поля гэтае старое здзічэлае дворышча зеўрае прагалай-шчарбінай, палавінячы вёску на дзве амаль што роўныя дзялкі. Усяго і засталося ад некалі дагледжанай і вясёлай сядзібы — з пяток пакалечаных яблынь, падапрэлая ў камлі і ўсохлая ў галінах слівіна і зусім здзічэлая груша-рагач. Яшчэ застаўся ўвогуле прыстойны паграбок, змудраваны з надта ж смярдзючых чыгуначных шпалаў, што некалі служылі свой век. Здзічэлая, закінутая сядзіба ўлетку аж буяе ад лапушыстага, у рост чалавека дзядоўніку і густой масляніста-тлустай крапівы. З-за непралазнага зарасніку амаль не відно калодзежа, прытуленага да суседскага плота, адно толькі бялее падноўлены каптурок з габляваных шалёвак і далёка blішчыць на лавачцы ацынкаваны цабэрак. Калодзеж зусім блізка ад вуліцы, але паўз яго наўскасяк па сотках пракладзена выслізганая, бы ток, сцяжына, якая не гуляе ні ўлетку, ні зімою.

Усе, хто спяшае на электрычку з Роўнага Поля ці з зарэчнага Прывалля, прастуюць гэтай сцяжынай, каб скараціць сабе шлях, а хто-кольвек і спыніцца, найчасцей, вядома, асвяжыцца вадой з гэтага нічыйнага калодзежа — вада ў ім сцюдзёная ва ўсякую пару года. Калодзеж глыбокі, метраў на дваццаць ці болей, і вада ў ім заўсёды халодная і вельмі смачная. Кажуць, скальная...

Людзі пажылыя, ды і моладзь, называюць гэты калодзеж Матрупіным, але падлеткі ўжо не ведаюць Матруны, бо яе ўжо няма даўно, можа, гадоў дзесяць ці болей. Маладыя не ведаюць, якое Матруна пражыла жыццё, як пакутавала яна і ў пару сваёй маладосці, якая прыйшла-

ся на ліхія гады вайны, і пасля, калі праз гэты калодзеж яна захварэла. Ляжала яна гадамі, пазірала з надворнага акна на свой калодзеж з болем і надзеяй. Ён, гэты калодзеж, як касой падкасіў яе, ён жа яе потым і выручаў, калі назусім адняліся ногі і Матруна лежма ляжала ў ложку, чакаючы, калі хто прыйдзе з вядром набраць вады, а тады, можа, успомніць і пра яе, пакутніцу...

Як і для ўсіх раўнапольцаў, тая вясна памятнага сорак пятага, калі на ўвесь свет прагучала вестка аб нашай вялікай перамозе, для Матруны была як вялікае свята. Здаровая, маладая — яна ў меру высокая, станістая, чорныя бровы на круглаватым чыстым твары падкоўкамі хвалявала і чаравала хлопцаў. На яе заглядаліся і свае, раўнапольскія, і чужыя, залёткі...

Гадоў колькі да вайны памёр заўчасна, а больш дакладна — загінуў ад рукі злосніка, яе бацька, а ў ліхалецце, у чорныя дні акупацыі, змаглася і маці. Матруна, лічы, засталася адна на бацькавым котлішчы. Старэйшыя сёстры жылі асобна, у сваіх сем'ях. Можа, таму, што жыла яна адна, і выбралі яе хату партызаны, наведваліся часцяком. Можа, Матруна і не значыцца ў спісах партызанскіх сувязных, але знаёмыя хлопцы і з Роўнага Поля, і з навакольных вёсак, што пайшлі пры акупантах у партызаны, смела спыняліся ў хаце Матруны і мелі тут хоць на якую гадзіну і цёплую печ, і кубак малака ці хаця якога яблычнага або малінавага ўзвару, наталяючы смагу і ратуючыся ад прастуды.

Думаеце, гэта было так звычайна і проста — падняцца сярод ночы, упусціць у хату незнаёмага чалавека і пры завешанай капцілцы згатаваць вячэру, даць прытулак. А хаця б і сваіх хлопцаў, з якімі во яшчэ нядаўна, у мірнае лета, і спявалі разам, і вадзілі карагоды на беразе роднай Свіслачы... За адзін такі начлег можна было атрымаць кулю.

Матруна асцерагалася, старанна завешвала вокны, капцілку тую ставіла на пяколачак, але ж агеньчык, мабыць, і пранікаў праз шыбіны. Яшчэ досвіткам Матруна, бывала, выйдзе на ганак пасыпаць чаго курам, а суседка ўжо кешкаецца ля калодзежа. І глядзіць неяк здзіўлена і таямніча: «Што гэта, Моця, гэтай ноччу нешта свяціліся ў тваёй хаце вокны?.. Нешта ж здарылася, мабыць?!.»

— Ат, нічога асобіннага,— аднеквалася Матруна.— Разбалеўся мне жывот, дык запаліла капцілку, адшукала буякоў ды пажавала трохі, і боль аціх, суняўся...

А ў самой пад сэрца кальнула — падумалася, каб ха-

ця не ўдала суседка. Кругом жа такое творыцца, што, не давядзі бог, за нішто можаш загінуць, як казяўка якая, абы толькі хто на цябе плявузгнуў. Ведала добра, што і ў Роўным Полі былі свае ненавіснікі і хіжакі. А там, у Дудзінску, у камендатуры не надта будуць разбірацца: у кутузку ды бізуноў колькі ўлезе дадуць — ды гэта яшчэ нішто! А найбольш у роў, на Аршаўку, і бывай, жытка! Ніхто не ўспомніць, ніхто не знойдзе нават і знаку таго, не тое што магілы... Такое было ў акупацыю жыццё.

Матруна перахвалюецца заўсёды, калі прыйдуць хлопцы. Але ж і не ўпусціць нельга — яны ж пакутуюць і мерзнуць на марозе і гібеюць у завеі. Не толькі за сябе.

Неяк жа ўсё тое мінулася, як праходзіць жудасны сон, і хата Матруны ацалела, і сама жывая-здаровая, радасна сустрэла вялікую, на ўвесь свет велічную Перамогу.

У тое ж лета да Матруны прыбіўся партызанік з атрада, дзе ваяваў і яе стрыечны брат Хведар Бладзікаў; яна прыняла яго спачатку проста на кватэру... Быў партызанік нейкі нецікавы, чарнамазенькі, чыста варанёнак, і ў росце Матруне па плячо. Але гэта нішто, усё ж мужчына ў хаце, гаспадыні апірышча. Ды бяда, што Яфімка Беленькі — так звалі прымака, відаць, з гарадскіх, да сялянскае працы не меў здатнасці ані. Адно што быў надта весяльчак і на гармоніку ўмеў іграць. І набытку ў Яфімкі было адно што баян у зацухмоленым мяшэчку. Мабыць, і ў партызанах ён з тым баянам ваяваў.

Як бы там ні было, а Матруна прыняла да сябе Яфіма Беленькага ў прымы. Жылі б яны, магчыма, у згодзе, бо абое былі памяркоўныя і давер мелі адно да аднаго. Магчыма, і жыццё ў Матруны пайшло б ладам з Яфімкам, каб не той выпадак, які адчужыў іх, а пасля і разлучыў назаўсёды.

Матруна лічыла, што віною ўсё той жа калодзеж, які пасля стаў і яе выратавальнікам на доўгія пакутніцкія гады.

Ад саменькага першага лета, калі пачалася вайна, калодзеж не чысціўся: заплылі, забіліся мулам і глеем тыя крынічкі, што жывілі яго, і вада стала ўжо зусім нясмачная, каламутная.

У вайну, у ліхалецце, было не да калодзежа, а галоўнае, абы ўратаваць сябе і жытло, бо побач была бойкая чыгунка — каляя пагрозліва серабрылася за агародамі. Калі пачалася «рэйкавая вайна», чыгуначны ўчастак Мінск — Асіповічы — Магілёў зрабіўся ўдарным месцам масавых партызанскіх налётаў.

Карацей кажучы, пра свой калодзеж Матруна ўспомніла, калі настала першая мірная вясна.

Яшчэ было халаднавата, але суха і сонечна, і Матруна загаварыла са сваім прымаком пра тое, што не шкодзіла б пачысціць студню.

— Фіма,— сказала неяк абачліва Матруна, ладкуючы сняданак,— трэба было б узяцца ды пачысціць калодзеж... Бо ўжо вада зусім нясмачная, нейкая як мылкая ўсё адно...

— Што ты, Моця! — замахаў пухлымі ручкамі Яфімка.— Які яшчэ ты хочаш, каб вада смак мела!.. Вада ну й вада, абы мокрая!..

Прысаджваючыся да стала, Яфімка пажартаваў:

— Моця, чуеш, я табе лепей кадрылю сыграю. Тую, чуеш, што ў партызанах любілі... Мяне за ўменне граць ледзь не на руках насілі. Нават на падрывы не пасылалі, шкадавалі вунь як!..

Матруна адхінула руку, якой хацеў абняць яе за крутое плячо Яфімка, і зажурана паглядзела, мабыць, упершыню, не на кватаранта — прымака: не, мусіць, не быць тут Яфімку за гаспадара.

У той жа дзень на Матрунін двор сабраліся суседзі, амаль усё адны старыя, на якіх была малая надзея, што нехта з іх палезе ў халодную студню.

— Што ж, мабыць, ужэ мне трэба ў калодзеж,— сказала Матруна, калі ваду ўжо вычарпалі вёдрамі і на дне засталася адна гушчэча — мокры глей і пясок.

— Мо я палезу,— памыляў вуснамі стары па прозвішчу Міхал Скрыпка.— Мо я маладзейшы?..

Думалі, гадалі, але так і не далі рады, хто з дзядоў спрытнейшы, каму з іх трэба ў балеі спусціцца на халоднае жвірыстае дно калодзежа.

— Ану вас, дзяды! — засмяялася Матруна.— Прывязвайце балейку. Палезу. Хіба я зломак? Даў бог здароўе — не скарджуся!..

У бахілах на босыя ногі Матруна шчыравала ў студні, і праз якую гадзіну-дзве пасачылася ў калодзеж зноў чысцюткая сцюдзёная вадзіца: піце на добрае здароўе, людзі!..

Была здаровая, моцная, як камялёк, Матруна. А праз колькі дзён зніякавела, пачалі ёй балець спачатку ногі, а пасля і рукі. І праз якія год-два занядужала. Ездзіла да дактароў і ў Дудзінск, і ў Чэрвень, а пасля і ў Мінск. Сказалі — поліартрыт і параілі класціся ў бальніцу, на стацыянарнае лячэнне. Далі пенсію.

Легчы ў бальніцу — няхітрая рэч. А як жа дом, у яе ж нейкая гаспадарка: куры, свінчо, карова. Хто будзе ўсё гэта ўпыняць? Каму патрэбен такі клопат?.. А Яфімка? Ён у тое ж лета лахі пад пахі, баян свой на плячо і знік!.. Праўда, наведваўся яшчэ раз. «Моця, а дзе мае тыя шмоткі?!» — спытаў пра свае абноскі і знік назаўсёды.

Прыязджалі дактары на дом, выпісалі лекі, раілі ехаць на курорт, нават сказалі, што пуцёўку будуць «выбіваць», але Матруна не пагадзілася, не паслухала нават роднай старэйшай сястры і суседзяў, якія абяцалі глядзець гаспадарку. Нават пажартавалі: «Хата не воўк, у лес не ўцячэ...»

А хвароба не адступала. Брала яе ў свае жорсткія абцугі. Матруна аднойчы, войкнуўшы, абсунулася на ложак і не здолела ўстаць. Пачалося жыццё сумнае, невясёлае. Так бы як і здаровая, і апетыт ёсць, а ногі як ватныя, не слухаюць. Паспрабавала ўстаць, але ўсю, да апошняй костачкі, працяў такі боль, што яна аж войкнула і доўга не магла апрытомнець, ачомацца.

Пачала крычаць, але ніхто не азваўся. Матруна заплакала наўзрыд, кусала губы: «Што ж гэта, няўжо так і давядзецца ляжаць? Не, лепей смерць!»

Прыйшла старэйшая сястра, паплакала, яшчэ больш разжалілася Матруна. Паразважаўшы, параіла: трэба ў дом інвалідаў.

«Не крыўдуй, сястрыца,— паплакаўшы, сказала старэйшая.— За столькі вёрст да цябе хадзіць не змагу. А табе трэба помач кажнадзённая...»

Мабыць, з год ці болей праляжала Матруна ў доме інвалідаў. Там і догляд быў, і лячэнне, але Матруна занудзілася і настаяла, каб вярнулі яе ў сваю хату.

Сваяк, сястрын муж, прывёз яе дамоў. На гэты раз назаўсёды. Яна больш нікуды не паехала. Ляжала ў сваёй хаце, прыкутая да ложка. У такім стане яна ўсё ж не скарылася, умудрылася жыць. Прыладзіла сабе да ложка стужкі, па іх сяк-так падцягвалася на руках, магла нешта рабіць. Рукі яе крыху слухаліся, і яна магла гатаваць сабе ежу і тады чакала, пакуль нехта зойдзе ў хату і паможа ёй паставіць чыгунок на пяколак... Ёй прыносілі і ваду, і харч, і гэтак яна жыла. Жыла яшчэ многа год.

Памерла Матруна нечакана, спакутаваная, змяніўшыся да непазнавальнасці. Апошнія дні яе былі асабліва балескія, пакутныя. Яна колькі дзён нічога не ўзяла ў рот.

Застаўся ў Роўным Полі яе след на яе сядзібе — калодзеж, за які яна заплаціла сваім маладым жыццём.

Сёння, бадай, мала хто помніць з маладых яе, цёмнавалосую прыгажуню Моцю-Матруну. Але не знікла ў Роўным Полі бацькава сядзіба, яе дворышча. І гэты калодзеж жыве, поіць людзей і ў летнюю спёку, і ў зімовую сцюжу сцюдзёнай, смачнай вадою. Здаецца, што гэта сама Моця-Матруна жыве ў сям'і раўнапольцаў і змагаецца за лепшае жыццё і шчасце.

...Калі я іду міма Матрунінага дворышча, абавязкова спынюся, набяру з ацынкаванага цабэрка вады, праганю дарожную смагу і падумаю, што такія людзі, як Моця-Матруна, пражыўшы адпушчанае, застаюцца ў бруі крыніц, у квецені красак, у пошуме жыта...

## ВЯЧЭРНІЯ ЗОРЫ

Уладарна раскашуецца, красуе лета. Бы з сяўні, весялун-чэрвень рассыпаў краскі на балацяных лужках; яркай, жывой зелянінай шумяць сады.

Пакуль не заявіліся пастухі, даяркі ў старанна вымытых халатах завіхаюцца, весела грымяць даёнкамі. Шчыруюць суседка перад суседкай.

З самага рання моцна прыпякае, а ў кароўніку прахалода. Устоеная за ноч цішыня то там, то тут парушаецца нязлосна-рэзкімі і ласкава-сцішанымі вокрыкамі даярак ды звонка-пералівістым цырканнем струменьчыкаў малака.

Арына, невялікага росту, у белай, глыбока насунутай на твар хусцінцы, з поўнай даёнкай скоранька тупае да бітонаў, дзе мажны чырванатвары ўчотчык спакваля запісвае ў сшытак надоенае малако. Спакойная і засяроджаная, яна злівае сырадой і, трохі перадыхнуўшы, прастуе назад, у кароўнік. А за яе спіною чуваць: «Авой, Арына, ты як нейкая чараўніца — твае каровы, пэўна, і сянні дадуць уга колькі!..»

Арына ўспамінае даўнейшыя прымаўкі, якіх яе бацька ведаў дужа багата: «Малако ў каровы на языку», «Калі ёсць гной, то будзе і лой»...

Але Арына не ўмее гэтак лёгка і трапна гаварыць. Не такі ў яе характар — ціхоня. Відаць, удалася ў матку. Меншая сястра Дуня, тая не змоўчыць, калі што якое, сцебане ў вочы. І ёй, Арыне, выгаворвае, упікае за нясмеласць: «Ты, сястра, не давай ім патачкі. Не маўчы, а

то ёсць і такія, нізавошта зняславяць, асудзяць, абгаво-рацъ...»

Цыркае і цыркае пругкі струменьчык у даёнку. А думкі плывуць, абганяючы адна адну — з даляў памяці выплываюць карціны-ўспаміны, і яркія, вясёлыя, і змрочныя, турботныя — усё перажытае. І гадоў ужо багата. Рэдка хто ёй скажа: «Цётка Арына», а моладзь, тая — часцей: «Бабуся, баба». Каб раней, дык пажартавала б: «Якая я табе баба, ці я ў цябе дзяцей бабіла?» Арына, як і Дуня, незамужняя. Можна сказаць, звекавала ў дзеўках. А чаму, каб спытаў хто? Мо таму, што жыццё ім, сіротам, такое выпала.

Арына была яшчэ дзяўчынкай, як памерла маці. Малодшы брат з'ехаў некуды на шахты, дык аж праз дваццаць гадоў аказаўся, перад гэтай вайною ўжо, і бацька — стары Дзямід — вельмі перажываў сынаву зацятасць. Ад людзей было сорамна: казалі, што адцураўся Дзяміда сын. А як гэткае бацьку перанесці?..

Падлеткам Арына стала працаваць на ферме. Спачатку была цялятніцай, а прызвычаілася — узялася даглядаць і даіць кароў. Каму ж пайсці на тую ферму, як не Арыне Дзямідавай? Ціхая, рахманая, з прыхаванай журботнай усмешкай на заўсёды заклапочаным твары. Апраналася сціпла, але ва ўсё чыстае. У шэрых, дачасна атуленых зморшчынкамі вачах застаялася, праменячыся, нейкая асаблівая ласкавасць. І паходка ў Арыны лёгкая. Ніхто не чуў, каб яна з кім пасварылася, на каго павысіла голас, каму выгаварыла...

Ціхоня, кожнаму змоўчыць, саступіць, не стане на дарозе.

Што праўда, то праўда, і ў хаце ў Дзямідавых цішыня, ніколі не сварыліся сёстры. З малодшаю, Дуняй, Арына ўмела ладзіць, наказвала меншай, як з людзьмі жыць: вучыла цярплівасці і абыходлівасці з людзьмі.

Арына, можа, звекавала б, не выязджаючы далёка з вёскі, каб не вайна. У тое горкае ваеннае лета, у ліпеньскую сушу, фашысты прыпёрліся да Сожа, і з раёна прыйшоў загад: усю калгасную жывёлу адправіць у тыл. З суседкай — дзяўчынай Хрысцінай і з дзядзькам Самусём Арына па незнаёмых бранскіх дарогах пагнала кароў на ўсход. Гулі, кружыліся з чорнымі крыжамі самалёты, вухкалі гарматы. А яны, учарнелыя і асмяглыя, гналі статак і тыдзень, і другі. Калі Самусь кінуў іх і цішком збег, засталіся дзяўчаты адны са статкам на ўзлессі. Паплакалі трохі, паўсхліпвалі ды рушылі далей. А што зробіш? Вя-

дома, цяжка і страшна было, але каровак прыгналі аж за Арол. Атрымалі даведку, што здалі, і пакіраваліся дадому. Насустрач сунулася вайна — фашысцкія грузавікі, танкі, матацыклы... На ўсю глотку гергеталі чужакі-салдаты.

— Цяжкая была дарога? — пытаўся пасля ў дзяўчат хто-небудзь з вяскоўцаў.

— Анягож,— казала Арына і, уздыхнуўшы,ківала галавою, дзівілася: — Столькі вёрст прайшоўшы, можна было і асмягнуць, не тое што... Сядзеш аддыхацца, дык як амярцвелы...

А якое жыццё было тады, пры акупантах? Ці які нарад, ці што яшчэ — Арына і Дуня, ідзіце. Бо што якое, то староста і коле ў вочы: «Скаціну, актывісткі, сагналі на той бок, да Саветаў». Мажа, праз тое пякельнае жыццё Дзямід і памёр, без пары сышоў у магілу. Не раз жа цягалі на допыт у валасную ўправу. Казалі: за непакорнасць.

Засталіся Дзямідавы дочкі адны. Невялікую спадчыну пакінуў ім бацька — маленькую хатку ды невялічкі, але дагледжаны садок. Недарма кажуць: ніхто не бача, калі сірата плача, а кожны бача, як сірата скача.

Бывала, у Дзямідавых яблыкі ў садку наліваюцца, то і сусед мякчэе, часцей з імі загаворыць. А іншы раз і паслугу сваю прапануе. Скажам, касу паможа накляпаць і асадзіць, плуга пазычыць: у яго, суседа, і плужок таксама трымаецца ў схованцы. Гарачай парою, увесну, калі дарагая кожная хвіліна, і запрашэнне дасць: «Дзеўкі, сянні ў мяне абсеўкі, прыходзьце, частунак добры будзе». А пакуль той абед, то трэба вунь як пазавіхацца, намэнчыцца на тых абсеўках.

Калі ж не дагодзіш, то сусед-зычлівец можа і аблаяць, і асудзіць. Нідзе не дзенешся: сусед — самая блізкая радня.

Дзяўчаты сабе і лапці плялі, і на кроснах ткалі, і аборы вілі — усю работу ў хаце ўласнымі рукамі ўпынялі. І жорны былі свае ў іх, а крупы яшчэ ў дзедавай ступе абтаўкалі — смачнейшая крупеня ці была ў каго, як не ў Арыны Дзямідавай.

Калі праз два гады ўвосень ва ўсходнія раёны прыйшлі нашы і ў калгасе ўсё трэба было нажываць зноў — абжываліся з першага калка, з асміны таго ячменю, які пазычала дзяржава. Яго прыносілі на плячах аж за пяцьдзесят вёрст, са станцыі Камунары — коней жа ўсіх звяла вайна.

Мінулае, пражытае назаўсёды з табою, знібіць уну-

тры, як асколак які. Не забыла, як у першыя ж дні вызвалення перапісвалі жыхароў — рабілася нанова так званая «шнуравая кніга».

— З якога цябе, Арына, запісаць года? — спытаў яе інвалід, уставіўшыся адным вокам на гаспадыню.

— Мне ўжо, здаецца, трыццаць пяты,— густа зачырванелася Арына.

— Хіба што етак? — ухмыльнуўся ён.— Дзеўка ж...

Арыну падмаладзілі аж на тры гады.

А потым прыехаў начальнік з раёна. Сказаў, што людзі патрэбны на шахты ў Данбасе. Запытаўся, хто больш падыходзіць. Дзяўчат трэба было — хоць бы пяцёра...

— Арыну Дзямідаву,— параіў сусед.— Каго ж яшчэ...

Праўда, Арына неўзабаве вярнулася, недзе з-пад Харкава. Шахты абышліся і без іх, дзяўчат. Работы і дома хапіла. Усім кабетам і дзяўчатам давялося брацца за плуг і барану. На каровах аралі і баранавалі.

— А жылі мы бедна,— успамінае Арына.— Дзіва што: і надзець не было чаго ні ў будзень, ні ў свята. Бывала, суседка мая, Ганначка, пытаецца: «Чаго ета ты, Арына, так ходзіш? Нада ж так абшарпацца, што й латкі няма дзе прышыць...» Ай, праўда, абнасіліся былі тады ўсе. Нічога ж не было ані ў краме, ані на рынку. Усе насілі свае работы — зграбніца ды палатняная адзежа. І святочная, і абыходная,— усё на целе з лёну... Усе етак жылі,— як бы апраўдваецца перад кім Арына.— А йдзе я магла тады зарабіць?

— Цётка Арына, вы нейкая сянні вясёлая, як уся з ласкі сатканая? — не хаваючы зайздрасці, сказала даярка Маша. Тая даўно робіць даяркай, хоць па гадах многа маладзейшая за Арыну. Доўгія гады хадзіла ў перадавіках. Неўпрыкмет яе абагналі іншыя. І Арыну-пенсіянерку сталі часцей называць як лепшую — раяць прыклад з яе браць, бо Арына ўсё робіць з душой, сумленна, не вытыкаючыся наперад, не патрабуючы для сябе нічога ўзамен.

Неяк той яшчэ старшыня Фурсік (ён цяпер недзе ў саўгасе аграномам) пабыў на ферме і глядзеў у даярак посуд, то многім давялося чырванець. А Арыну пахваліў. У яе і даёнка аж блішчыць, як новая, і цадзілачка — беленькая, бы той сняжок.

Той-сёй, вядома, пакрыўдзіўся. Асабліва маладзейшыя. Усю дарогу ад Забалоцця — там ферма — зіркалі на Арыну. Маша дык не стрымалася, каб не ўпікнуць.

— Нешта Фурс надта хваліць вас, цётка Арына, ці не задужа ўжо... З чаго б ета такая вам павага?..

І зарагатала.

— Ат, адкасніся ты! — не стрымалася Арына.— Чаго ты лезеш, як зала́ ў вочы!

Нельга няпраўдаю жыць. Нельга хавацца за спіны іншых. Ды прамаўчала. Падумала: «Каб ета на мяне, дык я ад сораму згарэла б, а яна — хоць бы што...»

Ішлі моўчкі, наструненыя, як чужыя. Спрэчка, якая магла ўспыхнуць, разгарэцца, памалу аціхала.

Некалі, вельмі даўно ўжо, адразу пасля вайны, з кароўніка вывозілі гной. Коні той вясною былі вельмі схудне-лыя, але возчыкі на гэта не зважалі: ім абы больш накласці.

— Не магу я глядзець, як некаторыя здзекуюцца з жывёліны,— не стрымалася Арына, падышла ад аднаго нядбайніка і як не закрычала: — На́што ета ты, акаяннік, каня абяссільваеш етым возам, ці не мог ты за два разы прывезці?..

— Не тваё дзела! — агрызнуўся возчык і кінуўся быў на Арыну з пугаўём. Але ўсе гамузам закрычалі, і возчык аціх, згроб сена, шпурнуў пад ногі каню.

...На лавачцы, пад любімай грушай-дзічкай, што аздабляе дворык, прысела Арына пасля вячэрняй дойкі, сцішылася; на каленях загарэлыя, у густа сплеценых венах рукі — ныюць прывычнай стомай; на твары — спакой і лагоднасць — у ахвоту напрацавалася. Над хатамі з Забалоцця нячутна крадуцца густыя летнія прыцемкі, і сюды, у Арынін садок, ад загумення даносіцца папіскванне перапёлкі. Неўзабаве ўжо запалавее жыта. Жаць пара!..

Думае Арына. Але не пра тое, што набліжаецца старасць. Яе радуе, што цяпер з пастухамі няма тых сварак і спрэчак, як бывала некалі, пасля вайны. Пастухі рупяцца, каб каровы поўнае вымя прынеслі, бо і пастухам плата — ад малака. І паша ўжо інакшая — канюшына з цімафееўкай, лубін кармавы, кукуруза. Малако кожны дзень прыбывае.

Як на Арынін розум, дык і лугавыя травы скормліваць трэба ўмела, па-гаспадарску. Пастухі маладыя і, можа, не ўсё ведаюць пра галоўныя травы. Аўсяніца ёсць — трава такая. Яшчэ называюць яе аўсюг, аўсянік. Яе любяць каровы. Добра пасвіць каровы і на аўсянні. У аўсянні многа травы. Аўсянне надта ж наежнае.

Яе, Арыну, часам упікаюць, як, скажам, тая Маша ці суседка Анюта: «Нашто табе так высільвацца, цётка Арына? Ты ж добрую пенсію маеш. Хата ў цябе, лічы, новая яшчэ, садок пладавіты, карова свая, свінчо. Можа, ужо

для Дуні, сястры меншай, стараешся? А можа, хочаш медаля яшчэ аднаго зарабіць?..»

«Эх, Анюта, Анюта,— сама сабе паківала яшчэ не пасівелай галавою Арына.— Не разумееш ты маёй натуры і, відаць, не зразумееш ніколі. Каровак я сваіх люблю. Я ж іх выпаіла, выпеставала з рук. А яны ў мяне вунь якія ласкавыя, харошыя. Як падумаю, што прыйдзецца расстацца, то не знаю, сэрца шчыміць!»

Ёй, Арыне, на старасці давядзецца перавучвацца: на ферму, сказаў малады заатэхнік, прыбыло новае абсталяванне і ў Стайках пераходзяць на механічнае даенне. «А мне б і так добра, у мяне рукі не баляцьніколечкі. Ды нічога, маладым абы лепей было...»

...Над хатамі, на сцямнелым, як падсіненым, небе, высыпалі, заіскрыліся вячэрнія зоры.

## БУНТ У БІРУЛЯХ

На маёй Краснапольшчыне ёсць старая вёска Бірулі, якая мяжуе з бранскімі сёламі — Кібіршчынай, Перагонаўкай, Латакамі, Чыграямі... У Бірулях некалі былі крывыя, увосень і ўвесну гразкія вулачкі, хаты цесна стуленыя; на гародах адрыны, гумны... Праз вёску праклала сабе шлях звілістая і бруістая ад крыніц рэчка з ракітамі і кучаравымі лазнякамі па мурожных берагах. Ад колішніх Біруляў цяпер засталося толькі, можа, дзесятка паўтара хат. У дваццатыя гады некаторыя бірулёўцы, выбаўляючыся ад беззямелля, перасяліліся на хутары, а хтокольвек падаўся з абжытага кута ў свет на вольныя землі. Вакол Біруляў узніклі новыя паселішчы — Вяшняцкія, Сярэдні, Гароднае...

Людзі, што пасля гэтай вайны засталіся ў Бірулях, адбудаваліся, жывуць у новых дамах. На ўскраіне будынак пачатковай школы.

Каржакаватыя яблыні, грушы, адзінокія бярозы, ліпы і рабіны — знак таго, што будаваліся на старых котлішчах. Усё тая ж Свініца-рачулка віецца агародамі, між лугавін і крутаяраў.

З Біруляў, з пагорка, далёка відаць купчастыя ліпы і вербы ў вёсцы Горы, дзе раней быў маёнтак. А ў нізіне, цяпер цэнтры ўзбуйненага калгаса, чырвоная камяніца — былы панскі бровар, які мясцовыя жыхары называюць вінакурняй, а старыя яшчэ інакш, па-свойму — піпа.

Гэта, мусіць, ад слова «піпка». Комін бровара некалі ўвесь час дыміўся...

Камяніца ўрасла ў зямлю, частку яе сяляне пасля вайны разабралі, а ў той палавіне, што ацалела, цяпер сельмаг. Зарослая ўлетку дзядоўнікам і бадылём, камяніца здаецца нейкім дзіўным прывідам, а зімою сваёй чырванню ажыўляе вясковы краявід.

Калі я бываю ў Бірулях, іду міма гэтай камяніцы, то нагадваю далёкую гісторыю, сведкам якой даўно ўжо, больш як паўстагоддзя, былі гэтыя маўклівыя чырвоныя муры. Мне яе расказвала маці.

Рэха падзей 1905 года, што пачаліся ў Піцеры, данеслася да самых глухіх закуткаў царскай імперыі. У родныя хаты з клункамі за плячыма вярталіся шахцёры — тутэйшыя сяляне, якіх загнала ў руднікі галеча. У клунках і хатульках яны прыносілі падарункі маткам і жонкам, а ў галовах — рэвалюцыйныя думкі.

У Бірулях быў шынок, дзе па вечарах збіраліся прыезджыя шахцёры, за чаркай манаполькі ціха і таемна дзяліліся неспакойнымі думкамі. Завадатарам у іх быў Андрэй Кабанёнак, здаравяка, плечы — сажань ушыркі. Ён быў ужо жанаты, хоць і малады, меў траіх дзяцей. Кабанёнкі жылі вельмі бедна, хата стаяла куранём, па вокны ўрасла ў зямлю, нават кароўкі сваёй не мелі.

Андрэй, казалі, пагаварыць умеў з сябрукамі. Бывала, збяруцца хлопцы-шахцёры, часцей Панас Міхалькоў, Якаў Усянок, Мікіта Гурскі. І сядзяць у шынку аж да глыбокай ночы, пакуль у газоўцы стае газы...

Каб хто прыслухаўся, пра што яны гаварылі, то пачуў бы, што яны рашыліся на нешта важнае і рызыкоўнае.

«Разаб'ём піпу,— гаварыў хлопцам Андрэй, які быў у таварышаў як бы за атамана.— Галоўнае — пачаць, а людзі падхопяць. Народ наш бедны і прыгнечаны, ненавідзіць Стошу-крывасмока. Ударым па маёнтку!..»

«Ударым»,— згаджаліся яго таварышы.

Насталі цёплыя дні. Блізілася вясна. Але яшчэ снег трымаўся моцна, уранні ціснулі маразы. Нейк марозным ранкам па вёсцы пранеслася: «Піпу забастоўшчыкі разбілі...»

Мужчыны, жанчыны, падлеткі з Біруляў пабеглі ў маёнтак. А сёй-той, найбольш смелы і рызыкоўны, запрогканя ў санкі: можа, што ямчэйшае з маёнтка ўдасца ўхапіць...

Неўзабаве бірулёўцы вярталіся дадому з дабром: адны везлі на вазах сена, другія набралі сухіх дроў-аблетнікаў

з паленніцы; жанчыны неслі сувоі палатна, палойкі кужалю...

Яшчэ расказвалі, як забастоўшчыкі пайшлі ў маёнтак пана Стошы. Яны хацелі, вядома, Стошу прыстукнуць. Але яго дома не засталі, аказаўся, гад, шчаслівы на той раз.

У спальні захапілі Стошыху. Дручкамі ўдарылі па вокнах — дзынкнула шкло, пасыпаліся шыбы. Трэснула, упала на падлогу рама.

— Што робіцца? — падхапілася ўтрапёная пані.— Ёсць аканом. Дасць вам тлумачэнне...

— Не трэба ваша тлумачэнне,— бліснуў шалёнымі вачамі Андрэй-атаман і да сваіх хлопцаў: — Братцы, а няхай жа пані сваімі белымі ручкамі свінням сняданак падрыхтуе.

Яе падхапілі і — да свінарніка. Умомант паявілася карыта. Пры ўсіх дваровых і пад рогат паўстанцаў-шахцёраў перапалоханая пані пэцкаецца, дрыжачымі рукамі перацірае бульбу-паранку...

Затым падахвочаныя шахцёрамі людзі з дручкамі і віламі кінуліся да свірна, расчынілі дзверы, пачалі выкідваць мяхі са збожжам.

— Чырвонага пеўня пад страху! — крыкнуў Андрэй-атаман, але дварня залямантавала, пані паваліліся ў ногі, пачала хрысціцца.

Мужчыны падхапілі Андрэя пад пашкі, павялі да бровара, дзе ўжо кіпела народная ярасць.

...А праз дзень у Бірулі наехалі драгуны з шашкамі «нагала». У руках — бізуны. Драгуны ўехалі з Кібіршчанскай дарогі, а з-за рэчкі ім насустрач выбег сівабароды стары — бацька Якава Гурскага, аднаго з зачыншчыкаў бунту, грукаў палкай у вокны, склікаў суседзяў:

— Чаго сядзіцё, ёлупні! Бярыце вілы і качэргі. Не ўпусцім у вёску супастатаў!..

Падбег стараста Ларывон Дзядок, схапіў загрудкі старога і ўпіхнуў у бліжэйшую хату.

Засвісталі бізуны, блеснулі на зыркім сонцы казацкія шаблі. Драгуны занялі ўсе канцы вёскі, сабралі мужчын на пляцы.

— Дзе падбухторшчыкі? — падступіў вусаты афіцэр да старасты, наязджаючы на яго канём: — Выдайце бунтаўшчыкоў, бо самі паплоціцеся...

— У нас іх няма,— упаў на калені стараста, выпусціў ад страху з рук шапку-кучомку.— Гэта не мы... Богам клянуся, што іх у нас няма!..

З-за спіны старасты высунуўся рыжабароды мужычок, загаварыў смела, але пачціва:

— Паны, за што мы будзем цярпець, калі мы нічога не бралі?..

— Узяць яго! — скамандаваў афіцэр.— Гэта і ёсць самы галоўны зачыншчык!..

Мужычок шмыгнуў у натоўп, сігануўшы, як заяц, на агароды, знік за гумнамі.

Драгуны схапілі першага, хто трапіў ім пад руку з натоўпу. Гэта быў ужо немалады ціхманы мужык Ладымер Карэцін. Ён не быў у маёнтку, нічога не браў, то надта не спяшаўся ўцякаць. Ды ўсё роўна яго схапілі.

— Ваша воля, паны! — паспеў крыкнуць Ладымер, і тут на яго навaліліся два казакі, павалілі на снег. Засвісталі бізуны; афіцэр, назіраючы экзекуцыю, прагаварыў з ухмылкай:

— Наша не воля, а наша ўласць!..

Драгуны запалілі гумно старасты. Тады пайшлі па хатах. Не мінулі, вядома, Андрэя, Міколы, Панаса і Якава. Перапаролі ўсё штыкамі, але нічога не знайшлі — іх бацькі нічога панскага не бралі. Не знайшлі і таго дабра, што мужыкі прыхапілі з маёнтка.

Самі ж завадатары ўцяклі своечасова, схаваліся ў зарэчных стагах, пажылі тайна крыху ў Кібіршчыне, а пазней з'ехалі ў Сібір, а можа, зноў на шахты.

У тыя гады ў Бірулі часта наведваўся сам валасны прыстаў. Усё да нечага прынюхваўся, вывіжоўваў, мусіць, хацеў дазнацца пра завадатараў, якія падбілі вясковых людзей на той самы бунт. Але бірулеўцы, што разам з усім людам Расіі ўзняліся супраць прыгнятальнікаў, нікога не выдалі. Іх бунтарная душа не магла змірыцца з бяспраўем, чакала больш зручнага моманту, каб зноў узняцца на змаганне.

## МАРФАЧКА

Людзі ў гадах, такія, як яна, называюць яе памяншальна-ласкавым імем — Марфачка. Дык і драбяза, падшыванцы, што гадзяцца Марфачцы ўнукамі, туды ж: «Марфачка, гэта ваш Міша ўвечары сігналіў на ўсё сяло? Па дарозе ў магазін заглянуў ці «левака» падчапіў?..»

— Ат, балабоны, ну вас к чорту. Вам абы пасмяяцца,—

без ценю крыўды адмахнецца ад назолаў Марфачка і бордзенька ступае сваёй дарогай.

Паходка ў Марфачкі лёгкая, плаўная. Калі здалёк глядзець, то падумаеш, што гэта маладая кабеціна. Крок у яе прыгожы, роўны; яна як бы нешта нясе на сваёй круглай галаве ў вянку валасоў, якія прыхапіў іней на скронях. І ўся Марфачка зграбная, невялікага росту, хаця ўжо і ў меру паўнаватая.

Яна як бы заўсёды куды спяшаецца. Во і цяпер стрэчнай суседцы дае кароткае «добрае здароўечка» і хуценька перабірае кароткімі нагамі ў бурках, аж пакалыхваецца яе беленькі, яшчэ сваёй работы фартушок; на ім вышытыя чырвоныя пеўнікі, выдае, бы ганяюцца адзін за другім, і глядзі, што ўхопяцца за чубкі...

Ужо ля канцавой хаты вуліцу амаль што была перайшла ёй з парожнім вядром Гапка, жанчына амаль такога ж веку, як і Марфачка. Згледзеўшы Марфачку, стала, бы ўкапаная, чакала, пакуль пройдзе тая.

Гапка — адзінокая, жыве даўно адна; грубаватая, заўсёды крыклівая, можа, ад таго, што ніколі не была замужам.

Марфачка ведала, што Гапка не надта кінецца ў размовы, і наважыла была прайсці міма, бо тая часам, пад благі настрой, можа і плявузгнуць такое, што сораму не абярэшся. Некалі Гапка, як была дзяўчынай, грымела на ўсю ваколіцу; без яе не абыходзілася ні адно гульбішча, ні адна вечарынка. Ходзіць яна ў клуб і цяпер, але ўжо зашыецца дзе-небудзь у куток і ціхенька пацягвае ў парэпаны кулак цыгарку. Праўда, бываюць выпадкі, калі Гапка, не стрымаўшыся, выгукае: «Гэй вы, шалахвосты, ціха!» Гэта, калі ўжо хлопцы прыйдуць «пад добрым градусам» і пачынаюць занадта ўжо дурэць. Звычайна ж Гапка ціхая і нейкая маўклівая.

— Што, можа, ужо на Бірулі лыжы навастрыла? — неахвотна, як бы з прымусам усміхнулася Гапка, даючы дарогу Марфачцы, і непрыкметна схавала вядро за спіну.

— Так, мая ты таечка, у Бірулі,— прывіталася Марфачка і пачала ўвішна страсаць з хусткі сняжынкі, што кружыліся над ёю роем і ўсцілалі мяккай ватаю вуліцу і ўсю Марфачку, хутаную ў цёплы кажушок і пярэстую, з доўгімі махрамі хустку. Марфачка раптам захацела спыніцца і даць волю свайму настрою, у ахвоту нагаварыцца. Яна, як бы гарохам, дробненька сыпала словамі:

— Ета ж во, мая ты таечка, ужо ўсю зіму збіраюся ў

тыя Бірулі, да сястры Зінкі. Ды ўсё, бачыш, некалі, то тое, то сёе... Улетку, бачыш, работа. Думаеш, схаджу ўзімку, а тут зноў жа — рупата: Мішку сабраць у дарогу, у яго ўсё тыя паездкі ды паездкі, то тыя ўнукі: аднаго ў школу, другі на руках...

— А што ж там твая нявеха? — варухнула плечуком Гапка, але не так злосна, ужо і яе размякчыла жаноцкая цікаўнасць, налучылася нагода пагаварыць, хаця і не была яна такая ахвотніца да жаноцкіх баяў-перасудаў: — Табе б, Марфачка, не грэх і адпачыць ужо, дай табе божа, напрацавалася, набедавалася... Цяпер самае што толькі пажыць, агледзецца. А ты ўсё подбегам, усё з клопатам, з ношкаю ды з паклажаю. Не раўнуючы, як той конь-цягавік, усё на цябе хамут ды ў аглоблі!..

— А маўчы ты, таечка, не кажы...

Марфачка паправіла пад пахаю вузельчык — кайстрачку кужалёвую, чысценькую, бы гэты свежы сакавіцкі сняжок, што старанна засыпае беллю наваколле, шморганула носікам-бульбачкай і паддала сабе ахвоты, загаманіла:

— Німа ёй цяпер урэмя, маёй нявестцы, ні хвіліначкі! Прачнецца на раніцу, то бягом на ферму, падмелася ж за даярку. Даяркі, кажа, добра зарабляюць. Пайду і я, кажа, мама. Ну, кажу, ідзі, Гэлька, ідзі. А сама думаю, ты, дзіцятка-дачушка, і ў даярках столькі набудзеш... Усё лецейка ў цяньку пад грушкаю сядзела ды ўсё абяцала: мама, я пайду торф накідаць, на торфе добра зарабляюць. Раз ці два, мабыць, схадзіла ды зноў пад грушку: няхай, кажа, іх прахам возьме з тым іхнім торфам, гэта ж, кажа, адна пакута, а не работа. А цяпер, бачыш, на вялікія грошы пагалілася...

— А што, даяркі і сапраўды вунь у якой пашане,— неяк няпэўна, як здалося Марфачцы, падтрымала яе думку Гапка, тады нешта хітра ўхмыльнулася і проста спытала: — Як жа ты, Марфачка, усё-такі вырвалася, можа, замест сябе знайшла каго, ці як?..

— Ды во ета ўзяла ды адвяла Сонечку, унучку, да суседзяў, да Аўдоткі, пакуль Паўлік са школы прыйдзе,— вінавата і з сумам у некалі бліскуча-блакітных вачах прамовіла Марфачка.

Марфачка пераклала кайстрачку з правай рукі ў левую, выцерла набегшую на вочы слязу і спахапілася, што так забавілася:

— Ну, дык бывай, Гапачка, ты ж яшчэ ў печы не выпаліла. Я пайду...

5. Зак. 1969

Сцепанулася і Гапка, бразнула вядром.

— А мне што? У мяне дзеці не плачуць, дзякуй богу, мужыка няма, то і спяшацца няма куды. А снеданне яшчэ згатую, паспею... Дзень цяпер, бачыш, прыбывае. Ужо ж, кажаш, і саракі сёння... А я і не ведала... Забыла ўжо... Ай-ай! Ета ж некалі свята якое было! Пяклі з пшанічнай мукі птушак. Хадзілі на аселіцу, ці прыляцелі жаваранкі. Хлопцы і дзеўкі на арэлях гушкаліся. Гулянкі якія наладжваліся. Усё сяло хадуном хадзіла. Умелі гуляць некалі. А цяпер ціша, як нікога і няма. Ета ж галава ўжо, і забыла, што саракі сёння.

Гапка падхапіла вядро, тады паставіла на дол, хітала са скрухаю галавой, утрапёна пазірала на Марфачку і зноў заводзіла сваё:

— А як жа я ета, скажы ты, Марфачка, забыла, што сёння саракі. Мне ж проста сорам, ета ж каб ты ведала, мая ты галубка Іванаўна, у етый жа дзень, на саракі, я радзілася. Глядзі ты, брат, як ета я чыста забылася. Матка ж мая, нябожчыца, гаварыла, што я радзілася на саракі. Птушкі, казала, мяне прынеслі, жаваранкі з поля. Казала ўсё: Гапа, ты ў мяне будзеш шчаслівая — на саракі нарадзілася. Перад вясной. Сонейка вышэй стала хадзіць, зямлю саграваe, а дзецям — самая вялікая радасць — цяпло і ласка...

— Дак што ж, таечка, будзь здаровая ды ў шчасці жыві,— засвяцілася Марфачка.— Колькі ж гэта табе, Ганачка, гадоў ужо? Відна, як і мне, пад шосты дзесятак блізка?..

— Ужо, брат Марфачка,— нахмурылася раптам Гапка.— Ужо шэсцьдзесят. Як падумаеш, аж вусцішна становіцца. Жыве чалавек і не лічыць, колькі ён пражыў. А тады раптам спахопіцца, як во я, то ўжэ глядзі і шэсцьдзесят. А ета ж, кажуць, і век наш, бабскі!..

— Дзе там! — адазвалася Марфачка, зайздросна паглядзела на румяны твар жанчыны: — Ты глядзі, якая яшчэ маладая. Шчокі румяныя, як у дзеўкі!..

— А што ж яшчэ я, калі шчыра сказаць, і ёсць дзеўка,— Гапка бліснула шэрымі, некалі задзірыстымі вачамі, трошкі прымярэжанымі пухнатымі вейкамі.— Так вось жыццё, як той казаў, пражыла адна. А чаму адна, каб хто ў мяне спытаў? Ніхто на гэта не адкажа. Я сама, калі хочаш ведаць, брат Марфачка, не скажу...

Гапка раптам неяк сцепанулася ўся, бы перапалохалася, падхапіла вядро і шырока засігала да студні, не развітаўшыся з суседкай, і тая збянтэжана і разгублена

пазірала ёй услед. Ужо ля студні спахапілася і крыкнула:

— Марфачка, ты ж глядзі, як будзеш ісці з Бірулёў, то загляні. Прашу цябе, Марфачка!..

Вярталася дадому Марфачка пад вечар. Па наезджанай дарозе ішлося лёгка. Цёплая мяцеліца, што гарэзілася зранняя, даўно ўжо аціхла. Сонца не было, але брала сваё, стаяла адліга. Свежы асляпляльна-белы сняжок закідаў усе праталіны, што абазначыліся былі збоч дарогі, камякамі навіс на прыдарожных вербах і бярозах, зацерушыў белым пухам усё, як вокам кінуць.

Дарога наводзіла на роздум. Марфачка, удосталь нагаварыўшыся з малодшай сястрою, яшчэ больш расчулілася. На душы было неяк млосна, цяжкім гнётам кладліся ўспаміны. У Бірулях засталося яе назаўсёды незваротнае і такое дарагое дзяцінства. Успомніліся бацькі, якія даўно ўжо ляжаць на горцы ў засені шыпшынніку, прыгадаліся дзявоцкія вячоркі і хлопцы, якіх ужо даўно няма на свеце — гэта ж такія войны прайшлі і сястра яе таксама во ўдава, адна гадавала дзяцей — дачку і сына. Сын даўно ажаніўся, асеў недзе на шахтах і рэдка калі прышле якую дзесятку, а пісем зусім не піша. Дачка была таксама ў заробках — паехала па вярбоўцы, аднекуль прывезла нейкага дзетдомаўскага недалужніка — ён нічога сялянскага рабіць не здатны, толькі звалачэцца ў краму, накупляе гарэлкі і жлукціць. Як грошы скончыліся, то сабраўся ды на аўтобус і нават не развітаўся з жонкай і сынам — такім жвавым, кемлівым хлопчыкам. Не ведае сын, што бацька яго кідае, наказвае яму на дарогу: «Тата, не забудзь жа мне аўтамат купіць!..»

З абшмараваным, уручастым кіёчкам, які дала ёй у дарогу сястра, на выпадак, калі кінуцца сабакі, Марфачка хутка крочыла, не заўважыўшы, як апынулася на вуліцы свайго пасёлка,— ён цяпер зліваецца са старай вёскай і лічыцца адной брыгадай з палужскім канцом. Неяк няўцямна яна падняла галаву, і яе нібы аклікнуў хто. Арабіна, у белых камяках снегу, як у вясеннім цвеце, стаяла пад акном Гапчынай хаты і нібы запрашала: «Што ж ты, зайдзі!»

«Можа, сапраўды зайсці,— выплыла думка.— У яе ж сёння такі дзень».

А ля брамы ўжо стаяла Гапка і крычала:

— Заходзь, Марфачка, што ты стаіш, як непрыкаяная!..

5*

...Яны ўжо сядзелі за сталом, галава да галавы, дзве жанчыны, бадай што аднаго ўзросту, і гутарылі. Перад імі стаяла даўно пачатая бутэлька вішнёвай настойкі і дзве шклянкі з пітвом, у талерках закусь — крамяныя агуркі, смажанка-бульба, гектарніца-скаварада са скваркамі, і тлушч на ёй ляжаў белым пластом — скаварада на стале стаяла, мабыць, яшчэ зрання.

Гаворка спачатку вірліла, жанчыны гаварылі заўзята і горача, а цяпер як бы стаміліся — колькі ні гавары, а ўсяго не перагаворыш.

Як агонь, калі сціхае і ўжо вуголле пачынае пакрывацца налётам попелу, так і іх гутарка, калі яна вычарпалася — трэба было ў яе падкінуць нешта такое, каб ажывілася, зашугала, загарэлася яркім, зыркім полымем.

— Пайду я ўжо двору, Гапачка,— успомніла Марфачка, што яе там чакаюць дзеці, гаспадарка.— Пайду. Я ж пакінула ўсё на Паўліка, а які з яго шчэ гаспадар, ён жа блазан — школьнік. Сонечка там адна занудзіцца. Пайду, таечка.

— Кінь ты, брат Марфачка,— усхапілася, як бы ачнулася ад знебыцця гаспадыня.— Пасядзі. Куды ты рвешся. Думаеш, цябе чакаюць там. Ніхто там па табе не гаруе. Ты, шчыра табе скажу, для іх хутка будзеш зусім лішняя, непатрэбная. Паняла?..

— Чаму ж етак, таечка? — здзіўлена заміргала светлымі вачамі Марфачка і спахмурнела, задумалася, ад нечаканасці так сціснулася ўся ў камячок, стала бы птушкааўсянка.— Не веру я ў твае словы, таечка. Не веру. Як жа ета? Я — гадавала, бедавала. Ты ж ведаеш, як мне было, калі я расціла сваіх сыноў Паўліка ды гэтага Мішу, сваімі мазольнымі рукамі ўсё для іх жа зарабляла. Хіба не помніш, як у нас тады, па вайне, калі немца вытурылі, а нашы прыйшлі і пагналі фашыстаў у тую Германію, а мы, бабыўдовы, засталіся з малымі дзяцьмі ды са старымі дзядамі... Помніш жа, як з тых Камунараў на сабе насілі тое семяно ў кайстрачках ды ў клуначках, на сваім гарбе, цэлую паўсотню вярстоў!..

— Помню, Іванаўна, памятаю,— уставіла як бы абыякавая, здаецца, да ўсяго Гапка і ўздыхнула.— Усё памятаю. Памятаю, як ты шчэ ў тэй варывеньцы жыла, як твае хлопцы ад сажалак снарад прывалаклі ды на дварэ пачалі цяпло раскладваць, але стары Цімонька прыбег, накрычаў на іх, і снарад адвезлі на падводзе пад Косцішын хутар і закапалі. Ета ж каб не стары Цімонька, то не скажу, ці былі б у цябе твае і ўнукі.

Гапка іранічна рассмяялася. Затым раптоўна сціхла, насупілася:

— Што ж, суседка, возьмем па каліву...

— Вып'ем, анягож! — Марфачка падняла да рота шклянку, зморшчылася. З талеркі ўзяла агурок, пачала жаваць. Мабыць, яна цяпер забылася на ўсё на свеце. Ці гэта так падалося на першы погляд. Можа, наадварот, усё тое, што было на душы, прасвятлела, і прасіла выйсця ўсё, што накапілася за доўгія гады. Яна сядзела горная і нейкая надта ж сцішаная. Уся патанула ў думках. Паглыбілася ў сябе. Твар яе, маладжавы і акруглы, як бы святлеў, наліваючыся думкаю; вочы нязвычна запаліліся агеньчыкамі руху і дзеяння. Як бы знутры нехта невядомы ў ёй самой штурхаў яе некуды і падахвочваў выказаць усё тое набалелае і зляжалае пластом на сэрцы.

— Развярэдзіла ты, суседка, маю душу,— Марфачка аж жахнулася свайго голасу, цяжка здрыганулася: — Аж во забалела ўсярэдзіне. Ета, бачыш, як камень на сэрцы зварухнула. Ён, етый камень, ляжыць мне ў грудзях з саменькай вайны. Усе етыя гады нашу яго, тэй камень — гнёт, прывыкла ўжо, а ета ты во зачапілася за яго, і ён зрушыўся, і на мяне як хто сто пудоў усклаў...

— Пра што ета ты, Марфачка?..

Гапка распраўлялася са скваркай, а тады, пазіраючы асалавелымі вачамі на суседку, натапырылася: што б такое магло ўзрушыць звычайна такую бесклапотна-гаварлівую сакатушку, як Марфачка. Няўжо ў яе не прайшло, не выветрылася з галавы тое далёкае, што перажыла, што ўжо даўно павінна было б перагарэць? Той год, калі шчаслівыя салдаткі сустракалі мужоў з вайны, для Марфачкі абярнуўся горкасцю і крыўдай на ўсё жыццё. Гапка — чалавек вясёлага нораву, лічыць, што не варта сушыць сваё сэрца ўвесь век з-за таго чалавека, які растаптаў тваё пачуцці, такі чалавек не варты таго, каб яго насіць у сэрцы, па ім маркоціцца.

Здагадваючыся, пра што занепакоілася Марфачка, Гапка засмяялася бесклапотна, задзірыста, як магла смяяцца толькі колішняя весялуння Гапка, дзяўчына-агонь.

— Во, дурніца, знайшла праз што сумаваць. Ета ты ўсё пра свайго Васілька?.. Плюнь і выкінь з галавы.

Гапка лёгка адкінула назад галаву, у шэрых, прасветленых застоллем вачах з'явілася нешта падобнае на злосць. Яна паднялася, стала насупраць Марфачкі, і тая падумала, якая яшчэ дзябёлая і прыгожая гэта жанчына, на пле-

чы яе, можа, не клаўся такі цяжар, і голас яе гучаў, як прысуд:

— Выкінь з галавы яго, паскудзіну, назаўсёды, кажу табе!..

Увішная, шурпатая Гапчына рука сціснула Марфаччына плячо. Сціснула моцна, бы абцугамі. Гапка загаварыла амаль шэптам, у самае вуха сяброўкі:

— Ты думаеш, што адна такая? Думаеш, мне не падкідваў лёс такое ж... Ты ж не ведаеш, ды не толькі ты, мала хто ведае, што быў чалавек, які мне падабаўся і прызнаваўся, што кахае мяне. Мы думалі пажаніцца, і на дарозе ў нас стала адна... жанчына, канечне, і яна пераманіла яго. А я засталася... дзяўчынай. Як бачыш, на ўсё жыццё...

— Да цябе ж, кажуць людзі, сваталіся,— ціха, як не сваім голасам, прамовіла Марфачка і змоўкла, не зважаючы, што ў яе па твары цякуць буйныя, па гарошыне, слёзы. Яна іх не выцірала, нават не зварухнулася з месца.— Кажуць, добрыя хлопцы набіваліся, адбою не было...

— Так. Што з таго,— сумна ўсміхнулася Гапка, паківала галавою.— Сваталіся, дак што з таго. Я парашыла лепш застацца векавухаю, чым тое нялюбае замужжа. Думаеш, я не ведала, як за маёй спіной некалі абгаворніцы плялі: маўляў, Гапка такая і раз'етакая, яе ніхто не бярэ, да яе мужчыны не заляцаюцца. І тады я назло ўсім, назло пляткаркам і курыць пачала і больш усё мужчынскую работу прасіла — усё і арала і баранавала, а як вечарынка якая — у танцах адзіноцтва сваё гасіла, старалася ўсё, што ніяк не забывалася, вырваць з сэрца, з карэннем вынішчыць!..

— Ну што ж, вырвала?..

Марфачка аж скаланулася, што такое сарвался ў яе з вуснаў. Яна ведала, што Гапка — жанчына моцнай волі і ўмела схаваць сваю скруху, свае душэўныя трывогі за напускной радасцю і весялосцю. Ніколі ніхто не бачыў, каб яна сумавала, умела яна сама павесяліцца і разварушыць тых, хто побач з ёю. Ні з кім яна не дзялілася, не раскрывала, што ў яе на душы. Жанчыны звычайна яе чамусьці сцараніліся і нават пабойваліся.

І раптам так выказвалася яна перад нейкай там Марфачкай, з якой яны, можна сказаць, зусім чужыя; жывуць, праўда, на адной вуліцы, хат праз якіх пяць-шэсць, але ніколі між імі не было такой адкрытасці і шчырасці. Чаму? Хто ведае чаму. Яны і на пакосе часта былі разам, і на жні-

ве, і ў застоллі, на чэсцях сустракаліся ў адной кампаніі, а сёння бы ўпершыню адкрылі адна адну.

Гапка маўчала, у одуме абхапіўшы галаву рукамі. Можа, яна думала пра Марфачку. Прыгадвалася, мабыць, як з недалёкага хутара прывёз сабе нявестку Васілька Шабрук — насаты, вельмі ўжо ціхманы, падобны на хлапчука, жанішок, чыста дзятлік. У Палужжы за яго нялёгка было сасватаць дзяўчыну, а Марфачка, казалі, пайшла, не задумваючыся. Можа, спадабаўся ёй Васілька-дзятлік, а хутчэй з-за таго, шо ў сям'і Мядзведзіка было апрача Марфачкі яшчэ чатыры дачкі.

Не доўга Марфачка жыла ў сям'і Шабрукоў; яны з Васількам неўзабаве агоралі сабе хацёнку з ёўні і аддзяліліся. Жылі маладыя бедна, але ў згодзе і дружбе. Ласкавая, вясёлая і вострая на язык Марфачка рабіла ўсё, каб было добра яе Васільку. Як палужанцы аб'ядналіся ў калгас, Васільку, які быў не надта ўжо каб здаравяка, знайшлася справа па сіле — ён стаў паштаром, а Марфачка рабіла з жанчынамі на розных работах, у брыгадзе. Здаралася, што Васілька захварэе, а гэта такі бывала часцяком, асабліва ўзімку, то яго падмяняла Марфачка. У завіруху, у марозную халадэчу, па цаліку яна з паштовай сумкаю ішла на пошту ў Ігліцу, а тады і пісьмы і газеты сама па хатах разносіла. Разнясе ўсю пошту, а ўвечары за кросны ці за пралку сядзе, а тут жа і калыска пры ёй — якраз ужо тады і Паўлік знайшоўся... А Васілька ўсё кволіўся, а іншы раз і з мужчынамі дзе-небудзь у хаце прасядзіць цэлы дзень...

...Гапка думае пра Марфачку і цяпер глядзіць на яе як бы нейкімі новымі, не сваімі вачамі. У прасветленай, не затуманенай ад пітва галаве ў яе мільганула: значыць, і яна, Марфачка, носіць нешта пад сэрцам, і яна не вырвала, не вынішчыла са свядомасці свайго Васілька, а мінула столькі часу — дзіўная ўласцівасць чалавечая. Кажуць жа, што сэрцу не загадаеш.

— Вырвала, кажаш? — балючая ўсмешка скрывіла калісь прыгожы твар Гапкі. Яна як бы ў здзіўленні ўзняла вочы на суседку: — А ты, Марфачка, спытай лепш у сябе самой, ці вырвала ты назаўсёды свайго Васільку, а ён жа, паскуда, кінуў цябе?.. Што маўчыш, кажы!..

Марфачка нервова перабірала ў руках махры, мабыць, баялася, што Гапка заўважыць, як трымцяць у яе пальцы, яна адчувае, што і вусны неяк крывяцца, торгаюцца: калі б яна цяпер загаварыла, то расплакалася б. Даўно тое ж было, ужо ўсё перабалела, і ў сэрцы нічога не засталося,

адна пустэча, нейкая толькі скруха — прыкрасць. Рана тая даўно як бы зарубцавалася і зусім не баліць. А глядзі, кранула тое месца, дзе рубец, і стала млосна, рана заныла. Невядома, што гэта — крыўда ці шкадаванне? Злосць ці боль страчанага?

— Што ж ты маўчыш, суседка?

Гапчыны колісь бліскучыя карыя вочы насміхаліся.

— Маўчу,— скрозь слёзы прамовіла Марфачка. Губы яе трэсліся, і яна ўся неяк зморшчылася, і твар яе сабраўся ў камячок, стаў нейкі стары, як азызлы. Відаць, усё тое, далёкае, даўно ўжо забытае, зноў выплеснулася з сэрца, з яго самых глыбокіх закуткаў. Ціха ліліся яе словы, словы жальбы і крыўды: — Я ўжо даўно як бы і забылася на тое, дык сэрца, сэрца не даруе. Паслухай жа, Гапачка, ці можна ж дараваць такое? Вярнуўся мой Васілька з вайны паранены, хваравіты. Прыйшоў двору ў палапленым шынялку. З парожнім рэчмяшком. У ім, праўда, быў нейкі абмылачак ды старая пара бялізны. «Цяжка мне было, Марфачка,— сказаў ён,— служыў у такой часці, дзе нават і пагаладаць неаднойчы даводзілася». Як прыйшлі нашы чырвоныя, то яго часць стаяла ў Крычаве. Усю зіму там стаялі яны — чыгунку і масты ладзілі. Я ж тады, дурніца, не ведала, што майго Васільку нейкая разлучніца прыгрэла. Ды чула маё сэрца: нейкі сумны, не той мой Васілька, усё нешта ўздыхае, не радуецца, што двору вярнуўся да дзетак. А хлопцы ўжо былі вялікія, падраслі за тыя гады, што ён быў на вайне,— Паўлік ужо выцягнуўся, падлетак. Адразу ж, ты ведаеш, у той год і ў фэзэву паехаў, аж на Урал, у які горад, я ўжо і забыла. Я рада, што вярнуўся мой франтавік, пасадзіла за стол свайго гаспадара і гляджу не нагляджуся: проста не веру, што ён ета — такі ён у мяне слабачок і пераборлівы на ежу, а вытрываў усю вайну і з медалём «За Пабеду» прыйшоў... Мне так шкада-шкада яго стала, як бы табе, суседачка, сказаць, як дзіцёнка роднага. Гляджу на яго, на маршчакі пад вачамі, на скроні сівыя і чуць не плачу. А ён нейкі журботны, маўклівы, не павесяліўся, а яшчэ цяжэй уздыхае, вочы патупіў, не глядзіць на мяне, бы ў тых вачах нейкая дужа-дужа вялікая вінаватасць ці боль пякучы які... Чула маё сэрца, што ета нешта не так, нешта палучылася. Я стала ў яго дапытвацца, а ён адмоўчваецца, пацірае дрыжачаї рукой спацелы твар. І адно смаліць і смаліць — папяросу за папяросінай...

— Дурніца ты, Марфачка,— раптам падхапілася Гапка.— Ты ж магла здагадацца, падлюга ён, ужо прыжаніў-

ся, можа, пакваліўся на чужое дабро. Трэба было каленам пад зад, і ўсё тутака.

— Эт ты, Гапа, Гапа,— загаварыла, крыху заспакоіўшыся, весялей Марфачка.— Ета, як чужая бяда, а сама, бачыш, па сваім Хомку маркоцішся, нудзішся ўсё жыццё. Усім сватам давала ад варот паварот. У дзеўках звекавала, а суджанаму не здрадзіла...

— Глупства ўсё ета,— махнула рукою Гапка.— Чалавек — вір, чалавечая душа — пацёмкі. Ой, многа трэба думаць, многа з чалавекам трэба паесці солі, каб зразумець яго, убачыць, што ў яго там на душы...

— Эх, Гапачка! — зусім расчулілася Марфачка.— Родненькая мая таечка, гаротніца і ты такая, як я, няшчасніца мая ты, кветачка любая, дай я цябе пацалую,— і Марфачка рашуча адхіліла шклянку, абхапіла Гапку за плечы, моцна прытулілася да яе шчакі мокрым ад слёз тварам.— Я ж табе шчэ не даказала, як яго, свайго Васілёчка, праводзіла тады ў дарожку, яшчэ ў яго мяшэчак паклала ледзь не апошні брус сала. Не ведала я тады, што ета будзе апошняя наша сустрэча і нашы сцежкі разыдуцца назаўсёды. «Прашчай,— сказаў ён,— Марфачка. Прашчай, можа быць, не ўвідзімся. Не спамінай ліхам». Васілька мой яшчэ падаў мне руку, і мы так развіталіся...

— Забудзь, не шкадуй! — плюнула Гапка, абцёрла вусны звыклым рухам шурпатай, прапахлай тытунём далоні.— Туды яму і дарога, карузліку гарбаносаму... Можа, цяпер і раскайваецца, наеўшыся хлеба прымацкага, а ты во жывеш, дзякуй богу, як чалавек, унукаў гадуеш, сама сабе гаспадыня... І ўсё такое...

Спакойна і рэзка разважыла сваёй таварышцы па няшчасці гэтая жанчына. І ў гэтай справе для яе не было нічога складанага і заблытанага — усё было ясна і светла, можа, ад таго, што гэта была не яе бяда.

— Я і не шкадую,— пасля нейкай хвіліны маўчання загаварыла Марфачка, а сама аж заходзілася ў плачы: — За што? За што ён мяне так пакараў... Ці ж я яго не глядзела, ці ж яму не дагаджала?..

— Нешта ж, бачыш, зганьбаваў ці чорт яго ведае, што яму заступіла,— ужо крыху спакайней сказала Гапка. Відаць, і ёй хацелася неяк суцешыць Марфачку. Можа, яна цяпер сур'ёзна задумалася і хацела дакапацца да прычыны іх таго разладу. Ды не доўга яе займала гэтае дакопванне. Яна тут жа раптам грукнула кулаком па стале:

— Паразіт ён, і ўсё!..

— Што ты, Гапачка, бронь божа,— завойкала, зама-

хала рукамі Марфачка, і вочы яе свяціліся нейкай глыбокай, усёдаравальнай ласкай.— Не кажы так, таечка!.. Ета ж, як успомню, які быў жаласны тады, той міленькі мой Васілька, якія страшныя былі ў яго тады вочы, то аж сэрца захлынаецца, душа пачынае балець. Ета ўжэ, відно, вайна ўсё тое нарабіла, яна ета, праклятая нахабніца-разлучніца. Праз вайну-пякельню ўсё разбілася нашае шчасцейка. Вайна-пякельня разлучыла нашыя сэрцы. Не кажы, Гапачка, я вінавачу ету вайну!..

Гапка разгублена плюскала вачамі, у роспачы ківала галавой і ўсё напружвала, маршчыніла лоб — сілілася, што адказаць, і, нічога важкага не знайшоўшы, як бы сама сабе абыякава прагаварыла:

— А ты ж, казалі, неяк бачылася з ім, на вяселлі ў сына... Праўда ета ці плявузганне?..

— Ага, праўда, бачылася,— паспешліва і неяк неахвотна адказала Марфачка і падхапілася, пачала развітвацца.— Ой, даруй, Гапачка, я ў цябе ўжо засядзелася. Там жа мяне ўжо зажdaліся... Пайду ўжо я...

— Дак пачакай, ужо раскажы, я ж хачу ведаць, як у цябе адбылося тое... спатканне,— Гапка не дала падняцца госці, амаль што сілай пасадзіла яе на ранейшае месца.

— Ну што ж, калі хочаш, то слухай...

...Большы сын Марфачкі Паўлік, які жыве недзе ля Палтавы, напісаў, каб маці абавязкова прыехала на яго вяселле, бо ён знайшоў сабе дзяўчыну, з якою наважыў ажаніцца.

— Ну што ж, трэба ехаць,— даў згоду меншы, Міша, яшчэ быў тады нежанаты.— Ты, мама, едзь, а я пабуду дома, не бойся, усё дагледжу... Не маленькі. Будзь спакойная, мама!..

Марфачка сабралася, узяла тое-сёе ў чамаданчык на дарогу, накупіла падарункаў для сватоў і для нявесткі і адправілася на станцыю. Узяла білет і села ў цягнік, які менш як праз суткі прывёз яе да месца. Там яе сустрэў Паўлік, быў рады, як дзіця: «Ета добра, мама, што прыехала». Па дарозе расказаў, што запрасіў і бацьку: «Канечне, табе, мама, можа, і не спадабаецца, я ўсё разумею, ды ўсё ж ён мне бацька...»

Марфачка была спачатку разгубілася. Было найпершае жаданне — вярнуцца назад, кінуць усё і дадому, каб вочы не бачылі, каб сэрца не шчымела. Тады прыйшло інакшае, другое рашэнне: «А чым я перад ім вінаватая? Чаму мне павінна быць сорамна? Ён кінуў мяне, разлюбіў — яму

няхай і будзе сорамна. У мяне — душа чыстая, я нічога яму кепскага не зрабіла, усю вайну чакала. Горачка столькі хапіла. З дзецьмі і па балотах і па зямлянках напеклавалася».

На вяселлі яны і сядзелі побач. І толькі сваты, якія ведалі пра ўсё, назіралі, сачылі за імі і, можа, заўважылі нацягнутасць і халоднасць між Марфачкай і Васількам, які адчуваў сябе бы акунёк на патэльні. А Марфачка жвава размаўляла, весела жартавала і зусім не падавала выгляду, што ўжо дзесяць гадоў, як яны разышліся, пастаяўшы моўчкі ля той вілаватай бярозы, назаўсёды.

Марфачка за сталом нават перакідвалася і словамі з былым мужам. Ён адказваў на яе запытанні, а сам у гаворку амаль што не ўступаў.

Праз дзень Васілька заспяшаўся на станцыю. Відаць, прычынай была Марфачка, бо ён не думаў, што і яна будзе. Сын яго запрасіў, але нічога не сказаў пра маці. Чаму так ён спяшаўся, нікому нічога не сказаў. «Не магу больш, прабач, сын...»

На станцыю Васільку праводзілі талакою. І сваты, і маладыя, з імі была і Марфачка. Неяк яны адсталі, і Васілька ўсё пацепваўся, гмыкаў, відаць, намерваўся загаварыць, але ніяк не рашаўся.

Маўчала і Марфачка, несучы ў сабе нейкую няпэўнасць — болю яна не адчувала, у душы была пустэча і недзе ў закутку — можа, спагадлівасць. Яна паглядзела на яго, як птушыную, пасечаную зморшчынамі шыю і ўздыхнула, з вуснаў зляцелі як чужыя словы:

— Як жа, Васілька, жывеш, ці шчаслівы хаця?..

Васілька аж прыгнуўся, глыбей ссутуліўся, дзятлікавую галоўку ўцягнуў у плечы і, бянтэжачыся і заікаючыся, выдыхнуў:

— Панімаеш, Ів-ванаўна, праўда, што к-кажуць, лепш першым куском... пп-падавіцца!..

І пашкандыбаў барзджэй. Нейкая крывая, вінаватая ўсмешка застыла на яго ўчарнелым хударлявым твары.

З тым яны і разышліся.

— Во бачыш, Гапачка, тое ўжо было больш як дзевяць гадоў. Бачыш, не соладка яму там, а маўчыць. Не абзываецца...

— А каб адклікнуўся? — аж падхапілася Гапка, яна ўжо была заснула, схіліўшы галаву сабе на рукі, і ціха драмала. А можа, так Марфачцы здалося.

— Не ведаю, таечка, не знаю,— зусім спакойна і лагодна, з цёплай усмешкаю на разамлелым ад гарачыні ў

хаце твары гаварыла Марфачка: — Сэрцу не загадаеш. Сэрца — яно, можа, чуе іначай. Яно не паддаецца на нашы развагі... Не ведаю, галубка.

* * *

Гусцелі цёмныя змрокі, калі Марфачка асцярожна ўвайшла на двор. Намацала зашчапку ў сенцах, адчыніла дзверы і загаманіла ў цемру:

— Гэля, вы ўжо спіцё? А Міша, прыехаў?..

— І Міша ваш недзе швэндаецца, як і яго мамачка,— пачулася з цемрыва.

Марфачка ўся аж скаланулася — хацелася сказаць нявестцы нешта такое, каб тая адчула, што яшчэ тут, у хаце, не яна поўная гаспадыня. Без Марфачкі Гэлька засмеццілася б. Паспела ўжо і ў краме за прадаўшчыцу пабыць і ў кладаўшчыках пахадзіла — ніяк не падабаецца ёй, бо ўсюды ж трэба працаваць, а яна, бачыш, вучоная — дзесяцігодку скончыла — і лічыць, што для яе падавай чыстую работу. Дзяцей, казала, ёй шмат не трэба. Ці дагледзела б яна і гэтых, каб не Марфачка. Калі шчыра сказаць, яны і выгадуюцца ў яе на руках. Во гэтая, меншанькая, толькі і ведала, што «бабуся, на ручкі...».

Нявестка ўзнялася на ўзлокаткі, падняла кудлатую галаву з ляжанкі і зноў улеглася.

Марфачка ціха, на пальчыках, прайшла ў залу, пагледзела на ложак, дзе звычайна спалі дзеці — Паўлік і Сонька, папраўіла коўдру і, заспакоеная, скінула буркі, паклала галёшы, каб прасушыліся, і прылегла на канапцы, бо ляжанку за грубкай, дзе была яе пасцель, заняла нявестка.

Доўга не магла заснуць Марфачка. Асцярожна, каб не разбудзіць нявестку, варочалася, пазяхала ў кулак зноў жа, каб не чула Гэлька, і ёй усё ўспаміналася яе душэўная і шчырая размова з Гапай, чула, як бесклапотна сапла нявестка на цёплай ляжанцы, і думкі то напльвалі хвалямі, захлынаючыся, як у паводку, то спадалі, заціхалі, пакідаючы такі невыразны туманны след, і знікалі. Перад ёй усплыло ўсё яе жыццё як на далоні. У вушах стаялі Гапчыны словы: «Ты ім патрэбная, пакуль дзяцей падгадуеш...» Крыўда мучыла яе, не давала душэўнага заспакаення. Крыўда заглушала ўсё астатняе: «Во, адлучылася за ўсе гады на адзін толькі дзень, і ўжо нявеха натапырылася, надзьмулася, як апечаная. Пра вячэру не заікнулася. Як бы тут яна, Марфачка, і не гаспадыня. Не, галубка, ты яшчэ без мяне тут зарасцеш па вушы трын-травою. Бачыш,

во малако ўсё не працэджана, кінула проста так у даёнцы і посуд параскідала; як дзеці елі, так усё на стале кінула-рынула. Ета ж усё на зругу, на здзек ёй, свякрусе. Няхай, качарга, ведае, што яе тут «для мэблі» трымаць не збіраюцца. Няхай не забывае, чый хлеб есць. Ды не ж, дудкі, Марфачка яшчэ не ўломак, яна яшчэ пакажа ёй, смаркачцы етай, пакажа, дзе бог, а дзе парог...»

Марфачка і сама з сябе ў думках пасмяялася. Ніколі яна так не скажа. Не ў яе характары гэтакая злосць, смеласць. Ды ўрэшце і што б гэта дало, каб яна ўзбунтавалася. Ніхто не паверыць, што Гэлька такая злосніца, спадцішка кусае, а на людзях: «Мама, мамачка». Людзі скажуць: «А што ёй, старой, патрэбна? Сядзі ды пячэнне жуй, пенсію ж даюць, дык яшчэ і нейкія дагаджэнні, бачыш, ёй пакамандаваць хочацца; сядзі ўжо ціха ў запечку ды глядзі, калі чарга дойдзе, кінуць-пададуць якой капусты ў місцы ці скварку». Ведае Марфачка характар нявесткі, з ёю, з гэтай уядай, толькі зачапіся, то згрызот не абярэшся. Начаўпе, не пасароміцца ні суседзяў, ні дзяцей: «Ты і такая, ты і сякая. Недарма цябе і муж кінуў. За тваю ябеднасць, за тваю занозлівасць. Ты ўсюды свой доўгі язык уткнеш. І нам во жыць з Мішам не даеш, нашу жызню разбіваеш... І разаб'еш, табе толькі дай распусту, дай разгарненне...»

«Што ж застаецца,— разважае сама з сабою Марфачка,— маўчаць, ды падтакваць, ды ўсміхацца, рабіць выгляд, што ты ўсім задаволена, што ўсё робіцца так, як трэба, усё ідзе згодна, як задумала яна, твая нявестка, як зварыць яе разумная галава. А ты глядзі, што табе скажуць, куды загадаюць, і не пераступай мяжы, не праяўляй свайго, не рабі сваім одумам, бо ўсё адно ты будзеш абсуджана, тваё ўсё ні ў чэсць ні ў ласку. Ета ўсё таму, што твой клопат, тваё стаpaнне ім не даспадобы; ты толькі раззлуеш, выведзеш з раўнавагі таго, хто лічыць сябе тут за гаспадара...»

Марфачка варочаецца з боку на бок, не можа ўляжаць на месцы — бы на што мулкае натрапіла, не можа яна ніяк сцішыцца, забыцца сном. У вачах стаіць Гапка, яе насмешліва-бесклапотны твар, яе паблажліва-абыякавыя адносіны да таго, што для Марфачкі — справа яе жыцця, яе немінучай трывогі.

У акне нешта яркае бліснула, бы сполахі маланкі ці водбліскі далёкага зарыва, і зараз жа яе вуха ўлавіла знаёмы гул матора — гэта Міша вяртаўся з рэйса. Марфачка хуценька шамяякнула з канапкі і затэпала босымі ступакамі, адчуўшы пякучы халадок маснічын, і нейкая не-

абдымна-шырокая, бурлівая радасць запоўніла ўсю яе, падхапіла, бы на крылах, і яна ўся аж свяцілася ад незвычайнага наплыву ўнутранага ўзрушэння.

Марфачка запаліла святло, подбегам патэпала ў сенечкі, адкінула зашчапку.

— Ета ты, сынок? — прамовіла Марфачка, як бы праспявала, і сама здзівілася, які ў яе яшчэ тонкі і мяккі голас.

— Так, я, мама,— пачулася ў дзвярах.

...А з ляжанкі, дзе звычайна клалася Марфачка, чулася ціхае, з прычмокамі сапенне — нявестка дасыпала свой добры сон. Нявестцы смачна спалася.



## ЦЯПЛО НА ПОЛЕ

*Многія важныя пытанні і праблемы, закранутыя ў нарысе, ужо вырашаны. Выраслі новыя людзі, якія ўпэўнена крочаць наперад, узброеныя вопытам і практыкай папярэднікаў. Але як усё тое, здабытае і дасягнутае, пачыналася, да прыкладу, у саўгасе Леніна, што ў шасцідзесятыя гады толькі ўтварыўся з дробных і запушчаных гаспадарак! Дапамаглі выкіраваць саўгас на шлях інтэнсіўнасці і ўздыму маладыя энтузіясты, выпускнікі Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі — чатыры Міколы: Мікола Вяршыла, дырэктар саўгаса, Мікола Голасаў, галоўны заатэхнік, Мікола Дудко, галоўны інжынер, і Мікола Юркоў, галоўны аграном,— піянеры, як іх называлі тут. Будні і выпрабаванні, пройдзеныя на пачатку самастойнай працоўнай дарогі,— добрая школа для тых, хто прыйшоў ім на змену.*

Стаялі цёплыя дні «бабінага лета». Раніцамі ўвесь пасёлак купаўся па стрэхі ў сівых хвалях туману, а ўдзень, калі ўзнімалася сонца, усё аж свяцілася; у вішнёвых прысадах плавала серабрыстае павуцінне; пах яблык, змешаны з хлебным водарам, стаяў увесь дзень у паветры. Увечары, калі сціхаў дзённы тлум, пасёлак абмывала надзіва ціхая і празрыстая свежасць. Непрыкметна цямнела, і неба спрэс засейвалася буйнымі, матава-светлымі зорамі.

Перад імі як бы выхваляліся электрычныя ліхтары, развешаныя на слупах уздоўж вуліцы, забудаванай новымі дамамі. Іх было не багата, але яны ў вечаровым святле выглядалі зухавата між хат з саламянымі стрэхамі.

...Надвячоркам, кіруючыся на адкрыты партыйны сход, я пазнаёміўся з пасёлкам, затрымаўся ля помніка ў цэнтры. На граніце золатам ззялі словы: «Польскім воінам 1-й дывізіі імя Тадэвуша Касцюшкі, якія загінулі ў баях з нямецкім фашызмам за свабоду і незалежнасць сваёй Радзімы, вечная слава!» Ад помніка дарога крута спадала ўніз, праз масток, а потым зноў узбіралася на пагорак, дзе кантора, клуб, майстэрні і новыя жылыя домікі.

Якраз аб'явілі перапынак, калі я зайшоў у клуб. Мужчыны, маладыя і пажылыя, выходзілі асвяжыцца, дымілі цыгаркамі. Сярод іх быў і Мікола Вяршыла, дырэктар саўгаса. Рослы, танклявы, ён імпэтна, аж падскоквала густая рыжаватая чупрына, размаўляў з мужчынамі. Мы пазнаёміліся.

— Вяршыла,— суха сказаў дырэктар і працягнуў мне вузкую, жылістую руку. Пасля няёмкай паўзы загаварыў больш мякка: — Застаньцеся ў нас, калі ласка. Мы абмяркоўваем вынікі года...

Члены прэзідыума занялі свае месцы за сталом на сцэне; з краю прыладзіўся і дырэктар. Пасля даклада галоўнага агранома Міколы Юркова пачалі выступаць прамоўцы. Галоўны заатэхнік Мікола Голасаў, з выгляду яшчэ хлопец, ціхім голасам расказваў пра жывёлагадоўлю. За ім выступіла Алеся Анюхоўская — кіраўнік клімавіцкага аддзялення. За ёй зноў жа кіраўнікі аддзяленняў: са Стараселля — Лазечны, невысокага росту, ужо ў гадах мужчына; са Старыны — Леў Таптуноў, чырванатвары малады чалавек у кароткай скуранцы, у галіфэ, запраўленых у хромавыя боты, нядаўні партыйны работнік. Усе расказвалі пра гаспадарчыя справы, называлі людзей, і лепшых, і тых, што часамі падленьваюцца, не праяўляючы сябе ў працы.

Аддзяленне Старына, дзе пад вясну справы прыняў камуніст Леў Таптуноў, займае першае месца па ўсіх паказчыках. Расказаўшы пра тое, што зроблена і якія задачы трэба рашаць, Таптуноў зазначыў, націснуўшы на апошнія словы:

— Усё, што мы робім,— гэта для нашага грамадства, для савецкіх людзей. І пра іх трэба клапаціцца...

— Канкрэтней! — крыкнуў нехта з месца.

— Я і кажу,— рэзка махнуў шырокай далонню Таптуноў, кінуў быстры позірк у залу: — Калі вы, таварыш Буры, закончыце лазню ў Старыне?

Вузкаплечы, у сцёганцы, чалавек падхапіўся, узняў руку:

— Даю рэпліку. Затрымка з-за шыферу. А печку вы і самі можаце зрабіць.

— Сельскі Савет узяўся,— сказаў Таптуноў з запалам,— а цяпер і забыўся пра свой аб'ект,— і сышоў з трыбуны.

Адразу ж за Таптуновым слова ўзяў старшыня выканкома сельскага Савета Буры, загаварыў пра задачы, якія трэба вырашаць саўгасу. Напаследак прамовы ўспомніў пра лазню ў Старыне.

— Канечне,— пацягнуўся ён рукою да патыліцы,— нам, сельсавету, цяпер трэба займацца і абразаваннем, і здраваахраненнем, і благасастаяннем... А гэта, як яго, благасастаянне, трэба падумаць, як яго вырашыць...

— На лазню ж грошы адпушчаны, Феакціставіч,— выкрыкнуў з месца Таптуноў.— А вы ўсё цягнеце!..

— Самі можаце зрабіць, не зломкі! — злосна абазваўся Буры і пайшоў, ссутулены, на месца.

Мікола Вяршыла ўвесь час слухаў моўчкі, схіліўшы галаву, аж валасы закрывалі амаль увесь лоб і вочы. Тады пяцярнёй адкідваў іх назад і пільна прыслухоўваўся, што гаварылі прамоўцы. Ні разу нікога не перапыніў; за ўвесь час адно кінуў рэпліку Льву Таптунову, калі той расказваў пра ўборку.

— Дрэнна ў вас, Леў Паўлавіч, убіраюць,— сказаў дырэктар і зноў урупіўся ў нейкія свае, мабыць, запісы ў маленькай кніжачцы, з якою ён праз аднаго прамоўцу і ўзяў слова.

Адчувалася, што дырэктар хваляваўся, але гэтае хваляванне было амаль няўлоўным і надавала яго словам нейкую асаблівую важкасць. Энергічнасць, нават гарачнасць, з якой ён гаварыў, нібы токам праходзіла праз сэрцы ўсіх, хто быў у зале, хто яго слухаў.

— Я сам з вёскі, ведаю працу сялянскую,— страсна, нават гнеўна кідаў Мікола фразу за фразай.— Проста душа балела, калі я глядзеў, як убіралі бульбу ў брыгадзе таварыша Каласоўскага. Гэта ж сорам і ганьба! Пазбіраюць буйнейшыя бульбіны зверху, а што ў зямлі — усё ляжыць, як ляжала. Закасаўшы рукавы, я перакапаў баразну. Колькі, думаеце, яшчэ было бульбы? Амаль столькі ж, колькі выбралі, калі не больш. Правільна я кажу, Андрэй Гаўрылавіч?

— Правільна! — сцепануў плячом старынскі брыгадзір Каласоўскі, густа пачырванеўшы.

Далей дырэктар падкрэсліў, што абавязак камуністаў і камсамольцаў — агітатараў расказаць у брыгадах, што бу-

дзе выдана сёлета людзям, што яны атрымаюць за сваю працу.

— Адносіны да людзей трэба мяняць, таварышы,— закончыў ён.— Усім нам, пачынаючы ад дырэктара і канчаючы брыгадзірамі. Тады не будзе такога, што цэлае лета не маглі дабудаваць лазню, на якую ёсць і матэрыял, і грошы. Нарэшце, і людзі там, у Старыне, ёсць. Так я гавару, Леў Паўлавіч?

— Зробім,— азваўся Таптуноў.— Толькі вот з бульбай управімся і зробім. Там і работы тае на які тыдзень засталося...

На гэтым сходзе, як і на кожным, былі прамовы, рэзалюцыя і спрэчкі. Адны з яго ішлі імяніннікамі, як галоўны інжынер Мікола Дудко, самы малады са спецыялістаў, які толькі што вясною прыйшоў сюды з акадэміі, а сёння яго прымалі кандыдатам у члены партыі; другія, як той жа Апанас Феакціставіч, якому яшчэ раз нагадалі, што метад накачак мінуў, і, калі хочаш паспець за жыццём, трэба перабудоўвацца. І ўсім сход быў добрай зарадкаю на заўтрашні дзень. І радавым камуністам, і самому дырэктару, які быў тут такім жа, як і ўсе, удзельнікам і членам аднаго працоўнага калектыву.

...Мы вячэралі ў Міколы Юркова, галоўнага агранома. Пакуль гатавалася вячэра, мы паспелі добра нагаварыцца. Мікола Юркоў — тыповы паляшук, выглядае куды маладзей сваіх дваццаці васьмі гадоў. Ён разам вучыўся з Міколам Вяршылам, на адзін год пазней скончыў сельскагаспадарчую акадэмію. Калі даведаўся, што Вяршыла паехаў у Леніна, адразу за ім падаўся і Юркоў. А за Юрковым і Голасаў, які цяпер за галоўнага заатэхніка.

Мікола — галоўны аграном — усміхаецца, старанна праціраючы акуляры; у вачах, сур'ёзных і вострых,— чорцікі-смяшынкі; чысты, смуглявы твар задумны. Рухі нетаропкія, спакойныя. Ён усміхаецца, памагае жонцы, шчуплай чарнаўцы, падаць на стол вячэру — крамяныя салёныя агуркі, вараную бульбу, якая яшчэ дыміцца парай...

— Давайце, хлопцы, павіншуем нашага дырэктара.

— З чым? — прастадушна пытае жонка Юркова і ставіць на стол традыцыйную ежу — яечню-глазунню да смажанай бульбы.

Юркоў па-змоўніцку падміргвае:

— У нашага дырэктара сын радзіўся. І мне, бачыш, нічога не сказаў. Вось табе, называецца, друг...

Мікола-дырэктар стараецца зрабіць сур'ёзную міну, але твар яго расплываецца ва ўсмешцы. І вось ужо хлопцы

абодва рагочуць, ляпаюць адзін аднаго па плячах. Як доказ, што ў яго сапраўды нарадзіўся сын, Мікола дастае з кішэні ў дзве столкі складзеную тэлеграму, чытае: «Віншуем сынам. Здароўе жонкі і сына добрае».

З пакоя, які адвёў мне дырэктар нанач, я пачуў тарахценне электрабрытвы. Мікола ўжо канчаў галіцца. У гэты час зазваніў тэлефон.

— Я слухаю. Добрай раніцы,— адказваючы па тэлефоне, Мікола заканчваў ранішні туалет.— Камбайн на ўборку бульбы? Добра, зараз на пяцімінутцы вырашым.

На хаду размінаючыся, Мікола тлумачыць мне: «Гэта ўжо Леў Паўлавіч. Маторны хлопец. Спяшаецца, каб яму вызначылі бульбаўборачны камбайн. Малайчына. За якіх восем месяцаў ён у Старыне зрабіў сапраўдны пераварот. Праўда, гэта ў нас цяжкія брыгады: Старына, Гарадзец. Усё было вайною знішчана. Ні кала ні двара. А бязлесіца. Трэба было пабудавацца, а во прайшло столькі гадоў: у аднаго хата падгніла, у другога прыбудоўка-хляўчук састарыўся. А лес вунь аж пад Магілёвам, за Оршаю. І работа, бачыш... Пагодлівыя дні. Хочацца бульбу выхапіць, і лён гатовы, і буракі з зямлі просяцца...

Мікола заходзіць у рабочы кабінет, уключае лямпачку-сотку, і ўсё аж зіхаціць; у вокны ўжо цэдзіцца ранне. Глядзіць, жмурачыся ад яркага святла, на наручны гадзіннік і гаворыць:

— Яшчэ хвілін дваццаць ёсць, пачытаю пошту,— і разбірае паперы. Чытаючы, тут жа ўстаўляе заўвагі, нібы разважаючы сам з сабою: — Вось загад Горацкага вытворчага ўпраўлення. У ім ёсць і карысныя разлікі, рэкамендацыі. Але трэба сказаць, шмат яшчэ ідзе з раёна і з вобласці папер. Мы і самі ведаем, што памяшканні да зімы трэба ўцяпліць, што бульбянішча трэба пераараць, а лепш, калі і двойчы. Я вот што скажу: кіраўнік акажацца ў вельмі цяжкім становішчы, калі не здолее сам разабрацца са справамі на месцы і тут жа прыняць найбольш рацыянальнае рашэнне. Праўда, ёсць такія пытанні, што самім, без дапамогі, як гаворыцца, зверху, ніяк не вырашыць. Скажам, будаўніцтва, забеспячэнне гаспадаркі матэрыяламі, машынамі, угнаеннем і г. д. Але на гэты конт якраз і менш за ўсё ўказанняў і дырэктыў...

Наша размова абарвалася — пачалі заходзіць спецыялісты: Мікола Юркоў — галоўны аграном; прараб Васіль Мацвееў, галоўны інжынер Мікола Дудко, загадчык май-

стэрняў Сяргей Пахомаў, галоўны заатэхнік Мікола Голасаў, загадчык гаража Мікола Захаркін і выконваючы абавязкі кіраўніка цэнтральнага аддзялення Мікола Карпіцкі. Між іх, можа, толькі прараб Мацвееў ды ветурач Патапаў з выгляду — сталыя мужчыны. Усе ж астатнія, нават сам дырэктар, выглядаюць зусім хлопцамі. Можа, таму яны, як кажуць, для большай саліднасці, падкрэслена адзін аднаго называюць: Фёдаравіч, Піліпавіч, Іванавіч...

Акінуўшы позіркам прысутных, дырэктар звярнуўся да загадчыка гаража, які ўжо сядзеў напагатове з журналам:

— Колькі ў нас на ходу аўтамашын?

— Дванаццаць,— сказаў той, адкашляўшыся.

— Так,— задумаўся дырэктар, паглядзеў на каляндар, што ляжаў перад ім на стале.— У Касцюшкава трэба дзве... У Старыну — дзве, у Стараселле — дзве...

— Мне таксама дзве машыны, Піліпавіч,— сказаў Мікола Карпіцкі.— Адну па трасу, другую — бульбу адвозіць...

— Можа, яму адной хопіць? — уставіў Мікола Юркоў у роздуме.— Карпіцкаму тут блізка. Калі спатрэбіцца, можна і на конях падкінуць. Потым жа аўтакалона абяцала даць машын дзесяць. Як там, не ведаеш?

— Абяцалі, ды няма. Абяцаць усе ўмеюць,— знасліва кінуў Мікола, бліснуўшы сінімі вачмі, і ўжо спакойней: — Што ж зробім? Карпіцкі, кажаце, адной на сёння абыдзецца. Тады запісвай, Елісеевіч.

Удакладнілі заданне прарабу, загадчыку майстэрняў, вызначылі, хто куды паедзе, на які ўчастак трэба кінуць лятучку, каму ў першую чаргу патрэбна дапамога.

— Вот яшчэ ледзьве не забыў,— Мікола ткнуў пальцам у каляндар.— Да мяне тут ужо разы два прыходзіла жанчына з Канюхоў. Трэба ёй машыну выдзеліць. Хату раскідала, і трэба тэрмінова падвезці бярвенне. Нельга ж, каб сям'я была пад адкрытым небам!..

— Дык як жа, Піліпавіч? — было заікнуўся загадчык гаража.— Нявыкрутка з гэтымі машынамі. Можа, дні праз два...

— Нічога, як-небудзь выкруцішся,— рашуча адрэзаў дырэктар.— Жанчыне гэтай машыну выдзелі. Яна тут, у калідоры чакае. Яе прозвішча Серафімовіч.

— Тады, можа, лесавоз адарвём адзін?

— Калі ласка, можна лесавоз,— згаджаецца дырэктар.

І раптам тэлефон. Званілі з Касцюшкава. Там трактары-дызелі прастаялі ўчора ўвесь дзень.

— Якая прычына? — дырэктар нахмурыў бровы.—

Трактарысты не ведаюць, што ім рабіць? Лухта! Пераключыце на зябліва. Зразумела? Ну, добра.

Ужо на парозе дырэктар наказваў галоўнаму інжынеру Міколу Дудко, каб ён тэрмінова з'ездзіў у Касцюшкава, разабраўся, чаму прастаялі два трактары ў той час, калі там яшчэ не закончана зябліва.

— А вы, значыць, паедзеце ў Андзеклава? — дырэктар звярнуўся да Юркова.— Там паглядзіце, як працуе новы камбайн.

— Добра,— захінаючыся ў плашч, адказаў Юркоў.

Раніцай куртаты газік імчаў нас праз пасёлак. За рулём сядзеў Мікола-дырэктар, каўнер яго лёгкага палітона быў узняты, кепка ссунута на патыліцу. Моцныя, жылістыя рукі прывычна ляжалі на рулі. Любіць Мікола хуткую язду. І дарога з Леніна на Горкі — добрая. Шасейка. Леніна — вядомае сяло. Тут была славутая бітва, у якой удзельнічалі польскія воіны.

Мікола маўчыць. Лоб у зморшчынах. Вочы скіраваны ў адну кропку, чуйна ловяць кожнае імгненне дарогі. Мы дагналі фурманку, на ёй талака дзяўчат. Мікола як бы і не заўважыў яе, але нешта на яго твары адбылося, нейкае трапяткое хваляванне кранула, хоць на твары, здаецца, ні адзін мускул не ўздрыгнуў. Я азірнуўся. Адна з дзяўчат, у чырвонай хусцінцы, махала рукою. Усміхалася. Ці заўважыў гэта Мікола?

Маўчанне зацягвалася. І я сказаў, каб не маўчаць.

— А гэтыя палі ўжо не вашага саўгаса?

— Так,— нібы ачнуўся Мікола.— У гэты бок ужо... Вось, між іншым, направа землі калгаса «Звязда», дзе цяпер старшынёю Пятро Мяжэнін, адзін з нашай тройкі. Адзін з нашых піянераў, як нас тады называлі.

— Дык пра сваё раскажыце!..

Мікола ўсміхнуўся.

— Ды вот прыехаў я сюды дырэктарам,— як бы неахвотна пачаў ён.— Амаль такою ж парою, увосень. На ўсё жыццё запомніўся мне гэты дзень — першае кастрычніка тысяча дзевяцьсот шэсцьдзесят другога года. Дождж, слякатна. Прыняў стол з паперамі ад Новікавай, Ганны Аляксееўны. Што ж рабіць? Выйшаў з канторы. Пастаяў. На вуліцы — групкі мужчын. Тлум, таўкатня. На работу не ўсе выходзяць, зарплата больш як за два месяцы не плачана. Што людзям скажаш? Як падступіцца да іх?

Сабраў сходку ў Клімацічах. На ферме. А гразі — не

пралезці, каровы, ну, проста плаваюць у брудзе. Даяркі злуюцца. Ды як жа ім быць вясёлымі, калі ўсё бурыцца, кармоў некаму падвезці...

Мікола ўздыхнуў, і яго рукі яшчэ мацней, аж забялеліся пальцы, сціснулі руль; ён працягваў:

— Ведаеце, тады я пусціўся ў рамантыку. Пачаў расказваць ім, як людзі ішлі на подзвіг у вайну, нагадаў, як яны ж тут, на гэтай пакутнай зямлі, збудавалі сабе хаты пасля вайны, засявалі палі. Вы ж, гаварыў я ім, выйшлі жывыя з агню. Дык няўжо вы, моцныя і мужныя, дапусціце, каб гінула ваша праца, зараслі быльнікам вашы палі! І, ведаеце, што я ім прапанаваў перш за ўсё,— новага кіраўніка ўчастка, а таксама новага загадчыка фермы.

— Дык каго ж ты нам, дзіцятка, ужо прывязеш? — змерыла мяне насмешлівым позіркам кашчавая кабета.— Можа, такога, як сам, піянера?

— Так, цётка,— цвёрда сказаў я.— Такога. З райкома камсамола. Акадэмію заканчвае. Такі ж, як і я, аграномэканаміст.— Я меў на ўвазе Валодзю Механікава. І скажу шчыра, я не памыліўся. Валодзя, як і я, ночы не спаў. У яго такі характар: скажа слова, як адрэжа. Мы як-небудзь з'ездзім да яго ў госці. Ён за старшыню ўжо сам. Цягавіты хлопец...

Насустрач нам рухаўся чырвоны трактарок з цялежкай. Калі параўнаўся з газікам, Мікола раптам затармазіў, выскачыў на дол і да трактарыста:

— Віктар, ты трасту адвозіў?

— Адвозіў. Здалі,— адказаў трактарыст.— Але... нізкім нумарам...

— Адзінка? — на твары дырэктара адбілася трывога.

— Не, палавіна. Прыёмшчык нейкі... Да ўсяго чапляецца...

— Ну што ж. Едзьце!

За рулём Мікола зноў маўчыць. Відаць, заклапочаны тым, што няўдалы пачатак са здачай ільнотрасты. Летась увесь лён здалі ўдала. Самае меншае — поўным нумарам. А была і паўтарачка. А гэта, бачыш, палавіна толькі...

— Трэба мне і на льнозавод заглянуць,— вырашыў раптам дырэктар.— Гэта ж усюды сам не паспееш. Ды што зробіш, такая ўжо наша доля. Трэба паспяваць усюды, і самому быць у курсе... Цяпер з нашым галоўным інжынерам стараемся, каб займець свой станок. Зварка свая ёсць. І станок, думаю, здабудзем,— і засмяяўся іранічна: — Заўважце, не купім станок, як трэба было сказаць, а здабудзем!..

Перад пасёлкам нам сустрэлася лятучка. Высунуўшыся з кабіны, загадчык гаража Мікола Захаркін шчасліва ўсміхаўся. Ясна: ён зараз прывязе аж дзесяць рэсор. І заўтра ўжо сама меней чатыры машыны стануць у строй...

У той дзень Мікола паспеў пабыць у дзвюх брыгадах, гутарыў з жанчынамі, якія падбіралі са сцелішча лён; яшчэ раз заглянуў на поле да Каласоўскага, каб упэўніцца, як на таго ўздзейнічала ўчарашняя крытыка.

У цэнтральным гарадку, побач з двухрадным кароўнікам, які ўжо збудаваны, выведзены сцены цаглянага цялятніка, пастаўлены кроквы. На будоўлі разам з цеслярамі і мулярамі старанна працавалі студэнты-практыканты з акадэміі.

— Добрыя хлопцы,— коратка зазначыў брыгадзір будаўнікоў Васіль Карпіцкі.— Разам з намі і кладку вялі, і з сякерай завіхаліся, бы сапраўдныя цесляры.

— А што ж, можа, вясковыя, дык да ўсякай работы прывычныя змалку,— уставіў стары цясляр Аляксей Сілавіч.

— Нічога, цяпер і гарадскіх прывучаюць,— мімаходзь кінуў Мікола, пазіраючы асабліва пільна на сцены, і раптам да брыгадзіра: — Як вы думаеце, Васіль Кірылавіч, можа, сцены знадворку патынкаваць лепей? Зусім іншы выгляд будзе, і трываласць інакшая. Га?..

Васіль недаўменна пазірае на дырэктара, маўчыць у одуме, а потым, муляючыся, прамаўляе:

— Яно, канечне, было б, як той казаў... Але ж праект, адхіленне ж будзе. Ды і вапны няма. Расход цэменту... Можа, не варта?

— Думаеш, не варта,— імгненна наморшчвае высокі лоб Мікола, нешта прыкідвае, а потым упэўнена кідае: — Не. Будзем атынкоўваць. Знойдзем цэмент, вапну. Будуем надоўга. Тут жа гарадок. Парайся з прарабам і тынкуйце.

— Добра,— згадзіўся брыгадзір, характэрным рухам падшмаргнуў порткі, сеў.

Можа, адчуўшы, што дырэктар ужо збіраецца, дзядзька Карпіцкі неяк падхапіўся, затупаў у нерашучасці. Мікола як бы заўважыў гэта і спытаў, звяртаючыся да прысутных:

— Можа, таварышы, да мяне ёсць якія асабістыя справы?

— Я ўжо не ведаю, ці асабістае гэта дзела,— шарганула па вусах дзядзька Карпіцкі.— Гэта ж я хацеў тутака вам сказаць пра нашага майсееўскага брыгадзіра. Пра Мішуль-

скага. З учотам у нас, у Майсееўцы, няладна. У тым месяцы я дзень пры дні хадзіў, а ў яго некалькі пропускаў. Чатыры дні падрад прапусціў, хаця б капейка, а ў яго толькі прочаркі. Забывае, напэўна...

— Ат, кінь, ты, Дзямянавіч, чаўпеш абы-што,— смяюцца мужчыны.— Сапраўды, можа, забыў чалавек.

— Не, таварышы, гэта сур'ёзная справа,— перапыняе іх дырэктар і гаворыць: — Перадайце Мішульскаму, каб выправіў усё як трэба. А калі што якое — зайдзіце тады да мяне,— і пачаў развітвацца з цеслярамі. А потым усклікнуў: — Ледзь не забыў! Аляксей Сілавіч, як квартэт цымбалістаў. Да свята рыхтуецеся?

— А як жа, Піліпавіч? — шчупленькі дзядзька прыняў важнецкую паставу.— Уся наша капэля ў зборы. І Міхаль Карпіцкі, і Валодзя Раемскі, і Ціхан Калычэўскі. Як гаворыцца, скрыпка, цымбалы, гармонік і бубен... Усе напагатове. Думаю, што не падкачаем, як тады, на маёўцы. А можа, яшчэ нас на агляд у Горкі ці Магілёў пашліцё? Прывязём яшчэ саўгасу дыплом.

— А што ж, пашлём!

...Паплылі волкія прыцемкі, калі Мікола, з усіх бакоў агледзеўшы газік, задам упіхнуў яго ў гараж. На колькі хвілін рашыў заскочыць у кантору. Там за дзень вунь колькі набралася папер. Вядомая рэч, яго спынілі яшчэ на ганку.

— Таварыш дырэктар, мы прыехалі, каб дамовіцца наконт насення кармавых буракоў...

— Піліпавіч, мы ўжо збіраемся да ад'езду,— плячысты хлопец з рукзаком і ў зацухмоленых штоніках гаварыў хутка, як бы заікаючыся.— Дык мы, Піліпавіч, рашылі вечар зрабіць. Ну, разумееце, на ад'езд, на развітанне. Мы хочам, як належыць, з канцэртам. Уся наша група. Мы са сваім факультэцкім ансамблем. На суботу. Ці можна?

— Го! — узрадаваўся Мікола.— З радасцю, з вялікім задавальненнем. Ідзіце да Туркова, загадчыка клуба, няхай наша камсамолія падключаецца, і дзейнічайце. Ну, вядома, і нас запрашайце!..

— Абавязкова, Піліпавіч.

На ходу ўжо не дванаццаць, а чатырнаццаць аўтамашын. Па тэлефоне пазванілі з Горак, што прыбудзе з аўтакалоны яшчэ дзесяць. Затое сёння — новыя клопаты. Як выявілася, бульбакамбайн у Касцюшкаве стаіць з тае прычыны, што кіраўнік аддзялення баіцца пускаць яго на

палетак. У Старыне таксама непаладкі — бульбакамбайн сапсаваўся.

— А ў Луках? — пытае дырэктар.— Там жа гаворать, што ўжо тры дні працуе. Не ведаеш, Іванавіч?

Мікола — галоўны інжынер, гарачы па натуры хлопец, аж прытопнуў нагою ад хвалявання: твар у яго чырвоны, вочы ліхаманкавыя.

— Гэта ж такая машына, ліха на яе!..— Мікола заікаецца, хвалюецца.— Такі камбайн. У рабоце ён эфектыўны, чыста ўбірае, але часта выходзіць са строю. На дні трэба разоў колькі пасылаць зварку!..

Вырашылі — у першую чаргу разабрацца з камбайнамі, пабыць у кожнай брыгадзе, праверыць, як складваецца льнотраста. Прапанавалі галоўнаму аграному, каб адправіўся ў Андзеклава, дзе асабліва дрэнна складвалася траста ў стажкі.

— Гэтыя стажкі,— падкрэсліў дырэктар,— у мяне выклікаюць трывогу. Разбярыся, Фёдаравіч.

— А вы куды паедзеце? — у сваю чаргу запытаў галоўны аграном.

— У Стараселле, Лукі... І вы з намі, Мікалай Змітравіч?

— Так, паедзем,— сказаў галоўны заатэхнік і дадаў: — Мы думаем удвух з Анатолем Якаўлевічам, галоўным урачом. Трэба паглядзець статак у Стараселлі.

— Тады збірайцеся.

За рулём — дырэктар. Ехалі палявой дарогай, якая то гублялася ў нізінах, то стужкай шарэла на пагорках. Справа — рудыя, зрытыя акопы і траншэі на пагорку. Самая вяршыня яго ў мінулую вайну называлася «Вышыня 215». Тут праходзіла агнявая паласа. І праз гады, дзе ні капянеш, скрозь гранаты, снарады, міны. Так і пустуе зямля. Днямі сюды прыйдзе каманда сапёраў, і яшчэ гектараў пяцьдзесят зямлі вызваліцца ад слядоў вайны.

— А яшчэ ж і балота,— заўважае ветурач Патапаў.— Таксама праз гэтыя міны нельга паткнуцца. А ваша якая была б. Пяцьсот гектараў!

— Таксама без сапёраў нічога не зробіш,— задумаўся дырэктар.— Але ўжо будзем брацца за асушку. Настаў час...

Загаварылі пра тое, што рупіла сёння, пра жывёлагадоўлю. Блізілася зіма. Жывёлы шмат, кароў каля тысячы чатырохсот, а цёлкі, цецелі, бычкі — звыш трох тысяч га-

лоў ды амаль столькі ж свіней. Кармоў сёлета для іх хопіць. Але трэба па-гаспадарску ўсё ўпарадкаваць. Цікава, што кукурузы сеялі амаль на палавіну менш, а сіласу — у тры разы больш. Прыгадаліся словы галоўнага агранома Міколы Юркова, які сказаў, што кукурузу вырасцілі і ўпарадкавалі без ручной працы, механізмамі. І ў выніку — дзяшовы сілас.

— Баюся я, хлопцы,— трывожліва звярнуўся Мікола да сяброў,— каб нам хаця з буракамі ўправіцца. Сёлета такія ўрадзілі, што сваім вачам не верыш. А плошча вунь якая — больш за трыста гектараў!

— Па чатырыста цэнтнераў кармавых, напэўна, будзе? — пусціліся ў разлікі спецыялісты.

— У Клімацічах і па шэсцьсот цэнтнераў будзе,— заўважыў дырэктар.— Я глядзеў на тыя буракі — золата, незамянімая культура ў кармавым балансе. Не дзіўна, што такое дарагое насенне. Сёлета за яго выручым добрыя грошы!..

У Стараселлі спыніліся ля канторы. З дзвярэй выйшаў рухавы мужчына ў пінжаку і збітай на патыліцу кепцы, паздароўкаўся з кожным за руку. Гэта быў кіраўнік старасельскага аддзялення Іван Аляксеевіч Лазечны. Агледзелі кароўнік. Потым усе ўціснуліся ў газік і ўзялі кірунак на поле, дзе за ўзгоркам пасвіўся статак. У дарозе галоўны заатэхнік Мікола Голасаў расказваў, што ў саўгасе вядзецца работа па паляпшэнню пароднасці жывёлы. Саўгасцам дапамагае кафедра развядзення жывёлы сельскагаспадарчай акадэміі.

— Малайцы,— коратка кінуў дырэктар.

— Паглядзім яшчэ што будзе,— недаверліва заўважае Мікола Голасаў.— Мы хочам паступова перайсці на жырэйскую пароду кароў, выведзеную ў Даніі. Гэта вельмі тлустамалочныя каровы. У нас ужо вясною іх будзе дваццаць пяць...

Галоўны заатэхнік і ветурач засталіся ля статка, а дырэктар з кіраўніком аддзялення накіраваліся ў Гарадзец. І таксама адразу да фермы.

— Паглядзім, як забуртаваны сілас, Іван Аляксеевіч,— дырэктар выскачыў з газіка, ускарабкаўся на штабель, пахадзіў туды-сюды і раптоўна засунуў руку ў сечанку.— Эх, чорт вашу... Што ж вы нарабілі! Сілас як мае быць не прыкаталі. Эх!..

Лазечны разгублена лыпаў вачамі.

— Ды не, Піліпавіч, прыкаталі. Сам быў. Можа, апошні рэйс толькі. Не можа ж гэтага быць...

— Канечне, не прыкаталі,— аж збялеў Мікола.— Паедзем да Прыёмкі!..

Спыніліся ля хаты брыгадзіра. Выйшаў з хаты Прыёмка. Стаў у чаканні, што скажа начальства. На заўвагу дырэктара, што чатырыста дваццаць тон сіласу можа сапсавацца, ён гаварыў:

— Нічога я не ведаю. Я ж даваў нарад... Мне во хапае работы, пакуль усё пазапісваю і падлічу...

— Ерунда! — узлаваўся Мікола: — Якаў Антонавіч, вы ж гаспадар. Сотні гектараў зямлі, людзі, фермы. Як некалі, дык гэта цэлы калгас быў. За колькі крокаў гэты бурт, і вы не схадзілі, не паглядзелі. Скажыце, што ў вас сёння больш важнае ёсць, каб не пабыць ля бурта. А вы са сваімі запісамі. Ды на гэта і ўчотчык ёсць. Скажыце, а траста складзена ў стажкі?

— Складзена,— panыла сказаў брыгадзір, трушчачы папяросіну ў руках.

— Едзем, паглядзім,— Мікола ўжо сядзеў у машыне, уключыў скорасць і раптам перадумаў: — Не, Антонавіч, ідзіце да трактарыста, няхай заводзіць трактар. А мы якнебудзь разбяромся.

— Разбяромся,— пацягнуўся рукою да шапкі Лазечны.— Праедзем тут, узрэччам...

Праз паўгадзіны дырэктар зноў даваў праборку брыгадзіру, а з ім заадно і Лазечнаму за тыя стажкі. Дырэктар і ў дарозе не мог супакоіцца, калі вярталіся з Гарадца.

— Іван Аляксеевіч! Як не сорамна,— ушчуваў дырэктар Лазечнага, які на добрага паўтара дзесятка гадоў старэй за яго.— Лён! Гэта ж столькі на яго патрачана! І праз нядбайства аднаго-двух чалавек усё можа загінуць. Стажок — якая тут патрэбна навука? Забі калок. Кладзі роўненька, снапок да снапка, завяршы як мае быць. І ўся мудрасць. Не такія рэчы асвойваем, а тое, што дзяды нашы рабілі, мы не ўмеем зрабіць. Ганьба!

Лазечны — чалавек ціхі і чэсны — не ведаў, куды дзецца ад сораму. Пот заліваў яго загарэлы, з белым ілбом твар; ён аціраў яго і ўсё прыгаворваў:

— Не дагледзеў, падправім. Калі ўсё з бульбай гэтай. Пагода. Кідаешся як угарэлы...

— Не трэба кідацца без толку,— ужо супакоіўся дырэктар, адкінуўшыся на спінку сядзення, руляваў, нібы запраўскі шафёр.— У цябе ж ёсць брыгадзіры, учотчыкі, камуністы расстаўлены на ўчастках, камсамольцы. Сход брыгадны быў у Гарадцы? Не. Бачыш. Падрыхтуйце, па-

гаварыце. Я думаю, што трэба наладзіць прачуханку Прыёмку. Нічога, дапаможа!..

У Стараселлі ў газік паселі Голасаў і Патапаў. Размова вялася зноў вакол жывёлагадоўлі. Асеменатарская справа. Колькі яшчэ цяжкасці з ёю!

— Новае заўсёды даецца нялёгка,— разважае дырэктар у роздуме.— Нават, калі гэта новае і нязначнае, яно заўсёды патрабуе ўпартасці і волі. А ведаеце, хлопцы, што каб на асеменатараў падгаварыць дзвюх дзяўчатак? Скажам, з даярак. Пашлем іх на курсы, добрую аплату дадзім... У Стараселлі ёсць дзве такія дзяўчыны — Люба Мірончанка і Таня Цімашкова. З іх і трэба пачынаць.

Яны калектыўна развівалі сваю думку далей. Машын шмат, тэхнічнае ўзбраенне гаспадаркі расце. У гарачую пару здараецца, што не хапае мужчын, каб пасадзіць на трактар, на аўтамашыну. І тут выхад ёсць. Трэба прыахвочваць да гэтай справы дзяўчат. Кожны год са сцен мясцовай школы ў саўгасную сям'ю ўліваецца папаўненне. Невялікае, але ж папаўненне. Трэба дапамагчы моладзі знайсці сваё месца ў калектыве, выбраць ім спецыяльнасць, якая адпавядала б іх марам і прызванню.

...Гарыць святло ў крайнім акне канторы. Значыць, дырэктар працуе. Да яго можна зайсці ў любы час. І ён не скажа: мне няма часу ці зайдзіце ў другі раз. Абавязкова пасадзіць на канапе, пагаворыць і, самае важнае, справу вырашыць сам, не перакладаючы на чужыя плечы. Мікола разбірае паперы, што набраліся за дзень. Сярод іх знаходзіць тэлеграму: «Заўтра пленум парткома. Ваша яўка абавязковая». Ну, нічога. Папрацуем крыху пазней, а з раніцы ўсё ўпарадкуем на наступны дзень.

...Як заўсёды, раніцай пяцімінутка. Размеркавалі, хто куды паедзе, хто са спецыялістаў прысутнічае на сходах у брыгадах.

— Фёдаравіч,— звярнуўся дырэктар да галоўнага агранома Міколы Юркова,— вы будзеце ў Гарадцы. Пагаварыце там з людзьмі. Калі што якое, дык з Прыёмкам трэба вырашаць цвёрда. Замену знойдзем. Так... Брыгадзіры, брыгадзіры,— Мікола кудлаціў чупрыну, уздыхаў.— З іх трэба пачынаць у першую чаргу, калі мы хочам падняць аўтарытэт кіраўніка!..

— Не ведаю, можа, і сёння правядзём там сход,— азваўся Юркоў.— Мне здаецца, што Прыёмка яшчэ можа там трымацца, калі яго добранька ўстрахнуць. А на перспектыву, канечне, трэба шукаць туды чалавека...

Пачалі разыходзіцца. З пачкам газет пад пахай усё яшчэ стаяў сярод кабінета Емяльянавіч, каранасты, шырокі ў плячах мужчына. Яго пастава нечым нагадвала каржакаваты дуб, які рос сярод поля на адкрытых вятрах. Патупаўшы на месцы, Емяльянавіч кракнануў і магутным басам загаварыў:

— Дык што ж гэта такое, Піліпавіч? Што гэта закрыты мой гэты кабінет? Мяне ж, ведаеце, вобласць ставіла...

— Дык хто ж закрыў ваш кабінет? — стрымліваючыся, каб не рассмяяцца, спытаў Мікола, скеміўшы, пра што пытаўся стары. Ён ведаў, што на дзвярах кабінета палітасветы, якім Емяльянавіч загадвае на грамадскіх пачатках, усё лета вісеў вялізны замок. Як вядома, час быў гарачы, і туды мала хто заходзіў. А цяпер, вядома, нельга, каб замок гэтак вісеў. Але што ж зробіш, стары чалавек, семдзесят гадоў! Емяльянавіч сам павесіў гэты замок і забыўся пра яго. Але ж ён яшчэ дзябёлы, ні аднаго сходу не прапусціць. Ахвотна выступае перад моладдзю. На святочных вечарах — яму ганаровае месца. З характарам стары, але яго трэба берагчы.

Развітваючыся з Емяльянавічам, Мікола сказаў:

— Хутка пачне заняткі універсітэт сельскагаспадарчых ведаў, і, канечне, замок з кабінета трэба зняць!..

— Дык як жа, Піліпавіч, там жа ў мяне падшыўкі, кніжкі... Парасцягваюць, шалахвосты!

— Правільна, яны патрэбны для слухачоў.

— Дык я ўжо пайду, Піліпавіч,— падаў дырэктару стары шырокую, як лапата, руку.— З настаўнікамі там правяду ўжо сход.

Газік стаяў на прывычным месцы — перад канторай. Ля яго дзелавіта паходжваў Ілья — шафёр. Падцягнуты, нібы салдат, нетаропкі, як селянін.

— У Горкі? — пацікавіўся ён, калі Мікола падышоў да машыны.

— Так, адвязеш мяне, а потым я пазваню. Мы яшчэ паспеем схадзіць на зерняток.

Новы зерняток — гонар саўгаса. Гэта будоўля, якую дырэктар трымае пад асабістым сваім кантролем. Вяршылаўская ініцыятыва.

Кіруючыся праз дарогу на пагорак, дзе ўзвышаецца гэтае новае збудаванне, Мікола расказвае, што зерняток дасць магчымасць завяршыць механізацыю ў земляробстве. Як вядома, усе працэсы вырошчвання зерня механізаваны. А вось з гатовым зернем — колькі яшчэ клопату!

Трэба яго ссыпаць ды пералапачваць, вазіць ад тока на склад, са склада зноў на склад, на фермы. Адразу сабекошт збожжа павышаецца. Нават тыя нарыхтоўчыя цэны, што цяпер дзейнічаюць, не аплочваюць усіх затрат. З уводзеннем у строй новага механізаванага зернятока рэзка падзешавее сабекошт збожжа. Як расказвае Мікола, рашылі зерняток збудаваць. Але гэта яшчэ не ўсё. Як жа ажыццявіць задуму? Аказалася, што на шляху яе цэлыя завалы перашкод: банк патрабуе праект зернятока, каб асігнаваць на яго абсталяванне грошы, а праектныя арганізацыі не даюць без грошай праекта. Не здзіўляйцеся! Гэта было не так проста, аж да Масквы давялося дырэктару дайсці.

Цяпер засталося зусім мала — зрабіць загародкі з бакоў ды сякую-такую дробязь унутры, і ток гатовы. Калі ласка, новы ўраджай пойдзе адразу ад камбайна на транспарцёр, дзе зерне пройдзе ачыстку, сушку і вернецца ў склад, які тут жа.

— За гадзіну дзесяць тон збожжа! — захапляецца Мікола.— Між іншым, гэта такая зручная рэч, што не адразу зможаш яе ацаніць. Як кажуць, не пакаштаваўшы, не адчуеш смаку...

Ілья, шафёр, уключае хуткасць. Мікола кідае ў задок кепку, бо горача, прычэсвае валасы. «Выступаць, напэўна, не буду,— рашае ён, а ў галаве роем кружацца думкі: — Учора глядзеў зводку ў раённай газеце. Па мясу — на трэцім месцы, малаку — на першым сярод саўгасаў. За няпоўныя дзевяць месяцаў здадзена тысяча дзевяцьсот тон. І яшчэ будзе пяцьсот пяцьдзесят тон. Цэлае возера! Па надоях ленінцаў апярэджвае толькі калгас «Звязда», дзе старшынёю, між іншым, Міколаў сябар Пятро Мяжэнін. Гэта цяпер, а ўлетку ўвесь час першае месца было за саўгасам. З бульбай, з буракамі сёлета выйшлі ўдала. Бульбы столькі, што можна дзяржаве здаць чатыры планы. Былі б толькі машыны, каб своечасова яе вывезці. А то Гусеў абяцаў дзесяць машын, а прыйшлі толькі дзве...»

Газік абганяе адну машыну, другую. Поўныя кузавы трасты. А вось грузавік з бульбай, яшчэ грузавік з яблыкамі. У кабінах — знаёмыя твары. Вясёлыя ўсмешкі. «Цісніце, хлопцы. Спяшайцеся». І раптам сустрэлася трохтонка з ільнотрастой — паклажа збілася на бок, сям-там тырчаць вехці. Адкуль гэта? А, ясна. З Жаўлакоўкі. Вось расцяпа-брыгадзір, ды і кіраўнік аддзялення — таксама гаспадар! Усё ж дрэнна яшчэ сартыруюць трасту, а потым наракаюць на прыёмшчыкаў.

З парткома Мікола вярнуўся ўвечары, прыцемкам. Як звычайна, стройны, парывісты, але стомленасць адчувалася і на твары, і ва ўсёй паставе. Мікола быў на здзіўленне маўклівы, хмурны. Ці не здарылася што?

— Не, усё добра,— нехаця сказаў ён.— Не крытыкавалі. І ўсё ж давялося выступіць...

Селі за вячэру.

— А хлеба ты зноў не прывёз, Коля? — дакараў яго Вяршыла-малодшы, студэнт сельскагаспадарчай акадэміі, ставячы на стол талерку з духмяным супам.

— От, чорт, забыў зноў жа! — спахапіўся Мікола. Яму ўспомнілася, як Сівакоў упхнуў у машыну сетку буханаў, а яму і ў галаву не прыйшла такая думка. Услых жа сказаў: — Нічога, суп густы. Вот, праўда, скваркі... Але нічога, з'ядзім...

— А скваркі добрыя? — пажартаваў Вяршыла-малодшы, беручыся і сам за лыжку.— На складзе выпісаў, па сабекошту. Удалая свініна...

— Кажаш, па сабекошту,— падхапіў Вяршыла-старэйшы, хукаючы ў лыжку.— У нас усе рабочыя выпісваюць па сабекошту, а настаўнікам — па сельпоўскай цане. Вот, чорт, глядзі, якая негоцыя?.. А жывуць у адным пасёлку, дзяцей нашых вучаць...

...Мы выйшлі на двор. Позні вечар. На нас глядзіць круглы зыркі месяц. У небе трымцяць буйныя, па яблыку, зоркі. Ад узрэчча наплываюць сівыя, цёплыя хвалі туману. Бярозкі, ліпы перад домікам нейкія прыціхлыя ў салодкай дрымоце, як абсыпаныя серабром.

— Якое хараство! — Мікола расхінуў пінжачок, падставіў грудзі гаючай свежасці, закінуў галаву ўгару і прагаварыў: — Вялікі загадкавы свет быцця! А чалавек — уладар сусвету — пранікне ў яго таямніцы. Чалавек ужо там. І, пэўне, скора будзе на Месяцы. Чуеш, ганарысты Месяц! — і ён раптам пачаў чытаць ціха, летуценна:

Вот уж вечер. Роса
Блестит на крапиве.
Я стою у дороги,
Прислонившись к иве.
От луны свет большой
Прямо на нашу крышу...

Гэта — Ясенін. Мікола, аказваецца, многія вершы Сяргея Ясеніна ведае на памяць.

Загусцелася чароўная ціша. Месяц падсвечваў пасёлак ужо з другога боку, ад старасельскай дарогі. А ён усё расказваў. І пра свайго бацьку-нябожчыка, які змалку пры-

ахвоціў сына да касы і плуга, і пра свае юначыя захапленні, пра мудрую навуку жыцця, якую выкладаў яму самавук-старшыня ў калгасе «Чырвоны бераг» на мяжы Браншчыны і Магілёўшчыны, дзе ён у дзевятнаццаць гадоў стаў за старшыню. І самае цікавае — пра сенакосныя нядзельнікі, якія з яго прыходам укараніліся ў пасёлку.

— Я нейкі дзівак,— памаўчаўшы, загаварыў Мікола.— Напэўна, не прывык бы ў горадзе. Вот не люблю, і ўсё! Ніякія там камфорты не змяняю на гэтую месячную цішу. Дзіўная рэч! Вот і мама мая. Паклікаў я яе сюды, каб са мной жыла. Адзін жа быў. Днямі цягаешся, а прыйдзеш — халадэча, сум. Дык яна пажыла-пажыла і сказала мне: «Адвязі мяне, сынок, у родную нашу Пясчанку, бо тутака я памру. Яшчэ, можа, каб хата была як хата, а то нейкія чатыры каморкі, як клеткі ўсё роўна. Завязі, і ўсё». І мусіў адвезці.

Між іншым, памятаеце фурманку на шасейцы? Гэта ехалі студэнты з акадэміі. І сярод іх тая, у чырвонай хусцінцы. З ёю я сябраваў. Нашы дарогі разышліся, бо яна сказала, што ніколі не паехала б са мной у вёску.

Заліты ранішняй імглістасцю луг. Шырокі-шырокі, аж да неба. І на ім постаці касцоў. Наперадзе ў белай, пад паяском, кашулі, расхлістаны і загарэлы, сігае Мікола Вяршыла. Роўна, на шырокі захват шыбае касой, аж цаўё рыпіць, а каса спявае: «Жж-ык, жж-ык!» Трава кладзецца, а ў пракосах кветкі цвітуць, як жывыя. За ім спяшаецца доўгі, у акулярах і ў гумавых ботах, Мікола Юркоў. Тут жа сакратар парткома Васіль Уласенка і камсорг Мікола Мяцеліца, і ўсе мужчыны, нават таўсташчокі прараб. І настаўнікі, і кааператары, і медыцынскія работнікі. Ад касцоў аж бялее ўвесь луг. І над усімі ўладны і басавіты голас старога Емяльянавіча-Васькоўскага: «Ану вас з вашым рэгламентам! Слухайце, калі вам гавораць. Уся рэспубліка ведае, хто такі Васькоўскі, а вы рэгламент!»

А ўсцяж пракосы, пракосы. Духмяным водарам прапахла ўсё навокал. І на вачах растуць, растуць стагі. Крутабокія, вострымі пікамі праткнулі сіняе покрыва неба.

...Мікола, мыючыся, пырскае сцюдзёнай вадою, захліпаецца ад смеху, калі я яму расказваю пра гэты сон.

— Дык гэта ж праўда! Ужо два гады, як сенакос у пасёлку — сапраўднае свята. Па сто касцоў набіралася талака...

У нядзелю быў аб'яўлены рабочы дзень, бо на дварэ стаяла цяплынь, а работы вунь колькі. І пяцімінутка была, як звычайна. У некаторых брыгадах прайшлі сходы. І Мікола Юркоў правёў сход у Гарадцы. Ён расказваў:

— Ого, як заварушыўся Прыёмка. Даў слова перад усімі, што справіцца. Паглядзім. За лён як мае быць узяліся. Сам бачыў, як сартыравалі. І Прыёмка, выходзіць, не такі ўжо няўмека. Ведае, як і стажкі тыя рабіць. Лянота-матухна адалела. Праз яе ўсе грахі!..

— Добра,— заключае дырэктар і зноў пытае: — Яшчэ ёсць што ў каго?

— Трэба было выявіць дакладна, што нам праектуецца на наступны год,— падае голас прараб Васіль Лаўрэнавіч.— Бо нешта Кашуба, старшы інжынер упраўлення, казаў, што нам яшчэ адзін шаснаццацікватэрны дом замнога...

— Нічога не ведае ваш гэты Кашуба,— абрывае яго дырэктар, нахмурыўшыся.— Нам хоць дзесяць такіх дамоў і то было б мала. Між іншым, як там у Гарадцы тыя сёстры Жураўскія, што столь у іх падпёрта жэрдкай, будуць браць новы зруб? Не ведаеш, Фёдаравіч?

— Чаму ж, ведаю,— адгукваецца Мікола Юркоў.— І пра гэта між іншым ішла гаворка на сходзе. Трэба Жураўскім абавязкова памагчы. У той хаце ўжо ніяк жыць нельга...

— Вось бачыш, Васіль Лаўрэнавіч,— дакорліва ківае дырэктар,— такія сем'і ёсць амаль у кожнай вёсцы. Іх хутчэй трэба перасяляць. А ты кажаш, што гэтыя пытанні можна вырашыць за пятнаццаць хвілін. Мне трэба сабрацца з думкамі. І ты таксама падумай!..

— Ды што думаць! — махнуў прараб кепкаю, якую трымаў у руцэ.— Кашубу я ведаю, скажа — будуйце сваімі сіламі...

— Сваімі сіламі,— іранічна ўсміхаецца дырэктар.— Гэта мы і без яго ведаем. Але ж мы не будзем клеткі гарадзіць. У нас жа праекты ёсць. Нам трэба будавацца, каб людзі пасля не сказалі, што тут былі безгаловыя гаспадары.

Прараб моўчкі, з кепкай у руцэ, тупаў на месцы.

— Мікалай Змітравіч,— звярнуўся дырэктар да галоўнага заатэхніка.— На свінаферме паглядзіце, як там кормяць, што свінням даюць цяпер.

— Бацвінне, буракі,— пачулася ў адказ.

— Ведаю. Але кідаюць буракі адразу з воза, не здрабняюць, не мыюць. У Касцюшкаве буракі сякуць тапаром, рэжуць нажом, а карнярэзка стаіць побач...

— І скажыце, што гэта такое? — падхопліваецца Мі-

кола Юркоў, рашуча хапаецца за акуляры.— Вось жа машына! Націсці кнопку і глядзі, як сыплецца сечка. Дык не, будзе стругаць той бурак нажом, мазалі натрэ па шапцы, а калі скажаш, чаму не ўключае сячкарню, пачне выдумваць, што святла не было ці яшчэ што-небудзь... Памятаеце, і з сіласам, калі задумалі механізаваную разгрузку, было такое. Прыдумалі зусім няхітрае прыстасаванне. На дно кузава пад груз паклалі такую лёгкую рашотку з тросікам, і адзін шафёр лёгка ўпраўляўся на разгрузцы. Дык вы думаеце, першы дзень на разгрузцы стаялі самі: і галоўны інжынер, і галоўны аграном. Усе хвалілі і рабілі так, як паказвалі ім, а як адышліся, то шафёры адразу ўзяліся за вілы. Адзін шафёр дык яшчэ доўга ўпарціўся. Дык скажыце, што гэта такое?..

— А гэта, дарагі мой,— дырэктар весела жмурыцца, разміначецца,— гэта, як пішуць газеты, укараненне новага. А табе, гарачаму прыхільніку славутага Дакучаева, вядома, што ўсё новае, маладое нараджаецца ў муках, а старое не здаецца без бою. Ваша ж прыстасаване для разгрузкі сіласу — не вілы, якімі карысталіся нашы прадзеды і дзяды, а нешта ўжо новае!..

— І яго, выходзіць, трэба ўкараняць з боем,— смяецца Юркоў.

— Не смейся, Фёдаравіч,— перахоплівае дырэктар.— Я абсалютна ўпэўнены, што самае цяжкае для кіраўніка — гэта ўкараненне новага, хоць яно, гэтае новае, і зусім нязначнае. Тут многае будзе залежаць ад нашай волі і ўпэўненасці.

— Упэўненасць ёсць,— пачулася ў адказ.

— Тады парадак.

...У Стэфанова да жывёлаводаў Мікола Вяршыла рашыў з'ездзіць неадкладна. Выспела думка — перавесці стэфаноўскую ферму ў Стараселле, дзе новыя памяшканні, ёсць сякая-такая механізацыя. А тут — стары, з падгнілымі шуламі кароўнік! Ваду жанчыны цягаюць жураўлём, кармы разносяць посцілкамі. Ды якая гэта ферма — 53 каровы!

З другога боку — там жа людзі: чатыры даяркі, падвозчык, вартаўнік. Нягледзячы на тое, што людзі робяць усё ўручную, ферма па надоях займае адно з першых месц па калгасу. Па пуду малака на карову ўлетку надойвалі стэфаноўскія даяркі. І ўсё рукамі! Ад цямна да цямна на кароўніку.

Калі дырэктарскі газік, развярнуўшыся, стаў на мурагу ля кароўніка, сюды хутка сабраліся жанчыны. З варот вы-

глянула адна, выцерла рукі аб фартух і падышла да машыны, павітаўшыся з дырэктарам за руку. І стала сціпла, схаваўшы рукі за той жа фартух. Праз хвіліну падышла другая — бойкая дзяўчына, усміхнулася, здароўкаючыся. З канца вуліцы спяшался і трэцяя, пажылая кабеціна. У ватоўцы, у цёмнай, абшытай стужкамі ўнізе, спадніцы. Сціпла стала зводдалі. Няёмкае маўчанне. Жанчыны чакаюць, што скажа дырэктар, а ён да іх з пытаннем:

— Дык што будзем рабіць, жанчыны?

Наперад выступіла тая, што першай падышла да машыны — Марыя Шафранская. У сваю чаргу з няпэўнай усмешкаю на твары спытала:

— Гэта вы ўжо нашых «люсек» забіраеце, Піліпавіч?

Дырэктар маўчаў, задумаўшыся. А потым рашуча загаварыў пра тое, што кароў тут няма сэнсу трымаць далей. Але ўсё ж ён хацеў бы паслухаць, што скажуць самі жывёлаводы. Усё ж, як ні кажы, ім давядзецца хадзіць на работу ў Стараселле, за тры кіламетры. Наперадзе зіма, халадэча.

— Пераводзьце, чаго тут думаць,— махнула рукою дзяўчына ў квяцістай хустцы.— Надакучыла ўжо... Толькі знаеш адно, гэты кароўнік!..

— Табе што, Таня, клуб ды кіно,— выступіла наперад тая кабеціна ў стужкастай спадніцы.— А як жа я тады буду, калі каровак ад нас забяруць? Мне тады ўжо хоць кідай гэту ферму. Як я з вамі, маладымі, спраўлюся?

Марыя Шафранская была за тое, каб усё засталося, як раней. Таня Цімашкова, камсамолка, рашуча заявіла, што далей у такіх умовах працаваць нельга. Пажылая кабета моўчкі ўздыхала. Тады, выгаварыўшыся, Шафранская згадзілася:

— Ну, што ж з вамі зробіш: забірайце ўжо...

— Я ж ведаў,— усміхнуўся Мікола,— што згодзіцеся. Зімой можна будзе ездзіць на фурманцы, а хто хоча — можна кватэру знайсці...

Як здавалася, кожны добры кіраўнік, калі ён хоча карыстацца павагай і даверам людзей, павінен мець зусім пэўныя рысы характару, такія, як цвёрдасць слова і паслядоўнасць дзеянняў, абвостранае пачуццё адказнасці і ўменне трымаць сябе пад жорсткім унутраным кантролем.

Думалася, што гэтыя якасці ў сваім характары выкоўвае і Мікола. Сапраўды, трэба было мець мужнасць і цвёрдасць волі, каб зламаць недавер'е і абыякавасць, што былі пасеяны ў мінулым. Не, тыя, што тут сядзелі за плячамі добрай цёткі-дырэктара, не здаліся без бою. Яны спрабава-

лі новаму дырэктару навязаць свае, прывычныя метады кіраўніцтва, схіліць яго пайсці за імі. І, дзіўная рэч, калі гэта ім не ўдалося, яны разышліся, хто куды. Няма ўжо ні аднаго спецыяліста, які працаваў пры Ганне Аляксееўне. Адны пайшлі адразу, другія крыху пазней. На іх месца заступілі новыя — піянеры, як іх называлі спачатку. Міколавы сябры. Паплечнікі. Сябры ў тым сэнсе, што яны падзяляюць яго думкі наконт стратэгіі, наконт сваёй ролі, як арганізатараў вытворчасці. Яны часта спрачаюцца, нават рэзка, але ўсё ж прыходзяць да таго варыянта, які найбольш эфектыўны, найбольш зручны. Яны разам думаюць над тым, за якое звяно ўхапіцца, каб выцягнуць гаспадарку з прарыву.

Мне ўсё карцела нагадаць Міколу, што ён абяцаў з'ездзіць да сяброў. І ён сказаў:

— Я і сам хачу пабыць у Валодзі, паглядзець.

...З Горак па шасейцы на Оршу ёсць вёска з дзіўнай назвай — Сава. Гэта цэнтр калгаса імя Мічурына, куды мы неўзабаве прыехалі. Каб знайсці старшыню, нам давялося з'ездзіць і ў сад, дзе ён толькі што быў, і ў суседнюю вёску, дзе сказалі, што ён паехаў толькі што палявой дарогай. Мы нагналі Уладзіміра Механікава пры ўездзе ў вёску. Выхапіўся з грузавіка рослы, з агністымі вачамі і кучаравай шавялюрай малады мужчына, шырока раскінуў рукі:

— Здароў, Мікалай Піліпавіч, добра, што прыехаў, добра!..

Пагаварылі, перакінуліся жартамі.

— Дык што, паглядзім, як гуляюць вяселле? — і Уладзімір растлумачыў:— Дзяўчына наша адна выходзіць замуж. Між іншым, у Макараўку. Даём, так сказаць, нашаму другу Пятру Мяжэніну падмацаванне...

Вырашылі паглядзець вяселле. Якраз гулянка перакінулася з хаты ў клуб, які стаяў на аселіцы. Невялічкая зала была набіта бітком. Расчырванелая кабеціна пад гармонік адбівала «барыню». Праз колькі хвілін яна пачала заўзята прытупваць перад Уладзімірам. Ён колькі хвілін вагаўся, потым рашуча скінуў з плячэй плашч. І пайшоў, пайшоў упрысядку, у наступ на танцорку.

— Малайчына. Вот гэта старшыня! — з усіх бакоў несліся воплескі і вясёлыя воклічы.

Уладзімір хусцінкай выціраў спацелы твар.

Потым нявеста і сваты пачалі запрашаць усіх у хату. Колькі ні прасілі, Уладзімір наадрэз адмовіўся. Калі ехалі, ён і нас пераконваў:

— Можа, я і няправільна зрабіў, што адмовіўся. Але ж не, думаю, што правільна. Яны не пакрыўдзяцца, зразумеюць...

Доўга гутарылі сябры. Толькі і чулася: «А памятаеш, як мы дзяўчат у Клімацічах на ферму ўгаворвалі?» «А сход у Майсееўцы?» «А вечар, калі хлопцы ў камсамол уступалі?» «А нядзельнік у Касцюшкаве?» «І ў мяне, Мікола, тут было такое, што на кароўніку і дняваў і начаваў, пакуль парадак навялі, як належыць...»

...Увечары мы былі ў клубе саўгаса, дзе з канцэртам выступалі студэнты эканамічнага факультэта сельскагаспадарчай акадэміі, якія праходзяць тут вытворчую практыку. Са сцэны гучалі і старыя народныя і сучасныя маладзёжныя песні, галасы дэкламатараў. Добра, натхнёна чыталіся вершы, гумарэскі. Студэнцкі джазавы аркестр не скупіўся на тое, каб павесяліць людзей. Іх на вечары было — не прабіцца, як кажуць, яблыку недзе ўпасці. Колькі разоў на сцэну выклікалі Олю Буйко, якая ўсіх зачаравала сваім прыгожым голасам! Хораша спявала і Люда Дарожка. А потым былі танцы...

У кругу, дзе гулялі госці і гаспадары, быў і дырэктар. Яго запрасіла на вальс тая студэнтка, што спявала на сцэне. Разгуляўшыся, Мікола пайшоў яшчэ і яшчэ ў круг, толькі мільгала яго рыжая чупрына. Ён, аказваецца, любіць патанцаваць. Праўда, яму цяпер не заўсёды гэта ўдаецца: то няма часу, то, не смейцеся, трошкі ніякавата, а раптам скажуць: глядзі, які наш дырэктар, з шалахвостамі забаўляецца. А так, калі бываюць святочныя вечары, то і ён удзельнічае, са сцэны вершы чытае. Як некалі ў акадэміі.

— З камсамольцамі сябруеце ж? — неяк вырвалася ў мяне.

— Ды як вам сказаць,— задумваецца Мікола і, памаўчаўшы, прызнаецца:— Як было год назад, дык усё ў нас аж кіпела. І вечары, і нядзельнікі, і спартыўныя баталіі. Гэтае лета першынство раёна па валейболу ўзялі. А цяпер трохі папрыціхлі. Камсамольцы! Хацелася б, каб яны былі больш баявітыя, больш актыўна ўмешваліся ў жыццё. Можа, гэта ад таго, што наш камсамольскі важак Мікола Мяцеліца дужа ўжо стаў старанным службістам, забыўшыся, што работа ў камсамоле — асаблівая работа...

— Можа, і дырэктар — камуніст і былы камсамольскі работнік — трохі вінен?

— Як вам сказаць, канечне,— упушчэнне...

Панядзелак — прыёмны дзень у дырэктара. Афіцыйна. Але, напэўна, усе ведаюць, што да яго можна зайсці ў любы час, абы кабінет быў адчынены. Дырэктар прымае людзей на хаду, у калідоры, ля канторы, калі справа не церпіць адкладу. Можа, таму за ўвесь тыдзень не было бачна, каб каля яго кабінета сабіралася талака наведвальнікаў.

Традыцыйная лятучка-пяціхвілінутка закончана, і Мікола сказаў:

— Пойдзем пасярбаем гарачы суп.

Раптам дзверы адчыніліся, і на парозе паявіліся хлопцы-студэнты. І той чарнявы, у расхрыстанай гімнасцёрцы, што перад гэтым дамаўляўся з дырэктарам наконт канцэрта, і белачубы баяніст, і ўчарашні вясёлы канферансье.

— Дык мы ўжо ад'язджаем, Мікалай Піліпавіч,— пераступае з нагі на нагу чарнявы. Гэта староста групы Васіль Гарошка.— Во тут нашы нарады. Што мы рабілі...

— Ну, што ж,— Мікола садзіцца за стол, разглядае паперы, і цёплая ўсмешка зрываецца з вуснаў:— Харошы канцэрт учора далі. Ад душы...

Чытае паперы, падпісвае. І зноў:

— Добра. Дык вы, значыць, адбылі ў нас сваё. Ну, глядзіце, калі трэба характарыстыка — дадзім. Заслугоўваеце. З гэтай паперай ідзіце да Віктара Рыгоравіча, нашага галоўбуха. Ён выпіша, што вам належыць. Няхай разлічыць поўнасцю.

Хлопцы, узрушаныя, дзякуюць, топчуцца на месцы. Чарнявы пачынае, хвалюючыся:

— Мікалай Піліпавіч, нам пра сваю практыку трэба пісаць справаздачу. І думаем у сваёй газеце напісаць, хочам усё асвятліць.

— Дык што, вам трэба інтэрв'ю? — усміхаецца дырэктар і сур'ёзна:— Так, упушчэнне. Гэта трэба было з усёй групай пагаварыць. Дык вы ж неяк нечакана. Раптоўна. Ну, задавайце пытанні.

— Ды нам пра асноўны напрамак гаспадаркі,— абзываецца староста Васіль Гарошка.

— І пра тое, якім будзе саўгас праз некалькі год,— дадаюць разам яго сябры.

Мікола колькі хвілін маўчыць, нібы збіраецца з думкамі. Трэ скроню ў роздуме. Лоб, як заўсёды, калі Мікола збіраецца выступаць, наморшчаны. Вочы строгія, як бы недзе далёка-далёка адсюль. У вачах, ва ўсёй істоце нейкая смелая думка. І вось ён загаварыў, спачатку спакойна, але ўсё больш горача, натхняючыся. Перад будучымі аграно-

мамі-эканамістамі ён рабіў адну выкладку за другой, абгрунтоўваючы іх на блізкіх і канкрэтных фактах.

— Адным словам, работы многа,— заключыў дырэктар.— І работа цікавая, хлопцы. Для маладых спецыялістаў у нас — шырокая прастора. Нам і сёння спатрэбілася б чалавек пяць брыгадзіраў. Калі хто надумаецца, прыязджайце...

З дзвярэй пачуўся жаночы голас:

— Піліпавіч, там нейкае начальства.

Мікола развітваецца са студэнтамі, выходзіць у калідор. Заглянуў у пакой галоўнага агранома Юркова, сказаў яму, каб прымаў людзей, калі хто будзе, і засігаў насустрач машыне, што спынілася ля канторы.

З дзверцаў паказаўся знаёмы твар начальніка вытворчага ўпраўлення. Мікола паціснуў яму руку, на прапанову праехацца з ім па ўчастках прамаўчаў.

— Ну, тады паеду адзін,— буркнуў Гурый Сяргеевіч і, зачыняючы дзверцы, дадаў:— Я хутка вярнуся. Потым разбяромся.

— Добра, я буду чакаць, Гурый Сяргеевіч.

Мікола пакрочыў у напрамку дома-кватэры. Маўчаў, насупіўшыся. А ён жа во толькі са студэнтамі быў у добрым настроі! Неўзабаве загаварыў:

— Я ўжо ведаю, пра што ён будзе балакаць. Скажа: таварыш Вяршыла, націскайце на льнотрасту. Там, дзе ёсць крытыя такі, звозьце, а дзе няма, складвайце ў стажкі. І бульбу здавайце як хутчэй. А калі яму напомніць пра абяцаныя дзесяць машын, дык паморшчыцца. І паедзе. З усведамленнем выкананага абавязку.

...Паездка на льнозавод была вельмі своечасовай. Дырэктар сам убачыў усё ў дэталях: і як праводзілася прыёмка, і якую прадукцыю прывозілі суседзі. Яму адкрыліся ўсе сакрэты, якіх ніколі ён не дазнаўся б, каб сам не пабыў на месцы.

Калі потым, на тым жа месцы ля канторы Гурый Сяргеевіч даваў дырэктару ўказанні, ён моўчкі, хітра ўсміхаючыся, ківаў галавою.

Ці шмат карысці ад такога лятучага візіту, якім быў прыезд начальніка вытворчага ўпраўлення ў саўгас?

— Можа, для яго гэта паездка і патрэбная,— гаварыў Мікола пасля, калі мы закранулі гэтую тэму.— Для нас жа яна нічога не дае. Усё гэта, як вы бачылі, я ўжо ведаў. І думаем, як лепш зрабіць. Падсцёжка? Дык яна нам непатрэбна...

Я нагадаў Міколу жарт, які пачуў ад студэнтаў-прак-

тыкантаў. Яны расказвалі, што адзін іх калега на пытанне выкладчыка аб інспектарах-арганізатарах вытворчага ўпраўлення адказаў, што ад іх карысць такая, як ад нарзану...

— Гэта, вядома, жарт,— заўважыў Мікола, задумліва памаўчаў.— Нашы спецыялісты вытворчага ўпраўлення — пісьменныя, талковыя хлопцы. З нашай жа акадэміі. Але яны адарваліся ад жыцця, ад жывой справы. Пагрузлі ў паперах. Я ўпэўнены, што рана ці позна іх рабочым месцам стануць палі і фермы якой-небудзь гаспадаркі, дзе яны змогуць прадэманстраваць навінкі навукі і практыкі. І мы будзем перад сабой бачыць не паперкі, а жывы прыклад, яркую карціну.

Спецыялісты саўгаса, з якімі даводзілася гутарыць на гэту тэму, трымаюцца такой жа думкі. Месца спецыяліста — у яго стыхіі, на практыцы, якая жывіць самую смелую ідэю.

...І ўвечары на кватэры дырэктара чуліся частыя званкі. Ён з газетай, якую наважыў прачытаць, бегаў раз-пораз да століка з тэлефонам. Некаму адказваў, штосьці запісваў у сваёй кніжачцы-памінальніцы, якая была заўсёды ў яго пад рукамі.

Я збоку гляджу на Міколу. За тыдзень ён неяк нібы пастарэў крыху. Ускудлаціліся хвалістыя каштанавыя валасы. Пад вачамі — сетачка зморшчын. Упарта сціснуты вусны. А вочы? Жывыя. Глыбокія. Пырскаюць сінім агнём. А можа, яны так блішчаць ад яркага святла?

— А мне ўсё гэта падабаецца! — чую я раскацісты Міколаў голас.

— Што падабаецца?

— Ну, усё гэта... Увесь гэты тлум. Увесь калаўрот жыцця!..

...Са сваёй «рэзідэнцыі» мне чутна, як Мікола яшчэ доўга варочаецца на ложку, шалясціць газетай. Я таксама яшчэ не сплю — вельмі спрыяюць думкам-роздуму месячнае святло і буйныя, як падсіненыя, вераснёўскія зоры, якія, нібы жывыя, пераміргваюцца, заклікаюць палюбавацца на іх...

* * *

Аўтару прыемна, што героі з саўгаса Леніна, «чатыры Міколы», выраслі і сталі кіраўнікамі і арганізатарамі сельскагаспадарчай вытворчасці — усе на кіруючых пасадах у розных гаспадарках у раёне і вобласці. Іх завадатар —

Мікалай Піліпавіч Вяршыла — на працягу дзесяці гадоў працаваў першым сакратаром Круглянскага райкома партыі на Магілёўшчыне.

## ПРАГА КРЫЛА

Камлюкаваты хлопец у сціплым цёмным гарнітуры з камсамольскім значком на лацкане моцна цісне мне руку і, крышку збянтэжыўшыся, глухаватым баском гаворыць:

— Гапоненка...

У яго простым і разам з тым валявым аблічча адчулася нейкая прывабнасць. Цяжка сказаць, чым прывабіў ён адразу, але ўжо адчуваеш, што нечым табе спадабаўся. Можа, адкрытым, ясным позіркам быстрых карых вачэй і цёплай усмешкай на адкрытым чарнявым твары? Можа, раптоўнай, шчырай згодай на тваю прапанову пазнаёміцца і прыехаць да яго? А мо простай, з палескім вымаўленнем гаворкай, чалавечай непасрэднасцю? Напэўна.

— Калі ласка, прыязджайце,— згадзіўся тут жа Васіль.— Але ж я не ведаю, ці спадабаецца вам... Ці знойдзеце ў нас тое, што вам патрэбна...

На развітанне Васіль пацвердзіў сваю згоду:

— Прыязджайце. Якраз моладзь спраўляе свята песні. На матацыкле паважу. З ветрыкам...

Райком камсамола змяшчаўся ў двух невялічкіх пакойчыках на цэнтральнай вуліцы пасёлка, пад адным дахам з гасцініцай. Гэты мураваны дамок нядаўна адрамантавалі, і ён весела і зухавата выглядаў між сваіх драўляных хатсуседзяў у зялёнай затоцы высокіх зялёных таполяў, што, нібы асілкі-вартавыя, з двух бакоў абступілі вуліцу. А за дварамі — бела-ружовыя шапкі садоў...

У пакойчыку тры сталы: за адным — першы сакратар Васіль Гапоненка, пры ім на тумбачцы тэлефон; за другім, побач — другі сакратар Уладзімір Шагавік. Інструктару Казіміру Зінукову няма месца, каб паставіць стол, і хлопцы замацавалі за ім старую рыпучую канапу.

У другім пакойчыку праз дзверы — райкомаўская гаспадарка. Там працуе інструктар Ніна Ціханенка. Яна па сумяшчэнню выконвае і працу загадчыка сектара ўліку.

Увесь невялічкі калектыў штатных работнікаў райкома — былыя дзесяцікласнікі. Шагавік і Зінукоў адслужылі

вайсковую службу і засталіся працаваць у райкоме. Шагавік вучыцца завочна ў сельскагаспадарчай акадэміі, а Зінукоў толькі што адслужыў на флоце. Ніна скончыла педагагічны інстытут. Самы меншы стаж камсамольскай работы ў Казіка Зінукова, але і ён ужо асвойтаўся і ўваходзіць у курс камсамольскіх будняў.

...Насцеж адчыніліся дзверы, аж параздяталіся на сталах паперы — у пакой як не ўляцеў Гапоненка. Выціраючы спацелы твар, ён з кожным павітаўся і са словамі «Як тут у вас, што чуваць?» пачаў выкладваць на стол брашуркі, плакаты.

Хлопцы неяк падцягнуліся, прыціхлі, чакаючы, што скажа ім першы сакратар. І Васіль не прымусіў, каб яго доўга чакалі. Сеў за стол, раскрыў запісную кніжачку, адгарнуў адну-другую старонку, прабег вачамі па запісах:

— Што збіраецеся рабіць, хлопцы?

— Трэба было б у калгас ехаць,— паварушыўся на месцы Шагавік.

— Я паеду ў Вялікі Бор,— бліснуў яркімі вачыма Казік.— Пабуду ў калгасе, яшчэ зайду ў Вялікаборскую школу, пацікаўлюся, як там справы ў піянерважатай...

— Так, таварышы, ёсць важныя навіны,— і Васіль раздаў хлопцам па лістку.— Гэта пісьмо абкома партыі. Зварот да ўсіх камсамольцаў і моладзі Гомельшчыны. Яго трэба абмеркаваць у камсамольскіх арганізацыях. Наша задача — узняць моладзь на выкананне сацыялістычных абавязацельстваў. Вы ж ведаеце, што не ўсюды падабраны кадры жывёлаводаў, ёсць калгасы, дзе моладзь усё яшчэ раскачваецца. Так што ехаць трэба, і сёння ж...

— Васіль Міхайлавіч, у тым Вялікім Бары цяжка моладзь сабраць на сход. Што рабіць, калі не збяруцца? — хвалюючыся, абазваўся Казік.

— Што рабіць? — скупа ўсміхнуўся сакратар, і на момант над ілбом уздрыгнулі крылатыя бровы.— Што рабіць, пытаешся?..

Васіль ужо страціць сярод пакоя і, энергічна размахваючы рукамі, горача расказвае пра тое, як гады тры таму назад, калі ён толькі прыйшоў у райком і стаў працаваць інструктарам, ездзіў у Карчавую...

— Толькі прыйшоў я ў райком з Рудакова, дзе быў камсоргам у школе механізатараў, а мне адразу камандзіроўка,— мацнеў глухаваты басок Васіля.— Выклікае мяне сакратар райкома і гаворыць: «Трэба пад'ехаць у «Сацыялізм»... Там даўно сходу не было... Камсамольцы не плацяць членскіх узносаў... Хоць наперад ведаю, што ты там

нічога не зробіш, але з'ездзі...» Вось, хлопцы, якая была сітуацыя. Узяў я веласіпед, на багажнік паўбохана хлеба — і ў дарогу. Прыехаў я з трывогай, думаючы, што ж рабіць? Вось, думаю, будзе работа... Рашыў спярша пагаварыць з хлопцамі, пазнаёміцца, хто што думае. Спачатку ў клуб заглянуў — на дзвярах замок. Стрэў траіх. «Як справы?» Тыя махнулі рукамі — дрэнь! А тут якраз на пакос ішлі фурманкі. Хлопцы, дзяўчаты з песнямі ехалі на сенажаць. «Прымеце мяне?» — «Калі ласка!» Да вечара папрацаваў на лузе. Пагаварылі і пра вечарынкі, і пра клуб, наогул пра жыццё-быццё... «Дык вы, мусіць, з райкома?» — пацікавіліся дзяўчаты. Я прызнаўся, што з райкома. Увечары вярнуліся, і я на двары сабраў камсамольцаў. І адразу ім — дакладзік пра шлях камсамола. Тут стрэўся і са старшынёю. Запрасілі гарманіста. Напісалі аб'яву, каб заўтра сабраліся ў клуб на камсамольскі сход.

— Быў я там два дні, хлопчыкі,— Васіль ужо сядзеў на канапцы і крадком назіраў за тым, як рэагуе на яго расказ Казік.— Прыйшоў у клуб і разгубіўся: поўна людзей. Думаў сабе, можа, за якога міністра мяне прынялі. Прыйшоў на сход і парторг. Выбралі прэзідыум. Адным словам, сход прайшоў удала. Потым пагулялі, патанцавалі. Як ад'язджаў, наўздагон крычалі: часцей прыязджайце!

Васіль прайшоўся сюды-туды па пакоі, падморгнуў Казіку, які старанна нешта занатоўвае ў запісную кніжачку, і весела сказаў:

— Ясна, Казік?

— Ясна, Васіль Міхайлавіч.

— От і добра, што ясна.

Увішны «ІЖ» імчыць па шырокай, каляіністай дарозе. Васіль стараецца пацэліць па накаце, але яму гэта не заўсёды ўдаецца: матацыкл грукоча, падскаквае на камлыгах, нібы наравісты конь. Васіль вінавата азіраецца і прыбаўляе ходу.

Раскручваецца няроўная стужка дарогі, скачуць упрысядкі чубатыя таполі, перад вачамі мільгаюць зялёныя палеткі, а з бяздоннага сіняга неба лагодна ўсміхаецца гарачае сонца. Надоечы прайшоў цёплы лівень, і на дарогах улёгся пыл, абмыліся травы, заіскрыліся палі ўсходамі.

— Як лёгка дыхаецца! — Васіль выпростваецца, падстаўляе твар стрэчнаму ветру і гучна, каб мне было чутно, крычыць:— І які гэта дзівак не любіць хуткай язды!..

І прыбаўляе хуткасць, аж вецер свішча ў вушах.

— Вось і Вяляцін,— прытармазіўшы на ціхай вясковай вуліцы, кажа Васіль.— Заедзем да камсорга Кардаша.

— Паўлюка няма,— крыкнула з панадворка гаспадыня.— Як паехаў з раніцы некуды, дык і не вярнуўся...

Праз якіх хвілін пяць Васіль ужо збегаў у кантору, даведаўся, што сход маецца быць увечары, а цяпер ёсць магчымасць пабываць на кашары — туды ёсць спадарожны грузавік па малако.

— Якраз дарэчы,— загарэўся Васіль,— і гутарку там з даяркамі правяду...

Хойніцкі — раён, дзе вельмі ўдала спалучаецца роўнядзь чыстых, без аніводнага кусціка палёў з прыгожымі цяністымі барамі і шумлівымі гаямі і пералескамі. Яшчэ колькі хвілін мы ехалі полем, а во ўжо грузавік віхляе па вузкай баравой дарозе, падскаквае на вышмараваных карэннях. Над галавою — стромкія сосны на моцных вяршынях калышуць сіні міткаль неба; там-сям на дарогу выбягаюць гонкія бярозкі ў бліпчастых зялёных абновах, а з гушчарніку задзірыста выглядаюць падлеткі-дубкі, прывітальна памахваючы тапырыстымі галінамі. Паветра густое, настоенае на смале-жывіцы, такое духмянае, хоць пі яго набгом!..

Мінулі ўжо дзве кашары, а шафёр, маўклівы паляшук, усё націсквае, удала абмінаючы елкі і сасонкі, што нечакана выскакваюць як не на дарогу...

— Кашара ў Асаўцы, на паляне,— заўважыўшы нашу нецярплівасць, гаворыць заатэхнік Ніна Чэркас.— Але спачатку заедзем у лагер. Трошкі збоч, паглядзім, як цялушкі гадуюцца...

— Толькі хутчэй, бо нам яшчэ малако на завод трэба адвезці,— непакоіцца возчык, загарэлы кірпаносы хлопец у вялікаватай салдацкай пілотцы.

— Нічога, паспееце. Спярша з цялушкамі пабачымся,— дадае другая дзяўчына, што з намі ў кузаве. Гэта ветфельчар Пігулеўская.

Васіль паспеў пазнаёміцца ўжо з дзяўчатамі. Маладыя спецыялісты, камсамолкі вясною прыехалі ў калгас на працу і ўжо ўключыліся ў камсамольскае жыццё, запісаліся ў хор, але яшчэ на сцэне не выступалі. Ён дазнаўся, што як выгналі статак на кашару, зменшылася малако. Прычына, напэўна, тая, што пастухі іншы раз заспяць, ды і з падкормкай перабоі здараюцца.

Грузавік апошні раз грымнуў парожнімі бітонамі, высока падскочылі седакі ў кузаве, хапаючыся адзін за другога; з кабіны паказалася чарнявая галава шафёра:

— Станцыя Беразайка! Прыехалі!..

Насустрач спяшаліся загарэлыя, вясёлыя дзяўчаты. Ззаду клыпаў куртаты хлопец у расхрыстаным пінжаку і шапцы набакір, з-пад якой ва ўсе бакі тырчалі доўгія, саламянага колеру валасы. Дабрадушна ўсміхаючыся, хлопец пачаў распараджацца, куды ставіць бітоны, і сам завіхаўся.

Пакуль ішла пагрузка, Васіль пабываў у хатцы, дзе жывуць жывёлаводы, прагледзеў кніжкі, якія стосам ляжалі на стале, у думках пахваліў дзяўчат за тое, што яны насцеж расчынілі вокны і вынеслі на сонца ўсе сеннікі і чамаданы. Вачамі прабег спіс, які вісеў на сцяне. Можа, ён і не ведае гэтых людзей, але, як толькі прыйшлі дзяўчаты і талакой акружылі сакратара райкома, ён з імі пачаў размову, нібы з добрымі знаёмымі.

— Ну, як жывеш, Волька? — звяртаўся Васіль да адной з дзяўчат і тут жа гаварыў ёй, што трэба падцягнуцца, бо ўжо каторы дзень Вольку абганяе Марыля Валочка. Марыля бянтэжылася, перастаўляла то на адно, то на другое месца на стале букет чаромхі і з падробленай крыўдай у голасе старалася выручыць сяброўку:

— А можа, Волька болей за мяне надойвае, адкуль вы ведаеце?

— Го, адкуль? — весела ўсклікнуў Васіль.— Ведаю. Сарока на хвасце прынесла!..

Усе смяюцца. Падышоў той хлопец з саламяным чубам — гэта «дзявочы начальнік» брыгадзір Васіль Лобан.

— Што, таварыш сакратар, хіба якую бяседу правядзём?

— Можна.— Васіль характэрным жэстам прыгладзіў густыя чорныя валасы і прысеў на ўслончык, з якім дзяўчаты звычайна ходзяць даіць кароў.— З прэзідыумам ці без?

— Пастухоў нашых у прэзідыум трэба,— пачуліся рэзкаватыя галасы.— Асабліва нашага Гардзейчыка!..

— Давайце яго першага, каб зноў у прымы не даў цягу! — з'едліва кінула дзяўчына ў малінавым світэры.

Сакратар задаволены такім пачаткам. Было прыемна, што так хутка ўдалося выклікаць дзяўчат на шчырую размову. Тыя выказалі свае прэтэнзіі да калгаснага начальства, але і самі прызналіся, што не ўсё зрабілі, каб няспынна ішло малако.

Васіль дастаў з кішэні сваю кніжку ў рудой вокладцы, якую ён жартам назваў камсамольскай спадарожніцай, і пачаў запісваць іх прапановы.

— Нам спортпляцоўка патрэбна. Не глядзіце, што ў нас хлопцаў на кашары мала, а каманда збярэцца вунь якая!..

— Газеты на кашару рэдка прывозяць...

— Пастараемся памагчы вам, дзяўчаткі,— запэўніў сакратар.— Але і самім трэба варушыцца жвавей, каб не сумавала кашара...

Вызначылі адказнага за выпуск «баявога лістка», разам з групкамсоргам Ганнай Кардаш накідалі план работы. Дзяўчаты паабяцалі перасягнуць рубеж, вызначаны на год.

...На развілцы лясных дарог давялося чакаць звароту чарговай машыны з кашары. Мы разлегліся на мяккай шаўкавістай траве пад лапатлівай бярозкай, і Васіль доўга маўчаў, пазіраючы ў летняе неба.

Тады нечакана падхапіўся, як звычайна, аберуч прыгладзіў блішчастыя валасы, пахмура прыжмурыў цёмныя, з хітрынкай вочы.

— Кажаце пра аганёк у рабоце,— горача загаварыў Васіль, нібы збіраючыся рынуцца на кагосьці ў атаку.— А які ён, гэты аганёк, у чым ён? Даюць табе даручэнне паехаць у камсамольскую арганізацыю, ты едзеш, зробіш усё, што даручаць. Але, я думаю, гэтага мала, трэба самому ўвесь час гарэць, непакоіцца, хвалявацца, шукаць... І самае, я думаю, галоўнае — любіць і верыць у тое, што робіш, да чаго заклікаеш іншых...

Васіль сарваў лісток з бярозкі і пачаў разглядаць, як нейкае дзіва. Зноў сеў, скамечыў лісток, памаўчаў, задумаўшыся:

— Я хачу сказаць, калі камсамольскі работнік докладвае: «У мяне працоўны дзень скончыўся» і ідзе дахаты,— гэта не тое... У нядзелю, скажам, у нас камсамольскае свята будзе. І калі я не паеду,— які пасля гэтага з мяне, чорт пабяры, будзе сакратар!..

У руках Васіля апынулася знаёмая рудая кніжачка. Памахваючы ёю, Васіль прадаўжаў:

— Вось прыехаў я ў Вяляцін, у калгас «Бальшавік», на сход камсамольскі. Мы думаем узняць вяляцінскіх камсамольцаў, каб яны выступілі з пачынам аб пераходзе клубаў на самаабслугоўванне. Дык я загадзя прадумаў гэта ўсё, пагутарыў з камсоргам, з загадчыкам клуба, з сакратаром партыйнай арганізацыі. Парторг выступіць з дакладам, раскажа, як працуе моладзь, як камсамольцы выконваюць свае сацыялістычныя абавязацельствы. Такое ў нас цяпер тое важнае звяно, за якое мы бяромся. Кожны кам-

самолец вызначыў сваё месца ў барацьбе за ўраджай, і наша задача — памагчы яму не збіцца з нагі, падбадзёрваць адстаўшых, заахвочваць перадавікоў.

У райкоме задумаліся, як бы гэта ва ўсіх калгасах стварыць маладзёжныя трактарныя брыгады і каб яны ўсю кукурузу вырошчвалі механізаваным спосабам. У райкоме партыі нас падтрымалі. Перад сяўбой яшчэ пабывалі ў калгасах, падабралі добрых хлопцаў-трактарыстаў, правялі з імі заняткі, выпрацавалі ўмовы спаборніцтва, памаглі заключыць сацыялістычныя ўмовы, і аберуч за справу. На сяўбе спаборнічаюць дваццаць трактарных агрэгатаў. Для пераможцаў устанавілі пераходныя вымпелы і прэміі.

— Такую «місію» мы правялі,— жартаўліва сказаў Васіль і насцярожыў вуха.— Ідзе машына. Едзем.— І, ужо стоячы ў кузаве, паўтарыў:— Правялі такую работу, а цяпер сочым, як ідзе выкананне!

...Позна ўначы Васіль крочыў са сходу і не хаваў свайго задавальнення: справа зроблена. Камсамольцы калгаса «Бальшавік» блізка да сэрца прынялі прапанову аб пераходзе клубаў на самаабслугоўванне: рупліва гаварылі пра дысцыпліну працы на палях і на фермах, смела крытыкавалі загадчыка клуба.

Выводзячы на вуліцу матацыкл, Васіль думаў пра тое, што Паўлу Кардашу не пад сілу кіраваць такой буйной камсамольскай арганізацыяй. У яго ёсць стараннe, але ў летні час ён круглыя суткі на трактары.

— А актыў, члены камітэта?

— На тое і шчупак у рацэ, каб карась не драмаў,— пажартаваў Васіль і разважліва дадаў:— Каб згуртаваць добры актыў, трэба важаку як мае быць варушыцца. Лягчэй загадваць, калі сам наперадзе, як кажуць, на правым фланзе.

Весела завуркатаў матор, і лупатае вока матацыкла выхапіла з парнага цемрыва ружаваты каснічок дарогі. Зашасталі, заварушыліся прыдарожныя цені. Бруілася палявая свежасць. Была другая гадзіна ночы, калі мы ўз'ехалі на брук раённага гарадка.

Неспакойная, нялёгкая пасада ў сакратара райкома. Яго працу не змерыш ніякай меркаю, не ўціснеш ні ў якія рамкі. І таму, хто глядзіць на яе як на звычайны занятак, каб толькі зарабляць «на хлеб» ды наматваць стужку часу, можна загадзя сказаць: не чакай, браце, душэўнай асалоды, не заваяваць табе сапраўднага, шчырага даверу мола-

дзі. Не ўсюды цябе раскусяць адразу, мажліва, табе ўдасца і надзейна схавацца пад прыгожай маскай, удала іграць ролю кіраўніка-дабрачынца, свайго хлопца-дэмакрата, але ведай: калі не гарыш ты справай, якая наканавана табе жыццём, калі не аддаеш ёй усяе сваёй душы, то рана ці позна настане расчараванне.

У грамадскай працы, у абыходжанні з людзьмі вельмі важна тваё сумленне, твая шчырасць і тваё прызванне. «Любоў горш за няволю»,— гаворыць народная прымаўка. У ёй — вялікі сэнс.

...Васіль Гапоненка надумаў быў з раніцы паехаць у калгас «Кастрычнік», пабываць у трактарыстаў, бо хутка трэба будзе падводзіць вынікі спаборніцтва, але зайшоў у райком, і безліч спраў — вялікіх і дробязных — запалапілі яго. Пайшлі наведвальнікі, пачуліся тэлефонныя званкі, адным словам, не паспееш зрабіць адно, як на чарзе — другое.

На сваім рабочым месцы ўжо быў Уладзімір Шагавік, другі сакратар. Валодзя сціпла адказаў на прывітанне і апусціў у паперы вочы.

— А ты, Валодзя, хіба не ў калгасе? — спытаў Васіль, сеўшы за стол.

— Разумееш... пазванілі тады ж з першай школы.— Шагавік налёг грудзьмі на стальніцу.— У школе будзе сход, дык я ўжо лепей сюды схаджу...

— А, канечне, разумею, маладая жонка не хоча адпускаць,— пажартаваў Васіль.

— Ды не, спісы ж тыя трэба...

— Зноў спісы,— нахмурыўся Васіль. У гэты час зазваніў тэлефон. Сакратар узяў трубку і, паклікаўшы Шагавіка, са словамі «з абкома» — перадаў яму.

Шагавік крычаў у трубку, што райком ужо пасылаў спісы, апраўдваўся ў нечым, але ўрэшце здаўся:

— Добра. Прышлём,— і чырвоны, злосны сеў за стол.

— Мы ж пасылалі спісы ў абком,— стараючыся супакоіць Шагавіка, сказаў Васіль.— Што ім яшчэ трэба?

— Зноў накрычалі. Сказалі, калі не прышлём, дык выклічуць на бюро,— і Шагавік паволі пайшоў да тэлефона.

— Шмат патрабуюць з абкома ўсякіх паперак і звестак,— задумліва прагаварыў Васіль, гартаючы сваю кніжку-спадарожніцу.— Іншы раз столькі, што не ведаеш, за што спачатку ўзяцца. Не паспееш даць адно, як падавай другое. Ды бывае так: сёння нядзеля, а ў панядзелак давай звесткі.

У пакой завітаў доўгі вяснушчаты хлопец, зняў з пля-

чэй дарожную сумку, прысеў на канапцы, азіраючыся навокал, магчыма, збіраючыся з думкамі. Але яму не даў ачомацца Шагавік.

— А спісы прынёс, Міша?

— Прынёс,— адказаў хлопец і дастаў з сумкі складзены напал школьны сшытак.

— О, дык гэта ж не ўсё тут,— расчаравана прамовіў Шагавік, узіраючыся ў радкі.— Ты ўнёс сюды толькі тых, хто пайшоў на фермы вясной, а трэба ўсіх, уключна да дваццаці васьмі год...

— Дык пра тых я перадаваў раней,— няўцямна паціснуў плячамі хлопец.

— Хопіць табе ўжо, Валодзя, са сваімі спісамі,— Васіль падсеў бліжэй да хлопца.— Міша, раскажы, як там у вас у «Кастрычніку» адсеяліся?..

— Ужо скончылі, Васіль Міхайлавіч,— павесялеў хлопец (гэта быў Міхаіл Карнакоў, сакратар камсамольскай арганізацыі калгаса «Кастрычнік»).— Валодзя Кот з двума напарнікамі сто семдзесят гектараў пасеяў. Утрох усё пасеялі! А летась рабілі аж шэсць звенняў. Вось што азначае механізацыя!

— А наконт сцяга як? Утрымаеце? — спытаў сакратар райкома і дадаў:— Ведай, браток, што той пераходны сцяг ЦК ЛКСМБ і Міністэрства сельскай гаспадаркі, які вы летась заваявалі, сёлета будзе цяжэй утрымаць: за першынство змагаюцца тысячы механізаваных агрэгатаў.— Васіль адчыніў шуфлядку і падаў камсоргу ёмкую кніжку, на ёй было напісана: «Спадарожнік камсамольскага актывіста. Запісная кніжка».— Вось, Міша, калі будзеш у Гомелі, не пашкадуй грошай — купі сабе такую кніжку, вельмі каштоўная рэч!

Карнакоў доўга трымаў у руках кніжку, старанна пагартаў яе і, вяртаючы, даверліва сказаў:

— Куплю. Абавязкова куплю. Ну, а наконт сцяга... Утрымаем!..

Спакойны, здавалася, застылы твар Мішы Карнакова прасвятлеў, ярчэй акрэсліліся на абветраных шчоках вяснушкі, а вялікія шэрыя вочы аж засвяціліся.

— Тады пажадаем удачы,— Васіль з усяго маху паціснуў руку Карнакову.

— Дзяўчаты прыехалі на бюро,— нечакана пачуўся з дзвярэй голас, і ўсе ўзнялі галавы: на парозе стаяў запылены Казік Зінукоў, упіраючыся ледзь не ў самую столь кучаравай галавой, і шырока ўсміхаўся.—Будзем прымаць?

— Будзем. А як жа! — Васіль абцягнуў пінжак, па-

правіў камсамольскі значок і пачаў збіраць са стала паперы.— Паклічце членаў бюро...

Прыём у камсамол... Хто не памятае гэтага незабыўнага, хвалюючага моманту! Юнак ці дзяўчына, становячыся камсамольцам, як бы дае сабе зарок: заўсёды ісці з тымі, хто моцны і смелы душою, хто не шкадуе нават жыцця для сваёй сацыялістычнай Айчыны, дзеля шчасця свайго народу.

Зайшла светлавалосая дзяўчынка. Прывіталася. Села на краёк крэсла. Стараецца схаваць хваляванне, але яе выдаюць шчокі — палаюць макавым цветам; трымціць рука, хапаецца за ражок хусцінкі, што крылом спадае з пляччэй.

— Казімірчук Таня, калгасніца, адукацыя — сем класаў,— чытае Таніну анкету інструктар райкома.— Рэкамендацыя члена КПСС, калгаснага брыгадзіра Мікалая Якаўлевіча Пётуха.

Дзяўчына ўстала, чакаючы пытанняў.

— Статут ВЛКСМ чытала, Таня?— пытае сакратар райкома.

— Чытала...

— Раскажы, што азначае ВЛКСМ, хто прымаецца ў члены камсамола?

Таня, цярэбячы ражок хусцінкі, адказвае:

— Усесаюзны Ленінскі Камуністычны Саюз... У камсамол прымаецца перадавая, баявая наша моладзь!..

— А ведаеш, Таня, на які ўчастак накіроўваюць лепшых вясковых камсамольцаў? — чуецца новае пытанне.

— На фермы,— выгуквае Таня і цішэй:— І я пайшла б у даяркі, каб прынялі, але гавораць, што яшчэ малая...

— Якія прапановы будуць?

— Зацвердзіць!

— Вось, Таня,— устае з-за стала сакратар райкома,— прымаем цябе ў члены ВЛКСМ. Спадзяёмся, што апраўдаеш высокае званне члена Ленінскага камсамола!..

— Апраўдаю!

Заходзяць Ліда Бяспалая, Валя Дземідзенка, Ганна Лушч, Ліда Атаман, Надзя Сівая — шэсць дзяўчат з адной брыгады калгаса «Шлях да камунізма».

Васіль уручае чырвоныя кніжачкі з сілуэтам Ільіча на вокладцы. Віншуе навічкоў-камсамольцаў, і знаёмае, перажытае некалі самім хваляванне напаўняе сэрца. І яму вось так некалі, у гэтым жа райкоме, уручалі камсамольскі білет, з якім ён прайшоў сваё юнацтва.

Хто ў юнацтве вось гэтак, як і дзяўчаткі з далёкай ляс-

ной вёскі, стаяў перад сталом, засланым чырвоным абрусам, і, хвалюючыся, расказваў сваю кароткую біяграфію,— той назаўсёды ў душы зберажэ маладосць, не збочыць з дарогі, якую праклалі яго папярэднікі.

З маляўнічай Барысаўшчыны са свята песні і працы мы прыехалі пад вечар. Дамовіліся сустрэцца ў гасцініцы, пагаварыць на развітанне.

Васіль прыйшоў пасвяжэлы, у добрым настроі. Ён яшчэ больш загарэў, драбнаваты асмужаны твар аж свяціўся, у цёмна-карых вачах цяплілася даверлівасць.

З Васілём мы, канечне, пуда солі не з'елі, але ўдосталь пахадзілі па вёсках, пабывалі на камсамольскіх сходах, а гэта ўжо нямала.

Васілю пайшоў дваццаць сёмы год. У яго ўжо ёсць сынок. «Дзедава імя яму даў,— задумліва кажа Васіль.— Міхасём назваў. Мой бацька загінуў недзе пад Берлінам у гэтую вайну. Дык няхай жыве аб бацьку памяць у маім сыне...»

Здаецца, было перагаворана ўсё, але адчувалася, што яшчэ не ўсё дасказана.

— Васіль Міхайлавіч, кім вы марылі стаць у маленстве?

— Кім марыў быць? — перахапіў Васіль і нерашуча завагаўся, задумаўся. Потым нейкім не сваім голасам выдыхнуў:— Мастаком збіраўся стаць або паэтам. Не верыце?

Васіль неяк рыўком, зухавата паправіў папружку:

— Калі ўжо раскрывацца, дык да канца! Я зараз... Адну хвілiначку,— і ён умомант знік з пакоя.

Праз хвілін дзесяць Васіль паказваў альбом малюнкаў, якія ён рабіў у школе і на вайсковай службе. Там былі і пейзажы роднага Палесся, але большасць малюнкаў — партрэты любімых пісьменнікаў, вучоных. Вось Лермантаў, намаляваны па памяці пасля прагляду кінафільма, а гэта партрэт Пушкіна, а гэта — Дабралюбаў, Горкі... Малюнкі, можа, і недасканалыя, але ў іх бачна душа аўтара. Не выпадкова, што на вокладцы альбома надпіс: «Юныя гады — лепшым людзям».

Адклаўшы ўбок альбом, Васіль зноў на момант задумаўся: «Паказаць ці не?..» Зноў змагаюцца ў ім сарамлівасць і шчырасць. Нейкі момант павагаўшыся, Васіль рашуча дастае з-пад папружкі тоўсты сшытак у цыратавай вокладцы.

— Я вам сёе-тое пачытаю...

Вершы пра каханне, чыстае і свежае, як светлы маёвы ранак. Вершы пра падзеі, што хвалявалі і хвалююць усіх сумленных людзей: пра мір і шчасце на зямлі... Думкі, запісы... Роздум над сваім жыццём, над лёсам чалавека. З усяго гэтага яскрава паўстае юнак з чыстай, адкрытай душою. Юнак, які ведае, хто яго выхаваў, куды яму ісці: «Я веру ў сваю будучыню, яна належыць мне таксама, як і ўсяму нашаму народу».

— Бывала,— прызнаецца Васіль,— у маёй пастуховай торбачцы разам з полуднем звычайна ляжалі кніжка і вось гэты сшытак... Сядзіш сабе дзе-небудзь на курганку пад дубком і марыш.

У адным з юнацкіх вершаў Васіль пытаўся сам у сябе: «Исполню ль я песню такую, которая увидела б свет?»

Хочацца сказаць: так, хлопча, твая песня прагучыць на поўную сілу, бо ты знайшоў сваё прызванне і шчыра аддаеш людзям цяпло сваёй маладой, няўрымслівай душы.

Лагодна перастукваюцца колы цягніка, ціха пакалыхваецца вагон. То заціхаюць, то набіраюць сілу дарожныя размовы. Прыслухаешся да іх і адчуваеш знаёмыя ноткі неспакою пра сваіх дзяцей, пра іх лёс. «Некалі мы, маладыя, і нагараваліся, і напрацаваліся, з кулакамі ваявалі... А што цяпер маладыя: ім усё ясна, у іх няма ніякіх клопатаў...»

Ці ж так гэта?

Не зусім так... Толькі скептык і эгаіст не можа бачыць, як расце і набірае дужасці наша моладзь, смела здзяйсняючы свае крылатыя мары.

* * *

Як і Васіль Гапоненка, яго сябры Казімір Зінукоў і Уладзімір Шагавік, прайшоўшы ў камсамоле добрую загартоўку, знайшлі сваё прызванне. Сёння яны — камуністы — сталыя і ўмудраныя вопытам працаўнікі і арганізатары, на пярэднім краі стваральнай працы. Іх акрыленая маладосць — прыклад для сённяшніх маладых, якім ёсць яшчэ большае разгарненне для энтузіязму і творчых пошукаў.

# РОДНАЯ ГЛЫБІНКА

У кожнага ёсць запаветны куток, які мы называем малой радзімай. Адтуль, з матчынай калыскі, з бацькоўскага парога, пачынаецца дарога ў вялікі свет, і пачуццё радзімы малой зліваецца з пачуццём Радзімы вялікай...

Мае родныя мясціны — Краснапольшчына, раўнінна-гарысты, балотна-лясны край — мяжуюцца з землямі рускіх суседзяў — Краснагоршчынай Бранскай вобласці. Людзей-суседзяў здаўна нітуюць блізкія, братнія сувязі, абумоўленыя не толькі геаграфіяй, але і глыбокай крэўнасцю.

Тут гукні — адгукнецца Расія...
Рэха вернецца з Краснай Гары...

Бацькаўшчына... Палі і лугі, рэчкі-балацянкі, аселіцы, дзе сходжаны ўсе сцежкі-дарожкі, адзін успамін пра якія змушае мацней біцца сэрца...

Бацькаўшчына... Гэта — твае дзяды і прадзеды. Карані твайго роду. Землякі.

Калі наведваюся ў свой раён, сустракаюся з людзьмі, якіх ведаю даўно, з якімі рос і жыў адным жыццём, і з людзьмі новымі, маладымі, якіх пазнаю па роду і прозвішчах, мяне цікавіць і хвалюе ўсё, што ствараюць яны на зямлі, якая мяне нарадзіла і ўзгадавала.

Радуюць добрыя змены, што адбыліся і адбываюцца ў роднай глыбінцы: мяне дужа цікавіць, як гаспадараць сённяшнія хлебасеі і будаўнікі, у чыіх руках лёс зямлі, для якой дзяды і бацькі не шкадавалі жыцця, аддавалі ёй усе сілы і розум, бо зямля, і толькі яна, была іх карміцелькай, іх лёсам.

## ЧЫРВОНАЕ ПОЛЕ

Адкуль пайшла такая назва, пра гэта, мабыць, ніхто дакладна і не ведае. Але, як заўсёды, ёсць паданні і легенды — яны даюць сваё тлумачэнне.

Скажам толькі, што паселішча Краснаполле вядомае з 1784 года як мястэчка. З 1924 года Краснаполле — цэнтр раёна; з 1938 года — гарадскі пасёлак. Адсюль да бліжэйшай чыгуначнай станцыі Камунары — пяцьдзесят кіламетраў.

Паблізу Краснаполля залягаюць радовішчы чырвонай гліны. У Забор'і ў даваенны час быў цагельны завод, адкуль цэгла вывозілася ў Касцюковіцкі, Краснагорскі і іншыя раёны...

Чырвонае поле.

Яно, мабыць, такое не толькі ад таго, што на буграх таго ж маёнтка, паблізу вёскі Маластоўкі, за рэчкай Тур'янкай, залягала чырвоная гліна, адкуль у нашы вёскі Гніліцу, Стайкі, Грыбы, Горанку, Клясін, Дзернавую прывозілі чырвоную, абпаленую ў спецыяльных печах цэглу, Камяніцы — будынкі бровараў — былі з такой жа чырвонай цэглы, і муры іх сям-там захаваліся.

Чырвонае поле...

Так называлі яго яшчэ, мусіць, таму, што яно паліта потам і крывёю сялян, якія здавён гнулі спіны на князёў, паноў, папоў і іншых багацеяў-крывасмокаў. Крыўда і боль сялянскія накопліваліся вякамі і, як паток вады з запруды, выліваліся выбухам гневу супраць неймавернага прыгнёту, здзеку з сялянскай працы.

У сучасным, адбудаваным і памаладзелым, Краснаполлі ёсць вуліцы Зевіна, Куракі, Калеснікава, Карасёва, Савекіна, Ваксмана...

Хто яны, гэтыя краснапальчане?..

Зевін і Курака — рускія рэвалюцыянеры. Ісак Ваксман — настаўнік, які ў першыя дні Вялікай Айчыннай вайны пайшоў на фронт. У бітве за вызваленне братняй Украіны здзейсніў подзвіг, за які атрымаў званне Героя Савецкага Саюза пасмяротна.

Калеснікаў, Савекін, Карасёў...

Людзі, якія аддалі сваё маладое жыццё за маладую савецкую ўладу. Перад тварам небяспекі яны не адступілі, прынялі смерць, як і належыць байцам. Прыклад таго, як трэба паміраць за ідэю, за людзей, за светлую будучыню.

Пра Уладзіміра Калеснікава расказваюць, што гэта быў бясстрашны бальшавік-ленінец, любімец працоўных Краснапольшчыны. Ён горача верыў у перамогу ленінскіх ідэй і гэтую веру ўмацоўваў у свядомасці працоўных. Ён мужна і смела выкрываў ворагаў, якія былі да часу прыціхлі, а ў цяжкія дні пачалі выпаўзаць са сваіх змяіных нораў.

Былі напады на першых камунараў, былі бандыцкія стрэлы з-за вугла, успыхвалі агнём арцельныя свірны і адрыны, але нішто не магло спыніць людзей, якія з рук савецкай улады атрымалі волю і зямлю.

Першыя ўсходы на Чырвоным полі — гэта саўгасы і камуны ў былых маёнтках Сідараўка, Горы, Новая Ельня...

Яскрава помніцца, як у навакольных вёсках ствараліся маладыя калгасы. Падлеткі, мы былі не толькі сведкамі, але і ўдзельнікамі таго вялікага пералому, незабыўнага

часу, калі руйнаваліся і заворваліся быльняговыя межы. Мы бачылі і радаваліся, як на нашым калектыўным полі займалася світанне новага жыцця.

Чырвонае поле...

Пра тое, якое было яно тады, на заранку новага дня, красамоўна расказваў Антон Лявонавіч Чэрнікаў, першы старшыня калгаса «Чырвонае поле»:

«Жылі мы ў першыя гады калекцывізацыі небагата, але і тады ніхто з сялян не сумняваўся, што будзем жыць заможна і шчасліва. І гэта, як бачым, спраўдзілася...»

Пасля вызвалення раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў увосень 1943 года зноў абудзілася гоманам-радасцю Чырвонае поле.

Да «Чырвонага поля» далучыліся калгасы «Чырвоная ніва» і «Фрайгайт». Назвалі ўзбуйненую гаспадарку імем Леніна. У 1974 годзе адбылося новае ўзбуйненне за кошт суседняй гаспадаркі «Новы шлях» (вёска Кажамякіна і хутары).

Закаласавала радасць вольнай калектыўнай працы.

Сёння землі калгаса імя Леніна займаюць 5 969 гектараў. За кошт балот і ўзбалоткаў поле павялічылася на 1 026 гектараў. Гэта плён меліярацыі, якая на Краснапольшчыне ў пасляваенныя гады, асабліва за апошнія тры пяцігодкі, набыла ўпэўнены размах.

Больш за пятнаццаць гадоў гаспадарку ўзначальваў былы партызан і франтавік Андрэй Мікалаевіч Карпаленка, чалавек крутога характару, але справядлівы, гаспадар дбайны, разумны і смелы.

У моцнай, каржакаватай постаці гэтага ўжо не маладога чалавека з тварам, на якім молада свецяцца дзёрзкія шэрыя вочы, у манеры трымацца, гаварыць праглядвае адметнасць асобы валявой.

Карпаленка, калі вы ў яго запытаеце, можа сказаць, што за апошнюю пяцігодку калгас імя Леніна стаў мільянерам. Асноўная крыніца даходу — жывёлагадоўля.

У ленінцаў лепшы ў раёне жывёлагадоўчы комплекс, які працуе на поўную аддачу. Пабудаваны яшчэ два новыя, сучасныя кароўнікі. Працуюць добра абсталяваныя сушылкі, чатыры збожжасклады, дзейнічаюць дзве сушылкі актыўнага вентылявання. Ёсць свая ЭВМ, для сіласу і сенажу — ёмістыя цэментаваныя траншэі, склад для захоўвання сена. На машынным двары багатая майстэрня, усе камбайны зімою ўкрыты пад павеццю.

На ўскраіне райцэнтра расце новы сучасны пасёлак — жылыя дамы, інтэрнат, сталовая, дзіцячы сад — гонар

калгаса імя Леніна. Дамы з усімі гарадскімі выгодамі. Пракладзены водаправод. Пасёлак азеляняецца: яго жыхары садзяць на сядзібах сады, ягаднікі.

Пасля майскага (1982 г.) Пленума ЦК КПСС праўленне калгаса пачало больш увагі аддаваць стварэнню ўмоў для развіцця падвор'я — усім, хто працуе сумленна і шчыра, выдзяляецца на льготных умовах транспарт, сенакос для ўласнай жывёлы, матэрыялы для індывідуальнага будаўніцтва.

Прае тое, якія даброты для сённяшняга сяльчаніна прынёс калгасны лад, расказвае трактарыст-бульбавод кавалер ордэна Леніна Міхаіл Чарнюк: «Жывём з дастаткам, можна сказаць, жывём заможна. Вось памяркуйце: толькі мой заробак з прэміямі і даплатай складае 250 рублёў у месяц. Адно патрабуецца ад цябе: працуй добра, старанна — будзеш і з хлебам, і з грашыма...»

...У які бок ні паедзеш з Краснаполля — на Высокі Борак ці на Выдранку, на Беразякі ці на Горы,— усюды дарогі, па якіх ездзяць круглы год. Самым важным сваім дасягненнем лічаць кіраўнікі раёна збудаванне пад'ездаў да ўсіх цэнтральных сядзіб 14 гаспадарак (8 калгасаў і 6 саўгасаў).

Канечне, супакойвацца рана. Трэба працаваць і працаваць, каб усюды, ва ўсіх вёсках і пасёлках, былі добрыя дарогі, але тое, што ўжо ёсць, радуе і абнадзейвае.

Па тыпавых праектах забудоўваюцца цэнтры саўгасаў «Дружба», імя Калініна, «Краснапольскі». Мы былі ў гэтых гаспадарках. Новыя, прасторныя вуліцы, прыгожыя камяніцы і драўляныя дамкі, падвор'е — прыстойнае жыллё, якое зменіць, палепшыць быт сяльчаніна, а гэта паспрыяе і павышэнню агульнай культуры.

## ЯК ЛЮДЗІ ГУКАЛІ ВЯСНУ...

Час абнаўлення поля.

Думаецца, што ён, гэты час, вытокамі ідзе ў глыбіню гадоў. Яшчэ тады, як сяляне пісалі чалабітную на аканома Емяльянава, як бунтары з Біруляў і Гор, падахвочаныя шахцёрамі, з віламі і косамі рынуліся ў маёнтак абшарніка Стоша...

У тыя завейныя зімовыя дні 1906—1907 гадоў сялянскія бунты віхурай пракаціліся па многіх панскіх дварах. У 1917 годзе, пачуўшы аб тым, што ў Піцеры адбылася рэвалюцыя, сяляне дружна, з песнямі і сцягамі выйшлі на вуліцы прывітаць раніцу новага дня.

Вялікі, спусташальны буран-віхура прайшоўся і па нашых мясцінах у суровыя гады мінулага ваеннага ліхалецця.

З-за кожнага куста, з-за кожнай елкі і сасонкі, з-за старой прыдарожнай бярозы на акупанта гнеўна пазірала руля партызанскага абрэза і вінтоўкі. Чырвонае поле надзейна баранілі партызанскія разведчыкі і падрыўнікі атрадаў Карзюкова, Кананыхіна, Перапечкіна. Тыя, хто не паспеў на ўсход, з Чырвонай Арміяй, у варожым тыле ўсімі сіламі памагалі выспяванню нашай вялікай Перамогі.

Праз многія мірныя гады на Краснапольшчыне ўспамінаюць баявую дзяўчыну ў кубанцы з чырвонай стужкай. Як віхор, улятала яна на кані ў варожыя гарнізоны. Гэта была маладая настаўніца Паліна Крынічка, якая ў акупацыю стала баявой разведчыцай. Помняць краснапальчане і партызанскага камісара Васіля Задарожнага, які па-геройску кіраваў боем з карнікамі і загінуў у баі каля вёскі Гракоўкі; Івана Галярку, які сярод белага дня, на вачах у акупантаў, у Краснаполлі на радыёвузле ўключыў радыё. Над прыціхлым, журботным Чырвоным полем веснавым звонам пранеслася роднае: «Гаворыць Масква!.. Перадаём зводку Саўінфармбюро...» За такое «свавольства» камсамолец Іван Галярка заплаціў жыццём — гітлераўцы расстралялі яго без допыту і суда.

1 кастрычніка 1943 года над Краснапольшчынай запалымнеў на свежым, асеннім ветры чырвоны сцяг, вярнуўшы людзям жыццё і свабоду.

Не забыць вас, першыя дні вызвалення. Праз гады помняцца і тыя нядзельнікі і суботнікі, што наладжваліся ў вызваленых вёсках, і провады ў дзеючую Чырвоную Армію хлопцаў, якія гарэлі жаданнем стаць у шэрагі воінаў. А першыя камсамольскія сходы, на якіх ствараліся звенні высокага ўраджаю, запісваліся добраахвотнікі ў Данбас, у Крывы Рог на аднаўленне руднікоў і шахтаў!..

Вясковыя вечарынкі, камсамольскія вяселлі пад гармонік, новыя франтавыя песні...

Не забудзецца і вясна 1944 года.

Была яна, першая вясна пасля вызвалення, радасная, але і цяжкая. Што пакінулі пасля сябе акупанты, можа сведчыць хаця б такі факт. У саўгасе імя Калініна, які славіўся да вайны як багатая, узорная гаспадарка, знайшлося ўсяго 8 коней. Рабочыя вымушаны былі выкарыстаць для палявых работ кароў. Іх было таксама 8. На каровах вывозілі гной, падвозілі насенне...

У іншых аднаўленых калгасах аралі таксама на каро-

вах. На сотках жанчыны і дзяўчаты ўпрагаліся ў плуг, а які дзед ці дзядзька-інвалід трымаў поручні... Не хапала насення. Яго прысылалі нам, у вызвалены раён, з усходу.

У тое ваеннае лета 1944 года з Краснапольшчыны, як і з іншых вызваленых усходніх раёнаў, накіроўваліся чырвоныя абозы са збожжам. «Усё для фронту, усё для перамогі!» — гэтыя словы гарэлі ў кожным сэрцы...

Восенню праехаліся мы па палях таго ж саўгаса імя Калініна з другім сакратаром райкома партыі Мікалаем Аляксандравічам Сідарэнкам. Завіталі на машынны двор. Толькі адных збожжавых камбайнаў, трактароў ды аўтамашын стаяла цэлая армада. Бульбаўборачныя камбайны, стогакідальнікі, гноераскідальнікі, сіласаўборачныя камбайны, культыватары, сеялкі, бульбакапалкі!..

Саўгас імя Калініна — школа краснапольскіх бульбаводаў. Тут працуюць выдатныя майстры-наватары механізаванага вырошчвання бульбы, слава пра іх пайшла далёка па краіне. Браты Юлій Ягоравіч і Яўген Ягоравіч Жлобы, Героі Сацыялістычнай Працы, цяпер узначальваюць трактарныя брыгады. Іх вопыт вырошчвання бульбы без ручной працы ў надзейных руках маладых, якія не спыняюцца на дасягнутым, а ідуць далей.

Мы гутарылі з брыгадзірам трактарнай брыгады Героем Сацыялістычнай Працы Ю. Я. Жлобам. Нас цікавіла, чаму пры такой сухой восені амаль усюды ў раёне расцягнуліся тэрміны ўборкі бульбы, пад'ёму льнотрасты і іншых важных асенніх работ.

— Увосень работ восем,— сказаў, усміхнуўшыся, Юлій Ягоравіч, а тады дадаў сур'ёзна:— І ўсе яны важныя, неадкладныя. Год быў незвычайны — вельмі выбівала з каляіны людзей, асабліва паляводаў, механізатараў, зменлівасць надвор'я. Няроўнае лета — то сухмень, то залева, і на бульбяных палетках выбуяла пустазелле. Я во бачыў, як змагаліся з пустазеллем, якое проста глушыла пасевы. Дзе правялі своечасова праполку — там бульба чыстая. А там, дзе не паспелі своечасова ўбраць бульбоўнік, падрэзаць пустазелле, якое вымахала ў рост чалавека, здараліся частыя паломкі, прастоі...

Вядома, Юлій Ягоравіч, са свайго боку, мае рацыю. Але ж прычыны, як мы пераканаліся, не толькі ў тым, што пасевы бульбы заглушала пустазелле. Прычыны больш сур'ёзныя. І аб гэтых прычынах слушна гаварылася яшчэ вясною, калі на пленуме райкома партыі абмяркоўваліся задачы, звязаныя з выкананнем Харчовай праграмы краіны.

## КАЛІ НЕ Я, ТАДЫ ХТО?..

У райкоме праводзяцца нарады, лятучкі, дзе замацаваныя за гаспадаркамі члены райкома робяць справаздачу, як выконваюцца даведзеныя заданні; аператыўна аналізуюцца выяўленыя недахопы і няўвязкі, выпрацоўваюцца калектыўныя меры для выпраўлення хібаў і вызначаецца канкрэтная работа на наступныя дні.

Адна з такіх райкомаўскіх лятучак праходзіла на пачатку лета, калі на парадку дня была нарыхтоўка кармоў. Першы сакратар райкома С. Ф. Крутаўцоў нагадаў і пра блізкую ўборку ўраджаю. Прададзена дзяржаве 8 тысяч тон збожжа. Такі паказчык быў дасягнуты ў раёне ўпершыню. Гэта перамога для нашага раёна,— гаварыў першы сакратар райкома.— Думаю, што вы, будучы ў гаспадарках, адзначыце высокую свядомасць людзей, мабілізуючы іх на высокапрадукцыйную, якасную работу па нарыхтоўцы сена, сенажу, сіласу. Неабходна забяспечыць дакладную, рытмічную работу кормаздабывальных атрадаў. І ў гэтай справе вопыт у нас ёсць...

— Для чаго мы ўсё, як і раней, праводзім гэтыя самыя то нарады, то лятучкі і для чаго збіраем людзей? — разважаў Сяргей Фёдаравіч.— Думаю, што збіраем мы людзей тады, калі сапраўды патрабуецца калектыўнае абмеркаванне і выпрацоўка рашэння. А нечага граху таіць, бывае і так: людзі збяруцца, сядзяць і слухаюць, а гаворыць і вырашае фактычна адзін — кіраўнік. Іншыя яму толькі падтакваюць. Атрымліваецца ўяўная, фальшывая калегіяльнасць. Мы стараемся такога не дапускаць...

— Адным словам,— сказаў на заключэнне гутаркі Сяргей Фёдаравіч,— пабудзьце на месцы. Сустрэньцеся з людзьмі...

...Мы ехалі з кіраўніком раённай «Сельгастэхнікі» В. М. Шаваровым. Яму рупіла паглядзець, як працуюць механізатары ў саўгасе «Палужскі», бо з першага дня сенакосу там здарыліся няўвязкі.

Дарога ляжала каля вялікай, некалі вельмі ажыўленай і прыгожай вёскі Палуж, цяпер цэнтра саўгаса «Палужскі». Палуж! Тут была некалі, у даваенны час, добрая школа — будынак па тым часе прыгожы, светлы, і навучанне было пастаўлена ндрэнна. Калектыў педагогаў Палужскай сярэдняй школы ставілі ў прыклад.

Славіўся Палужскі калгасны хор, які быў удзельнікам Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўкі; частушкі палужскіх спявачак запісваліся на пласцінку. У Палужкай

сярэдняй школе вучыўся паэт Аляксей Пысін, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Янкі Купалы, адтуль ён пасылаў у раённую газету «Чырвоны сцяг» свае першыя селькораўскія допісы.

— Тут жа недалёка яго вёска Высокі Борак,— сказаў Віктар Мікалаевіч.— Вяртаючыся, можам заглянуць. Кажуць, што там жыве яго састарэлы бацька...

— Трэба заглянуць!..

Вядзе да Палужы бліскучая, як наваксаваная, асфальтоўка, якая пралегла аж да станцыі Камунары, і на паездку ў суседні Касцюковіцкі раён траціцца не больш як дзве гадзіны. Мы ехалі хутка, але ў дарозе паспелі з Віктарам Мікалаевічам нагаварыцца. Ён, аказваецца, цікавы і, самае каштоўнае, шчыры субяседнік. Добра ведае раён, людзей тутэйшых, бо прыехаў на Краснапольшчыну адразу пасля заканчэння Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі і прыжыўся на тутэйшай зямлі. Працаваў каля васьмі гадоў галоўным інжынерам у саўгасе імя Калініна, чатыры гады дырэктарам саўгаса «Халмянскі» і вось ужо трынаццаць гадоў як на пасадзе кіраўніка раённай «Сельгастэхнікі», а цяпер «адзін у дзвюх асобах» — яшчэ і генеральны дырэктар міжгаспадарчага прадпрыемства. Віктар Мікалаевіч у прынцыпе лічыць, што новы эксперымент — штуршок да стабільнасці работы ў сельскім жыцці. Але ж...

— Але ж і блытаніны хапае,— заклапочана раздумвае Віктар Мікалаевіч.— Сам Саваоф не разблытае. З раніцы я — кіраўнік «Сельгастэхнікі», а пасля абеду — генеральны дырэктар. Прыдумана нібы і разумна, а на практыцы, у нашых умовах, калі яшчэ не ўсе звенні, не ўсе дэталі гаспадарчага механізму добра адладжаны, атрымліваецца толькі затрата сіл і сродкаў, а вынік — небагаты!..

Віктар Мікалаевіч — сялянскі сын. Зведаў галоднае і халоднае маленства, якое прыпала на гады вайны і акупацыі; вучыўся ў сельскагаспадарчай акадэміі, не маючы ні апраткі, ні дапамогі з дому, бо дома засталася маці з цэлай плоймай дзяцей, а бацька загінуў на вайне. З малых год Віктар пазнаў смак хлеба, зробленага сваімі рукамі. Перш чым трапіць у акадэмію, прайшоў у сваёй, такой жа глыбіннай, вёсцы Кішчыцы на Дрыбіншчыне хлебаробскую акадэмію. Любіць Віктар паэзію, у школьныя гады пісаў вершы, часам піша і цяпер. Для сябе. Аб гэтым ён мне і прызнаўся, сёе-тое з напісанага чытаў. І мне спадабаліся радкі, якія выказваюць пачуцці аўтара: «От горя чужого чтоб сердце забилось, нужно его испытать самому».

Наша галоўная тэма размовы тая, што цяпер хвалюе

ўсіх і кожнага — людзі і зямля. Зямля і людзі. Як нам захаваць пачуццё рупліўца-гаспадара, сейбіта.

— Канечне,— пасля доўгай паўзы загаварыў Віктар Мікалаевіч, увішна кіруючы «ўазікам»,— нам, каму даручана адказная роля кіраўнікоў на самых непасрэдных, ключавых пазіцыях, нельга забываць, што індустрыялізацыя вёскі, абнаўленне сялянскага побыту, новы падыход да праблем жыцця і працы — усё гэта само не прыйдзе. Адным і словамі хлеба, малака і мяса не здабудзеш. Людзі ўсё гэта зробяць, а з людзьмі нам, кіраўнікам, трэба працаваць. Патрэбен новы стыль работы, новы падыход да вырашэння праблем жыцця і працы ў вёсцы.

І Віктар Мікалаевіч пачаў як бы здалёк — ён прыгадаў той час, калі прыняў справы дырэктара саўгаса «Халмянскі», змяніўшы там чалавека, які, па сутнасці, разгубіўся, і ўсё апынулася на мяжы заняпаду. У Шаварова быў ужо вопыт работы з людзьмі, але тут ён яшчэ больш упэўніўся, што людзі будуць цябе паважаць, калі ўбачаць: ты — працаўнік-шчырэц, не шкадуеш сябе для агульнай справы і ты — патрабавальны, але і справядлівы. Здолееш знайсці ключык да чалавека, да яго сэрца і сумлення, і ты ў яго вачах набудзеш аўтарытэт і павагу. Калі ж пачнеш юліць, крывіць душою, людзі тваё крыўлянне, твой фальш раскрыюць, як бы ты ні маскіраваўся...

— Было і такое,— расказвае Віктар Мікалаевіч, падахвочаны ўспамінамі,— ты гаворыш, што трэба зрабіць тое і тое. А табе ў адказ: «А мы не пойдзем, што ты нам зробіш? Гэта ж не ў войску, што, куды загадаюць, туды ідзі». Вот і падумай, кіраўнік, як захапіць людзей сваёй ідэяй, каб пайшлі за табой шчыра, не па прынуцы, а свядома, па перакананні, што так трэба, што гэта патрэбна і яму, выканаўцу, і калектыву, у якім ён — не проста адзінка, а раўнапраўны чалавек, гаспадар, які нясе адказнасць за ўсё грамадскае гэтак жа, як і дырэктар саўгаса ці старшыня калгаса...

...Мы ледзь прыкмецілі на абочыне шыльду-ўказальнік: «Камбікармавы завод», і Віктар Мікалаевіч звярнуў на палявую дарогу. Было да завода яшчэ кіламетры два, і ён працягваў расказ-споведзь:

— Узяць, да прыкладу, тое ж малако, якое нам тут, у глыбінцы, даецца вялікай цаною. Помню 1963 год — першы год мае работы ў саўгасе. Набралася ўсяго 998 кілаграмаў малака на карову, а праз пяць гадоў — 1800. У 1969 годзе мы, памятаю, набралі па 1900 кілаграмаў. І што ж? Не паверыце, гэта факт — па вытворчасці мала-

ка халмянцы вярнуліся на ўзровень 1965 года — 1200 кілаграмаў на карову. Гэтак жа і па збожжы. Праз дзесяць гадоў — тыя ж 8 цэнтнераў. Вот вам і стыль!..

— А ў чым корань зла? — вырвалася ў мяне.

— Усё тая ж старая, як свет, і новая, як божы дзень, праблема: людзі, іх адносіны да працы,— коратка адказаў Віктар Мікалаевіч, выкіроўваючы «ўазік» на пляцоўку завода, які выглядаў даволі ўнушальна на зялёным аксаміце пагорка.

Нас сустрэў дырэктар завода, мажны чалавек у расхрыстанай тэнісцы, асцярожна падаў мне, назнаёмаму чалавеку, шырокую, мяккую даланю, пільна паглядзеў у вочы, назваўся:

— Кулікаў Аляксей Антонавіч...

Я ўпершыню быў на такім заводзе, і мне цікава было паглядзець працэс работы. Аказалася, што гэты працэс даволі просты. Устаноўлены АВМ — агрэгат для прыгатавання вітамінная мукі. Просты і працэс сушкі вітамінных гранул, якія з'яўляюцца каштоўным кормам для жывёлы.

Агрэгаты для нарыхтоўкі абязводжаных кармоў ёсць і ў большасці гаспадарак, але іх работа там як належыць не наладжана, і таму прадукцыйнасць нізкая. У чым прычына? Аб гэтым гаварыў Аляксей Антонавіч і на пленуме райкома партыі, калі абмяркоўваліся задачы выканання Харчовай праграмы.

— Некаторыя з кіраўнікоў навучыліся знаходзіць «слушныя» і «абгрунтаваныя» прычыны, умела апраўдваюцца, удала маскіруюць сваю бяздзейнасць і ляноту. Тое, што трэба рабіць самому, такі чалавек стараецца пераласці на плечы іншых. Як у той прымаўцы: з хворай галавы на здаровую...

Аляксей Антонавіч расказаў, што АВМ завода даюць за дзень 20 тон травяной мукі ў гранулах. Калі будзе паступаць сыравіна як і ў першыя дні, то можна даваць і больш.

Віктар Мікалаевіч заўважае, што ў гаспадарках такія агрэгаты даюць па 4—5 тон. А ў саўгасе «Завадоцкі» і таго менш — 1,2 тоны.

— Усё гэта тое ж — дысцыпліна!..

Па дарозе мы наведаліся ў вёску Высокі Борак, на радзіму Аляксея Пысіна. Мы — землякі, але я ніколі не быў у гэтай вёсцы. Высокі Борак робіць добрае ўражанне. Кінуліся ў вочы і пысінскія вербы, і даволі прыглядная азярцо ў вянку чароту і плюшчаю, і ліпавыя прысады, што аздабляюць хаты, і стары здзічэлы парк на раз-

вілцы вуліц. Недалёка ад возера, якое падступае да самых сядзіб, год таму назад стаяла паэтава хата, калыска яго дзяцінства. Састарэлага бацьку ўзяла да сябе пляменніца, а хату паспелі ўжо знесці. Там, дзе стаяла Аляксеева хата, зарастае муравою куча бітай цэглы.

— Чаму так хутка знеслі хату Пысіна?

— Чаму? — перапытваюць мясцовыя кіраўнікі і паціскаюць плячамі.— Не ведаем. Бацька яго пайшоў да родзічаў, а хата засталася без нагляду.

— Чаму?! — здзіўляюцца ў райвыканкоме.— А што, хіба гэта мае якое значэнне...

Набліжаемся да саўгаса «Палужскі». Віктар Мікалаевіч, працягваючы свой расказ, заўважае:

— Я і сам ведаю, Аляксей Пысін вядомы паэт. Гонар магіляўчан. А бачыце, якая ў нас, землякоў, можна сказаць, абыякавасць. Дзіву даешся!..

Звяртаемся да тэмы, якую дагэтуль развіваў Віктар Мікалаевіч. За рулём ён трымаецца свабодна, нібы спрактыкаваны шафёр, і нетаропка расказвае, выказвае думкі, якія просяць выйсця.

— З гэтым, як яго назваць,— гаворыць ціха, нібы разважае сам з сабою,— бессардэчнасцю ці раўнадушшам трэба ўсім і кожнаму змагацца. А як, скажыце, калі яно расце і кусціцца, бы той калючы асот... Яго вырываеш, а ён расце, бо карані глыбока ўпіваюцца.

На шасейцы, перад мастком, за якім у плюшчаі ледзь свіціцца пакручасты серабрысты паясочак абмялелай рэчкі Палуж, Віктар Мікалаевіч спыніў «уазік». Збоч стаяў такі ж куртаты, з паліняным, белым верхам, рабацяга-«ўазік». Ля яго тэпала бялявая жанчына, прыязна ўсміхалася. Мы выйшлі з машыны. Пазнаёміліся.

— Петрукевіч... Валянціна Аляксандраўна. Сакратар парткома саўгаса...

Валянціна Аляксандраўна адразу, як бы даведаўшыся, што для нас гэта будзе цікава, пахвалілася:

— Во гэта вярбовы мост, пра які Аляксей Пысін пісаў у сваім вершы... У мяне і зборнік ёсць. Калі ў нас, у Палужы, ладзілі вечар, ён мне падпісаў кніжку. Ён жа тут, у Палужы, вучыўся. Дошку збіраемся зрабіць...

Валянціна Аляксандраўна пачала расказваць, як у саўгасе падрыхтаваліся да жніва і як набірае тэмп нарыхтоўка кармоў, бо, сказала яна, кармы — аснова развіцця жывёлагадоўлі, ударны фронт.

Семдзесят камуністаў — гвардыя саўгаса. Камсамольская арганізацыя прыкладна такая ж. Кожны восьмы член

партыі працуе ў вытворчасці. Усе важнейшыя вытворчыя ўчасткі ўзначальваюць камуністы.

— Людзі ўсе занятыя,— сказала Валянціна Аляксандраўна,— упор робім на сенакос і на нарыхтоўку кармоў. Вітамінная мукі нарыхтоўваем чатыры-пяць тон у дзень. Застагавана сена больш палавіны да прадугледжанага планам. Як быццам будзе ўсё добра. Асобныя недахопы, якія ёсць, выпраўляем на месцы. Настрой у людзей аптымістычны!..

— Гэта добра,— сказаў Віктар Шавароў,— тады мы паедзем на машынны двор...

Віктар Мікалаевіч ведаў, што на трактары «МТЗ-80» выйшла са строю помпа паліўнай апаратуры. Яе трэба было тэрмінова адвезці на рамонт у майстэрню «Сельгастэхнікі», але загадчык цэха механізацыі сказаў: «Гэта іх справа. Няхай робяць, што хочуць». Трактарыст стаіць паўдня, чакае, пакуль прыйдзе лятучка, забярэ помпу, прывязе на стэнд праверыць, што з ёю, калі трэба, адрамантуе і завязе назад, паставіць на трактар.

— У саўгасе ж не адна аўтамашына,— каменціраваў гэты факт Віктар Мікалаевіч.— Але, бачыце, яны цяпер, калі трактарнае абслугоўванне перададзена ў міжгаспадарчае прадпрыемства, адмахваюцца абедзвюма рукамі. А вы пытаецеся, што змянілася з утварэннем МГП? Змены ёсць. Бачыце, як атрымліваецца на практыцы. І такіх няўвязак і накладак багата, лічыце, амаль на кожным кроку...

...Віктар Мікалаевіч, генеральны дырэктар міжгаспадарчага прадпрыемства, спачатку здзівіўся і нават абурыўся, калі пачуў на машынным двары такі факт. У першыя ж дні касавіцы адзін механізатар адмовіўся ад работы на лузе, бо яму не заплацілі так, як ён хоча. Норма на касілку «КСК-100» 80 тон зялёнай масы, а ён дае толькі 40 тон. Чаму? Паломкі, недахоп запасных частак, прастоі не па яго віне. І ён не працаваў, пакуль не паабяцалі добры заробак.

— Глупства! — абурыўся звычайна ціхманы і памяркоўны Віктар Мікалаевіч.— Ніякіх працэнтовак, прытрымлівацца нормаў!..

Але яму пачалі ўпэўнена і настойліва даводзіць і галоўны агранам саўгаса, і начальнік цэха механізацыі, што інакш нельга, бо страціцца больш, што, маўляў, многае і не залежыць ад яго; і тыя вымушаныя прастоі, і паломкі — вынік абыякавага абслугоўвання з боку інжынернай службы і г. д.

...І ў час гэтай паездкі, і потым Віктар Мікалаевіч рас-

казваў аб той ролі, якую сёння адыгрываюць тэхніка, энергаўзброенасць у жыцці сучаснага сяла, у жыцці хлебароба, наогул у жыцці працаўніка вёскі. Ён прыводзіў лічбы. Між іншым, усе па памяці, не заглядваючы ні ў якія паперкі.

Калгасы і саўгасы абслугоўваюць 679 трактараў, а да 1980 года іх было 295; грузавых аўтамашын — 252, а было 227, 157 збожжаўборачных камбайнаў, а было 98, 18 самаходных кормаўборачных камбайнаў, якіх раней зусім не было.

Створана рамонтная база. Працуюць пункт тэхабслугоўвання трактараў, брыгада па абслугоўванні цэхаў механізацыі, звяно дыягностыкі трактараў і іншых сельгасмашын.

— Здаецца, тэхнічная аснашчанасць не бедная,— заключае Віктар Мікалаевіч,— аднак усяго гэтага аказваецца недастаткова. Чаму? Няма ўзгодненасці з абласной «Сельгастэхнікай». Мы за два гады існавання новай сістэмы не можам стварыць больш-менш прыстойную базу ў цэхах механізацыі ў гаспадарках. Не хапае кадраў. Да гэтага часу не можам укамплектаваць зернекамбайны ў саўгасах «Дружба», «Краснапольскі», «Палужскі», у калгасе «Камінтэрн». Няма ў нас станцыі тэхабслугоўвання аўтамашын...

...Як цяпер мы ведаем, у раёнах створаны аграпрамысловыя аб'яднанні, якія дапамогуць узгадніць і ўдасканаліць кааперацыю сельскагаспадарчай вытворчасці. Сельскагаспадарчы аддзел у райкоме партыі забяспечыць кіраўніцтва ўсёй гэтай работай.

...На пытанне, чаму ў калгасе імя Леніна лепшая, чым у іншых гаспадарках, працоўная дысцыпліна, старшыня А. М. Карпаленка адказаў:

— Сам не сплю, устаю рана і кладуся позна і не даю спаць нікому... Не цярплю абібокаў і дармаедаў!..

Яшчэ адзін штрых, які даводзілася назіраць увосень у сваім, глыбінным раёне. Гэта спалучэнне матэрыяльнага і маральнага стымулаў.

Як толькі стала вядома, што чакаюцца замаразкі, у раёне забілі трывогу.

Нам даводзілася бачыць, як працуюць людзі, адарваныя ад сталоў і папер, ад лічыльнікаў і арыфмометраў. Там, дзе кіраўнікі гаспадарак далі ім магчымасць папрацаваць,— бачны вынікі. Выдатныя, сказаў бы, вынікі!

Каб вы паглядзелі, як у калгасе «Камінтэрн» шчыравала брыгада супрацоўніц аддзела культуры райвыканкома, то сказалі б: гэта і ёсць тое, што мы называем працоў-

ным энтузіязмам. Яны ўчатырох спраўляліся зразаць і накідваць буракі ў кузаў грузавіка, які рухаўся следам, перавыканалі намнога сваё дзённае заданне.

— Мы ідзём тут на рызыку ў пэўным сэнсе,— сказаў старшыня калгаса «Камінтэрн» Аляксандр Мікалаевіч Сурын.— Плацім людзям па завышаных расцэнках, бо ведаем, што ўраджай трэба ўбраць, а сіл не хапае!..

Сваіх сіл не хапае — гэта можна сёння пачуць на Краснапольшчыне ад шэрагу працаўнікоў калгасаў і саўгасаў. Гэтая праблема хвалюе і кіраўнікоў раёна. З імі можна пагадзіцца, але не на ўсе сто працэнтаў. Рэзервы ёсць, яны, гэтыя рэзервы, вакол нас, але як іх узяць — вось задача. І нялёгкая...

## СЯЛЬЧАНІН. ХТО ЁН СЁННЯ?..

У раённай бібліятэцы, якая цяпер носіць імя нашага земляка, пісьменніка Міколы Ткачова, ёсць папка з матэрыяламі па гісторыі Краснапольшчыны. У адной з заметак чытаем успамін былога жыхара вёскі Мар'іна Буда пра мінулае роднага краю: «Сяляне хадзілі ў лапцях. Летам жа — босыя. На ўсю вёску была адна пара чобатаў».

Гэта, вядома, да Кастрычніка 1917 года.

Памятаю, як сам хадзіў у лапцях-чунях, падшытых скурай ці, у лепшым выпадку, гумай ад старых пакрышак. У лапцях хадзіў у школу са Стаек у Гніліцу за тры добрыя вярсты, мясіў тую гніліцкую гразюку па калдобістай вуліцы, плёхаўся ў лужынах, якія не высыхалі і ўлетку. Школа, будынак-развалюха, як на тое ліха, мясцілася якраз на сярэдзіне бясконца доўгай крывой вуліцы.

Боты ці чаравікі мы бачылі толькі ў дарослых, у хлопцаў і мужчын, якія пабывалі ў шахтах. Шчасліўчыкі-шахцёры шпацыравалі ў чаравіках з бліскучымі галёшамі...

Сёння ж зайшоў я ў раймаг і бачу: вясковыя жанчыны, пажылыя і дзяўчаты ў модным адзенні, пахаджваюць каля паліц, заваленых абуткам, і выбіраюць модныя чаравікі і боцікі, гумовікі. На кожны густ ёсць і абутак, і апратка...

Вясковыя кабеты з той жа Гніліцы не толькі ўсё гэта абмацваюць і прымерваюць; бачу, яны лёгка расстаюцца з чырвонцамі і нясуць, нясуць пакупкі — абутак, коўдры, капы, бялізну, курткі, касцюмы, паліто...

Процьма пакупнікоў і ў магазіне гаспадарчых і электрычных тавараў, у магазіне «Дзіцячы свет»...

Халадзільнік, тэлевізар, электрапрас, электрабрытва, набор дарагой мэблі, дываны, дарожкі — усё ёсць у самых

далёкіх, лясных і бязлесных, вёсках, у глыбінцы, якая лічылася лапатным краем.

Тут жа, на людным месцы, каля раймага, спыняюцца «Лады» і «Жыгулі», матацыклы розных марак...

Збоч плошчы, каля старога парку, невялічкі памост-прылавак, дзе ў любы дзень можна купіць дары з мясцовых агародаў: раннія агуркі, клубніцы, памідоры... А якія на Краснапольшчыне яшчэ растуць грыбы!..

Увосень звычайна гэты памост-прылавак аж ломіцца ад садавіны. Такіх смачных, сакавітых яблык антонаў, штрыфеляў, цітавак, груш розных гатункаў мала дзе знойдзеце.

Маю ўвагу неяк прыцягнулі свежыя, вялікія, па добраму кулаку, антоны ў кошыку, які красаваўся на прылаўку.

— Хто прадае такое хараство?..

— Мае яблыкі,— адказаў, бы сумеўшыся, мажны дзядзька-мацак у цёплай чорнай паддзёўцы і ў новай шапцы-вушанцы.— Па семдзесят капеек за кіло. Бярыце, не пашкадуеце... Яблыкі лепш таго імпартнага віна...

— Яблыкі добрыя. А па пяцьдзесят не будзе?..

— Хо! — грэбліва ўсклікнуў дзядзька і рэзка адвярнуўся:— У Бабруйску антонаўка па паўтара рубля — з рукамі адарвуць.

— То ж у Бабруйску,— гавару з дзядзькам, абы ўведаць, які з яго гаспадар.— За блізкі свет...

— А што мне той свет! — напыжыўся мацак, ліха ссунуўшы вушанку на патыліцу.— Запрог во еты «браневічок», і парадак, абы хэнць меў...

І ён паказаў на ярка-чырвоны «Масквіч», які нібы ўзвышаўся над усімі. Багажнік «браневічка» быў адкрыты — і там кош яблык. А пакупнікоў не было...

...У той жа дзень давялося пабыць у роднай вёсцы, у землякоў, да якіх еду з заўсёдным хваляваннем і радасцю. Пабыў на роднай сядзібе, у бацькавай хаце... Са шчымлівым сэрцам прывітаў чародку сваіх ліпак, якія выраслі, сталі ўжо гонкімі і кучаравымі, самотна паглядзеў на садок, у якім засталася толькі адна, ужо дуплістая і здзічэлая, яблыня, пасаджаная дзедам, астатнія — клопат бацькі; іх пасадзіў ён, вярнуўшыся з гэтай вайны; на ўзмежку, побач з сядзібай сваяка Агея Траянава, дзе раней раскашавалася тоўстая і, здавалася ў маленстве, самая высокая ліпа на ўсё наваколле, цяпер расце крываватая яе наследніца. У агародчыку ля нашае хаты рос высокі і гонкі ясень — цудоўнае, светлае дрэва, якое здавён любілі нашы жыхары. Той ясень ужо, мабыць, збыўся, а пад-

няўся атожылак і хваліцца кучаравай шапкай над вільчыкам.

Што кінулася ў вочы, дык гэта адсутнасць калодзежа блізка ад глухой сцяны хаты. Без яго я не ўяўляў нашага канца, адкуль цягнулася ў бок недалёкага хутара галоўная вуліца. На месцы калодзежа — голая лапінка, прыкіданая свежай зямлёю. Сюды, з садка, з разгатай бярозы, што пры вуліцы пасадзіў па вайне бацька (ён любіў, каб каля дома былі дрэвы, найбольш любіў бярозу за яе, мабыць, пявучасць нават пад лёгкім ветрыкам), за пахілы, прапылены пляцень, дзе быў наш стары калодзеж, зляцелі, лёгка кружачыся ў празрыстым свежым паветры, жоўтыя бярозавыя лісткі...

— Дзе ж калодзеж? — найперш запытаўся з трывогай у першага стрэчнага чалавека.— Тут жа, пры нашай хаце, быў добры калодзеж...

— Во, браток, рэдка ты ў нас бываеш,— загаварыла жанчына з лёгкім дакорам, але ў голасе было нешта лагоднае і цёплае.— То хіба не пазнаеш мяне, сваю суседку Мар'ю Булахоўскую? А калодзеж во, праз дарогу, новы выкапалі. Ды так удала, вельмі смачная і чыстая вада...

— Пазнаю, пазнаю, даражэнькая,— сумеўся я і, просячы прабачэння ў Мар'і, добрай і зычлівай суседкі, якая прапанавала пакаштаваць вады з новага калодзежа (вада сапраўды была смачная), пахваліў землякоў. Нарэшце яны адважыліся пазбавіцца старой замшэлай студні; яе зруб хаця і быў з моранага дубу, але ўжо так знасіўся, што рамантаваць было б неразумна.

Мар'я, гаваркая і шчырая, пераказала мне ўсе навіны, доўга гаварыла пра жыццё, якое, яна сказала, хоць і шчаслівае ў вёсцы, але і цяжкае для іх, пенсіянераў. «Старасць нікога не красіць. Але не гэта хвалюе. Цяжка во з дрыўмі, лясы ж ад нас, знаеш сам, ужо даўно аддаліліся, і паліва — наша самае балючае месца. Але нічога, жывём, не будзем скардзіцца. Хлеб прывозяць рэгулярна, а сала і малако сваё... І свіней, і падцёлкаў трымай колькі ёсць твае змогі. Адным словам, абы здароўе, можна жыць. І святло, бачыш, электрычнасць, як у горадзе. Тэлевізар во ёсць у суседа... Калі хочаш, можна схадзіць. Глядзелі неяк і цябе бачылі... Во якое жыццё, брат... Жывеш недзе за сотні вёрст, а бачыш, як усё адно перад табой блізка сядзіць наш, свой чалавек... Во дажылі, браток, радаснай жыткі!.. Жыві ды не памірай,— закончыла суседка Мар'я і напаследак сказала:— Дык у хату зайдзі, Іванавіч, паглядзі, як жывём...»

Ведаў, што Мар'я з хаты так, без пачастунку, не адпусціць, а мне хацелася пабачыцца яшчэ з чалавекам, які быў і нашым суседам, і добрым сябрам нашай сям'і. Я кажу пра Якава Іванавіча, ветэрана, бадай, самага старога чалавека тут, у нашай вёсцы.

Мне пашанцавала — Якаў Іванавіч, апрануты ў цёплую шэрую ватоўку, на босых нагах закарэлыя сандалі, без шапкі, сівенькі і лёгкі, як падлетак, грэўся на лавачцы каля сваёй хаты. І ціха, ледзь варушачы ссінелымі губамі, нешта сам сабе як гаварыў, вычэрчваючы абшмараваным кіёчкам нейкія завітушкі на доле. Якаву Іванавічу, як мне здаецца, ужо амаль дзевяноста. За майго бацьку ён быў старэйшы на чатыры гады. Але пачакаю — запытаю ў дзядулі, што ён сам скажа...

Мы павіталіся, і Якаў Іванавіч, не выказваючы ні здзіўлення, ні іншага якога пачуцця, пачаў адразу скардзіцца на тое, што маладыя не цэняць цяперашняга жыцця і не робяць так, як яму, старому, хацелася б, бо не ведаюць, як тутэйшыя людзі жылі раней аднаасобна, а потым, на пачатку перабудовы вёскі, рабілі, не ведаючы стомы, бо любілі зямлю...

— Во, чалавеча,— апавядаў Якаў Іванавіч мне як суседу, з якім нібы ўчора бачыўся,— паглядзі, хіба ета работа... Хаця б і дачка Маша, ёй ужо гадоў багата, ужо яе дачка замужам, а паглядзі, як сена тое, што скасіла, не ўмее як трэба паварушыць... Хто ж ета падварушвае сена супраць ветру. Па ветры трэба пракосы разбіваць, тады сена не разносіцца, ні сянінкі не згубіцца.

Якаў Іванавіч, як бачна, мяне не пазнаў. Але я пакуль што маўчаў. А ён, сагрэты радасцю сустрэчы з чалавекам, шчыра выкладаў сваё, што яму набалела. Якава Іванавіча я не бачыў, мабыць, з таго года, калі памёр мой бацька.

Дзе, скажыце, той Якаў, Іванічка, як яго называлі ў вёсцы, вясёлы, дзябёлы, як камёлак, мужык, з дужымі, вялікімі рукамі, з цвёрдай, упартай паходкай, сівагаловы? На прадубленым вятрамі і сонцам твары яркімі цёмнымі іскрамі свяціліся бліскучыя з прыжмурам, вочы. Калі Якаў крочыў, то пад ім дол дрыжаў. А голас зычны, густы, але не грубы, і на смуглаватым, у зморшчынах твары заўсёды блукала цёплая, крышку іранічная ўсмешка. Нешта ад тае ўсмешкі і цяпер цепліцца, але твар зморшчаны, як печанае яблыка, у кволай, як гусіны пух, шчэці. І голіцца Якаў Іванавіч, мабыць, рэдка; не тое што раней, калі яму было яшчэ семдзесят з хвосцікам...

На твары і ва ўсёй паставе нейкая спішанасць ці сум.

Якаў Іванавіч паказаў мне сваю сядзібу, расказаў, якой цяжкай была вясна, ды і лета не дужа спрыяльнае, з перападамі, а восень — нішто; стаяла дабрэннае, як ён сказаў, надвор'е, але што ж — няўпраўка. «А чаму няўпраўка?» — «Скажу табе, братка, праўду, парадку няма. Дзе было такое, каб гаспадар гульма гуляў? Хіба я калі сонца праспаў ды яшчэ і да паўдня чухаўся, калі за брыгадзіра быў? Я на досвітку ўсё поле аббегаю, абрасянюся па пояс, а да снядання ўсіх людзей на работу выпраўлю... А што робіць наш еты брыгадзір? Сам лынды б'е, абібок, у чарку заглядае, а таму і людзі зняверыліся. Сланяюцца, як непрыкаяныя... Парадак людзям дай, і тады нешта будзе!..»

Якаў Іванавіч паказаў на сядзібе палоску, дзе была пасеяна трава для ўласнай каровы. Касіла яго дачка. І бацька абураецца:

— Разве етак косяць? — ён паказвае на высокае, няроўнае, як паскубленае, травянішча.— Тут жа яшчэ пуды тры можна было б накасіць, каб ета ў мяне ранейшая сіла... Я, бывала, выкашу луг так, што люба глядзець — роўненька, шчытна, адзін мох застаецца...

Якаў Іванавіч пахваліўся, што ён свае соткі падзяліў на тры палоскі — на адной трава (райграс з цімафееўкай), на другой — бульба і ячмень... І садок у Якава Іванавіча — некалькі яблынь, слівы, груша; грады — цыбуля, морква, капуста, агуркі, часнок... Усяго па невялічкай градцы.

— Вот жыву,— нават усміхнуўся Якаў Іванавіч.— І пакуль не здаюся. Дзе сам не здолею, сыны памогуць (яны жывуць добра, у кожнага свая сям'я). Старая яшчэ сяк-так варушыцца. Ды Маша, даярка сталая, і яна ўжо на пенсію скора пойдзе. А гаспадарку не спускаем. І карова, і свінні, і куры ёсць... Жыццё харошае, можна сказаць,— паўтарае Якаў Іванавіч.— Ды што ж, мне пара ўжо, час туды,— ён паказаў кавенькай у бок вуліцы. Я ведаю, пра што гэта — там, пад маяком, могілкі, дзе і мой бацька, ягоны таварыш, спачывае ўжо даўно.— Пайду туды. Можа, праз год, можа, праз два, а можа, і заўтра...

Сказана гэта проста, як пра самае звычайнае.

— Якое ж ета жыццё,— ужо інакшым голасам загаварыў дзядуля,— калі рабіць не можаш?! А што чалавек без работы — адно званне, што чалавек. Злыдзень, а не чалавек...

Я ведаў, які працаўнік і шчырэц некалі быў Якаў Іванавіч Кавалёў. Залатыя рукі. Такімі людзьмі, як ён, калгасы на ногі ставіліся. Помню, часта пра Якава Іванавіча гаварылі, што ўсякая работа ў яго гарэла ў руках — ён на-

перадзе ўсіх і з касой, і з сякерай. Бывала, калі мужчыны збяруцца ў кампаніі і возьмуць па чарцы, Якаў Іванавіч казаў: «Рукі мае залатыя, галава сярэбраная...» І ніхто з гэтага не смяяўся. Рукі ў Іванавіча сапраўды залатыя. А галава — у ранняй сівізне, бо Якаў Кавалёў быў на трох войнах. Прайшоў і Польшчу, і Германію двойчы. Зведаў нямецкі палон яшчэ ў тую вайну, і ў гэтую масты паходныя будаваў і пераправы і на Вісле, і на Одэры.

— Баліць мне галава,— падалося, спакойна, як пра каго іншага, вёў свой расказ Якаў Іванавіч.— Водзіць нейкі вадун у бакі, але яшчэ сам сеяў, сам во памагаў і бульбу капаць...

Мы ўсё гаварылі як незнаёмыя. Але вось выйшла з хаты бабуля Лукер'я, жонка Якава Іванавіча. Таксама не маладая — восемдзесят з гакам. Але яшчэ рухавая, толькі неяк бытта змянілася ў твары, паменшала ў росце. Робіць усё дома і ў агародзе, ваду з калодзежа, які далекавата, носіць. Лукер'я адразу пазнала мяне, падышла, павіталася:

— А, здароў быў, Іванавіч... Што, у госці завітаў?.. Хочацца пабыць на бацькаўшчыне. А маці ж твая памерла ўжо... Чула і я... Чула!..

Якаў Іванавіч, які, мабыць, ужо добра недачувае, з гумарам знаёміць мяне з гаспадыняй:

— А ета вунь мая кабета... Значыць, жанчына... Можна сказаць, мая жонка... Жана, значыць...

Лукер'я здзівілася, засмяялася, паказаўшы шчарбіны між яшчэ моцных зубоў, і да мужа:

— А ты і не пазнаў... Во стары, ужо нічога не сабражае... Ета ж Іванавіч... Івана-саўхоза сын!..

Якаў Іванавіч прыжмурыў слязлівыя, але яшчэ вострыя вочкі. Адразу як бы павесялеў, ажывіўся.

— О! Вот яно што! Я і не пазнаў,— спрабаваў засмяяцца ён, але атрымалася толькі нейкая грымаслівая шчыліна ў праваленым роце.— Пастарэў і ты, брат. Я памятаю цябе зусім маладым!..

— Што ж, нічога не паробіш...

— Ды ўжо ж так! — і пра сваё:— А ў мяне, Іванавіч, цяпер дзве пілы — ды абедзве вострыя.— Гэта пра жонку і дачку.— Як мне аднаму з імі!..

Якаў Іванавіч расказваў, што быў паранены ў галаву, пакалечана рука. Пасля гэтай вайны аднаўляў калгас, шчыраваў з плугам, касою, з рубанкам і сякерай...

— Сам знаеш,— успамінаў Якаў Іванавіч,— у якім быў пачоце, бо працаваў ад душы, чэсна. Амаль што ў кожнай хаце бачна мая работа. Цясляр я, сам ведаеш!.. Пасля

етай вайны каторыя людзі без хат засталіся — трэба было будаваць. А лес — далекавата. Бывала, якіх круглякоў, макавін агораюць, а хацёну змудрую, стаіць, як лялька. Стаяць шчэ мае хаткі... На здароўе людзям добрым!..

Якаў Іванавіч ужо як бы забыўся пра ўсе свае нямоглясці-хваробы. Пачаў дакараць сябе, што адразу не пазнаў мяне. Лукер'я, якая слухала моўчкі ці дзе ўстаўляла якое слоўка, нібы заступалася за яго:

— Дык ён ужо слаба бачыць стаў, глухне... Тое, што далёка, бачыць, а зблізку — слабей...

— Нічога,— запярэчыў Якаў Іванавіч.— Я шчэ і газету чытаю... У курсе, што на свеце робіцца. Асобенна хочацца знаць, што і як у раёне. Цікаўлюся яшчэ, брат!..

З нейкай патаемнай думкай пазірае ён на чародку гонкіх бярозак — мініяцюрны гаёк, пасаджаны ў першыя пасляваенныя гады каля двара. Доўга маўчыць, тады звяртаецца да мяне, нібы радзячыся:

— Бачыш, етыя бярозкі. Можа, памятаеш, мы іх садзілі з Іванькам, тваім брацёнікам. Ён быў жа маім суседам. Хату яму я памагаў ладзіць. Ён, знаеш, хату ету прадаў, а сам з'ехаў на шахты. А нашы бярозы, бачыш, выраслі. З новай суседкай мы падзялілі іх. Яна свае пацíху-патроху спатрэбіла на дровы... А мае стаяць. Восем бярозак.

І зноў дзядуля пра моладзь, пра змену, дзеля шчасця якой ветэраны, першапраходцы, не шкадавалі сіл і самога жыцця.

Якаў Іванавіч, можа, перабольшвае трохі. У Стайках, як і ва ўсіх іншых вёсках, асноўны цяжар працы на плячах маладых — гэта механізатары і жывёлаводы, паляводы і меліяратары. Яны апраўдваюць высокае званне маладых гаспадароў зямлі. Ёсць, на жаль, і такія, што толькі ганьбяць гэтае высокае званне. Гультайства і дармаедства, як цвіль-грыбок, раз'ядаюць асобныя сем'і ў вёсцы. І нельга не прыслухацца, што гавораць ветэраны, той жа Якаў Іванавіч.

— Вунь у той хаце,— ён паказвае ў бок калодзежа,— аж тры байбусы, можна сказаць, дармаеды. На бацькавай шыі, як гіры-пудавікі... А яны ж не ўломкі, такія, што толькі б работаць. Балаўнікі! Іх бацька ад вясны да халадоў цягаўся. Спрадвечны пастух. Рабацяга. А сыны распуснікі, гойсаюць па вуліцы, як гіцлі. А на іх жа рабіць трэба, есці абы-чаго не хочуць. І жывуць, і нават на гарэлку ёсць грошы... А што, ад чаго б гэта, хто тут вінаваты?.. Мы самі, бацькі, вінаватыя,— прыстуквае кійком Якаў Іва-

навіч.— Трымаюць байбусаў на сваім карку да сівых валасоў. Хто працуе цяпер добра, зарабляе больш, чым у горадзе. Жывуць людзі лепш, чым да вайны, у старыя часы... У пяць, у дзесяць, у сто разоў. Больш таго, засыпалася вёска грашыма...

...Развіталіся мы з Якавам Іванавічам. Нечакана падышоў рэйсавы аўтобус, а на ноч заставацца не выпадала...

Аўтобус ішоў праз цэнтр калгаса імя Энгельса. Каля дарогі выстраіліся дамкі-мураванкі, а перад імі — пустка, ні дрэўца, ні кветачкі... А жывуць жа тут маладыя гаспадары, спецыялісты з сярэдняй і вышэйшай адукацыяй.

Такое ж можна бачыць і ў іншых новых пасёлках і на новых вуліцах старых вёсак... Не дужа турбуе маладых, што яшчэ сярод лета сям-там прысады пры дарозе пажоўклі, паўсыхалі, бо нядбайнікі з «Сельгасхіміі» перастараліся; не часта пачуеш, каб маладыя людзі-вяскоўцы рупіліся пра сады, агароды, пра пчол... А яны ж нашчадкі. Ветэраны аддаюць ім, маладым, у іх рукі самае дарагое — зямлю, за якую яны ваявалі, якую абнаўлялі і ўпрыгожвалі, не ведаючы стомы, пераносячы голад і холад.

Сяльчанін. Хто ён сёння?..

Сённяшнія гаспадары — гэта сучасныя маладыя людзі; на іх дужых плячах ляжыць галоўны клопат аб зямлі, аб яе будучыні. Многія з іх маюць сярэднюю і васьмігадовую адукацыю. Яны нарадзіліся ў пасляваенныя гады і не перажылі таго, што перажылі іх бацькі, старэйшыя браты, юнацтва якіх апалена вайною, вялікімі бедамі, што выпалі на іх долю. Нарэшце, яны гадаваліся і раслі ва ўмовах, калі вынікі вайны ў асноўным былі пераадолены і быў забяспечаны адносны матэрыяльны дастатак. Маладое пакаленне вясковых жыхароў не звыклае да тых жыццёвых нягод і цяжкасцей, якія пераносіліся бацькамі, а тым больш дзядамі.

Скажам, той жа Якаў Іванавіч не будзе стаяць гадзіну на прыпынку і чакаць рэйсавага аўтобуса, калі яму спатрэбіцца наведацца ў кантору калгаса, за тры кіламетры,— ён з кульбай патупае, а адтуль яшчэ на плячах прынясе покуп — бохан хлеба, банку якіх кансерваў ці кілаграм марожанага марскога акуня... А малады, здаровы дзяцюк, які мог бы гэтага дзядулю з яго паклажай пранесці на руках, будзе і паўдня стаяць. І яшчэ абурацца, што затрымаўся аўтобус. А як уб'ецца, то спрытна зойме месца і адвернецца, будзе натужна глядзець у акно.

Як ужо гаварылася, у апошнія гады ў нашай глыбінцы многае робіцца для амаладжвання вёскі. Сёння гэта пра-

блема нумар адзін. Забудоўваюцца цэлыя вуліцы ў старых паселішчах, разгорнута будаўніцтва жылых дамоў у цэнтрах саўгасаў. І што тут цікава. Маладыя сяльчане не дужа турбуюцца, каб іх жыллё было ўтульным і прыгожым.

Ёсць тут і пэўныя межы, якія нельга пераступаць, каб асабістае не трансфармавалася ва ўласніцкае. Расказвалі цікавы факт, які меў месца летам у калгасе імя Энгельса. Перад касавіцай праўленне вызначыла дзялянкі сенакосу ўсім працаздольным мужчынам. Знайшоўся ў брыгадзе спрытнюга-прадпрымальнік, які цішком наняў трактарыста з касілкай, і той яму на досвітку скасіў ягоную паласу лугу. Пасля гэтак зрабіў і яшчэ той-сёй... Атрымалася, што касцы, якія самі павінны былі пазавіхацца, не толькі не працавалі, але яшчэ адарвалі ад работы механізатара з касілкай.

Добра вядома, што вясковыя жыхары ўсё актыўней удзельнічаюць у здачы малака і мяса дзяржаве, сябе забяспечваюць прадуктамі, садавінай, гароднінай. Бачны ўклад калгаснікаў і рабочых саўгасаў у Харчовую праграму краіны.

Здадзеная жывёлагадоўчая прадукцыя займае ў дзяржаўным плане значнае месца. А план немалы: раён павінен здаваць штодзённа сто тон малака.

Мы гутарылі з начальнікам раённага ўпраўлення сельскай гаспадаркі Э. С. Ісаевым. Ён сказаў:

— У нас ёсць сяльчане, якія здаюць па дзве-тры тоны мяса, па восемсот — тысячы кілаграмаў малака ў год.

— Як думаеце, Эдуард Сяргеевіч, ці не абернецца гэта заўтра канфліктнай сітуацыяй для калектыўнага ўкладу жыцця?

— Як сказаць?! — пацiснуў плячамі начальнік упраўлення. Пасля, паразважаўшы, дадаў:— Пра вясковага чалавека, калі ён раўнадушны да свайго двара, да свайго быту і не імкнецца жыць шыкоўней, гавораць, што ён благі працаўнік...

Сапраўды, тут ёсць разумны сэнс. Але ж нельга і перабольшваць — даваць разрастацца гэтаму імпэту; трэба, каб матэрыяльныя і бытавыя даброты не засланілі для людзей сэнсу жыцця. Культура разумных патрэб — неабходны, важны элемент усяго грамадскага працэсу ў нашым жыцці.

Культура — гэта не толькі клубы, бібліятэкі, школы, розныя самадзейныя гурткі. Пра гэта гаварылася і на чэрвеньскім (1983 г.) Пленуме ЦК КПСС.

Сумленнасць і дабрачыннасць маюць найважнейшае значэнне ў выхаваўчым працэсе. Бяздушнасць і чэрст-

васць, фармальныя, бюракратычныя адносіны да свайго непасрэднага, прамога абавязку — не вельмі прыемная прыкмета.

— Усё гэта,— як бы жартам заўважыў Эдуард Сяргеевіч,— вынік паспешлівасці.— А тады афіцыйна:— З укараненнем спецыялізацыі сучасная калектыўная гаспадарка ў аб'яднанні не растворыцца. Я так разумею. Наадварот, калгасы набудуць свой профіль, упэўненасць у сабе. Уклад жыцця застаецца нязменна калектыўным. Затое павысіцца прадукцыйнасць працы, палепшацца ўмовы жыцця, ліквідуецца розніца ў быце сельскага і гарадскога жыхара...

## ЛЮДЗІ, ЧАС, ЖЫЦЦЁ...

...Была нядзеля, і я проста так, не разлічваючы, што ў райкоме хто-небудзь будзе з кіраўнікоў, апроч дзяжурнага, заглянуў туды раніцою.

У прыёмнай сядзела жанчына сярэдніх год, у клятчастай хустцы, у паліто. Відаць, на прыём...

— Першы ў сябе! — сказаў дзяжурны, падняўшы галаву ад газеты, якую чытаў.

— Адзін?..

— Не. Там другі сакратар райкома, начальнік упраўлення сельскай гаспадаркі і Чыжэўскі — намеснік старшыні райвыканкома.

Я наважыў пачакаць, пакуль скончыцца іх размова, але выйшаў Сяргей Фёдаравіч і запрасіў жанчыну ў кабінет. Заўважыўшы мяне, павітаўся.

— А! Вярнуўся з падарожжа? — усміхнуўся ён.— То чаму не адпачываеш?.. Што ж, заходзь...

Перапыніўшы, відаць, гутарку з работнікамі, Сяргей Фёдаравіч выслухаў жанчыну — гэта была жонка таго п'яніцы-брыгадзіра Паўлючкова, які, нягледзячы на папярэджанне, якое атрымаў ад райкома, працягвае бяздзейнічаць на ранейшай пасадзе.

— Вот вам, таварышы,— звярнуўся Сяргей Фёдаравіч да прысутных,— наглядны ўрок нашае мяккацеласці, непатрэбнага лібералізму. Бачыце, ён, гэты Паўлючкоў, спекулюе на тым, што возяцца з ім, як нянька з дзіцем. Разбярыцеся, Мікалай Аляксандравіч,— звярнуўся Сяргей Фёдаравіч да другога сакратара райкома.— Нарэшце з гэтым лібералізмам трэба канчаць... Раз і назаўсёды. Знойдзецца там чалавек, які павядзе справу, як належыць сапраўднаму камуністу.

Жанчына, абнадзееная, пайшла, і гаворка працягвалася. Размова ішла аб тым, каб хутчэй закончыць асеннія работы і павысіць тэмпы здачы малака і мяса.

Сяргей Фёдаравіч, відавочна, каб чуў і я, сказаў, што раён пяць гадоў запар выконвае планы па здачы мяса, з вялікім напружаннем, але выконваецца і план здачы дзяржаве малака. Яны навучыліся вырошчваць кукурузу...

— Вядома, калі яе ўсюды па-гаспадарску дагледзець, своечасова і якасна ўбраць,— уставіў Эдуард Сяргеевіч,— давесці да ладу...

— Правільна,— пацвердзіў Сяргей Фёдаравіч і працягваў: — Кукуруза прымусіла нас шукаць новыя метады ўборкі і сіласавання. Вот, скажам, раней траншэю на тысячу тон закладвалі цэлы месяц, а цяпер, на комплексе ў Янаўцы, спраўляюцца за два дні. Вот і рэзервы!..

Заканчваючы гаворку аб мерах, якія трэба прыняць для паскарэння тэмпаў здачы малака, першы сакратар райкома яшчэ раз нагадаў зводку — каб выйсці на план, штодзённа трэба здаваць сто тон. Ад каровы, што ў асабістай уласнасці, здаецца па два кілаграмы. А трэба — чатыры.

— Вось і глядзіце, калі будзеце на месцы,— гаварыў Сяргей Фёдаравіч, звяртаючыся да таварышаў, якія былі ў кабінеце.— Там, дзе жыхары здаюць па два кілаграмы, работа ідзе на «двойку», а там, дзе тры,— на «тройку». А нам патрэбна «чацвёрка»!.. Вот і ўся методыка: як хто працуе — такая аддача!..

— І зноў накачка?..

— А як жа вы думаеце? Канкрэтнае кіраўніцтва. Анягож!..

Сакратар жмурыць вока, хітра ўсміхаецца. Сакавітае «анягож» выдае краснапальчаніна. Аб гэтым кажу Сяргею Фёдаравічу.

— Не, я віцябчанін,— усміхаецца ён.— Ды можна лічыць, што прырос тут, да гэтай Краснапольшчыны. Дзесяць гадоў. Добра прыйшлося, як кажуць, пазавіхацца. Бывае, што сто патоў з цябе выцеча... Але нічога, не шкадую.

Я ведаю, што за апошнія дзесяць гадоў на Краснапольшчыне многа зроблена для таго, каб глыбінка, якой палохаліся многія, каго накіроўвалі сюды на работу не толькі ў сельскай гаспадарцы, але і ў сферы культуры, народнай асветы, медыцынскага і бытавога абслугоўвання, выйшла на прасторы ўздыму і развіцця.

Сакратар райкома хмурыцца:

— Вядома, ставіць задачы таксама работа, і немалая, і нялёгкая. А вот іх ажыццявіць на практыцы — куды цяжэй. Гэта і ёсць аснова ўсіх нашых добрых ідэй!

Каб сёе-тое праясніць для сябе, я зачапіў тут, у кабінеце першага сакратара, тэму, на якую была ў нас гаворка з Э. С. Ісаевым. У прыватнасці, пра тое ж падвор'е, тым больш што гаворка ішла якраз пра здачу малака сяльчанамі.

— А ці не захлісне гэтае самае падвор'е самае галоўнае — любоў да зямлі, а «суцэльны быт» — рост духоўнасці?

Абазваўся Эдуард Сяргеевіч:

— На думку эканамістаў і сацыёлагаў, асабістая гаспадарка мае толькі падсобны, а не асноўны характар і арганічна знітавана з грамадскай.

— Так,— згадзіўся першы сакратар райкома,— менавіта падсобны, а не асноўны. Усё, што сёння ёсць ва ўласнасці калгаснікаў і рабочых саўгасаў, нажыта за сродкі, заробленыя на палях і фермах, у будаўнічых брыгадах. Сад, агарод, свойская жывёла і птушка — гэта частка агульнага дабрабыту сям'і. Але мы глядзім, каб гэта не перашкаджала рабоце на грамадскай гаспадарцы.

— А што, такая небяспека ёсць?..

— На жаль, парасткі такой небяспекі прабіваюцца на паверхню. І тут трэба разумныя меры, якія б начыста выполвалі такія парасткі, каб не з'явіліся непажаданыя ўсходы!..

— Мы — арганізацыя выхаваўчая,— гаварыў далей Сяргей Фёдаравіч,— і наша партыйная зброя — выхаванне. А ў выхаваўчым працэсе, у рабоце з людзьмі многае, калі не галоўнае, залежыць ад асобы кіраўніка. Цяпер спецыялісты па выхаванні гавораць: «Калі выхавацель не ўмее кіраваць выхаванцамі, ён прапаў, калі ён умее толькі кіраваць — прапалі выхаванцы».

— У выхаваўчым працэсе важна знайсці правільныя меры,— заўважыў Мікалай Аляксандравіч, другі сакратар райкома.— Калі выхавацель не дужа жадае ўзяць на сябе больш, а стараецца як бы вызваліцца ад працы, там поспеху не чакай!..

У кабінеце ціха. Усё ж была нядзеля. Мы сядзелі, размаўлялі. Сяргей Фёдаравіч успамінаў сваю маладосць — вучобу ў акадэміі, практыку ў калгасах «Перамога» Чашніцкага раёна, першыя крокі работы аграномам, а потым старшынёй у калгасе імя Мічурына, недалёка ад Горак. Быў кіраўніком абласнога трэста гароднінных саўгасаў,

дырэктарам саўгаса «Чэрыкаўскі» — і ўсюды ён праходзіў, прыступку за прыступкай, навуку слухаць зямлю, спасцігаў чалавеказнаўства.

— Кажуць, многае зроблена тут за гэтыя дзве пяцігодкі. Не адмаўляю, зроблена нямала,— першы сакратар райкома пераключыўся з успамінаў на тое, з чаго пачалі мы гаворку.— Чаму многа непаладкаў, недаробкаў?.. Чаму людзі абураюцца недахопамі і хібамі, якія заўважаюцца на месцах? Думаюць, што гэтыя недахопы, гэтую яшчэ заскарузласць і непаваротлівасць многіх нашых кіраўнікоў мы самі ў райкоме не бачым. Галоўная наша бяда — гэта безгаспадарчасць. Кіраўнікі гаспадарак маладыя, не дужа шукаюць падыходу да людзей, не ўмеюць наладзіць цесны кантакт і ўзаемаадносіны з нізавым звяном — брыгадзірамі, начальнікамі цэхаў, а ідуць пратоптанай сцежкай. Баяцца цаліны!.. Часта я ўспамінаю,— гаворыць Сяргей Фёдаравіч,— нашага старшыню з «Перамогі», былога партызанскага камандзіра Паўла Сцяпанавіча Папко, якога ўсе звалі «Сівы», бо ён дачасна пасівеў. Як умеў ён з людзьмі жыць і ладзіць, а быў строгі і патрабавальны. «Галоўнае,— гаварыў ён мне,— вучыся любіць людзей, акадэмік!» Папко называў мяне жартам акадэмікам. Ён даў мне першыя ўрокі, якія запамяталіся на ўсё жыццё. Яны, гэтыя ўрокі, простыя: калі ўзяў на сябе абавязак, то не перакладай яго на плечы іншых. Любіў ён раіцца з людзьмі. Часта ездзіў на малакавозе — адзіная была аўтамашына ў калгасе. Калі трэба нешта зрабіць, то выкладаў свае і гаварыў: «Ну як, акадэмік, гэтак будзе лады?..» Успамінаю, як мы жалі кукурузу, вырашчаную там упершыню. І жалі ўпершыню камбайнам. Была адна мясціна, дзе камбайн пусціць было рызыкоўна — круцізна вялікая. Старшыня меркаваў убіраць гэты бугор сярпамі, але я рызыкнуў — павёў сам камбайн, пусціўшы яго кругам па гарбяку. Калі Павел Сцяпанавіч паглядзеў на работу, то аж ззяў ад захаплення: «Ета ж ты, акадэмік, збярог мне нашых жанчын. Колькі б яны тут папрацавалі!..»

— Так што, зямляча, бачыш,— Сяргей Фёдаравіч паглядзеў на гадзіннік, мабыць, хацеў закончыць гутарку, падумаў, але зноў сеў, адкінуўшыся на крэсле,— служба наша такая. Ды я — аптыміст. Штогод пашыраем на тысячу гектараў наша ворыўнае поле. Растуць тэмпы капітальнага будаўніцтва. Камбікормавы завод у нас ёсць. Памаглі нам кіруючыя органы ўзяцца па-сапраўднаму за дарогі. Бездараж, як ведаеце, яшчэ біч нашых мясцін...

— «Дарогі здаўна былі на ўтрыманні сялян»,— пажартаваў я.

Ды сакратар райкома не прыняў жарту, сказаў:

— Нічога, праз якія пяць-шэсць год будуць злучаны ўсе вёскі добрымі дарогамі. І тады не будуць скардзіцца, што ў Горну хоць на верталёце ляці. Будуць і ў нас добрыя, як у шклоўцаў ці мсціслаўцаў, дарогі. Дарожная праблема — адна з першых, якая нас хвалюе!..

Мы ўжо наважылі закончыць нашу гутарку, але зноў званок — паведамлялі з адной аддаленай гаспадаркі, што ў іх адключылі святло і фермы засталіся без вады і наогул без святла. Сёння ў вёсцы, як і ў горадзе, не абысціся без электрычнасці.

— Што робіцца? — ледзь не хапаецца за галаву Сяргей Фёдаравіч.— Чамусьці пачасціліся такія «жарцікі» з Крычава, з сельэлектра. Бачыце, там змагаюцца за эканомію, а на фермах смагне жывёла без вады, і даільныя апараты не працуюць...

Сяргей Фёдаравіч пачаў збірацца — увечары справаздачна-выбарны сход у калгасе «Ленінскі шлях». На хаду ён яшчэ гаварыў пра зямлю і людзей, пра іх месца ў вырашэнні Харчовай праграмы, распрацаванай партыяй.

— Каб нам хутчэй падцягнуцца,— раздумваў ён заклапочана,— патрэбна падтрымка. Праўда, тузаніна, якая часта нас ліхаманіла раней, зменшылася, але яшчэ не зжыта...

...Цягне, як магніт, родны куток, дзе прайшлі юнацтва і маладосць, дзе, здаецца, і неба святлейшае, і зямля цяплейшая.

## ПЕСНЯ БУДАЎНІЦТВУ

Яшчэ ўлетку мы даведаліся пра тое, што на Палессі, у Ганцавіцкім раёне, закладваюцца падваліны новага саўгаса. Па тэлефоне з рэдакцыі ганцавіцкай раённай газеты «Савецкае Палессе» калегі сказалі:

— Так, будаўніцтва ўжо ідзе. Саўгас закладваецца на Раздзялавіцкіх балотах. Трыццаць кіламетраў ад Ганцавіч. Глыбінка. Некранутыя балоты. Прыязджайце!..

І вось мы ў дарозе. Цёплы сонечны дзень, у які амаль не верыцца пасля тых маразоў, што на пачатку восені нахапіліся як гром з яснага неба. Пад коламі машыны чорная стужка шашы аж дыміцца, а навокал пад зыркім

сонцам залатымі барвамі гараць бярэзнікі. Адшчыравала восень, адгаманіла маторамі. Сцірты ярка-жоўтай, мядзянай саломы ў полі — успамін аб шумлівым жытнёвым моры.

Пакуль ехалі па цудоўнай, абноўленай трасе Мінск — Брэст, потым па заасфальтаванай гарадзейскай дарозе да Нясвіжа, то час ляцеў непрыкметна. Ва ўсіх быў цудоўны настрой. А як уз'ехалі на клецкую брукаванку і за Сіняўкай пачалі адважна адольваць вярсту за вярстой, то ўсё часцей сталі ўспамінаць Ганцавічы. Ці хутка яны, нашы Ганцавічы, бо ўжо і сонца звярнула з поўдня, а палескіх краявідаў не відно. Пачалі нават адзін аднаго дакараць: «А навошта была такая далячынь? Нешта такое можна было б знайсці і бліжэй ад Мінска...»

— Узялі б шэфства над Сенніцай,— жартуе наш дасціпнік-шафёр Анатоль.— І блізка, і калгас у Сенніцы багаты...

Але, мусіць, праўда, што ў добрае надвор'е і падарожнічаць не важка. Праз якія гадзіны дзве мы выбраліся на паваротку «Абідавічы» — гэта ўжо ганцавіцкая вёска, і неўзабаве ўсклікнулі:

— Ганцавічы!..

Ужо на сустрэчы з калегамі з раённай газеты адчулі, што не памыліліся, выбраўшы для творчай садружнасці гэтую палескую новабудоўлю. Зусім шчыра абрадаваліся яны нашаму прыезду і, не тоячыся і не пахваляючыся, сказалі, што ўжо асвятляюць ход будаўніцтва, стварылі на будоўлі свой карэспандэнцкі пункт. Рэдактар «Савецкага Палесся», заслужаны работнік культуры БССР Васіль Праскураў сказаў:

— Удалае месца выбрана для такой будоўлі. І край адметны, можна сказаць, палеская цаліна, і людзі там цудоўныя...

І зноў — дарога. У Раздзялавічы разам з намі паехаў першы сакратар райкома партыі Рыгор Іосіфавіч Буслаў. Сам ён нетутэйшы, з Барысаўшчыны, але паспеў прыкіпець сэрцам да гэтай зямлі, зрадніўся з людзьмі, і яны яго палюбілі.

Чым далей на поўдзень, тым уладней урываецца ў наваколле палескі краявід: нізкарослы хвойнік, балотная бярозка і вольха, хмызняк і дрыгва. І пясок. Шэры, сыпучы, які цячэ пад нагамі, засмоктвае колы аўтамабіля. Тут у дровы ці па сена ездзяць не на конях, а на валах. Адразу недзе за Ганцавічамі мы і ўбачылі гэтых волікаў, нетаропкіх, прысадзістых, з доўгімі, шурпатымі рагамі.

Павольна, з адчуваннем уласнай годнасці цягнулі яны цяжкагрузныя вазы і, здавалася, пасміхваліся самі сабе, гледзячы на імклівую чараду аўтамабіляў: «Нічога... На наш век дрыгвы яшчэ хопіць...»

Мы ж імчаліся, уразаліся ў нетры па сучаснай асфальтоўцы. Была яна насыпною, пясок і гравій прывозілі на балота з «мінералкі». Падумалася: як дарага аддае свае скарбы Палессе, калі нават дарогу даводзіцца сюды пракладваць не звычайную, а «залатую». І вось на гэтых гіблых балотах, на выспах будуецца саўгас-гігант.

— А чаму менавіта ў Раздзялавічах надумалі будаваць «Адраджэнне»? Хіба ў раёне не знайшлося лепшага месца? — пацікавіліся мы.

Рыгор Іосіфавіч Буслаў стрымана ўсміхнуўся, потым пасур'ёзнеў, сказаў:

— Месца, вядома, мы б знайшлі. Наш раён толькі сваёй паўднёвай часткай захоплівае акраек пінскага Палесся. Але праекціроўшчыкам мы адразу сказалі: толькі тут, у Раздзялавічах. Разумееце, мы хочам гэтым людзям, прадзеды якіх гібелі ў дрыгве, у цемры, паказаць, што можа зрабіць чалавек. Чалавек пераможа балота, а яно аддасць яму свой скарб-багацце.

...Ляцела насустрач восеньскае Палессе. Пад стракатасць няяркіх фарбаў, пад роўнае вуркатанне матора хораша і сцішана думалася, што недалёка ад гэтай дарогі, вунь за тым сінім лесам, у вёсцы Люсіна настаўнічаў некалі, на пачатку стагоддзя, Канстанцін Міцкевіч, будучы Якуб Колас. Каля драўлянай царквы ў Хатынічах цельшынскі настаўнік Лабановіч сустракаўся з Ядвісяю. Мы праехалі каля той царквы, і яна як бы нагадала нам пра гэта сваімі зачыненымі вокнамі.

Нарэшце і Раздзялавічы. Старадаўняе палескае сяло. Трывала зраслося яно з гэтай зямлёй, моцныя пусціла карэнні. Нам расказалі гісторыю сяла. Яшчэ за прыгонам тое было. Сюды, на пясчаныя выспы, у камарыныя балоты, ссылалі разжалаваных салдат-бунтаўшчыкоў. І быццам пайшла ад гэтых самых салдат назва сяла — Разжалавічы. А потым ужо, калі трохі акрэплі салдаты, калі пачалі сахой уздзіраць тарфянішча, давялося ім дзяліць паміж сабой зямлю. Вось адкуль пайшла другая — сённяшняя назва сяла — Раздзялавічы. Хто ведае? Можа, так і было. А можа, гэта толькі легенда. Галоўнае тое, што насуперак усім віхурам і ліхалеццям выжылі Раздзялавічы, ацалелі, дажылі да нашых дзён, каб сёння памаладзець пад руплівымі чалавечымі рукамі.

Хаты тут усе, як адна, вялікія, прасторныя. Шмат вокнаў. Наш новы знаёмы, старшыня суседняга калгаса «Першае мая» Павел Карпавіч Шуляк весела расказваў:

— Прыязджаю неяк у Раздзялавічы. Бачу — дзядзька новую хату ставіць. Дарэчы, тут такая завядзёнка: сын яшчэ ў войску служыць, а бацька яму ўжо хату робіць. Чакае, значыцца, салдат, цябе твая вёска, хутчэй вяртайся. Дык вось гэты самы дзядзька хату, як цацку, адштукаваў. Шэсць вокнаў на вуліцу, чатыры — у гарод. І ўсё нешта, як уюн, вакол хаты сваёй круціцца. Пытаюся ў яго: чаго ты бегаеш? А ён мне — ведаеце што гаворыць? Шукаю, куды б яшчэ хоць адно акно ўшчаміць...

Што ж, цікавы, сімвалічны штрых. Чалавек шукае, дзе б яшчэ прарэзаць адно акно, хоць у хаце і так даволі вокан. Значыць, чалавек любіць святло, любіць сонца. Лясы і балоты не прывучылі яго да цемры. Саўгас «Адраджэнне», вобразна кажучы, таксама акно, вялікае акно, праз якое палескія Раздзялавічы глянуць заўтра ў шырокі, імклівы свет.

Мы ідзём па вуліцы, якая перакапана траншэямі, на якой узвышаюцца горы белай і чырвонай цэглы, і Рыгор Іосіфавіч Буслаў узбуджана гаворыць:

— Новы жылы пасёлак упісваецца ў сучасныя Раздзялавічы. Жылы масіў забудоўваем двухпавярховымі дамамі. Старыя дамы зносяцца, застаюцца толькі новыя. У цэнтры пасёлка будуем тры пяціпавярховыя дамы, клуб, гандлёвы цэнтр, Дом быту, сярэднюю школу, дзіцячы сад-яслі, медыцынскі пункт. Побач — магазін, стадыён.

Гаспадарчыя будынкі складуць асобную лінію забудовы, дзе будуць дзве фермы па 1600 галоў — чатыры кароўнікі. Рамонтна-механічныя майстэрні, кацельня, гаражы, склады — усе аб'екты ўзводзяцца. На будоўлю саўгаса асігнавана 8,5 мільёна рублёў, на меліярацыю яго пасяўных плошчаў і ўгоддзяў — 12 мільёнаў рублёў.

— Уяўляеце,— прыпыняе крок Рыгор Іосіфавіч,— гаспадаркі раёна маюць прыкладна шэсць тысяч чатырыста кароў, а ў саўгасе «Адраджэнне» будзе тры тысячы дзвесце. Палова дойнага статку раёна! Сапраўдная фабрыка малака. Для раёна гэтая будоўля мае не толькі эканамічнае, але і палітычнае значэнне. Саўгас будуецца на гіблых балотах, на спрадвечнай дрыгве. І людзі, якія яшчэ жылі тут, шчыра скажам, як наводшыбе, у глухамані, атрымаюць усе зручнасці сучаснага быту, будуць карыстацца здабыткамі культуры...

Першы сакратар райкома партыі гаворыць перакана-

на, з веданнем справы. І мы згаджаемся: так будзе, так абавязкова будзе. А што думаюць самі жыхары Раздзялавіч?

Настаўнік мясцовай школы Аляксандр Паўлавіч Кісялевіч:

— Гэта проста здорава! Замест драўлянай, старой школы ў нас будзе цагляная. Нашы дзеці будуць вучыцца ў такіх самых умовах, што і гарадскія. У школе ўжо сучаснае абсталяванне, кабінеты, багатая бібліятэка. Мы зможам стварыць краязнаўчы гурток і напісаць гісторыю нашых Раздзялавіч...

Раздзялавіцкі хлопец, які працуе і вучыцца на будоўлі на муляра:

— Для нас стварылі спецыяльныя курсы. Мы працуем і адначасова вучымся. Навошта ехаць у Ганцавічы альбо ў Пінск, калі дома пачынаецца такое вялікае і цікавае жыццё?

Дзядзька, у хату якога мы зайшлі, каб убачыць славутыя палескія вышываныя абрусы і ручнікі:

— Раней хто куды прыбіўся, там і працаваў. Хто на торф ішоў, хто ў лясніцтва, хто куды. А цяпер кожнаму заробак дома, у саўгасе. Толькі не лянуйся, рабі...

Людзі — усе за будоўлю, за новыя Раздзялавічы. Праўда, не ўсё адбывалася і адбываецца гладка.

Па дарозе нам расказалі некалькі быляў, якія, магчыма, некалі стануць легендай. Адна з іх пра тое, як выбіралі месца для будучага саўгаса. Праекціроўшчыкі папрасілі мясцовага лесніка, каб ён быў ім за праваднікá, а ляснік, аказваецца, рашыў, што не трэба крануць гэтых мясцін: няхай людцы едуць куды-небудзь далей адсюль, і пастараўся павесці гасцей такімі мясцінамі, што тыя былі ўжо і згадзіліся: непрыдатнае тут месца для такой грандыёзнай будоўлі.

Давялося, вядома, браць іншага праваднікá.

Гэтыя Раздзялавіцкія балоты — залатое дно. І тыя з мясцовых жыхароў, а такія, вядома, ёсць, хто яшчэ не ўсвядоміў гэта, хто асцярожліва і з недаверам глядзіць на перамены, на цуд, што творыцца, можна сказаць, на іх вачах, ужо дзівяцца з саміх сябе, смяюцца з сваёй упартасці і свайго скептыцызму.

Вядома, пачынаючы новую справу, заўсёды трэба нечым ахвяраваць. Напрыклад, ахвяраваць цішынёй. Густая была цішыня ў Раздзялавічах яшчэ некалькі гадоў таму назад. Здавалася, яна струменілася з самага нутра балот, з цёмных пушчаў. А яшчэ раней, да калгасаў, толькі звон

будзіў гэтую цішыню. Звон вісеў на старым дрэве на могілках, і, калі паміраў чалавек, раніцою званілі ў звон. Мы бачылі гэтыя могілкі. Крыжы на іх дубовыя, моцныя і такія высокія, што трэба задзіраць галаву, каб ахапіць іх позіркам. Стаяць яны купамі, сем'ямі, нагадваючы нечым каменныя статуі з вострава Вялікадня, пра якія пісаў Тур Хейердал.

Новы час — новыя песні і новыя традыцыі. Можна сказаць, гэта заўважыць кожны новы чалавек. У Раздзялавічах жывуць вельмі жыццярадасныя людзі. Асабліва сімпатычныя дзеці. Ідзеш па ціхай вуліцы, а насустрач цэлая гурма школьнічкаў — вясёлыя, чырванашчокія, яснавокія. Павітаюцца, і калі спытаешся: «А як жа вас зваць, дзеці?», адкажа які-небудзь чарнявы ці бялявы баравічок, напрыклад, так:

— Леанід Піліпавіч Рабцэвіч.

У Раздзялавічах вельмі распаўсюджаны тры прозвішчы. Гэта Валуевічы, Рабцэвічы і Кісялевічы. Можа, нашчадкі тых бунтаўшчыкоў-салдат. Яны і шафёры, і муляры, і школьнікі, і настаўнікі, і маляры, і кухары ў рабочай сталоўцы, на будоўлі.

Мы былі на будаўнічых пляцоўках, глядзелі, як будуецца адміністрацыйны корпус — кантора саўгаса, а таксама будынкі кацельнай, рамонтна-механічных майстэрняў. Бачылі, з якім імпэтам завіхаюцца дзяўчаты, учарашнія хатыніцкія дзесяцікласніцы, фарбуюць новы, толькі што ўзведзены будынак — гараж для ўборачнай тэхнікі; знаёміліся з хлопцамі з камсамольска-маладзёжнай брыгады муляраў, якую ўзначальвае Мікола Півазарчык, заўзяты працаўнік.

«Адраджэнне» — будоўля ўдарная. Маладзёжная. Куды ні глянеш — усюды працуюць маладыя. На будаўніцтве створана камсамольская арганізацыя ВЛКСМ. Тут для іх цудоўная школа, стартавая пляцоўка ў самастойнае жыццё.

...Мы хадзілі па тых мясцінах, дзе яшчэ ўлетку было балота, і сляды вялікай работы, якую правялі тут напачатку меліяратары, бачны ўжо: непадалёк узвышаюцца цэлыя горы ламачча і хмызняку, што сцягнулі з балота бульдозеры. І далей на ўзлессі чарнее такі хмыз, яго многа, аж за небакрай. Гэта тыя ж балоты, што ў недалёкім будучым стануць урадлівымі палеткамі новага саўгаса.

Начальнік будоўлі, таксама малады чалавек, Алег Кузняцоў і сакратар райкома партыі Рыгор Буслаў гутараць аб тым, як паскорыць тэмпы будаўніцтва. Яны яшчэ

раз разглядаюць карту-схему генеральнай забудовы, раяцца аб тым, каб стварыць людзям будоўлі лепшыя ўмовы — блізіцца зіма. А будоўля жыве, набірае тэмпы, разгортвае абсягі. Будаўнікі жывуць натхнёным, напружаным жыццём, якое называецца проста — будні. А ў гэтых буднях і рамантыка, што так вабіць маладых, неспакойных сэрцам юнакоў і дзяўчат, і тая ўзлётная паласа, з якой уздымаюцца яны, маладыя, у будучыню.

## АДРАСЫ ДАРОГ СВАІХ

Гэтыя занатоўкі і накіды з блакнотаў і запісных кніжак часткова расшыфраваныя — па іх пісаліся нарысы і замалёўкі. А большасць засталіся як след карэспандэнцкіх дарог. Памяць вандровак.

28.7.1945.

**Вяртанне.** Мы, салдаты, едзем з Германіі дадому. З Перамогай. Уранні скончыліся дарогі Польшчы. Вось і родная зямля...

Граніцу пераехалі зусім блізка ля ракі Заходні Буг перад Брэстам. Нешырокая, ледзь блішчыць у лазняках ціхая рэчка, у засені даўгакосых вербалозаў.

Арка. Паласаты слуп. Надпіс: «СССР». Плакаты. Партрэты У. І. Леніна і І. В. Сталіна, маршалаў Г. К. Жукава, К. К. Ракасоўскага.

На гэтым беразе два салдаты — пагранічнікі. Адзін ад другога крокаў на дзесяць. Вартавыя Радзімы.

Была сёмая гадзіна раніцы.

А дзевятай — спыніліся ў Кобрыне.

У той жа дзень быў «перакур» на шашы, паблізу ад чыгункі. Вакол — жытнёвае поле. Востра пахне збажынай. Дзве вясковыя кабеты з сярпамі на плячах спыніліся ля дарогі, з-пад рукі глядзяць на нашы грузавікі, і мы ім махалі рукамі. Хацелася іх абдымаць — такія яны родныя, мілыя.

У зыбкім мроіве зялёны пагорак. Насып. Ля каляі салдат — шапка з сінім верхам, штык карабіна...

— Што гэта за пост такі? — пытаемся ў салдата.

Ён сціпана кажа:

— Будзе ехаць цягніком з Масквы ў Берлін, на сустрэчу з саюзнікамі, І. В. Сталін...

Барань, Аршанскі раён, 18.8.1946.

**Мірнае жніво.** Чароўныя мясціны ёсць на Аршаншчыне. Узгоркавыя палі, пералескі. У блакіце даляў — сінія лясы. У зелявіне — новыя хаты золатам адліваюць на сонцы. Велічны Дняпро аздабляе тутэйшыя палі і лугі. Срэбнымі ніткамі цягнуцца да яго безыменныя рачулкі. Дзве такія рачулкі апаясваюць вёску Барань, утвараючы зялёны астравок. За гародамі — паплавы, з лазнякамі і аерам, а далей амфітэатрам — пагоркі, пагоркі.

Калгас «Авангард». Зацiхла вуліца — усе дарослыя на полі. Рахункавод Давыд Шашкоў расказвае: «Заканчваем здачу збожжа дзяржаве. Наш план — 21,5 тоны. Як быў ураджай да вайны, то гэта зусім малы план».

Калгаснікі атрымліваюць аванс — жыта і пшаніцу. На працадні.

Маладзёжная брыгада (яе ўзначальвае былы франтавік Андрэй Папкоў) на малацьбе працуе і ноччу. Для маладых — начная малацьба — вясёлая работа.

Пінкавічы, 25.9.1946.

**Там, дзе Якуб Колас працаваў настаўнікам.** У вёсцы Пінкавічы, кіламетраў дзевяць ад Пінска, купчастыя сады. Вербы, клёны — ля хат, усцяж вуліцы. Дарога зацярушана жоўтым лісцем, свежай кастрыцаю. Яна незвычайна пахне, як вымытая льняная сарочка на марозе.

На гародах, бы залатыя шаломы, сціpты. З усхліпам вуркоча малатарня.

Абоз з хлебам — для дзяржавы. На пярэдняй падводзе — камсамолка Марыя Карунчык, арганізатар абоза. Здаюць звыш плана 15 тон.

Вечар. Гутарка ў доме Фамы Пятровіча Бязручкі.

— У нашай хаце,— расказвае сівабароды гаспадар,— не раз гасцяваў Якуб Колас. Наша школа во недалёчка была. Мы, так сказаць, сябравалі. Ён любіў гутарыць з намі, мужчынамі. За гэта, мусіць, яму і даставалася ад начальства — паліцыя за ім сачыла. Хор з вясковых хлопцаў і дзяўчат ён стварыў, гутарыў з сялянамі, памагаў нам добрым, спагадлівым словам...

...Памятаюць Якуба Коласа і стары Супрон Капко, і былыя вучні Мікіта Козіч, і Мікалай Палавец.

Мазыр-Тураў, 14.6.1948.

**На параходзе.** Чэрвеньскім надвячоркам параход «Чырвонаармеец» адчаліў з прыстані і, развярнуўшыся, пайшоў

насустрач цячэнню Прыпяці. Рака ўжо ўвайшла ў берагі, але хвалі яе плешчуцца ў ледзь прыкметных лазняках; далей, у плёсах, прывідамі чарнеюць асілкі-дубы.

Неба і рака мяняюцца ўвачавідкі. Пачарнеў лес на даляглядзе. Сонца раптоўна знікла за дубамі, і вада і параход нагадвалі спачатку чыстае золата, а пасля зрабілася ўсё чырвонае. Параход віхляў па рацэ, відаць, капітан баяўся, каб не наскочыць на мель. А берагі вакол высокія, як абрушаныя горы...

— Глядзі, круцізна якая! — чуецца на палубе.

— Ого, брат, Прыпяць — мудрая рака,— кажа загарэлы хлопец у выцвілай гімнасцёрцы.— Яна нібы ўцякала ад некага, што ні крок, то паваротка...

...Увечары ўліў густы, цёплы дождж. Буйныя кроплі секлі па абшыўцы парахода, скакалі па палубе, і сюды, у салончык, даносіліся цяжкія, глухія ўсхліпы ракі, нібы нехта шаптаўся ў разбуджаных чаротах...

Ноч брала сваё. То тут, то там чулася храпенне — пад аднастайны пошум дажджу смачна спалася.

У Петрыкаве доўга стаяў параход.

У салон набіліся скопам хлопцы і дзяўчаты, і адразу ўсё вакол заварушылася, загаманіла:

— Не бядуй, Маня!..

— Дзеўкі, сюды, тут месца е...

— Ай, адчапіса ты, Коля...

Хлопцы і дзяўчаты гэтыя едуць па накіраванню камсамола на будаўніцтва вузкакалейкі Тураў — Лельчыцы.

Вілейка, 20.10.1949.

**Новыя калгасы.** У вёсцы Бароўцы арганізатарамі калгаса сталі камсамольцы — 17 чалавек. Першым заяву падаў Іван Клімовіч (сакратар камсамольскай арганізацыі). Ён на камсамольскім сходзе сказаў: «Жыць так далей нельга. Наша зямля неўрадлівая, зрэзана межамі. Ад спрадвечнай беднасці ёсць адно збавенне — калгас. Са згоды сваёй сям'і падпісваю заяву...» Услед за сакратаром заявы падалі камсамольцы Рыгор Капцюх і Зоня Бяроза.

Калгасу прысвоена імя XI з'езда ВЛКСМ. Пад вясну ўступілі ў калгас 67 сем'яў.

Па прыкладу Бароўцаў на шлях калектыўнага жыцця сталі сяляне суседняй вёскі Урэчча. Аднымі з першых — сем'і камсамольцаў. Назвалі сельскагаспадарчую арцель «Маладая гвардыя». Першаму маладому калгасу — хутка год, а яго суседу — паўгода. Створаны камсамольскія звенні высокага ўраджаю.

Чэрвень, 20.4.1950.

**Расказ упаўнаважанага ў вёсцы.**

— Было гэта адразу пасля вайны. Лясная вёска. Невялікая. Як хутарок. Зайшлі да аднаго гаспадара. У хаце цёмна, як у ёўні. Дзеці зіркаюць вачанятамі з запечка. Каля печы тупае гаспадыня. Сам гаспадар зараслы — твар у густой шчэці,— пахмуры, злосна глядзіць спадылба.

Мы звяртаемся да яго:

— Іван Сідаравіч, чаму на работу не ідзяце? Людзі ж працуюць, а вы зусім адцураліся ад калгаса...

Гаспадар паглядзеў на нас нядобра, патрубіў носам, у вачах заскакалі зелянкавыя іскрынкі:

— Ну і дзівакі ж вы, начальнікі. Не ведаеце хіба?..

— Чаму ўсё ж?..

— Як бо самі не знаеце. Мне ж там трэба працаваць, сілу траціць. Найперш трэба чыгунок бульбы з'есці. А ў мяне яе мала... А зарабіць, як ведаеце, я нічога не зараблю. Вось і памяркуйце самі, як тут быць. Вы ж людзі з розумам, з галавою, канечне...

— А ўсё ж, Сідаравіч, гэтая ваша філасофія — лайдачая. На працу пойдзеце, то і бульба і да бульбы нешта будзе...

Сідаравіч сумеўся, апусціў галаву.

— Хопіць табе ўжо, гора маё няшчаснае,— загрымела качэргамі жонка.— Збірайся на работу!..

Ваўкавыск, 23.8.1955.

**Інструктар райкома камсамола Андрэй Калечыц.** Актывіст, скончыў сярэднюю школу ў Ваўкавыску. Бацька яго — чыгуначнік, маці — калгасніца. Андрэй расказвае пра свае першыя крокі: «Прыеду я ў калгас. Да прыкладу, сход падрыхтаваць. Якія пытанні сёння галоўныя? Раімся з камсамольскім сакратаром, потым ідзём да парторга, ён і памагае нам».

У зоне А. Калечыца — ва ўсіх калгасах створаны камсамольскія арганізацыі. Інструктара сустракаюць як друга і дарадчыка. Інструктар на правільным шляху: «Каб вучыць другіх, трэба шмат ведаць самому».

Смаргонь, 20.10.1955.

**Залескія вечарынкі.** Залескі сельскі клуб, якім кіруе энтузіяст сваёй справы Уладзімір Сурмач, добра наладзіў мастацкую самадзейнасць. У хоры багата вясковых дзяўчат, ёсць і жанчыны. Звеннявая Вера Алешка, калгасніцы Галіна Арочка і Ганна Мейсак, настаўніца Зося Ліс, яе

муж камбайнёр Якаў Дудко, чыгуначніцы Алена Нагель і Марыя Яблонская — актывісты мастацкага калектыву. Кіруе камсамолка Іра Дудко. Вельмі хваляць баяністаў, іх два — Мікола Баран і Іван Навумчык. Гэта ад іх пайшла ў свет песня «Ой, ляцелі гусі з броду», якую тут апрацавалі і пачалі спяваць са сцэны.

Калі мы гутарылі з Ул. Сурмачом, то ён прызнаўся, што любіць паэзію, і нечакана прачытаў на памяць:

«...И не знать, что от счастья и славы
Безнадежно дряхлеют сердца».

«Хто гэта напісаў?» — спытаўся ён. Я сказаў, што не помню, а ён пераможна прамовіў: «Аляксандр Блок».

Мазыр, 22.1.1956.

**Кімберава** (каля Мазыра), дзіцячы дом. «Дом над Прыпяццю» (для загалоўка). Дырэктар — добры арганізатар— Ірына Аляксандраўна Пушкарчук. У дзіцячым доме — сталярня, швейная майстэрня. Гурткі юннатаў, юных жывёлаводаў. Ёсць удзельнікі Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўкі. Кіруе гуртком юннатаў былая выхаванка Ніна Міхайлаўна Бандарэнка. Медалі на выстаўцы атрымалі Галя Галіцкая, Сцяпан Драка, Каця Шаўчэнка, Іван Мінін.

У дзетдоме ўдзяляецца вялікая ўвага музычнаму выхаванню (баян, скрыпка, піяніна). Адзін з лепшых танцораў Коля Трубяцкой («Князь») — цыганок. У дзетдоме быў і Варанцоў («Граф»). Цяпер у яго знайшлася маці, забрала дадому.

«Князь» Трубяцкой, кучаравы, з агністымі цёмнымі вачанятамі хлопчык-прыгажун, гаворыць: «Можа, буду будаўніком, як падрасту, можа, настаўнікам стану...»

Нароўля, 18.2.1956.

**Карпаўна.** У гарадку Нароўля, па вул. Камуністычнай, № 21, жыве настаўніца хіміі Аляксандра Карпаўна Дзямідчык, былая партызанка-разведчыца з атрада Героя Савецкага Саюза Каўпака.

Як пачалася вайна, А. К. Дзямідчык жыла ў в. Махаеды. Яна стала партызанскай сувязной. Вясной 1943 года пайшла ў атрад, была разведчыцай. Па заданню партызан хадзіла ў Хойнікі, за 30 кіламетраў, дзе стаяла славацкая часць, з пісьмом да падпалкоўніка Іозефа Гусара. Дабілася з ім сустрэчы.

— Што вам трэба ад мяне? — спытаў падпалкоўнік.

— Зрабіце так, як робяць лепшыя сыны вашай радзі-

мы,— і Карпаўна падала падпалкоўніку пісьмо ад партызан.

— А вы ведаеце, што я вас за гэта расстраляю?

— Ведала яшчэ тады, калі атрымала заданне аднесці вам пісьмо.

...Карпаўна выканала яшчэ не адно баявое заданне. Прайшла тысячу кіламетраў, удзельнічала ў многіх баях.

У школе, дзе Аляксандра Карпаўна дырэктарам ужо больш дзесяці гадоў, рыхтуецца дастойная змена бацькам: растуць будучыя паляводы, механізатары, жывёлаводы. Пяцьдзесят юнакоў і дзяўчат займаюцца ў тэхнічных гуртках.

Скідэль, 24.7.1956.

**Канікулы ў Зарэччы.** Вёска ўся як прапахла агурэчнікам і кропам.

— Як ідуць канікулы?

— Дапамагаем калгасу...

У школе расказалі, што на лета створана брыгада старшакласнікаў. Перад гэтым на занятках вучні знаёміліся з машынамі — трактарамі, аўтамабілем, вучыліся вадзіць камбайн.

Гарадзішча, 27.3.1956.

**Кісялі, Вялікае сяло, Станкевічы...** Гэта калгас «Прагрэс».

Камсамольцы садзяць сады, азеляняюць вуліцы, дарогі.

Адзін дзядзька свае адносіны да гэтай справы выказаў так: «Канечне, мы стараемся, робім усё, каб жылося лепей заўтра, для будучыні. З году ў год чакаем гэтага лепшага. Можа, і не дачакаемся. Веру, што дачакаемся». І дадаў: «Запішыце маё прозвішча — Якуб Дубешка».

17.12.1956.

**Сустрэча былых выпускнікоў першай школы-камуны.** Нараду адкрыў міністр асветы БССР І. М. Ільюшын. Выступалі:

Гутараў І. В. «...Гэта была не толькі рамантыка, паэзія. Гэта была добрая, карысная справа».

Ляпяшынская В. П. «...Помню, як у школу, якую арганізаваў мой бацька Панцеляймон Мікалаевіч у Літвінавічах, прыйшоў хлапчук гадоў сямі ў доўгім салдацкім шынялі і сказаў: «Я хачу вучыцца». А бацька ўзяў яго па рукі і сказаў: «Сябры, а можа, гэта будучы Ленін!..»

Яшчэ такі эпізод. Калі гэтыя беспрытульныя і вясковыя хлапчукі селі за стол у сваёй школьнай сталоўцы, адзін бойкі хлапчук узяў у рукі лыжку, акінуў позіркам вучняў і крыкнуў: «Браткі! Ды гэта ж у нас камуна!» І ўсе закрычалі: «Ура!»

А перад гэтым нам гаварылі ў Літвінавічах: «Убірайцеся, інакш мы вас пазабіваем, а школу спалім». Настаўнікі з вінтоўкамі хадзілі вакол нашых двух будынкаў кожную ноч».

Пра гэта і расказваў А. С. Дубкоў — дацэнт Маскоўскага медінстытута.

— Быў у нас, у Лемені,— сказаў у сваім выступленні кампазітар І. І. Любан,— конюх. Ён заўсёды стараўся быць інтэлігентным чалавекам. Ён запомніўся мне фразай: «Этот вопрос надо отрегулировать...» За нядобрасумленнасць мы праз год яго самога «отрегулировали»...

Іванаўскі раён, 27.4.1957.

**Над Ясельдай.** Вялікае сяло Моладава.

Тут актывісты абарончай работы — камсамольцы. Між іх — Васіль Палійчук, Васіль Алейнік, Максім Міранюк, Іван Шыкель, Барыс Дарагакупец (сакратар камсамольскай арганізацыі), Фёдар Кулікоўскі...

Праводзяцца спаборніцтвы плыўцоў, матагонкі, паходы. Былі экскурсіі ў Брэсцкую крэпасць, у Кобрынскі музей Суворава.

Браслаў, 14.5.1957.

**Феакцістаўна — старшыня.** Калгас імя Панамарэнкі (в. Баруны). Ульяна Феакцістаўна Крышталевіч старшынёй працуе з 22 красавіка 1955 г. «Людзі тыя ж, а справы змяніліся, працуюць людзі па-новаму,— гаворыць брыгадзір Іван Хралан.— Бо старшыня — лёгкая на пад'ём. Сапраўдная бальшавіцкая чэснасць — галоўная якасць старшыні. Яна маладая, але называем мы яе ўсе — Феакцістаўна...»

А адна жанчына сказала (таксама пра старшыню Ульяну Крышталевіч): «От добра, што ты не хочаш спаць. А мы, старыя, дык плюшчымся і плюшчымся ўсё...»

— Было спачатку,— кажа Ульяна Феакцістаўна,— не ішлі на работу. Скажам, ёсць чалавек у нас, Альфонс Іосіфавіч — усё хварэў, увільваў ад нарадаў, амаль штодня ездзіў у раён па даведкі ад урача, а цяпер сам просіцца: «Брыгадзір, што абмінаеш маю хату, нешта работы мне не даеш...»

Хутары ж пачалі ссяляцца. Запланаваны новы пасёлак — цэнтр калгаса. У. Крышталевіч гаворыць: «Прыязджайце гадоў праз пяць — не пазнаеце Баруны»,— яна паказвае месца, дзе будуць новыя вуліцы, калгасныя пабудовы. Яшчэ трэба ссяліць 140 сем'яў з хутароў.

Жыццёвыя дробязі. Ляснік М. І. Губанаў скардзіцца, што цягнуць з лесу жэрдзе — на громаадводы... «Правільна,— кажа старшыня,— нават пажадана, каб у вёсцы было 5—6 громаадводаў. Трэба!» Максім Іванавіч — ляснік, малога росту чалавек, бародка клінком, светлыя жывыя вочкі,— не згаджаецца: «Гэтак увесь лясок лясне!..» Старшыня настойвае: «Пастаўце громаадводы за кошт калгаса».

Бацька Ульяны — Феакціст Каралінскі (гэта па мужу яна Крышталевіч) за панамі рабіў дранку, шчапу. Сям'я жыла бедна. Бацька — падпольшчык. Рабілі ўсе на кулака Брэля ў вёсцы Зачарэўе (пад Міёрамі).

Ульяна Феакцістаўна — партызанка. З 1942 г.— сувязная партызанскага атрада імя Жданава. З зімы 1943 года — партызанка атрада імя Катоўскага. Ёй прапаноўвалі — поварам на кухні. Яна сказала: «Толькі туды, дзе ваююць». Ваявала ў падрыўной групе. Удзельнічала ў баявых аперацыях, у падрыве эшалонаў. Узнагарода — медаль «За адвагу».

Хадзіла ў разведку. Сярод белага дня, вясною, з букетам чаромхі прабілася навідавоку ў немцаў і паліцаяў у вёску Стара-Рагава (на мяжы з Латвіяй) да сувязногачыгуначніка. А ў букеце — граната з запалам.

Ульяна Крышталевіч — сакратар райкома камсамола, потым намеснік старшыні райвыканкома, старшыня раённай планавай камісіі. Узнагароды — ордэн Леніна, медаль «За працоўную адзнаку».

* * *

Ульяна Феакцістаўна Крышталевіч доўгі час працавала першым сакратаром Міёрскага райкома партыі. Яна — Герой Сацыялістычнай Працы.

Шуміліна, 15.9.1957.

**Обальскія падпольшчыкі.** У Обалі па прапанове камісара партызанскага атрада імя Варашылава Б. Маркіянава з 1942 года дзейнічала падпольная камсамольская арганізацыя. Кіраўніком яе была Фруза Зянькова, камсамолка з вёскі Ушалы. Фруза пазнаёмілася з Марыяй

Дзяменцевай (ёй тады было 16 гадоў, камсамолка) з в. Масцішча. Неўзабаве прынялі ў арганізацыю Ул. Езавітава— в. Зуі. Збіраліся ля Ушалаўскага маяка. Лясок. Тады прынялі Ілью Езавітава, Марыю Лузгіну, Ніну Азоліну... У імшарах падпольшчыкі прынялі партызанскую прысягу ля кастра.

Баявыя справы. Ф. Зянькова прынесла ў бітончыку для малака тры міны «МЗД». Ніна Азоліна мелася падарваць вадакачку ў Обалі, на станцыі. Уладзімір Езавітаў здабыў радыёпрыёмнік, прымаў савецкія зводкі. Ул. Езавітаў прабраўся да машыны, падклаў міну зондэркамендангу, які прыехаў з Віцебска ў Обаль. У 1943 годзе — узрыў ільнозавода (Ілья Езавітаў, Зіна Лузгіна, Ніна Азоліна і інш.). Мікалай Аляксееў (працаваў на станцыі) падклаў міну пад цыстэрну з гаручым.

26 жніўня 1943 г. гітлераўцы акружылі Обаль, Зуі, Ушалы, Масцішча — схапілі большасць падпольшчыкаў. 5 лістапада 1943 г. у Полацку фашысты расстралялі юных падпольшчыкаў (у іх ліку і юная ленінградская школьніца Зіна Партнова. На допыце схапіла рэвальвер са стала і забіла капітана Краўзе). Разам з юнымі героямі была расстраляна і маці Фрузы — Марфа Аляксандраўна.

На сустрэчу з камсамольцамі-падпольшчыкамі часта хадзіла Наталля Герман (сакратар падпольнага райкома камсамола. Жыве ў Шуміліне).

* * *

Ф. С. Зянькова — Герой Савецкага Саюза. Жыла і працавала ў Віцебску. Памерла ў 1985 годзе.

Званне Героя Савецкага Саюза было прысвоена і Зіне Партновай (пасмяротна).

10.1.1958.

**Рыбіцкая трагедыя.** З расказа партызана 3-й Мінскай партызанскай брыгады Хведара Бачылы (узнагароджаны ордэнам Леніна). «Калі партызаны 17 студзеня 1943 г. напалі на гарнізон у Дукоры, спалілі там казарму, перабілі немцаў і паліцэйскіх, пасля немцы лютавалі ў навакольных вёсках, асабліва паблізу чыгункі. Той зімою расстралялі партызанскую сям'ю — Фёдара Сачка з Зазеркі. А вёску Рыбцы спалілі дашчэнту. 260 жыхароў спалілі, па-зверску расстрэльвалі, забівалі. Не шкадавалі ні старых, ні дзяцей. Да партызан прыбегла адна жанчына з Рыбцоў — Моця Каспяровіч, якой пашчасціла ўратавацца.

Яна расказала, што як заскочылі да яе ў хату карнікі, трымала на руках дзіця. Карнік адразу з аўтамата даў чаргу. Яна ўпала з дзіцем, а другое — сямігадовы хлопчык быў пры ёй, таксама быў скошаны кулямі. Другі кінуўся да печы — там была бабуля, яе таксама забілі. І ўжо загарэлася хата. Ачнуўшыся, Моця вынесла мёртвых дзяцей з пажару, старую маці. На гародзе разгрэбла лапатай снег і прысыпала мёртвых... А сама, не памятаючы нічога, пабегла далей, ад пажару. Апамяталася ўжо ў лесе, уся была ў крыві...

— Моця Каспяровіч бадай адна выжыла з рыбіцкай той трагедыі. Жывая сведка таго, што тварылі тады, зімою 1943 года, немцы на Рудзеншчыне. Потым, калі мяне параніла,— закончыў Хведар Бачыла,— яна і мяне дагледала, лячыла...»

Любань, 7.2.1958.

**З мінулага.** Першы сакратар Любанскага райкома партыі Ц. Д. Анісімаў (адзін з арганізатараў камуны імя ЧБВА) расказвае: «Уся зямля, дзе паляшук здабываў сабе хлеб,— гэта пасчаныя астраўкі, выспачкі сярод дрыгвяністых балот. Вёскі былі невялікія, бедныя, курныя хаткі. Вакол камуны былі: Кузьмічы, Сярэдзібор, Убібацкі, Гарадзяцічы, Загалле...

...У 1927 г. у Вялікіх Гарадзяцічах паявілася аўтамашына. Сяляне парашылі ёй выкалаць вочы: ноччу разбілі фары, і калі раніцай яна ўсё ж пайшла, кінуліся на калені і пачалі маліцца...

...Палешукі думалі, што соль расце на астраўках, і рассыпалі яе там, каб расла».

Чэрыкаў, 3.11.1958.

**Сямейная рэліквія.** Расказвае стары Аніс Мохаў з-пад Слаўгарада, з вёскі Прудок. З самаробным чамаданам дзед Аніс выправіў у свет пяцярых сыноў і чатырох дачок. Як збяруцца яны, бывае, праўда, рэдка, то тут і настаўнік, і ўрач, і інжынер, і афіцэр, і механізатар... Тады стары Аніс уносіць з вышак парэпаны, абшмараваны куфэрак — самаробны, з габляваных шалёвак, на ім яшчэ свае работы металічныя навугольнічкі, і хітра жмурыцца, усміхаецца.

— Во, глядзіце, начальнікі,— кажа з нейкім намёкам дзед Аніс да сваіх мужчын.— Ета ваш скарб... У ім, у етым чумайдане, ваша ўсё багацце...

Успамінае стары, як яго самы меншы — Віктар збіраў-

ся ў Магілёў пасля заканчэння школы-дзесяцігодкі. Усё касавурыўся на бацьку, калі той унёс у хату запыленую і прапахлую вільгаццю скрыначку. Бацька адразу разгадаў, чаму сын спахмурнеў.

— Ага, ты не хочаш, відно, і вучыцца, калі саромеешся бацькавага дарунка. Тады не паедзеш, калі ты етакі порсткі. Не паедзеш, будзеш, як усе добрыя людзі, у сваёй вёсцы, на бацькавым карані!..

...Як там ні было, але Віктар застаўся ў Прудку, быў спачатку за прычэпшчыка ў аднаго старога трактарыста, тады павучыўся на курсах і ўжо колькі год, як змяніў свайго настаўніка, і жыве, дай божа, не горш, як яго браты і сёстры, што параз'язджаліся па вялікіх і малых гарадах. Як збяруцца, то яшчэ і зайздросцяць Віктару-хлебніку, як яго называе дзед Аніс.

Краснаполле, 29.3.1959.

**Землякі.** У рэдакцыі раённай газеты «Чырвоны сцяг». Прачытаў новы верш А. Пысіна, прысвечаны землякам.

Магілёўскі наш край... Мілы кут.
Гмахі фабрык. Дарогі лясныя.
Беларусь... I вось побач жа тут,
За Дняпром, наша маці — Расія.

Яшчэ некалькі прозвішчаў краснапальчан: Аляксандр Грубэ — заслужаны дзеяч мастацтваў БССР, скульптар;

Апанас Шамянкоў — генерал-лейтэнант, Герой Савецкага Саюза, удзельнік баёў за Віслу;

Майсей Вертліб — начальнік Краснапольскай міліцыі, упанаўважаны Гомельскага губчэка ў гады грамадзянскай вайны, кавалер ордэна Чырвонага Сцяга;

Пётр Верам'ёў — баец Першай Коннай арміі, кавалер ордэна Чырвонага Сцяга;

Якаў Зевін — адзін з 26-ці бакінскіх камісараў;

Міхаіл Курака — выдатны вучоны, славуты доменшчык Расіі;

Мікола Ткачоў — пісьменнік;

Сяргей Анісаў — журналіст, удзельнік рэвалюцыйнага падполля ў Заходняй Беларусі;

Васіль Шашалевіч — драматург, аўтар п'ес «Воўчыя ночы», «Сімфонія гневу»;

Антон Зорскі — вядомы журналіст 30-х гадоў;

Ніна Зорская — кінаактрыса;

Марыя Пахоменка — вядомая спявачка;

**Ісак Чэчыкаў** — калгаснік з вёскі Казельская Буда, які ў сакавіку 1944 года ўнёс 25 000 рублёў на будаўніцтва танкавай калоны «Калгаснік Магілёўшчыны»...

Маладзечна, 23.12.59.

**Заскавічы.** Калгас «Светлы шлях». Сустрэча з маладым старшынёй калгаса Уладзімірам Калачыкам. Нядаўна працаваў у райкоме камсамола. Вучыцца ў сельскагаспадарчай акадэміі.

— Зямля тутэйшая благая,— расказвае Уладзімір Міхайлавіч.— Усюды — і ў Заскавічах, і ў Мароськах, і ў Турцы-Баярах — пясочак, падзолы... Хмызнякі, каменне. Людзі жылі бедна, не мелі як дацягнуць да новага хлеба. Цяпер, пры калгасным ладзе, узяліся за ўраджайнасць. Далі зямлі ўгнаенні, агратэхніку, і яна стала сялянскай карміцелькаю, і людзі акрыялі, адчулі радасць ад працы на зямлі...

Ураджайнасць збожжа — 17—18 цэнтнераў, ільнавалакна і семя — 4,5 цэнтнераў, бульбы — 100 цэнтнераў.

Праводзіцца шырока падсеў траў, лубіну.

На рашаючыя ўчасткі вытворчасці ставяцца камсамольцы — маладая сіла, будучыня вёскі.

Монід Пятро — брыгадзір, Бобрык Ірына — звеннявая, Антаніна Сырай, Ксеня Бельская — даяркі, Якаў Сырай, Генадзь Рак — трактарысты.

Да новага года ва ўсіх сямі паселішчах калгаса загарыцца электрыка. Лінія амаль што гатова!

— Вось на гэтым месцы будзем будаваць клуб,— радуецца малады старшыня.— Тут — новы цэнтр будзе. За два гады сселім усе хутары.

У Заскавічах засталася яшчэ аднаасобніца — бабка Бачыха.

* * *

Калгас «Светлы шлях» — адна з лепшых гаспадарак у рэспубліцы. Яе старшыня У. М. Калачык — Герой Сацыялістычнай Працы, дэпутат Вярхоўнага Савета БССР.

Хойнікі, 18.5.1960.

**Грушавая замець.** Старыя, у два абхваты грушы з бела285ружовымі шапкамі над стрэхамі хат і дамоў. Іх многа, амаль на кожнай сядзібе на цэнтральнай вуліцы з рыпучымі драўлянымі тратуарамі. Пялёсткі грушавага цвету скрозь бялеюць — і на тратуары, і ў паветры. Стаіць ап'я-

няючы водар... Усе стрэхі зацярушаны пялёсткамі, як снегам.

Дзіўна, а коні пудзяцца пры сустрэчы з аўтамашынамі ў гарадку.

Кіраўскі раён, 9—15.3.1961.

**Калгас «Рассвет».** На ганку блакітнага дамка — кантора праўлення — мы сустрэлі старшыню — Героя Савецкага Саюза і Героя Сацыялістычнай Працы Кірылу Пракопавіча Арлоўскага. У чорным кажуху наросхрыст, з-пад кажуха — каўнер цёмнай касавароткі; шапка-вушанка набакір, на нагах валёнкі. Мы прыехалі з мастаком Янкам Раманоўскім, які ўвосень адпачываў разам з Кірылам Пракопавічам у Цхалтуба, і той запрасіў пагасціць.

Павітаўшыся, старшыня павёў нас у пакой, дзе за перагародкай працавалі рахункавыя работнікі. Да аднаго з іх звярнуўся, каб выпісаў нам прадукты, і пажартаваў:

— Гэта наш галоўны Іван Фаміч Бяляўскі. Ашчадны чалавек: капейку калгасную дарма не растраціць...

...Мы пасяліліся ў яшчэ неабжытай калгаснай гасцініцы і жылі цэлы тыдзень і мелі магчымасць пазнаёміцца з гаспадаркай і людзьмі «Рассвета». Прысутнічалі на тых ранішніх нарадах, якія Арлоўскі праводзіў кожны дзень а шостай гадзіне раніцы, завёўшы іх з першага года старшынёўства.

Былі на фермах. У калгасе — 470 кароў. Пародзістыя — кастрамічкі. На адкорме 1360 бычкоў. Надой на кожную карову за 1960 год склаў 3115 кг. Абавязацельства на 1961 год — 3500 кг.

Тут многія пасля школы ідуць на працу ў жывёлагадоўлю, на паляводства. Валя Юшкевіч, напрыклад, ужо адна з лепшых даглядчыц свіней. Вучаніца Героя Сацыялістычнай Працы Хрысціны Міхалёвай, якая атрымала ў 1960 годзе ад кожнае свінаматкі па 28 парасят. У Хрысціны ёсць яшчэ адна маладая напарніца, нядаўняя выпускніца сярэдняй школы — Галя Русанава. Працуе самастойна.

Быў справаздачна-выбарчы сход. К. П. Арлоўскага выбралі старшынёю ў 17-ты раз.

— Пісьмовага даклада няма,— сказаў Кірыла Пракопавіч, падышоў да трыбуны ў святочным гарнітуры, пры ўзнагародах. Зала была поўная людзей, яблыку не ўпасці.— Дазвольце адчытацца сваімі словамі. Сямігодку мы сваю выканаем за чатыры гады. Гэты год быў у нас годам вялікага росту гаспадаркі, усіх яе галін...

Расказваючы пра поспехі і здабыткі справаздачнага года, К. П. Арлоўскі зазначыў:

— Дагэтуль у нас не было ясляў. Гэта ж ганьба. Трэба адкрыць. Трэба, каб была і добрая сталоўка. І клуб каб лепшы быў. Мы пабагацелі, таму і жыць павінны культурна...

Сакратар парткома А. А. Нікіценка выступіў у спрэчках:

— Яшчэ ў нас не ўведзена механічнае даенне. Трэба хутчэй укараняць механізацыю. Проста з нас будуць смяяцца, дазнаўшыся, што ў «Рассвеце» кароў дояць рукамі.

Выступіў на сходзе пастух М. Юшкевіч.

— Усяму свету вядомы наш калгас,— сказаў ён.— А і ў нас ёсць, як той казаў, яшчэ недахопы. Я пра тое, што брыгадзіры, члены праўлення толькі ходзяць за старшынёй, слухаюць, што ён ім скажа, а самі не варушацца, не праяўляюцца як гаспадары на сваім месцы...

Калі зацвярджалі новы каштарыс, які прапанаваў галоўбух, І. Ф. Бяляўскі, пачуліся галасы з месца:

— Зацвердзіць!

— Праца калгасніка — аснова ўсяго!..

На вуліцы ў Мышкавічах — цэнтры «Рассвета» — мы прачыталі такія заклікі: «Колхозник, вперед иди! Огни коммунизма горят впереди». «Рассветовцы, учитесь работать и жить по-коммунистически!»

Казалі, што лозунгі і заклікі любіў прыдумваць сам Арлоўскі.

Ляўкі, Аршанскі раён, 17.5.1962.

**Помнік над Дняпром.** Як і да вайны, цяпер на беразе Дняпра, на пагорку, дзе была Купалава дача, буяе арэшнік, буйна цвіце ўвесну чаромха.

Унізе, адсюль чуваць, плешчуцца хвалі Дняпра.

За Дняпром, на даляглядзе, чарнее лес...

...Упершыню на Аршаншчыну Купала прыехаў у 1935 годзе. Пазнаёміўся з калгаснікамі калгаса імя X з'езда Саветаў (4-я брыгада калгаса імя К. Маркса. Цяпер — калгас імя Я. Купалы).

Калгаснікі з Ляўкоў расказваюць:

«У нашай вёсцы бадай не знойдзеш ніводнае хаты, у якой не пабываў Я. Купала. Ён заходзіў проста, як да сваіх добрых знаёмых і суседзяў, і яны сустракалі яго як жаданага госця».

Купалу добра памятаюць: Вайцахоўскі Андрэй Лаўрэнавіч (тады быў за старшыню ў Ляўках), Кандрацьеў Мі-

хаіл Малахавіч — звеннявы па кукурузе; Вялічка Уладзімір Сцяпанавіч (цяпершні старшыня калгаса імя Я. Купалы) — сын ляўкоўскага ляснога майстра, які часта бываў у Купалы...

Назвалі яшчэ многіх. Сямён Максімавіч Баразноў (88 гадоў). Стары расказвае: «Мяне Янка любіў, бо я добра рабіў. Як яму нада што, бочку якую прывезці ці што іншае. Бывала, як прыйдзеш, ён і гаворыць да свае жонкі: «Уладзя, сыраквашы нясі». Як стрэнецца, папяросу дасць. Падход да людзей меў: са старым — стары, з малым — малы. Як забача, калі ідзеш, адразу: «Баразноў, зайдзі...» З людзьмі харошы быў, анягож!..»

Міхаіл Малахавіч Кандрацьеў (1894) да вайны быў брыгадзірам: «Купала на поле прыходзіў. З людзьмі бяседы вёў. Вершы чытаў нам. Грошай даў на гулянку, але не справілі мы тое гульбішча — вайна нахапілася. Збіраўся млын зрабіць нам у стаўку, на возеры, дарогу забрукаваць з Ляўкоў у Копысь...»

Кацярына Міхайлава — звеннявая па льну: «Янка Купала сільна дзяцей любіў. Вазіў падшыванцаў, нас, тады. Мы збяромся пад ліпай і чакаем, ці скора прыйдзе дзядзька Купала. Кніжкі даваў. У дзіцячы садзік даў бібліятэчку. А цяпер во ўжо як урэмя праскочыла, і ў мяне дзеці павырасталі: сын Уладзя на цаліне, як камсамолец, паехаў па пуцёўцы. Трактарыст пахвальны. Піша пісьмы адтуль, хваліцца, што добра яму. Дачка Люба, сын другі — Мікола, вучацца».

Аўдотка Чаркесава, калгасніца: «Бачыла я часта Купалу. Дзяцей частаваў цукеркамі. І яны здалёку крычалі, пляскалі ў ладкі: ідзе Купала! Мой бацька быў за конюха, і яны часта з Купалам страчаліся. Гаварылі. Было, калі бацька скажа што-небудзь смешнае, Купала адразу дастане кніжачку з кішэні і запіша, прыгаворваючы: «Вось гэта знаходка, малайчына, Аўдакіме!»

Вайцахоўскі Андрэй Лаўрэнавіч — пад той час старшыня калгаса: «Амаль кожны дзень Купала ўлетку прыходзіў на гарод. Курыць — усіх частуе папяросамі. Выступаў пад ліпамі, пры ўручэнні калгасу акта на карыстанне зямлёю. Былі і мы, калгаснікі, у яго ў гасцях. Купала чытаў вершы. Выступаў у нас на сходах. І пра калгасы, і пра дзяцей, і пра лётчыкаў... Як бы падслухаў нашы песні...»

Сямён Іванавіч Яфрэмаў — былы аб'ездчык: «Сустрэчы з Купалам нам заўсёды прыносілі радасць. Як бы якое свята было ў нас, калі з ім сустракаліся...»

Таццяна Іванаўна Шчамялёва, калгасніца: «Вельмі ра-

на ўставаў Купала. На ўсходзе сонца ён ужо з кавенькай у праходку кіруецца. Калі стрэнецца, спыніцца, дасць дзень добры і пойдзе сабе ціха. Ветлівы быў дужа. К гэтаму часу ля кузні збіраюцца людзі на нарад, і ён туды ж рупіцца хутчэй...»

Літвінавічы, Кармянскі раён, 12.9.1962.

**«Хвядос-герой».** У Літвінавічах, дзе жыў друг і саратнік У. І. Леніна, член КПСС з 1898 года Панцеляймон Мікалаевіч Лепяшынскі і ў 1918 годзе арганізаваў тут доследна-паказальную працоўную школу-камуну, ёсць жывыя сведкі тых далёкіх падзей. Адзін з іх — Фадзей Кандратавіч Ігнаценка. Яго ў вёсцы называюць «Хвядос-герой». Ён, адзін з шасці сыноў літвінавіцкага бедняка, у якога было менш за паўнадзела зямлі — пясок і балота,— памятае, як у Літвінавічы прыехаў з сябрамі-аднадумцамі «дзядзька Панцей» і пачаў ладзіць новую школу. Туды пайшоў вучыцца меншы брат — Ларка Ігнаценка.

«Хвядос-герой» — вясёлы, зычлівы чалавек. Быў тры гады на вайне, не мала зведаў акопаў і бліндажоў. Вярнуўся ў 1944 годзе дамоў паранены. Праўленне даручыла яму, заслужанаму франтавіку, ахову калгаснага дабра. За строгасць і далі яму мянушку — герой. «Глядзі, які герой мне знайшоўся!» — крыкне хто-небудзь, уджалены вострым Хвядосавым словам. «А што ж,— распрамляе плечы Хвядос, блісне калючымі вачамі: — Я ваяваў, дак і герой... Не тое, што хто-небудзь!»

Усё Зарэчча — гектараў чатырыста з «гакам» за Сожам — пад наглядам Хвядоса-героя. Ад вясны, калі запускаюцца лугі, і аж да калядных маразоў, пакуль на ферму не падвязуць апошнія стагі, Хвядос за ракою — на вахце.

Сёння ў яго быў намер — памагчы стагавальшчыкам. Няўпраўка. Зацягнулася ўлетку непагадзь. Жаўталісцем зацерусіліся вуліцы. Туманы збіраюцца ў Зарэччы, а травы яшчэ стаяць. Пераспелі травы. Вада стаяла — не падступіцца.

— Далібог, не памятаю, каб такое было лета,— прыпальваючы самакрутку, кажа Фадзей Кандратавіч.— З вясны лілі дажджы. Сож выйшаў з берагоў. У самую касьбу — зноў дажджы. Стагі плылі па рацэ, не раўнуючы, як плыты...»

9.6.1963.

**Ненапісаны нарыс.** У пасёлку саўгаса «Любанскі» жыве былы франтавік, трактарыст з даваеннага часу Фёдар Мікалаевіч Станкевіч — Герой Сацыялістычнай Працы.

У яго — пяць сыноў. Тры — трактарысты.

Званне Героя Ф. М. Станкевіч атрымаў у 1950 годзе — «За выключныя заслугі перад дзяржавай, якія выявіліся ў забеспячэнні атрымання ў 1949 годзе ўраджаю збожжа 32,1 ц з гектара... »

Ф. М. Станкевіч дамоў вярнуўся з вайны ў 1945-м, 1 жніўня. З-пад Кёнігсберга. Сям'я жыла ў зямлянцы. Хату паставілі ў 1947-м. Паехаў на вайну на трактары ў 1941-м. Адступалі да Мажайска. Там — першы бой. Трактарамі цягнулі гарматы. Артбрыгада 144 РГКЧА. Узнагарода — медаль «За адвагу». На фронце ўступіў у члены партыі.

Маці сыноў-трактарыстаў — партызанка. Пякла хлеб для партызан з брыгады Розава і насіла з Жалаў у лес.

Свіслач, 25.9.1963.

**Калгас «Бальшавік»** (вёска Карпаўцы). Старшыня калгаса Раман Алізаровіч. Аграном, былы камсамольскі работнік.

Уводзіцца смела новае, перадавое. Спецыялізацыя. Вытворчыя ўчасткі, звенні канчатковай прадукцыі. Хімізацыя.

...Камуніст Мікалай Іванавіч Салаўёў («Прымак») — першы даяр на Гродзеншчыне. Скончыў курсы механічнага даення. Група 17 кароў. Надоі па 4500—5000 кг на карову. Як Мікалай Іванавіч глядзіць на тое, каб мужчыны браліся за механічнае даенне? Ён адказвае: «Каб сур'ёзна, то быў бы парадак».

Тураў, 15.10.1963.

**У глыбі Палесся.** У краязнаўчым музеі стары экскурсавод сказаў:

— Я — абарыген. Жыву ўсё жыццё тут. І шкада, што Тураў страціў свой тытул — райцэнтра.

...А хор у Тураве слаўны. Я прысутнічаў на спеўках, на рэпетыцыі.

— Вы ж можаце, дзяўчаты. Больш натхнення! — гаварыў кіраўнік хору Мікалай Трафімавіч Бяспалаў і сам натхнёна выводзіць: «Між Дняпром і Сожам...»

Хораша выконваюцца беларускія народныя песні, такія, як «Бычок», «Ой, дубе, мой дубе», «Ой, у лузе, пры дарозе», «Ой, дык і жонка мая», «А я ў печы не паліла», «Цячэ вада каламутна».

Калектыў выязджае ў блізкія і далёкія вёскі. Аж у Слабаду ездзілі, за 40 км (пад Лельчыцы).

За год далі 28 канцэртаў.

Многія песні запісаны ад тураўчан, а некаторыя створаны і ў хоры. За Туравам ёсць Малышава — песенная вёска. Адтуль прывезлі песні «Мароз», «Вылятала галубачка»; ад жанчыны з Турава Марыі Гром Бяспалаў запісаў дзве песні: «Зайшло сонца за ваконца» і «Цераз рэчку кладка».

Клічаў, 24.6.1964.

**«Дзядзя Пеця».** У зялёным дашчаным доміку з кветкамі па самыя вокны жыве «дзядзя Пеця» — Пятро Мацвеевіч Віктарчык, які ў гады Вялікай Айчыннай быў камісарам партызанскага атрада № 277, сакратаром падпольнага Клічаўскага райкома КП(б)Б.

— У Клічаве,— расказваў «дзядзя Пеця», узрушаны і ўсцешаны, што яго наведалі госці,— тады, як адбываліся тут партызанскія баі, ацалелі тры дамы, а то ўсё, куды ні кінеш вокам,— зямлянкі, папялішчы... А людзей колькі пагінула — не злічыш. І мая сям'я загінула, у брацкай магіле ляжаць сямёра дзяцей і жонка. Большанькай, Верцы, было васемнаццаць, сынку Валодзьку — два годзікі. Іх расстралялі ў гаражы 23 лютага 1942 года. Тады забілі больш ста чалавек...

Сівы, як голуб, «дзядзя Пеця» маўкліва сціскае вузлаватымі пальцамі саламяны капялюш; нешта яму перасела ў горле — маўчыць.

Маўчым і мы з Сямёнам Чырэшкіным, фотакарэспандэнтам, не адважваемся чапаць роспытамі гэтага чалавека з легенды.

...Пасля таго партызанскага наступлення на Клічаў у красавіку 1943 года ноччу, у якім бралі ўдзел 208-я і 277-я партызанскія брыгады, двойчы прылятаў у клічаўскую зону самалёт з Вялікай зямлі. У другі раз, 17 ліпеня, «дуглас» прывёз партызанам урадавыя ўзнагароды. П. М. Віктарчык атрымаў ордэн Леніна.

...І вось «дзядзя Пеця» ціха, як сам з сабою, размаўляе: «Больш пяці дзён ляжалі забітыя, занесеныя снегам, адубелыя. Перад маімі вачамі ўсё стаяць мае дзіцяткі, жонка. Я ўраз пасівеў, і ўсе сталі мяне называць «дзядзя Пеця».

Добруш, 15.7.1964.

**Людзі легенд.** У горадзе жывуць сціплыя людзі — рабочыя, служачыя, пенсіянеры — удзельнікі партыйна-камсамольскага падполля ў час Вялікай Айчыннай вайны.

У тыя вогненныя гады ў Добрушы дзейнічала некалькі падпольных камсамольска-маладзёжных груп, якія правялі не адну баявую аперацыю пад кіраўніцтвам партызан. Адзін з іх, Анатоль Кулікаў, расказваў, як падпольшчыкі падклалі міну ў доме бургамістра горада Собалева, і толькі выпадкова бургамістр уратаваўся тады, калі яго дом узляцеў у паветра.

А напад на начальніка паліцыі Казлоўскага адбыўся, калі ён мыўся ў лазні. «Галоўны паліцай» выскачыў з лазні як маці нарадзіла і атрымаў партызанскі гасцінец. Партызаны разам з падпольшчыкамі падарвалі вадакачку, ільнозавод, электрастанцыю, варожы склад.

Барысаў, 17.5.1966.

**Чараўнікі жывуць у Лошніцы.** Бальніца. Участковая. Галоўурач Марат Сцяпанавіч Ліхачоў. Бацькі жывуць у Мінску (на Ленінскім праспекце). Дзесяць гадоў у Лошніцы. З ім маладыя выпускнікі Мінскага медыцынскага інстытута: Людміла Чарнуха, Іван Бельскі, Эма Ржэцкая. Пабудавалі новую бальніцу. Марат называе — мая бальнічка. Хірург. Робіць аперацыі. І складаныя. Ліхачоў сваім настаўнікам лічыць галоўурача 1-й бальніцы ў Барысаве Барыса Мікалаевіча Мардвінава.

Мы былі ў Б. М. Мардвінава. Пра Марата Сцяпанавіча ён сказаў:

— А за Марата я падпішуся крывёю. Гэта, лічыце, мой сын. З тых, кім я ганаруся, каму з гонарам перадам маю любімую хірургію. І ў партыю яго прымем. У партыі ён будзе. Гэта, напішыце, сказаў бацька!..

Бальніца, якой кіруе М. Ліхачоў, абслугоўвае 8 тысяч насельніцтва. Стацыянар на 75 ложкаў. Новае абсталяванне хірургічнага кабінета. Тэрапеўтычнае аддзяленне.

Кніга водгукаў поўная ўдзячных запісаў: «Доктар заўсёды, у любую хвіліну з'явіцца на выклік хворага», «З боку ўрачоў і медсясцёр самыя чулыя адносіны да хворага». «Дзякую медсястры Шутко В. М. за ўвагу, за яе цёплую ўсмешку...»

Як жывецца сёння інтэлігенту ў вёсцы? Гэта тэма ўзнікла, бо некаторыя медыкі скардзяцца на сум, на адзіноту.

Марат Сцяпанавіч, іранізуючы, прыгадвае чэхаўскага Іёныча, якому было сумна, бо ён быў адзінокі, жыццё яго праходзіла цьмяна, без уражанняў.

— Нам, сучасным медыкам,— усміхаецца Марат Сцяпанавіч,— сумаваць няма калі. У дзейнага чалавека — сваё захапленне, любімая справа. І сумаваць не даводзіцца, ня-

ма на самоту часу. Гэта гультаю няма куды час падзець. Звычайна такія людзі не развіваюцца, не растуць...

Клімавічы, 8.5.1968.

**Героі аднаго раёна.** За мужнасць і адвагу ў барацьбе з фашысцкімі захопнікамі ў гады Вялікай Айчыннай вайны многія клімаўчане — франтавікі і партызаны — узнагароджаны ордэнамі і медалямі. Сямёра атрымалі высокае званне Героя Савецкага Саюза. Між іх Адам Петушкоў — былы настаўнік Бірулеўскай пачатковай школы. Мы разам з Адамам Захаравічам пачыналі настаўнічаць на Краснапольшчыне.

Быхаў, 8.6.1968.

**Зялёныя помнікі.** 13 лістапада 1918 года ў вызвалены ад немцаў Быхаў уваходзілі партызанскія атрады. З боку вёскі Студзёнка ішлі чырвоныя сцяганосцы. Нехта прапанаваў на тым месцы, дзе стаялі сцяганосцы, пасадзіць дрэўцы. Так у Быхаве нарадзіўся першы зялёны помнік.

У гонар першай пяцігодкі — алея Міжнароднага юнацкага дня.

Воіны пераможцы ў 1945 годзе заклалі парк Перамогі.

У год Сусветнага фестывалю моладзі ў Маскве закладзены сквер Дружбы.

Алея Касманаўтаў.

У дзень святкавання 20-годдзя Перамогі — парк.

Вядомаму снайперу Герою Савецкага Саюза Ф. Смалячкову — помнік на ўзлессі. Сосны і елкі акаймляюць граніт.

Сквер каля новай школы — помнік Марату Казею.

У Быхаўскіх лясах зроблены здымак, які абышоў усе газеты краіны. На зялёнай, сонечнай палянцы прыгажуня-бярозка праткнула нямецкую каску. Яе ніхто не садзіў. Яна сама прабілася праз іржу варожага металу. Яна сама — апафеоз міру.

У кожнай вёсцы выраслі ў пасляваенныя гады зялёныя помнікі — алеі і паркі ў гонар землякоў, што змагаліся за родную Савецкую ўладу.

Нясвіж, 4.9.1968.

**Роднае поле.** Калгас «Радзіма» (старшыня Цюрын Аляксандр Міхайлавіч). 96 членаў ВЛКСМ, 27 камсамольцаў — у жывёлагадоўлі, 20 — механізатары, 28 — паляводы.

Партыйная арганізацыя, праўленне смела ідзе на вылучэнне моладзі на адказныя ўчасткі. 11 чалавек — брыгадзіры, звеннявыя, загадчыкі фермаў.

Сспланавана месца для новага калгаснага пасёлка.

Вуліцы. Быткамбінат. Школа. Дзіцячы сад.

Размова ў калгаснай канторы (яна ў новым Доме культуры).

— Я раней не ведаў,— гаворыць галоўбух Бернард Зізіка,— што гэта такое водпуск. Можа, пасадзіць бульбу папросішся на дзень-два — от і ўвесь водпуск. А цяпер, калі ласка, адпрацаваў год і 24 дні адпачынку — палучай!..

Зізіка круціць ручку арыфмометра.

...Старшыня калгаса ўручае яшчэ аднаму з вясковых юнакоў, Івану Петрашу, пасведчанне аб сканчэнні курсаў трактарыстаў і яму на дарогу гаворыць:

— Мы ўсе нясём адказнасць за сельскую гаспадарку, нам рухаць яе далей. І важна, каб у кожнага з нас мацнела пачуццё гаспадара зямлі.

Лагойск, 25.10.1969.

**Першая трактарыстка.** Жыве ў саўгасе «Гайна» Ганна Іосіфаўна Рыбчык (нарадзілася ў 1913 г.). Узнагароджана ордэнам Леніна. Курсы трактарыстаў скончыла ў 1939 годзе. Была яшчэ адна дзяўчына — Леакадзія Пяркоўская. Працавала год. Са Слабады былі яшчэ дзве дзяўчыны — Алеся Барэйка і Стэпа Давыдовіч. Бывала, сустрэнуцца і дзівяцца: «Няўжо табе, Анця, не надакучыла пэцкацца?..» Увесь час і маці дакарала: «Во дурніца. Усе дзеўкі гуляюць, а ты мажашся...»

«Канечне, і так урабляцца,— прызнаецца цётка Ганна,— не кожны згодзіцца, як я ўраблялася. Але скажу шчыра, не шкадую...»

Як пачалася вайна, Ганна Рыбчык прыгнала свой трактар на сядзібу, у Янушкавічы — там яго і прыхавалі. А пасля вызвалення адразу пайшла ў МТС. «Самі першыя трактары збіралі па вінціку, па гайцы».

Рабіла цётка Ганна да 1956 г. на трактары «ХТЗ». «За рулём адна. Дзень і ноч». У 1957 г.— новы трактар «МТЗ-2». Тады «МТЗ-50». На гэтым — пяць гадоў. Перадала трактар камсамольцу Ул. Шыху.

У Г. І. Рыбчык — медаль «За доблесную працу ў Вялікай Айчыннай вайне», Ганаровая Грамата Вярхоўнага Савета БССР. Ордэн Леніна.

Г. І. Рыбчык у 1958 годзе выбіралася дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР.

33 гады за рулём трактара!

Цётка Ганна — на пенсіі. Яна кажа: «Цяпер трохі прывыкла. А першыя месяцы ўсё рупіла... Але без работы не магу. Прыйдзе брыгадзір, скажа: памажы, Іосіфаўна, і я іду з ахвотай. І ўвесну, і цяпер, увосень, на ўборку...»

Шклоў, 27.7.1971.

**Старшыні-суседзі.** У вёсцы Славені — цэнтр калгаса імя Кірава — старшынёю працуе былы кінамеханік, украінец Васіль Гаўрылавіч Пархоменка. Землі калгаса імя Кірава суседнічаюць з палямі аршанскага калгаса імя Янкі Купалы (цэнтр у вёсцы Зубава). Тут старшынёю аграном, беларус Уладзімір Сцяпанавіч Вялічка. Старшыні-суседзі часта сустракаюцца, маюць цесны кантакт у гаспадарчых справах, дзеляцца вопытам, бываюць адзін у аднаго ў гасцях.

У адзін год за поспехі ў гаспадарцы, за ўмелае кіраўніцтва яны атрымалі ўрадавыя ўзнагароды: В. Г. Пархоменка — званне Героя Сацыялістычнай Працы, У. С. Вялічка — ордэн Леніна.

Орша, 8.9.1971.

**Трэцяя чарга.** Аршанскі льнокамбінат. На праспекце Тэкстыльшчыкаў, недалёка ад камбіната, пахі нейкія своеасаблівыя. Як пахне ўсё адно свежая, з холаду, палатняная сарочка.

Пах лёну — цёплы пах жыцця...

Слёзы і песня — гэта тое, чым быў для нашых мацярок некалі лён. Боль і радасць жаночая.

...На камбінаце — 10 тысяч рабочых. 4 тысячы камсамольцаў.

Трэцяя чарга — ударная будоўля. Камсамольцы Аршаншчыны — яе шэфы, адпрацавалі ўжо 15 тысяч рабочых дзён.

Будзе выпускаць 3 мільёны кв. метраў тонкавалакністых тканін.

Трэцяя чарга ўвойдзе ў эксплуатацыю ў 1972 годзе (чацвёрты квартал). І будзе даваць краіне 300 тысяч метраў аднаго толькі бацісту.

Місхор, 16.10.1972.

**Партызан з Суража.** (Яго прозвішча Арлоўскі). Усю зіму лячыў свайго камісара Мікалая Іванавіча Шарснёва

(ён працуе ў Віцебску ў калегіі адвакатаў). Гэты партызан перажыў вялікую трагедыю: на яго вачах забілі жонку і траіх дзяцей.

Пасля вайны Арлоўскі працаваў старшынёю калгаса. Памёр ён раптоўна. З ім быў сабака (аўчарка). Гаспадар ніколі не расставаўся з ім.

Старшыня памёр ноччу, і сабака стаяў над ім, нікога не падпускаючы, два дні. Толькі сын Арлоўскага, хлопчык год пяці, сяк-так адцягнуў сабаку, і чалавека змаглі пахаваць.

Сабака ішоў услед за трунаю і застаўся на магіле. Сядзеў дзён пяць-шэсць, не ўзяў ежы, якую яму хлапчукі прыносілі на могілкі.

На магіле гаспадара і сканаў.

## ГАЛАСЫ ПАМЯЦІ

### ДОМІК НАД СВІСЛАЧЧУ

...Няспынна плыве жывая рака Ленінскага праспекта беларускай сталіцы. І адзін з яе ручаёў імкне да берага Свіслачы, дзе ў засені маладога саду — зялёны дамок. На сцяне перад уваходам мемарыяльная дошка: «Тут 13—15 (1—3) сакавіка 1898 года праходзіў I з'езд Расійскай сацыял-дэмакратычнай рабочай партыі (РСДРП)».

У тыя ўжо далёкія змрочныя часы прадстаўнікі шасці буйных сацыял-дэмакратычных арганізацый і рабочых саюзаў з Масквы, Пецярбурга, Кіева і Екацярынаслава з'ехаліся на свой першы — адзіны, які пры царызме праходзіў у Расіі,— з'езд. Ціхі губернскі Мінск быў абраны не выпадкова. Тут дзейнічала сацыял-дэмакратычная арганізацыя, якая мела цесную сувязь з Пецярбургам і Кіевам. Дом № 135 па Захар'еўскай вуліцы знаходзіўся на самай ускраіне, амаль на ўзлессі, і пры выпадку нападу дэлегаты маглі ўцячы — побач быў лес...

У Мінск дэлегаты (іх было дзевяць: С. І. Радчанка — ад Пецярбурга, А. А. Ванноўскі — ад Масквы, П. Л. Тучапскі — ад Кіева, Б. Л. Эйдэльман і М. А. Вігдорчык — ад «Рабочай газеты», К. А. Петрусевіч — ад Екацярынаслава, А. І. Крэмер, А. Мутнік і Ш. Кац — ад Бунда) з'ехаліся патаемна, і праводзіўся з'езд пад выглядам вечарыны — імянінаў жонкі гаспадара кватэры Румянцава. Там у пакоі, дзе адбываліся пасяджэнні, стаяў па-святочнаму накрыты стол, быў напагатове самавар...

Дэлегаты працавалі тры дні. Праведзена шэсць пасяджэнняў. Запісваліся толькі рэзалюцыі. Самая першая з іх гаварыла аб аб'яднанні ўсіх сацыял-дэмакратычных саюзаў і гурткоў у адзіную марксісцкую рабочую партыю...

Так нарадзілася Расійская сацыял-дэмакратычная рабочая партыя.

У двух пакоях музея сабраны багаты ілюстрацыйны і дакументальны матэрыял аб развіцці марксізма ў Расіі, росце сацыял-дэмакратычнага руху ў Беларусі. Перад вачамі наведвальнікаў дакументы — сведчанне гістарычнага шляху, які прайшла наша ленінская партыя,— шляху суровых класавых баёў і небывалых перамог.

А пачыналася ўсё тут, у гэтым невялікім пакоі. Стол заслаць белай настольніцай. Над сталом — лямпа. На сцяне — гадзіннік. Самавар... Здаецца, чуеш словы гаспадара кватэры Пятра Васільевіча Румянцава, якія ён сказаў на развітанне: «Няхай дзіця, народжанае ў гэтым доме, будзе такой сілы і моцы, як Геркулес». Вядомы рэвалюцыянер П. М. Лепяшынскі, які разам з Леніным быў у Шушанскім у ссылцы, успамінаў, што Уладзімір Ільіч, дазнаўшыся пра з'езд, радаваўся, як дзіця...

...Штодзень музей прымае тысячы гасцей. Дэлегацыі і экскурсанты з усіх куткоў неабсяжнай савецкай краіны, дэлегацыі і турысты з сацыялістычных краін і ўсіх пяці кантынентаў.

Экспанаты Дома-музея I з'езда РСДРП даюць магчымасць зрокава ўявіць пачатак баявога рэвалюцыйнага шляху нашай партыі, створанай і выпеставанай Уладзімірам Ільічом Леніным.

Дом-музей I з'езда РСДРП за год наведала 350 тысяч чалавек. Сярод іх 48 тысяч — з-за мяжы.

Былі наведвальнікі з В'етнама, Кубы, Аргенціны, Канады, афрыканскіх краін, Аўстраліі... Партугальцы падаравалі музею першы нумар камуністычнай газеты «Аванта», які выйшаў легальна.

Тут былі прафсаюзныя дзеячы з Нігерыі, турысты з Англіі, ЗША, Японіі, Аўстрыі, Бельгіі, Іспаніі, Швейцарыі, Швецыі, Фінляндыі, Галандыі; студэнты з многіх краін, што вучацца ў Мінску.

Сярод высокіх гасцей, якія аддалі сваю пашану месцу I з'езда РСДРП,— выдатныя дзеячы камуністычнага і рабочага руху Марыс Тарэз, Хо Шы Мін, Тодар Жыўкаў, Янаш Кадар, Густаў Гусак, Вальтар Ульбрыхт, Юмжагійн Цэдэнбал...

Ад імя партыйна-ўрадавай дэлегацыі Балгарыі, якая

гасцявала ў Мінску ў 1961 годзе, Тодар Жыўкаў зрабіў запіс, які заканчваецца словамі: «Слава Кампартыі Савецкага Саюза — выпрабаванаму ленінскаму настаўніку, на вечнае братэрства камуністычных і рабочых партый».

Выказваючы свае пачуцці і ўражанні ад наведвання Дома-музея I з'езда РСДРП, генеральны сакратар Французскай камуністычнай партыі Мары Тарэз 5 верасня 1962 года ў Кнізе ганаровых наведвальнікаў пісаў: «У гэтым сціплым доме, дзе адбыўся I з'езд Расійскай сацыял-дэмакратычнай рабочай партыі, кожны пралетарый перажывае глыбокае хваляванне. Тут былі закладзены асновы партыі, якую выхаваў і прывёў да слаўнай Кастрычніцкай рэвалюцыі Ленін».

«З глыбокім рэвалюцыйным хваляваннем мы наведвалі гэты дом, дзе адбыўся I з'езд РСДРП,— пісаў у Кнізе ганаровых гасцей у 1972 годзе Фідэль Кастра.— Дзевяць чалавек сабраліся тут, каб правесці гэты з'езд. Хто б мог уявіць у той час, што бачым мы цяпер — Савецкі Саюз, які стаў першай савецкай дзяржавай, магутнай і квітнеючай — авангард сусветнага рэвалюцыйнага руху. Вось доказ велічы ідэй Уладзіміра Ільіча Леніна, праяўленых з нарастаючай сілай, іх прагрэсіўнага ўплыву на рабочы клас. Сёння, калі гэтыя ідэі перамагаюць і трыумфальна крочаць па ўсім свеце, ад імя Кубінскай рэвалюцыі і ад першай сацыялістычнай дзяржавы, якая размешчана на другім баку Атлантычнага акіяна, мы выказваем нашы самыя глыбокія пачуцці павагі і захаплення».

Дэлегацыя Кампартыі Кубы наведала Мінск і зімой 1974 года. Кубінскія таварышы ў Кнізе водгукаў пісалі: «Дэлегацыя Кампартыі Кубы схіляецца перад мужнасцю рэвалюцыянераў, якія сабраліся ў гэтым доме, каб абвясціць заснаванне Расійскай сацыял-дэмакратычнай рабочай партыі».

Партыя камуністаў, аб якой марыў вялікі Ленін, стала палітычным арганізатарам, ідэйным натхніцелем усіх перамог Савецкага Саюза, пуцяводнай зоркай усяго працоўнага чалавецтва. Ідэі партыі натхняюць мільёны ў барацьбе за свабоду і шчасце. Тут, у Доме-музеі, бы чуеш, як ідэі партыі, запаветы Леніна крочаць па планеце...

«Мы заўсёды з вялікай цікавасцю наведваем месцы, дзе пачыналі піянеры,— напісалі, пабыўшы ў музеі, госці з Танзаніі, якая ў барацьбе здабыла незалежнасць.— Гэтае месца выклікае яшчэ большае хваляванне. Адзін з прысутных на з'ездзе сказаў: «Дзіця, якое нарадзілася ў гэтым доме, будзе дужым, як Геркулес». Мы пераканалі-

ся, што гэта апраўдалася. Наша дэлегацыя, якая знаходзіцца ў СССР, убачыла, якіх поспехаў дасягнула ваша краіна пад кіраўніцтвам партыі, якая нарадзілася тут каля сямідзесяці гадоў назад».

Словы ўдзячнасці і захаплення грандыёзнымі, сапраўды тытанічнымі здзяйсненнямі і планамі КПСС пакінулі ў сваіх водгуках члены Кампартыі Фінляндыі, дэлегацыі Балгарыі, Венгрыі, Польшчы, Румыніі, перуанскія камуністы, парламентарыі з Бразіліі...

Напярэдадні XXV з'езда КПСС у нашай краіне знаходзілася партыйна-ўрадавая дэлегацыя ЧССР на чале з генеральным сакратаром ЦК КПЧ, прэзідэнтам Чэхаславацкай рэспублікі Густавам Гусакам.

Чэхаславацкія таварышы былі гасцямі Мінска. Перад ад'ездам члены партыйна-ўрадавай дэлегацыі Чэхаславакіі на чале з Густавам Гусакам наведалі Дом-музей I з'езда РСДРП. Высокія госці агледзелі экспазіцыю і ў Кнізе ганаровых наведвальнікаў пакінулі запіс: «Глыбокае ўражанне зрабіла на нас наведванне месца, дзе адбыўся I з'езд Расійскай сацыял-дэмакратычнай рабочай партыі, якая пад кіраўніцтвам вечна жывога У. І. Леніна ператварылася ў сапраўды марксісцкую партыю новага тыпу.

Камуністычная партыя Савецкага Саюза прайшла цяжкі, але слаўны шлях у барацьбе за здзяйсненне ідэй Маркса, Энгельса, Леніна. Пад яе кіраўніцтвам рабочы клас Расіі атрымаў перамогу, ажыццявіўшы Вялікую Кастрычніцкую сацыялістычную рэвалюцыю. Савецкі народ першы ў свеце пабудаваў сацыялістычны грамадскі лад, абараніў яго ў барацьбе супраць фашысцкіх захопнікаў і ўступіў на шлях будаўніцтва камуністычнага грамадства.

Савецкі Саюз з'яўляецца надзейнай абаронай і апорай усёй сацыялістычнай садружнасці, народнага вызваленчага руху, усіх дэмакратычных і прагрэсіўных сіл свету.

Мы вучымся на багатым вопыце ленінскай партыі, які з'яўляецца для нас натхняючым прыкладам у будаўніцтве развітага сацыялістычнага грамадства ў ЧССР».

Запісы... Водгукі... Іх нельга чытаць без хвалявання. Гэта — галасы мільёнаў людзей з усіх краін свету, якія з надзеяй глядзяць на Савецкі Саюз, краіну роўнасці і братэрства, захапляюцца вялікім міжнародным аўтарытэтам нашай партыі, якая выверaным ленінскім курсам вядзе савецкі народ да камунізма...

Гусцее вячэрні змрок. У залатым святле горад, і домік над Свіслаччу, асветлены пражэктарамі, нібы плыве ў густой, яркай чырвані.

## СКАРБ, ДАСТУПНЫ ЎСІМ

Гэта — кнігі. Скарб, даражэйшы за дыяменты і золата. Багацце, створанае чалавечымі рукамі і розумам.

З таго часу, як было вынайдзена друкаванне, скрутак замяніўся кнігай. Кніга — сшытыя ў адзін пераплёт аркушы паперы ці пергаменту і ўсё, што на іх надрукавана.

Мудрэйшыя на зямлі людзі самыя лепшыя словы прысвяцілі ёй. З маленства мы памятаем загадку пра яе: «Без языка, а гаворыць...»

«Сапраўдны універсітэт нашых дзён,— пісаў англійскі гісторык Томас Карлейль,— гэта збор кніг».

Наша беларуская кніга была імянінніцай. Ёй споўнілася чатырыста пяцьдзесят гадоў. З гэтай нагоды мы наведалі Дзяржаўны музей БССР, дзе сабраны кнігі ад сівой даўніны да нашых дзён.

Прасторны пакой. Высачэзныя шафы, застаўленыя кнігамі. Тут і старадрукаваныя помнікі, выдадзеныя ў беларускіх друкарнях, і першыя выданні з Расіі, і першыя кнігі, выдадзеныя пасля Вялікага Кастрычніка, і кнігі-рукапісы.

Наша кніга пачалася з 1517 года, калі палачанін Францыск Скарына ў Празе выпусціў «Псалтыр» — першынца, у якім на вякі пакінуў роднае слова. Потым пайшлі наступныя.

Старшы навуковы супрацоўнік Лявон Змітравіч Клок, аўтарытэтны спецыяліст па кнігах, асцярожна кладзе на стол кнігі-помнікі. «Лексікон Памвы Бярынды». Адзін з нямногіх экземпляраў тлумачальнага слоўніка, які быў у 1653 годзе надрукаваны ў друкарні Куцейнскага манастыра пад Оршай. Кнігу друкаваў магіляўчанін Спірыдон Собаль, які пераехаў сюды з Кіева.

Яшчэ больш рэдкая кніга «Новы завет» з друкарні рускага першаасветніка Івана Фёдарава, выдадзеная ў 1580 годзе на Украіне ў горадзе Астрозе. Кніга мае 356 лістоў.

— Бачыце, фарбы не паблеклі,— гаворыць Лявон Змітравіч.— Добрая папера. Застаўкі чырвоныя. Шрыфт прыгожы, выразны...

Не верыш, што кнізе блізка 400 гадоў. Колькі яна бачыла на сваім вяку! Хто чытаў яе? Каму належала яна?

Як вядома, кнігадрукаванне на Беларусі ў другой палове XVI і на пачатку XVII стагоддзя адыграла вялікую ролю ў культурным жыцці. Захоўваючы традыцыі Скарыны, беларускія асветнікі і друкары падтрымлівалі культурныя сувязі рускага, беларускага і ўкраінскага народаў.

У 1566 годзе Іван Фёдараў разам са сваім аднадумцам беларусам Пятром Мсціслаўцам пераязджае ў Беларусь. У Заблудаве на сродкі Рыгора Хадкевіча яны адкрываюць друкарню. Тут было надрукавана «Евангелле вучыцельнае», 814 старонак. Надрукаваная на стараславянскай мове, якая была блізкая і зразумелая для беларусаў, кніга з'явілася змагаром супраць каталіцызму.

Нядоўга праіснавала друкарня ў Заблудаве. Аднак яе роля вялікая. Іван Фёдараў і Пятро Мсціславец, якія пераехалі ў Вільню ў друкарню братоў Мамонічаў, прывезлі з сабою новыя шрыфты і новыя спосабы друкавання. Выданне кніг у Беларусі рушыла наперад. Адна за другой узнікаюць друкарні ў Буйнічах, Цяпіне, Нясвіжы, Магілёве, крыху пазней — у Ашмянах, Слоніме, Бялынічах. У XVII стагоддзі друкарні былі ў Мінску, Полацку, Пінску, Заслаўлі. Пасля Скарыны яго справу прадаўжалі такія энтузіясты, як Пятро Мсціславец, Васіль Цяпінскі, Сымон Будны, браты Кузьма і Лукаш Мамонічы.

Кнігі, што выдаваліся ў беларускіх друкарнях, мелі добрае мастацкае і тэхнічнае афармленне, яны былі не горшыя за тыя, што друкаваліся ў іншых краінах. Вось хоць бы «Лексікон Памвы Бярынды», выдадзены ў Куцейне: ціснены скураны пераплёт, выразны шрыфт, добрая папера, удала, з густам падабраныя застаўкі, арнаменты-канцоўкі.

Не горшыя кнігі, выдадзеныя ў друкарні Сымона Буднага: «Рыторыка К. Соарыя», «Выбраныя пісьмы» Цыцэрона. «Неба» — новы твор архімандрыта Галятоўскага, «Актоіх» — выданні магілёўскай друкарні Максіма Вашчанкі. «Катэхізіс» Лаўрэнція Зізанія, выдадзены ў Гродна. «Евангелле вучыцельнае», выдадзенае ў 1616 годзе ў Еўі.

— Між іншым,— заўважае Лявон Змітравіч,— «Евангелле вучыцельнае» — кніга з цікавай біяграфіяй. Яна была ў даваенным гісторыка-краязнаўчым музеі ў Мінску. У часе вайны кнігу вывезлі ў Германію. Савецкія воіны сярод іншых каштоўнасцей вярнулі «Евангелле» з палону...

Першыя кнігі, выдадзеныя ў старым Мінску: паэма Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча «Гапон» (1856), «Мінея святочная, належачая Мінскай епархіі».

Кнігі-рукапісы, летапісы, службоўнікі, слоўнікі, падручнікі, статуты... Усё гэта — галасы гісторыі. Нібы чуеш, як крочыць эпоха за эпохай. Уяўляеш, як з глыбінь народных ірвалася на волю роднае слова, бо яно было ў загоне.

12. Зак. 1969

Кніжак на беларускай мове амаль не было. І калі якаянебудзь кніжачка і з'яўлялася на свет, то было вялікай падзеяй. Пра гэта вельмі хораша сказаў Максім Багдановіч, якому ўдалося ўбачыць надрукаванымі свае вершы: «У краіне светлай, дзе я ўміраю, у белым доме ля сіняй бухты, я не самотны, я кнігу маю з друкарні пана Марціна Кухты».

Сціплыя, простыя кніжкі, выдадзеныя ў дарэвалюцыйны час у Вільні, кранаюць і хвалююць.

Песня Я. Купалы «А хто там ідзе?». Музыка Л. М. Рагоўскага. 1910 год.

Пятро Беларус. «Якім бяздольны». 1914 год.

Змітрок Бядуля. «Абразкі».

К. Буйла. «Курганная кветка»...

Тыя, хто сеяў першыя зярняты роднай культуры, верылі, што настане светлы час і беларусы атрымаюць сваю пісьменнасць. «Загляне сонца і ў наша ваконца»,— чытаем на першай старонцы першага зборніка вершаў Янкі Купалы «Жалейка», які быў выдадзены ў 1908 годзе ў Пецярбургу ў друкарні К. Пянткоўскага. Тут жа, у Пецярбургу, яшчэ раней, у 1903 годзе, Янка Лучына (Іван Неслухоўскі) выдаў маленечкі зборнік вершаў «Вязанка» — усяго 24 старонкі.

Сэрцы беларусаў саграваала святло блізкай па духу рускай культуры, якая ішла з Пецярбурга і Масквы. У самыя, здавалася б, глухія куткі даходзілі кнігі, што выдаваліся ў Расіі.

На паліцы — чатыры важкія тамы. Карл Маркс «Капітал. Крытыка палітычнай эканоміі». Гэта — поўны пераклад з 5-га, праверанага Фрыдрыхам Энгельсам, выдання, пад рэдакцыяй В. Базарава і І. Сцяпанава, Масква, 1909 год. Яшчэ ранейшае (1899) пецярбургскае выданне «Капітала» пад рэдакцыяй П. Струве; Карл Маркс «Убоства філасофіі», Санкт-Пецярбург, 1906 год; Н. Ленін «Даклад пра аб'яднаны з'езд РСДРП. Пісьмы да пецярбургскіх рабочых», 1906 год.

Яшчэ адна кніжка. Дата выдання: 1917 год. Мінская губернская друкарня...

На вокладцы: «Камітэт заходняга фронту. Вялікая расійская рэвалюцыя. Акты і падзеі рэвалюцыйнага перыяду». У змесце брашуры — кароткі агляд падзей на фронце. Лёс дынастыі. Дзеянні Часовага выканаўчага камітэта Дзяржаўнай думы. Загады галоўнакамандуючага арміяй.

З першых дзён Вялікага Кастрычніка беларускае кнігадрукаванне стала на дзяржаўны шлях развіцця і за

гады Савецкай улады дасягнула сапраўднага росквіту. Кніга, якой мы бачым яе сёння на прылаўках магазінаў, на сваіх кніжных паліцах, стала такой не адразу. Яна прайшла доўгі і складаны шлях.

На стале — стос кніжак і брашур, якімі толькі што папоўнілася калекцыя музея. Вельмі каштоўныя кнігі — першыя выданні ў Беларусі пры Савецкай уладзе. Сапраўдны скарб!

Увесь дзень я праглядаў гэтыя кніжкі і брашуры. Яны з адной бібліятэкі. Іх збіраў наш зямляк, член партыі з 1917 года, персанальны пенсіянер Л. І. Стронгін, які жыве ў Маскве. У першыя гады савецкага ладу Леў Ізраілевіч жыў у Мінску і быў звязаны з паліграфічнай вытворчасцю, з'яўляўся адным з першых прафсаюзных работнікаў. Гэта бачна і па кнігах, якія ён падараваў сваім землякам.

Кніжак не багата — каля двух дзесяткаў. Але кожная вартая таго, каб заняць месца ў калекцыі. Зборнікі першых прафсаюзных з'ездаў, даведнікі — адрасна-даведачная кніга і каляндар на 1923 год (Белтрэстдрук. Мінск), «Беларуская ССР 1922—1923 гг. да 5-га ўсебеларускага з'езда Саветаў. Мінск. 1924 г.», «Уся Беларусь на 1925 год», «Беларуская Савецкая сацыялістычная рэспубліка. Выдавецтва СНК БССР. Менск — 1927 г.», слоўнік М. Байкова і М. Гарэцкага, выдадзены ў 1924 годзе, альбомы, зборнікі нарысаў пра будні беларускіх паліграфістаў, камплекты газет «Всероссийский печатник» за 1919 год, «Известия» Цэнтральнага бюро КП(б) Беларусі за 1921 год, «Голас» — орган Савета прафсаюзаў Беларусі.

Нельга не ўспомніць яшчэ пра дзве рэчы, падараваныя Л. Стронгіным музею. Першая — «1905 год у Беларусі», зборнік архіўных дакументаў: даносы жандарскіх улад і розных губернскіх канцылярый дэпартаменту паліцыі пра забастоўку ў Мінску, Пінску, Дзвінску, Віцебску і іншых месцах. І другая — «Справаздача народнага камісарыяту сацыяльнай апекі», выдадзеная да 5-га з'езда Саветаў БССР. У ім цікавыя матэрыялы пра зверствы акупантаў на Беларусі і клопаты маладой рэспублікі Саветаў аб інвалідах, беспрытульных і дзецях-сіротах.

Сярод мастацкіх кніг з бібліятэкі Л. Стронгіна зборнік К. Крапівы «Крапіва» — выданне 1925 года; паэма Я. Коласа «Сымон-музыка» (1925). На першай старонцы радкі: «Беларускай моладзі сваю паэму прысвячаю. Аўтар». Кніжка была выдадзена чатырохтысячным тыражом. «Цішка Гартны, Сокі цаліны. Раман у 3-х квадрах.

II-я квадра. На перагібе. 1926 год. Менск». Падарунак мае аўтограф: «Паважанаму і шаноўнаму т. Л. Стронгіну ў адзнаку сумеснае таварыскае працы па выдавецтву на працягу доўгага часу аддае прыязны аўтар на ўспамін. Цішка Гартны. Масква, 29.V.26.»

Кнігі, якія перадаюцца ў падарунак музею,— шчодрая крыніца папаўнення музейнай кніжнай калекцыі. Многія беларускія пісьменнікі, беларускія вучоныя, старыя камуністы, удзельнікі грамадзянскай і Вялікай Айчыннай вайнаў, героі пяцігодак, землякі, якія жывуць за межамі рэспублікі, прысылаюць музею свае кнігі з аўтарскімі дарункавымі надпісамі.

Скарбніца музея ўвесь час папаўняецца. Для яго папаўнення многа сіл прыклалі Лявон Клок, Рэгіна Доўнар-Запольская, Васіль Марутка, Пятро Лавецкі, Генадзь Баркун, Алена Заклінская, Аляксандр Савельеў і іншыя энтузіясты...

У абноўленых залах Дзяржаўнага музея БССР між іншых духоўных каштоўнасцей мы бачым жывую гісторыю беларускай кнігі, даступнай сёння ўсім.

## УРОКІ МУЖНАСЦІ

На Цэнтральнай плошчы Мінска ўзвышаецца светлы, лёгкі будынак. У ім — Беларускі дзяржаўны музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны.

Тут заўсёды людна. Турысты, школьнікі, маладыя воіны...

Якраз пачыналася экскурсія, і мы далучыліся да яе. Старэйшая супрацоўніца музея экскурсавод Вера Альфонсаўна Крывічаніна — былая партызанка, расказвае пра першыя дні вайны, пра тое, як змагаліся воіны Чырвонай Арміі, абараняючы родную зямлю ад вераломных фашысцкіх полчышчаў.

— Паглядзіце,— запрашае наведвальнікаў Вера Альфонсаўна.— Вось гэтую гімнасцёрку і камсамольскі білет лейтэнанта Аляксея Наганава знайшлі пры раскопках руін Брэсцкай крэпасці. А гэта зброя, сабраная ў крэпасці...

Нямеркнучай славай пакрылі сябе нашы воіны пры абароне Мінска, Магілёва, Ленінграда, Масквы, Севастопаля, Адэсы і іншых гарадоў Савецкай краіны. У новай экспазіцыі — матэрыялы пра подзвігі воінаў-беларусаў, якія ўдзельнічалі ў гераічнай абароне Масквы і Ленінграда.

33-я армія, якая перагарадзіла дарогу фашыстам на падступах да Масквы, трапіла ў акружэнне. Дзякуючы гераізму такіх воінаў, як лётчык-беларус Іван Казлоўскі, які зрабіў 48 баявых вылетаў, з акружэння былі вывезены раненыя, для арміі былі дастаўлены зброя, боепрыпасы, харчаванне. Яго подзвіг запісаны ў гераічны летапіс Айчыннай вайны. З партрэта на вас пазірае просты беларускі хлопец-лётчык — Герой Савецкага Саюза Іван Казлоўскі. Пад шклом яго ўзнагароды — ордэн Леніна, зорка Героя, чатыры ордэны Чырвонага Сцяга, ордэн Чырвонай Зоркі, медалі «За адвагу», «За баявыя заслугі». Побач партрэты іншых сыноў беларускага народа, якія ўдзельнічалі ў абароне сталіцы нашай Радзімы і ўдастоены высокага звання Героя Савецкага Саюза — генерал-маёра А. Барэйкі з Віцебшчыны, генерал-лейтэнанта Е. Дабравольскага і палкоўніка І. Хруцкага з Магілёўшчыны, генерал-палкоўніка І. Камеры з Гродзеншчыны...

Сярод беларусаў, якія змагаліся за абарону Ленінграда, вядомы снайпер Фёдар Смалячкоў. За тры месяцы баёў ён знішчыў 120 фашыстаў! Выяўлена імя новага снайпера-беларуса з Аршаншчыны Пятра Кузьмянкова, які ў баях на Ленінградскім фронце знішчыў звыш 200 фашыстаў.

Новыя, каштоўныя матэрыялы ў экспазіцыі пра абаронцаў Мінска ў першыя дні вайны. Наведвальнікі з цікавасцю аглядаюць матор, выстаўлены ў першай зале. Гэта — рэшткі самалёта, на якім капітан Гастэла са сваімі двума сябрамі здзейсніў легендарны подзвіг у першыя дні вайны. Матор быў знойдзены на полі недалёка ад Радашковіч і здадзены ў музей.

Беларусь — рэспубліка, якая прыняла на сябе першы ўдар ваеннай браніраванай машыны гітлераўскай Германіі.

Фашысты, акупіраваўшы Беларусь, прынеслі з сабою «новы парадак» — рэжым тэрору, разбою і рабства. За час акупацыі знішчана 209 гарадоў, 9200 сёл і вёсак, 1 200 000 будынкаў. А чалавечыя жыцці! Ніколі не забудуцца страшныя лічбы: у лагерах смерці на тэрыторыі Беларусі замучана і знішчана 1 мільён 400 тысяч чалавек грамадзянскага насельніцтва і 800 тысяч ваеннапалонных.

Натуральна, што савецкія людзі не маглі мірыцца з фашысцкім «новым парадкам». Пад нагамі акупантаў гарэла зямля — ім не было спакою ні ўдзень, ні ўночы, ні ў гарадах, ні ў вёсках...

Беларусь стала краінай класічнага партызанскага руху. Аглядаючы матэрыялы, выстаўленыя ў трох залах, мы маем магчымасць прасачыць, як на беларускай зямлі нараджаўся, рос і шырыўся рух народнага гневу, як разгаралася і зашугала полымя партызанскай барацьбы.

Славуты Дзед Талаш — партызан дзвюх войнаў, Ціхан Бумажкоў — першы з беларускіх партызан,— удастоены звання Героя Савецкага Саюза. Мінай Шмыроў (Бацька Мінай) — камандзір Першай беларускай партызанскай брыгады на Віцебшчыне, Канстанцін Заслонаў — славуты камандзір аршанскіх партызан-чыгуначнікаў, Васіль Корж — адзін з першых палескіх народных мсціўцаў, які стаў камандзірам партызанскага злучэння на Піншчыне, Васіль Казлоў — сакратар Мінскага падпольнага абкома партыі і кіраўнік партызанскага злучэння на Міншчыне, Пятро Машэраў — камандзір партызанскага атрада на Полаччыне, Фёдар Маркаў — камандзір Вілейскай партызанскай брыгады, Кірыла Арлоўскі — камандзір партызанскага атрада ў Баранавіцкім злучэнні... Толькі некалькі прозвішчаў з галерэі герояў усенароднай партызанскай барацьбы ў Беларусі.

Выстаўлены новыя экспанаты, знойдзеныя і сабраныя ў апошнія гады: тут і асабістыя рэчы многіх славутых герояў-партызан і партызанскіх кіраўнікоў, і прадметы партызанскага побыту, і партызанская зброя.

Гармата на колах. Яе знялі з пабітага танка партызаны атрада «Іскра», у кузні паставілі на колы ад сеялкі, і гармата добра служыла партызанскім артылерыстам.

Снарады. Бомбы. З іх партызанскія падрыўнікі выплаўлялі тол і рабілі міны, якімі падрывалі эшалоны, розныя ваенныя аб'екты.

У партызан былі свае майстэрні па рамонту зброі, вырабу амуніцыі. Дэманструецца набор інструментаў і абсталявання майстэрняў мінскай брыгады «Разгром» і пінскага атрада імя Катоўскага.

Шырока прадстаўлена дзейнасць камуністычнага падполля. Паказваюцца экземпляры першых нумароў газеты «Звязда», што былі выдадзены камуністамі-падпольшчыкамі ў 1942 годзе ў Мінску. На здымку мы бачым домік, дзе рыхтаваліся гэтыя нумары, і партрэт гаспадыні доміка Таццяны Якавенка.

Друк — вострая зброя. Яна добра служыла агульнанароднай справе барацьбы ў гады вайны. Карта камуністычнага падпольнага друку на часова акупіраванай фашыстамі Беларусі паказвае, дзе выдаваліся падпольныя газе-

ты. У той час выходзілі сто шэсцьдзесят дзве газеты, у тым ліку тры рэспубліканскія, чатырнаццаць абласных, сто сорак пяць міжраённых і раённых.

Партызанская знаходлівасць не ведала межаў. У звычайнай сумачцы-рыдыкюлі мінчанка Алена Мазанік прынесла міну, якою быў знішчаны кат беларускага народа гітлераўскі генеральны камісар у Беларусі Вільгельм Кубэ. Гэта сумачка стала рэліквіяй.

Звычайны стары насценны гадзіннік. У ім падпольшчыкі хавалі камуністычную літаратуру. Звычайная хустка-канаплянка. У ёй партызанская сувязная Марыя, адна з шасці сясцёр-падпольшчыц Хаўранковых з Магілёва, пераносіла партызанскія лістоўкі. Маток тэлефоннага шнура. З яго дапамогай Аляксандр Азончык, бясстрашны партызан з атрада «Патрыёт», што дзейнічаў на Вілейшчыне, са сваімі сябрамі-падрыўнікамі пусціў пад адхон 47 эшалонаў праціўніка.

Драбавік, з якім пачаў партызаніць стары селянін з вёскі Бастынь Барыс Нікандравіч Цяльпук. Уся яго сям'я — адзінаццаць чалавек — таксама была ў партызанах.

Кажушок падлетка-партызана Ігара Слімбарскага; палявая сумка, з якой партызаніў падлетак Іван Стасевіч; жорны, якімі карысталіся барысаўскія партызаны,— усё гэта цяпер рэліквіі, што даюць адчуць абстаноўку тых агнявых векапомных дзён.

Сцягі. Іх многа, слаўных, авеяных героікай партызанскіх сцягоў. Ад сцяга 1-й беларускай брыгады Бацькі Міная і да аксамітнага палотнішча, на якім золатам вышыты словы: «Пераходны Чырвоны сцяг ЦК ВЛКСМ лепшай камсамольскай партызанскай брыгадзе»...

Як сімфонія народнага гневу, гучаць лічбы на стэндзе ў трэцяй партызанскай зале: на тэрыторыі Беларусі дзейнічала 1108 партызанскіх атрадаў, аб'яднаных у 199 брыгад — звыш 370 000 партызан. У гарадах і райцэнтрах вялі работу 70 000 падпольшчыкаў. Акрамя таго, амаль 400 000 чалавек, што жылі ў вёсках і лясных лагерах,— магутны партызанскі рэзерв, сіла гневу і помсты, якая памагала лясным байцам.

Яшчэ ў трох залах шырока і грунтоўна асвятляецца роля савецкага тылу, які забяспечваў усім неабходным Савецкую Армію; подзвігі воінаў-беларусаў на франтах у гады Айчыннай вайны; вызваленне Савецкай Арміяй Беларусі з-пад ярма акупантаў; вызваленчы паход савецкіх войск па краінах Заходняй Еўропы; іх пераможнае шэсце,

якое закончылася поўнай капітуляцыяй фашысцкай Германії.

У вызваленні Беларусі ўдзельнічалі воіны шмат якіх нацыянальнасцей. Яны змагаліся, як адна дружная сям'я савецкіх патрыётаў.

На відным месцы — партрэты нашых выдатных савецкіх палкаводцаў, пад шклом асабістыя рэчы, узнагароды тых, хто загінуў, вызваляючы беларускую зямлю.

Асобныя стэнды прысвечаны героям вызвалення Віцебска, Магілёва, Мінска, Гомеля... Генерал-маёр танкавых войск Бахараў, які змагаўся за многія беларускія гарады, генерал-палкоўнік Глаголеў, генерал-лейтэнант Пулка-Дзмітрыеў — актыўныя ўдзельнікі вызваленчага паходу па зямлі Беларусі.

Усё новыя і новыя імёны герояў Айчыннай вайны, нашых слаўных землякоў. Аляксандр Гурын — контр-адмірал, удзельнік абароны Запаляр'я; Сцяпан Шутаў — двойчы Герой Савецкага Саюза, камандзір 20-й гвардзейскай танкавай брыгады, якая вызваляла Кіеў; Міхаіл Батракоў — старшы лейтэнант, Герой Савецкага Саюза, які ўдзельнічаў у вызваленні Прыбалтыкі; Аляксандр Гаравец — Герой Савецкага Саюза, адзіны лётчык у свеце, які ў адным баі на Курскай дузе збіў дзевяць варожых самалётаў; старшы лейтэнант Пятро Гучок, лётчык, які ўдзельнічаў у штурме Берліна; Пятро Бандарэнка — контрадмірал, начальнік палітупраўлення Чарнаморскага флоту; Сяргей Гарадовіч, старшына, што за гераізм і адвагу ў баях на Одэры атрымаў высокую ўзнагароду — ордэн Багдана Хмяльніцкага...

Пералік яшчэ можна доўжыць. Яркія біяграфіі герояў-патрыётаў з'яўляюцца прыкладам таго, як трэба жыць, каб стаць верным сынам сваёй Айчыны.

Савецкая Армія — дзецішча сацыялістычнай дзяржавы — гартавалася ў цяжкіх баях, дужэла ў полымі вайны. Мы захапляемся яе грознай тэхнікай, магутнай зброяй.

Славутая «кацюша» — гвардзейскі рэактыўны мінамёт, які наводзіў страх на гітлераўцаў. Экскурсавод расказвае пра подзвіг гарматнага разліку ў складзе Барадуліна, Святлічнага і Назаранкі. Хлопцы каля вёскі Кажамякі засланілі шлях нямецкай дывізіі, якая выбіралася з віцебскага «катла». Воіны загінулі як героі, але вораг не прайшоў.

Пачэснае месца ў музеі займае гаўбіца № 12667, якой камандаваў капітан Іван Самбук — родам з Мазыршчыны.

Ён пачаў ваяваць гэтай гарматай у 1941 годзе пад Масквой. Быў спачатку зараджаючым, наводчыкам, а потым стаў камандзірам. У баях за Дняпро і Прыпяць атрымаў званне Героя Савецкага Саюза. Удзельнічаў у вызваленні Прагі і закончыў вайну на Эльбе. Надпіс на шчыце гарматы паведамляе, што яна знішчыла 7 фашысцкіх танкаў, 18 бронетранспарцёраў, 89 кулямётаў, 39 дзотаў, 29 агнявых кропак. Даведаўшыся, што старая гаўбіца мае такую баявую біяграфію, воіны перадалі яе ў музей. Яе былы камандзір Іван Елісеевіч Самбук — выкладчык Мінскага радыётэхнікума — наведваецца ў музей, дзеліцца ўспамінамі.

...Зала Перамогі. Яна выглядае велічна і строга. Злева — вялікая, амаль на ўсю сцяну, копія карціны мастакоў Кукрыніксаў «Падпісанне акта пра безагаворачную капітуляцыю Германіі». Пад ёй на шыльдачцы словы: «Чырвоная Армія дабіла ворага і прымусіла яго скласці зброю». На падлозе — сцягі і штандары гітлераўскай Германіі, перад імі грудок трафейнай зброі, касак.

А направа, як сімвал нашай слаўнай перамогі, урачыста развяваюцца чырвоныя сцягі ўсіх саюзных рэспублік. Дружная сям'я савецкага народа разграміла германскі фашызм, які ўяўляў смяртэльную небяспеку для ўсяго чалавецтва.

Людзі, будзьце пільныя!

Кожны, выходзячы з музея, прачытае гэтыя словы, што на транспаранце перад выхадам. І ў думках скажа: «Будзем берагчы мір. Праклён вайне!»

...У кнізе водгукаў, што ляжыць на століку,— поўна ўсхваляваных запісаў: «Дзякуем вам, дарагія таварышы з музея», «У памяць аб героях абяцаем добра вучыцца», «Мы ганарымся подзвігамі свайго народа», «Дарагія браты-беларусы, ленінградцы заўсёды з вамі», «Ад душы дзякуем усім, хто пабудаваў музей», «Будзем заўсёды берагчы мір», «Няхай заўжды будзе сонца!»

Подпісы турыстаў з Алтая, Краснаярска, воінаў з Поўначы, вучняў з Харкава, студэнтаў з Мінска, калгаснікаў з Палесся...

## ЛЯ СЦЕН СЛАЎНАЙ ЦЫТАДЭЛІ

Брэсцкая крэпасць-герой. Хто не ведае сёння цытадэль на заходнім рубяжы, дзе ў першыя дні Айчыннай вайны змагаліся з фашыстамі воіны бессмяротнага гарнізона, праявілі масавы гераізм і стойкасць.

Кожны, каму выпадае трапіць у Брэст, стараецца па-

быць у крэпасці, наведаць славутыя мясціны гераічнай баталіі, ваенны музей, у якім сабраны багаты матэрыял пра герояў-абаронцаў. Уся крэпасць стала запаведнікам, куды адкрыта свабоднае наведванне.

У прасторных залах выстаўлены мастацкія карціны, скульптуры, узоры зброі і амуніцыі, асабістыя рэчы ўдзельнікаў абароны, сцягі-рэліквіі.

...На стале — свежыя пісьмы, здымкі. С. Бабронак з Львова паведаміў, што адшукаў і высылае рэдкія фотаздымкі сваіх баявых сяброў-пагранічнікаў, якія змагаліся ў крэпасці; А. Сакян з Масквы прыслаў сваю франтавую запісную кніжку і кінжал, з якім змагаўся ў крэпасці.

Музей-крэпасць адкрыт круглы год. Наведваюць крэпасць і групамі, і ў адзіночку, моладзь і людзі пажылыя, што на сваіх плячах перанеслі цяжар і жахі мінулай вайны. Прыходзяць маладыя воіны, якім усё здаецца казкай-легендай, прыходзяць ветэраны, якія самі перажылі ўсё гэта. Ідуць піянеры, якім подзвігі толькі сняцца...

У суровай маўклівасці людзі ходзяць па залах, глядзяць здымкі герояў-абаронцаў крэпасці, аглядаюць шматлікія рэчы іх воінскага побыту, і ў іх душы нараджаюцца пачуцці вялікага захаплення іх подзвігам.

Людзі чытаюць дакументы, якія расказваюць аб зверствах фашыстаў, глядзяць здымкі нямецкай кінахронікі, слухаюць хвалюючыя расказы экскурсаводаў, і з душы іх ірвуцца словы абурэння: «Не дапусцім больш такое, перагародзім дарогу вайне!»

Людзі ходзяць па зарослых травою, здзічэлых руінах, заглядваюць у маўклівыя казематы і бастыёны, аглядаюць разбурэнні і выбоіны на сценах, мацаюць скамянелыя ад агню цагляныя скляпенні і нібы чытаюць радкі суровай кнігі аб гераічным подзвігу ў першыя дні вайны.

Камні гавораць пра тое, што тут адбылося.

«Нас было трое масквічоў — Іваноў, Сцяпанчыкаў, Жунцяеў. Мы далі клятву, што не адыдзем адсюль. Ліпень, 1941».

«Я паміраю, але не здаюся. Бывай, Радзіма. 20.VII.1941 года».

«Таварышы, адпомсціце за нас!»

З гэтымі надпісамі-споведзямі, якія зроблены ў цяжкія хвіліны на сценах казематаў, нібы пераклікаюцца цяперашнія запісы ў кнізе водгукаў, якія пакідаюць госці і наведвальнікі. Запісы гучаць, як клятва, як прысяга на вернасць любімай савецкай Айчыне.

«Мы ганарымся подзвігам нашых бацькоў і братоў,—

піша камсамолец А. Белаконь.— І шкада, што мы спазніліся нарадзіцца, каб хоць крыху аблегчыць іх лёс».

Сяржант Дзевяткаў, наведаўшы са сваімі сябрамі-воінамі музей, запісаў:

«Мы таксама, як і яны, калі спатрэбіцца для Радзімы, будзем стаяць насмерць!»

«Дзякуй вам, родныя. Вы далі нам жыццё. Няхай мае дзеці будуць падобныя на вас. М. Гарошка (маці)».

Сярод шматлікіх водгукаў, якія нам давялося чытаць, кідаецца ў вочы запіс старога камуніста М. І. Какавіхіна, былога салдата, які некалі служыў у гэтай крэпасці і ўдзельнічаў у паўстанні 1905—1906 гадоў:

«...гэта добрая кузня па выхаванню... пакаленняў у гарачай любві да Радзімы і стойкасці да абароны нашай свяшчэннай і недатыкальнай зямлі».

Запісаў вельмі многа. Выказваюць свае пачуцці і савецкія людзі, і нашы зарубежныя госці, што пабылі ў музеі-крэпасці. Тут пакінулі свае подпісы і кубінскі патрыёт-камуніст Ласар Пенья, і грэчаскі паэт Алексіс Парніс, і славуты мастак Рокуэл Кэнт...

У Брэсце і на Брэстчыне жывуць тыя, хто змагаўся ў крэпасці. Яны — жывыя сведкі таго, што адбылося ў іх на вачах у цяжкія дні выпрабавання. Многае робяць ветэраны, каб увекавечыць памяць сваіх сяброў-паплечнікаў.

...Цёплы сонечны дзень. Дрэмлюць над ракою старыя вербы, звесіўшы ў задуменні над вадою вузлаватыя касмылі — голле. І яны — маўклівыя вартавыя — пад шчодрай ласкай сонца павесялелі. Апрануўшыся ў зялёную абнову, красуюцца-глядзяцца ў люстра ракі. З абодвух бакоў абрывістыя берагі абляпілі з вудамі рыбакі-аматары. Здаецца, яны сабраліся на нейкую сваю рыбацкую сходку. Але цішыня, незвычайная цішыня навокал. Не верыцца нават, што некалі кіпелі ад агню і выбухаў гэтыя сонныя хвалі.

Была нядзеля. І на раку, і ў крэпасць зранку пацягнуліся людзі. І гаражане, і прыезджыя. На зялёнай пляцоўцы, адкуль добра відаць чырвоныя сцены параненай цытадэлі і яе прыгожае адлюстраванне на зеленаватых хвалях,— раскінулі сваё начынне мастакі-студыйцы. Ля мальбертаў схіліліся і малады салдат, і школьнік, і пажылы рабочы. Над усім — яркае, ласкавае сонца. Высокае, чыстае неба.

Праз Кобрынскія вароты наведвальнікі заходзяць у крэпасць. У цэнтры цытадэлі нейкай грамадай выглядаюць руіны былой царквы, дзе перад вайною змяшчаўся гарні-

зонны клуб. Ад былога Белага палаца, дзе быў падпісаны ў 1918 годзе вядомы Брэсцкі мір, засталіся толькі падмуркі ды груды бітай цэглы. Направа з зялёнага мурагу выглядаюць белыя сцены бастыёнаў Усходняга форта, дзе стаялі насмерць гераічныя воіны пад камандай маёра Гаўрылава. Налева — вялізнай падковай цягнуцца двухпавярховыя казармы з Холмскімі і Цярэспальскімі варотамі, куды вораг абрушыў першыя штурмавыя ўдары.

...Ля Цярэспальскіх варот сабраўся натоўп. У цесным коле — невялікага росту смуглявы чалавек з указкай у руках. Гэта няштатны экскурсавод Уладзімір Піліпавіч Гаўрасаў.

Экскурсанты пабылі ўжо ў многіх памятных месцах і цяпер прыйшлі да сцен цытадэлі. Гаворка вялася пра гісторыю крэпасці, якая была збудавана сто год таму назад рускімі ваеннымі інжынерамі на самай граніцы ля рэк Мухавец і Заходні Буг.

— Ужо к пачатку нашага стагоддзя,— гаварыў Уладзімір Піліпавіч,— крэпасць не з'яўлялася сур'ёзным ваенным аб'ектам, яна страціла сваё ранейшае значэнне. Перад мінулай вайною яна была проста месцам, дзе размяшчаліся войскі, а ў казармах і падвалах знаходзіліся ваенныя склады. У першы дзень вайны тут змяшчаўся зусім невялікі гарнізон — меней двух палкоў пяхоты. На заходнім востраве былі пагранзаставы. Да крэпасці прымыкалі шпіталь і будынкі, дзе жылі сем'і ваеннаслужачых.

На золку 22 чэрвеня 1941 года фашысты рынуліся на граніцу, абрушылі тысячы тон снарадаў і бомбаў на крэпасць. Запалала былая царква, ірваліся склады. У крэпасць кінуліся хворыя са шпіталю, жанчыны і дзеці — сем'і воінаў. Неўзабаве праз мост ля Холмскіх варот прарваліся немцы. Яны надумалі захапіць крэпасць з ходу. Згрупаваўшыся, воіны крэпасці і пагранічнікі ўдарылі дружным агнём з акон і байніц... З першага дня абарону крэпасці ўзначалілі капітан Зубачоў, начальнік пагранзаставы лейтэнант Кіжаватаў, палкавы камісар Фамін. Беручы прыклад са сваіх бясстрашных камандзіраў, у першыя ж дні вызначыліся адважныя героі змагання — лейтэнант Наганаў, радавыя браты Дарохіны... Гераічна змагаліся на Заходнім востраве пагранічнікі. Яны біліся да апошняга патрона і загінулі як героі.

— Не ўдалося ворагу ўзяць крэпасць ні на першы, ні на другі, ні на трэці дзень,— гучыць усхвалявана голас экскурсавода.— Фашысты хадзілі па некалькі разоў за

дзень на штурм, але адкатваліся, гінулі ля сцен, падалі ў раку. І тады яны надумалі нечуваную подласць: сабралі палонных медыцынскіх сясцёр і пагналі іх перад сабою. Нашы воіны, вядома, не сталі страляць па сваіх.

І раптам адна з жанчын з натоўпу крыкнула: «Страляйце, ну, не марудзьце!..» Гэты крык падхапілі ўсе жанчыны, і ён гучаў, як загад.

З казарм, праз вокны на выратаванне жанчынам кінуліся нашы байцы. З акон верхняга паверха па фашыстах ударылі кулямёты.

Тут жа, непадалёку ад моста раз'юшаныя гітлераўцы пачалі расстрэльваць безабаронных жанчын...

...Гнеўнай помстай гараць вочы ў людзей, калі экскурсавод расказвае пра гераічныя подзвігі палкавога камісара Яфіма Фаміна. Усе моўчкі схіляюць галовы ля сцяны, дзе на мемарыяльнай дошцы золатам блішчаць словы: «Тут, ля Холмскіх варот, быў расстраляны фашысцкімі захопнікамі адзін з кіраўнікоў абароны Брэсцкай крэпасці, палкавы камісар Фамін Яфім Майсеевіч».

Жанчына з заўчасна пасівелымі скронямі падышла да сцяны і беражна палажыла букет сініх пралесак.

— Я асабіста ведала Яфіма Майсеевіча,— ціха сказала жанчына, змахнуўшы з вачэй слязу.— Цудоўнай душы быў чалавек!..

Праскоўя Аляксееўна Гарэлава — так завуць гэтую жанчыну — служыла ў шпіталі і ў першы дзень вайны трапіла ў палон. Сярод тых нямногіх, каму ўдалося застацца жывымі, была і Праскоўя Аляксееўна. З ёй знаходзілася шасцігадовая пляменніца Валя. Успамінаючы тыя жахлівыя дні, Праскоўя Аляксееўна гаворыць:

— Ніколі не забуду, як мы выносілі дзяцей з агню, не забуду водбліскаў злавеснага агню ў іх чыстых вачах. Ніколі і нідзе не забывайце, людзі, тых, хто загінуў ля гэтых сцен, пад гэтымі мурамі, ратуючы ваша юнацтва!..

Экскурсанты праз Холмскія вароты выходзяць зноў у цытадэль. Спыняюцца ля зруйнаванага будынка, дзе змяшчалася школа шафёраў пагранвойск. Ад будынка засталася груда цэглы і глыбокія скляпенні падвала.

Экскурсавод расказвае:

— У гэтых падвалах воіны пакляліся абараняць крэпасць да канца,— стаяць насмерць. Немцы кідалі бомбы, білі з гармат. Потым у вокны шуганула полымя з агнямётаў. Плавілася цэгла, абвальваліся двухметровыя сцены, але абаронцы трымаліся. Забітых і параненых байцоў змянялі жанчыны, падлеткі. У атакі разам з усімі хадзіў сем-

наццацігадовы выхаванец 333-га палка Пеця Васільеў. Аднойчы, калі закончылася атака на гарнізонны клуб, Пеця замяніў параненага кулямётчыка. Яго кулямёт бязлітасна касіў ворага. У час аднаго з артылерыйскіх налётаў Пеця быў сам смяртэльна паранены. Калі сюды на дапамогу падаспелі байцы разам са старшым лейтэнантам Патапавым, Пеця быў яшчэ жывы. Ён ляжаў на разбітым кулямёце, нібы абараняючы яго...

— Гэта правільна,— пачулася з натоўпу.— Я тады быў там. Калі схіліўся над Пецем, ён прашаптаў апошнія словы: «Родным... у Сталінград... сталінградцам перадайце...»

Гэта гаварыў пажылы мужчына, былы старшына 333-га палка Міхаіл Ігнатавіч Ігнацюк, што ўдзельнічаў у абароне крэпасці. З ім стаяў маладжавы з твару, хударлявы чалавек і пільна ўслухоўваўся ў тое, што расказваў экскурсавод.

— Як добра, што вы прыйшлі, Рыгор Сяргеевіч,— раптам выгукнуў экскурсавод.— Раскажыце пра абарону Усходняга форта, вы ж там былі, трымалі апошнюю абарону...

Усе з захапленнем і ўдзячнасцю паглядзелі на гэтага сціплага чалавека — былога фельчара транспартнай роты 333-га палка Рыгора Сяргеевіча Макарава. А ён, узрушаны, разглядаў казематы і скляпенні форта, доўга маўчаў, узіраючыся і аб нечым думаючы, а потым задумліва прыгадваў:

— Во тут мы збіраліся... Тут кватаравала наша рота... А гэта сталовая... Вунь далей была канюшня... Як пачалася вайна, мы занялі абарону на ўмацаваннях, а потым перабраліся ў казематы. Баямі кіравалі спачатку камандзір роты Маркаў і камандзір 393-га артылерыйскага дывізіёна Шрамко. На трэція суткі да нас з Заходняга форта прыбыў маёр Гаўрылаў, прыняў на сябе камандаванне. Адбыўся партыйны сход, на якім прынялі рашэнне — абараняць крэпасць да апошняга дыхання.

Гітлераўцы абстрэльвалі форт з кулямётаў, з танкаў, з гармат, трымалі ўвесь час пад кулямётным абстрэлам, але нічога не дамагліся. У нас не было харчу: елі камбікорм і авёс, які знаходзілі ў казематах, не было вады — выкапалі калодзеж і пілі ржавую ваду...

Пасля таго як на ўмацаванні паляцелі бомбы вагою паўтары — дзве тоны, ворагу ўдалося прарвацца ў форт. Памятаючы загад камандзіра, малодшы сяржант Радзівон Семянюк, якому было даручана ахоўваць сцяг, паклаў у вядро чырвонае палотнішча і закапаў у надзейным месцы.

Праз пятнаццаць год Семянюк прыехаў у крэпасць, адшукаў тое месца і перадаў сцяг у музей.

На дзесятыя суткі нас, параненых і кантужаных, захапілі ў палон. Тут было шмат дзяцей і жанчын, і яны дзялілі з намі ўсе пакуты асады...

Рыгор Сяргеевіч Макараў, як і многія іншыя абаронцы крэпасці, што параненыя і кантужаныя трапілі ў палон, уцёк з лагера, і працягваў змаганне ў партызанскім атрадзе.

...На мяккім мурагу, ля сцен старой цытадэлі паселі ў цесны гурток былыя ветэраны — удзельнікі славутай, незабыўнай абароны. Прыгадваюць тыя цяжкія пякельныя дні, былыя паходы. Ёсць што ўспомніць, ёсць што расказаць дзецям — нашым сучаснікам, за шчасце якіх яны змагаліся. Байцы-ветэраны завяшчаюць моладзі: «Свята беражыце і памнажайце традыцыі сваіх бацькоў-камуністаў, любіце сваю маці-Радзіму такой сыноўняй любоўю, як тыя маладыя героі, што палеглі назаўсёды ля гэтых свяшчэнных муроў!»

## ЗВАНЫ ХАТЫНІ

Шэрая стужка шашы мякка сцелецца пад колы аўтамашын. Дарога то крута абрыньваецца ўніз, то выбягае на прыгорак... Тут, адразу ж за Мінскам, пачынаецца лес, зліваючыся з бяскрайнімі барамі і гаямі Лагойшчыны. Дрэвы падпіраюць вяршынямі сіняе неба, расквечанае вычварна-фантастычнымі воблакамі.

Імчацца машыны. Спяшаюць людзі да сваіх будзённых спраў, набіраючы разгон і вышыні.

На пяцьдзесят чацвёртым кіламетры шаша раздвойваецца і ўпіраецца ў сцяну веліканаў-соснаў. З-за паваротгі дарогі, на малахіце хвойніку вочы натыкаюцца на вялізныя, колькі метраў, попельна-чорныя літары: «Хатынь».

Тыя, каму ехаць далей, прыпыняцца на хвілю. Многія ж зварочваюць на хатынскую, а цяпер мемарыяльную дарогу, дзе выкладзены незвычайныя надмагільныя пліты. Сюды кіруюць і пешаходы з рукзакамі — і сівыя ветэраны, і моладзь...

Хатынь — наш боль, наш гнеў. Тут, у Хатыні, наша гісторыя — яе старонка часоў Вялікай Айчыннай вайны — з яе трагедыяй і веліччу духа. У тыя векапомныя гады за

свабоду і незалежнасць савецкай Радзімы загінуў кожны чацвёрты беларус. У адных загінуў бацька, у другіх — маці, у трэціх — брат, у чацвёртага — уся сям'я.

Хатынь — боль і гордасць народа. Гэта пракляцце нашым ворагам; погалас нашых бацькоў, прысяга на вернасць Бацькаўшчыне.

Гэта — вахта нашае вечнае Памяці.

Хатынцы — звычайныя людзі, што жылі тут, на паляне, у суседстве з борам і дубровамі. Яны ў ліхалецце, у чорную часіну разгулу прыблудаў-фашыстаў, не схілілі галавы перад настаўленымі на іх аўтаматамі — гэтыя людзі ўвайшлі ў бессмяротнасць.

Журботная цішыня. Яна хавае ў сабе і гул яраснага агню, і дзіцячы плач, і адчайныя крыкі мацярок, і гнеўныя праклёны паміраючых у полымі мужчын...

Жылі ў Хатыні звычайныя беларускія сяляне, ураблялі зямлю, вырошчвалі збожжа, бульбу, сціртавалі сена, гадавалі дзяцей, ладзілі вяселлі і святы... Тут да вайны была паляводчая брыгада калгаса — 26 двароў.

Каля хат раслі дрэвы — арабіны, бярозкі, клёны, вербы... Хаты стаялі вольна, вулічка цягнулася ўздоўж пагорка. Да кожнага дамка абавязкова вяла сцяжынка з веснічкамі, а пад вокнамі — черомха, бэз, язмін... На дрэвах, што рассыпаліся на пагорку,— абавязкова бусляннкі. Як вядома, у нашым краі, там, дзе гнядзяцца буслы,— на шчасце! Увесну хатынцаў весялілі сваёй музыкай-спевам руплівцы-шпакі.

Даўно ўжо няма вёсачкі Хатынь. Каля падвор'я не расце трава-мурава. Няма калодзежа з жураўлём. Няма вёскі, а толькі шэрыя бетонныя вянкі-брусы ўздымаюцца над абвугленым шлакам. Згарэлі хаты і дрэвы, што аздаблялі сядзібы; у агні спапяліліся шпакоўні і гнёзды буслаў. Шпакі вясною лятуць мінавіцай, буслы не прынясуць шчасця хатынцам. Згарэлі хаты, адрыны, пунькі, веснічкі, клеці, паграбкі... На іх месцы — хаты бетонныя; веснічкі расчынены навечна — заходзьце, людзі, глядзіце, што зрабілі з хатынцамі ворагі-людаеды.

Зараслі дарогі, па якіх хадзілі хатынцы на госці да суседзяў, у поле, у лес па грыбы і ягады, на сенакос... Сёння на кожнай з гэтых дарожак стаіць бетонная каплічка, а каля яе — прыварана падкова. І калодзеж бетонны.

Трагедыя спасцігла Хатынь у марозны, сонечны дзень 22 сакавіка 1943 года. Уранні атрад карнікаў акружыў вёску. З хат павыганялі старых, дзяцей, жанчын, мужчын. Хворых і нямоглых падганялі прыкладамі. Не ашчаджалі

мацярок з немаўлятамі на руках. Сагналі ўсіх у клуню на ўскраіне і падпалілі.

Згарэла ўсё: хаты, людзі, жыўнасць — загублена 149 жыццяў. У полыме зніклі ўсе 26 двароў. Тых, хто палаючым факелам выхапляўся з агню, расстрэльвалі ва ўпор з аўтаматаў. 75 дзяцей абвугленымі галавешкамі ляжалі на папялішчы.

За што загублены мірныя, цывільныя людзі, сейбіты і хлебаробы? За тое, што яны — беларусы і хацелі жыць вольна на сваёй, бацькоўскай зямлі, не прымалі «новы парадак» — рабаўніцтва і гвалту азвярэлых акупантаў-фашыстаў. Як пасля апавяшчалася, вёска Хатынь была знішчана за сувязь з партызанамі.

З усіх хатынскіх дзяцей, што былі ў той пуні-сяннiцы, выпаўзлі і цудам ураталіся ў партызанскім лесе ўсяго двое — Віктар Жалабковіч і Антось Бараноўскі. А з дарослых хатынцаў жывы застаўся адзін — Іосіф Іосіфавіч Камінскі. Пакуль быў жывы, то часта прыходзіў сюды, на папялішча. Зняўшы шапку, марудна крочыў да сваёй сялібы, дзе некалі гулялі-забаўляліся яго дзеці, дзе былі яго веснічкі, з якой сям'я выйшла ў апошні раз...

Іосіф Камінскі, знясілены, тады выпаўз да свайго паміраючага ў смяротнай агоніі сына...

...У журботнай цішы ідуць людзі, глядзяць на бронзавую постаць непакорнага чалавека ў расхрыстанай абгарэлай сарочцы з мёртвым хлапчуком на руках і на мармуровай клуні чытаюць словы — запавет мёртвых да жывых: «Людзі, беражыце жыццё, затуліце сонца ад свінцовых хмар, блакітнае неба ад дыму і страшэнных пажарышчаў, урадлівыя нівы ад спусташэння молахам вайны і ніколі-ніколі не дапусціце больш такое!»

І раптам у гэтай напружанай, скрушлівай цішыні ўзнікае і грыміць прыглушана ўдар звона. Яго падхопліваюць другі, трэці, чацвёрты... І вось ужо ўся паляна, увесь навакольны лес, уся зямля поўніцца самотна-ўрачыстым гудам-звонам.

Звоняць званы Хатыні.

Гэта рэквіем памяці. Гэта напамінак аб ахвярах фашызму — злейшага ворага чалавецтва.

«Слухайце, людзі! — чытаем на мемарыяльнай дошцы помніка.— Да вашых сэрцаў звяртаюцца званы Хатыні. З болем і гневам расказваюць яны аб трагедыі гэтай вёскі...»

...Фашысцкія канібалы зруйнавалі 209 беларускіх гарадоў і пасёлкаў, тысячы сёл і вёсак. У сотнях з іх былі

13. Зак. 1969

знішчаны мірныя жыхары. Ад крывавых рук акупантаў загінула 2 мільёна 230 тысяч савецкіх грамадзян.

Гэтага ніколі не можна забыць!

Вялікія нашы ахвяры. Несуцешны наш боль. Жывыя пакляліся ўвекавечыць імёны ўсіх ахвяр гітлераўскага нашэсця. Па ўсёй абноўленай зямлі Беларусі — абеліскі, помнікі, памятныя курганы... Між іх мемарыяльны комплекс «Хатынь». Архітэктары Юрый Градаў, Валянцін Занковіч, Леанід Левін, скульптар Сяргей Селіханаў і галоўны інжынер праекта Васіль Макарэвіч у камені і бронзе ўвекавечылі хатынскую трагедыю.

На месцы кожнага з дваццаці шасці сяліб — задымленыя ніжнія вянцы зрубаў — падваліны. А над імі, як коміны на папялішчы, узвышаюцца бетонныя стэлы, увенчаныя званамі.

Мемарыял «Хатынь» удастоены Ленінскай прэміі — гэта ўвекавечанне памяці ахвяраў фашызму, помнік савецкім людзям, якія загінулі ў час апошняй вайны на беларускай зямлі.

Многія нашы жыхары падзялілі лёс хатынцаў. Урны з зямлёю гэтых вогненных брацкіх магіл замураваны тут у каменных плітах. А побач — каменная сцяна — помнік вязням Трасцянца, Масюкоўшчыны і іншых фашысцкіх лагераў смерці на беларускай зямлі ў чорныя дні фашысцкай няволі.

І цячэ сюды, у Хатынь, бясконцая людская рака. З усіх мясцін Беларусі, з усіх куткоў нашай неабсяжнай Савецкай Радзімы. І голас званоў плыве над палямі і лясамі, як вечная трызна-памінкі па тых, чые імёны запісаны тут, на гэтых комінах-помніках.

Калі чытаеш гэтыя словы загінуўшых хатынцаў, міжволі горкі, даўкі камяк падступае і сціскае горла: «Людзі добрыя, памятайце, мы любілі жыццё і Радзіму, і вас, родныя. Мы згарэлі жывыя ў агні. Наша просьба да ўсіх: няхай жалоба і смутак стануць мужнасцю і сілай...»

Слёзы засцяць вочы...

У кожнага, хто пабудзе тут, назаўсёды ў сэрцы застануцца словы: «Родныя вы нашы. Вы — у нашых сэрцах».

І вы, родныя браты і сёстры нашыя, вечна будзеце ў сэрцах жывых. Не забудзем гэтага ніколі, не даруем нізашто! Будзем працаваць, не ведаючы стомы рукам, каб увекавечыць мір і шчасце на зямлі, каб нідзе і ніколі ў віхуры пажару не памірала жыццё.



## СВЯТА ЖЫВЕ Ў ТАБЕ...

Як хваляваліся некалі мы, сустрэўшы жывога паэта! Відаць, сэрца кожнага, каму дарагое роднае слова, б'ецца хутчэй, а ў душы пры сустрэчы з паэзіяй нараджаюцца пяшчота і дабрата.

...З вершамі Якуба Коласа мне давялося пазнаёміцца, калі я і чытаць добра яшчэ не ўмеў: слухаў, як старэйшыя хлапчукі-школьнікі вучылі на памяць вершы паэта:

...Ярка на камінку
Смольны корч палае.
Бацька на калодцы
Лапці выплятае...

Слухаў і захапляўся музыкай слоў. Мне блізкія і зразумелыя былі і гэтыя радкі, і герой верша — сынок Ігнатка. Як і ён, я сумаваў па школе, таму што маці сказала: «Пойдзеш у наступную зіму, калі Дуня крыху падрасце, а цяпер трэба сястрычку глядзець...»

А ўжо вучнем трэцяга класа са школьнай сцэны я сам бойка дэкламаваў:

Дрэнна маё жыццё.
Усё ідзе не ў лад.
І крычаць мне ўсюды:
«Асадзі назад!»

Цяпер я ведаў: гэты, як і многія іншыя вершы з хрэстаматыі, напісаў беларускі паэт Якуб Колас. З нейкага часопіса я выразаў яго партрэт і хлебным мякішам прымацаваў у куце.

...Летам 1939 года, калі я займаўся ў Мінску на педагагічных курсах, у парку імя М. Горкага неяк сустрэў групу пісьменнікаў. І я пайшоў за імі, стараўся не згу-

біць з вачэй: не часта з жывымі пісьменнікамі сустрэнешся. Ля партрэтаў нашых першых народных паэтаў Я. Купалы і Я. Коласа яны спыніліся. Хтосьці з іх, здаецца, Пятро Глебка, заўважыў: «Вось нашы зоркі». У групе былі двое пажылых мужчын — абодва ў цёмных касцюмах, беласнежных кашулях, з ордэнамі Леніна і дэпутацкімі значкамі на грудзях. Адзін з іх, хударлявы і сутулаваты, з папяросай, крануў таго, хто сказаў пра зоркі, за плячо і, быццам з дакорам, прагаварыў: «Кінь, Пятрок, усе мы аднолькавыя зоркі. Сапраўдныя зоркі там, у небе...» Усе весела засмяяліся. Гэта сказаў Якуб Колас.

Памятаю, мы, студэнты педвучылішча, назубрыўшыся табліц ды сінусаў-косінусаў, чыталі, каб адпачыць, «Сымона-музыку». Нас, вясковых хлапчукоў, хваляваў і коласаўскі Лабановіч. Мы гэтак жа, як і ён, марылі паехаць настаўнічаць у самую глухую вёску. Нашымі любімымі вобразамі былі коласаўскія Аленка і Сцёпка, у іх мы бачылі свой ідэал, саміх сябе.

Пасля вайны мне пашчаслівілася бачыць Я. Коласа — ля Дома друку, дзе ён, бывала, прагульваўся, у рэдакцыі «Чырвонай змены», дзе я тады працаваў, і куды часам заходзіў Я. Колас.

Неаднойчы чуў выступленні народнага паэта на з'ездах пісьменнікаў у Мінску. Пра што ні гаварыў Якуб Колас — паэт і акадэмік, дэпутат і змагар за мір — яго заўсёды слухалі ўважліва, затаіўшы дыханне. Я. Коласа аднолькава цікавілі і літаратурныя справы, і аднаўленне разбураных гарадоў і вёсак, і жыццёвыя клопаты знаёмых і зусім незнаёмых яму людзей.

Не шкадуючы ні сіл, ні часу, спяшаўся ён на дапамогу людзям. Трывожыла яго і тое, што ў нашых калгасах была тады нізкая ўраджайнасць. Паэт на сваёй сядзібе праводзіў доследы з жытам. Над пісьмовым сталом павесіў барометр і вёў каляндар назіранняў за надвор'ем; радаваўся, калі летам пасля працяглай сушы, нарэшце, пальё дождж. «Я ўсё жыццё клічу дождж на наша поле»,— не раз гаварыў Канстанцін Міхайлавіч.

Да Я. Коласа ішлі за дапамогай усе — знаёмыя і незнаёмыя, з Мінска і з далёкіх вёсак, і, вядома, яго землякі з Мікалаеўшчыны, якіх ён любіў шчырай любоўю. Да яго людзі прыходзілі з горам і спадзяваннямі, з радасцямі і клопатамі. І нікому ён не адмаўляў у дапамозе. Памятаю, аднойчы мая сваячка, калі ў яе былі цяжкасці ў сувязі з пабудовай дома, сказала: «Пайду да Коласа, ён нікому не адмаўляе, дапамагае».

Не толькі сам паэт, але і яго натхнёнае і мудрае слова дапамагала нам жыць, будаваць, змагацца. У гады вайны вершы Я. Коласа, паэта-патрыёта «Наперад і толькі наперад, ні кроку назад» узнімалі нас на бой...

Часам, калі стане сумна, возьмеш томік, адкрыеш старонку:

Краска мілая мая,
Госця веснавая!
Як ты хораша цвіцеш
У глушы, любая.

І радасць паэта ўліваецца ў нашыя сэрцы...

## ЛЯЎКІ, АРШАНШЧЫНА...

Ёсць на беларускай зямлі мясціны, якія блізкія кожнаму. Сярод гэтых дарагіх народнай памяці мясцін — Ляўкі на Аршаншчыне, звязаныя з імем Янкі Купалы.

У 1935 годзе Я. Купала разам з групай беларускіх пісьменнікаў ездзіў у творчую камандзіроўку на БелДРЭС і ў калгасы Аршаншчыны. Наведаўшы калгас «10-ты з'езд Саветаў» у Ляўках, народны паэт з захапленнем сказаў:

— Цудоўныя людзі. І жывуць на ўлонні не менш цудоўнай прыроды. Я меў бы за шчасце сярод іх пасяліцца!..

Ляўкоўцы з радасцю падтрымалі думку госця. На прадлецці таго ж 1935 года на дняпроўскай кручы збудавалі паэту домік-дачу, які стаў улюбёным яго куточкам, калыханкай творчага натхнення.

Дом Купалы ў Ляўках стаяў на крутым беразе Дняпра, па суседству са стромкімі соснамі. Бераг зарос арэшнікам і лясной чаромхаю. З яго адкрываўся зроку цудоўны краявід: шырокая, серабрыстая стужка ракі, зарэчны луг і абсягі палёў на даляглядзе...

Янка Купала палюбіў гэтыя мясціны. Шэсць год запар прыязджаў у Ляўкі. Тут напісаў ён свае цудоўныя, поўныя радасці і святла вершы пра калгаснае жыццё, пра моладзь, з якой парадніўся ўсім сэрцам.

Лета 1935 года — бадай, самае плённае ў творчай працы паэта ў Ляўках. Такія цудоўныя вершы, як «Лён», «Вечарынка ў калгасе», «Сыны», «Як у госці сын прыехаў», «Сосны», «Дарогі», «Госці» і шмат іншых, напісаны пад уражаннем усяго, што ўбачыў песняр сваімі вачыма, сустракаючыся з гасціннымі суседзямі.

Жывучы ў Ляўках, Я. Купала актыўна ўдзельнічаў

у тых будзённых справах, якімі былі заняты ляўкоўцы, прымаў блізка да сэрца ўсё, што рабілася на яго вачах, уваходзіў ва ўсе дробязі арцельнага жыцця. Часта яго вершы былі своеасаблівым паэтычным водгукам на падзеі калгаснай рэчаіснасці. Ляўкоўцы, іх гарачыя калгасныя будні з'яўляліся крыніцай натхнення, творчым імпульсам...

Пабываў Я. Купала на дажынках у брыгадзе, і неўзабаве напісаўся верш «Вечарынка ў калгасе»; прайшоўся росным ранкам на вуліцы — і склаўся новы верш «Маё мне сонца правадыр», павандраваў па ўзбярэжжы Дняпра з сябрамі-пісьменнікамі, што завіталі да «дзядзькі Янкі», і зноў новы твор — «Старыя акопы».

У Ляўках многія пажылыя людзі памятаюць, як Янка Купала выступаў на пасяджэнні праўлення, прыгадваюць яго цёплыя сустрэчы з дзецьмі ў яслях, якія былі адкрыты ў калгасе па яго ініцыятыве, выступленні ў школе, у клубе, у вясковай бібліятэцы. Садоўнікі памятаюць яго задушэўныя гутаркі ў садзе і на агародзе. На сядзібе Міхала Старавойтава расце груша-бэра, што падараваў яму паэт са свайго маладога саду, які быў завёў на дачы.

Калі заходзіць гутарка пра жыццё паэта ў Ляўках, старажылы абавязкова прыгадваюць, як група актывістаў: старшыня, брыгадзіры, даяркі, конюхі — хадзілі да Купалы ў госці.

— Гэта дакладны факт,— расказваў Андрэй Лаўрэнавіч Вайцахоўскі, які тады быў у Ляўках за старшыню.— Надумаліся мы неяк дажынкі справіць і рашылі Янку паклікаць. Сабраліся групай, набралі яблыкаў, мёду, сноп жытні ўзялі і пайшлі. Ну, і пагасцявалі ж мы тады, памятаю, аж да рання прагаварылі... А Янка Купала і верш нам потым чытаў... Пра тое, як мы ў Янкі гасцявалі. І пачынаецца ён вельмі проста і хораша:

Ка мне ў госці з прывітаннем шчырым
І з песнямі калгаснікі прыйшлі.
Сам старшыня прыйшоў і брыгадзіры,
Настаўніца, даяркі й пастухі.

Другі пажылы калгаснік Андрэй Антонаў успамінаў:

— Мы аднойчыаралі пад жыта. Бачым: ідзе да нас Купала. Спыніўся, пачаставаў усіх аратых папяросамі. Доўга гутарыў. І на развітанне сказаў: «Дзякуй, хлопцы». А мы ў адзін голас: «За што, дзядзька Янка?» А ён усміхнуўся: «За натхненне. Гэта ж я, ліха на яго, натхненне згубіў. Дык вось пагутарыў з вамі і натхненне знайшоў...»

...Даўно гэта ўжо было. Цяпер цяжка згадаць, дзе тут

выдумка, а дзе дакладны факт. Але важна, што ў Ляўках жыве памяць пра выдатнага песняра беларускай зямлі, што яго добры чалавечы след на беразе Дняпра застаўся вечна. Неўміручым помнікам жыве і сёння ў Ляўках, як і на ўсёй беларускай зямлі, Купалава слава, Купалава імя, Купалава песня.

Купалаўскі домік-дачу ў 1941 годзе ў першыя дні баёў за Копысь спалілі фашысты. На тым месцы, дзе шумелі меднастволыя прыгажуні-сосны, засталіся адны пні ды чыстая палянка ў вянку арэшніку і лясной чаромхі.

Унізе гамоніць хвалямі сівы Дняпро, а за ракою — зелянеюць разлівы ярыны і сінява льноў. З надрэчных лугоў нясецца песня, чуцён рокат трактараў... Жыццё, якое так любіў і з велічнай сілай апяваў у сваіх творах Я. Купала, расквітнела здабыткамі нашых слаўных дзён. Ляўкоўская моладзь, дзеці тых калгаснікаў, з якімі любіў пагаварыць аб будучыні дзядзька Купала,— сёння гаспадары і будаўнікі свайго калектыўнага шчасця.

Цяпер над Дняпром на тым месцы збудаваны новы домік-дача, дзе знаходзіцца філіял музея Янкі Купалы. Да Купалы ідуць і ідуць людзі, каб аддаць пашану свайму вялікаму песняру.

## НА РАДЗІМЕ ЯКУБА КОЛАСА

Акінчыцы. Ласток. Смольня. Мікалаеўшчына... Родныя мясціны народнага паэта Беларусі Якуба Коласа, калыска яго натхнення.

У Акінчыцах шырокая, як праспект, вуліца. Новыя, са светлымі вокнамі хаты. Зялёныя купчастыя прысады. Тут цэнтр калгаса «Чырвоны Кастрычнік». А некалі была толькі леснічоўка. Недалёка ад дарогі звычайная сялянская хата, якая будавалася даўней, ужо старэнькая. На сцяне перад уваходам мемарыяльная дошка: «Тут 3.XI.1882 г. нарадзіўся народны паэт Беларусі Якуб Колас (Канстанцін Міхайлавіч Міцкевіч)».

У Акінчыцах бацька Коласа служыў лесніком. Сям'я Міхала Міцкевіча пражыла тут два гады. З панскае ласкі Міхалу давялося перабірацца на новае месца — ва ўрочышча Камора, недалёка ад Мікалаеўшчыны, дзе жылі бацькі і родныя — малазямельныя сяляне.

Праз два гады былі новыя пярэбары. На гэты раз бліжэй да Стаўбцоў, на леснічоўку Ласток (другая назва —

Сухоншчына). У Ластку Міцкевічы жылі з 1885 па 1890 год. З Сухоншчыны сям'я перабралася ў леснічоўку Альбуць. Як успамінаў сам Колас, Альбуць запомнілася найбольш яскрава.

...Нечакана лес расступіўся, і вачам адкрылася зялёная паляна. Лугавіна. Кусты алешніку. Добра прыгледзеўшыся, убачыш між алешніку і кустоў невялічкую рачулку і праз яе дашчаты масток, па якім можна прайсці да леснічоўкі. Хата, хлевушок, студня, невялічкі гародчык. На сцяне хаты зноў жа мемарыяльная дошка, з якой відаць, што ў гэтай хаце жыў Я. Колас з 1891 па 1903 год.

Вакол паляны вячысты лес. Справа магутны, разгалісты дуб. Пад гэтым дубам гулялі Кастусь, яго браты Уладзя, Алесь і Юзік. Альбуць — непаўторны Коласаў свет, які, дзякуючы таленту мастака, стаў нам блізкім і родным.

Кажуць, паэт — дзіця прыроды. Калі гэта так, то менавіта Наднямонне нарадзіла Коласа. Ходзіш па гэтых, здаецца, даўно знаёмых табе альбуцкіх сцежках, удыхаеш лясны водар і, як зачараваны, услед за паэтам паўтараеш:

Чым жа прыкованы я
К вам, мае ўзгоркі роднага поля,
Рэчкі, курганы, лясы,
Поўныя смутку, красы?

Дванаццацігадовым паэтам у Альбуці быў напісаны першы верш «Вясна» на беларускай мове. Кастусь прачытаў яго сваім родным, і ўражаны бацька пахваліў сына, даў яму гасцінец — рубель на кніжкі.

«Ну, а чаму першы верш лёгка напісаўся? — гаварыў Я. Колас праз многа-многа гадоў.— Матчына мова за руку павяла...»

У Смольні, побач з Мікалаеўшчынай, з чэрвеня 1967 года дзейнічае філіял літаратурнага музея Якуба Коласа. На бацькавай сядзібе жыў Язэп Міхайлавіч Міцкевіч, брат Коласа, рухавы, бадзёры стары (памёр у 1980 г.), якога ўсе называлі дзядзька Юзік. Ён працаваў у музеі і ахвотна, не горш за іншага артыста, чытаў на памяць вершы і паэмы Я. Коласа.

Тут, у Смольні, у жніўні 1912 года адбылася першая сустрэча двух будучых вялікіх паэтаў, класікаў беларускай літаратуры.

Пра гэту сустрэчу наведвальнікам Смольні загадчык філіяла Уладзімір Іванавіч Міцкевіч, пляменнік паэта, расказвае:

— Во бачыце, на сядзібе ліпы. Іх пасадзіў Якуб Ко-

лас, які наязджаў у Смольню. Колас марыў яшчэ пасадзіць на сядзібе садок. Цяпер мы, яго нашчадкі, пасадзілі ў памяць аб песняру сад, каля пяцідзесяці яблынь і груш...

— Кажуць, што гэтыя ліпы Колас пасадзіў на памяць аб сустрэчы з Янкам Купалам? — запытаў нехта з экскурсантаў.

— Можа, і так, дакладна мы не ведаем,— адказаў Уладзімір Іванавіч.— Але ліпы пасаджаны той вясною... Колас наогул вельмі любіў садзіць дрэвы. Нават у Мінску на невялічкай сядзібе каля Акадэміі навук ён пасадзіў тры дубкі на памяць аб сваіх сынах — Данілу, Міхасю і Юрку.

Тую сустрэчу Я. Коласа з Я. Купалам памятае і малодшая сястра Коласа Марыя Міхайлаўна Бруй. Ёй тады было дванаццаць гадоў. Яна і бегала па Кастуся, які ў той час быў у некага з мікалаеўскіх хлопцаў.

— Колас і Купала,— расказвае Марыя Міхайлаўна,— вельмі рады былі, сустрэўшыся. Доўга гаварылі. Спачатку быў і дзядзька Антось. Тады пайшоў, можа, каб не замінаць ім у гаворцы. Сядзелі яны позна. На ноч пайшлі ў гумно. Маці давала ім пасцель, але Купала адмовіўся. Усю ноч, мабыць, яны і прагаварылі. А раніцою пайшлі ў Свержань...

Марыя Міхайлаўна расказала, што Кастусь любіў касьбу, лета, жніво. Ахвотна дапамагаў па гаспадарцы. Калі настаўнічаў, то ўлетку ў Смольні збіраліся настаўнікі. Спявалі песні. Кастусь добра іграў на скрыпцы. Выконвалі нават такія песні, як «Вихри враждебные», якія тады спяваць забаранялася.

Як і дзядзька Юзік, Марыя Міхайлаўна ведае на памяць шмат вершаў, чытае іх па-майстэрску і цікава расказвае пра даўнейшых мікалаеўцаў, што сталі героямі і прататыпамі коласаўскіх твораў.

Калі Канстанцін Міхайлавіч вучыўся ў Нясвіжы ў семінарыі, то, прыехаўшы на пабыўку, быў сведкаю, як ураднік у беднай удавы Сынклеты за няўплату падатку намерваўся забраць апошнюю карову. За ўдаву ўступіўся семінарыст Адам Мілюк, сабраў грошы, і бедная ўдава выратавалася ад няшчасця.

— Кастусь,— гаворыць Марыя Міхайлаўна,— таксама дапамагаў. А пасля верш склаў.

— «Удовіна хата», можа?

— Можа быць. Колас вельмі спачуваў бедным,— успамінае Марыя Міхайлаўна далей.— Праз гэта і ў турме ад-

сядзеў. Я і сама аднойчы з маці хадзіла ў турму, на спатканне да Кастуся. Ён усё хваліў маму нашу, што яна не паказвала слёз. Пра тое больш можа расказаць Міхаліна, старэйшая наша з сясцёр. Міхаліна хадзіла да Кастуся ў турму часта...

...Старэйшая Коласава сястра Міхаліна Міхайлаўна, якой тады, калі мы гутарылі, было 87 гадоў, таксама прыгадала колькі дэталяў з жыцця маладога Якуба Коласа.

— Я хадзіла часта ў турму да Кастуся,— расказвала бабуля Міхаліна.— Я жыла тады ў Мінску, у Аксіні Сянкевіч, удавы ляснічага, які памёр у Альбуці. І Сянкевічыха насіла Кастусю перадачы, не баялася, што бяду на сябе накліча. А маці наша была цвёрдая, ніколі не заплакала на тых спатканнях. За гэта Кастусь хваліў яе: «Я люблю сваю маму, што яна не плача...»

Успомнілі настаўніцу Марыю Дзмітраўну Міцкевіч, жонку Я. Коласа. Яе вельмі любілі ў сям'і Міцкевічаў. Марыя нейкі час жыла ў Смольні ў іх, калі Канстанціна Міхайлавіча ў 1915 годзе прызвалі на вайсковую службу. Марусю ведалі і паважалі мікалаеўцы.

Калі 21 мая 1945 года ў Маскве памерла Марыя Дзмітраўна, Якуб Колас у пісьме да дзядзькі Ігнася — Ігната Юр'евіча Міцкевіча, тады дырэктара Мікалаеўшчынскай школы, з якім сябраваў усе пасляваенныя гады, часта з ім перапісваўся, пісаў:

«...Памёр мой самы блізкі, самы дарагі друг, Маруся. Памерла ў Маскве, у бальніцы. 24 мая пахавалі ў Мінску на Ваенных могілках. Адчуваю сябе так, як бы мне адсеклі правую руку і адабралі палавіну душы...»

Нельга без хвалявання чытаць ліст Я. Коласа да землякоў, якія запрасілі яго прыехаць у роднае сяло, калі ў 1939 годзе былі вызвалены заходнія вобласці і ўся Беларусь уз'ядналася ў адзіную Савецкую дзяржаву.

«Дарагія землякі! — пісаў Канстанцін Міхайлавіч.— Даўно мяне цягне свой родны куток, дзе я гадаваўся, вучыўся, дзе правёў свае маладыя леты, куток, якога я не бачыў з 1915 года. З гэтага часу я бываў у Мікалаеўшчыне толькі ў мыслях ды ў сне. Сніліся мне Канцавалокі, і Міхалаў крыж, і Дуброўкі, і Лядзяны, і Бервянец, і Раймонтава Шырокае, і Высокі Бераг, і сотні іншых урочышчаў, якія цяжка пералічыць і назвы якіх быць можа забыліся і перайначыліся».

Улетку таго ж 1940 года мікалаеўцаў напаткала вялікае няшчасце — ад раптоўнага пажару згарэла дзвесце два двары, амаль усё сяло.

— Тады ж адразу адгукнуўся Якуб Колас,— успамінаў адзін з мікалаеўскіх старажылаў Ігнат Ігнатавіч Міцкевіч.— Ён памог нам. Наша сяло было спланавана па-новаму з дапамогай Канстанціна Міхайлавіча. Мы хутка сталі на ногі, адбудаваліся.

У пасляваенны час, нягледзячы на вялікую занятасць, Я. Колас трымаў з землякамі да апошніх дзён жыцця цесную сувязь. Ён быў шэфам будаўніцтва новай школы і бальніцы ў Мікалаеўшчыне, увесь час дапамагаў землякам сваёй парадай, цёплым словам, спагадай і ўдзелам у жыццёвых клопатах. Колас з аднолькавай увагай ставіўся да ўсіх, знаёмых і незнаёмых яму людзей,— дапамагаў многім мікалаеўцам матэрыяльна, пасылаў іх дзецям кнігі і падручнікі, клапаціўся аб забеспячэнні школы абсталяваннем і вучэбнымі дапаможнікамі. Коласа ўвесь час турбавала добраўпарадкаванне вёскі, асушка балот; яму рупіла, каб у мікалаеўцаў болей было зямлі, прыдатнай для ўраджаю.

...Клопаты і ўвага дзядзькі Кастуся, як любоўна называюць Коласа мікалаеўцы, не забыты. Землякі ў цэнтры вёскі ў маладым парку, які названы яго імем, узвялі помнік Якубу Коласу. Адна з вуліц у Мікалаеўшчыне носіць імя Якуба Коласа. У Смольні, на сядзібе сям'і Міцкевічаў, філіял літаратурнага музея Якуба Коласа, які наведваюць штогод тысячы людзей. Наведвальнікі пакідаюць у кнізе водгукаў запісы, што сведчаць пра вялікую любоў і пашану да народнага песняра зямлі беларускай.

Жывыя тыя ліпы, якія ён пасадзіў уласнымі рукамі, як і дубы-волаты над Нёманам, што будзілі яго думкі-мары. Бруіцца ціхая крынічка ў Альбуцї, дзе склаліся першыя словы ў песню вясны. На Канцавалоках ракочуць трактары, засяваючы палі для будучага ўраджаю... Кіпіць жыццё ў новай Мікалаеўшчыне, у калгасе «Радзіма Якуба Коласа», у буднях вясковых бачыш жывога Коласа, сейбіта і паэта, грамадзяніна і патрыёта.

## ВЫШЫНІ НАРОДНАГА ІДЭАЛУ

Жыццё і творчы шлях Міхася Лынькова — узыходжанне чалавека з нізоў да вяршыняў чалавечай культуры і здзяйснення высокай мары служэння свайму народу, змаганне за лепшыя яго ідэалы. Міхась Ціханавіч нарадзіў-

ся ў 1899 годзе ў вёсцы Зазыбы, на Віцебшчыне, у сям'і беднага селяніна, які ў пошуках шчасця і хлеба становіцца рамонтным рабочым на чыгунцы. У чыгуначнай будцы, пад Магілёвам, а пасля недалёка ад Рагачова прайшлі маленства і юнацкія гады пісьменніка.

Дзяцінства было беднае, гаротнае, бо зарабляў бацька не надта — на хлеб не хапала, але незабыўнае. Шчымлівай радасцю ўваходзіла ў душу наваколле: і сама чыгунка, якую абступалі лясы, і недалёкія ад пераезду квяцістыя лугавіны. Ці не адтуль, з мрояў далёкага юнацтва, і бралася тое непаўторнае хараство роднай прыроды, якое з такой шчодрасцю рассыпана па творах пісьменніка.

Вучыўся Міхась Лынькоў у народным вучылішчы ў вёсцы Старое Сяло, што мясцілася недалёка ад чыгуначнай будкі, пасля ў Рагачове, у двухкласнай школе; у лютым 1917 года скончыў Рагачоўскую настаўніцкую семінарыю. Запас ведаў папаўняўся і самастойна, у самай надзейнай школе — жыцці. У буднях настаўніцкай працы ў Ліпінічах Буда-Кашалёўскага раёна, у барацьбе з германскімі і белапольскімі акупантамі, бандамі Булак-Балаховіча і на вайсковай службе ў Заходняй Сібіры, Пермскай вобласці, на Урале...

Пасля дэмабілізацыі — зноў у школе, з восені 1922 года ў мястэчку Свержань, на Рагачоўшчыне. Міхась Лынькоў бярэ ўдзел у стварэнні камітэтаў узаемадапамогі на вёсцы, спрабуе пяро селькора. У маі 1925 года М. Лынькова вылучаюць сакратаром рэдакцыі Бабруйскай акруговай газеты «Камуніст», дзе ён пасля працуе два гады рэдактарам. Па ініцыятыве Міхася Лынькова, які сам пісаў вершы, нарысы, фельетоны, у Бабруйску выдаваліся літаратурныя альманахі «Вясна» і «Уздым». Адсюль прыйшлі ў літаратуру Алесь Жаўрук, Барыс Мікуліч, Аляксей Зарыцкі, Васіль Вітка, Сяргей Грахоўскі, Хвядос Шынклер, вядома, з лёгкай, сяброўскай рукі Міхася Ціханавіча.

Міхась Лынькоў у 1926 годзе ўступіў у члены Камуністычнай партыі. Пачалася яго плённая літаратурная дзейнасць, якая шчодра адарыла беларускую літаратурную ніву. З прыходам у літаратуру Міхася Лынькова (яго першыя апавяданні друкаваліся на старонках «Камуніста» і ў альманаху «Уздым» у 1926 годзе) беларуская проза ўзбагацілася новымі, арыгінальнымі вобразамі, па-горкаўску ўзнёсла-рамантычнымі, па-народнаму выразнымі і яркімі, прасякнутымі гуманістычным пафасам. К. Крапіва, аналізуючы творчасць М. Лынькова, адзначаў, што

ўжо ў першых яго творах — «Гой», «Над Бугам» выявіўся не толькі талент пісьменніка, але і яго грамадская сталасць. Я. Колас, калі ў 1934 годзе разглядаў першы буйны твор пісьменніка «На чырвоных лядах», назваў М. Лынькова выдатным майстрам слова, адзначаючы, што наогул яго мова дужа багатая, лексічны запас аўтара вельмі значны. Высока ацэньваючы мастацкае слова пісьменніка, Пятро Глебка пісаў: «Лірычную плынь унёс у нашу празаічную мову М. Лынькоў. У яго творах мы знаходзім надзвычай паказальныя ўзоры іранічнай мовы. Шмат цікавага і трапнага ў своеасаблівай лынькоўскай лексіцы».

Вядома, што тут добра саслужылі і багаты жыццёвы вопыт, і старанная вучоба ў М. Горкага, Т. Шаўчэнкі, Я. Коласа, Я. Купалы...

Міхась Лынькоў прынёс у літаратуру сваю тэму, свой свет герояў і вобразаў, адметную, чыста лынькоўскую творчую манеру пісьма, сцвердзіў сваю стылёвую плынь. Магістральная тэма — грамадзянская вайна — жывой ніццю прашывае творы, што выйшлі асобнай кніжкай у 1927 годзе пад назвай «Апавяданні». Малюючы асобныя эпізоды і падзеі грамадзянскай вайны, пісьменнік падкрэслівае яе вызваленчы пафас, гераізм народа, якраз гэта было тое, чаго не хапала нашай маладой літаратуры. У лынькоўскіх апавяданнях яскрава высвечвае думка аб тым, што ў гарніле рэвалюцыі, у змаганні за новы сацыяльны лад, за лепшую будучыню перакоўваецца і сам чалавек, правяраюцца яго чалавечыя якасці. Такія менавіта яго героі Васька Шкетаў і Ванька Разанскі з апавядання «Над Бугам».

Пафас рэвалюцыі і грамадзянскай вайны, як вядома,— асноўныя матывы, якімі жывяцца не толькі раннія творы пісьменніка. Да злюбёнай тэмы Міхась Лынькоў вяртаецца і пазней. Асаблівай творчай удачай з'яўляюцца яго творы для дзяцей і юнацтва. І найперш аповесці «Міколка-паравоз», «Пра смелага ваяку Мішку і яго слаўных таварышаў» — вабяць і хвалююць чытача суровай і нязгаснай рамантыкай рэвалюцыі, героікай паходаў і баёў... Вобразы дзяцей — жывыя, непасрэдныя ў сваім успрыняцці навакольнага свету, кемлівыя, знаходлівыя, ім верыш, ім хочацца следаваць. Яны — прыклад для жыцця, для выпрацоўкі характару і гартавання грамадзянскасці.

Сказаўшы сваё, праўдзівае і яркае слова пра рэвалюцыю, грамадзянскую вайну, пісьменнік жыве агульнымі задачамі і праблемамі часу, імкнучыся з такой жа мастацкай сілай адлюстраваць мірную працу савецкіх людзей,

з якой апавядаў пра гераізм народа ў змаганні за сваю народную ўладу, супраць злосных ворагаў — інтэрвентаў. Станаўленне, развіццё і духоўны рост савецкага чалавека, яго выхаванне ў працоўным калектыве, у працэсе супольнай працы, у барацьбе за новае, светлае жыццё — такі ідэйны змест і пафас твораў Міхася Лынькова дваццатых і трыццатых гадоў. Як і наогул усё, што створана пісьменнікам за амаль паўстагоддзе творчай працы. Яго даваенныя апавяданні — гэта гімн, натхнёная песня рабочаму чалавеку, сцвярджэнне гуманістычна-выхаваўчага ідэалу ў сацыялістычным грамадстве. Героі М. Лынькова любяць працу, без справы, без занятку, яны не могуць «уседзець»...

Міхасю Лынькову, побач з Якубам Коласам і Хвядосам Шынклерам, належыць адкрыццё і стварэнне вобразаў чыгуначнікаў у беларускай літаратуры. З любасцю, ярка і дакладна ўзнаўляе пісьменнік жыццё, працу і побыт чыгуначных рабочых. Дастаткова прыгадаць адно з яго апавяданняў, што стала хрэстаматыйным,— «Андрэй Лятун», каб пераканацца, як па-майстэрску М. Лынькоў апавядае, паэтызуе працоўную дзейнасць простага чалавека. Вобраз старога чыгуначнага машыніста Андрэя — адзін з самых яркіх, каларытных вобразаў рабочага чалавека ў беларускай прозе даваеннага часу. Мова гэтага, як і многіх іншых твораў пісьменніка, узнёслая, афарыстычная — так званая рытмічная проза, якая вызначаецца яркасцю фарбаў і багаццем адценняў. Патэтычна-ўзнёслыя маналогі скрапляюцца мудрай разважлівасцю героя. «Я машыніст,— разважае Андрэй,— па рэйках хаджу, з іх не зварочваю. І выходзіць — усе мы паны аднолькавыя, усе мы па рэйках ходзім, жывём на іх...»

Своеасаблівы, светлы і моцны сапраўднай народнасцю гумар, паэтычнае ў звычайным, будзённым, схільнасць да яркіх, рамантычных фарбаў — усё гэта ёсць у творчасці М. Лынькова, што, бясспрэчна, зблізкае яго з Якубам Коласам; іх даўгалетняя таварыская дружба спрыяла творчаму росту, узбагачэнню творчасці новымі, маштабнымі вобразамі. «Баян», «На вялікай хвалі», «Талісман» і іншыя — густа населеныя героямі працы. Іх грамадская актыўнасць, грамадзянскасць сталее і мужнее пад уплывам супольнай працы, пры чуласці і чалавечнасці людзей, згуртаваных у калектыве, сагрэтых клопатамі сацыялістычнага грамадства.

Міхась Лынькоў быў удзельнікам вызваленчага паходу Чырвонай Арміі ў 1939 годзе за ўз'яднанне заходніх абласцей Беларусі ў адзінай Савецкай дзяржаве. Па гара-

чых слядах, на фактычным матэрыяле напісаны апавяданні, сабраныя ў кніжцы «Сустрэчы» (1940). Пісьменнік, які прайшоў у той чырвоны верасень з войскамі па вызваленых гарадах і вёсках, сказаў сваё ўсхваляванае, шчырае слова пра векапомную падзею, стварыў яркія, запамінальныя вобразы адзінакроўных братоў-беларусаў, якія пакутавалі пад прыгнётам пілсудчыкаў і змагаліся ў падполлі. Гэтыя вобразы не страцілі сваёй прывабнасці і прыцягальнай сілы, вытрымалі выпрабаванне часам. Такое і апавяданне «Ядвісін дуб», дзе ў цэнтры ўвагі парабчанка Ядвіська, на долю якой выпала цяжкае дзяцінства, гора і пакуты, якіх яе, як і ўсіх працоўных заходнебеларускіх зямель, пазбавіла Чырвоная Армія.

Шлях да вялікага эпасу ў творчасці М. Лынькова ляжаў праз апавяданні і аповесці — у кожнай новай рэчы ён дамагаўся найбольш шырокага ахопу рэчаіснасці і глыбіннага, праўдзівага адлюстравання рэалій жыцця. У першы год Вялікай Айчыннай вайны Міхась Лынькоў рэдагуе франтавую газету «За Савецкую Беларусь», часта выступае з артыкуламі і фельетонамі, у якіх з'едліва высмейвае і кляйміць Гітлера і яго памагатых — фашысцкіх ваякаў і іх паслугачоў, здраднікаў свайго народу. Апавяданні ваеннага часу сабраны ў кніжцы «Астап», яна прыйшла да беларускага чытача разам з вызваленнем у 1944 годзе. Гэты сціплы, невялікага фармату зборнічак быў адной з першых кніг, выдадзеных у вызваленым Мінску. У ёй адзінаццаць апавяданняў і навел, напісаных у цяжкі час ліхалецця, далёка ад роднай беларускай зямлі. У кожным — непадробная гераіка, услаўленне самаадданай барацьбы савецкіх людзей супраць ворагаў — фашысцкіх акупантаў. Праўдзіва і ярка пісьменнік выяўляе патрыятызм і мужнасць свайго народа, таленавіта падае характэрныя эпізоды народнага змагання ва ўмовах жорсткага акупацыйнага рэжыму, падкрэслівае, што ў час суровых выпрабаванняў зброю ўзялі ў рукі ўсе, нават старыя, жанчыны і дзеці. Надоўга ў памяці застануцца і дзед Астап, што завёў фашыстаў у багну, з аднайменнага апавядання, і маладая падпольшчыца Рэня з апавядання «Салют», і самаахвярная партызанка Ірына з аднайменнай навелы, і падлетак Міколка з кароткага, хвалюючага апавядання — навелы «Васількі»... Усе яны — гарачыя патрыёты, помснікі, якія ненавідзяць гітлераўцаў за кроў і слёзы свайго народа,— свядома ідуць на смерць. Так гіне Міколка, але гіне з усведамленнем выкананага абавязку, з усмешкай на вуснах. Трагічная, але аптымістычная

ў сваёй выяве навела, адзначала крытыка, напісана крывёю сэрца.

У тыя агнявыя гады пісьменнік збірае матэрыялы для вялікага мастацкага палатна аб народным подзвігу за свабоду і незалежнасць Савецкай Радзімы. Напісанае вылілася ў раман-эпапею «Векапомныя дні», які быў выдадзены ў 1958 годзе ў чатырох тамах. Праз дзесяць гадоў пісьменнікам створана новая рэдакцыя кнігі, адзначаная Дзяржаўнай прэміяй БССР імя Якуба Коласа. Па раману «Векапомныя дні» створаны цікавы і змястоўны радыёспектакль.

Раман «Векапомныя дні» — знаходзіцца сапраўды між маштабных твораў беларускай прозы аб Вялікай Айчыннай вайне. Пісьменнік застаецца верным сваёй тэме — уславіць і ўвекавечыць гераізм і мужнасць свайго народа ў барацьбе з ворагамі, за свабоду і шчасце сацыялістычнай Айчыны. На фактычным матэрыяле партызанскай барацьбы ў акупіраванай Беларусі, скарыстоўваючы подзвігі і сапраўдныя біяграфіі легендарных партызан, партызанскіх камандзіраў, пісьменнік стварыў цікавыя і праўдзівыя вобразы — Васіля Саколіча, бацькі Мірона, Слышэні — кіраўнікоў і арганізатараў партызанскага руху, а таксама многіх радавых удзельнікаў народнага супраціўлення. Гэта — ляснік Астап Канапелька, Сілівон Лагуцька, а таксама Саўка Чмаруцька, адзін з найбольш яркіх, народных тыпаў-характараў, якіх ведае сучасная беларуская проза.

Выдадзеная ў 1962 годзе кніга «За акіянам», сабраныя ў ёй апавяданні, нарысы, нататкі і замалёўкі ўзнаўляюць нам свет, дзе «духам чыстагана прасякнута ўсё: грамадскае жыццё, людзі, мараль, мастацтва, літаратура». З'явы і факты, пакладзеныя ў аснову твораў, пісьменнік назіраў, бываючы ў розных зарубежных краінах, у тым ліку і ў Злучаных Штатах Амерыкі. Міхась Лынькоў некалькі разоў быў членам урадавай дэлегацыі Беларускай ССР на сесіях Генеральнай Асамблеі ААН.

Міхась Ціханавіч Лынькоў са студзеня 1953 года — акадэмік Беларускай Акадэміі навук. Пасля вайны працяглы час працаваў дырэктарам інстытута літаратуры, мовы і мастацтва АН БССР. Амаль на працягу дзесяці гадоў, з 1938-га па 1 сакавіка 1948 года М. Ц. Лынькоў узначальваў Праўленне Саюза Пісьменнікаў БССР.

М. Ц. Лынькоў з'яўляўся дэпутатам Вярхоўнага Савета рэспублікі, спалучаючы пісьменніцкую працу з актыўнай грамадскай і навуковай дзейнасцю. У 1962 годзе ўрад

Беларускай ССР надаў яму годнасць народнага пісьменніка.

Адзін са старэйшых і выдатных савецкіх пісьменнікаў Міхась Ціханавіч Лынькоў узнагароджаны трыма ордэнамі Леніна, трыма ордэнамі Працоўнага Чырвонага Сцяга, ордэнамі Кастрычніцкай рэвалюцыі, Чырвонай Зоркі і многімі медалямі.

Жыццё і творчасць Міхася Лынькова, выдатнага мастака слова, актыўнага грамадскага дзеяча, вучонага і публіцыста, барацьбіта за мір і дружбу паміж народамі,— яскравы прыклад самаадданага служэння роднай Камуністычнай партыі, членам якой ён з'яўляўся амаль паўвека, свайму народу, сацыялістычнай Бацькаўшчыне, якую ён славіў нястомна, сілай свайго вялікага народнага таленту, сагрэтага шчодрым сэрцам камуніста і грамадзяніна.

...Помню, што ў дзень 75-годдзя з дня нараджэння М. Ц. Лынькова, жадаючы добрага здароўя і творчага даўгалецця любімаму пісьменніку і настаўніку, я прывітаў юбіляра тады, 30 лістапада 1974 года, словамі аднаго з яго цудоўных герояў — машыніста Андрэя Летуна: «— Эх, і ляцім, браткі, даганяй — не дагоніш!»

Пры сустрэчы неяк пасля Міхась Ціханавіч з уласцівым яму цёплым гумарам падзякаваў і дадаў: «Дзярзай, уюнаша!..»

## З БАРЫКАДАЎ ГНЕВУ

Што даты? Гэта толькі вехі Гісторыі.
*Пімен Панчанка*

Думаецца, не выпадкова назваўся ён Звестуном — такі Піліп Пестрак выбраў сабе псеўданім. Мастацтва, зразумеў ён яшчэ студэнтам Самарскага універсітэта, павінна служыць народу; паэзія заклікана актыўна ўздзейнічаць на розум і сэрцы людзей, гартаваць іх грамадскую актыўнасць. А паэт і ёсць вястун лепшай долі, шчаслівай будучыні для свайго прыгнечанага на той час народа.

Жахлівыя малюнкі галечы і беднасці адкрыліся перад будучым паэтам у роднай вёсцы Сакаўцы на Брэстчыне, куды сям'я Пестрака вярнулася з бежанства ў лістападзе 1921 года. Голад і холад стаялі на парозе кожнай сялянскай хаты. Той жа зімою сям'ю Пестракаў напаткала бяда-гора. Памерлі ад тыфу бацька, сястра і брат, а Піліп

ледзь адкараскаўся ад хваробы. Акрыяўшы крыху, Пілiп Пестрак ідзе «ў людзі» — ён стаў у Косаве на лесапільні грузіць бярвенне. Тут адкрылася для яго суровая школа народнага жыцця. Служба ў купцоў-лесапрамыслоўцаў лесніком пад Слонімам яшчэ больш пераканала вясковага хлопца, што ніколі не можа быць згоды і міру паміж прыгнятальнікамі і прыгнечанымі. Вайсковая служба пацвердзіла гэтае перакананне, абвастрыла класавыя пачуцці.

Не дзіўна, што з першага верша «Наперад, гэй...», які быў змешчаны 20 чэрвеня 1926 года ў часопісе «Родныя гоні», Звястун выступае як свядомы выразнік думак і настрою прыгнечанага селяніна, сезонніка-рабочага.

Звястун вялікай вясны — «сын прастораў неабнятых, радзімых гоняў, родных ніў», П. Пестрак шчыра, сыноўняй любоўю любіць свой край, выказвае гарачае жаданне бачыць яго свабодным, у квітненні. Матыў волі і збавення ад прыгнёту гучыць выразна і моцна ў тым жа вершы: «Уставай, галодны беларус, служыць радзімай справе, скінь з плеч прыгоны і прымус, здабудзь дарогу к славе!»

Абраўшы сабе літаратурную дарогу, П. Пестрак смела і ўпэўнена церабіў шлях новай рэвалюцыйнай паэзіі. Творчасць Я. Купалы, Я. Коласа, М. Горкага, У. Маякоўскага была для маладога паэта ўзорам высокапаэтычнага і праўдзівага адлюстравання народнага жыцця, рэчаіснасці. Яго натхняла вера ў светлае будучае свайго краю, ва ўз'яднанне беларускага народа ў адзінай дружнай сям'і.

Выпрабаванні і гарт змагара вызначылі ўвесь напрамак паэзіі П. Пестрака. Першы раз паэта арыштоўваюць 3 лютага 1927 года. «З таго часу,— піша ва ўспамінах Піліп Сямёнавіч,— усё жыццё аж да вызвалення (1939) запоўнена было працаю ў падполлі, арыштамі і турмамі».

Да 11 чэрвеня ён сядзеў у турме ў Пружанах і Гродна. А 14 студзеня 1929 года — другі арышт. Акруговы суд даў яму тры гады. Апеляцыя дадала яшчэ два гады. Адсядзеў у Гродна. У верасні 1933 года Піліп Пестрак накіроўваецца ў Пінскую акругу інструктарам ЦК КПЗБ. 22 лютага 1934 года яго выдае правакатар, і П. Пестрак трапляе зноў за краты. Каля двух год сядзеў ён пад следствам у Пінскай турме. У лістападзе 1935 года яго судзілі ў Вільні і далучылі да судовага працэсу беларускіх літаратараў. Паэт-рэвалюцыянер атрымаў шэсць гадоў зняволення. У лістападзе 1936 года П. Пестрака ў ліку іншых палітзняволеных пераводзяць у гродзенскі астрог, адкуль ён і быў вызвалены 22 верасня 1939 года Чырвонай Арміяй.

Адзінаццаць гадоў зняволення — адзіночкі, допыты, карцэры, галадоўкі, барацьба з астрожнай адміністрацыяй за правы палітзняволеных — сапраўды цярністы шлях падпольшчыка-камуніста. Магутным сродкам барацьбы ў руках паэта стала паэтычнае слова. Звяртаючыся да яе, паэзіі, Звястун ускліквае:

Дай, паэзія, меч прамяністы,
Слова-гарт, слова-кліч, слова-бой!..

Многія вершы паэта, напісаныя ў турме, на этапных дарогах на шматках паперы — «грыпсах», загублены беззваротна, у тым ліку і паэмы «Ганцы», «Закатаваныя», «Шум сасон».

У вершах і песнях Піліпа Пестрака няма смутку, няма роспачы і адчаю, а ёсць жывыя праявы жыцця, перакананасць змагара, сцвярджэнне свабодалюбных рэвалюцыйных ідэалаў. Перапоўнены пачуццём і замілаванасцю да роднай зямлі, да роднага краю, паэт чуйна ловіць і пах грачаных палеткаў, і думны шум бору і плёскат хваляў Нёмана...

Разам з тым, непрымірымасць, гнеўная нянавісць да ворагаў-паноў, якою напоўнены многа якія вершы, гартавалі сэрца паэта-барацьбіта.

У тыя палымяныя гады П. Пестрак у кагорце змагароў-літаратараў быў на барыкадах гневу, вершам пілаваў краты. Як пісаў сам паэт, ва ўмовах змагання з санацыйным рэжымам асяродкам яго паэзіі была «барацьба за край Саветаў, за сваю Айчыну».

У астрогах не аціхала жыццё — рэвалюцыянеры і за кратамі змагаліся; барацьба вялася патаемнымі сродкамі, нябачнымі шляхамі. П. Пестрак жыў у віры падпольнай барацьбы. Тры гады, з 1937 па 1939, у цяжкіх умовах гродзенскай турмы Піліп Пестрак выбіраўся сакратаром турэмнага камітэта, быў душою палітзняволеных, прыкладам асабістай стойкасці і мужнасці. Яго вершы-заклікі, вершы-гімны запісваліся цвіком на сценах, перадаваліся з вуснаў у вусны, выходзілі на волю і дзейсна служылі рэвалюцыйнаму падполлю.

Ніколі не сумняваючыся, што вызваленне прыйдзе, паэт выказвае сваё жаданне стаць у шэрагі актыўных будаўнікоў новага жыцця. У вершы «Сон аб аграноме» ёсць такія радкі:

Прыйду, праменны, я тады
З той падарожы барацьбянай
На свята трактарнае песні.

Пад вершам подпіс: «Гродзенскі астрог. Люты 1937 г.»

Праз два гады — верасень 1939-га. Векапомныя дні вызвалення. Паэт горача, натхнёнай песняй вітае прыход Чырвонай Арміі, якая прынесла вызваленне спакутаваным братам — працоўным Заходняй Беларусі. Верш «Заходняй Беларусі», напісаны ў тыя радасныя дні,— песня вызваленаму народу, што скінуў ланцужныя аковы і назаўсёды пазбавіўся ад спрадвечнага гора, бядоты і прыніжэння.

З уласцівай яму рамантычнай узнёсласцю, перапоўнены пачуццём радасці і шчасця, паэт ускліквае: «Краіна родная! Вітай зару збаўлення!» Пад незабыўнымі ўражаннямі тых дзён складаюцца вершы «Маўзалей», «Армія Чырвоная» і іншыя, якія кранаюць шчырасцю, жаданнем актыўна ўключыцца ў новае грамадскае жыццё. Выйшаўшы з варот турмы, Піліп Пестрак узначальвае ў Гродна рэўком, які ўзяў пад сваю ахову горад і паралізаваў супраціўленне контррэвалюцыйнага ахвосця. На выбарах у Народны сход Заходняй Беларусі П. С. Пестрака абіраюць дэпутатам. У Беластоку на сходзе была вылучана паўнамоцная камісія на сесію Вярхоўнага Савета СССР у Маскву. У яе складзе — і П. Пестрак. Працоўныя Гродна выбралі яго сваім пасланцом у Вярхоўны Савет СССР. У перадваенныя гады Піліп Пестрак узначальваў Беластоцкае аддзяленне Саюза пісьменнікаў БССР.

У першыя дні Вялікай Айчыннай вайны П. Пестрак разам з сям'ёю пехатою кіруецца на ўсход. Давялося спыніцца ў Лельчыцкім раёне, у невялікай лясной вёсачцы, дзе ён звязваецца з партызанамі. Сем месяцаў прабыў у злучэнні генерал-маёра Сабурава. У партызанскіх буданах напісаны вершы «Першы май», «Пад зорным карагодам», «На варце», песня «Партызанская маршавая» — суровы расказ пра той трывожны час. Паэт праўдзіва адлюстроўвае настроі лясных салдат, сцвярджае веру савецкіх людзей у перамогу, палкім словам мацуе іх жаданне ісці ў бой з акупантамі. Такі, напрыклад, верш «Маці», дзе падаецца вобраз маці — асацыіруецца з вобразам Айчыны, якая апынулася ў бядзе і ў горы.

Пасляваенныя гады — самыя плённыя ў творчасці П. Пестрака. Ён піша многа, нястомна выступае ў перыядычным друку, часта сустракаецца з чытачамі, вядзе вялікую грамадскую работу.

Паэт захапляецца мірнай стваральнай працай савецкіх людзей, якія пераўтвараюць зямлю і самі харашэюць у змаганні за хараство жыцця, багацеюць душою, робяцца чысцейшымі ў думках і дзеяннях, гартуючы сваю грамадскую сталасць.

Напісаныя ў вандроўках і на прыпынках, па гарачых слядах паездак і гасцявання ў новых мясцінах, у братніх краінах,— гэтыя творы прасякнуты любоўю да людзей, гэта гімн чалавеку працы. Паэт з натхненнем, з жыццялюбнасцю зямною апявае дружбу і братэрства савецкіх народаў, з'яднаных пад сцягам ленінізма ў братнім Саюзе Саветаў.

Роздум над жыццём, над прызначэннем чалавека ў гэтым неспакойным свеце, дзе цесна перапляліся словы «любіць» і «ненавідзець», займаюць усё большую ўвагу творцы. У вершы «Птахі» (1966) — тры птахі-сімвалы:

Адзін з тых птахаў — песня-сіла,
Другі — краса, што свет альсніла,
А трэці ўсё ў вышыні рвецца —
Усюды ісцінай завецца.

Яны, раздумвае паэт, і натхняюць мастака, даюць яму крылы, ствараюць тую настраёвасць, якая сугучна душы чытача і перадаецца яму, як зарад любові да жыцця.

Публіцыстычнасць, грамадзянскі тэмперамент — зайздросная, здзіўляючая сіла паэзіі П. Пестрака. У вершах жыве грамадзянскасць у самым высокім сэнсе, палітычны пафас — яркая адметнасць яго мужнага голасу.

— А цяпер вершы пішаце, Піліп Сямёнавіч? — неяк спытаў я, калі мы гутарылі з пісьменнікам пра яго творчасць.

— А як жа, пішу. І буду заўсёды пісаць... Я люблю вершы. Але ўжо ад гэтае вайны найбольш пішу прозу. Спытаеце чаму? Вайна — найвялікшае з выпрабаванняў, дала столькі назіранняў, столькі было падзей і трывог, што ўсё пражытае не месцілася ў вершах і паэмах. Людзі і падзеі, з якімі я прайшоў віхурныя і агнявыя дарогі, прасіліся на паперу, і я ўзяўся за прозу. У апавяданнях і аповесцях, а пазней у раманах — «Сустрэнемся на барыкадах» і «Серадзібор» я адчуў, што і ў прозе можна выказаць тое, што цябе хвалюе, чым перапоўнена душа ў хвіліны найвышэйшага напружання-натхнення!..

Успомнілася з рамана «Серадзібор»: «Проза? — перапытаў Жарнавік.— Гм... Проза таксама паэзія, толькі для вока нябачная...»

У прозе пісьменнік праявіў зайздросную адметнасць свайго таленту — абвостранае адчуванне часу, веданне псіхалогіі і дыялектыкі душы чалавека, працаўніка і змагара, уменне заглыбляцца ў характары, ажыўляць убачанае і пражытае.

У адной з вячэрніх нашых гутарак Піліп Сямёнавіч сказаў пра сябе:

— Піліп Пестрак — філосаф і дзіця. Мы, людзі, заўсёды імкнемся да прыгажосці, хараства. Красы жыцця!.. Шчырасць адносін між людзьмі. Усё ў прыродзе ад прыгожага, ад гармоніі. Краса — вось да чаго і я імкнуся ў сваім жыцці, у сваёй рабоце. Прыгажосць — мая філасофія... І любоў да людзей. Дзеля гэтай любові, дзеля прыгажосці жыцця я і сядзеў адзінаццаць гадоў у турме. Прыгажосць чалавечая, прыгажосць душы чалавека і моц яго рук — вось тое, чым я заўсёды захапляўся.

Задумліва памаўчаўшы, гаворыць:

— Такі ўжо чалавек. Яму заўсёды хочацца з некім падзяліцца сваімі думкамі, выказаць, што ў яго набалела. Вось і я з табою пагаварыў, і мне палягчэла на душы... І якая асалода пасля цікавай гутаркі з кім-небудзь, часам нават з самім сабою.

Ёсць у П. Пестрака цыкл апавяданняў «Партызанскімі сцежкамі». У іх вобраз лесу — нібы пацверджанне прышвінскага: «Любіць прыроду — любіць Радзіму». Героі апавяданняў — партызаны — жывуць сярод лесу, а лес — іх перадавая, іх лясны фронт...

Вызначаюцца сваёй народнай прастатой, замілаваннем да чалавека — шчырца і гаспадара зямлі — апавяданні «Гумно без варот», «Куфэрачак». Чалавечнасць, гуманізм і грамадзянскасць як знітаваныя і выяўляюцца апасродкавана, у канкрэтных жыццёвых варунках і сітуацыях.

Цыкл апавяданняў «Сярод чаротаў» (1963) — шырокі крок пісьменніка да майстэрства, выяўлення лепшых рыс у характары чалавека. Пісьменніка захапляе мірная стваральная праца людзей, якія зведалі ліхалецце вайны і адчулі радасць перамогі над ворагам.

«Хочацца стаяць і слухаць гэтую прасветленую скупым святлом месяца цішыню, у якую затаіўся лес, з яго жыццём — дыханнем». Чытачу, як і пісьменніку, дарагія і блізкія і старшыня-генерал, які спачатку «рабіў уражанне поўнай непрыступнасці», «крэпасць нейкая, дый годзе», і ляснічы, «скупы на словы», мітуслівы, але шчыры чалавек, і генеральскі шафёр Ваня, яго старыя бацькі... У згодзе з пісьменнікам мы пранікаемся павагай да гэтых людзей, знешне суровых, зацятых, але прыгожых душою. Яны жывуць у мясцінах, дзе нялёгка даецца ім хлеб. Усе, як і партызанскі генерал, што згадзіўся паехаць сюды, у глухія балоты, і ўзначаліў у родных мясцінах калгас, са-

мааддaнай працай замацоўваюць сваю вернасць партыі, роднай савецкай уладзе.

Апавяданні Пестрака ваеннага і пасляваеннага часу, аповесць «Пачатак», як зазначалі крытыкі, з'явіліся адпаведнай падрыхтоўкай і разведкай да стварэння рамана-эпапеі «Сустрэнемся на барыкадах», які «ўвайшоў у беларускую савецкую літаратуру як шырокае мастацкае палатно аб адным з векапомных перыядаў жыцця беларускага народа».

«Я лічу, нашай літаратуры проста пашанцавала,— пісаў Іван Шамякін у артыкуле да 70-годдзя П. С. Пестрака,— што такі раман напісаў Піліп Пестрак, сын селяніна, чалавек, які так выдатна ведае быт народа, сам актыўны ўдзельнік рэвалюцыйных падзей у Заходняй Беларусі, пісьменнік надзвычай чулы да мастацкага факта і да хараства народнай мовы».

...Гутарым пра тое, як стваралася эпапея «Сустрэнемся на барыкадах», якой пісьменнік аддаў пяць гадоў (1948—1952) напружанай працы. Піліп Сямёнавіч расказвае:

— Спачатку была задумана аповесць пра барацьбяны шлях падпольшчыка-рэвалюцыянера, а потым твор разросся, ў ім сяліліся ўсё новыя і новыя героі, перапляталіся іх узаемаадносіны, інакш кажучы, жылі сваім жыццём.

— У якой ступені раман «Сустрэнемся на барыкадах» дакументальны, калі можна так сказаць? З каго пісаліся яго галоўныя і не галоўныя героі?

Піліп Сямёнавіч, як звычайна, пачынае з жарту:

— Ат, якая там дакументальнасць. Твор пісаўся лёгка, бо з імі, з людзьмі, якія насяляюць раман, з героямі, як вы называеце іх, я жыў, хадзіў аднымі сцежкамі і з імі і ў турмах сядзеў, і галадаў, і зведаў карцэры і адзіночкі, і быў з імі на мітынгах і ўдзельнічаў у тых забастоўках, што адбываліся ў родных мясцінах, на Палессі...

І ўжо сур'ёзна, задумліва:

— Ведаеце, што сказаў Вісарыён Бялінскі? А ён сказаў наконт гэтага такое: «Твор уяўляе не што іншае, як пафас душы яго аўтара».

Не трэба быць даследчыкам, каб упэўніцца, чытаючы эпапею «Сустрэнемся на барыкадах», што ў ёй цэлая гістарычная эпоха, перыяд жыцця і барацьбы працоўных Заходняй Беларусі ў часы белапольскай акупацыі. Грунтуючыся на сваім, пражытым, пісьменнік скарыстаў багаты фактычны матэрыял — шматлікія эпізоды рэвалюцыйна-вызваленчага руху, народнай барацьбы, дзейнасць КПЗБ. Мастацкасць і гістарызм, як адзначала крытыка,

удала спалучаюцца ў рамане. Пад пяром мастака жыццёвыя сітуацыі і падзеі, якія мелі месца ў сапраўднасці, асэнсоўваюцца ў адпаведнасці з ідэйнай задумай, з логікай развіцця сюжэтаў, лёсу герояў. У творы яскрава выпісаны драматызм часу.

Пісьменнік скарыстаў у рамане гісторыю нападу партызан на цягнік ваяводы Даўнаровіча, забастоўкі рабочых дрэваапрацоўчых заводаў, якія адбываліся ў Гайнаўцы і Белавежы ў 1931 годзе, дэманстрацыю пратэсту супраць разгрому Грамады ў Косаве 3 лютага 1927 года, Кобрынскае паўстанне супраць карнікаў і паліцыі і суд над паўстанцамі ў Кобрыне...

— За многімі вобразамі,— сказаў Піліп Сямёнавіч,— стаяць рэальныя жывыя асобы. Але гэта не азначае, што яны — копія рэальна існуючага чалавека, якога ведаў аўтар. Яны і плён мастацкага мыслення, мастацкага асэнсавання рэчаіснасці.

Адзін з любімых герояў самога Пестрака — Андрэй Касцевіч. Яго лёс і яго дарогі ў многім сугучныя, амаль што адэкватныя жыццю і выпрабаванням самаго аўтара. Гэтак жа, як і аўтар, Андрэй вяртаецца з бацькамі з Паволжа, дзе ён вучыўся і імкнуўся стаць аграномам і дзе засталася ў яго каханая дзяўчына, і ў роднай Запалянцы, а затым на лесапілцы праходзіць суровую школу, якая прывядзе яго на барыкады рэвалюцыйнага змагання. Аўтабіяграфічнасць тут відавочная. У вобразе Сцяпана Касцевіча, бацькі Андрэя, мы ўгадваем рысы бацькі аўтара, чалавека пісьменнага і аўтарытэтнага ў вёсцы. Многія сцэны, дзе сустракаемся з гэтым чалавекам, сынам зямлі, здзіўляюць сваёй сілай эмацыянальнага ўздзеяння. Найвышэйшага напалу эмацыянальнасці дасягае пісьменнік у апісанні смерці Сцяпана Касцевіча, калі той вярнуўся з Глушца, ад старасты, з якім меў непрыемную гутарку і «пачастунак» ад паліцыянтаў. Развітанне аднавяскоўцаў са Сцяпанам — хвалюючая і здзіўляючая ў сваёй рэалістычнасці сцэна.

Прататыпаў, вядома, маюць і Дзям'ян Гарагляд, і Даніла Перагуд, і Сцяпан Каваль — партызанскі камандзір, якія выпісаны каларытна, рукою сапраўднага мастака слова.

Рэвалюцыянеры, падпольшчыкі ў рамане эмацыянальна-ўзнёслыя — увасабленне мужнасці і гераізму народа. Разам з тым гэта і рэальныя, са сваімі, адметнымі рысамі характару людзі. Такія і Іван Паддубны, і той жа Сцяпан Каваль, у вобразе якога ўгадваюцца рысы Кірылы Пра-

копавіча Арлоўскага, што дзейнічаў у той час на Палессі. Сцяпан, як і К. П. Арлоўскі, змагаецца ў Іспаніі.

Раман-эпапея «Сустрэнемся на барыкадах» — адданасць і вернасць барацьбе, а таксама вернасць найвялікшаму чалавечаму пачуццю — каханню. Гэта яскрава бачна на ўзаемаадносінах Андрэя і Надзі Харашэвіч. Надзя не адгароджваецца ад свайго шчасця, смела ідзе насустрач яму, змагаецца за яго і перамагае. Вобраз Надзі — зайздросная ўдача пісьменніка.

А. Фадзееў у лісце да П. Пестрака ад 21 лютага 1955 года вельмі станоўча ацэньвае вобраз Надзі Харашэвіч. Ён, між іншым, піша: «...Каханне Андрэя і Надзі чыстае на гэтай высокай аснове чалавечых адносін і ў той жа час зямное — упрыгожвае гэтыя старонкі рамана цудоўнай лірычнай акварэллю, што так адцяняе суровасць барацьбы, у якой абое ўдзельнічаюць».

У рамане цудоўныя, поўныя чароўных гукаў і святла, апісанні прыроды. Пейзажныя замалёўкі ствараюць эпічны фон, на якім больш выразна выступаюць людзі, выяўляюцца іх пачуцці, перажыванні, настроі. Самастойны, аб'ёмны вобраз набываюць лес, лясное возера — увасабленне сілы і непераможнасці народа, зямной вечнасці.

«Сустрэнемся на барыкадах» —сапраўды народны твор, у якім створаны калектыўны вобраз народа, змагара за сваю шчаслівую будучыню, на сваёй роднай зямлі, мастацкая гісторыя КПЗБ.

Раман «Серадзібор» (1959—1962) — першы буйны твор пісьменніка, у якім малююцца падзеі мірнага пасляваеннага жыцця ў заходніх абласцях Беларусі. Як зазначае сам аўтар, гэта твор пра родную зямлю, пра людзей, што абнаўляюць і ўпрыгожваюць яе. Як і ў папярэдніх творах, у рамане моцная фактычная, можна сказаць, канкрэтная аснова; пісьменнік, відавочна, знаходзіў сваіх герояў між рэальных людзей, у палескіх калгасах. Яны, героі рамана, вельмі цікавыя і праўдзівыя, бо ўзяты з нашай рэчаіснасці, з глыбінь сучаснага быцця. Пісьменнік не прыхарошвае жыцця, не спрашчае тых сацыяльных праблем і працэсаў, што адбываліся ў першыя пасляваенныя гады ў заходнебеларускай вёсцы і калектыўным будаўніцтве.

Дэвізам пісьменніка — летапісца і даследчыка сучаснасці, застаецца чалавек працы з яго мкненнем да прыгажосці і справядлівасці. Даследуючы і тыя калізіі і тыя канфлікты, што ў жыцці яшчэ не вырашаны, пісьменнік праз сваіх герояў, іх дзеянні, учынкі і ўзаемаадносіны вызначае кірункі і шляхі пошукаў да лепшага, шчаслівага жыцця.

Адзін з герояў рамана, вучоны аграном Кляновіч так гаворыць пра сваю лінію жыцця Платону Грушку, свайму настаўніку, прафесару сельскагаспадарчай акадэміі: «Жыць — значыць ісці глыбей у жыццё. А ісці глыбей — значыць змагацца».

Яркія, сапраўды мастацкія сцэны, якіх багата ў творы, сведчаць пра талент і глыбокае веданне пісьменнікам вясковага побыту і псіхалогіі вясковых людзей, уменне пamaйстэрску асэнсоўваць і падпарадкаваць ідэйнай задуме жыццёвыя факты, рэаліі быцця.

Героі рамана — актыўныя і дзейныя характары, валявыя натуры. Асабліва ўдаўся аўтару вобраз старога калгасніка Несцера Падковы — увасабленне працавітасці, чалавечнасці, душэўнай шчодрасці і духоўнай прыгажосці — лепшых якасцей, якія складаюць гармонію народнага характару. Тое ж можна сказаць і пра вобраз вясковай жанчыны — жывёлаводкі Тацяны Карпец. Сцэна, дзе Тацяна выступае на трыбуне рэспубліканскай нарады, і далей — старонкі яе падарожжа па Мінску, уражанні ад горада і думкі пра родны Сорадзібор — усё напісана хораша і цікава, з непадробнай, шчырай любоўю да людзей.

Зайздросная аўтарская здольнасць захапляцца сваімі станоўчымі героямі; здзіўляешся ўменню вымалёўваць лепшыя чалавечыя якасці, партрэты. Нярэдка мастакоўскае захапленне ў П. Пестрака пераходзіць у рамантызацыю і гучыць як сапраўдная, высокая паэзія. Пачытайце хоць бы сцэну, як вучоны аграном Кляновіч, гасцюючы ў Несцера Падковы, сінім летнім ранкам аглядае палі, і вы адчуеце гэтую асаблівую ўлюбёнасць героя і аўтара ў зямлі адвечную красу, гармонію прыроды і чалавека.

«Серадзібор» — маё любімае дзіця»,— сказаў неяк пра свой раман Піліп Сямёнавіч.

Сапраўды, гуманізм, жыццялюбства, душэўная шчодрасць пісьменніка праявіліся тут з найбольшаю мастакоўскай сілаю. І яшчэ — смеласць для свайго часу.

Апошнія тры гады жыцця Піліп Сямёнавіч працаваў над рукапісам новага рамана. Першая кніга была ўжо напісана. Мы гутарылі з пісьменнікам.

— Пра што новы твор? — перапытвае Піліп Сямёнавіч і, як заўсёды, жартуе: — Трэба спытаць, не пра што, а пра каго мая «Лесавічанка» — так я назваў раман,— пра народ, пра нашых гераічных працавітых людзей, якіх я люблю і якім служу шчыра і аддана. Тэма майго рамана, я

сказаў бы, не геraічная ў сэнсе нейкага там баявога подзвігу. Героі рамана — простыя людзі з народа — вясковыя змагары за ўсталяванне сацыялізма як самага справядлівага ладу жыцця для працоўных. Я хачу сказаць, як сыны і дочкі з народа, вясковыя інтэлігенты, ідуць у сацыялізм і камунізм, як яны адстойваюць яго, змагаюцца за яго. У цэнтры — цудоўная дачка вёскі Лена Лясовіч, Лесавічанка. Ідэал жаночай красы. Яна нарадзілася ў сялянскай сям'і, скончыла гімназію ў Вільні. Перад прыходам Чырвонай Арміі сядзела ў турме, яна — камсамолка, падпольшчыца.

Піліп Сямёнавіч нечакана змаўкае, паглыбляецца ў свае думкі. Затым, схамянуўшыся, кажа далей:

— Яна памрэ, загіне, мая Лесавічанка. Яе павядуць на катаванне фашысты, бо яна была на чале падпольнай арганізацыі ў сваёй вёсцы над Нёманам. І яе, як іншых дзяўчат, расстраляюць. Лена толькі і паспела крыкнуць: «Ма-ма!» Як яна любіла сваю маму!.. Лесавічанка любіла народ, любіла вёску...

Піліп Сямёнавіч Пестрак выбіраўся дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР. І ўсё турбаваўся, што ніяк не можа з-за сваіх творчых клопатаў выехаць у родныя для яго мясціны на Косаўшчыне. Зноў хочацца наведацца да сваіх выбаршчыкаў, у Драгічын, пахадзіць па даўніх знаёмых сцежках.

— Там, на Драгічыншчыне, мая падпольшчына трохі праходзіла,— успамінае Піліп Сямёнавіч.— Ёсць людзі, якія тое ўсё памятаюць. І калі я выступаў там, то прыгадалася. Не хочацца ўспамінаць тое ўсё — як мы ўсе жылі, які цяжар неслі... А цяпер, вызваленыя, маем свабоду. Я і кажу ім, палешукам сваім: «Беражыце гэтае наша вызваленне. Стойка беражыце». Так я гутару з людзьмі. Думаю, што так і трэба гаварыць з народам...

— А вершы хочацца пісаць,— лагодна ўсміхаецца ўсім круглявым тварам Піліп Сямёнавіч.— Мне каб цішыня і ніхто не перашкаджаў. Толькі каб цішыня... Можа, я і заўтра напішу. Такое, напрыклад. Іду па дарозе. Думаю, што я недзе некаму не дапамог, не выслухаў яго да канца. І раптам бачу: расцвіла бярозка свежасцю зялёнай. А насустрач ідзе дзяўчына. Прыгожая, стройная, як бярозка... Што, хопіць для верша?..

Ці праўда, слухаючы такое, хіба паверыш, што паэту тады было семдзесят?

«Вы разумееце, справа не ў даўгалеццi,— сказала неяк М. Шагінян у інтэрв'ю карэспандэнту «Недели»,— а ў за-

хаванні памяці, працаздольнасці, свежасці думкі, маладосці духу, маладосці адчування свету».

У Піліпа Сямёнавіча ўсё гэта было; не праходзіла цудоўнае адчуванне маладосці свету; душа і думка творцы не стамляліся выпраменьваць людзям і радасць, і шчасце дабрыні.

## ЖЫЦЦЁМ ЛЮДЗЕЙ...

Звычайна, калі хочуць выявіць вытокі творчага аблічча таго ці іншага мастака, звяртаюцца да яго жыцця, спасцігаюць час, у якім ён жыў і працаваў, звяртаюцца да асяроддзя, што паклікала яго ўзяцца за пяро.

Першае апавяданне А. Кулакоўскага «Сад» надрукавана ў часопісе «Беларусь» у 1946 годзе, калі пісьменніку ўжо было за трыццаць. Ці пісаў ён раней? Аказваецца, у пісьменніка неабходнасць падзяліцца сваімі думкамі і пачуццямі з іншымі жыла даўно, яшчэ з маленства.

Аляксей Мікалаевіч Кулакоўскі нарадзіўся 24 снежня 1913 года ў вёсы Кулакі, на Старобіншчыне. Пасля заканчэння Чыжэвіцкай школы паступіў у Рагачоўскі прафтэхнікум бондараў. Вучыўся там старанна і спрабаваў пісаць. Працуючы загадчыкам бандарнай арцелі ў Касцюковіцкім раёне, стаў актыўным селькорам. Неўзабаве яму прапанавалі пасаду адказнага сакратара клімавіцкай раённай газеты «Камуна». У 1934 годзе А. Кулакоўскага пераводзяць на працу ў рэдакцыю газеты «Чырвоная змена».

У тыя гады, калі жыў з бацькамі ў вёсцы, Аляксей Кулакоўскі актыўна ўдзельнічаў у грамадскім жыцці. То быў незабыўны час перабудовы вёскі на сацыялістычны лад. Камсамольскія сходы, мастацкія гурткі, калектывізацыя, паходы «лікбезу» — усё гэта потым ажыве ў памяці жывымі малюнкамі і стане залатым набыткам у творчасці.

Пасля падрыхтоўчых курсаў у 1937 годзе А. Кулакоўскі залічваецца студэнтам на філфак Мінскага настаўніцкага інстытута, які скончыў з выдатнымі адзнакамі. Працаваў выкладчыкам мовы і літаратуры ў Цяцерынскай сярэдняй школе на Магілёўшчыне.

У тую ж восень настаўніка А. М. Кулакоўскага прызываюць у армію. На вайсковай службе ён сустрэў першы дзень вайны. Быў фронт, былі баі, раненне, медсанбат, шпіталі, зноў фронт. А. М. Кулакоўскі — камандзір узвода, затым ён камандуе стралковай ротай. У баях тройчы паранены, мае ўзнагароды — ордэн Чырвонай Зоркі, баявыя

медалі. Да 40-годдзя Перамогі — ордэн Айчыннай вайны першай ступені.

Пасля дэмабілізацыі ў 1945 годзе А. М. Кулакоўскі вярнуўся ў родны, знявечаны ворагам Мінск, з галавою акунуўся ў любімую працу. Артыкулы і нарысы Аляксея Кулакоўскага часта друкуюцца ў маладзёжных газетах. Адно за другім з'яўляюцца на старонках літаратурных часопісаў яго апавяданні, якія праз два гады склалі асобную кніжку — «Сад».

Адразу адчулася, што ў літаратуру ішоў пісьменнік, які матэрыялам для сваіх твораў узяў жывое народнае жыццё. Героі першых апавяданняў — Грысь Вячэра («Шляхі жыцця»), Несцер («Сад»), Павел Куцура («Нямко»), Мікіта Мінавіч з аднайменнага апавядання запамінальныя, адметныя. У іх угадваліся рысы землякоў, людзей вельмі блізкіх і знаёмых аўтару. Яны шмат чым нагадваюць персанажаў з твораў К. Чорнага. Узятыя з натуры, без асаблівай «падгонкі і шліфоўкі», яны ўздзейнічаюць на чытача, будзяць думку, змушаюць зацікавіцца лёсам героя.

У творчай манеры пісьменніка, гэта на самым пачатку заўважыла крытыка, ёсць адна характэрная адметнасць. Яна заключаецца ў тым, што А. Кулакоўскі з тых пісьменнікаў, якія ў сваёй творчасці ідуць ад пачуццёвага, эмацыянальнага паказу да ідэі, ад рэальнага факта ці падзеі да мастацкага абагульнення.

У гэтым бачыліся не толькі моцныя бакі, але і некаторыя выдаткі творчасці. У творах ранняга перыяду адчувалася тэндэнцыя бесканфліктнага адлюстравання рэчаіснасці. Аднак ідэйна-мастацкая вартасць яго твораў відавочная — яны адкрывалі новыя тэмы, пласты народнага гераізму. І, бясспрэчна, садзейнічалі выхоўванню маладога пакалення, скіроўваючы маладых на пераадоленне цяжкасцей пасляваеннай разрухі і нішчымніцы.

Лёс не песціў А. Кулакоўскага як пісьменніка. Не ўсё тое, што выходзіла з-пад яго пяра, прымалася крытыкай.

А. Кулакоўскі адзін з першых у пасляваеннай беларускай літаратуры ўзяўся за асваенне індустрыяльнай тэматыкі. Яго аповесць «Гартаванне» (1948) была разведкай гарадской тэмы, і вобраз галоўнага героя Васіля Патрончыка — пэўны крок наперад, хаця аўтару яшчэ не ставала глыбокага пранікнення ў жыццё рабочага калектыву, што не магло не адбіцца на абмалёўцы і выяве характару персанажаў.

Творчы шлях пісьменніка-камуніста Аляксея Кулакоў-

скага сваім пафасам скіраваны на ўсталяванне камуністычных ідэалаў, ён сцвярджае перавагу нашага савецкага ладу жыцця.

Пісьменнік вядзе чытача ў свет мар і здзяйсненняў, імкнучыся выявіць грамадскую сутнасць чалавека, жывапісаць партрэт героя нашага часу — працоўнага чалавека, былога воіна і працаўніка. На гэтым кірунку і бачацца яго ўдачы як мастака, раскрываюцца яго творчыя магчымасці. Назіранні, пільнае вока, якое бачыць тое, што іншыя не заўважаюць, багаты жыццёвы вопыт, уменне працаваць «на эцюдах» — у шматлікіх паездках і сустрэчах з людзьмі, з землякамі-салігорцамі багата і плённа выкарыстаны ў яго ранніх і цяперашніх апавяданнях і аповесцях, а таксама ў раманах, дзе праўда жыцця паўстае як вышыня духоўнага росту.

Удачай пісьменніка ў свой час адзначала крытыка з'яўленне аповесці «Нявестка». Яна напісана ў 1957 годзе, пасля таго, як з друку ўжо выйшаў яго раман «Расстаемся ненадоўга» (1955). У гэтай аповесці пісьменнік удала спалучае мастацкія дэталі — майстэрскія і трапныя, з драматызаваным сутыкненнем характараў, яркіх і індывідуалізаваных. У аповесці канфлікт маральны, а не вытворчы, як назіралася ў ранейшых творах; і для яго вырашэння спатрэбіліся новыя сродкі, новы падыход, мастакоўскае асэнсаванне сітуацый і падзей, уменне «арганізаваць» твор сюжэтна і кампазіцыйна.

Па аповесці «Нявестка» студыя «Беларусьфільм» паставіла фільм «Шчасце трэба берагчы». Узятыя словы дакладна выражаюць ідэю твора, якая сцвярджае чалавечнае ў чалавеку, раскрывае яго дабрату і цяпло душы. Носьбітам аўтарскай сімпатыі з'яўляецца Ларыса, нявестка старога Данілы, у хату якога з яе прыходам завітала радасць, звычайная чалавечая спагадлівасць.

Як і ў многіх апавяданнях, а таксама і рамане-дылогіі «Расстаемся ненадоўга» і «Сустрэчы на ростанях» створаны каларытныя, запамінальныя вобразы настаўнікаў, людзей, якія выйшлі з гушчыні народных мас і шчыра служаць свайму народу, аддаючы яму сваё сэрца. Сюды дастасуецца і раман «Сцежкі зведаныя і нязведаныя», які ўваскрашае мірную працу даваеннай пары.

З вялікай любоўю працаваў А. Кулакоўскі над запісам і рэдагаваннем кнігі ўспамінаў былога камандзіра Мінскага падпольнага абкома КПБ Героя Савецкага Саюза В. І. Казлова «Людзі асобага складу». Праца над кнігай узбагаціла яго як пісьменніка — сустрэчы з многімі

удзельнікамі партызанскага руху далі багаты фактычны матэрыял для твораў, якія напісаны і пішуцца.

А. Кулакоўскі, літаратар, сын свайго часу і народа, імкнуўся быць на пярэднім краі барацьбы за светлую будучыню. Сваім шчырым мастацкім словам ён рабіў тое, да чаго заклікана літаратура — своечасова і ярка расказаць людзям пра сваіх сучаснікаў — сапраўдных герояў з народа.

У родных яго мясцінах, пад Кулакамі і Чыжэвічамі, адкрыты паклады солі. Тут узнік і вырас Салігорск — горад шахцёраў і хімікаў, і Аляксей Кулакоўскі трымаў цесную сувязь з землякамі. Як вынік яго шматлікіх сустрэч і паездак на будоўлю і новыя камбінаты ў друку з'явіліся нарысы «Салігорцы», «Зоркі Салігорска», аповесці «Тут я жыву», «Расце мята пад акном», «Родныя шыроты». Пісьменнік упарта і настойліва пісаў жыццё, стварыў галерэю партрэтаў сучаснікаў — герояў нашага сапраўды непаўторнага гераічнага часу.

З-пад пяра А. Кулакоўскага за апошнія гады выйшлі аповесці «Маршрут ад Клічава», «Хлебарэз», якія прысвечаны подзвігу савецкага народа, вялікай перамозе ў вайне з фашызмам. На паліцах кнігарняў з'явіўся новы раман пісьменніка «Васількі», які вянчае набыткі больш за сорак гадоў актыўнай творчай працы адметнага майстра беларускай прозы.

За поспехі ў беларускай літаратуры А. М. Кулакоўскі ўзнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга, двума ордэнамі «Знак Пашаны». Яму прысвоена званне Заслужанага работніка культуры БССР.

Ставала яму часу і для актыўнай грамадскай дзейнасці, на тое, каб пачытаць рукапіс пачаткоўца, знайсці ў яго зерне таленту, вызначыць прызванне. Ён заўсёды знаходзіў час, каб пагутарыць з чалавекам, калі трэба параіць ці дапамагчы.

А. М. Кулакоўскі памёр 9 красавіка 1986 года на 73-ім годзе жыцця.

## «СЛУХАЙ І ЗАПАМІНАЙ!»

Упершыню я сустрэўся з Уладзімірам Карпавым напрадвесні 1946 года. Актыўны ўжо на той час крытык і літаратуразнавец Уладзімір Агіевіч і Уладзімір Карпаў выступалі ў Доме друку перад рабочымі.

Размова ішла пра літаратуру, пра творы, якія з'явіліся на тэму гераізму і мужнасці савецкіх людзей у гады Вялікай Айчыннай вайны.

Хтосьці з супрацоўнікаў «Чырвонай змены», дзе пад той час працаваў і я, сказаў: «Хлопцы! У зале, на першым паверсе, цікавая лекцыя. Выступаюць маладыя беларускія крытыкі...», і мы паспяшаліся ў клуб. Людзей было поўна. Мы праціснуліся і слухалі, стоячы ў адчыненых дзвярах.

Выступаў рослы, шырокі ў плячах мужчына ў цёмнасінім гарнітуры, у белай сарочцы пры гальштуку. Асветлены натхнёнасцю і думкай твар, высокі лоб у абрамленні русявых хвалістых валасоў. Энергічныя жэсты. Моцны, упэўнены голас. Адчувалася, што гэты чалавек умее гаварыць, «трымаць» аўдыторыю...

Уладзімір Карпаў, памятаецца, гаварыў пра творчасць ваеннага часу Міхася Лынькова. І мяне ўразіла яго эрудыцыя, уменне выказаць свае думкі проста, даходліва і пераканаўча.

Такое было першае знаёмства — можна сказаць, здаля, на адлегласці. Для мяне, у даваенны час таксама студэнта і ўжо настаўніка, гэта было новае імя, і я пачаў уважліва прыглядацца да таго, што з'яўлялася ў друку за подпісам «Ул. Карпаў».

Мне пашчасціла быць і сведкам, і ўдзельнікам шмат якіх гутарак, дзе размова ішла на літаратурныя тэмы.

Калі пачынаеш прыгадваць, як выяўляў сябе ў гэтых гутарках Карпаў, дык на першае месца ў іх трэба паставіць даверлівасць і адкрытасць. Яму не ўласцівыя былі пыха і ментарства. Ён умеў слухаць іншых і сам любіў пагаварыць адкрыта і шчыра. Характэрна, што яму верылі, калі ён гаварыў; ягоныя парады былі заўсёды тактоўныя і ішлі ад сэрца, ад жадання памагчы таварышу, падбадзёрыць і заахвоціць.

Многія гады Карпавы (з Уладзімірам Барысавічам была жонка Марыя Міхайлаўна) жылі ў Каралішчавічах у асобным дашчатым дамку, уводдалі, у засені маладога бярэзнічку. Асаблівыя, вельмі дружалюбныя, сяброўскія адносіны былі ў іх з Піліпам Пестракам. Часта іх можна было бачыць разам. Дзе ў кампаніі Валодзя Карпаў (Валодзем яго называлі і людзі аднаго з ім веку і нават маладзейшыя) — там размова, гарачыя дыскусіі. Ён сам хутка «заводзіўся» і ўмеў уцягнуць у гутарку ўсіх. А пра Піліпа Пестрака ён аднойчы сказаў: «Глядзі, браце,— Уладзімір Барысавіч (мы ішлі дарожкаю між стромкіх соснаў) кіўнуў у бок задуменнага Піліпа Сямёнавіча,—

слухай і запамінай. Гэта чалавек, пісьменнік, які шчасліва ўвабраў усю гісторыю Заходняй Беларусі, пафас барацьбы беларускага народа. Раман «Сустрэнемся на барыкадах» абессмяроціў яго імя. Пра каго іншага гэтага не скажаш, а Пілін мае права гаварыць ад імя ўсяго народа. Вялікі філосаф і жыццялюб. Яго можна параўнаць хіба з Якубам Коласам».

Тады да Піліпа Сямёнавіча: «Піліпе, табе ўдаюцца апісанні начэй, начныя пейзажы ў цябе вельмі багатыя, выключныя па мастацкай сіле. Чаму гэта? Можа, ад таго, што сам усё перажыў, доўга ўсё выношваў, знаходзячыся за кратамі?..» — «Ат, глупства»,— моршчыцца Піліп Сямёнавіч і маўчыць, паглыбіўшыся ў сябе, як адгарадзіўшыся ад нас маўчаннем. «Нічога,— пакінуў у спакоі Пестрака Уладзімір Барысавіч.— У другі раз сам усё раскажа. А ты, галоўнае, слухай і запамінай!..»

...Уладзімір Карпаў доўга і захоплена гутарыў з Тарасам Хадкевічам. Размова была, мабыць, аб новым рамане Карпава.

— Нават самыя агульныя праблемы,— даводзіў Уладзімір Барысавіч,— мастак вырашае на канкрэтным матэрыяле...

— А твае творы? — паставіў пытанне рубам Тарас Канстанцінавіч.

— І мае. Абавязкова. Да апошняй дробязі. Усё — або вывучанае, або здабытае з уласнага вопыту. Або змадэліраванае з усяго гэтага — сплаў, так сказаць. Але ўсё абавязкова з жыцця, з рэчаіснасці. З усяго таго, чым жыве сучаснік!

Была золкая ноч прадвесня — яшчэ ляжаў снег, усюды зашэрхлыя лужыны, і над лесам ацяжарана віселі шматы густога туману.

Уладзімір Барысавіч прапанаваў паездку ў Любань. «У мяне там цесць — цудоўны чалавек,— узрушана гаварыў Уладзімір Барысавіч,— і ён вельмі прасіў, каб я прыехаў: трэба памагчы асвежаваць кабанчыка...» — «Поначы і ў такую імжаку?..— аж здзівіўся Тарас Канстанцінавіч.— Валодзя, не рабі глупства. Ты ж бачыш, якая залева!..» — «Нічога, як-небудзь...»

Сярод ночы ён выехаў на сваёй новай «Волзе» з лесу. Добра, што ў бачку не аказалася бензіну, і давялося вярнуцца, а раніцай заправіў машыну і паехаў-такі.

На чарговай праходцы я кажу Уладзіміру Барысавічу, што прачытаў мемуары С. Канёнкава, дзе ён даводзіць са свайго вопыту: жыццё — гэта праца.

«Бачыш, як усё проста,— пацвярджае Уладзімір Барысавіч.— Усё геніяльнае, аказваецца, простае. Калі яно сапраўднае, нявыдуманае. Калі гэта не падробка пад прастату, пад праўду...»

Тут жа ён успамінае выказванне М. Прышвіна: «У слове ёсць стоеная сіла». І зноў жа прыводзіць у прыклад работу над словам, над удасканаленнем напісанага П. Пестракам. Як заўсёды, захапляўся яго працавітасцю, мудрасцю.

«Галоўная тэма нашых дзён,— падкрэсліваў неаднойчы,— гэта мужнасць, чалавечнасць і, нарэшце, вінаватасць перад чужым болем...»

Цікавыя былі яго думкі аб паэзіі. «Паэзія — песня душы,— чуў я ад яго такія выказванні, якія, магчыма, можна знайсці і ў іншых.— Але для паэзіі ўсё ж найбольшую вагу мае эмацыянальны пачатак-выток. Тэарэтычныя развагі, роздум на мяне, чытача, не ўздзейнічаюць так, як дзейнічаюць эмацыянальная танальнасць, настраёвасць...»

Іншым разам ён гаварыў: «Маладосць духу, захопленасць, свежасць успрыняцця, наватарскі пошук, смелыя вобразныя рашэнні тэмы і разам з тым яскрава выражаная сучаснасць, наватарства паэтычнай мовы і мыслення, жыццесцвярджальнасць, прасякнутая высокай ідэйнасцю—вось адзнакі сапраўднай паэзіі як жыватворнай сілы мастацтва».

Аднойчы я спытаў у Марыі Міхайлаўны, жонкі пісьменніка,— як працаваў Уладзімір Барысавіч, ці былі ў яго папярэднія запісы, дзённікі?

Яна паказала мне кнігі, якія пасля першага выдання зноў правіліся і шліфаваліся. Я быў проста здзіўлены: яны так пакрэслены, з такой скрупулёзнасцю праўлены, што асобныя старонкі проста пярэстыя ад правак, а некаторыя перапісваліся амаль што занава. Такога я, прызнацца, не бачыў, каб так крэсліліся кнігі, якія ўжо выдадзены і пайшлі да чытача. Я заўважыў: «Працаваў Уладзімір Барысавіч, як кажуць, на знос...»

«Так, працаваў ён заўсёды, не зважаючы на тое, што быў ужо хворы. Яшчэ ў 1966 годзе былі два інфаркты, спачатку адзін, а праз дваццаць тры дні другі...»

Значыць, сапраўды, у працы ён знаходзіў для сябе радасць і заспакаенне. Як творцу, праца прыносіла яму шчасце. «Каму пашчаслівіла цалкам аддацца любімай справе,— казаў ён,— павінны лічыць гэта за сапраўднае шчасце».

...Бывала, гуляючы па дарожцы, між кашлатых ялін і

гонкіх соснаў, Піліп Пестрак і Уладзімір Карпаў у тых жа Каралішчавічах. Ідуць і маўчаць, а тады раптам дружна загавораць, і пачынаецца жывая, гарачая размова, якая часта ўзрывалася спрэчкай. Як вядома, у спрэчцы нараджаецца ісціна.

— Як гэта, каб у расінцы, у кроплі сонца ўбачыць? — нечакана гаворыць Піліп Сямёнавіч.

Карпаў загадкава ўсміхаецца, хітра глядзіць на Пестрака.

— А гэта табе, Піліпе, лепш ведаць...— І ўжо сур'ёзна, узрушана: — Ты — майстарляснога пейзажу. Знаўца лесу. У цябе, браце, такія апісанні лесу, што і сонца, і воблакі, і неба — усё бачыш наяве, як жывое... Жывое адлюстраванне душы!..— І да мяне: — А ты слухай і запамінай. Загадкавасць таленту... Гэткае здзіўленне перад навакольным уласціва і падуладна толькі мастаку. А мастаку слова — яшчэ цяжэй даецца яно: бо жывапісаць словам— вялікі дар!..

Вельмі высока ставіў У. Карпаў творчасць П. Пестрака. Дружба іх нарадзілася, мабыць, у час работы Піліпа Сямёнавіча над раманам «Сустрэнемся на барыкадах». Аб гэтым і ён гаварыў. І пасля пацвердзіла Марыя Міхайлаўна: «Начамі сядзелі разам,— казала яна.— І спрачаліся, і радаваліся разам, як дзеці, калі прыходзіла трапнае слова, нечаканы паварот сюжэта ці фразы...»

Але вернемся да іх размовы на зялёнай алеі ў Каралішчавічах.

— Архітэктоніка твора (любімы выраз У. Карпава.— *С. К.*) такая,— гаварыў Уладзімір Барысавіч.— Мова — аснова ўсяго і плоць, а яго душа — змест. Калі мова не вобразная, бясколерная, цьмяная, то твора не будзе. Мову трэба любіць, казаў Горкі, любіць, як маці, як музыку...

Я прыводжу словы К. Куліева: «Мастацтва без праўдзівасці, што птушка без крылаў...»

— Во, во!..— падхоплівае Уладзімір Барысавіч, і ўжо ціха, да сябе: — Цікава, браце, разважаеш. Але гэтага мала — разважаць, ведаць, хаця і важна для пісьменніка. Вельмі важна! Трэба ўмець і жадаць, здзяйсняць задуманае. Для гэтага патрэбна сіла. Я сказаў бы — сіла волі. А гэтае самае сілы ў нас падчас і не хапае. Вось у чым... «грузд» праблемы...

Ён разважае як бы сам з сабою:

— Час не даруе памылак. Але і прырода велікадушная да сапраўднага таленту. Час перш за ўсё цэніць талент

мастака за тое, што ім сцверджана, за дасягнутую вышыню...

І далей:

— Таленту супрацьпаказаны эгаізм. Эгаізм — рыса жахлівая. Эгаізм здатны забіць чалавека, які не можа сцярпець гэтага эгаізму, асабліва калі эгаізм сыходзіць ад блізкага табе чалавека...

...За акном гарэла, то ўспыхваючы полымем, то аціхаючы, вячэрняя зара. Ахапіла паўнеба — там, дзе толькі што гарэзілася вясновае сонца.

А застолле шуміць гаманой — гучнай, вясёлай. З такімі людзьмі, як У. Карпаў, бы ля цёплага кастра. Грэешся. Узбагачаешся — духоўна, мацнееш — душэўна. Багацеючы, набіраешся і адвагі і сілы, як прыпаўшы да крынічнага ручая. Грэешся, і правяраеш свае пачуцці, зняраеш з лёсам людзей, якія прайшлі праз вялікія жыццёвыя выпрабаванні. Слухаеш іх, і навучаешся актыўна жыць, бачыш сваю неабходнасць, разумееш высокае, сапраўднае прызначэнне чалавека на зямлі. Ягоная мудрасць, жыццёвы і творчы вопыт нібы ўліваюцца ў цябе, даючы табе найперш упэўненасць.

Кажу пра гэта. І Уладзімір Барысавіч ускліквае:

— Адкрытасць душы! О, гэта, браце ты мой, багацце! Набытак. Душа, адкрытая насцеж,— гэта хараша! А яшчэ ёсць такое беларускае слова — «напята». Ёмістае слова. Так, браце, гэта набытак. Асабліва для чалавека, які шмат думае, разважае і пакутліва шукае адказу на пытанне, хто мы, для чаго жывём, чаго жадаем ад жыцця...

Чую яго голас. Як рэха, як водгалас тых бясед і застолляў у Каралішчавічах. У той час усе мы былі маладыя, і сустрэчы наладжваліся часта як зачэпка, каб разам сабрацца, пагаварыць, абмяняцца думкамі і перажываннямі.

Яны — Уладзімір Карпаў і Тарас Хадкевіч — часта збіраліся разам. Яны заўсёды мяне і здзіўлялі і захаплялі. Сваёй шчырай дабратою, душэўнасцю. Абодва былі прастымі і разам з тым узвышанымі ў сваіх думках і парываннях, захопленасці жыццём.

Помняцца развагі У. Карпава аб традыцыі і наватарстве. «Суладдзе і ўзаемасувязь творчасці,— гаварыў ён,— такое ж, як і самога жыцця. Кожнае пакаленне, што прыходзіць на змену папярэднікам, нанова адкрывае свет, прыносіць з сабою сваё светаадчуванне, сваё разуменне рэчаіснасці. Чалавек прыходзіць у гэты свет, каб сцвердзіць сябе, пакінуць пасля сябе след на зямлі. Ён не хоча

знікнуць бясследна — такая прырода чалавека. Яго высокае грамадзянскае прызначэнне».

Вядома, гэтыя думкі прыводзяцца па памяці. Але яны засталіся як памяць сэрца, як водсветы яго творчай і чалавечай асобы.

«Што дапаможа зразумець ісціну і людзей? — пытаўся ён і сам жа адказваў: — Вучоба. Пошук ісціны. Трэба глыбей вывучаць жыццё, нястомна, няспынна, з дня ў дзень вывучаць гісторыю, філасофію, псіхалогію. Трэба быць бязлітасным да сябе, прызнаючыся хаця б сабе, што ты — невук, гультай, сябелюбец. Не ведаеш і сотай, тысячнай долі таго, што табе, настаўніку жыцця, патрэбна ведаць...»

«Героі твае — гэта твае дзеці, плён твайго жыццёвага трапятання, твайго гарэння, тваёй працы. Пакутлівай. Нястомнай. Цяжкой...»

«Малюнкі рэчаіснасці, якія складаюць твой твор, асабістае — жыццё герояў, іх перажыванні — гэта твае перажыванні, люстра тваіх пошукаў. Трэба, каб яны былі напоўнены вялікім сацыяльным зместам, змястоўнасцю — гэта залежыць ад таго, наколькі сам творца разумее і жыццё: як і чым ён жыве, як ён кіпіць у віры жыцця».

...Аднойчы ішла гаворка аб прыродзе таленту і яго выяўленні, і я заўважыў: «Бывае, што ў чалавеку закладзены «ад бога» яркія пачуцці, здольнасць здзіўлення, але яны дрэмлюць, ляжаць на сподзе душы. Як абудзіць іх?»

Уладзімір Барысавіч, як звычайна, наморшчыў лоб, задумаўся, пасля адразу, залпам:

— Трэба, каб нехта вельмі ўмела — той, хто адкрые талент,— абудзіў іх, дапамог умацаваць мужнасць, крамянёвую стойкасць і ўпэўненасць у тым, што ты — здольны перайначыць, загартаваць сябе, і гэтая стойкасць, сіла волі стануць рысамі твайго характару. Апроч усяго, ты сам павінен давесці сабе, пераканаць сябе, што ты зможаш. Гэта і будзе тваё духоўнае ўзмужненне!..

Закончыў ён нечакана, з гумарам, які так уласцівы быў яго натуры:

— Усе людзі аднолькавыя ў шчасці, і кожны няшчаслівы па-свойму. Як у Льва Талстога...

Помніцца, на ўгодках Рамана Сабаленкі ў застоллі У. Карпаў гаварыў, што пісьменнік — гэта і асоба. І што яго асабістае жыццё таксама ёсць пафас барацьбы за высокую свядомасць і грамадзянскую сталасць. Яго жыццё — урок і для сябе, і для тых, з кім ён жыве, у сувязях з іншымі людзьмі.

Успамінаючы добрым словам Рамана Карпавіча, У. Карпаў гаварыў, што Сабаленка — адзін з тых пісьменнікаў, якія паказалі прыклад асабістай сціпласці, працавітасці, глыбокага ведання людзей, якіх багата меў сабе за сяброў.

Сам ён меў сапраўдных сяброў, з якімі дзяліўся сваімі планамі і задумамі. У. Карпаў высока цаніў такіх майстроў слова, як К. Чорны, М. Лынькоў, І. Мележ, І. Шамякін, якія, як ён сказаў аднойчы, валодаюць тайнай маляваць словам, апісваць, адлюстроўваць жыццё, і гэтае ўменне, майстэрства выражае сэнс жыцця пісьменніка.

Не чуў я, каб Уладзімір Барысавіч расказваў аб сваім партызанстве і рабоце ў камуністычным падполлі Мінска. Але ў кнізе «Горад і годы» я прачытаў кароткія нататкі і успамінаў і зразумеў, які гэта быў смелы і мужны чалавек. Рызыкуючы жыццём, ён бясстрашна выконваў баявыя заданні: прайшоў небяспечныя і цяжкія дарогі ў вогненным тыле разам з таварышамі па зброі.

Ён працаваў, не зважаючы, што сілы адымала хвароба. Як радаваўся, калі нарэшце кніга ўспамінаў мінскіх падпольшчыкаў «Сквозь огонь и смерть», якую ён задумаў, выйшла. Як хваляваўся, пакуль убачыла свет апошняя яго кніга апавяданняў «Прызнанне ў нянавісці і любові», задуманая яшчэ раней, у час працы над цыклам раманаў «На перавале стагоддзя».

«Працаваць! Працаваць!» — падганяў сябе адзін з герояў рамана «Сотая маладосць», які выйшаў з друку ў 1971 годзе.

Гэта было дэвізам і самога пісьменніка, які працаваў, пакуль рука трымала пяро. І ўсім нам, хто яго ведаў, хто сустракаўся з ім, ён гаварыў і раіў — працаваць, толькі ў працы нараджаюцца і натхненне і зарадка на заўтрашні дзень.

Кожная сустрэча з гэтым чалавекам, няхай кароткая, мімалётная, была радасцю абагачэння. Кожная гутарка, нават самая будзённая, пакідала ў табе штосьці такое, што кранае сэрца, і яго голас чуецца гэтак выразна, як бы ты зноў з ім сустрэўся, нават толькі што павітаўся.

Калі не стала яго, я адчуў, што страчана незваротнае...

Падчас калектывізацыі ў нас, на Краснапольшчыне, пачала выходзіць раённая газета — невялічкі аркушак-двухпалоска — «Чырвоны сцяг», які тутэйшыя называлі «Сцяжок». У газету заўзята пісалі школьнікі — яны і складалі кагорту селькораўскага руху. На старонках «Сцяжка» мы і сустрэліся з Аляксеем Пысіным як селькоры. Сустрэча была завочная. Вядома, нам хацелася пазнаёміцца. Ды, мабыць, на той час адлегласць на вёрст пятнаццаць ад Аляксеевай вёскі Высокі Борак да маіх Стаек аказалася «непераадольнай». Пасля заканчэння Палужскай сярэдняй школы Аляксей паехаў у Мінск, на вучобу ў КІЖ, а я ў Гомель, у педвучылішча...

Аднойчы ў газеце «Чырвоная змена» мне кінуўся ў вочы верш «Ураджай» і подпіс «А. Пысін». Неяк, праз столькі гадоў, я нагадаў Аляксею пра верш, ён махнуў рукой: «Адзіны гэты верш і быў надрукаваны...» Вершы ж пісаліся, калі Аляксей вучыўся ў школе, быў цэлы сшытак, але ён нікому іх не паказваў, ні сябрам, ні настаўнікам — саромеўся.

У мяне ёсць амаль усе кнігі паэзіі Аляксея Пысіна і на іх аўтарскія надпісы, накшталт такога, як на зборніку «Мае мерыдыяны»: «Дарагому земляку, даўняму сабрату па селькораўскаму пяру...»

Канечне ж, мы ганарымся нашым селькорствам. Тое, што было ў маленстве і ў юнацтве, памяць малюе, як час ружовых мрояў і рамантыкі, што клікала нас, лапцюжнікаў, у новы дзень, у светлыя далі будучыні.

Мы аднойчы пачалі ўспамінаць усё тое, дык аж не верыцца, што такое было. І Аляксея за яго допісы і заметкі з Высокага Борка, з Палужы, дзе ён тады вучыўся, спрабавалі выключыць з камсамола і са школы. Ад нападу за крытыку селькора абараніў тадышні першы сакратар Краснапольскага райкома партыі Лапацін. Мы, камсамольцы, сваім гарачым селькораўскім радком памагалі вёсцы пазбаўляцца цемры і бядоты, выкіроўвацца вяскоўцам на светлую дарогу калектыўнага жыцця.

Шлях у паэзію Аляксея Пысіна, цяпер выдатнага і прызнанага паэта, пачынаўся з бурлівых газетных будняў. Не давялося доўга займацца яму і ў інстытуце журналістыкі — у 1939 годзе, у верасні, студэнта Аляксея Пысіна накіроўваюць у Бельск, пад Беластокам, на работу ў рэдакцыю раённай газеты. Там і застала яго вайна.

У кнізе «Пра час і пра сябе» ў нататцы «Перажытае»

Пысін успамінае: «Па дарогах вайны ў шынялі і касцы прайшло маё юнацтва. Быў на Заходнім, Калінінскім, Ленінградскім, Першым і Другім Прыбалтыйскіх франтах».

Праўда, зусім коратка! Успамінае Аляксей яшчэ, калі ўжо адгрымелі пераможныя баі і бітвы і ў небе адшугалі салюты Перамогі, стаяў гвардыі радавы на пасту і склаў верш. Паслаў яго Пысін у газету. Верш надрукавалі. Чыталі аднасумы-салдаты і не верылі, што напісаў іх таварыш па казарме. Так першы пасляваенны верш Аляксея Пысіна пад назвай «Часовой» стаў у строй. На вайне ж у байца-сувязіста Пысіна была адна зброя — вінтоўка-трохлінейка і адзін клопат — біць ворага.

Дэмабілізаваўшыся, Аляксей Пысін у бушлаце і франтавой гімнасцёрцы выпраўляецца на пярэдні край мірнага, аднаўленчага фронту — ён працуе ў рэдакцыі краснапольскай раённай газеты «Чырвоны сцяг», дзе надрукаваў свае селькораўскія заметкі.

Дарогі газетчыка вядуць А. Пысіна ў Новы Свержань пад Стоўбцамі, ён рэдагуе палітаддзельскую газету пры МТС, у Чэрыкаў, на пасаду рэдактара раённай газеты; пазней у Магілёў, у рэдакцыю «Магілёўскай праўды»... З газетай, з публіцыстыкай Аляксей Пысін — вядомы ўжо паэт — не расставаўся ўсё жыццё. Бывала, пры сустрэчы найперш раскажа, які артыкул ці нарыс напісаў, ніколі не адмовіцца, калі параіш напісаць пра землякоў; заўсёды з радасцю знойдзе новага аўтара, пачытае і твой рукапіс, падкажа, як яго палепшыць...

Неяк, у самыя калядныя маразы, Аляксей прыязджаў у Мінск з артыстамі Краснапольскага народнага тэатра. Радаваўся, што землякоў цёпла прынялі на тэлебачанні. Па дарозе на новы тэлецэнтр, ідучы праз заснежаны парк Чалюскінцаў, захоплена расказваў пра землякоў, пра іх радасці і турботы. Бачу, Аляксей хвалюецца, яму трэба будзе прадстаўляць на тэлебачанні сваіх артыстаў. Тады, звяртаючыся да Віктара Ракава, нашага маладзейшага сябра-паэта, кажа: «Хлопцы, можа, я вам скажу тое, што буду гаварыць перад тэлеэкранам, паслухайце. Думаю пачаць так: «Дзякуй Мінску. Дзякуй нашым тэлегледачам. Мне тэатр гэты блізкі, родны. Мы нарадзіліся ў адзін год. Мы — аднагодкі. Равеснікі. Але тэатр па-ранейшаму малады...»

Пасля нейкай паўзы, як бы задумаўшыся, мабыць, пра тое, што і яму — шэсцьдзесят, а гэта час агледзін і жніва, Аляксей раптам ажыўляецца:

— Хлопцы, давайце прачытаю вам верш, які я во ня-

даўна напісаў. Верш называецца «Мая рачулачка».— І ціха, як бы стоена, толькі для сябе:

Маю рачулачку малую
Пілі і чорныя, і белыя валы.
Вясной па рыбку залатую
Сцяжынкі ціхія вялі.
Мільгнула вудачка — віток метала
З нажыўкаю на вастрыні кручка —
І краснапёрачка затрапятала,
Забілася ў далонях хлапчука.
Век з намі рос. Кручок, што вудай быў,
Грымотна ўзняўся, стаў на колы,
Рачулачку пад шчэлепы схапіў,—
І кінуў на пясок, на выган голы...

І зноў, задуманы, горны, маўчаў. Тады, як ачнуўшыся: «Як думаеце, надрукуюць?..» — «А чаму ж? — упэўнена кажа Віктар.— Выдатны верш!» Аляксей зябка пацепвае плячмі. Мы развітваемся, бо яму трэба на выступленне. Развіталіся, каб зноў сустрэцца...

Перад юбілеем паэта хочацца пагартаць яго кнігі, парадавацца за земляка, падзяліцца думкамі і пачуццямі, якія заўсёды хвалююць пры сустрэчы з сапраўднай паэзіяй.

У А. Пысіна ёсць зборнік вершаў «Сонечная паводка», які выйшаў яшчэ ў 1962 годзе. Там на першай старонцы партрэт маладога, з густой пышнай чупрынай і стоенай збянтэжанасцю ў вачах чалавека. Пазнаю ягоны прыгожы почырк, якім напісаны такія словы — эпіграф да кнігі:

Шчасце так не даецца
І яго не купіць:
Шчасце сеецца, жнецца,
Шчасце ў кузнях куецца,
У мартэнах кіпіць.

А ў канцы анатацыя: «Гэта кніга аб працы, аб дружбе і каханні...» Правільна, канечне. Але ўжо ў гэтых, скрозь мірных вершах паэт вяртаецца да таго, што выпакутавана, перажыта,— да тэмы аб вайне як найвышэйшым выпрабаванні сілы і духу людзей, якіх яна, вайна, адарвала ад мірнай, стваральнай працы і змусіла ўзяцца за зброю. Падступы да гэтай, скажам, сваёй галоўнай, скразной тэмы аб вайне, аб лёсе свайго пакалення, якое з гонарам і гордасцю вытрымала суровы яе экзамен, наканаваны лёсам,— разам з дзядамі і бацькамі выстаяла ў баях і паходах і заваявала вялікую Перамогу.

З вышыні гадоў, з вопыту салдата і сейбіта Аляксей Пысін прыходзіць да высновы, што не можа, не мае права

не сказаць усяго таго, што выпакутаваў, што перажыў за тыя 1418 дзён і начэй, пройдзеных у шынялі і касцы, з вінтоўкай і аўтаматам, і што бачыў і выпакутаваў на агнявых дарогах фронту.

Да гэтага былі два зборнікі вершаў: «Наш дзень» (1951) і «Сіні ранак» (1959). Пра першы сам паэт скажа, што тыя «вершы наіўныя, надуманыя, не сагрэтыя пачуццём». Зазначым, што перад тым, у 1950 годзе, Аляксея Пысіна аднагалосна прынялі ў члены Саюза пісьменнікаў. У зборніку «Наш дзень» я не знайшоў даваеннага верша «Ураджай». Значыць, патрабавальнасць да сябе, да ўсяго, што выходзіла з-пад пяра,— асаблівасць, рыса характару, якія, як і выключная сціпласць, нават сарамлівасць, зайздросна вызначаюць Пысіна — паэта і чалавека.

Вядома, што вершы ў зборніках «Наш дзень» і «Сіні ранак» пісаліся ва ўмовах, калі ў паэзіі пераважалі сузіральнасць і фактаграфічнасць. Пэўную даніну пафаснасці, рытарычнасці аддае і малады паэт, хаця чалавек з належным жыццёвым вопытам.

Вершы тыя пісаліся прыхваткам, у хвіліны адхлання і перадыху ад стамляючай газетнай «цякучкі». І жыццё пасля вайны было нішчымнае, нялёгкае. Памятаю, як у тым Новым Свержані Аляксей з жонкай і двума малымі дзецьмі туліўся ў пакойчыку-прыбудоўцы старой драўлянай хаціны. І ў паўразбураным пасляваенным Чэрыкаве жылося не лепш. З жыллём, як і апраткай, цяжка было ўсім, і на гэта не наракаў ніхто, нават паэты. Да рэдактара раёнкі, які пісаў і вершы, ставіліся многія абыякава, як да дзівака.

Як бы там ні было, але ўжо і ў першых вершах А. Пысіна ёсць тыя зярняты, што вызначаюць сапраўднага паэта,— свой голас, вострае адчуванне жыцця, пульс часу, жаданне сказаць людзям тое, што яго хвалюе, чым захапляецца, а што адмаўляе, што вярэдзіць душу.

Для мяне — чытача — і ў тых зборніках ёсць вершы і вобразы, якія засталіся шчырымі радкамі ў летапісе часу. Іх тэматыка — блізкія з'явы і факты жывой рэчаіснасці, будзень пасляваеннага аднаўлення, рэаліі нашага імклівага руху і росту; у іх пераважаюць сацыяльна-грамадзянскія матывы. «Магілёўскі шоўк», «Наш дзень», які стаў назвай кніжкі, «Наваселле», «Сокі», «Серп», «Трактарыст», «Насценная газета»... У вершы «Магілёўскі шоўк» ёсць радкі пра гвардзейскі сцяг, які «магілёўскім шоўкам вышывалі рускія жанкі». Гэта — пра сцяг 6-й гвардзейскай, пад якім і салдата-гвардзейца вяла ў бой за Радзіму

«дружба наша і народны гнеў». У пякуча-гнеўных радках — рашучае адмаўленне і асуджэнне вайны: «Прэч, вайна, з дарогі!» Паэт засяроджваецца на развагах аб лёсе свайго пакалення. Яно было, як крэмень, што стаў між жорнамі (верш «Крэмень», 1947).

Тэма вайны становіцца тым грунтам, першаасновай, што зрабілі пысінскую паэзію яркай і адметнай, паэта — вядомым і папулярным, а яго творчасць — з'явай, што выйшла за межы свайго краю. А. Пысін паступае на Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве, якія скончыў у 1958 годзе. Масква багата дала яму для павышэння агульнай адукацыі і культуры, для асэнсавання свайго прызначэння як паэта. А. Пысін пасля, у 1964 годзе, у той жа аўтабіяграфічнай нататцы напіша: «Салдацкая правата — правата сучаснасці. Правата дружбы і кахання, трывог і летуценняў, высокіх ідэалаў». Паэт зразумеў, што ў яго — салдата-франтавіка — высокі, адказны абавязак перад часам і перад сучаснікамі. Ён павінен сказаць людзям, якіх любіць і сам жыве між іх, праўду, праўду аб вайне — суровай школе, дзе ў кожнага быў свой, асабісты экзамен і выпрабаванне «па вытрываласць чалавечага ў чалавеку».

Як Васіль Быкаў у прозе, так Аляксей Пысін у паэзіі адкрыта і смела, з мужнасцю воіна-гвардзейца адстойвае свае погляды і прынцыпы, змагаецца за свае, часта нялёгка ўзятыя, вышыні. Не даюць яму спакою: «Брацкія магілы. Абеліскі. Абпаленыя плацдармы. Цені недачесеных штыкоў. Шчымлівы боль, журба па загінуўшых сябрах...» Вось чаму тое, што не напісана раней, як сам паэт прызнаецца, мусіць напісаць цяпер, у новым асэнсаванні і асвятленні.

Аглядаючы былое і заглыбляючыся ў перажытае, Аляксей Пысін, мабыць, зразумеў, што нявыдуманае — гэта само па сабе, магчыма, не менш вартае, чым тое, што прыдумана, як заўважыў у сваёй прадмове да сваіх ваенных дзённікаў Іван Мележ.

У 60-я гады паэт піша нямала і, галоўнае, упарта і самааддана шукае свайго самавыяўлення, працуе пакутліва, з высокай грамадзянскай адказнасцю. Для яго — паэта і грамадзяніна — адкрываюцца новыя, светлыя далягляды, сагрэтыя жывым дыханнем сапраўднай, высокай і мужнай паэзіі. Шчымлівы боль, журба па загінуўшых пабрацімах і сябрах — і наша чыстая і светлая журба, наш смутак, якія пераліваецца ў нашыя сэрцы: у ветэранаў будзіць успамін, ажыўляе памяць, у моладзі — прыналежнасць, дотык да ўсенароднай Перамогі ў апошняй вайне.

...Гартаю яшчэ зборнікі паэзіі паэта-друга — «Мае мерыдыяны» (1965), «Твае далоні» (1967), «Да людзей ідучы» (1972). Хвалююць гераіка турботных будняў, уражлівыя перамены ў жыцці, «вторжение» НТР у жыццё сённяшняй вёскі — усё ў чуйным полі зроку паэта, і яго рука, салдата і стваральніка, на пульсе сучаснасці, якую ён разумее ў цесным зліцці з мінулым, з гістарычнымі заваёвамі пакаленняў. Усё здабытае працай і бітвамі паэт прымае і апявае; усё добрае, чалавечае сцвярджае; ідучы да людзей, дапамагае ім узвысціцца ў сваім духоўным, маральным росце; заклікае духоўна ўдасканальвацца, гартаваць сваю грамадскую актыўнасць, павышаць грамадзянскую сталасць... Так будзённасць асвятляецца высокім духоўным святлом, якім струменіць душа паэта.

У тыя гады, як, дарэчы, і да апошніх дзён, Аляксей Пысін многа ездзіў па краіне — быў ён і ў Казахстане, у цалінніках, і на Калінінскіх сопках, дзе праходзіў з сябрамі-пехацінцамі, пастаяў з непакрытай галавой на вышыні свайго капітана Гальпіна, што назаўсёды застаўся ля Вялікалукскай грады; наведваўся ў Латгалію, дзе былі апошнія штурмавыя баі... Назвы вершаў гавораць пра тыя дарогі і сцяжыны, дзе пабыў, пераплаўляючы ўбачанае і перажытае ў паэзію: «Напэўна, буду сумаваць па Латвіі», «Сербайскі руднік», «Мост пад Таболам», «Над возерам Саркуль», «Ноч у Ташкенце», «Пісьмо на Рыжскае ўзмор'е»... Пасля далёкіх дарог і краявідаў усё бліжэй да сэрца — родныя, дзе «Буслы... Буслы на ссечаных дубах, як напамін, як боль па стратах». Да такіх прачула-шчымлівых вершаў, сагрэтых пачуццём замілаванасці да родных мясцін, як «Краснаполле», «Проня», «Яшчэ мне верыцца», «Любуж», «Вузел», напісаных раней, выліваецца цэлая гама новых лірычных пачуццяў, яркіх і адначасна сціплых радкоў, напоўненых чароўнымі гукамі і фарбамі. Яны навеяны сустрэчамі з роднымі мясцінамі, з успамінамі пра свой «салаўіны, глыбінны раён». Нібы спавядаючыся, паэт дэкларуе: «Усё прымаю, усё цаню па праву пабрацімства мёртвых і жывых...»

Лірыка набывае ўсё новыя якасці, яе абсягі шырэюць, яе поймы глыбеюць, і лірычны герой становіцца і як бы больш чуллівы, і больш сур'ёзны, засяроджаны ў сабе. Звяртаючыся да сябе з адвечным пытаннем, хто ты, чалавек, які ты ў гэтым неабсяжным свеце дабра і зла, праўды і «правдоподобия». Зноў жа паэт добра адчувае подых часу, крэўнасць з народам, умее радавацца радасцямі людскімі, блізка прымае чужую бяду, але яго ўсё больш трыво-

жыць, што неспакойна ў свеце, «трывога б'е ў планету». Паэт шчыра прызнаецца ў тым, што яго непакоіць: «Не пакідай мяне, трывога, будзь спадарожнікам маім...», «І мой суддзя — маё сумленне прад даллю будучых дарог».

Калі коратка сказаць пра зборнік «Мае мерыдыяны», дык асабліва ўражвае яго паэтычны напал — рэквіем салдатам, ветэранам вайны, тым, на абелісках якіх — толькі даты, «імёнаў многіх не знайсці». У гэтым, думаецца, выток усё мацнеючай сілы ўздзеяння паэзіі Аляксея Пысіна, які па абавязку і па праву салдата імкнецца і гаворыць сучасніку праўду аб вайне — толькі праўду, якая б горкая яна ні была... Зноў жа, не баюся паўтарацца, як у прозе Васіль Быкаў. «Для нас, беларускіх пісьменнікаў,— гаварыў на Усесаюзнай нарадзе літаратараў у Мінску ў 1975 годзе Пімен Панчанка,— тэма вялікага подзвігу савецкага народа застаецца галоўнай тэмай і галоўнай справай на ўсё жыццё».

Аляксей Пысін — адзін з тых, хто да канца аддана франтавому пабрацімству, памяці жывых і мёртвых, герояў мінулай вайны, і нясе варту вернасці самаадданa, з мужнасцю салдата і патрыёта. Хаця паэт часам і стамляецца, але гэта часовае — як прыпынак перад новай вышынёй. Глыбокая лірычнасць, прачулая, шчымлівая шчырасць, адкрытасць, бясхітраснасць душы лірычнага героя ў вершах зборніка «Твае далоні». «На схіле дня святла яшчэ даволі. О, як патрэбны мне твае далоні. Любоў мая. І калі стамлюся я праз меру, добра было б адчуць падтрымку рук тваіх».

Лірычны герой А. Пысіна, як адзначала крытыка, не адназначны: гэта душэўна шчодры, уражлівы чалавек, у якога ў тугі вузел звязана асабістае і грамадскае—ён часцінка ў свеце людскім. Жывыя вобразы і з'явы прыроды, на ўлонні якое жыве і творыць чалавек, уладар прыроды, але ж і яе кволае дзіця. Нязменным вобразам, якім шчыра, па-дзіцячаму захапляецца паэт, а гэта і яго лірычны герой,— ён хоча ўбачыць ластаўку ў палёце, падзівіцца на рабіну ў пушчы...

Зямля у воблаках і мяце —
Ляці увысь!
Глыбока сей!
Сасна паклікала, як маці,
Працяжна, глуха: «Аляксей!»

Вобраз роднай матулі — у розных праявах і абліччах — з'яўляецца перад паэтам. У яго самыя прачулыя і поўныя сыноўняй любові і пашаны словы да роднага, самага рад-

нейшага чалавека — маці. Яго паэзія можа раўняцца з усім лепшым, што стварылі сучасныя паэты на тэму пра маці. Народная мудрасць гаворыць: «Усім па долі, а маці за ўсіх болей».

Пры сустрэчах Аляксей успамінаў сваю маму. Як і ў вершах, так і пры размове, калі гутарка заходзіла аб родных мясцінах, аб сябрах-земляках, пра бацькоўскі дом; яго хвалююць жывыя малюнкі роднай прыроды. Маці — і слова, і сэрца: «А мы ўсё для яе дзеці, усё дзеці. Во каб мы шкадавалі яе, як шкадуе нас яна!..»

Ад маці, магчыма, і такая ўражлівая, шчымлівая душа, і любоў да песні, да лесу, да ўсяго жывога, што палоніць і хвалюе душу, асвятляе новым святлом перажытае. Паэт прызнаецца: «Мне ў жыта хочацца ўвайсці, мне вечнасцю здаецца жыта».

У лес многія ходзяць па вясну, па радасць, па маліну. Яму яшчэ маці казала:

> Пад арэшынай любімым быць,
> Пад вярбой — ліць слёзы,
> Пад рабінаю — чужых любіць,
> Удавой застацца — пад бярозай.

Гэта было парой, калі сад скідаў ліству сырую. А яе сын глядзеў на дрэвы ў акне і на маці, яшчэ не старую. Сына-паэта журыць успамін: «Чаго журылася яна. Можа, яе дзявочая вясна белаю вярбою ашукала?..»

Хвалююча, да шчымлівасці ў сэрцы падаецца вобраз маці ў вершы «Жніво». Смуга над плёсам... Прымроілася, што яна на паласе, ля воза снапоў, якія «ўціснуў дзед вяроўкаю тугою». Але загледзеўся, і маці ўжо няма. Даўно тое было, а боль душэўны не сціхае: «А я з тае пары, з тае пары цябе, матуля, даганяю...» Гэта напісана ў 1966 годзе — такое будзе хваляваць і паэта, і чытача заўсёды, бо выказана голасам сэрца; вобраз маці зліваецца з выявай усяго светлага, чыстага, чым жыве чалавек; любоў да маці — і любоў да роднай зямлі, да Радзімы. «Дала мне маці мову,— прызнаецца паэт,— як спадчыну, як запавет». І песня, якіх багата спявалі ў Высокім Борку, і крынічкі ў ваколіцах,— усё тое, матчына, хораша ўплятаецца ў лірыку: красуня белазубая, якая любаму ці нялюбаму ў рэчцы мые ручнікі. І з'яўляецца на свет цудоўны верш «Баркалабаўскія салаўі», як і іншыя, навеяны сустрэчай з роднай песняй. Канцоўка верша нечаканая: «Паджгай, паджгай крапіваю, як выйдуць басаནож». Якраз пра тых, хто забывае свае песні, хто не слухае, ці забываецца паслухаць сваіх, баркалабаўскіх салаўёў.

Пясняр, летапісец сучаснасці, ён і змагар, баец пярэдняга краю, заўсёды на варце вернасці веку, як сцяганосец на полі бою. Прага абнаўлення, паверка свайго сэрца і сумлення — у яго вобразах і ідэях. У зборніку «Да людзей ідучы» (1972) ёсць такія радкі: «Праўдзівы бой вядзе сумленне, ваюе сэрца не без страт, і можа ў гэтым абнаўленне ўсіх подзвігаў, былы салдат».

Жыццё паэта — гарэнне, творчасць. Яго шчасце — у радасці і шчасці людзей. Крытык Ул. Гніламёдаў, які адным з першых у паэзіі А. Пысіна падгледзеў моцны лірычны струмень, афарбаваны сацыяльна-маральным зместам і высокай грамадзянскасцю, адзначае, што ягоная лірычнасць не сузіральная — усё, што трапляе ў поле зроку паэта, сагрэта гарачым пачуццём, узгоднена з вопытам, пазначана глыбінёю асэнсавання. Адчуванне еднасці традыцыйнага і наватарскага, сучаснага і гісторыі — заўсёдная турбота лірыка. Усё, што робіць, чаго дасягнуў герой — не яго аднаго набытак; усё — для людзей, ім у спадчыну. Вострая памяць на перажытае — адна з вартасцей лірыкі А. Пысіна, яе надзённасць і актуальнасць. Паводле развагаў паэта, жыццё чалавека не канчаецца смерцю — прага абнаўлення, душэўная неўтаймаванасць, актыўнасць — яго эстэтычная вышыня, далягляды душы. І праз колькі гадоў дабрата і чалавечнасць вымяраюцца меркаю ваеннай пары. «Дні мае — маўклівыя сапёры — усё ідуць яшчэ з вайны». І яго сумленне вядзе праўдзівы бой. А як жа іначай?!.

Паэзія А. Пысіна, правільна адзначае той жа Ул. Гніламёдаў, па сваёй сутнасці глыбока гуманістычная. У вершах — невычарпальнасць вобразаў, шматгалоссе жыцця, яркасць фарбаў, звонкасць і суладдзе гукаў, кожную здавалася б дробную рэч ён асвятляе святлом свайго ўспрымання; у яго яркая, трапная дэталь, нечаканы паварот думкі, глыбіня мыслення. Усё гэта робіць паэзію А. Пысіна глыбока народнай.

Кніга «Ёсць на свеце мой алень» (1978) сведчыць, што паэту бачацца новыя, светлыя далі і зоркасць яго зроку пільная і відушчая. Жывучы між людзей, робячы сваю работу сумленна, з поўнай аддачай сіл, усё ж хвалюецца, «што, здаецца, устаў ён рана-раненька, ды хтосьці ўжо прайшоў па сцежцы лугавой». Багата вершаў пейзажных, прыродаапісальных, але гэта не лёгкія, аздобленыя знешнімі красамі замалёўкі, а глыбокая, філасофская лірыка, азначаная пробай арыгінальнага светаўспрымання, новымі абсягамі, аб'ёмнасцю і перспектывай. Замілаванасць і

чуллівасць паэта не ад старэчай слязлівасці і расслабленасці,— гэта дабрата, спароджаная вопытам і перажытым; усё тое, што складае духоўны і душэўны свет паэта. Чытач адкрывае для сябе новае, дагэтуль нябачнае,— і асалоду эстэтычную, і зарад натхнення. Вершы хочацца чытаць спакваля, не паспешліва, удумліва, бо паэт адкрываецца часам не адразу, яго думка не ляжыць на паверхні; паэт збірае таямніцы зямнога, не спяшаючыся, руплі-ва, пераканаўшыся, што «вечнасць сее па зярнятку», і там, дзе яно ўзыдзе, вырасце кветка Дабраты...

Як да бацькоўскай хаты, да тых крыніц, што віруюць яшчэ на аселіцах Высокага Борку, Забор'я, Горны, Горанкі, у лазняках рэчкі Палуж, часта вяртаецца ў думках паэт, і з'яўляюцца новыя, поўныя святла і праяў жывога, зямнога захаплення радкі. Мне бачыцца ўсё знаёмае і як бы новае: «Ветракі, старыя ветракі», «Знаёмы дзядзькаў двор. Каля двара», «Пятрусь Бядулін», «Варачка...».

Во, хіба не захвалюешся, прачытаўшы такое:

Жалезніца, Касцягаўка і Горна,
І вёска маці — светлыя Мануйлы,
Журба і радасць ціхая агорне:
Вы ёсць, не адляцелі, не мінулі!..

Успамінае паэт «Краёвы слоўнік» І. К. Бялькевіча. Чытаеш верш, і разам з паэтам нібы ў бабульчынай хаце пагасцюеш: «Прысядзь, маё ты дзетка, на ўслоне, а як жа бацька твой, а як жа маці?..»

Мне таксама ўсё як роднае і блізкае. Пазнаю і раённы аэрапорт, дакладна вымаляваны ў вершы пад такой жа назвай. Гэта — наша Краснапольшчына, раўнінна-гарысты, глыбінны раён, дзе во рукой падаць — пачынаюцца землі маці-Расіі.

Аэрапорт.
Паласаты мяшок,
Напяты дыханнем пагоркаў ліловых.
Антэна і домік. І рыжы стажок,
Увенчаны конусам жэрдак яловых...

Не забудзеш і такое з верша «Магілёўская гаворка»: «Куды хадзіў, сусед, ты сянні? Мядзведзя пасвіў на аўсянні...»

Аляксей Пысін — баявіты і ваяўнічы публіцыст. Чытаюцца, не старэюць ягоныя нататкі з далёкіх і блізкіх дарог, нарысы, эсэ, артыкулы па пытаннях літаратуры і мастацтва, рэцэнзіі, замалёўкі, рэпартажы з месца падзей — газета, якой ён аддаў многія самыя лепшыя гады і нямала маладой сілы і мужнасці, прывучыла да аператыўнасці;

16. Зак. 1969

тады працы ў ёй не прапалі дарэмна, паэт заўсёды быў гатовы да новай камандзіроўкі...

Гартаю, перачытваю яго нарысы і эсэ ў кніжцы «Бярозка ля кожных варот» — усхваляванае, зацікаўленае слова пра лёс народнага скарбу — песні, пра яе выканаўцаў і збіральнікаў. На жывых, яркіх прыкладах з роднай Магілёўшчыны А. Пысін засведчыў, як акрылілася і шануецца там народная песня. Захапляецца паэт талентам выдатных выканаўцаў песеннай спадчыны, якая беражна перадаецца ад пакалення да пакалення. Мы даведваемся пра песенныя вёскі, слаўныя на ўсю рэспубліку — Баркалабава, Варатынь, Усполле, Клін... Аказваецца, гэта з хоцімскай вёскі ўзляцела і ўзяла высокі палёт адна з папулярных, асветленая іскрыстым гумарам песня «Касіў Ясь канюшыну...». Зычліва расказвае Пысін і пра стварэнне Авяр'янам Дзеружынскім песні «Мяцеліца», якую многія лічаць народнай.

«Мне пашчасціла,— пісаў Аляксей Пысін,— колькі разоў сустракацца з баркалабаўскімі спявачкамі, гутарыць, а галоўнае слухаць іх песні». І як вынік — напісаўся верш «Баркалабаўскія салаўі», пра які ўпаміналася вышэй.

Знітаваная з народнай песняй паэзія А. Пысіна зямная — ад гоману бароў, звону крыніц, ад пошуму пад ветрам асакі — у ёй жывое дыханне жыцця. «Пакуль песня — у хлебе, хлеб — у песні».

...Звычайна ў застоллі, на сябрынах Аляксей не надта быў разгаворлівы; ён больш слухае, чым гаворыць, не надта расказвае пра свае вершы, а больш пра таго, хто з землякоў напісаў нешта цікавае, любіць ён «даць дарогу» маладому, радуецца, калі на Магілёўшчыне з'явіцца новае імя; нарадзіцца і выйсці ў людзі памог Пысін не аднаму з тых, хто сёння ў шэрагах нашых беларускіх паэтаў і празаікаў.

Умеў Аляксей і пажартаваць, расказаць звычайную навіну ці вясковае здарэнне, але больш яго турбуе, што недзе робіцца не так, як хацелася б. Асабліва яго турбуюць праявы раўнадушша да прыроды, да ўсяго прыгожага, што акружае нас, і трывога і боль за рэчку, якая забруджваецца, за лес, які часам глуміцца, за зямлю, якая нас корміць і дае нам жыццё. Чалавечнасцю, трывогай за лёс і спакой на зямлі прасякнуты вершы, сабраныя ў кнізе «Ёсць на свеце мой алень», што выйшла з друку ў 1978 годзе. У вершы пад такой жа назвай ёсць прачулыя і ўсхваляваныя радкі, звернутыя да людзей разумных і добрых: «Дайце жыць майму аленю пад галінкай дабраты».

Кніга гэтая — новая вышыня ў паэзіі, адоленая Пысіным, вышыня, імя якой — майстэрства, сплаў думкі і пачуцця. Паэт, як заўсёды, на нязменнай варце вернасці; яго багатая і шматмерная паэзія — на пульсе сучаснасці; ён застаецца верным маўклівай клятве «сваёй зямлі, і плугу, і каню».

Цікава і хораша Аляксей Пысін пісаў для дзяцей. У 1979 годзе выйшла яго кніга «Колькі сонцаў» — вершы і паэмы. Як не трэба лепш сказаў пра дзіцячыя вершы сам паэт: «Тут — усе мае сонцы душы і сэрца».

Да Аляксея Пысіна, заслужанага работніка культуры, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі БССР імя Янкі Купалы, прыйшла шырокая вядомасць, заслужаная слава. Яна набыта ў нястомнай працы, у карпатлівай рабоце да змору, да знямогі — настойліва ішоў ён па шляху да майстэрства, адольваючы па-салдацку вышыню за вышынёй. Нялёгкія былі гэтыя вышыні, і браць іх даводзілася часам як з бою.

У росквіце духоўных сіл абарвалася яго дарога. З намі няма паэта, але жыве яго паэзія, вядзе бой за мір, за спакой на зямлі. Аляксей Пысін, паэт, камуніст, грамадзянін — у баявых парадках. І ціхая рачулачка, якую так настойліва абараняе паэт, не затравее, уліецца ў акіян паэзіі.

## ЗАЧАРАВАНЫ КРАСОЮ НАДДЗВІННЯ...

Яшчэ ў 1939 годзе, помніцца, на старонках «Звязды» часта сустракалася імя спецкора газеты Тараса Хадкевіча. Нават памятаю зборнічак вершаў з натхнёнай, падбадзёрваючай назвай «Смялей, таварыш!». Яго выдаў Тарас Хадкевіч у 1932 годзе, калі вучыўся ў Мінскім педінстытуце імя М. Горкага.

Мяне тады, селькора, захаплялі вясковыя нарысы Макара Паслядовіча, Міколы Вішнеўскага, Алеся Матусевіча, Паўла Кавалёва і, канечне, Тараса Хадкевіча. Яны хораша і ўзнёсла пісалі пра людзей, якія ператвараюць багны і балоты ў квітнеючыя палеткі, пра нараджэнне і развіццё новых адносін паміж людзьмі ў маладых калгасах і саўгасах.

Нашы вясковыя актывісты, настаўнікі, культармейцы наладжвалі гучныя чыткі нарысаў Т. Хадкевіча ў клубах

і хатах-чытальнях, прыглядаліся да сваіх землякоў, шукалі ў іх падабенства з героямі пісьменніка.

Надзённыя, жывыя матэрыялы з самых розных куткоў Беларусі, дзе кіпелі гарачыя будні новага, савецкага жыцця, ішло змаганне за сацыялістычную культуру, хвалявалі кожнага, хто і сам прагнуў на пярэднія рубяжы будаўніцтва сацыялізма: туды, дзе запальваліся залатыя агні Асінбуда, пракладваліся магістральныя каналы на непраходных Мар'інскіх балотах...

Нам, вясковым актывістам, дапамагалі карэспандэнцыі на старонках «Звязды», «Чырвонай змены», у часопісах; па іх вучыліся і мы, спрабуючы выказваць свае пачуцці і думкі ў слове.

Дэмабілізаваўшыся з Савецкай Арміі ў канцы 1945 года, я стаў працаваць у рэдакцыі газеты «Чырвоная змена», што размяшчалася ў Доме друку, на трэцім паверсе, і сустракаўся з карэспандэнтамі «Звязды», якімі захапляўся ў пару свайго юнацтва.

Размашыстым, спорным крокам па калідоры праходзіў, як мне тады здавалася, мажны чалавек даволі сталых год у шырокім, як навырост, шэрым, у елачку, паліто, з накладнымі кішэнямі, у цяжкіх салдацкіх чараўіках. Гэта і быў Хадкевіч. Найчасцей з заклапочаным тварам, сурова сцятымі вуснамі; з-пад густых броваў молада паблісквалі глыбока пасаджаныя карыя вочы. І абавязкова пад пахай ці ў вялізнай, адтапыранай кішэні быў скрутак газет. Часта хадзіў ён не адзін, а ў кампаніі двух сваіх калег-журналістаў. Адзін — Алесь Матусевіч — высокі, сутулаваты, з белымі, як пасыпанымі серабрыстай шэранню валасамі. Другі — Мікола Вішнеўскі — камлюкаваты, з лагодным тварам, у акулярах, якія ўвесь час, ідучы, папраўляў.

Аднойчы я зайшоў у рэдакцыю «Звязды». За сталом сядзеў Алесь Матусевіч, абкладзены вынятымі лісткамі з блакнота, а побач, за другім сталом, быў Тарас Хадкевіч. У карычневым, добра падагнаным гарнітуры, у белай у тонкую палоску кашулі, пад гальштукам.

На стале стаялі чарнільны прыбор і попельніца. Тарас зацята дыміў папяросай...

Я назваў сябе і застаўся стаяць у парозе. Алесь Лявонавіч, цёпла ўсміхаючыся, сказаў:

— А, чырвонавец, праходзь, братка, не саромся. Не зважай, што ў мяне тут на стале такое бязладдзе. Спяшаюся. Рэдактар запатрабаваў нарыс у нумар, а я наважыў пасля камандзіроўкі даць сабе адгул, але забег у рэдакцыю, і мяне, бачыш, прывязалі... Калі што якое, то можаш

параіцца з Тарасам, ён у нас чалавек свойскі, не пакрыўдзіць...

— Я вось быў у камандзіроўцы,— пачаў нясмела,— на Палессі, у Хойніках. Там ствараюцца маладзёжныя звенні... Хацеў бы выступіць з артыкулам, ды баюся, ці атрымаецца...

— Не багі гаршкі лепяць. Бярыся, пішы!..— ажывіўся Хадкевіч, варухнуў плячом.— Прысаджвайся, паталкуем...

Мы пазнаёміліся. Пасля калі Тарас Канстанцінавіч праходзіў па калідоры, то пры сустрэчах павітаецца, пацісне руку, а то і запытае: «Ну як, што пішаш, браце?!»

Калі я ўжо крыху асвоіўся з новай для мяне работай журналіста і надрукаваў першыя карэспандэнцыі і артыкулы, то пазнаёміўся і з Міколам Вішнеўскім, тады загадчыкам сельгасаддзела «Звязды».

У газеце «Звязда» часта друкаваліся іх матэрыялы. Неўзабаве з'явіліся апавяданні Тараса Хадкевіча, і я пачаў бліжэй прыглядацца да гэтага спаважнага, засяроджанага чалавека, шукаў у яго знешнім abліччы нешта такое, што выдавала яго за чалавека, які мае выключныя здольнасці. Сапраўды, ён паспяваў і працаваць з дня ў дзень у рэдакцыі, і, як і ўсе супрацоўнікі, дзяжурыць па нумары, часта выязджаў у камандзіроўкі. Да ўсяго гэтага былі чуткі, што ён піша аповесць. Канечне, пра тое, што ён піша, я саромеўся распытваць. Больш блізкае наша знаёмства адбылося пазней, калі мы пачалі сустракацца на розных нарадах у Саюзе пісьменнікаў, на пісьменніцкіх пленумах і з'ездах.

У сваёй аўтабіяграфічнай нататцы «Ад палёў наддзвінскіх» у кнізе «Пяцьдзесят чатыры дарогі» Тарас Хадкевіч пасля напіша вельмі коратка пра сябе: нарадзіўся ў 1912 годзе ў вёсцы Шайцерава, за трынаццаць кіламетраў ад Дрысы (цяпер Верхнядзвінск). Як і ўсе дзеці беднякоў, у маленстве зведаў голад і холад; сям'я перабівалася на «мякінніках», «шчавельніках». З сямі гадоў пайшоў «у людзі», летаваў у суседняй вёсцы ў цёткі. Старэйшая сястра Валянціна, якая працавала настаўніцай, прыахвоціла да чытання. «Цяпер ужо,— прызнаваўся Тарас Хадкевіч,— у торбачцы, акрамя акрайчыка хлеба, ляжала кніжка».

Цяга да літаратуры, да роднай мовы, вялікае жаданне выказаць мары, пачуцці хвалявалі юначае сэрца Тараса. У школьныя гады, калі Тарас вучыўся ў сямігодцы ў мястэчку Валынцы, пачаў пісаць вершы. Тарас Хадкевіч — у кагорце першых камсамольцаў на Полаччыне, актыўна

ўдзельнічае ў грамадскім жыцці. Яго вылучаюць рэдактарам насценгазеты. Жаданне вучыцца прывяло ў Полацкі педтэхнікум, дзе тады вірыла літаратурнае жыццё. Малады паэт друкуе вершы ў акруговай газеце «Чырвоная Полаччына», у мінскім часопісе «Чырвоны араты», знаёміцца з паэтамі і пісьменнікамі, што групаваліся вакол газеты. Тут у яго пачынаецца дружба з П. Броўкам, А. Астрэйкам, Я. Скрыганом, Э. Самуйлёнкам. Увосень 1928 года Т. Хадкевіч — штатны супрацоўнік газеты, літработнік, а пасля — адказны сакратар. Маладыя жывуць адной камунай, разам мараць аб паэзіі і жыцці, разам пішуць у вольны ад рэдакцыйных спраў час.

Імкненне да вучобы, да пазнання з'яў навакольнага свету не пакідае дапытлівага юнака, і ён у 1931 годзе едзе ў Мінск, здае экзамены ў педінстытут імя М. Горкага. Нялёгка было вучыцца сялянскаму сыну, выхадцу з бядноў, з глухамані. Т. Хадкевіч уладкоўваецца на працу ў рэдакцыю «Чырвонай змены», вечарамі ў рэдакцыі чытае карэктуру, апрацоўвае допісы і карэспандэнцыі. Часу для пісання сваіх твораў не было, а пісаць імкне душа, перапоўненая пачуццямі. Давялося зрабіць выбар: Хадкевіч з другога курса ідзе на сталую работу ў рэдакцыю. У 1934 годзе яго прызываюць на тэрміновую службу ў Чырвоную Армію. Ён і там не пакідае літаратурнага занятку: піша вершы і апавяданні, артыкулы. Друкуецца ў беларускіх выданнях і газеце «Красноармейская правда». Нават пачаў рыхтаваць новы зборнік вершаў. Армія дала яму шмат для духоўнага росту і сталення.

Вярнуўшыся з вайсковай службы, Т. Хадкевіч з 1936 года і да пачатку Вялікай Айчыннай вайны плённа працуе ў журналістыцы. Раз'язны карэспандэнт «Звязды», поўны энергіі і энтузіязму, ён аддаецца цалкам любімай справе. Журналісцкія дарогі вядуць няўрымслівага газетчыка ў самыя далёкія і глухія раёны рэспублікі, на важнейшыя новабудоўлі, на сустрэчы з праслаўленымі людзьмі, героямі першых пяцігодак... У 1939 годзе Т. Хадкевіч у якасці карэспандэнта «Звязды» кіруецца ў вызваленыя Заходнія вобласці Беларусі, піша нарысы аб людзях вольнай беларускай зямлі, аб стварэнні калгасаў на Піншчыне...

Праца над мастацкімі творамі — а пра гэта ўвесь час ён клапаціўся — усё адкладвалася: напружаныя газетныя будні забіралі яго ўсяго.

За месяц да нападу фашыстаў на нашу краіну Т. Хадкевіча накіроўваюць на курсы штабных афіцэраў запасу, і 21 чэрвеня 1941 года ён прыехаў на дзень у Мінск, да

сям'і (у яго ўжо былі жонка і дачка Івета двух год), а раніцай над горадам каршунамі павіслі нямецкія самалёты...

Свой зборны пункт адшукаў ён у лесе, за Чавусамі. Пасля Мажайска былі трохдзённыя курсы і накіраванне на фронт у раён Тарапец-Асташкаў...

Як камандзір узвода, Т. Хадкевіч удзельнічае ў баях на Калінінскім напрамку і ў адным з баёў паранены, разам з некалькімі байцамі трапіў у нямецкі палон. Пра гэта ён успамінаў так: «Пабываў у страшных лагерах ваеннапалонных, дзе ад голаду, здзекаў і хвароб паміралі сотні чалавек у дзень, у «шталагах» і на земляных работах у Германіі».

Як і многіх палонных, што зведалі катаржныя работы, ганьбу і здзекі, карцэры і турмы, Т. Хадкевіча вызваліла ў 1945 годзе Савецкая Армія. «Ужо ў арміі,— згадваў Т. Хадкевіч,— я пабываў у розных мясцінах Чэхаславакіі, Венгрыі, Польшчы. Дэмабілізаваўся ў сорак пятым, увосень, і прыехаў у Мінск».

Знявечаны, разбураны Мінск уразіў больш, чым тое, што давялося бачыць у сёлах і гарадах Еўропы. Дамок, у якім жылі Хадкевічы ў жончыных бацькоў, згарэў. Клаўдзія Іванаўна з дачкой і старой маці гібелі ў хаціне, збітай са старых, абгарэлых дошак і аполкаў.

Уладкаваўшыся ў рэдакцыю «Звязды» на пасаду раз'язнога карэспандэнта, Т. Хадкевіч наведаў родныя мясціны. Бязлітасны лёс вайны не мінаваў і яго родных. Сястру Валю, настаўніцу, фашысты закатавалі за сувязь з партызанамі. Браты Кастусь і Леанід прайшлі праз ваеннае ліхалецце, але засталіся жывыя.

У час вайны Т. Хадкевіч не пісаў, і гэта зразумела, але ўсё перажытае прасіла выйсця. «Нягледзячы на перанесеныя пакуты, творчай энергіі назапасілася, відаць, багата»,— скажа ён потым у аўтабіяграфіі.

Сапраўды, пасля вайны настала як бы другое нараджэнне пісьменніка. Нягледзячы на неўладкаванасць быту і цяжкія матэрыяльныя ўмовы, Т. Хадкевіч працуе актыўна і плённа. На старонках «Звязды», як і ў даваенныя гады, друкуюцца яго артыкулы і нарысы. Чытачы знаёмяцца з яго апавяданнем «У вагоне» — пра радасць і хваляванне дэмабілізаваных воінаў, якія вяртаюцца з крывавых палёў вайны да мірнай стваральнай працы.

У спецыяльнага карэспандэнта «Звязды» Хадкевіча адбываюцца цікавыя і жаданыя паездкі. Цягніком, самалётам, на спадарожнай фурманцы і на параходзе дабіраецца ён у самыя далёкія, глухія куткі Палесся, на род-

ную Віцебшчыну, падарожнічае па Гомельшчыне і Гродзеншчыне, сустракаецца з ільнаводамі і механізатарамі Магілёўшчыны. Балюча сціскаецца сэрца ад таго, якой апустошанай і знясіленай стала зямля роднай Беларусі. «І тым не менш,— гаварыў пісьменнік,— я бачыў вялікую радасць у людзей, прыўзняты настрой, поўны светлых спадзяванняў ад таго, што здабыта слаўная перамога над ворагам, наступіў мір...»

У пранізанай золкімі вятрамі хаціне на Саламянай вуліцы, пры газоўцы, напісана першая аповесць «Братэрства». Матэрыялам для яе паслужылі ўспаміны аб фашысцкім палоне. Аўтару не трэба было прыдумваць сюжэт і вострыя сітуацыі, у якіх апынуліся і дзейнічалі героі. Сам аўтар, як і яго галоўны герой, пасля нядаўніх уцёкаў з-пад Дрэздэна, трапіў у Ніжнюю Саксонію, на аўтазавод, куды былі прывезены многія рабочыя з розных краін Еўропы. З двума таварышамі Тарас зрабіў спробу вырвацца з палону. Праз Рудныя горы ўцекачы забрылі ў Чэхаславакію, дзе былі схоплены гітлераўскімі карнікамі. Пачалося турэмнае жыццё, а пасля катаржныя работы ў шахтах, каля чэшскага горада Мост. Ранняй вясной 1945 года група палонных, у іх ліку і Хадкевіч, сустрэла савецкіх воінаў-вызваліцеляў. Аповесць «Братэрства» была надрукавана ў 1946 годзе ў часопісе «Полымя». Творчая ўдача акрыліла аўтара. У 1947 годзе Т. Хадкевіча прымаюць у члены Саюза пісьменнікаў БССР.

Вельмі жыва помніцца адна з сустрэч у Каралішчавічах. Была ранняя вясна 1969 года. Пасля абеду мы пайшлі дарожкай у бок балаціны, дзе ў шэрых коціках драмалі на шчодрым сонцы вербалозы і алешыны, акаймаваныя ярка-зялёным ельнікам.

Каля балотца з куста віслакосага арэшніку Тарас выразаў дубец. Было цёпла. Пахла прэлым лісцем, нагрэтай хвояй. На ўгрэве цвіла сон-трава...

Я расказаў Тарасу Канстанцінавічу пра матылёў, якіх во толькі што бачыў на сонечным пагорку, каля дарогі. Неўспадзеўкі ўзвірыўся ветрык, імклівы, густы. А сонца шчодрылася, адаграваючы хвоі, яліны, драбналессе, напаўняючы лес шолахам і гукамі жыцця.

І мне чамусьці прыгадалася, як мы, вясковыя хлапчукі, ранняй вясной, дачакаўшыся сонца і першых праталін, басанож ганяліся за матылямі, дурэлі, нібы тыя ж мятлушкі.

Тарас уважна і моўчкі стругаў сцізорыкам дубец; на яго засяроджана пахмурым, маладжавым твары блукала

цёплая, усмешлівая дабрыня. З-пад навісі кусцістых броваў бліснуў карымі вачмі, тады як бы сам сабе ціха, глухаватым голасам сказаў:

— Вось пра гэта і пішы... Для пісьменніка гэта не дробязь! Усё тое, што цябе ўзрушыць, не прапускай міма вушэй...

І ўрупіўся ў сваё — спаважна маўчаў. Пасля неяк зачапілі тое, як яму пісалася адразу пасля вайны, калі ён працаваў у рэдакцыі газеты «Звязда», а пасля ў рэдакцыі газеты «Літаратура і мастацтва». Тарас Канстанцінавіч разгаварыўся. Такое з ім не часта здаралася. Заўсёды ён быў нешматслоўны. Павітаецца, спытае «як маешся?» і, развітаўшыся, ідзе сваёю дарогай... Тады ж у яго быў нейкі своеасаблівы, можна сказаць, вясновы настрой. З уласцівай яму ўнутранай узрушанасцю ён гаварыў і гаварыў. Памятаю, прыгадаліся непрыкметна і гады ваеннага ліхалецця.

— Тое, што я бачыў, што сам, як кажуць, адчуў на ўласнай скуры,— задумліва гаварыў Тарас Канстанцінавіч,— яшчэ не апісана так, як хацелася б... І тое, што я апісаў у аповесцях «Братэрства» і «Рэха ў гарах»,— толькі невялікая часцінка перажытага, выпакутаванага разам з таварышамі па няволі і змаганні. Галоўнае ж, што, нягледзячы на здзекі і пакуты, мы і там, за калючым дротам шталагаў, у цёмных штольнях падзямелля заставаліся людзьмі, якія верылі ў нязломнасць і моц нашай арміі, у сілу братэрства, якое дапамагала нам у самыя цяжкія хвіліны...

Са стрыманай усмешкай, якая часта, калі не заўсёды, цеплілася ў куточках ягоных строгіх вуснаў, Тарас Канстанцінавіч дадаў, кінуўшы позірк на гадзіннік:

— Пойдзем, бо, мабыць, ужо час вяртацца.— І каб неяк закончыць сваю споведзь-расказ, вымавіў сваё любімае: — Як каму пашанцуе...

Я толькі кіўнуў галавою ў знак згоды, бо заўсёды адчуваў сябе перад ім вучнем, з пашанай адносіўся да ягоных парад і да ўсяго, што ён выказваў у час таварыскіх сустрэч.

Запомнілася яшчэ адна гутарка Тараса Канстанцінавіча ў тых жа Каралішчавічах. Размова ішла, помніцца, пра новы раман Уладзіміра Карпава. Уладзімір Барысавіч гаварыў, што пісьменнік, мастак нават самыя агульныя праблемы вырашае заўсёды на канкрэтным, на «сваім» матэрыяле... І Хадкевіч згаджаўся.

Яны — Карпаў і Хадкевіч — па-мойму, шчыра сябра-

валі, разумеліся і паважалі працу адзін аднаго як пісьменнікі, як пабрацімы, якім выпаў нялёгкі лёс падчас мінулай вайны.

Т. Хадкевіч, ураджэнец лясных і азёрных мясцін Наддзвіння, любіў і тонка адчуваў прыроду, быў зачараваны някідкай, але дарагой і мілай сэрцу беларуса прыгажосцю паўночных краявідаў. Ён пісаў аднойчы, што адлюстраванне адзінства адчування прыроды і чалавека важна для псіхалогіі творчасці.

На адной са сваіх сустрэч з нарысістамі, калі Хадкевіч працаваў у Саюзе пісьменнікаў БССР кансультантам, ён гаварыў пра стаўленне творцы да сваёй працы: «Наша задача, задача публіцыстаў,— пазбегнуць звычайнай, сумнай біяграфічнасці; мастак павінен па-мастацку, вобразна бачыць; па-свойму ўсё бачанае асэнсоўваць, падвергнуць так званай роздумнасці. Чытач павінен убачыць вобраз таго чалавека, пра якога ты пішаш...»

У рамане «Даль палявая», які быў скончаны ў лістападзе 1957 года і выйшаў асобным выданнем у 1959 годзе, большасць герояў, як прызнаецца аўтар, «у большай ці меншай меры мела прататыпаў». Твор гэты станоўча быў ацэнены крытыкай; яго праўдзівасць і жыццёвасць была прыхільна прынята чытачом. Удача пісьменніка — вобразы Паходні, нампаліта МТС, калгасных энтузіястаў Заранiка і Марынкі.

Нягледзячы на складанасць і перыпетыі жыцця, яго трагічныя і светлыя моманты, адлюстраваныя ў рамане, чытачу імпанавалі ўласцівыя творчай манеры Т. Хадкевіча аптымізм, веліч і хараство апісанага жыцця. Заканчваецца раман сустрэчай Яхновіча і Паходні, які ўзначаліў узбуйнены калгас: «І такія бязмежныя, залітыя сонцам палявыя далі распасціраліся навокал, што, які б ні быў у чалавека настрой, яны ўлівалі ў яго душу свежасць, прагу жыцця, бадзёрылі і вабілі...» Галоўны герой рамана Лявон Паходня, у жыцці якога было шмат і радасці, і смутку, упэўнены, што заўтрашні дзень адкрые для яго новае, нязведанае. Гэтае імкненне, светлае адчуванне хараства перадаецца і чытачу, які верыць героям, верыць аўтару. Нельга не палюбіць тых жа рамантыкаў, якімі былі малады паэт Заранік і яго любімая дзяўчына Мара-Марынка. Шмат святла ў рамане, шчыра, рамантычна жывапісуецца каханне, самае глыбокае пачуцце, якое акрыляе душу.

Крытыкі адзначалі пэўную незавершанасць і прабелы ў сюжэтных лініях рамана, але гэта акупляецца пошукамі свайго, унутранага напаўнення, якое раскрывае паво-

дзіны і ўчынкі герояў. «Перада мною,— расказваў пісьменнік,— былі героі, з іх асаблівасцямі і характарамі, якія і склалі аснову твора — яго сюжэт...»

Тарас Хадкевіч любіў сваё Наддзвінне. Усе яго фарбы — ад палёў і лясоў наддзвінскіх. За трынаццаць кіламетраў ад Верхнядзвінска ў вёсцы Шайцерава ў бацькавай хаце жыла яго сястра Стэфа. Ваколіцы Шайцерава прываблівыя. Побач рэчка Дрыса. Вакол заліўны луг. Любіў Тарас пабыць з трактарыстамі, пасядзець з касцамі, пастухамі пры вогнішчы... Вельмі ўмеў пісьменнік сябраваць з землякамі. І яны яго паважалі, цанілі яго думкі, парады. Адзін з іх, дзядзька Рыгор, з якім Тарас любіў пагаварыць, стаў прататыпам для многіх апавяданняў, нарысаў.

Многія, каго вывеў «у людзі» Тарас Хадкевіч, удзячныя яму за падтрымку і зычлівасць, успамінаюць яго як добрага і спагадлівага настаўніка. Мікалай Кругавых, Алесь Савіцкі, Міхаіл Герчык, Алесь Масарэнка, Валянцін Лукша — далёка не поўны пералік пісьменнікаў, якіх благаславіў у добры шлях Т. Хадкевіч.

Я і сам не раз адчуваў, як дапамагае цёплае, зычлівае слова, шчырасць старэйшага таварыша.

Як зазначыў некалі Л. Талстой, вартасць мастацкага твора вызначаецца тым, наколькі шчырыя адносіны мастака да свайго прадмета, а гэта значыць, наколькі ён верыць у тое, што адлюстроўвае.

Тараса Хадкевіча мы не можам папракнуць за няшчырасць ці барабаншчыну, на якую падкія яшчэ часам іншыя маладыя і не маладыя белетрысты і публіцысты.

Урокі, якія падаваў ён малодшым таварышам, не ўстарэлі; яны і сёння актуальныя і садзейнічаюць паляпшэнню ўзроўню нашай нацыянальнай публіцыстыкі. У артыкуле «Нарыс у газеце» Т. Хадкевіч пісаў: «Нялёгка, зразумела, пісаць не пра выдуманых, як, напрыклад, у апавяданні, а пра жывых, рэальна існуючых людзей, знаходзіць неабходныя дэталі, факты, сітуацыі, дзе б праўдзіва раскрываліся характары гэтых людзей. Але ў гэтым жа і заключаецца асаблівасць работы нарысіста, што ён, як і наогул пісьменнік, павінен быць выключна назіральным, заўважаць тое, што можа быць незаўважным для іншых, глыбока ўнікаць у жыццё, правільна разбірацца ў тым, што ўбачыў і пачуў, умець выбіраць з бясконцых фактаў самае патрэбнае, характэрнае».

Мы, нарысісты, лічылі Тараса Канстанцінавіча справядлівым і шчодрым сваім настаўнікам. Вучыў ён не толь-

кі спагадлівым словам, парадай, а найбольш асабістай працавітасцю, здольнасцю назіраць вакол сябе ўсё добрае, новае, маладое, стараўся заглыбляць у жыццё і аператыўна адклікаўся на рытмы часу, на ходу сучасніка.

Як і Іван Мележ, Тарас Хадкевіч сцвярджаў, што толькі жыццё, вопыт, перажытае могуць стаць грунтоўнай асновай для сур'ёзнай мастацкай творчасці.

«Чытанне,— гаварыў Тарас Канстанцінавіч,— пісьменніку патрэбнае, як паветра. Вядома, чытанне сур'ёзнае, удумлівае».

Я тады не адважыўся ды, мабыць, і не даўмеўся спытацца ў яго, хто яго любімыя пісьменнікі, якіх ён чытае, перачытвае. А дарэмна.

Цяпер, праз колькі гадоў пасля, як Тараса Хадкевіча не стала, гэтае пытанне я згадаў яго сыну, Леаніду Хадкевічу, які працуе ў музеі Янкі Купалы, і ён адказаў, што Тарас Канстанцінавіч любіў класікаў, ахвотна чытаў мемуары, асабліва захапляўся ўспамінамі Г. К. Жукава.

...Мы неаднойчы гаварылі з Тарасам Хадкевічам пра публіцыстыку. Пасля прачытання яго зборніка «Сад у квецені» я сказаў яму, што мне спадабалася ў ім аднайменнае апавяданне. Сваёй праўдзівасцю і цікавай думкай — аб сапраўдным прызначэнні чалавека, які сваім жыццёвым крэдам лічыць духоўнае ўдасканаленне.

— Тэма для пісьменніка,— сказаў тады Тарас Канстанцінавіч,— гэта яго лёс, яго парыванні і хваляванні душы. Усё залежыць, браце, ад вопыту, ад перажытага і галоўнае — ад умення ўсё перажытае рэалізаваць, увасобіць у слове, у вобразах...

— Кожная творчая рэч, кожны твор, мабыць, у нейкай меры аўтабіяграфія аўтара? — запытаў я.

— А як жа! — згадзіўся Тарас Канстанцінавіч, а потым разважна дадаў: — Канечне, у тым сэнсе, у якім аўтар здольны на фантазію; якія ў яго сілы і здольнасць пераўвасаблення, а яшчэ ж — запас памяці, эрудыцыя!..

Размова пераключылася на пытанні аб дружбе, таварыскай узаемавыручцы паміж творчымі людзьмі.

— Моцная дружба, відаць, магчымая толькі між роўнымі,— сказаў я.

Тарас маўчаў, толькі хмурыў крылатыя бровы, тады неяк, бы сам для сябе, прамовіў:

— Гэта яшчэ трэба падумаць...

Пасля ўжо, кранаючыся гэтай тэмы, Тарас Канстанцінавіч гаварыў аб тым, што дружба — менавіта тое, без чаго чалавек «обречен» на пакуты і адзінокасць... Інакш

кажучы, ён будзе чаўрэць, як тая расліна, што ў вазоне, без святла і вільгаці...

— Дружба з Броўкам, у прыватнасці,— прызнаўся Тарас Хадкевіч,— мне заўсёды памагала, і мы, нягледзячы, як кажуць, на рангі і становішча, былі да канца сябрамі, дружылі... Дай бог кожнаму мець такога друга, як Пётр Усцінавіч. Як казалі даўней, дружба — самы лепшы падарунак для людзей пасля мудрасці...

У 1962 годзе Т. Хадкевіч пасля свайго 50-годдзя пісаў: «Хоць за плячыма ў мяне паўстагоддзя, а многае-многае яшчэ не напісана, не выказана, у галаве роіцца шмат творчых планаў...»

Час паказаў, што Т. Хадкевіч зрабіў у апошняе дзесяцігоддзе нямала. Пісаліся апавяданні, нарысы, кнігі для дзяцей. Апошняй кнігай пісьменніка стаў раман «Песня Дзвіны», дзе ён дасягнуў новых вышыняў майстэрства. Раман яму, нягледзячы на хваробу, якая навалілася, можна сказаць, знянацку, удалося закончыць у канцы 1972 года.

«Песня Дзвіны» — кніга паклічнай эмацыянальнай сілы і аптымізму, уласцівых усяму лепшаму, што створана пісьменнікам больш як за сорак гадоў творчай працы.

Сам аўтар так вызначыў ідэйны і мастацкі змест рамана: «У аснове твора біяграфія двух пакаленняў савецкіх людзей: старэйшага, якое адбудоўвала краіну і адстаяла яе ў бітвах, і малодшага, пасляваеннага; і біяграфія двух гарадоў — старажытнага і новага, маладога».

Нельга без хвалявання і душэўнага ўзрушэння чытаць узнёсла-шчырыя і поўныя юнацкага захаплення радкі, адрасаваныя чытачу «Песні Дзвіны»:

«Нізкі паклон табе, Заходняя Дзвіна, мая радзіма, калыска майго маленства, невычэрпная радасць маіх сталых год!

...Не злічыць стагоддзяў, што прашугалі над табой, зніклі ў сівізне мінуўшчыны... Змяняюцца часы і падзеі, новыя пакаленні ідуць у бой за чалавечае шчасце. А ты, сведка нязмернага часу, плывеш і плывеш, убіраючы ў сябе ўсё — і добрае, і благое, і гоман тваіх хваль падобны да спрадвечнай нескančонай песні.

Нізка схіляю галаву перад тваёй вечнасцю...

Я шмат блукаў па тваіх берагах...

І ўсё, што бачыў і чуў, здаецца мне адной бястраплыннай песняй. Тваёй песняй, родная Дзвіна».

Гімнам стваральнай працы заканчваецца раман, і суладна з палётам у будучыню ўсёй шматнацыянальнай са-

вецкай Радзімы шуміць і працуе Дзвіна. «І ў плёскаце яе хваль чуецца песня аб жыцці, што расквітнела на яе берагах...»

Вельмі сціпла пісьменнік вызначае вартасць свайго апошняга твора: «Гісторыя, расказаная ў гэтай кнізе,— адбітак жыцця, водгалас яго, маленькі ўрывак з той нескончонай і неўміручай песні».

Кнігі Тараса Хадкевіча перакладзены на многія мовы народаў СССР і мовы сацыялістычных краін. Іх аўтар узнагароджаны ордэнамі Працоўнага Чырвонага Сцяга, «Знак Пашаны» і медалём «За працоўную доблесць». У 1972 годзе яму было прысвоена званне заслужанага работніка культуры БССР.

У сакавіку 1982 года Т. Хадкевічу споўнілася б семдзесят. Сёння з намі — яго творы, голас Наддзвіння. Таму і ўспамінаюцца радкі паэта Анатоля Астрэйкі, прысвечаныя Тарасу Хадкевічу: «Сваё ты сэрца нам пакінуў, і радасць песні і вясны, любіў, як сын, сваё Наддзвінне і сам стаў песняю Дзвіны...»

## АД ІМЯ ПАКАЛЕННЯ

Івану Навуменку, пісьменніку, належыць адно з пачэсных месц у сучаснай беларускай літаратуры. Выступіўшы з апавяданнямі і нарысамі ў 50-х і на пачатку 60-х гадоў, ён адразу заявіў сябе таленавіта, як выразнік дум і спадзяванняў свайго пакалення — юнакоў і дзяўчат трыццатых гадоў, мары і планы якіх перакрэсліла вайна. Яму, як і яго героям, у навальнічным 41-м споўнілася семнаццаць. Толькі што закончана сярэдняя школа. Акрылены марамі і летуценнямі аб будучыні, гарачым жаданнем служыць Айчыне, хлопец збіраецца на ўступныя экзамены ў інстытут. Але на мірныя савецкія гарады і вёскі пасыпаліся фашысцкія бомбы, самалёты з чорнымі крыжамі і свастыкай свінцом палівалі дарогі, па якіх хлынулі бежанцы на ўсход. Неўзабаве ў роднае мястэчка Васілевічы прыйшлі фашысты. Настала цёмная ноч акупацыі. Камсамолец Іван Навуменка ў ліку блізкіх школьных сяброў смела становіцца на шлях падпольнай барацьбы з ненавісным ворагам. У гэтым змаганні, на вайне пад стрэхамі гартуюцца характары, праяўляюцца лепшыя душэўныя якасці звычайных хлопцаў і дзяўчат — жыхароў невялікага палескага мястэчка, юных падпольшчыкаў.

У апавяданні «Семнаццатай вясной», якое надрукавана ў 1956 годзе і дало назву першаму невялікаму зборніку, што выйшаў з друку праз год, пісьменнік вызначае кірунак сваіх творчых пошукаў. Героі апавядання — яго равеснікі, для якіх настаў зорны час, сур'ёзны экзамен на сталасць, на жыццёвыя выпрабаванні.

Аўтару не трэба было выдумваць сваіх герояў, ён іх добра ведаў. Памяць назаўсёды зберагла, захавала ўсё выпакутаванае і перажытае ў юнацтве. Гэта і вызначыла змест, атмасферу і танальнасць першай кніжкі, пазначанай пісьменніцкай індывідуальнасцю.

Назапашана багата жыццёвага, фактычнага матэрыялу, але І. Навуменка не адразу ўзяўся за апавяданні і аповесці. Журналіст, карэспандэнт абласной газеты «Бальшавік Палесся», а затым — «Звязды», Іван Навуменка хадзіў і ездзіў па вёсках роднага краю, сустракаўся з многімі цікавымі людзьмі, былымі франтавікамі і партызанамі, якія, заваяваўшы перамогу, сталі хлебаробамі і будаўнікамі. Яны склалі жывую тканіну твораў, увайшлі ў змест са сваімі радасцямі і турботамі — жывыя людзі з жывымі чалавечымі пачуццямі і перажываннямі.

Самыя першыя апавяданні І. Навуменкі былі заўважаны чытачом, звярнулі ўвагу крытыкі. Мабыць, сакрэт хуткага прызнання твораў І. Навуменкі не толькі ў своеасаблівай, афарбаванай паэтычнасцю, мяккім лірызмам і дасціпным, цёплым гумарам манеры пісьма, але і ў тым, што аўтар прынёс сваю тэматыку, свой свет, узняўшы новыя, бадай некранутыя дагэтуль пласты ў тагачаснай беларускай прозе.

Івана Навуменку як мастака вызначае яркая вобразнасць, непадробная зтітаванасць, злітнасць са сваімі героямі, летуценнікамі і рамантыкамі, адкрытымі ў сваёй прастаце, непасрэднасці і шчырасці. Іх мы бачым у наступных кніжках — «Хлопцы-равеснікі», «Верасы на выжарынах», «Таполі юнацтва», пасталелымі, духоўна пабагацелымі. Гэта, можна сказаць, рэалістычна-канкрэтны і адметны ў сваёй непаўторнасці рамантызаваны вобраз юнацтва, якое гартавалася ў гарніле вайны і з гонарам вытрымала яе выпрабаванні. Юнацкія мары і парыванні, захапленні, першае каханне як бы акрыляюць, асвятляюць раніцу жыцця — дарогу герояў да подзвігу. Узмужненне, гартаванне характару — галоўнае, што прыцягвае пісьменніка і вызначае праблематыку. У кожным са сваіх герояў аўтар знаходзіць штосьці адметнае, прывабнае, выяўляе свежыя, яркія дэталі і штрыхі, якія дапамагаюць ства-

рыць яркі і праўдзівы партрэт пакалення, загартаванага ў падполлі і на фронце.

Ад твора да твора расце майстэрства пісьменніка, не звужаецца, а, наадварот, пашыраецца кола творчых пошукаў і моўнага жывапісу. Наглядны таму прыклад. У кнізе «Таполі юнацтва» (1966) тыя ж будні местачковага жыцця, але бачна, як яны ўскладняюцца; аўтар усё смялей выкіроўвае герояў на канфлікты і супярэчнасці, не абыходзіць цяжкасцей і выпрабаванняў, якія стаяць на іх нязведаным шляху. За кнігу «Таполі юнацтва» І. Навуменку прысуджана прэмія Ленінскага камсамола Беларусі.

Вернасць абранай тэме, адданасць памяці аб мужнасці і гераізме свайго пакалення назаўсёды засталася для пісьменніка свяшчэннай крыніцай творчага абавязку і натхнення. Боль народны — і яго боль, і суровая памяць.

Пісьменніка хвалюе і сучасная тэма. Напісана нямала апавяданняў, нарысы, якія вызначаюцца рамантычнай узнёсласцю і заглыбленнем у жыццё герояў. Ужо ў аповесцях «У бары на світанні», «Бульба», «Замяць жаўталісця» праявілася мастакоўскае ўменне аўтара факт рэальнага жыцця зрабіць фактам літаратуры. Мы ведаем, што аснова і гэтых твораў амаль што дакументальная, але па-мастацку пераплаўленая і прапушчаная праз сэрца аўтара. Аповесці закранаюць праблемы, якія і сёння хвалююць чытача.

Удача спадарожнічала Івану Навуменку і тады, калі пачаў пісаць для дзяцей. «Вайна каля Цітавай копанкі» — аповесць, якая вытрымала не адно выданне і перакладзеная, як і многія яго творы, на рускую і іншыя мовы народаў краіны. У шэрагу лепшых набыткаў яна стала любімым творам нашай дзетвары.

Апавяданні з'явіліся для пісьменніка подступам і разведкай для стварэння буйных, маштабных твораў аб Вялікай Айчыннай вайне. Гэта вядомыя раманы «Сасна пры дарозе» (1962) і «Вецер у соснах» (1967) з задуманай трылогіі.

У рамане «Сасна пры дарозе» аўтар узбагаціў і акумуляваў, заглыбляючыся ў падзеі таго часу, усё лепшае, што было дасягнута ў жанры апавядання, асабліва вобразнасць і псіхалагізм, больш прадумана выяўлены і раскрыты жыццёвыя калізіі і варункі, аб'ёмна, па-мастацку выпісаны характары, ускладніліся ўзаемаадносіны і сувязі паміж героямі. Лірычная плынь злілася з эпічнай, ярчэй высвечаны душэўны стан і пачуцці герояў; пашы-

рыліся абсягі жыццёвых з'яў і падзей. У творах — шыро-кая і шматгалосая, можна сказаць, панарамная карціна народнай барацьбы супраціўлення захопнікам.

Праўдзіва і па-мастацку выразна і моцна адлюстраваны ў раманах станаўленне і развіццё партызанскага руху на Палессі. Народнае супраціўленне пад таленавітым пяром паўстае як магутная баявая і маральная сіла, выспеленая народным гневам і нянавісцю да ворагаў-акупантаў, чорныя справы якіх адчувае на сабе не адно пасляваеннае пакаленне.

Як і ў ранніх творах, пісьменнік належнае аддае моладзі, піша пра яе праўдзіва, усхвалявана, з рамантычнай захопленасцю і любасцю. Поплеч з маладымі дзейнічаюць і людзі сталыя, з жыццёвым вопытам і вытрымкай, адметнымі, самабытнымі характарамі. Дакладна і трапна акрэслены і вобразы здраднікаў-паліцаяў і карнікаў. Між іх — тып «фольксдойча» Аўгуста Крамера — адкрыццё пісьменніка; лёс і эвалюцыя Крамера прасочваецца тонка, з глыбокім веданнем чалавечай псіхалогіі.

Нягледзячы на тое, што пра партызанскі рух на Беларусі напісана нямала, Іван Навуменка сказаў сваё важкае слова, здолеў праўдзіва і пераканаўча выявіць вытокі і даследаваць усе складанасці барацьбы ў тыле ворага, стварыў яркія вобразы партызанскіх важакоў і кіраўнікоў падполля.

Паспяхова завершана аўтарская задума аб стварэнні цыкла твораў аб партызанах і падпольшчыках на Палессі падчас Вялікай Айчыннай вайны. Чытачы змаглі пазнаёміцца і з трэцім, заключным раманам трылогіі — «Сорак трэці», які быў надрукаваны ў часопісе «Маладосць». Асобнай кнігай раман выйшаў з друку ў 1974 годзе.

— У новым рамане,— дзяліўся думкамі Іван Якаўлевіч,— расказваецца пра ўсенародны партызанскі рух, які дасягнуў асаблівага размаху ў памятным 1943 годзе. Месца дзеяння — Прыдняпроўска-Прыпяцкае Палессе. Чытач зноў сустрэнецца з героямі, якіх ведае з папярэдніх раманаў: падпольшчыкамі Міцем Птахам, Іванам Лобікам, Міколам Цябутам, настаўніцай Мар'яй Іванаўнай. Большае мастацкае жыццё набылі вобразы камандзіраў злучэнняў Лаўрыновіча і Волаха, камандзіра групы дэсантнікаў Мазурэнкі, камбрыга Вакуленкі. У рамане дзейнічаюць і зусім новыя героі...

У апошнія гады Іван Навуменка напісаў новыя цікавыя творы: раманы «Смутак белых начэй» — пра баявыя падзеі на Ленінградскім фронце; «Летуценнік» — вяртан-

не ў свет юнацкіх мар і летуценняў, асэнсаванне шляху, якім крочыў чалавек з нізоў да вышыняў духоўнага развіцця і росту.

Іван Навуменка вядомы чытачу і як аўтар арыгінальных і грунтоўных даследаванняў па беларускай літаратуры. Яго пяру належаць кнігі па літаратуразнаўству «З глыбінь жыцця», «Янка Купала. Духоўны воблік героя», «Якуб Колас. Духоўны воблік героя». Доўгі час пісьменнік выкладаў беларускую літаратуру ў Белдзяржуніверсітэце імя У. І. Леніна, кіраваў кафедрай. Ён мае вучоную ступень доктара філалагічных навук, прафесар, акадэмік АН БССР. Яму прысвоена званне Заслужанага дзеяча навукі Беларускай ССР.

За кнігі «Янка Купала. Духоўны воблік героя» і «Якуб Колас. Духоўны воблік героя» І. Я. Навуменка ўдастоены Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Коласа.

І. Я. Навуменка з 1973 года — дырэктар Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук БССР. Цяпер І. Я. Навуменка віцэ-прэзідэнт Акадэміі навук БССР, выбраны старшынёй Вярхоўнага Савета БССР. Поспехі ў літаратуры і актыўная грамадская і навуковая дзейнасць Івана Навуменкі адзначаны ордэнамі Працоўнага Чырвонага Сцяга, Кастрычніцкай Рэвалюцыі.

Творчасць Івана Навуменкі — адметная з'ява на ніве сучаснай савецкай літаратуры, самабытны талент пісьменніка ў зеніце росквіту і заслужанай славы.

## МАЛАДЫЯ ГАДЫ, МАЛАДЫЯ ЖАДАННІ...

Кожны, як сказаў паэт, мае «свае Ушачы»,— той запаветны куточак, гняздоўе, адкуль ён, бы птушаня, вылецеўшы ў свет, крыляе над зямлёй бацькоў. У першых паэтычных радках Васіль Зуёнак дае дакладны адрас вытоку сваёй творчасці, калыскі натхнення. «Мачулішча... Відаць, і пры Ярыле ільны ў нас сеялі, вымочвалі ў мачыле...»

Нарадзіўся Васіль Зуёнак у 1935 годзе ў вёсцы Мачулішча Крупскага раёна ў сялянскай сям'і. Яму было шэсць гадоў, калі пачалася Вялікая Айчынная вайна. Яна была не дзесьці далёка, за лясамі і гарамі, а вакол — з крывёю, слязамі, голадам і холадам. Будучы паэт успамінаў: «Жудасці і нянавісці да яе столькі запала ў сэрца, што хапіла б на некалькі жыццяў».

У 1951 годзе В. Зуёнак паступіў у Барысаўскае педвучылішча, якое скончыў на «выдатна» і быў прыняты без уступных экзаменаў у Белдзяржуніверсітэт імя У. І. Леніна. Зуёнак выбраў аддзяленне журналістыкі і, відаць, не выпадкова, бо ўжо ў школе спрабаваў пісаць, а навучэнцам педвучылішча надрукаваў першыя вершы ў раённай газеце.

Для яго пакалення — звычайная біяграфія: школа, універсітэт.

Працоўная біяграфія пачалася ў рэдакцыі газеты «Піянер Беларусі». В. Зуёнак шэсць гадоў быў рэдактарам часопіса «Бярозка», пасля галоўным рэдактарам часопіса «Маладосць». Скончыў завочна аспірантуру, атрымаў званне кандыдата філалагічных навук.

Васіль Зуёнак — адзін з сакратароў праўлення Саюза пісьменнікаў БССР.

Як адзначае паэт у аўтабіяграфічнай нататцы, ужо ва ўніверсітэце яму, пачаткоўцу, які друкаваўся і быў у ліку аўтараў «звыклага агульнапісу», адчыніліся вочы на сапраўдную паэзію. Ён дае сабе зарок: «Чым такая, хай лепш ніякай не будзе».

Маўчанне было пакутлівае, як прызнаецца сам паэт, але, мабыць, не бескарыснае. Першыя вершы В. Зуёнка з'явіліся ў рэспубліканскім друку ў 1954 годзе, а першы зборнік «дарослай» паэзіі — «Крэсіва» — убачыў свет у 1966 годзе.

Праўда, за гэты час пісаліся творы для дзяцей. У 1962 годзе выйшла з друку кніжка нарысаў і замалёвак «Любіць прыроду — любіць Радзіму», праз год — нарысы «Працай славіцца чалавек», у 1965 годзе зборнік вершаў «Вясёлы калаўрот».

Як бачым, маўчанне В. Зуёнка было своеасаблівае: ён плённа працаваў як журналіст. Разам з тым сцвярджаў сябе як паэт — у душы нараджалася, расла і прасіла выйсця свая песня.

Ніхто не пачуў:
Яблык упаў дасвеццем
Ля Халопеніч, на Беларусі.
Ніхто не пачуў...
Ніхто.
А шар зямны
Здрыгануўся...

Гэта — са зборніка «Крэсіва». Вершы, як бачна, напісаны на пачатку паэтычнай дарогі, яны яскрава раскрываюць унутраны стан паэтавай душы, адметнасць па-

17*

этычнага зроку і слыху: чуйнасць да ўсяго, што наўкола, пільная ўвага да жыцця. Паэтава сэрца акрытае да болю і турбот людзей.

Смелае, вобразнае асэнсаванне рэчаіснасці, пошукі існасці-праўды, выяўлення сябе як асобы — чалавека актыўнага, дзейснага і, галоўнае — чулага да людскіх клопатаў, радасцяў і гора, чыстага і светлага ў сваіх марах і памкненнях. Лірычны герой паэта, захапляючыся подзвігамі і здзяйсненнямі свайго народа, прыгажосцю роднага краю, імкнецца пазнаць глыбіню «акіянаў і сэрцаў людскіх». Ён малады, поўны мар і летуценняў; яго душа прагне героікі і рамантыкі, але ён не легкадумны, яму хочацца «думаць і пакутваць». У размове-дыялогу з жыццём ён шчыра выказвае свае маладыя жаданні:

Дай, жыццё,
мне ўзняцца
ў высі
Дарогай ракетнай, прамой,
Дай на зорных красалах высеч
След вогненны свой.

І касмічныя хуткасці, і «дарога ракетная, прамая», і хмельнасць ад вясновага ранку — усё гэта ад маладосці, вядома, ад перапоўненасці пачуццямі ўлюбёнасці ў зямлі красаванне. Летуценнік, якому хочацца «на зорных красалах высеч след вогненны свой», але дзе гэты след — у завоблачных высях і касмічных далях ці на зямлі? І наогул, што такое жыццё? Чаго ты, чалавек, прыйшоў — свет здзівіць ці сам здзівіцца гэтым дзіўным светам? Паэт змушае свайго героя задумацца, даючы яму добры ўрок развагі і роздуму.

У зборніку ёсць такія вершы, як «Успамін», «Добры прыезд», «Час абнаўлення, час вяртання», «Дзесяты год прыходжу да цябе (памяці бацькі)», «Тры вышыні»... Яны ярка выяўляюць В. Зуёнка — паэта-лірыка, схільнага да філасофскага заглыблення ў жыццё. Паэт не толькі захапляецца з'явамі рэчаіснасці, але стараецца спасцігнуць іх сэнс, імкнецца да абагульненняў, рашуча пазбаўляецца ад легкадумнасці і сузіральнасці, што былі ўласцівыя для ранніх публікацый. Паэт эксперыментуе, і ў выніку з'яўляюцца радкі і вобразы, якія пашыраюць яго свет, акрэсліваюць новыя абсягі паэтычнага бачання. У лірыку віхурна ўрываецца публіцыстычнасць з яе адкрытасцю, грамадзянскай страснасцю.

Паэт робіць выснову свайго грамадзянскага прызначэння:

— Ралля — аснова,
Зерня ўток няспынна
Кідаю я рукою агрубелай,—
І тчэцца,
тчэцца мудрая тканіна,—
Жыццё.

Жыццё — «мудрая тканіна». Каб спасцігнуць глыбіні ісціны, трэба было прайсці няторную дарогу пошукаў, узважыць былое і наступнае, а пасля, праз гады і ростані, сказаць: «Я іду не свет здзіўляць. Я сам іду здзіўляцца гэтым дзіўным светам».

Васіль Зуёнак — паэт шчаслівага лёсу. І, мабыць, не толькі таму, што яшчэ студэнтам даўмеўся: пісаць пасрэдна, задавальняцца фіксацыяй убачанага, таго, што на паверхні, перапяваць спетае — не для яго. Думаецца, ранняе пасталенне паэта не толькі знак «боскай іскры», яно і ад таго, што ён належыць да пакалення дзяцей мінулай вайны, маленства якіх абпалена вайною і жудасцю акупацыйнага рэжыму ў час ліхалецця.

Збылося жаданне, запаветнае: пісалася лёгка і радасна. Сказана гэта паэтам, відаць, пра час, калі пісаліся вершы, сабраныя ў зборніку «Крэсіва». На грамадскіх пачатках кніжку адрэдагаваў паэт Рыгор Барадулін. Кажуць, што В. Зуёнак пэўным чынам вучыўся ў Барадуліна і на яго паэзіі водсветы барадулінскага «духу». Магчыма, у нечым яны блізкія, і іх паэтычныя палі суседнічаюць. Важна іншае, паэт пракладвае свой след, на сваім полі кідае «зерня ўток», дбайна ўрабляе ніву, імя якой — жывая, сапраўдная паэзія, са сваімі гукамі і фарбамі, глыбокім жыццёвым напаўненнем.

Як расце яго паэтычны ўраджай, бачым у наступных зборніках — «Крутаяр» (1969), «Сяліба» (1973). Голас паэта ўзмужнеў, хаця ў інтанацыях тая стрыманасць і ўраўнаважанасць, уласцівая яго лірыцы, гарызонты бачання пашырыліся, найбольш поўна і высока загучэлі грамадзянскія і сацыяльныя матывы як сведчанне паэтычнага таленту, самавыяўлення і творчай індывідуальнасці. Паўнакроўная, сапраўдная мастацкасць — заўсёды адкрыццё, навізна і арыгінальнасць думкі, энергія пачуцця, яркасць і рэльефнасць вобраза, свежасць і першароднасць слова. Знітаванне формы і зместу — адметная рыса лірыкі Васіля Зуёнка, спалучэнне традыцыйнага з наватарскім, плённае «ўжыўленне» фальклору — крыніцы, з якой чэрпалі класікі і чэрпаюць сучасныя паэты. Думаецца, яна жывіць і будзе доўга, калі не вечна, жывіць беларускую паэзію.

У вершах, якія ўвайшлі ў зборнікі «Крутаяр», «Сяліба», паэт не зніжае патрабавальнасці да сябе, бо адчувае адказнасць «за сціло», нястомна, з цягавітасцю сейбіта захоўвае вернасць сваёй тэме, свайму ідэалу — чалавечнасці ў чалавеку, служэння свайму народу. Дабро і справядлівасць, трывогі неспакойнага нашага веку — паэтавы турботы. Крутаяр — крутыя перавалы часу. Як і раней, паэта трывожыць суровая памяць вайны, але тут ужо ўражанні маленства, абпаленага вайною, набываюць пад паэтычным зрокам новую якасць — яны становяцца часткаю нашага духоўнага быцця, нашым вопытам. Паэт адчувае сваю ўпэўненасць, усведамляе сваю адказнасць перад сабою і часам, бо «палыхаюць паходні гісторыі». Паэт у шарэнзе правафланговых, і «пяро, як дзіда, успыхвае сталлю...».

Лірычны герой В. Зуёнка, як і дагэтуль, жыве ў сучасным рэальным свеце; ён верыць «у хлеб, як у людзей». Але ў яго на сэрцы — «неспакою камень».

У полі зроку паэта — трывога, неспакой за свет, за планету, за родную зямлю, за ўсё, што здабыта ў цяжкай барацьбе і мазольнай працы. «Неспакою камень», які заўсёды трывожыць паэта,— каштоўная рыса ўсёй нашай сучаснай паэзіі. В. Зуёнак у гэтай праблематыстыцы, мабыць, не адкрывае нешта новае, нязведанае, але ён, як грамадзянін і патрыёт, не можа не пісаць пра тое, чым жыве час, што хвалюе сучасніка,— свет жа не пазбавіўся ад варожых сіл і небяспекі пажару новых войнаў.

Тэма міру, цішыні, праблемы беражлівых адносін да прыроды, шанавання плёну працы, здабытага рукамі і розумам чалавека, заклапочанасці зямнымі, будзённымі справамі паслядоўна і глыбока распрацоўваецца ў вершах кнігі «Сяліба» (1973); асабліва майстэрства паэта-лірыка, паэта-філосафа праявіліся ў аднайменнай паэме, якая мае падзагаловак «Дыялог праз гады іростані».

Лірычная ўсхваляванасць, яркасць фарбаў і мелодыя гукаў, выражаныя ў арыгінальных прыёмах, сваіх поглядах на рэчы і з'явы герояў — усё гэта дае падставу меркаваць, што паэма «Сяліба» — дасягненне паэта і з'ява ў беларускай паэзіі. Сацыяльная вартасць яе ў актуальнасці і надзённасці важнейшай жыццёвай праблемы — абароны і захавання роднай прыроды, навакольнага асяроддзя.

Крытыка адзначала, што паэма «Сяліба» сваёй формай у нечым судакранаецца з куляшоўскай паэмай «Дарога да акіяна»; і ў ёй скразны вобраз-сімвал дарогі, ван-

дроўка па родным краі. Але тут, як і ва ўсёй паэзіі В. Зуёнка, свой свет, свая філасофія і сваё светаадчуванне, народжаныя ў карпатлівай працы над словам. Адметна выказвае паэт і сваю ідэю, якая пульсуе ў радках:

Мы, камуністы,
з бою,
Як салдаты —
Выносім на руках сваю планету,
Мы раны забінтуем ёй, загоім,
Перададзім, блакітную, нашчадкам...

У паэзіі В. Зуёнка, як сказаў балгарскі крытык і даследчык Георгі Вылчаў, калі што і ёсць агульнае з іншымі паэтамі яго пакалення, дык гэта першародства і чысціня пачуццяў, гукаў, фарбаў, паэтычных асацыяцый. Яшчэ ён сказаў: «У вершах В. Зуёнка глыбіня думкі, лірычная ўсхваляванасць і сапраўдны грамадзянскі пафас, які хацелася б назваць пафасам мужнасці».

Пафас мужнасці. Вельмі дакладна сказана! Пра што б ні пісаў паэт, ён заўсёды памятае, для чаго ўсё робіцца, каму адрасаваны яго радок. У новых вершах лірычны герой, не перастаючы здзіўляцца светам, выступае ўжо не як рамантык-сузіральнік, а як працаўнік, ён лічыць сябе «штодзённым драбільшчыкам каменя». Паэт — змагар за чалавека, стваральніка і каваля будучыні для чалавецтва, для сябе. Зброя паэта — слова: «Яго бунтарская выснова вастрэй адточаных штыкоў».

Як і ў кожнага сапраўднага паэта, у вершах В. Зуёнка ёсць і «вечная» тэма — тэма кахання. Яна распрацоўваецца, здаецца, у традыцыйным ключы, але маем не простае наследаванне, а лагічны ўток і працяг таго, што ўжо выспелена на ніве нашай паэзіі. Каханне — пачуццё, якое не выстаўляецца напаказ, якое жыве з табою, як тваё здзіўленне і абнаўленне, як песня без слоў. Лірычны герой стрыманы, але пад знешняй стрыманасцю — страснасць і шчырасць. Чысціня пачуццяў, гарачае сцверджанне прыгажосці чалавечых пачуццяў, вернасць выбранніцы на ўсё жыццё — скарбы сапраўднага кахання, якія ўзбагачаюць дух і змест паэтыкі В. Зуёнка. Нічога не трэба яму, паэту, ад каханай — «дастаткова і слязінкі адной, якая ў сэрцы журбою зазвініць, а ранкам сон яго абудзіць». Хваляванні і перажыванні паэта чыстым струменем уліваюцца ў сэрца чытача, і ён разам з паэтам вандруе ў той непаўторны свет, калі кожны дзень — галубінае крыло, а позірк каханай «з глыбінь крыніц, з нябёс, што палі верасамі ў бор».

Гэта — з паэмы «Сяліба», там шмат цудоўных радкоў пра каханне. Там жа і хваляванні, і неспакой за родны край, за крыніцы Крутаяра, за лёс роднай Начы, што «серабрыцца між імшарын». Хочацца сказаць за паэтам: «Квітней, мая Зямля, мая Сяліба!»

Багатая мастацкая палітра паэта. В. Зуёнак — індывідуальнасць, талент своеасаблівы, самастойны. У лепшых паэтычных творах — яркае слова, спалучэнне лірычнага «я» з агульначалавечым «мы». Лепшыя вершы часта ўспрымаюцца як споведзь, як шчырая гутарка з чытачом, урэшце, як запавет сабе і людзям.

В. Зуёнак — паэт мяккага лірызму і актыўнай грамадзянскасці, у ім цесна спалучаюцца думка і пачуцці, утвараючы цудоўны свет дабраты і чалавечнасці, лірызму і чуласці.

Колькі радкоў з кнігі «Нача»:

Вылятаюць
            сорак выраяў,
Сонца сорак стрэл пасылае,
募раўніцы з надзеяй шчыраю
Аж пад неба
            вясну люляюць.

У каго не затрымціць сэрца, не зашчыміць шчымлівым успамінам пра маленства, пра юнацтва, усплываюць забытыя саракі — вясновае свята з гайданнем на арэлях, песні-вяснянкі...

Гаворачы пра паэзію В. Зуёнка, нельга абмінуць яго вершаў для дзяцей і юнацтва. У іх — сапраўднае, непадзельнае пачуццё захаплення і здзіўлення перад прыродаю, перад чалавекам — самым выдатным яе тварэннем. У творах для маленькіх — шчырасць і непасрэднасць, веданне дзіцячай псіхалогіі і своеасаблівае мудрае бачанне навакольнага свету, адкрыццё цікавых і непасрэдных з'яў і рэалій быцця.

Няма мажлівасці тут назваць усе, па-свойму цікавыя і змястоўныя, падсвечаныя і цёплай усмешкай, і зычлівым досціпам вершы, без перабольшання, залацінкі зуёнкаўскай паэзіі. Чытачоў, асабліва маладых бацькоў, хацелася б адрасаваць да яго дзіцячых кніжак «Вясёлы калаўрот», «Жылі-былі пад вадой» і «Сонечны клубочак». Кнігу добра афарміў мастак Яўген Кулік.

Працуе паэт і ў жанры гумару. У серыі «Бібліятэка «Вожыка» ў 1973 годзе выйшла кніжка «Качан на п'едэстале», якая не загубілася ў патоку гумарыстычных вершаў, напісаных іншымі паэтамі.

Васіль Зуёнак — у няспынным пошуку, на паласе высокага творчага ўзлёту.

Ёсць талент і ёсць натхненне. А вакол — багата некранутых пластоў і на ўзбярэжжы так жа любімай Начы, і на абветраных прасторах зямлі беларускай, у краіне паэтаў, якая нарадзіла і якую нястомна і хораша апявае Васіль Зуёнак, лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі.

Гады, якія прайшлі з часу напісання артыкула, былі надзвычай плённымі і шчодрымі на творчыя набыткі ў Васіля Зуёнка. Выдадзены новыя кнігі паэзіі, зборнік літаратурных артыкулаў і выступленняў. Выйшла асобнай кнігай паэма «Маўчанне травы». Яе вартасць заслужана адзначана Дзяржаўнай прэміяй БССР імя Янкі Купалы за 1982 год. Кніга паэзіі «Лукам'е» (1984) — сведчанне сталасці шматграннага таленту В. Зуёнка.

Няхай спраўдзіцца запаветнае — дайсці сваёй песняй, сваім радком да кожнага сэрца, у кожную хату вялікай Сялібы — роднай краіны.

## ПЯСНЯР ПАЛЕССЯ

У даваенны час у Гомелі, горадзе над Сожам, віравала творчае жыццё. Літаратурныя гурткі працавалі ў школах і тэхнікумах, у педагагічным і лесатэхнічным інстытутах. Літаратурнае аб'яднанне было і пры рэдакцыі абласной газеты. Да газеты гарнуліся ўсе, хто спрабаваў свае сілы ў літаратуры,— студэнты, рабочая моладзь, школьнікі. Вечарамі ў культаддзеле рэдакцыі абласной газеты збіраліся гурткоўцы, вучыліся, слухалі парады старэйшых літаратараў. Памятаю, што тут свае вершы чыталі Аляксандр Адамчык, Леанід Гаўрылаў, Кастусь Кірэенка, Іван Цімашкоў — студэнты педінстытута; Дзмітры Кавалёў, Іван Шамякін — студэнты будаўнічага тэхнікума, Георгі Самсонаў, Уладзімір Дадзіёмаў, Ілья Столкарц, Георгі Пастрон — школьнікі. Кіраваў аб'яднаннем Піліп Ларывонавіч Яўменаў, намеснік рэдактара, які сам пісаў вершы, вершаваныя фельетоны. У літаратурным аб'яднанні актыўна ўдзельнічаў Раман Сабаленка, супрацоўнік рэдакцыі, а для нас, пачаткоўцаў і юнкораў — паэт, які часта друкаваў свае творы на старонках «Гомельскай праўды».

Добра памятаю, як Рамана Сабаленку ўбачыў я вясною 1938 года ў шумлівай людской плыні Савецкай вулі-

цы, насупраць будынка нашага педтэхнікума. Гэта быў малады чалавек з пышнай капою каштанавых валасоў над крутым ілбом; з-пад рыжаватых броваў свяціліся сіне-шэрыя вочы з характэрным прыжмурам. Малады чалавек ішоў, хаця было яшчэ халаднавата, без шапкі, у белай, вышыванай дробнымі васількамі кашулі, падпяразанай вузкім поясам. Уладзімір Дадзіёмаў, з якім мы кіраваліся, мабыць, у рэдакцыю, шапнуў:

— Наш гомельскі паэт — Раман Сабаленка...

Я колькі крокаў не спускаў з яго вачэй, з цікаўнасцю разглядаў паэта. Ён выдаваў задумлівым, трымаў у руках патухлую папяросу. Карцела зачапіць яго, пагаварыць, але Валодзя Дадзіёмаў сказаў, што цяпер чапаць не варта: Раман толькі што перахварэў і быў не дужа здаровы.

На занятках літаратурнага гуртка Раман Сабаленка разглядаў творы пачаткоўцаў, а іншы раз чытаў і свае вершы. І нам, гурткоўцам, расказваў пра Паўлюка Труса, які ў 1927 годзе пасля заканчэння Мінскага белпедтэхнікума прыехаў на практыку ў рэдакцыю «Полесской правды» (так называлася абласная газета да 1939 года). Яго вершы, вершаваныя фельетоны, частушкі друкаваліся ў газеце на беларускай мове. Паўлюк Трус у педтэхнікуме арганізаваў гурток «Маладняка», пасябраваў з Раманам Сабаленкам. Яны наладжвалі часта літаратурныя вечары, дзе П. Трус чытаў свае вершы, напісаныя па гарачых слядах падзей, прывезеныя з камандзіровак: «За каго мы ў Саветы галасуем», «Камітэты дапамогі ставяць беднага на ногі», «Ты спявай, іграй, музыка, пра сялянскую пазыку», «Каб знаць навіны ўсяго свету, чытай газету», «Каб малака было па вушы — выводзь карову з калатушы»...

«Мо пад уплывам яго (П. Труса.— *С. К.*) у тое лета я і сам пачаў складаць радкі»,— напіша потым Раман Сабаленка ў сваёй «Аўтабіяграфіі». Першы яго верш «Маці» рыхтаваў да друку Паўлюк Трус. Адзін верш «У зацішку вецер не шавеліць» змясціў часопіс «Маладняк» у № 7 за 1928 год. У 1935 годзе ў часопісе «Полымя рэвалюцыі» была надрукавана першая паэма «Брагінь». Рамана Сабаленку ў 1939 годзе прынялі ў члены Саюза пісьменнікаў.

Пра дружбу Рамана Сабаленкі з Паўлюком Трусам расказвала Вера Іосіфаўна, жонка пісьменніка:

— У Гомелі ў тыя гады мы з Раманам жылі на прыватнай кватэры па вуліцы Жаркоўскага. Часцяком да нас заходзіў Паўлюк Трус. Яны хадзілі разам у тэхнікум да

студэнтаў, на літаратурныя вечары і дыспуты «Маладняка». Ездзілі разам у Рэчыцу і ў вёскі. Якраз Гомельшчына ў 1927 годзе ўвайшла ў склад беларускіх абласцей. Памятаю, як яны збіраліся да студэнтаў на вечар, а ў Рамана не было прыстойнага гарнітура, і Паўлюк пайшоў з ім на рынак і купіў Раману касцюм. Пасля і Раман, калі ездзіў да бацькоў на канікулы, пашыў сабе з кужэльнага палатна кашулю і сам вышыў на ёй васількі...

У тым жа невялічкім пакоі, дзе жыла сям'я Сабаленкаў (у іх ужо было дзве дачкі), Паўлюк Трус чытаў раздзелы з паэм «Дзесяты падмурак», «Чырвоныя ружы»...

Але па-сапраўднаму пазнаёміцца з Р. Сабаленкам мне давялося толькі ў маі 1955 года, калі я перайшоў з газеты ў часопіс «Маладосць» і стаў працаваць у аддзеле рабоча-сялянскай моладзі, якім якраз кіраваў Раман Карпавіч. Ён сустрэў мяне прыязна, па-сяброўску. Мы ўспаміналі даваенны Гомель, сваіх агульных знаёмых. Аднак пра франтавое жыццё мы (ды і не толькі мы, а бадай усе былыя франтавікі і партызаны) не часта ўспаміналі. Думаецца, гэта ад таго, што яшчэ ў кожнага з нас перад вачамі стаялі крывавыя жахі вайны... Праўда, я ведаў, што Раман Карпавіч на вайне быў кантужаны і ў яго ёсць баявыя ўзнагароды — ордэн Чырвонай Зоркі і медалі. А такія ўзнагароды, я ведаў, воінам даставаліся нялёгка.

Ад Рамана Карпавіча я не раз чуў: «Работа ў газеце для пісьменніка вельмі карысная». Казаў гэтак, мабыць, таму, што сам яшчэ да вайны больш дзесяці год аддаў газетнай справе, а затым і ў пасляваенны час працаваў у Баранавічах у рэдакцыі газеты «Чырвоная звязда» спачатку стылістам, а пасля намеснікам рэдактара. Праца газетчыка была плённай у асноўным для накаплення фактычнага матэрыялу, асэнсавання з'яў і канфліктаў рэчаіснасці. Прыхваткам пісаліся вершы.

У гэты час ён шмат ездзіць, часта бывае ў толькі што народжаных калгасах, на новабудоўлях, піша нарысы, фельетоны, вершаваныя замалёўкі. Але зробленае яго не задавальняе. Ён казаў: «Мне карцела на большае».

У творчым жыцці пісьменніка вялікае месца займае дружба з камсамолам, з моладдзю. Пад той час першым сакратаром Баранавіцкага абкома ЛКСМБ працаваў Аляксандр Нічыпаравіч Аксёнаў. Ён прыняў жывы ўдзел у творчым лёсе Сабаленкі, як і іншыя баранавіцкія сябры — Міхаіл Дзялец, Станіслаў Пілатовіч, Якуб Міско, што заахвочвалі яго ў творчым росце. Тады ж пача-

лося знаёмства і дружба пісьменніка з Генадзем Цітовічам. Пра Генадзя Цітовіча потым напішацца цікавы, змястоўны нарыс «Прага песні». З Генадзем Іванавічам Раман прыязджаў і на сваю радзіму, у вёску Сабалі, на Брагіншчыне. Цітовіч запісваў народныя песні, наладжваў спеўкі ў вясковых хатах. Бывала, успамінае Вера Іосіфаўна Сабаленка, як ідуць яны разам па вуліцы, то чуеш ад жанчын, скажам, такое: «Не пераходзь, Хадося, вуліцу з парожнім вядром...»

Між іншым, у тым нарысе пра Генадзя Цітовіча ёсць такія словы: «Добрая жонка — гэта і натхненне і працавітасць». Сказана пра жонку Генадзя Іванавіча.

Нагадваю пра гэта Веры Іосіфаўне, яна ўздыхае:

— А як жа вы думаеце. Я ўсё жыццё пераживала, каб Раману добра і спакойна пісалася...

У Баранавічы часта прыязджалі пісьменнікі з Мінска, былі гасцямі Рамана. На сустрэчах свае новыя творы чыталі Пятрусь Броўка, Антон Бялевіч, Анатоль Астрэйка, Міхась Машара. Завадатарам творчых дыскусій выступалі Уладзімір Карпаў, Уладзімір Агіевіч, Сцяпан Майхровіч. Пятрусь Усцінавіч Броўка аднойчы прапанаваў: «Хопіць табе, Рамане, тут сядзець, пераязджай у Мінск...»

Вера Іосіфаўна расказвала, што Раман любіў чытаць напісанае. І ёй, і дочкам. «Бывала, казаў: ідзіце паслухайце. І будзе доўга чытаць і крадком пазіраць, ці слухаем. Скажаш яму, што во тут добра, а тут блага. Ён толькі ўхмыльнецца: «Нешта ты, старая, разумееш!..»

Раіўся часам і па задумах. Часцей ужо, калі пісаў прозу — аповесці, апавяданні. Будзе ён іншы раз сядзець доўга... Маўклівы. Курыць, папяросу за папяросай. Тады скажа: «Як ты думаеш, старая, так будзе лепей?..»

Аднойчы дачка, здаецца, Эма, кажа: «Тата, у цябе любоўныя сцэны слабыя...»

Бацька буркліва запярэчыў, але пасля папраўляў напісанае, перапрацоўваў.

...З Раманам Карпавічам разам, як ён казаў, у адной запражцы мы працавалі ў часопісе «Маладосць» не так і багата — якія два гады, але і за кароткі час многа ён даў і мне асабіста, ды і ўсім, хто з ім працаваў. Яго ўрокі — пісьменніка і чалавека, старэйшага таварыша па пяру, былі павучальныя і карысныя. Самабытны пісьменнік, паэт у душы і шчырэц у працы, ён быў патрыётам і песняром свайго роднага Палесся. Замілаванне роднай зямлёй выказваў і ў творах: «Мой родны край, палеская старонка, як люба ты мне ў зарыве зарніц!..»

Час працы ў часопісе «Маладосць» быў для Рамана Сабаленкі, канечне ж, творчым узлётам. Тут як бы набылося другое дыханне; сілы, якія нібы драмалі ў магутным арганізме, атрымалі незвычайнае паскарэнне. Яно, думаецца, і ў шчырай сяброўскай падтрымцы, і наогул у той атмасферы, якая панавала ў нашым невялікім, але дружным калектыве.

Усіх нас, маладзейшых і вопытных, здзіўлялі Раманава працавітасць і цягавітасць. Мог ён засяродзіцца ў любых умовах, нават у такой «мыслільні», якой быў наш пакой, дзе змяшчаліся аж тры аддзелы — прозы, рабочай і сельскай моладзі, мастацкага афармлення. Ахутаны папяросным дымам, бо сам быў курэц заядлы, Раман шчыраваў, не ўстаючы ад стала, гадзінамі.

Цяпер, успамінаючы той ужо далёкі час, я думаю, што дысцыпліна працы, памножаная на ўнутраную самадысцыплінаванасць, непераборлівасць да жыццёвых патрэб і можа быць адказам на пытанне, як ён умеў аднолькава плённа працаваць і на «сябе», і выконваць справы чыста службовыя, рэдакцыйныя. Як камуніст ён сумленна, папартыйнаму аддаваў багата сіл грамадскім справам.

Чалавек вялікай душэўнай сілы і волі, такой жа грамадзянскай актыўнасці, Раман Карпавіч быў нашым шчырым настаўнікам, спагадлівым і добрым. Калі, скажам, і ў мяне, а я, як сказана было ўжо, прыйшоў у часопіс з газеты, нешта не выходзіла так, як хацелася б, ён умеў быць цярплівым. І заўсёды ўмеў па-юнацку радавацца за ўдачу малодшага таварыша.

Сваім жа шчодра дзяліўся з усімі. Азарэнне прыходзіла да яго часта; ён тады расцвітаў, і вочы яго, то сінія, як палескія нябёсы, то цёмныя, як вада ў роднай Брагінцы, ззялі юначым агнём: выдавала радасць сейбіта, які парою кінуў зерне ў цёплую і вільготную глебу...

Зайздросная якасць Рамана Карпавіча — не вылучацца, не ўзвышацца над сваімі ж сябрамі і таварышамі. Яго жыццёвае, чалавечае крэда — цярплівасць і памяркоўнасць. Яму было чужое, і гэта хочацца падкрэсліць, так званае пад'ялдыкванне, што, на вялікі жаль, часам сустрэнеш сярод нашага брата-літаратара.

«Умей быць вясёлым,— казаў ён,— нават і тады, калі табе не весела і цябе нішто не вяселіць...»

Яснасць аўтарскага розуму, сваё бачанне свету, адданасць справе, якой служыш, жаданне чэсна і сумленна змагацца за лепшае жыццё для народа — усё, як токам, перадаецца ад творцы яго героям. У 1957 годзе выходзіць

з друку першая кніга прозы Р. Сабаленкі «Жменя зярнят». Апавяданні і нарысы, сабраныя пад адной вокладкай, пісаліся ў віры гарачых будняў, па свежых слядах падзей. Пісьменнік засяроджвае ўвагу на галоўным, што характарызуе наш дзень, багаты на падзеі, у іх ён не староннi назіральнік, а даследчык і летапісец. Яго пазіцыя ісці па магістралі жыцця, а не таптацца на абочыне. Ён бачыць сваё месца сярод тых творцаў, якія ўмеюць трымаць руку на пульсе часу, жыць радасцямі і клопатамі людзей.

Калі размова заходзіла пра пісьменніцкае майстэрства, ён казаў: «Вельмі важна, каб чалавечыя характары былі сучасныя, псіхалагічна дакладныя, пераканаўчыя. А праблемы, якія ты, пісьменнік, асэнсоўваеш, павінны цесна ўвязвацца з жыццём нашага грамадства: з тымі задачамі, якія сучасніку належыць вырашыць у наш час, сёння, кіруючыся вялікімі мэтамі будучага».

Ад яго можна было пачуць: «Не ўяўляю чалавека, які жыве толькі сённяшнім, не дбаючы пра заўтрашні дзень, не турбуючыся аб тым, каб як мага хутчэй наблізіць будучыню». Яго вера ў будучае не была марай аб уласным дабрабыце і шчасці. Ды і шчасце ён сабе ўяўляў здабытым у працы, як у баі...

Успамінаецца, як Раман Карпавіч, звычайна прыйшоўшы на працу раней за іншых, казаў: «От, браце, папрацаваў... У ахвоту!» (Тады пісаліся раздзелы першай яго аповесці «Юнацтва ў дарозе»).

Як бы строгі, хмуры, Раман толькі знешне быў спакойны, нават трохі марудны, але гэта так здавалася; душа яго заўсёды была напоўнена неспакоем, узрушаным віраваннем думкі.

Пасля Раман Карпавіч працаваў ужо ў «ЛіМе», мы часта з ім сустракаліся або на вуліцы імя Янкі Купалы, дзе ён жыў, або на Ленінскім праспекце, па якім ён хадзіў на працу ў рэдакцыю. Пры сустрэчы абавязкова прыпыніцца, нешта спытае ў цябе, нешта абавязкова сам раскажа.

— Ну, як, хлопча, жывеш. Што парабляеш. Ці пішацца?..

І тут жа пра сваё:

— А я агораў старонак пяць, заканчваю новую аповесць. Трэба пісаць. За нас, браце, ніхто не зробіць. Калі што маеш сказаць — пішы!

Раман Карпавіч любіў расказваць пра тое, што пісаў. Староннняму чалавеку магло падацца, што гэтая ягоная

слабасць — жаданне пахваліцца. Але так мог падумаць менавіта толькі старонні чалавек, які не ведаў Рамана. Таму, хто ведаў яго бліжэй, адкрывалася яшчэ адна асаблівасць, чалавечая і мастакоўская,— шчырасць і жаданне праверыць сябе, выявіць тое, што яго ў гэты час займала і хвалявала.

Але вернемся да таго часу, калі мы працавалі ў «Маладосці». Аднойчы, калі Раман Карпавіч прыйшоў стомлены і пачаў зацята курыць, я сказаў яму пра гэта.

— Ат! — буркнуў ён у адказ.— Не трэба дужа сабе вольніцу даваць. Будзе яшчэ горш, калі згультаішся. Можаш хутчэй і назусім згібець.

Ён моўчкі доўга і старанна чысціў свой несамавіты бурштынавы мунштучок, прыладжваў цыгарэту і пускаў колцы сіваватага дыму. Праз колькі хвілін, накурыўшыся, садзіўся і браўся правіць рукапіс ці чытаць матэрыял у нумар. Бывала, што ў час перакуру ажыўляўся і браў удзел у гаворцы. Збіраліся хлопцы — Іван Навуменка, Віктар Грамыка, Алесь Асіпенка, Аляксандр Дзітлаў, Георгі Шчарбатаў, Сямён Чырэшкін, Іосіф Шаршульскі... Пачыналіся звычайныя рэдакцыйныя размовы, якія часцяком вылілаваліся ў гарачыя спрэчкі. Раман часцей маўчаў, але калі і падаваў голас, то да яго хлопцы прыслухоўваліся. Раман Карпавіч быў чалавек кампанейскі, і мы, маладзейшыя, розніцы ў гадах не адчувалі. Мог нас і запрасіць на кватэру, хаця сям'я яго жыла ў адным пакоі, і мы стараліся не рабіць гаспадыні лішняга клопату. «Ат, нічога,— настойваў на сваім гаспадар,— у цеснаце, ды не ў крыўдзе».

Не заўсёды бывае, што загадчык аддзела і літработнік добра спрацоўваюцца, а з Раманам Карпавічам мы працавалі зладжана, ніколі не было ў нас такога, што адзін цягне на гару, а другі з гары... Калі ў мяне нешта не ладзілася, ён гэта адразу заўважаў і быў вельмі тактоўны, не гарачыўся, не ўшчуваў, а стараўся памагчы, і ў той момант ён як бы сябе вінаваціў, глядзеў на цябе са шкадобай. Шкадоба — было яго любімае слова.

— Гэта правідлова! — казаў неяк Раман Карпавіч, калі я вярнуўся з камандзіроўкі без нарыса. Выявілася, што там трэба было пісаць крытычны артыкул, і Раман сказаў:

— Журналіст, як і пісьменнік, не мае права грашыць супраць праўды. Мастацкае слова павінна актыўна «ўразацца» ў жыццё... Не даспадобы былі яму часам частыя «нарадкі-лятучкі», на якія быў вельмі ахвочы наш тагачасны галоўны рэдактар Аляксей Кулакоўскі. «Ат, пустая

растрата часу,— унурыўшыся ў паперы, казаў Раман Карпавіч.— Як займацца пустой гаварыльняй, лепш схадзілі б у парк ці фільм новы паглядзелі разам...»

На тых нарадках-лятучках звычайна Раман Карпавіч быў нешматслоўны, больш слухаў, што казалі іншыя. Але калі адчуваў, што трэба каго паправіць ці нешта ўдакладніць, то рабіў гэта абавязкова. Прынцыповасць была рысаю, уласцівае яму і як камуністу, і як старэйшаму між нас.

Не раз даводзілася мне бачыць і чуць, як Раман Карпавіч гутарыў з маладымі. З моладдзю ён любіў сустракацца. Умеў быць цярплівым і спагадлівым, але і строгасці яму не бракавала, калі таго вымагала справа, інтарэсы грамадства.

Памятаю адзін кур'ёзны выпадак. Адзін пачынаючы аўтар прынёс апавяданне ў рэдакцыю на кансультацыю. Яго выклікалі на нараду маладых, што пачаліся пад той час у Доме творчасці ў Каралішчавічах.

Можа, гадзіны са дзве сядзеў Раман Карпавіч з тым аўтарам. Разбіралі тое апавяданне. Аўтар слухаў заўвагі моўчкі — толькі чырванеў і сапеў носам. А назаўтра ў Каралішчавічах выявілася, што хлопец перапісаў слова ў слова чужое апавяданне, ды яшчэ і нарабіў багата памылак. О, як узлаваўся ж Раман Карпавіч! Неўзабаве ў газеце «Чырвоная змена» з'явіўся фельетон Р. Сабаленкі пад назвай «Злодзей з самапіскай».

Рэдакцыйным работнікам Раман Сабаленка быў незаменны. На ўсякі жанр яго хапала. Ён пісаў і нарысы, быў лёгкі на пад'ём, ахвотна ездзіў у камандзіроўкі і заўсёды прывозіў тое, што патрэбна было для часопіса. Складаў вершаваныя подпісы пад фота, пісаў пародыі, фельетоны, артыкулы. Разам з гэтым пісаліся і апавяданні, якія мы пасля чыталі ў зборніку «Сустрэчы».

«Пішыце з добрым сэрцам,— казаў ён нам.— Людзей любіць трэба. Умейце, вучыцеся любіць людзей...»

Такога правіла ў першую чаргу трымаўся сам. Чуласць, уважлівасць да чужой бяды — гэта ягоная рыса, якая, мабыць, даецца чалавеку з нараджэннем. «Спачувальнасць» — слова, якое стасуецца да яго характара. Ягоная дабрыня была прыкладам для кожнага, хто з ім працаваў, хто стыкаўся пры бядзе.

Кажуць, што ў апошнія гады да яго не раз заходзіў Іван Мележ, аднойчы казаў, што менавіта ягоная кніга «Юнацтва ў дарозе» падказала яму ідэю ўзяцца за сваю «Палескую хроніку». Сам жа Сабаленка браў прыклад з

творчасці Міхася Лынькова, вельмі высока цаніў творы К. Чорнага.

Памяць пра пісьменніка — яго кнігі. А кнігі — гэта і ёсць сам пісьменнік. Тое, што ён апісвае, выяўляе, даследуе, павінна быць уласціва і яму. Думаецца, гэта найперш чысціня пачуццяў, абсяг і глыбіня думак, ідэй і прынцыпаў, якія да душы перш за ўсё самому творцу.

Як вядома, сапраўдны пісьменнік — гэта заўсёды індывідуальнасць. Лепшае, што напісана ім, нясе адзнаку гэтай індывідуальнасці. Сваіх герояў ён добра ведае. Яны валодаюць высокай мерай цвёрдасці, у той жа час яны простыя і сціплыя. Для іх характэрны высокі ідэал душы — вера ў радасці і хараство жыцця, у шчаслівую будучыню, якую самі набліжаюць сваёй актыўнасцю, грамадскай працай.

Публіцыстычнасць іх — адкрытая, прывабная рыса. Лепшыя яго аповесці «Юнацтва ў дарозе», «Блакітнае ззянне», «Каралінцы», «Іду ў жыццё», «Незамужняя ўдава», «Былое застаецца ў сэрцы» адрасаваны моладзі. У іх б'ецца пульс нашае явы.

Раман Сабаленка быў блізкі з людзьмі, жыў іх радасцямі і болямі. Многіх сваіх добрых знаёмых, землякоў, вобразы якіх з маленства насіў у сэрцы, зрабіў героямі сваіх твораў. Яны — як жывыя. І чытач таксама бачыць іх такімі.

Чытаеш у яго «Аўтабіяграфіі» такое: «Пісьменнік не можа быць ізаляваны ад свайго грамадства: яно фарміруе яго светапогляд, дае яму фарбы для найбольш яркага адлюстравання рэчаіснасці, ставіць праблемы, вызначае тэмы, дае яму вобразы і нават акрэслівае стыль».

Усё лепшае, што сагрэта сэрцам і душою пісьменніка, засталося людзям, и імі жыве.

## ЧАЛАВЕК У ВЫМЯРЭННІ ПАЭЗІЯЙ

Як само жыццё, бессмяротна паэзія, выказніца дум і спадзяванняў народных. Яна жывіцца і п'е з вечнай ракі па імені народ, аддана яму служыць, дапамагае ў бядзе і горы, у радасці і шчасці. Узнёслае і праўдзівае паэтычнае слова заўсёды з народам, з людзьмі працы, крыніцы працвітання чалавецтва.

Беларуская паэзія, якую вывелі на арбіту ўсечалавечай славы Янка Купала, Якуб Колас, Францішак Багу-

18 Зак. 1969

шэвіч, Максім Багдановіч, Цётка, за савецкі час набыла сусветнае гучанне і ўжо магутнай, шырокаю плынню ўліваецца ў рэчышча многанацыянальнай савецкай літаратуры, развіваецца і расце пад жыватворным сонцам братэрства і дружбы вялікай сям'і народаў СССР, з'яднаных адзінствам мэты, супольнасцю жыцця і змагання за светлыя ідэалы чалавецтва.

Сёння галоўную паэтычную службу нясуць побач са старэйшынамі паэтычнага цэха — народнымі паэтамі БССР Максімам Танкам, Піменам Панчанкам, разам з паэтамі, голас якіх загучаў у час Вялікай Айчыннай вайны і асаблівую моц набраў у пасляваенныя гады — Аляксеем Русецкім, Міколам Аўрамчыкам, Анатолем Вялюгіным, Максімам Лужаніным, Кастусём Кірэенкам, паэты сярэдняга і малодшага пакалення — Анатоль Вярцінскі, Анатоль Грачанікаў, Рыгор Барадулін, Генадзь Бураўкін, Ніл Гілевіч, Генадзь Пашкоў, Уладзімір Паўлаў, Юрась Свірка, Янка Сіпакоў, Сяргей Законнікаў, Васіль Зуёнак, Алег Лойка, Кастусь Цвірка, Юрка Голуб, Мікола Маляўка, Яўгенія Янішчыц і многія іншыя.

У суквецці адметных, усё мацнеючых паэтычных дараванняў — Пятрусь Макаль, адзін з цікавых і сапраўды таленавітых паэтаў, якія ўзбагачаюць і жывяць беларускую паэзію, паэзію стварэння і змагання за абнаўленне свету, за ўсталяванне справядлівасці, дружбы між народамі і міру на зямлі.

Пятрусь Макаль паходзіць з сялянскай сям'і. Нарадзіўся ён у 1932 годзе ў вёсцы Крушыняны, на Беласточчыне. У сваіх аўтабіяграфічных нататках П. Макаль піша: «У вёсцы была пачатковая школа, і, калі мне споўнілася шэсць гадоў, я стаў яе вучнем. Навучалі ў школе галоўным чынам закону божаму і польскай мове».

З роднай паэзіяй будучы паэт пазнаёміўся дома, у хатнім «універсітэце культуры». Маці чытала яму вершы Янкі Купалы, Якуба Коласа, Міхася Васілька, Міхася Машары. Яны, як кніга народнай памяці, перадаваліся вусна, бо родная мова пры ўрадзе Пілсудскага была забаронена.

Натуральна, што як толькі ў верасні 1939 года савецкія войскі вызвалілі з-пад белапанскага прыгнёту Заходнія вобласці, і Пятрусь Макаль, як і ўсе дзеці вызваленых беларусаў, атрымаў магчымасць вучыцца ў школе на роднай мове, чытаць кнігі беларускіх пісьменнікаў.

У 1949 годзе П. Макаль стаў студэнтам Гродзенскага педінстытута, і хутка ў друку з'явіліся першыя яго

вершы. Потым працаваў у рэдакцыі «Гродзенскай праўды», служыў у Савецкай Арміі. Дэмабілізаваўшыся, ён у 1957 годзе прыязджае ў Мінск, супрацоўнічае ў часопісе «Маладосць», пачынае стала займацца літаратурнай працай.

«Першы след» — так назваў П. Макаль сваю першую кніжку, якая выйшла ў 1955 годзе. Яму пашанцавала: яе ў друк блаславіў як рэдактар Пімен Панчанка, і гэта натхніла маладога аўтара, урокі майстра пайшлі яму на карысць, можна сказаць, акрылілі яго ўзлёт. Юначы імпэт, упэўненасць і вера ў сваё прызванне выразна праявіліся на пачатку паэтычнай дарогі. У вершы, які даў назву першаму зборніку, П. Макаль піша:

Калі ты на досвітку ўзараў
Прасцяг вялізны поля веснавога,
Тады твой след і сонцу і сябрам —
Зайздросная, прывабная дарога.

Паэтычнае слова мужнее з кожным новым творам, з кожнай наступнай кніжкай. Вучоба на Вышэйшых літаратурных курсах у Маскве дала паэту багата і ў сэнсе прафесійнага росту, і ў сэнсе развіцця агульнай культуры. На фармаванне яго грамадзянскай сталасці і разуменне высокага прызначэння зброі слова, адказнасці мастака перад часам, перад народам станоўча паўплывалі сустрэчы з людзьмі легендарнага лёсу, такімі, як Юры Гагарын, Сяргей Канёнкаў, Назым Хікмет...

Адна за другой выходзяць новыя кнігі паэзіі — «Вятрам насустрач» (1958), «Вечны агонь» (1960), «Круглы стол» (1964). Плённа выступае П. Макаль і ў драматургіі. На сцэне Рэспубліканскага тэатра юнага гледача пастаўлены яго п'есы «Адчыніце, казлянятк!!», «Дай вады, калодзеж», «На ўсіх адна бяда». У Маскве на рускай мове выходзіць кніга вершаў «Твое имя» (1964).

Цікава перачытаць цяпер хаця адну з тых кніжак, скажам, зборнік «Круглы стол». Мы бачым, як закладваюцца падваліны і ўзводзіцца будынак таго, я сказаў бы, макалёўскага паэтычнага збудавання, у якім шчасліва абжывецца і адчувае сябе ўпэўнена высокая духоўная муза — паэзія. Яе лепшыя рысы і асаблівасці — і гэта аднадушна адзначала крытыка — грамадзянскасць, яркая вобразнасць, філасофская заглыбленасць інтымнай лірыкі, якая ў творчых пошуках усё больш стала праяўляецца.

Мае радкі — не лесвіца ў вякі,
Што недзе за туманнай рысай неба.

Мае радкі — працяг маёй рукі,
Якой мне столькі рук паціснуць трэба.

П. Макаль ашчадна ставіцца да таго, што створана ў паэзіі папярэднікамі, старанна вучыцца ў класікаў. Яго духоўнымі настаўнікамі з'яўляюцца Янка Купала, Якуб Колас, Максім Багдановіч, Уладзімір Маякоўскі. Грунтуючыся на іх спадчыне, паэт упэўнена ідзе наперад, пракладвае сваю баразну на ніве паэзіі. Тэматыка вершаў, паэтычны свет лірычнага героя пашыраецца, паэт выводзіць яго за межы асабістых перажыванняў аўтара. Смела бярэцца П. Макаль за публіцыстычна-грамадзянскую тэму, тэму барацьбы за мір і дружбу паміж народамі. Дастаткова прачытаць такія вершы, як «Круглы стол», «Ля абеліска Перамогі», «Сікейрас», «Кубінскі танец», «Сябрупаэту», каб пераканацца, што для паэта грамадзянскае — найпершы абавязак, голас сумлення. Паэт-змагар, баец ідэалагічнага фронту, і месца яго на пярэднім краі жыцця. Звяртаючыся да сябра-паэта, П. Макаль гаворыць:

А мог бы ты, як Галілей,
планету
Спіхнуць з усемагутных трох кітоў?
Ты маўчыш?
Тады выкінь сваё пяро!

Вось крэда паэта, якое паўторыцца ў розных аспектах не раз; вось максімалізм лірычнага героя, якога хвалюе лёс усёй планеты; ён марыць, каб за стол села ўся людская сям'я і ў застоллі была «маці — самы мудры старшыня».

І ўжо ў наступным зборніку, які мае такую простую, але арыгінальную назву «Акно» (1967), паэт заклікае людзей разарваць дзірваны варожасці, бо:

Мы — людзі! Мы павінны парадніцца,
Крануць пласты адвечнай цаліны...
Планету падпяража не граніца,
А млечны пояс роснай збажыны.

Стваральная місія чалавека, яго грамадзянская адказнасць за ўсё, што адбываецца на свеце,— галоўны клопат паэта, пафас лірычнага героя, які ўжо тут, у зборніку «Акно», выступае ў розных вымярэннях — грамадзянскім, лірычным і філасофскім. Ён, лірычны герой, вырас, ён задумваецца над тым, хто ён і для чаго жыве; яго душа прагне — «яснасці, яснасці, яснасці». «Яснасці ў спазнаным, яснасці ў тым, што зведаем».

Пачэснае месца ў лірыцы П. Макаля займае тэма, якая сёння гучыць як адна з самых надзённых і турботных —

чалавек і прырода; адносіны чалавека да ўсяго, чым ада-рыла яго маці-зямля. Як ён, чалавек, ставіцца да ўсяго жывога, што вакол яго і дае яму, чалавеку, радасць існавання. Здаецца, тыя ж вобразы — так званая прыродаапісальная лірыка (вершы «Мой лес», «Поле, поле», «Асеннія барвы», «Прыпяць», «Вілія», «Берагі», «Нафта») П. Макаля набываюць новыя адценні і праявы. І галоўнае — выклікаюць пачуцці суперажывання, уздзейнічаюць на розум і сэрца чытача. Маляўнічасць, нечаканы паварот тэмы, свежыя паэтычныя дэталі, выяўленчыя сродкі — усё ўсхвалюе чытача ў паэзіі П. Макаля. Вось хаця б адна з макалёўскіх паэтычных знаходак. У вершы «Запрашэнне к здароўю»: «як скальпель, прамень сонца нацэлены на вас» ці ў вершы «Прыпяць» — пра палескую раку:

Здалася ты мне з вышыні трапяткой,
З глухой самалётнай шыбы
Сасновай галінкаю,
да якой,
Як гнёзды, прыліплі сялібы.

У свеце дзейнічаюць яшчэ сілы, якія ніяк не ўціхамірацца: падпальшчыкі, якія прагнуць новай вайны, душыцелі свабоды. Іх паэт асуджае смела, з абурэннем і гневам, з усёй нянавісцю чалавека працы, хлебасея і каваля.

Рукой ружовы шар пакратаю,
І зноўку думка апячэ:
Што перакрэсленыя кратамі
На свеце вокны ёсць яшчэ.

У паэзіі П. Макаля ёсць адна, вельмі цікавая і, здаецца, вельмі каштоўная якасць — тонкая іронія, яе зіхатлівыя пералівы. Светлая ўсмешка, гумар асвятляюць ягоную паэзію, як сонца асвятляе аблачынкі на небасхіле — спадыспаду, знутры, высвечваючы кожную пярынку, кожную гурбачку-аблачынку. Такія вершы ёсць ва ўсіх кнігах, якія выйшлі больш як за дваццаць пяць гадоў актыўнай і плённай творчасці. Для прыкладу можна ўзяць хоць бы верш «Няма часу», дзе высмейваецца мітуслівасць, чэрствасць і абыякавасць. Бюракрат, «канцылярская сошка», «гатовы адчытаць нават сонца, што ўваліла ў кабінет без дакладу». У зборніку «Акно» такіх вершаў цэлы раздзел: «Душ», «Сябру, які спяшаецца», «Бот», «Антэна», «Святло і гук», «Робаты», «Ода горлу», «Скарга цвіка» — усе яны дасціпныя, па-макалёўску вострыя і мудрыя. Іх выбуховая сіла моцная, іх можна лічыць сапраўднай зброяй, з якой можна ісці ў самую жорсткую атаку на мя-

шчанства, змагацца з раўнадушшам — хваробай, якую, аказваецца, можна лячыць і вершамі.

Можа, я аб гэтым робаце
І апошні верш пішу.
Робаты, няўжо вы ўгробіце
Чалавечую душу?

Як бачым, дрэва нашай паэзіі расце, вяцвіцца, харашэе яго крона, глыбеюць яго карані. Мужнее і набірае ўсё большай моцы голас Петруся Макаля ў хоры сучасных савецкіх паэтаў. Паэта натхняюць мужнасць, працавітасць і аптымізм свайго народа. Лірычны герой — наш сучаснік, працаўнік і змагар за мір, яго паэтычнае крэда — «чалавечнасць, як вечнасць», зямная радасць — «дотык да чалавека»! Чалавечае ў чалавеку, якому падначальваюцца жалезныя робаты, рацыяналістычнасць і тэхніцызм НТР хвалюе паэта ўсё больш, і ён не спяшае схавацца ад трывог і турбот веку, а рашуча і адважна адстойвае гуманізм, чалавечнасць, не стамляецца заклікаць людзей берагчы не многае, усяго адно — «Зямлю, і ваду, і паветра, і траву».

Наступны зборнік, які выйшаў з друку ў 1975 годзе і прыхільна сустрэты крытыкай, стаў ужо ўласнасцю чытачоў. Паэт не выпадкова назваў яго «Дотык да зямлі». У анатацыі да кніжкі сказана: «Лірычны герой паэта — наш сучаснік, які жыве трывогамі і хваляваннямі дваццатага веку».

Якія ж гэта трывогі, што хвалююць сёння паэта-грамадзяніна ў бурны, ядзерны век і абвастрэння барацьбы чалавецтва за пераўтварэнне свету, за ўсталяванне праўды і міру на зямлі?

Яны, трывогі і хваляванні, яскрава і канкрэтна выказаны ў вершы «Ёсць словы, што прасцей, чым двойчы два». Ім адкрываецца кніжка:

Зямля —
Прытулак зла і дабраты,
Клубок расчараванняў і надзей,
Няма вышэйшай радасці людзей,—
Як адчуваць, што пад нагамі ты.

Вершы гэтыя, без перабольшання, можна чытаць і перачытваць — гэта глыбіня думкі і эмоцый, плён роздуму і перажыванняў паэта, якога па-чалавечы хвалюе ўсё, што адбываецца вакол, у жыцці; нішто не пакідае раўнадушным, абыякавым. Аднолькава яго цікавіць і тое, што цяпер усё часцей «бацькі дзяцей дамоў гукаюць, а дзеці ў гульнях несвядома з двара бацькоўскага ўцякаюць», што

на зямлі «множацца страшныя «без» — «мора без рыбы, дом без людзей», што, «забіўшы бога, чалавек сам уссеў на трон валадара свету», каб не забыў ён — разумны валадар, пра тое, што яшчэ «піруюць піраты, і ад іх няма ратунку нідзе», што ёсць яшчэ краі, дзе «мірам завуць вайну, поле аруць штыкамі», што «ў травы забіраюць правы, і кладзецца сцяблінка травы пад асфальт, як пад танк радавы»...

Вока паэта пранікнёнае, сэрца паэта прагне ўмясціць увесь свет. Дыяпазон паэтычнага багацця шырокі, неабдымны. П. Макаль не спыніўся на дасягнутым у паэтычным праламленні ўбачанага: у поле яго зроку трапляюць, здавалася б, самыя звычайныя з'явы жыцця, праявы рэчаіснасці. Ён раскоўвае думку, дае прастор сваёй фантазіі. Толькі здаецца, што ў некаторых вершах лірычны герой ад зямных турбот, ад мітусні і таўкатні спрабуе схавацца то ў вышыні, на самалёце, то спяшаецца да росных мурагоў, да дрэў і птушак, дзе «ласкава дражніцца і колас, і травінка вострая, як нож». Усюды з ім трывога і боль, клопат пра лёс будучыні, трывога за зямное неўладкаванне. Усюды, дзе ён ступае, памятае: «Маё мінуўшае за мной — з надзеяй і дзіцячым плачам».

Агульнавядома, што паэзія моцная сваім патрыятычным пафасам. Але і тэму патрыятызму, любві да роднага краю, да бацькаўшчыны П. Макаль вырашае свежа, пасвойму. Не перапяваючы раней сказанае, ён упарта шукае і знаходзіць новыя грані, «пункты» дотыку да роднай зямлі, да яе спадчыны, як запаветнага скарбу. Паэт сціплы ў сваіх пачуццях, як сын, які любіць сваю маці, не клянецца ёй у сваёй любві, а носіць заўсёды з сабою ў сэрцы. Яму дарагая родная зямля, агнём хрышчоная. З ёю ён заўсёды і ў шчасці, і ў журбе,— куды і сам пясчынкаю аднойчы вернецца, як у родны дом.

У адным з лепшых вершаў такога плану «Лёс народа — Купала» П. Макаль сцвярджае:

Сёння зноў на вялікай штодзённай сяўбе
Слова-зерне, што ў сэрца запала,
Мы нясём пакаленням наступным цябе,
Скарб народа — Купала.

Наш сучаснік у хвалюючых паэтычных радках выступае як грамадзянін новага, гарманічнага свету, вестуном якога некалі быў наш Купала са сваімі афарыстычнымі словамі: «А хто там ідзе?», як наследнік, які зберажэ скарб народны, «любоўю сыноўняй атуліць», перадасць сваім наступнікам. Вобраз Купалы атаесамляецца з вобра-

зам Радзімы, бацькаўшчыны, здабытай у жорсткай барацьбе за волю і долю.

Савецкая паэзія развіваецца ў рэчышчы творчага асэнсавання рэальнага жыцця, тых вялікіх змен, якія здзейсніў і здзяйсняе сучаснік. Абавязак паэта — глыбей спазнаць яго, выявіць сваёй мерай — паэзіяй.

З упартасцю нястомнага шукальніка запаветнага паэтычнага слова працуе Пятрусь Макаль, не шкадуе сіл і здольнасцей для глыбокага асэнсавання жыццёвых з'яў і падзей, каб уславіць лепшыя рысы характару сучасніка, чалавека светлай будучыні.

Сваё пяцідзесяцігоддзе Пятрусь Макаль адзначаў у росквіце творчых сіл. На стале — новыя вершы, у планах — вялікія задумы. Паэт шмат працуе і як перакладчык з рускай, украінскай, польскай, славацкай, чэшскай і іншых моваў, і як рэдактар і ўкладальнік анталогій беларускай паэзіі на мовы народаў СССР і мовы замежных краін. Шчыра і нястомна дапамагае стаць на крыло новаму паэтычнаму выраю.

Свой нядаўні зборнік паэзіі П. Макаль назваў «Азбука бегу». Яна, тая азбука, напэўна, у тым, каб не спыняцца на дасягнутым, быць упоравень з часам, з нашым дынамічным векам, нястомна працаваць дзеля ўсталявання перамогі самых лепшых ідэалаў чалавецтва.

Час паказаў, што П. Макаль — паэт высокага грамадзянскага напалу і чыстага лірычнага струменю, заваёўвае новыя вышыні ў паэзіі. Вершы, сабраныя ў чарговай кнізе «Смак яблыка», якая выйшла з друку ў 1983 годзе, найлепшым чынам пацвярджаюць высокую грамадзянскасць паэзіі П. Макаля — лаўрэата літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова. Паэт жыве трывогамі за лёс планеты і мужным, гарачым словам змагаецца за мір ва ўсім свеце. Зборнік вершаў «Калыска долі» (1984) бліскуча пацвярджае творчую актыўнасць і нязменнасць грамадзянскай пазіцыі. Пятрусь Макаль атрымаў Дзяржаўную прэмію БССР імя Янкі Купалы.

## НА ПУЛЬСЕ ЧАСУ

З Алесем Асіпенкам мы равеснікі. Во і наша пакаленне, што перад вайною толькі апярылася і рабіла першыя крокі ў жыцці, акрыленае рамантыкай і марамі, выходзіць, як кажуць, на фінішную прамую... А нам здаецца,

што мы ўсё маладзёны, і сапраўды, мы ж яшчэ не зрабілі багата з таго, што сабе намерылі ў планах і задумах.

З далечыні пройдзеных і зведаных дарог, азірнуўшыся назад, мы можам сказаць — пражыта нямала, а зведана яшчэ больш. Наша юнацтва апалена вайною, наша маладосць гартавалася ў полымі ваеннага ліхалецця. А. Асіпенка напрадвесні 1942 года пайшоў у партызаны. Фашысты спалілі бацькоўскую хату. Маці і дзве сястры вымушаны былі хавацца па людзях, ратуючыся ад расстрэлу. Узімку пачалася блакада, бесперапынныя атакі карнікаў, і Сашка-партызан быў на пярэдняй лініі агню. Блакадная зіма зрабіла сваё — адкрыліся ранейшыя раны, і Асіпенка перапраўляецца цераз лінію фронту. Пачаліся шпітальныя будні. Зноў, як і ў маленстве, абудзілася жаданне пісаць. Яму пашэнціла, як нікому іншаму, на першага літаратурнага настаўніка. У партызанскім доме адпачынку, у Пушкіне, А. Асіпенка пазнаёміўся з Кузьмой Чорным, якому і чыталіся першыя старонкі задуманага твора. Вядомы беларускі празаік сказаў: «Не кідайце свае гэтае працы».

Наша знаёмства адбылося якраз тады, калі Алесь, нядаўні партызан, у зношаным шыняльку, цыбаты, вяснушкаваты хлопец, хадзіў увосень 1943 года па вёсках маёй, толькі што вызваленай Краснапольшчыны, камсамольскі важак, першы сакратар райкома камсамола. Лінія фронту была недалёка, за Проняй і Сажом. Зімовай раніцай я спяшаўся на адведкі да маці ў вёску з вайсковай часці, што стаяла недалёка ад Слаўгарада, і ў суседняй вёсцы Гніліца сустрэў Алеся.

Пасля вайны нам давялося ў першыя дні 1946 года сустрэцца ў рэдакцыі «Чырвонай змены». Алесь Асіпенка ўжо слыў заўзятым газетчыкам — ён загадваў аддзелам камсамольскага жыцця. Вядома, многія дробязі, дэталі сцерліся, але галоўнае, што вызначае чалавека, першае ўражанне ад сустрэчы, асабліва калі чалавек з табою звязаны агульнай справай,— застаюцца надоўга, бадай на ўсё жыццё.

То былі цяжкія бясхлебныя гады пасляваеннага аднаўлення. Мы ўсе тады жылі бедна, бо горад ляжаў у руінах; сціпла апраналіся, ездзілі ў камандзіроўкі ў перапоўненых халодных вагонах, а часта і на таварняках. З вёскі ў вёску дабіраліся пехатою, у лепшым выпадку нас падвозілі на фурманцы (гэта ўжо лічылася раскошай), але мы былі поўныя энергіі і энтузіязму. Усіх нас, як і Алеся Асіпенку, натхняў і даваў нам добры зарад настрою Іван

Аляксандравіч Матыль, рэдактар «Чырвонай змены», адкрытай, шчодрай душы чалавек, які сам мужна прайшоў агнявую школу партызанскай барацьбы і змагання.

Пасля выпуску газеты мы хадзілі на ачыстку руінаў, удзельнічалі ў практычным выкананні тых заклікаў, якія толькі што самі давалі ў газету: «Мы адбудуем цябе, родны Мінск!» У рэдакцыйным пакоі ў Доме друку стаяла печка-буржуйка, ля якой зімовымі вечарамі грэліся супрацоўнікі. Тут жа складаліся планы чарговых нумароў, кіпелі размовы, спрэчкі... Туды, у адзіны цёплы пакой, прыходзілі пісьменнікі, што прыязджалі ў вызвалены Мінск з фронту і тылу, а таксама маладыя, што жылі ў горадзе і працавалі ў рэдакцыях. Пазней пры «Чырвонай змене» было створана літаратурнае аб'яднанне. Вядома, у ім удзельнічаў і Алесь Асіпенка.

Я памятаю Алеся Асіпенку падчас работы ў «Чырвонай змене» — гарачага энтузіяста і ініцыятара, нястомнага ў прыдумках ідэй і рэдакцыйных знаходак. У яго надзіва добра спалучаліся прызванне камсамольскага работніка і няўрымслівасць газетчыка.

Першыя пасляваенныя пакаленні камсамоліі — былі, па сутнасці, дзеці вайны, сведкі жахаў і пакут фашысцкай няволі. Яны дачасна сталелі і смела бралі на сябе ношку дарослых. Юнакі і дзяўчаты вызваленых раёнаў поруч са старэйшымі станавіліся на рыштаванні будоўляў, браліся за поручні плуга і серп... Усё новае, што нараджалася ў аднаўленых камсамольскіх ячэйках, шматлікія пачыны і ініцыятывы, а іх было вельмі багата, знаходзілі аператыўнае асвятленне на старонках камсамольскага друку. Алесь Асіпенка, нягледзячы на хваробы і дрэнны стан здароўя, часта ездзіў у камандзіроўкі, арганізоўваў канферэнцыі чытачоў, завочныя школы камсамольскіх важакоў, выступаў з нарысамі і карэспандэнцыямі. Як і наш нястомны рэдактар «бацька Матыль», ён умеў шчыра радавацца, калі каму з нас удалося знайсці цікавую, надзённую тэму, асвятліць і падтрымаць каштоўную маладзёжную ініцыятыву. Любіў Алесь Асіпенка вострыя крытычныя матэрыялы, смела адстойваў праўду, справядлівасць, змагаўся з усім тым, што перашкаджала нашай імклівай хадзе наперад. Думаецца, што гэта не толькі ўласцівасць характару, гэта пазіцыя камсамольца, а затым камуніста.

Каля пяці гадоў мы працавалі разам з Алесем у «Чырвонцы», і я не памятаю, каб ён гаварыў пра тое, што нешта піша «для сябе», працуе над сваімі творамі. Такая магчымасць надарылася для яго ў бальніцы.

Першыя апавяданні Алеся Асіпенкі з'явіліся ў друку на пачатку 50-х гадоў. У 1953 годзе ён перамяніў пасаду рэдактара «Чырвонай змены» на пасаду загадчыка аддзела ў часопісе «Маладосць».

На старонках часопіса была надрукавана аповесць «Паплавы», у якой А. Асіпенка паказаў сябе аўтарам сучаснай тэмы. Ён рашуча ўрываўся ў жыццё, адлюстроўваючы падзеі і з'явы, якія вызначаюць тое, што мы называем буднямі рэчаіснасці. Адна з галоўных, вызначальных рысаў творчасці А. Асіпенкі — адкрытая, яскравая публіцыстычнасць, якая не зніжае вартасці ягонай прозы, што сталела, набіраючы сілы і сокаў з жывых крыніц і шматгалосся жыцця. Чорнаўскае «мова — жывая істота, яна жыве, а не існуе» паступова, з набыццём вопыту і прафесіяналізму, становіцца вышынёй, якая падуладна празаіку. Ужо ў аповесцях «Сыну майго сына», «Жыта», «Абжыты кут» зроблены ўпэўнены крок наперад; аўтар дбае і аб мове, як жывой істоце, і сюжэце як кроквы ўсякага твора. Мы бачым, як умацоўваецца і пісьменніцкая адказнасць за сваё слова.

Аднойчы Алесь Асіпенка, ужо наш галоўны рэдактар «Маладосці», прынёс стос кніжак. То быў першы раман «Вогненны азімут».

Алесь Асіпенка — адзін з пладавітых нашых празаікаў, якія ўваскрасілі подзвіг і мужнасць свайго народа ў час найвышэйшага выпрабавання лёсу — у векапомныя дні Вялікай Айчыннай вайны. Крытыка станоўча прыняла «Вогненны азімут». У рамане праўдзіва паказаны цяжкасці партызанскай барацьбы на пачатку Айчыннай вайны. У цэнтры твора — пяцёра падпольшчыкаў-камуністаў. Ім выпала ва ўмовах страшэннага тэрору і гестапаўскіх правакацый, ахвяруючы сабой, ствараць партызанскую стратэгію і тактыку, якімі і дасюль здзіўляецца свет. «Тут, як і ва ўсякай вялікай і складанай справе,— гаворыць Алесь Асіпенка,— мае героі не пазбеглі памылак, але не памылкі характарызуюць іх. Проста гэта былі звычайныя людзі ў незвычайных умовах і абставінах...»

І сапраўды, дастаткова хоць бы пазнаёміцца з біяграфіяй аднаго з персанажаў — Стася Каршукова. Лёс кінуў яго ў такі пераплёт, з якога, здавалася, не выбавіцца. Але ён знаходзіць дарогу, якая і прывяла яго ў партызаны.

Праз цяжкасці і перашкоды, выбіўшыся з пакут і пекла, людзі ішлі па вогненным азімуту. Поўныя рашучасці, яны верылі ў перамогу і таму ішлі ў агонь змагання і нішчылі ворага бязлітасна.

Рашучасць да змагання, вера ў канчатковую перамогу, няскоранасць — азімут, па якім ідуць героі А. Асіпенкі. Наперадзе — барацьба і выпрабаванні. Разам з імі мы верым, што і «на вызваленым Падзвінні, як і да вайны, будзе цвісці чабор на ўгрэве па ўзлессях, а падзвінскія паплавы будуць вабіць вока раздоллем, цудоўнай стрыманасцю колераў і фарбаў».

У рэдакцыі часопіса «Маладосць» Алесь Асіпенка прайшоў тыя ж ступені ўзыходжання, што і ў газеце: пачаў працу загадчыкам аддзела, быў сакратаром і намеснікам рэдактара, а затым больш як шэсць гадоў узначальваў рэдакцыйны калектыў. Яго заўсёды характарызавалі неўтаймаванасць, творчы неспакой, падтрымка ўсяго новага, перадавога ў буднях камсамольскіх, маладзёжных калектываў. За гэтыя гады многа было зроблена для таго, каб часопіс для моладзі заўсёды адчуваў пульс часу, паспяваў за жыццём, кіраваўся наперадзе жыцця.

Былі ў нас і спрэчкі, і рэзкія размовы — у рабоце ўсякае бывае. Але ў Асіпенкі мне імпануе адна вельмі каштоўная рыса, якая, думаецца, неабходная кожнаму кіраўніку ў калектыве,— гэта чэснасць і справядлівасць, патрабавальнасць, памножаная на чуласць і любоў да людзей. Ён часта падаваў ідэі і сам з усімі шчыраваў, каб іх ажыццявіць, нярэдка беручы на сябе тое, што не ўдавалася іншым.

Разам з тым, як заўсёды, Алесь Асіпенка ахвотна і з азартам браў на сябе вялікія грамадскія нагрузкі і ў рэдакцыйным калектыве, і ў Саюзе пісьменнікаў. Памятаю, што ў «Маладосці» ён быў і сакратаром пярвічнай журналісцкай арганізацыі, і старшынёй мясцкома. Грамадская праца, тэмперамент завадатара — ягоная жыццёвая патрэбнасць, прызванне і абавязак, якія зусім, як бачым, не перашкаджалі творчаму росту і развіццю здольнасцей.

Можна было б сёе-тое прыгадаць з тых многіх нашых размоў, з гутарак, якія нітаваліся праз доўгія гады сумеснай працы. Але важна, што ва ўсіх праявах жыцця, пра што ні была б гаворка ў таварыстве ці ў звычайных рабочых буднях, заўсёды А. Асіпенка ўмеў быць аўтарытэтам, вылучыць галоўнае, бачыць за фактамі думку, запаліць іскрынкай іншых, бо сам душой аддаваўся грамадскай справе. Ягоныя энергія і энтузіязм перадаваліся ўсім, хто быў з ім побач; ён умеў вучыцца сам, вучыў і іншых працаваць, бачыць у рабоце, у руху думкі шчасце і радасць ад працы.

А. Асіпенка не дзяліў сваю творчасць і сваю работу ў

рэдакцыі — для яго гэта было адзінае, чаму ён прысвяціў сваё жыццё і свае здольнасці. У час яго рэдактарства на старонках «Маладосці» з'явіліся першыя апавяданні і аповесці Васіля Быкава, Івана Навуменкі, Аляксея Карпюка, Уладзіміра Дамашэвіча, Алеся Адамовіча, Уладзіміра Караткевіча, Івана Пташнікава, Барыса Сачанкі... Трэба было бачыць, з якім маладым бляскам у вачах Алесь хадзіў па пакоях рэдакцыі, ахоплены ўзрушанасцю ад цалінных вершаў Рыгора Барадуліна і Генадзя Бураўкіна!.. Гэта ён ухваліў першыя крокі ў паэзію і Еўдакіі Лось, і Веры Вярбы, і многіх маладзейшых паэтэс і паэтаў.

Сярод тых буйных твораў, што ўпершыню друкаваліся на старонках «Маладосці», можна прыгадаць цяпер шырока вядомыя раманы Івана Чыгрынава. Як прызнае крытыка, першы раман І. Чыгрынава «Плач перапёлкі» быў наватарскі і востра, па-новаму высвятляў некаторыя істотныя старонкі мінулай вайны. Патрэбны былі і рэдактарская смеласць, і разумная дапамога аўтару, які ўзяўся за такое вялікае палатно. Усё гэта тады малады аўтар атрымаў ад сваіх старэйшых таварышаў па пяру.

Пасля «Маладосці» Алесь Асіпенка не перастаў быць пісьменнікам маладзёжнай, камсамольскай тэмы. Чытачы знаёмыя з яго аповесцямі «Канец бабінага лета», «Два дні і дзве ночы», якія найперш убачылі свет на старонках «Маладосці», з раманам «Непрыкаяны маладзік», які друкаваўся ў «Полымі». За раман «Непрыкаяны маладзік» А. Х. Асіпенку прысуджана літаратурная прэмія імя Івана Мележа.

Творы выйшлі асобнымі кнігамі. Яны — ад перажытага, выпакутаванага самім аўтарам. Па ягоных творах можна вучыцца і гераізму, і ўменню жыць з карысцю для людзей, для ўзвелічэння славы і шчасця сваёй савецкай Айчыны.

Алесь Асіпенка — лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі, нястомны ў сваіх пошуках і новых тэм, і значных характараў.

## ПОЎДЗЕНЬ ТАЛЕНТУ

У пасляваенныя гады беларуская савецкая літаратура ўзбагацілася новымі, маштабнымі творамі прозы, якія сталі ўпоравень з часам. У сярэдзіне пяцідзесятых гадоў у шэрагу новых літаратурных імёнаў пачэснае месца заняў

Іван Пташнікаў, арыгінальны, пладавіты празаік, творчасць якога вызначаецца глыбінёй адлюстравання і даследавання народнага побыту, праблемнасцю, ідэйнай сталасцю, яркай сацыяльнай накіраванасцю. У аповесцях і раманах — жывы, усхваляваны расказ сучасніка аб сучаснасці.

Іван Пташнікаў — з таго пакалення, дзяцінства і юнацтва якога прыпала на гады вайны і фашысцкай акупацыі. Ён нарадзіўся на Лагойшчыне ў 1932 годзе ў вёсцы Задроздзе, у сялянскай сям'і. Яго маці ў свой час скончыла сельскагаспадарчы тэхнікум, працавала на ферме. Да ўсякай сялянскай працы прывучала і сваіх дзяцей.

Адзінаццацігадовым падлеткам Іван зведаў жахі і трывогі ваеннага ліхалецця. Паміж Віліяй і возерам Палік разгаралася полымя партызанскай барацьбы. Як воўчая зграя, фашысцкія акупанты-карнікі гойсалі па вёсках, намагаючыся задушыць партызанскія выступленні і баі, і, калі ім гэта не ўдавалася, усю звярыную злосць спаганялі на мірных жыхарах. Як і ўсе землякі, Іван падлеткам зведаў голад і холад, жахі блакад. Людскія слёзы і боль назаўсёды запалі ў дзіцячую душу, выспеліўшы ў ёй гнеў і асэнсаваную нянавісць да ворагаў.

Нялёгкім было пасляваеннае юнацтва — бясхлебнае, напоўненае штодзённай працай поплеч з дарослымі. З папялішчаў паўставалі спаленыя і зруйнаваныя карнікамі-фашыстамі вёскі, накшталт Дальвы і Лонвы,— такія, як недалёкая ад іх Хатынь, што цяпер стала ўвасабленнем мужнасці і гераізму Беларусі-партызанкі. Наш боль і наша памяць.

Час аднаўлення роднага краю, знявечанага акупантамі і вайной, далі будучаму пісьменніку столькі матэрыялу для творчасці, што яго хопіць на многія гады.

Да таго, як паступіць на аддзяленне журналістыкі БДУ імя У. І. Леніна, Іван Пташнікаў крыху і настаўнічаў, і супрацоўнічаў у рэдакцыі плешчаніцкай раённай газеты. З вершам «На калгасным полі», надрукаваным у рэспубліканскай газеце «Звязда» ў жніўні 1952 года, ён трымаў уступныя экзамены ва універсітэт. І ўжо студэнтам-выпускніком апублікаваў у часопісе «Полымя» першую сваю аповесць «Чачык», на якую звярнулі ўвагу чытачы і крытыкі.

У час вучобы на старонках газет і часопісаў друкуюцца апавяданні маладога празаіка. Аб'ектам даследавання і пазнання з'явіўся свет людзей, яму блізкіх і знаёмых, якія перажылі ліхалецце і самаахвярна, усімі сіламі, з нат-

хненнем і шчырасцю аднаўляюць свой кут, сваю зямлю. Зямля бацькоў — іх лёс і шчасце.

Імкненне пісаць без прыкрас, праўдзіва, так, як усё было ў жыцці, як найдакладней узнаўляць рэальныя з'явы і праявы рэчаіснасці выявілася ўжо ў першых яго апавяданнях, хаця і пазначаных рамантычнай узнёсласцю. Неўзабаве паявіліся аповесці «Чачык» і «Не па дарозе». Малады пісьменнік не абмяжоўваецца ўзнаўленнем рэалій і малюнкаў жыцця, а імкнецца да стварэння характараў, розных і адметных, мастацкімі сродкамі выяўляе і асуджае ўсё, што перашкаджае нашаму руху наперад, бічуе і выкрывае носьбітаў эгаізму і чэрствасці, раўнадушша і подласці. Так, побач з людзьмі высокага грамадзянскага служэння агульнанароднай справе з'яўляюцца такія, як Іллюк Чачык і Андрэй у першых аповесцях, як Выжлятнік і ойча Сабольскі — у першым рамане «Чакай у далёкіх Грынях».

Крытыка адзначала, што героі ранніх аповесцей І. Пташнікава — як бы гатовыя характары, сфарміраваныя недзе па-за старонкамі тэксту, і пісьменнік больш клапоціцца, каб усё было так, як у жыцці. Можа, гэта ў нейкай ступені і так, але ўжо ў тым жа рамане «Чакай у далёкіх Грынях» (1962) пісьменнік выяўляе і абмалёўвае чалавечыя характары ў дынаміцы, у руху і дзеянні, даследуе паводзіны і ўчынкі сваіх герояў, гэта значыць, стварае паўнакроўныя вобразы-тыпы. Відаць, гэта не толькі ад таленту, шчодрага і самабытнага, але і ад глыбокага і дасканалага ведання вясковых людзей, іх побыту, псіхалогіі. Якраз тады настаў час, калі ва ўсю шыр, па волі партыі разгарнулася рашучая і дзейсная барацьба за ўздым сельскай гаспадаркі, за выкараненне недахопаў і непаладкаў у жыцці пасляваеннай вёскі.

Героі твораў І. Пташнікава — нашы сучаснікі. Яны — натуры дзейсныя, абаяльныя, жывыя, горача любяць свой край, сваю зямлю, дзеля росквіту яе не шкадуюць сіл і працуюць апантана, да самазабыцця. Такая Галя Рэдзька, выпускніца медыцынскага тэхнікума, такія вясковыя хлопцы Аркадзь і Леанід з рамана «Чакай у далёкіх Грынях». Аўтар знаходзіць адметныя, характэрныя рысы, свежыя дэталі і яркія фарбы.

Прырода і чалавек — два пачаткі, на якіх канцэнтруецца ўвага пісьменніка. Прырода, яе жывыя праявы, у тым жа першым рамане — своеасаблівая, магутная, прыгожая і таямнічая ў сваёй першароднасці. У апісаннях лесу, ветру, палёў, лугоў Іван Пташнікаў, бадай, не мае

сабе роўных у сучаснай беларускай прозе. Як шчодры сейбіт, рассыпае пісьменнік па старонках спелыя зерні-малюнкі — пейзажы роднай прыроды. Часам яна жыве самастойна ад унутранага свету герояў, арганічна не звязаная з іх учынкамі і паводзінамі, але ніколі не зацяняе сабою чалавека, яе валадара.

У 1964 годзе напісана аповесць «Лонва». Узяты, прытым лёгка і смела, новыя прыступкі на шляху да творчай сталасці, выяўлены навочныя магчымасці мастака-рэаліста, якога ўсё больш цікавіць праўда, якой бы суровай яна ні была. Ён стараецца ўзняць як глыбей пласты рэчаіснасці. Пра сюжэт твора аўтар зазначае: «Падзея, пра якую расказвае аповесць, адбылася ў нашых паўночных беларускіх лясах пасля вайны — у 1946 годзе. Людзі — сведкі яе — усе жывуць...»

Што ж гэта за падзея? Загінуў хлапчук Юрка Даліна, падарваўся на міне. Але для аўтара не проста трагічная падзея. Не проста хлапчук — гэта цэлы свет, прыгожы і непаўторны. Балючае рэха вайны. Зноў мы сустракаемся з людзьмі, якія блізкія аўтару,— з жыхарамі Лонвы. Яны карэннямі звязаны з роднай зямлёю, з кутком, дзе нарадзіліся і пазналі радасці і нягоды. У «Лонве», як і ў іншых творах, моцна гучыць трагічная нота — водгалас і рэха мінулай вайны. Героі, якія дзейнічаюць тут, перажылі страшную трагедыю, яна і зараз у іх свядомасці, як асколак ля сэрца.

— У сваіх творах,— расказвае Іван Мікалаевіч,— я іду ад жыцця, ад канкрэтнага, рэальнага факта, як і раней, так і цяпер. За Плешчаніцамі, у лясах, ёсць такая вёска — Лонва. І героі, як падлетак Юрка, як і іншыя персанажы аповесці,— жывыя. І Грасільда жыве. Яе імя я змяніў. Калі настаўнічаў, жыў у Грасільды на кватэры...

Той жа жахлівы малюнак вайны ў новых праявах моцна гучыць і ў другой аповесці — «Тартак», якая выдадзена ў 1968 годзе. Крытыка адзначае: аповесць — яшчэ крок наперад у творчасці, бачнае сталенне пташнікаўскага самабытнага, ярка-нацыянальнага таленту. Створаныя ў аповесці вобразы — сем жыхароў Дальвы, якія вязуць збожжа па загаду акупантаў на прыёмны пункт, і ў лесе ля Тартака, дзе некалі была лесапілка, гінуць усе, за выключэннем падлетка Алёшкі, ад рук карнікаў,— розныя, але жывыя, па-майстэрску выпісаныя характары. За іх трагедыяй бачыцца трагедыя Дальвы, за ёю — трагедыя і пакуты народа. Аўтар дасягае выключнай эмацыянальна-

сці і напружанасці сюжэта. Па аповесці «Тартак» беларускае тэлебачанне паставіла мастацкі фільм.

Новы раман І. Пташнікава «Мсціжы», які выйшаў з друку ў 1972 годзе, як і лепшыя іншыя творы пісьменніка, перакладзены на рускую мову, таксама «прывязаны» да родных мясцін. Зноў жа пісьменніка хвалюе чалавек, яго месца і прызначэнне на зямлі, існасць і адвечнасць чалавечага быцця. На жыццёвым, надзённым матэрыяле аўтар даследуе сучасныя праблемы чалавека і яго лёсу — грамадзянскую адказнасць за сябе і за час, асэнсаванне яго месца ў жыцці сярод людзей.

«Мсціжы» — раман востра сацыяльны, пра чалавека-асобу, калгасніка і рабочага, пра тыя з'явы і праблемы, што ўзніклі ў нашай пасляваеннай вёсцы. У цэнтры твора — вобраз Андрэя Вялічкі, чалавека-працаўніка, які любіць родную зямлю, бароніць яе ад ворагаў і не можа кінуць бацькоўскі кут, бо звязаны з ім назаўсёды. Як працяг тэмы мінулай вайны і мірнага жыцця — аповесць «Найдорф», за якую І. Пташнікаву прысуджана Дзяржаўная прэмія БССР імя Якуба Коласа.

...У Івана Пташнікава — зайздросная працавітасць, захапляючыя творчыя планы. Пісьменнік у росквіце духоўнай і творчай сілы, на дарозе да новых творчых здзяйсненняў. Да 40-годдзя нашай Вялікай Перамогі чытач атрымаў новы, вострасюжэтны раман Івана Пташнікава «Алімпіяда», дзе свая тэма — лёс людзей, якія прайшлі праз пякельню мінулай вайны і будуюць трывалы мір. Можна не сумнявацца, што раман, як і ўсе лепшыя творы пісьменніка, парадуе чытача. Зарукай таму — шчодры пісьменніцкі талент Івана Пташнікава, які ўпэўнена і смела набірае ў творчасці вышыню за вышынёй.

## У ТРЫВОГАХ СВЕТУ

Свет сёння, бы туга напятая струна. У трывогах за жыццё, за лёс прагрэсу і міру жыве ўсё сумленнае чалавецтва. Кожнае слова, асабліва поклічнае слова пісьменніка ў абарону міру і шчасце людзей, не застаецца непачутым. Як узмоцненае магутным паскаральнікам, яно перадаецца людзям, гартуючы гнеў і нянавісць да тых, хто ставіць чалавецтва перад безданню ядзернай катастрофы, памнажае сілы, усяляе ўпэўненасць і веру змагароў і прыхільнікаў міру за спакой і шчасце на зямлі.

19. Зак. 1969

Чытач ведае Анатоля Кудраўца, як пісьменніка, які з першых сваіх апавяданняў і аповесцяў выступае шчырым і мужным выказнікам дум і пачуццяў савецкага чалавека, нашага сучасніка, імкнецца сказаць сваё, вынашанае слова аб яго подзвігах і велічных справах. У публіцыстыцы ён развівае і ўзбагачае сваю творчую пазіцыю, поклічным словам сцвярджае ідэі гуманізму, справядлівасці, прынцыпы камуністычнай маралі і грамадзянскасці.

У зборніку «За чужымі далямі» (1981) тры нарысы: «Лісты з Амерыкі», «Замалёўкі з выстаўкі» (аб паездцы ў ФРГ) і «Мангольскія штрыхі». Аўтар назваў іх дзённікам душы. І не без падставы. Здаецца, што можна новае сказаць пра ЗША? Мы не мала чыталі і ведаем пра гэтую капіталістычную краіну, дзе ўвесь час паглыбляецца бездань, што падзяляе глухой сцяной багатых і бедных, дзе выношваюцца жудасныя планы новай ядзернай вайны, дзе скрозь і ўсюды чыняцца насілле і грабяжы, забойствы і гвалтоўніцтва. У ЗША, як нідзе ў іншай краіне капіталістычнага свету, парушаюцца правы чалавека. Але праз тое, што мы прачытаем у нарысе «Лісты з Амерыкі», яшчэ выразней убачыцца для нас Амерыка сёння. Мы знойдзем праўдзівыя і жывыя штрыхі з жыцця і побыту амерыканцаў.

Нават пры агульным, як кажуць, беглым знаёмстве з гэтай «самай, самай» краінай аўтара ахоплівае трывожны роздум, у галаве рояцца супярэчлівыя думкі. З горкай іранічнай усмешкай пісьменнік для сябе ставіць пытанне, ці варта было некалі дзікі востраў, на якім пабудаваны Нью-Йорк, ператвараць у не менш дзікія каменныя джунглі.

Успамінаецца Аскар Неймер, бразільскі архітэктар, які марыў аб гарадах будучага, у якіх, яму мроілася, людзі зробяцца дабрэйшымі, а галоўнае — роўнымі. Такія гарады ў Амерыцы збудаваны, але людзі ў іх не сталі дабрэйшымі і не зблізіліся між сабой. Чаму? «Бяда ў грамадскім ладзе жыцця,— справядліва заўважае аўтар,— які не аб'ядноўвае, а наглуха адгароджвае чалавека ад чалавека».

Гэта заўважыў яшчэ М. Горкі, калі ў 1906 годзе пабываў у Нью-Йорку і назваў яго горадам «жоўтага д'ябла».

Ужо з першых крокаў чалавеку, які трапіў сюды, за акіян, раскрываюцца супярэчлівыя карціны амерыканскага «раю». А. Кудравец быў членам беларускай дэлегацыі на XXXIV сесіі ААН. Першае ўражанне, калі трапляеш у фешэнебельны будынак, дзе размяшчаецца Арганізацыя

Аб'яднаных Нацый — гэта не проста дах, а храм, і гэта арганізацыя ўсясільная, і ўсе людзі — браты». Але вось пачалося абмеркаванне так званага працэдурнага пытання, і «бачыш, што вера твая наткнулася на нешта незразумелае». Неўзабаве ўсё праясняецца. Слухаеш дэбаты, бачыш, як прымаюцца рашэнні, і пачынаеш разумець, «адкуль растуць ногі ў гэтага рашэння». Аказваецца, слова «мір» і «разрадка» не даспадобы яшчэ многім...

Аўтар шчыра і праўдзіва расказвае, у якіх цяжкіх і складаных умовах працуюць нашы дыпламаты, якая абстаноўка ў гэты час на вуліцах і плошчах Нью-Йорка. Антыкубінская, антысавецкая істэрыя, паніка ў зале Генеральнай Асамблеі, з выпадку чуткі, нібыта тут пакладзена бомба, а пасля з выпадку з'яўлення ў небе самалёта, на борце якога знаходзіцца бомба, якую нехта хоча скінуць на будынак ААН — нібыта ў знак пратэсту супраць прыезду Фідэля Кастра... А затрыманне нашага самалёта ў аэрапорце Кенэдзі, узрыў бомбы ў кубінскай місіі — усё гэта ў той славутай Амерыцы, якая пахваляецца сваёй дэмакратыяй.

А Фідэль Кастра ўсё ж прыехаў у Нью-Йорк і выступіў на Генеральнай Асамблеі. Сваім палымяным выступленнем «узарваў лёд эмацыянальнага спакою» дэлегатаў. «Такіх дружных,— піша аўтар,— такіх чыстых, такіх працяглых апладысментаў Генеральная Асамблея яшчэ не ведала». Вельмі скупа, але выразна расказвае аўтар аб уражаннях ад выступленняў кіраўніка савецкай дэлегацыі А. А. Грамыкі. Задоўга да часу, калі мае быць яго выступленне, усе месцы ў зале заняты Яго прамовы, якія вызначаюцца спакойнасцю голасу, дакладнасцю і яркасцю слова, яснасцю думкі, слухаюцца з вялікай увагай, пры актыўнасці залы.

Як вядома, А. Кудравец не першы з беларускіх пісьменнікаў і журналістаў, хто наведваў Амерыку. Мы маем цікавыя і змястоўныя, яркія нататкі з амерыканскіх паездак — апавяданні і нарысы М. Лынькова, вершы А. Куляшова, М. Танка, П. Панчанкі, Г. Бураўкіна, нарысы і вершы К. Кірэенкі, «Рэпартаж з рубцом на сэрцы» М. Лужаніна і інш. А. Кудравец, нягледзячы на службовую занятасць і абмежаваную «пляцоўку» назірання, здолеў знайсці свой падыход да тэмы, знайшоў цікавыя і яскравыя факты і дэталі. І па-свойму, па-кудраўцоўску адкрыў сваю Амерыку.

Перш за ўсё падкупляе праўдзівасць і шчырасць аб'екта апісання і даследавання, падкупае жывасць і пад-

свечаная тонкім лірызмам і зычлівай усмешкай манера пісьма «Лістоў з Амерыкі». Як і ў яго творах мастацкіх, у публіцыстычных нататках выразна бачна тэма Радзімы, і тут, за чужымі далямі «ўзнікае свая даль памяці». Дзе б ні быў савецкі чалавек, гуманіст і патрыёт, ён застаецца савецкім чалавекам, які, паважаючы чужое, заўсёды адстойвае сваё, з'яўляючыся сынам сваёй, савецкай Радзімы.

У тканіну амерыканскага матэрыялу вельмі дарэчы кладзецца расказ, скажам, таго ж Анатоля Мардовіча, аднаго з нашых пасланцаў, які знаходзіцца на сесіі ААН і які, як і яго калегі-пасланцы Беларусі, жыве думкамі пра Радзіму, пра дом. Асаблівы сэнс набываюць іх успаміны тут, на чужой кругом зямлі. Яны, гэтыя хлопцы, якія самі ўжо бацькі і нават дзяды, дзецьмі перажылі ў вайну яе жахі і жудасці, бачылі ўсё на свае вочы, самі паспыталі бяды-гора ў блакадах і фашысцкіх аблавах. А за акном, чытаем мы ў «Лістах», жыў і гудзеў горад. Горад, які ніколі не ведаў, што такое вайна. Правамерная заклапочанасць і трывога: ці можа гэты горад зразумець другі горад, для якога вайна — «усё яшчэ жывая, адкрытая рана»?

У «Лістах з Амерыкі» не абыдзены самыя вострыя і надзённыя праблемы сацыяльнага, эканамічнага і палітычнага жыцця ў сённяшняй Амерыцы. У ЗША, як нідзе ў іншай капіталістычнай краіне, бачна бездань, якая раздзяляе багатых і бедных: тут, як нідзе ў капіталістычным свеце, папіраюцца правы простага чалавека, аграбляецца і знясільваецца працоўны чалавек.

У Амерыцы законам забаронена жабрацтва, папрашайніцтва. «Кожны мае права на долар». Правільна, але паспрабуй, вазьмі яго. А голад не цётка, і беднасць вымушана шукаць шляхі, як абысці закон. І вось дзяўчынка ў «джынсах і лёгкай кофтачцы» на золкай вуліцы зарабляе сабе ігрой на скрыпцы. А гэты стары, што прымасціўся на брыжы тратуара з сабакам. Ля сабакі бляшанка з-пад кансерваў. А просіць не стары, а сабака...

Уражваюць малюнкі, якія трапляюць у кола зроку пісьменніка.

У Філадэльфіі — горадзе, як зазначае аўтар, больш еўрапейскім, ёсць мастацкі музей. Адзін з лепшых музеяў Амерыкі. Але і тут амерыканскія дзялкі ад рэкламы не ўтрымаліся — і тут умудрыліся знайсці лазейку для нажывы, выставілі васковую парнаграфію.

У кожным музеі, як абавязковы экспанат, васковыя фігуркі прэзідэнтаў. Для кожнага адпаведная рэпліка, што

выяўляе яго галоўную заслугу перад Амерыкай. Для Кенэдзі: «Яго любілі амерыканцы».

Цяжкае ўражанне ў аўтара і яго калегаў пакінула наведанне ў Нью-Йорку негрыцянскага гета. Тое, што яны пабачылі, жудасна і неймаверна. У Амерыцы 25 мільёнаў неграў. Яны жывуць у асобных раёнах — гета. У негрыцянскім гета Нью-Йорка — Гарлеме, пражывае больш мільёна неграў. «Па бруду, антысанітарыі і злачыннасці гэта самае страшнае з усіх гета, створаных белай Амерыкай для Амерыкі чорнай».

І гэта ў такой цывілізаванай, дэмакратычнай краіне? Няўжо праўда?

Так, на жаль, мы часам забываем, што капіталізм не перастаў быць тым, чым ён быў раней, і жыве ён на эксплуатацыі, насіллі і грабяжах. Каму-нікаму з нас і сёння джынсавая наклейка ці прывід мадэрновага аўтамабіля закрываецца фіктыўнай шырмай, з-за якой дрэнна бачацца сённяшнія ракетна-ядзерныя зубы імперыялізму.

Як не прыгадаць тут вытрымку з прыведзенага ў нарысе выступлення тагачаснага прэзідэнта Картэра па тэлебачанні: «Мы пераканаліся ў тым, што накапленне матэрыяльных каштоўнасцей не можа запоўніць пустату жыцця, у якім няма ні веры, ні мэты».

Здаецца, гэта зразумела. Гэта ісціна, але і ісціны патрабуюць абароны і тлумачэння!

«Замалёўкі з выстаўкі» — нататкі з першай савецкай прамысловай выстаўкі ў ФРГ, у Дзюсельдорфе, сталіцы зямлі Паўночны Рэйн Вестфалія. Выстаўка прайшла з незвычайным поспехам. Аб гэтым пісала прэса.

Беларусь паказвала свае тавары, якія экспартуюцца ў 90 краін свету. На канкрэтных, яркіх прыкладах чытач пераконваецца ў словах «Час — лепшы лекар», якія прыводзяцца ў нататках. Але не трэба забываць, што ў ФРГ, як і ва ўсіх капіталістычных краінах, яшчэ не зніклі варожасць, недавер, холад, якія былі пасеяны фашыстамі паміж нашымі народамі.

Сярод наведвальнікаў былі розныя людзі. Побач з тымі, хто шчыра верыць у супрацоўніцтва і дружбу паміж нашымі краінамі, былі і такія, каму хацелася б павярнуць кола гісторыі назад. Трапна заўважае аўтар, што яшчэ «ўдушлівы пах спаленага трыццаць цяць гадоў назад пораху і цяпер рэальна чуецца ў паветры».

Але сілы міру і святла непераможныя. У гэтым пераконваешся, чытаючы «Замалёўкі з выстаўкі». І яшчэ. У нейкай ступені пазнаеш тое, што вялікі гуманіст-інтэр-

нацыяналіст Томас Ман назваў «загадкай характару і лёсу нямецкага народа».

Яшчэ адзін, звычайны нарыс з падарожнага цыклу — «Мангольскія штрыхі» — дапаўняе агульную карціну, што прывозіць А. Кудравец з замежных паездак, свае назіранні ў чужых даляглядах. Вельмі шчырыя і цёплыя яны ад сустрэчы з Манголіяй. І тут мы бачым людзей, з якімі сустракаецца пісьменнік. Цікавая, удала выкарыстаная дэталь. Чамусьці манголы яму ўяўляюцца такімі, як партызан Міша Чорны, які некалі, у час акупацыі, «любіў, на зайздрасць нам, хлапчукам, як чорт, праляцець на кані цераз нашу Аколіцу...». Аказваецца, гэты ліхі партызан стане пасля вайны вядомым калмыцкім паэтам Міхаілам Хонінавым!

Удалыя аўтарскія рэмінісцэнцыі, якія раскрываюць перад чытачом далёкую гісторыю гэтага народа, «тыя часы, калі шматмільённыя разнамоўныя плямёны Чынгісхана «невялікі тады чалавечак» сабраў і аб'яднаў у адну вялікую сілу. Інстынкт заваёўнікаў страшэнным вогненным валам пракаціўся па Азіі і Еўропе, змятаючы на сваім шляху гарады і краіны, народы, іх культуру. Тут далей выдатна развіваецца думка аб тым, як і чаму той жа Чынгісхан пацярпеў крах. Аўтар піша: «Як і многія іншыя заваёўнікі, ён хацеў зрабіць немагчымае і прымусіць цывілізацыю працаваць на варварства і прымусіць многія народы жыць у рабстве...»

Добры ўрок для сённяшніх, асепленых нейтронным чадам чынгісханаў і самуэляў, злосных падпальшчыкаў новай вайны!

Народ, якога да рэвалюцыі 1921 года нават сусветна вядомыя вучоныя доўгі час лічылі асуджаным на выміранне, паспяхова будуе сацыялізм, новае жыццё. Без прыгнятальнікаў і капіталістаў. Паспяхова развіваецца нацыянальная культура, літаратура. Савецкія літаратары — госці мангольскіх калегаў — знаёміліся з жыццём і бытам сённяшняй Манголіі. Калі мы былі ў тэатры, глядзелі оперу «Між сумных гор» Б. Дамдзінурына на лібрэта Д. Нацагдорэна, заснавальніка сучаснай нацыянальнай літаратуры, піша аўтар, то яму нагадаліся спектаклі Віцебскага драмтэатра, дзе паказалі спектакль па паэме Я. Коласа «Сымон-музыка»... Яму, які шмат зрабіў для паэзіі, прозы і драматургіі, лёс не даў больш як прагучаць адзін год.

«Я пішу пра Дашдаржыйна Нацагдорэна, аснавапалож-

ніка сучаснай мангольскай літаратуры, а думаю пра другіх вельмі дарагіх людзей — Лермантава, Багдановіча...»

«Усё тое, што бачылася,— даверліва кажа А. Кудравец,— так хораша кладзецца на душу». Гэта і сустрэчы ва Улан-Батары, шчырыя гутаркі ў Саюзе пісьменнікаў, наведанне помнікаў мангола-савецкай баявой садружнасці, музеі, манастыр «Гандан», выступленне ансамбля народнай песні і танца... «І ўсё ж,— піша аўтар,— мы жылі, як быццам чакаючы нечага». Паездка па Манголіі пакінула самае найлепшае ўражанне.

Заканчваючы свае мангольскія замалёўкі, А. Кудравец гаворыць: «Барацьба за сацыялізм — барацьба за нова чалавека, барацьба з невуцтвам, забітасцю, барацьба за культуру, за здароўе».

Свае ўражанні аб гэтай краіне аўтар завяршае так: «Пабляклі, быццам адступілі ў цень многія дробязі, дэталі, малюнкі... Але не паблякла, не здрабнела галоўнае — радасць ад сустрэчы з гэтай цудоўнай краінай, з яе мудрымі, працавітымі і мужнымі людзьмі».

Жывое дыханне жыцця і бег часу, аўтарскае ўменне назіраць вакол сябе, жывасць і яркасць слова, глыбокае асэнсаванне ўбачанага — усё гэта, чым багата мастацкая палітра пісьменніка, поўна рэалізавана ў публіцыстычнай кніжцы А. Кудраўца «За чужымі далямі».

## ЛЕТАПІСЕЦ З ДУКОРЫ

Чалавека, пра якога хочацца расказаць, я ведаю даўно. Калі Васіль Савіч Гарбацэвіч працаваў настаўнікам у Дукоры, выкладаў родную мову і літаратуру, мне даводзілася яго сустракаць не адзін раз. На настаўніцкай канферэнцыі я слухаў яго палымянае выступленне, разам з усімі ў зале захапляўся яго ўменнем «словам запальваць сэрцы людзей». Потым бачыў, як яго, натхнёнага, з бліскучымі сінімі-сінімі вачыма, акружылі маладыя калегі і вялі гаворку аб прафесіянальных справах. А ён, усміхаючыся, усё гаварыў і гаварыў, адчуваючы якоесьці радаснае задавальненне ад таго, што мае яшчэ адну магчымасць адзычыць таго, чым перапоўнена душа...

І яшчэ бачыў яго неяк вясной у Дукорскай пушчы, на традыцыйным мітынгу, прысвечаным памяці шаснаццаці дукорскіх партызан. Таксама — на трыбуне. Васіль Савіч быў сведкам тых далёкіх падзей, ён напісаў пра дукор-

скіх герояў-барацьбітоў за маладую савецкую ўладу п'есу «Чырвоныя кветкі Беларусі», якая ў свой час ішла ў многіх тэатрах. Як ніхто іншы, ён мог гаварыць аб юных героях Дукоры: словы, узвышаныя і рамантычныя, ліліся ў яго, як песня. І голас у прамоўцы — зычны, моцны, з адценнем мяккасці і пяшчоты. Слухаеш і не можаш наслухацца...

Васілю Савічу за восемдзесят. З іх каля пяцідзесяці ён працаваў у школе. Хто ў сваім жыцці хоць раз стаяў сам-насам з класам, з вучнямі, інакш — хто даў хоць адзін урок, той зразумее, што гэта такое: паўстагоддзя ў школе. Гэта — подзвіг, даўжынёй у паўвека!..

У семдзесят гадоў Васіль Савіч пайшоў на заслужаны адпачынак. Яму назначылі добрую пенсію, у яго ў роднай вёсцы Дукарка ўтульны домік з садзікам, імя яго ў пашане ў землякоў. У Васіля Савіча і яго жонкі Вольгі Дзмітраўны трое дзяцей. Старшы сын Георгій, марскі афіцэр, загінуў у мінулую вайну пад Севастопалем, сярэдні — Аркадзь — таксама ўдзельнічаў у мінулай вайне, партызаніў, настаўнік, выкладаў геаграфію ў Жораўскай васьмігадовай школе, недалёка ад роднай Дукоры. Самая малодшая, дачка, пасля дзесяцігодкі працуе выхавацельніцай у дзіцячым садзе.

— Што табе цяпер, Васіль Савіч,— гавораць яму, жартуючы, аднавяскоўцы.— У цябе — пенсія, і табе ніякіх клопатаў!..

— Пенсіянер?.. Дзядуля?.. Не, гэта не ў маім характары. У мяне работы хоць адбаўляй, толькі паспявай упраўляйся!..

І Васіль Савіч, просячы прабачэння, што яго чакаюць на школьнай сядзібе дзеці, заспяшаўся, на хаду папраўляючы гальштук. Ля ўваходу ў новы школьны будынак Гарбацэвіч сустрэўся з дырэктарам школы Кохан авым, маладжавым, светлавалосым чалавекам. Прывітаўшыся, адразу загаварылі аб тым, што хвалявала абодвух. Васіль Савіч піша гісторыю Дукорскай школы, якой споўнілася сто гадоў, і дырэктару хочацца, каб гэта патрэбная работа была закончана найхутчэй.

— Не прыспешвай, Мікалай Лаўрэнцьевіч,— усміхаючыся, гаворыць Васіль Савіч.— Я толькі ўзяў разгон. Багацейшы матэрыял! Такая слаўная гісторыя! Проста не ведаю, як усё ахапіць адразу...

Васіль Савіч задумаўся, памаўчаў, потым, ахоплены парывам успамінаў, пачаў расказваць тое-сёе з таго, што ўвойдзе ў яго будучую кнігу.

У Дукоры ў 1866 годзе адкрылася школа. У ёй быў адзін настаўнік, потым — два: Лявон Міхайлавіч Астапеня і яго жонка — Надзея Сцяпанаўна.

— Цудоўныя людзі! — ускліквае Васіль Савіч, успамінаючы сваіх першых настаўнікаў.— Яны ўмелі захапляць!..

Усё больш ажыўляючыся, Васіль Савіч выказвае свае думкі аб сучасным настаўніку, аб яго духоўным аблiччы, аб яго ролі ў фарміраванні характару моладзі.

Сённяшнія настаўнікі Дукоры, а іх больш чым трыццаць — амаль усе былыя вучні Васіля Савіча. Ён іх вучыў, калі яны былі дзецьмі, абуджаючы ў іх прагу да ведаў, любоў да роднай мовы, да лепшых твораў рускай класікі і савецкай літаратуры.

Да яго падышлі дзве маладыя жанчыны, настаўніцы, якія рыхтуюць да пастаноўкі п'есу аб сваіх земляках-партызанах «Чырвоныя кветкі Беларусі». Саромеючыся і перабіваючы адна адну, яны просяць парады ў Васіля Савіча адносна вобразаў Надзі і Ганны ў п'есе.

— Вольга Дзянісаўна,— звяртаецца Васіль Савіч да адной з настаўніц.— Вам, вядома, падыдзе роля Надзі. Гэта смелая, валявая дзяўчына, якая душой цягнецца да ўсяго новага, светлага ў жыцці. Вось глядзіце, як Надзя трымаецца сярод сяброўак, як яна вымаўляе гэтыя словы...

Калі здзейснілася Кастрычніцкая рэвалюцыя, Васіль Гарбацэвіч ужо быў вопытны настаўнік, за яго плячыма сем гадоў работы з дзецьмі. У 1918 годзе Дукорская школа становіцца вышэйшым пачатковым вучылішчам. Настаўнікі атрымалі выдатны школьны будынак — палац дукорскага памешчыка Гартэнга. Але неўзабаве прыйшлі акупанты, і Гартэнг вярнуўся, забраў у дукорцаў школу, зямлю, пачаў распраўляцца з сялянамі. Зразумела, што людзі, якія пазналі радасць свабоды, не мірыліся з гэтым, уступілі ў барацьбу з ворагамі.

— Уся абстаноўка таго часу, усе хлопцы і дзяўчаты, што апісаны ў «Чырвоных кветках Беларусі»,— гаворыць Васіль Савіч,— усё ўзята з жыцця, з падзей, якія я назіраў, у якіх прымалі ўдзел мае землякі...

...Васіль Савіч развітаўся з настаўніцамі, скончыў справы з апаратарамі (якраз да яго прыязджалі госці з Мінскай тэлестудыі) і, узрадаваўшыся, сказаў мне, хітравата жмурачыся:

— Ну вось, цяпер мы пойдзем куды-небудзь у зацішак, пасядзім...

Аднак нам адасобіцца не ўдалося. Да нас валіла гурба

дзяцей з чырвонымі гальштукамі і з рукзакамі за плячыма.

— Скажыце, як знайсці Васіля Савіча?

— А навошта? — усміхнуўся Васіль Савіч, прыжмурыўшы вочы.

— Бачыце, у нас такі маршрут,— адказала настаўніца.— Мы з Мінска і маем намер пабываць на магіле дукорскіх партызан. А Васіль Савіч ведае ўсё пра іх.

— Вось і пасядзелі,— Васіль Савіч паказаў на вучняў і, як мне здалося, задаволены дадаў: — Ужо восьмая экскурсія...

Васіль Савіч вярнуўся дамоў толькі пад вечар. Стомлены, але задаволены.

У той вечар мы заседзеліся з ім позна. Васіль Савіч — цудоўны субяседнік, выдатны апавядальнік, які шмат ведае. У яго ясная, багатая памяць.

— Да вайны,— уздыхае Васіль Савіч,— у мяне была вялікая бібліятэка. Уся прапала разам з домам у агні...

Як толькі вораг падыходзіў да Мінска, Васіль Савіч пайшоў на ўсход, уліўся добраахвотнікам у Чырвоную Армію. Прымаў удзел у баях. Разам з калегамі ён аднаўляў у роднай Дукоры школу, і ўжо 1 верасня 1944 года пачаліся заняткі. Цяжкасці, як вядома, былі вялікія — яшчэ ішла вайна, школьны будынак быў паўразбураны, не хапала падручнікаў і школьных дапаможнікаў. Але такія энтузіясты, як Васіль Савіч, не пасавалі. Настаўнікі майстравалі лаўкі, сталы, рамантавалі класныя пакоі. Васіль Савіч падбадзёрваў людзей жартам і вясёлым словам. А потым пачыналіся ўрокі, і настаўнік чытаў на памяць вершы Янкі Купалы, Якуба Коласа, дыктаваў радкі са свежых зводак Савецкага Інфармбюро.

Ён доўгі час быў завучам у Дукорскай школе. І настаўнікі, вопытныя і маладыя, заўсёды адчувалі яго плячо. Калі ў 1948 годзе Васілю Савічу Гарбацэвічу ў ліку першых педагогаў рэспублікі было прысвоена званне заслужанага настаўніка школы БССР, калегі і таварышы ўзрадаваліся і горача павіншавалі яго. У тым жа годзе ён атрымаў высокую ўрадавую ўзнагароду — ордэн Працоўнага Чырвонага сцяга.

Мы загаварылі аб сённяшняй школе, яе сувязі з калгасам, і Васіль Савіч з захапленнем расказаў, як ён — старшыня бытавой камісіі сельсавета — разам з актывістамі заняўся прывядзеннем у парадак калодзежаў, двароў; дапамог абсадзіць у Дукоры вуліцы і дарогі дрэвамі, прывесці ў парадак сельскія могілкі.

— Асабліва я люблю,— гаворыць Васіль Савіч,— сенакосную пару. Не бывае таго дня, каб я не схадзіў на луг. Пагутарыш з людзьмі, з моладдзю, навіны ім раскажаш, артыкул прачытаеш, а то і проста пра жыццё-быццё пагаворыш, і як быццам да лекавай крыніцы прыпадзеш — сіл прыбаўляецца.

...Я прачнуўся на досвітку. У расчыненае акно хлынула настоеная на кветках ранішняя свежасць.

— Што, магчыма, прадоўжым нашу гутарку? — сказаў Васіль Савіч.

— Так, нядрэнна б,— сказаў я і, гледзячы на яго спартыўную постаць, спытаў: — А што, зарадку раніцай не робіце, Васіль Савіч?

— А гэта што — не зарадка? — нахмурыўся ён і засмяяўся: — Вось вёдраў дваццаць выцягнуў з калодзежа, дык увесь комплекс і выканаў. Грыбы люблю збіраць. У нас тут за Дукоркай ёсць лясок. Ведаю цудоўныя грыбныя мясціны. Прыязджайце!..

Вельмі шкада, што сустрэцца зноў не давялося. Васіль Савіч нечакана памёр...

## З АПОШНЯЙ ВАЙНЫ

Творы, якія ўвайшлі ў кнігу Р. Няхая «Навальнічнае рэха», прысвечаны пераважна героіцы савецкіх людзей у час Вялікай Айчыннай вайны.

Проста, скупымі фарбамі малюе пісьменнік аблічча старога маўклівага чалавека — школьнага вартаўніка і яго спадарожніцы — Аннушкі (апавяданне «Каліна»). «Колькі Каліна з Аннушкай працавалі ў школе, ніхто не памятае, бо настаўнікі мяняліся, а яны заставаліся і лічылі сябе тут поўнымі гаспадарамі».

Звычайныя будзённыя справы. Але апавяданне хвалюе, кранае. Перад вачыма, як жывы, стаіць Каліна Іванавіч, высокі, ссутулены чалавек, з пасівелай галавой, які ніколі не стамляўся, для якога «школа — яго родны дом, яго радня, і нічога не было на свеце даражэй за школу». Адметнасць і прывабнасць героя — у яго праўдзівасці, верагоднасці ўчынкаў, у арыгінальнасці характару.

Хвалюе і апавяданне «Страказа». Запамінаецца вобраз галоўнай гераіні Галі, якую хлопцы-партызаны празвалі Страказой. Няма патрэбы пераказваць сюжэт апа-

вядання. Дарэчы, ён вельмі просты і стройны. А гэта якраз і ўпрыгожвае твор.

Галя «худзенькая такая, але рослая. На твары лёгкія вяснушкі, у яе бялявыя косы, а вочы сінія, як у брата». Яе брат Васіль — начальнік штаба партызанскага атрада. Да Галі на сустрэчу ідзе Андрэй, разведчык, хлопец з Беларусі. А дзея адбываецца на Украіне, ці на мяжы ўкраінскага і беларускага Палесся. Гэта адчуванне братняй дружбы добра перададзена ў творы; «...на Палессі не разбярэш, дзе канчаецца Украіна, а дзе пачынаецца Беларусь. Бывала, пачуюць песню беларусы з украінскага сяла, падхопяць яе і нясуць адгалоскамі аж да Прыпяці, а беларуская песня адгукаецца водгуллем недзе аж за Дымерам».

Андрэй пазнаёміўся з Галяй на вечарынцы. Самымі, здаецца, нязначнымі, дробнымі штрышкамі вылеплівае аўтар вобраз дзяўчыны-патрыёткі: як яна адвярнулася ад Андрэя і змоўкла, калі той сказаў, што ён нібыта на станцыі грузіць хлеб у Германію; як прыхінулася яна да яго пляча, калі пачула пра свайго брата, а потым адхінулася, прашаптала:

«— Вы хлусіце! У мяне нікога няма, і я нікога не ведаю».

Галя стала сувязной, разведчыцай. Андрэй навучыў яе карыстацца мінамі, і яна перадавала іх знаёмым чыгуначнікам, а тыя падкладалі пад вагоны. Страказа была любіміцай лагера. «Калі Галя рассмяецца, дык у яе смяецца ўсё адразу — і вочы, і вусны, і голас...»

Вобраз бясстрашнай, сінявокай паляшучкі Галі,— падгледжаны ў жыцці і ўмела перанесены ў мастацкі твор,— удача апавядальніка.

На жывым, канкрэтным матэрыяле з часоў Вялікай Айчыннай вайны напісана аповесць «У адной сям'і». Аповесць задумана цікава, па-свойму. Яе пачатак — так званая экспазіцыя, дзе аўтар знаёміць чытача са сваімі героямі, з абстаноўкай,— адразу пераконвае, змушае верыць аўтару. Чытач перажывае, трывожыцца за лёс дзяцей, на якіх разам з дарослымі абрушылася страшэннае гора — вайна.

У аповесці ёсць асабліва хвалюючыя сцэны. Яны даюць яркае ўяўленне аб цяжкасцях і нягодах, што выпалі на долю камсамолкі Валі і яе спадарожнікаў. Пісьменнік знайшоў праўдзівыя, цёплыя словы для абмалёўкі вобразаў бабулі Манухінай, Марыі Іванаўны, для выяўлення высакародных пачуццяў мацярынскай ласкі і за-

мілаванасці да дзяцей, мужнасці і рашучасці, калі трэба было іх абараніць.

Марыя Іванаўна ўбачыла, што ля магазіна да аднаго іхняга хлопчыка Васілька прычапіўся паліцай — канапаты Стась, яна яго ведала, і цяпер усё нутро ў яе гарэла ад гневу і абурэння. Яна абараняе Васілька ад чалавека-звера, а потым дапамагае Валі ў цяжкія хвіліны роспачы.

Валя дазналася, што канапаты Стась — бацька аднаго з яе хлопчыкаў — Жорыка, і разгубілася. Што рабіць? Бацька — паліцай, а сын — добры хлопчык, піянер, яе памочнік. І тут ёй на дапамогу прыходзіць разважлівая Марыя Іванаўна. Яны выпраўляюць Жорыка на ўскраіну, да бабкі Манухінай, у якой ужо жыла адна дзяўчынка з гэтай своеасаблівай сям'і — Верачка.

Аўтар знайшоў запамінальныя словы і фарбы, каб вымаляваць прыгажосць і хараство душы такіх людзей, як Марыя Іванаўна, Валя... Скупыя, але выразныя пейзажныя замалёўкі дапаўняюць, узмацняюць уздзеянне на чытача.

Варта сказаць і аб мове, якая з'яўляецца, як вядома, першаэлементам, асновай усякага мастацкага твора. Мова ў Р. Няхая наогул паэтычная. Пісьменнік валодае уменнем знайсці такое слова, якое ў спалучэнні з іншымі раптам заблішчыць усімі адценнямі і колерамі; валодае ён і майстэрствам дыялогу.

Аповесць «Гудкі абуджаюць вясну» закранае важную, надзённую тэму — нараджэнне рабочага класа ў заходніх абласцях, выхаванне лепшых рыс савецкага працаўніка ў грамадскай жыццёвай кузні — працэсе калектыўнай працы.

У вёсцы Гаранка арганізуецца калгас. Адны ставяцца да яго насцярожана, другія, як Пучынскі, падалі першымі заявы. І кулакі-хутаране падпалілі пуню Пучынскага. Сусед яго, пячнік і цясляр Васіль Казлюк пасля доўгага роздуму вырашае пайсці на завод, што пачынае будавацца непадалёк, ля чыгункі. Ён там сябруе з вядомым мулярам Пятром Букатым і становіцца лепшым будаўніком. Праз некаторы час Васіль забірае да сябе сына Стасіка, выпускніка школы-сямігодкі.

Паступова, крок за крокам пісьменнік вымалёўвае характар чалавека-працаўніка, не ўтойваючы, што ў яго душы сядзіць нейкі «чорцік», у свядомасці — яшчэ адзнакі мінуўшчыны. Разам з тым, гэта ўжо чалавек, які ідзе смела насустрач новаму, імкнучыся заняць не апошняе месца ў грамадзе будаўнікоў шчаслівага жыцця. Яго

сэрца шчыра адгукаецца на покліч гудкоў, што клічуць на вялікую работу.

Можна спрачацца, наколькі мае рацыю аўтар, калі ўзяў ды «вырваў» Васіля Казлюка з таго асяроддзя, у якім жылі яго бацькі і дзе таксама абудзілася вясна, але адно бясспрэчна — праявы і зрухі ў душы Васіля бачныя і верагодныя.

Вялікае месца ў аповесці адведзена моладзі. Гэта сын Казлюка Стасік, Ганузя, Федзя Сыраквашка, камсамольцы-падпольшчыкі, якія пададзены праз успаміны аднаго з жывых удзельнікаў падполля.

Паклаўшы ў аснову твора жыццёвыя факты і з'явы, пісьменнік, на жаль, мясцінамі звёў усё да звычайнай апісальнасці. Тут больш, чым «У адной сям'і», дае сябе адчуць хісткасць архітэктонікі, залішняя ўскладнёнасць сюжэта. Некаторыя персанажы бязлікія, схематычныя: апісальнасць падзей мала садзейнічае высвятленню ідэйнай задумы. Неяк не ўвайшлі ў арганічную тканіну твора ўсе гэтыя хвашчынскія, блажэвічы і волакі, хоць самі па сабе абмаляваны і выразна. Здаецца, гэта таму, што пісьменнік не адбіраў матэрыял уважліва.

На нашу думку, пісьменніку лепш удаліся апавяданні і замалёўкі.

Першая — «Наваселле», гісторыя адной хаціны, якая «цяжка сказаць, колькі прастаяла на ўзбярэжжы», «на вугле віднелася ржавая паламаная шыльдачка з лічбай 185...». Хатка гэтая, канечне, толькі зачэпка. Пісьменнік вельмі хораша і прачула расказвае аб яе жыхарах — добрых і вясёлых людзях.

Старая згорбленая хаціна, якую, калі дайшла чарга, бульдозерам так падчапілі, што аж «струхнелыя бярвенні рассыпаліся ва ўсе бакі»,— увасабленне старога Мінска, ад якога цяпер не застаецца і знаку.

На руінах і папялішчы вырас новы Мінск. І шафёр-дэпутат, які ўважліва выслухоўвае справядлівыя заўвагі аб непаладках у рабоце гарадскога транспарту, і інжынер-будаўнік, што турбуецца аб азеляненні гарадскіх праспектаў, і сціплая дзяжурная вакзала, заклапочаная, як лепш сустрэць і абслужыць пасажыраў,— людзі, якія сваімі рукамі адбудоўваюць родны горад, беларускую сталіцу.

Рыгор Няхай — сведка і ўдзельнік тых незабыўных навальнічных дзён, якія ўвайшлі ў тканіну яго твораў. Пісьменнік натхняецца велічнымі справамі, якімі жывуць яго героі-землякі.

Перад юбілеем — 70-годдзем з дня нараджэння, які

прыпадаў на лістапад 1984 года, чытачы маюць збор твораў Рыгора Няхая ў двух тамах. Своеасаблівы экзамен перад народам, мужным і адданым сынам якога па праву можа лічыць сябе Рыгор Восіпавіч, воін і патрыёт, пісьменнік-інтэрнацыяналіст.

## «І ЎСЁ Ж Я ШЧАСЛІВЫ...»

Кажуць, што прывычка — другая натура. Мне, як правіла, перш чым нешта пісаць, даводзіцца нямала памэнчыцца над загалоўкам. Здаецца, што загаловак неяк вызначае кірунак, адводзіць межы, якіх трымаешся ў хадзе думкі. Гэтак і абдумванне юбілейнага слова пра Уладзіміра Навумавіча Мяжэвіча, якому цёплым маёвым днём споўнілася семдзесят пяць (аж не верыцца, што такі салідны ўзрост у чалавека, а ён быў жвавы, напоўнены прагаю жыцця і аптымізму!), пачалося з пошуку загалоўка. Думаў, каб ужо сам загаловак акрэсліваў тое, што хочацца сказаць пра сціплага, сумленнага і мужнага чалавека, які ўжо больш як пяцьдзесят гадоў знаходзіўся ў баявых парадках ідэалагічных байцоў.

Пасля таго як мы сустрэліся з Уладзімірам Навумавічам (ён быў у бальніцы, але зусім не скардзіўся на свае немачы), я адчуў, што загаловак мне падкажа сам юбіляр. Мы доўга гаварылі, і ён зноў вяртаўся ў сваю маладосць, расказваў, як пачыналіся тыя першыя, незабыўныя крокі ў ягоным жыцці, як «захварэў» газетай і як яна, газета «Беднота», заступніца і дарадца ўчарашніх галетнікаў, надрукавала яго першы допіс. То была гнеўная нататка пра кулака-захрыбетніка, які знясільваў бядняцкага падлетка Хведзьку Стрыгуна. Камсамолец Уладзімір Мяжэвіч смела выступіў у абарону свайго таварыша, не збаяўся, што за такі ўчынак мог заплаціць маладым жыццём.

Уладзімір Мяжэвіч нарадзіўся ў 1907 годзе ў вёсцы Крывуша, што на Аршаншчыне. Сям'я была мнагадзетная, а зямлі — зусім мала. Бацька вярнуўся з імперыялістычнай вайны хворы, паранены і неўзабаве памёр. Валодзя стаў за гаспадара і кармільца. У дванаццаць гадоў трэба было і араць, і баранаваць, і абмалочваць сабраны ўраджай — сваім мазалём здабываць кавалак хлеба. Вучыцца давялося толькі дзве зімы. Як толькі наставала вясна, яго кнігамі былі поле і луг, яго школай — барана, плуг, сявенька...

Мяжэвіч рана прыахвоціўся да грамадскіх спраў — ён прагна чытаў газеты і часопісы, уліўся ў шэрагі актывістаў, а неўзабаве стаў загадчыкам хаты-чытальні. Як актывіста яго вылучаюць на камсамольскую работу.

У той жа час Уладзімір Мяжэвіч стаў актыўным селькорам. З 1929 года ён працуе ў рэдакцыі газеты «Звязда». То быў час рэвалюцыйнай рамантыкі, абуджэння працоўных нізоў, учарашніх батракоў і беднякоў, час небывалага энтузіязму вясковай моладзі, якой адкрыла ўсе дарогі ў свет савецкая ўлада. Як толькі пачалася калектывізацыя, малады журналіст цэлымі месяцамі жыве ў вёсцы, дапамагае партыі натхнёным словам ствараць першыя калгасы. Усю зіму 1931 года ён знаходзіцца на Случчыне, удзельнічае ў стварэнні аднаго з першых калгасаў — «Камбайн». Вясной таго ж года выходзіць і першая кніжка яго нарысаў «Крок у будучыню». Многае з таго, што ён тады ўбачыў і захаваў у памяці, ярка і вобразна ўзноўлена ў кніжцы «Спатканне на дарогах», якую аўтар сціпла назваў запіскамі карэспандэнта.

Хвалююча чытаюцца нарысы і замалёўкі, у якіх аўтар расказвае аб сваіх сустрэчах з А. Р. Чарвяковым і М. М. Галадзедам, з іншымі вядомымі людзьмі. Усё лепшае з напісанага У. Мяжэвічам — з жыцця, з перажытага. Адзін з раздзелаў кнігі «Спатканне на дарогах» названы «З блакнотам па Беларусі». У ім — адрасы тых мясцін, дзе пабываў Мяжэвіч-журналіст. А пабываць яму давялося шмат дзе: і на будаўніцтве Бабруйскага дрэваапрацоўчага камбіната, і Крычаўскага цэментнага завода, і Магілёўскай шаўковай фабрыкі... Напісана пра ўсё гэта цёпла і шчыра. Яго памяць захавала не толькі падзеі і факты, але і вобразы мужных людзей, творцаў новага жыцця, новага грамадства.

Уладзімір Мяжэвіч многа гадоў працаваў за межамі Беларусі. Але і там, у Сібіры, у тайзе, быў у думках з родным краем, жыў падзеямі, якія хвалявалі землякоў.

Прыехаўшы ў Мінск, У. Мяжэвіч заняўся любімай справай — журналістыкай. «Беларусы ў Сібіры» — была яго першая карэспандэнцыя, якую ў 1956 годзе надрукаваў у часопісе «Маладосць».

Крытычныя выступленні, артыкулы, фельетоны, якія друкаваліся за подпісам У. Мяжэвіча, вартыя таго, каб іх чыталі і перачытвалі. Маладым не сорам павучыцца. І найперш — смеласці і мужнасці, якія так неабходныя публіцысту.

...Як мы тады гутарылі з Уладзімірам Навумавічам,

на развітанне ён сказаў: «Нягледзячы на ўсе «превратности» лёсу, усё ж я шчаслівы...» Вось чаму ўсе мае загалоўкі, хаця яны і адпавядалі маёй задуме, давялося адкінуць.

Памёр У. Н. Мяжэвіч у 1982 годзе, 1 ліпеня.

## ЯНАЧКА

Янка Раманоўскі ўвосень 1959 года прыняў пасаду мастацкага рэдактара «Маладосці». Штодзень да яго ішлі маладыя і вядомыя графікі і жывапісцы, фотааматары і фотакарэспандэнты. У большасці сваёй учарашнія выпускнікі і студэнты старшых курсаў Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута. Няўрымслівыя і вясёлыя хлопцы.

Вяртаючыся ў думках у той час, бачу стол, за якім ташчыраваў засяроджана Янка. Вакол шумліва-гаманкая талака — Мікола Залозны, Арлен Кашкурэвіч, Ільля Немагай, Рыгор Віткоўскі, Георгі Паплаўскі, Юры Выхадцаў, Юзэф Пучынскі, Барыс Аракчэеў, Людвіг Асецкі, Леанід Шчэмелеў... Уводдалі заўсёды маўклівы, з мяккай стоенай усмешкай на бледнаватым твары Фёдар Бараноўскі. Маўчыць-маўчыць, тады непрыкметна падкіне які жарт ці рэпліку, і адразу ўсе весялеюць. Пагамоняць і зноў за работу. Хлопцы ўпыняліся, не шкадуючы ні часу, ні сіл. Часцяком заглядаў Міхась Савіцкі. І на просьбу Янкі заўсёды адгукаўся ахвотна. Сябрамі часопіса крыху пазней сталі Лявон Баразна, Васіль Шаранговіч, Георгі Скамарохаў, Леанід Дубар, Віктар Шрамякоў, Пятро Драчоў, Пятро Лысенка... З усімі Янка ўмеў паразумецца.

Я толькі пазней даведаўся, што асаблівая дружба ў Янкі была з Рыгорам Віткоўскім, які за Янку быў старэйшы на пяць гадоў — самому Віткоўскаму было васемнаццаць год, калі яны пасябравалі, і сваю дружбу яны пранеслі праз гады. Разам вучыліся ў мастацкім вучылішчы, а пасля і ў Беларускім тэатральна-мастацкім інстытуце.

Згадвае Рыгор Антонавіч Віткоўскі:

— З Янкам заўсёды можна было пагаварыць пра тое, што цябе хвалюе. Не кожнаму адкрыешся, а Янку можна было. З ім і памаўчаць, ведаеце, прыемна...

Чалавечнасць і дабрата — якасці, якія ў Янку спалучаліся надзіва гарманічна і натуральна.

Успамінаю нашы рэдакцыйныя лятучкі і планёркі. У кабінет галоўнага рэдактара Янка звычайна прыносіў ужо гатовыя вокладкі, малюнкі. Адышоўшыся, моўчкі чакаў, што скажа галоўны. Слушныя заўвагі прымаў без агаворак, а калі трэба было, то ўмеў тактоўна і доказна адстаяць свой погляд. Да яго думкі ўважліва ставіліся і Пімен Панчанка, які прыйшоў пасля Аляксея Кулакоўскага, і Алесь Асіпенка, што працаваў на гэтай пасадзе потым. Асіпенка сам часта заходзіў у аддзел мастацкага афармлення і любіў падыскусіраваць з мастакамі. Было і такое, што Алесь, не ўдаючыся ў дэталі, адхіляў тую ці іншую прапанову аддзела, але, паслухаўшы, як умела і канкрэтна даводзіў Янка свае меркаванні, згаджаўся. А на лятучках Янка часцей маўчаў. Бывала, рэдактар аддзела паэзіі Мікола Аўрамчык скажа: «А цяпер — новае імя!» Значыць, новы паэт у чарговы нумар. А Янка, які сядзеў побач, прамовіць ціха: «Бачыш, аддзел паэзіі, як заўсёды, на кані, а нас — пад агонь крытыкі...»

Янка вельмі любіў гумар, разумеў жарт, але сам паводзіў сябе вельмі стрымана. Не любіў, калі хто пры ім пачынаў расказваць пра некага нейкія «дэталькі» ці падкідваць які-небудзь жарцік. Янка тады хмурнеў і стараўся быць далей. Затое як радасна свяціліся яго вочы, калі заходзіла размова пра літаратуру, пра маладых паэтаў і празаікаў, якія тады смела і напорыста ішлі ў літаратуру. Памятаецца, што многія маладыя, учарашнія студэнты-філолагі БДУ імя У. І. Леніна, сталі частымі гасцямі рэдакцыі. Ужо тады падружыліся з Янкам, як і з іншымі маладосцеўцамі Рыгор Барадулін, Генадзь Бураўкін, Анатоль Сербантовіч, Іван Ласкоў, Юрась Свірка, Уладзімір Паўлаў. З празаікаў — Міхась Стральцоў, Вячаслаў Адамчык, Іван Пташнікаў, якія таксама ў свой час сталі маладосцеўцамі.

Надзіва цесны і плённы кантакт меў Янка з сакратарыятам, які ўзначальваў Уладзімір Міхайлавіч Юрэвіч. У 1963 годзе адбылося знешняе абнаўленне часопіса. Доўга і плённа працаваў тады Янка, раячыся з мастакамі.

Захапляла мяне Янкава ўменне працаваць з аўтарамі. Сёе-тое і мне — ужо з немалым стажам журналісту — прыдалося ад той яго чалавечай педагогікі, якую Вера Палтаран у сваіх нататках пра Янку Раманоўскага назвала высокай прастатой. Атрымаўшы той ці іншы «заказ» ад мастака, Янка перш за ўсё ўсаджваў аўтара побач, доўга і засяроджана разглядаў яго работу — няхай гэта была вокладка ці франтыспіс, ілюстрацыя да апавядання

ці звычайны малюнак-загаловак. Калі выяўляліся нейкія нязначныя недаробкі, Янка, цёпла ўсміхнуўшыся, гаварыў: «Добра, пойдзе!» І дзякаваў за зробленае. Мастак ішоў, а Янка браў у рукі аловак ці скрабок і пачынаў даводзіць работу «да кандыцыі». Працавітасць Янкі здзіўляла.

Як звычайна, другую палову нумара займала публіцыстыка. Артыкулы, нарысы, нататкі і рэпартажы афармляліся ў асноўным фотаздымкамі. Паступова найбольш буйныя і важкія рэчы дакументалістыкі пачалі афармляць і графікай. А чаму б не паспрабаваць і мастаку паехаць у камандзіроўку з журналістам ці пісьменнікам? Такую прапанову першымі падтрымалі Фёдар Бараноўскі і тэхнічны рэдактар Ігар Краўчанка. Яны паехалі на Палессе, і неўзабаве іх замалёўкі з'явіліся на старонках «Маладосці». Дарогі, сустрэчы з сейбітамі і будаўнікамі, адноўленыя гарады і вёскі сталі зместам цікавых эсэ і нарысаў, якія тады друкаваліся часта. Неўзабаве выйшла кніжка «Людзі пярэдняга краю». Яе напісалі самі мастакі і хораша, з любоўю праілюстравалі малюнкамі, зробленымі ў камандзіроўках.

Янка, я потым дазнаўся, даўно выношваў такую ж ідэю. Кажуць, што ён яшчэ студэнтам на летніх практыках у Кісялях, Гасцілавічах, Палачанах і іншых мясцінах Міншчыны праяўляў асаблівую цікавасць да людзей, быў гарачым прыхільнікам рэалістычнага, праўдзівага асэнсавання жыцця і стварэння партрэтаў рэальных людзей. І мы адправіліся ў камандзіроўку. Такіх камандзіровак і паездак потым было нямала. Усе па-свойму цікавыя. Адна менш удачная, другая больш, але кожная — след нялёгкай творчай дарогі.

Па натуры Янка быў чалавек спакойны, нават як бы крыху флегматык, але толькі знешне. На самой жа справе выключна тэмпераментная, тонкая натура, чалавек, які прагнуў творчага пошуку. Памяркоўнасць і далікатнасць выдавалі ў ім прыроднага інтэлігента. Розныя па характару, мы ніколі не пасварыліся — а ў творчай жывой справе здараецца ўсякае.

Я адшукаў некалькі старых блакнотаў. Адзін з іх, мабыць, ці не ад першай нашай агульнай паездкі ў калгас «Рассвет», да К. П. Арлоўскага.

Перад гэтым Янка ездзіў на лячэнне ў Цхалтубу і ў дарозе сустрэўся са старшынёй славутага калгаса. Яны і жылі там разам і ехалі ў адным вагоне дамоў. Кірылу Пракопавічу спадабаўся малады сціплы чалавек. Кара-

цей кажучы, Арлоўскі запрасіў Янку Рамаоўскага ў госці.

— Паедзем,— сказаў мне Янка.— Ты ж, здаецца, не быў у такім славутым калгасе?..

Пачыналася вясна, было самае разводдзе, але мы сабраліся ў дарогу. Гасцінна прыняў нас К. П. Арлоўскі, даў поўную магчымасць пазнаёміцца з людзьмі, сам, іншы раз разгаварыўшыся, расказваў пра сябе, нават згадзіўся пазіраваць. Янка зрабіў серыю партрэтаў, якую назваў «Рассветаўцы».

Бывала, я гутару з чалавекам, а Янка, затуліўшыся дзе-небудзь збоку, водзіць сабе алоўкам у блакноце ды ўважліва слухае. А ўвечары, калі вернемся ў хату для прыезджых, куды пасяліў нас старшыня, Янка будзе і казаць: «Во ты гутарыў з Нінай Цэд, дзяўчынай, якая стала тут першай трактарысткай, то не забудзь, як яна расказвала пра сябе — «як убачу трактар дзе, то гатова хоць бегчы ўслед...».

Янка заўсёды браў з сабою фотаапарат, рабіў здымкі, якія, мабыць, памагалі ў рабоце над партрэтамі. Усімі сіламі стараўся ў вобліку чалавека знайсці галоўнае — «улавіць» характар.

Шкада, што ў тых маіх блакнотах — найчасцей звычайныя карэспандэнцкія запісы: прозвішчы, лічбы, эканамічныя выкладкі... І мала таго, што цяпер вунь як спатрэбілася б. А ў тых жа вандроўках аб чым мы толькі не гаварылі! Янка, праўда, скупа, але расказваў пра сябе, пра сваё жыццё. Былі такія хвіліны, што і ён, негаваркі чалавек, расчульваўся...

Мне, вядома, карцела больш даведацца пра Купалу — Янка Раманоўскі быў пляменнікам вялікага песняра, і маленства будучага мастака прайшло ў дзядзькі Янкі і цёткі Уладзі — Уладзіславы Францаўны Луцэвіч, якая да апошніх дзён раднілася і любіла свайго Яначку...

Было светлае, поўнае радасцяў і захапленняў маленства, былі і цяжкія чорныя дні, калі Янку з маці напаткала вайна на Купалавай дачы ў Ляўках. Яны не паспелі выбрацца на ўсход; давялося жыць у вёсцы, хаваючыся ў людзей, якія дапамаглі ім уратавацца. Пасля было бежанства — іх вывезлі ў Літву.

Помніцца наша паездка ў Літвінавічы, на Кармяншчыну. Быў пачатак верасня — залатая восень стаяла над Сожам. Нам спадабаліся надрэчныя мясціны, але самае цікавае, што пакінула добры ўспамін,— людзі, з якімі мы гутарылі, у якіх жылі амаль тыдзень. Янка захап-

ляўся гаворкай літвінавіцкіх жыхароў, з натхненнем маляваў партрэты нашчадкаў тых камунараў, якіх згуртоўваў саратнік, друг і паплечнік У. І. Леніна — «дзядзька Панцей», як тут называлі свайго славутага земляка П. М. Лепяшынскага. Янка вельмі радаваўся знаёмству з перадавым літвінавіцкім трактарыстам Леанідам Саро-кіным, які доўга і цікава расказваў нам пра сваё бясхлебнае маленства, апаленае вайною, аб сваіх сцежках у жыццё. «І мне ж такое ўсё давялося вайною перажыць»,— уздыхаў Янка.

Калі мы прыцягліся неяк пад вечар з поля на кватэру, гаспадыня пачала расказваць пра сваё бядацтва. Янка шапнуў мне: «Чуеш, якая мова. Абавязкова запішы сабе. Прыдасца». Жанчына апавядала пра свайго назолу-кавалера: «Ета ж нямыслімае дзела. Праз яго не магу на вуліцу выйсці. Бо калі ўжо рашуся, то пахмялю яго як след... За тое, што ён маю долю з'еў. Я — адзінокая жанчына, мае вы хлопчыкі. Ён усё ходзіць і рве маё жыццё. З Казімірава, з вёскі тутака. Я яго пахмялю калі-небудзь...»

Сам Янка нічога не запісваў, а мне наказаў: «Пішы. На памяць не спадзявайся. У майго дзядзькі Купалы была заўсёды з сабою кніжачка. Як толькі пачуе якое новае слоўка, адразу запісвае сабе. Канечне ж, падзякуе таму чалавеку. Ды яшчэ і пачастуе пры нагодзе».

У блакноце з паездкі ў вёску Карпаўцы, на Гродзеншчыне (1963 год), дзе тады старшыняваў у калгасе «Бальшавік» былы камсамольскі работнік Раман Алізаровіч, ёсць такі запіс: «Шчаслівы той, хто пазнаў прычыну рэчаў. Вергілій». Я пачаў прыгадваць, адкуль з'явіўся такі запіс, і ўспомніў, што гэта Янка чытаў кніжку і звярнуў увагу на гэтыя словы. Ён і ў дарозе шмат чытаў. Прыйдзем стомленыя, запыленыя ў гасцініцу ці ў вясковую хату, а Янка адразу за кніжку. З сабою вазіў таўшчэзны том вершаў Купалы. Купалаўская тэма была яго жыццём, натхненнем. Ён і пачынаў з партрэтаў Я. Купалы, і дыпломную работу сваю назваў «А хто там ідзе?» — серыя аўталітаграфій па матывах твораў песняра. Як і апошнія яго работы. Янка сам працаваў натхнёна і памагаў усім, хто браўся за купалаўскую тэму ў мастацтве.

— Мы былі аднакурснікамі,— успамінае вядомы беларускі жывапісец Юзеф Пучынскі.— Дружба ў нас з Янкам была моцная, на ўсё жыццё. Я ўзяў сабе дыпломную работу «Купала з народам». Каб лепш ужыцца ў матэрыял, Янка прапанаваў мне паехаць у Палачаны, дзе Ку-

пала працаваў на бровары. Мы там сустрэлі людзей, якія памятаюць той час. Янка мне падказаў такія «дробязі», якія прыдаліся для работы над карцінай...

Вядомы майстар кніжнай і станковай графікі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР Арлен Кашкурэвіч таксама дзеліцца ўспамінамі пра свайго блізкага сябра-аднакурсніка.

— Галоўнае, што мяне здзіўляла ў Янку,— ягоная выключная шчырасць і прамата. Шчырасць і ў жыцці, і ў мастацтве. І мне, дзякуючы расказам Янкі, многае адкрылася ў складаным і нялёгкім жыцці Купалы, калі я ўзяўся за купалаўскую тэму. З дапамогай Янкі мне ўдалося ў сваіх работах дасягнуць таго, чаго я не дасягнуў бы, абмяжоўваючыся толькі прачытаннем купалаўскіх твораў...

У Янкі было багата сяброў, і яны назаўсёды зберaглі ў сэрцы памяць аб ім, як аб шчырым чалавеку і паплечніку.

Але вернемся ў вёску Карпаўцы, да Рамана Алізаравіча. Наш герой спадабаўся нам. Назіраючы за яго работай, Янка неяк сказаў: «Камсамольская хватка».

— Дык гэта ж добры загаловак для нарыса!

— Бяры, дарую,— жартаўліва сказаў Янка.

Пасля паездкі ў Карпаўцы нас угаварылі выступіць па тэлебачанні. Мы доўга аднекваліся, потым усё ж згадзіліся. Сядзім перад «юпітэрамі» і дрыжым.

— Што хвалюешся? — пытаюся.

— Вельмі ж страшна,— адказвае Янка і выцірае спацелы лоб.

Тады неяк разгаварыліся. Янка паказваў свае малюнкі і коратка, але выразна іх каменціраваў. Нават прыгадаў такія дэталі з будняў маладога старшыні, якія сведчылі, што ён — чалавек вялікай назіральнасці.

Потым у нас была камандзіроўка на Любаншчыну. Мы наважылі праехаць па Купалавым маршруце. Паездка была адной з плённых, асабліва для Янкі. Партрэты камунараў першай камуны на Палессі, якіх уславіў вялікі пясняр у паэме «Над ракой Арэсай», займаюць віднае месца ў творчай спадчыне мастака. Многа новага адкрыў тады для сябе Янка, бо мы адшукалі былых камунараў і мелі з імі адкрытыя, шчырыя гутаркі.

І ад паездкі ў калгасе імя Кірава на Шклоўшчыне таксама засталіся яркія ўражанні. Гэта была наша з Янкам апошняя вандроўка. Стаяла спякотлівае, прапахлае асмяглымі травамі і пылам лета 1971 года.

Янка, як заўсёды, цягавіта і па-сялянску ўпарта пра-

цаваў. На кватэры мы пасяліліся ў бабулі Матроны Храмцовай. Пра сваіх людзей яна расказвала столькі і такое, чаго не ўведаў бы ніводзін карэспандэнт, які гутарыў бы з ёю, раскрыўшы блакнот.

— Так і трэба збіраць матэрыял, калі мы хочам, каб нашыя творы чыталіся,— гаварыў Янка, захоплены досціпамі гаспадыні.

Мы выканалі заданне рэдакцыі, і Янка прапанаваў:

— З'ездзім да Вялічкі, старшыні калгаса імя Я. Купалы. Гэта недалёчка, за Амерыкай,— ён стрымана ўсміхнуўся, пазіраючы то на старшыню калгаса Васіля Пархоменку, то на мяне.

Амерыка — невялікая вёсачка, за полем якой пачынаюцца землі аршанскага калгаса імя Янкі Купалы. А Уладзімір Вялічка, старшыня калгаса — равеснік Янкі. Яны сябравалі, калі ў перадваенныя гады Янка жыў у дзядзькі на дачы ў Ляўках.

Ім было што ўспомніць. А мне цікава было назіраць, як між сабою старшыні-суседзі то жартавалі, то сур'ёзна абмяркоўвалі свае клопаты і праблемы. Пасля Янка раіў мне: «Прыглядайся. Цікавая, па-мойму, тэма. Дружба двух старшыняў: адзін беларус, другі — украінец. І абодва талковыя гаспадары».

...Як ужо было сказана, Янка шмат і плённа працаваў. Яго натхняла ўдзячная тэма, якую падараваў яму лёс. Партрэты вялікага песняра зямлі беларускай, зробленыя Я. Раманоўскім, вызначаюцца каларытнасцю малюнка, глыбінёй пранікнення ў характар і індывідуальнасць вобраза.

У апошнія гады ім зроблены выдатны альбом — літаграфіі з жыцця Я. Купалы. У прадмове да альбома Янка піша: «Яшчэ малы я любіў маляваць, і дзядзька Янка быў першым маім крытыкам, дарадчыкам. І так да апошняга майго развітання з дзядзькам, якое было ў сорак першым у Ляўках, калі ён, выгнаны вайною з роднай хаты, пакідаў Беларусь...»

Думаецца, каб Янка Раманоўскі зрабіў толькі гэтыя літаграфіі, то і таго дастаткова, каб не быць забытым.

Да апошніх дзён Янка не выпускаў з рук алоўка. Ужо ў бальніцы рабіў накіды задуманай работы «Сустрэча Я. Коласа з Я. Купалам у Смольні» (на радзіме Я. Коласа). Вельмі хваляваўся за свой часопіс. Тады «Маладосць» рыхтавалася да новага фармату, і мы паказвалі варыянты новай вокладкі, эскізы афармлення часопіса, і Янка ажываў — здавалася, што хвароба ад яго адступіцца.

Янка нарадзіўся ў жніўні, у дні спелага лета, калі даспяваючымі каласамі звінела жыта, крамянасцю наліваліся сады...

Чатыры гады ён не дажыў да пяцідзесяці...

Засталася добрая памяць — яго праца. Жнівень яго жыцця.

## СМЯЯЦЦА КАРЫСНА!

«Буян» — дзесятая кніга Міхася Пянкрата, які плённа працуе ў жанры гумару і сатыры, а таксама піша сур'ёзныя апавяданні і нарысы. Пачынаў ён з паэзіі, як паэт-лірык. Першы паэтычны зборнік «Салаўіны бераг» убачыў свет у 1956 годзе. Раней былі допісы і карэспандэнцыі ў рудзенскай раённай газеце, яшчэ перад вайною аўтар іх звязаў свой лёс з газетай, стаў прафесійным журналістам.

Творы Міхася Пянкрата пазначаны светлым, мяккім гумарам, пазначаны любоўю да людзей працавітых, моцна звязаных з зямлёй, якую ўпрыгожваюць рукамі і розумам сваім.

Пісьменнік добра ведае жыццё, побыт людзей, пра якіх піша, захапляючыся іх стваральнай дзейнасцю. Народны, дасціпны гумар, якім ён валодае, дапамагае ўбачыць яркія і каларытныя характары ў рэальным жыцці, вымалёўваць іх жывымі, тонкімі фарбамі.

Міхась Пянкрат расказвае (дарэчы, з добрай усмешкай, з дасціпам гумарыста), як падчас вайны, вярнуўшыся з партызанаў улетку 1944 года, пачаў працаваць у рэдакцыі маладзёжнай газеты «Знамя юности» у сельскагаспадарчым аддзеле. «З таго часу,— зазначае ён,— не разлучаюся з журналістыкай і не адрываюся ад гэтага самага «сельскагаспадарчага аддзела»...

Каб быць сапраўдным гумарыстам, апрача здольнасці пісаць і бачыць, трэба, мабыць, і самому быць чалавекам з гумарам, а гэта ўжо даецца са з'яўленнем на свет, інакш кажучы, ад нараджэння. А гумар, як вядома, не забаўкі і пацешкі, а справа сур'ёзная.

Умее Міхась Пянкрат сказаць коратка і трапна, умее высмеяць так званых адмоўных тыпаў, стварыць запамінальны характар. Як дбайны і руплівы гаспадар вынішчае пустазелле на палетку, так гумарыст і сатырык на полі жыцця бязлітасна выкрывае ўсё адмоўнае — розных прайдзісветаў і махляроў, лайдакоў і прыстасаванцаў, якіх, на жаль, яшчэ не перавялося, і яны, як тыя ваўчкі-прыліпа-

лы для людзей, што працуюць чэсна, аддаюць сілы і здольнасці на карысць грамадству.

Не лёгкая гэта справа — разгадаць таго самага падхаліма ці прыстасаванца, які ўмее падладзіцца пад добранькага і чысценькага. Здавалася б, як кажа сам пісьменнік, прасцей простага — знайшоў гэтага самага хапугу і паласуй яго ўдоўж і поперак. Ды не ж. Тут не так усё проста, як здаецца на першы погляд. Чалавек — гэта вельмі складана.

Аповесць «Буян» — кароткая, але багатая на змест і думку. У ёй жывуць і дзейнічаюць розныя людзі, якія па-рознаму глядзяць на жыццё, на прызначэнне чалавека ў гэтым цікавым і вельмі складаным свеце. Яна пабудавана як маналог Петрака, вясковага хлопца, «Міхалёвага сына», які аднойчы на абочыне дарогі знайшоў крываногае сабачанё, якое потым і выгадавалася ў яго. Сабачанё аказалася ваўком, якога кінула ваўчыца, бо ён быў слабы і нягеглы. Буян — так назваў шчанюка Міхалёў сын — вырадаваўся і з дапамогай гаспадара пазнаваў жыццё, вучыўся справядліва і сумленна жыць. Яго не зразумелі людзі, і Буян у рэшце рэшт пакідае гаспадара, страчаецца з ваўчыцай і бяжыць у лес. Ляснік Макар, да якога звярнуўся Міхалёў сын, сказаў: «Як ваўка ні кармі, ён заўсёды ў лес глядзіць». Пакрыўдзіў Буяна і вартаўнік саду Нупрэй, чалавек з калючым характарам. Перажываючы за Буяна, Міхалёў сын гаворыць: «Дзядзька Нупрэй, часам чалавек бывае горш за сабаку. Гледзячы, які сабака і які чалавек...»

У размове Міхалёвага сына з дзядзькам Нупрэем, якая была далей, выяўляецца іх стаўленне да людзей, да чалавечых якасцей, якія часам праяўляюцца нечакана, у крытычныя моманты і незвычайныя сітуацыі. Іншы чалавек, разважае Міхалёў сын, «паглядзіш — прыгожы, а што там унутры — невядома. А прыгажосць, яна якраз унутры і сядзіць...».

Аповесць напісана з вялікай замілаванасцю і любоўю да ўсяго жывога на зямлі, заклапочанасцю аб захаванні роднай прыроды. У творы багата ўмоўнага, алегарычнага, але алегорыі і апісаныя ў гэтым плане падзеі ўспрымаюцца як рэальныя. Чытач верыць героям, хвалюецца і перажывае за іх лёс.

«Асноўная думка, якую хацелася давесці чытачу,— сказаў аўтар пра сваю аповесць,— чалавечае ў чалавеку. Як у прыродзе, так і між людзей няхай жыве ўсё добрае. Добрае перамагае благое. На тое і дадзена душа і сэрца

чалавеку, каб ён мілеў ласкаю да ўсяго добрага, што акружае яго, бо ад яго дабрыні і справядлівасці залежыць даўгавечнасць і прыгажосць усяго, што мы разумеем пад словам — прырода...»

Тут, у кніжцы, і гумарыстычныя апавяданні і гумарэскі. Яны чытаюцца цікава. У іх жывуць і праяўляюць сябе людзі, розныя па ўзросту і па сваіх чалавечых якасцях. Добразычліва, з добрай светлай усмешкаю малююцца іх чалавечыя хібы і слабасці. Мастацкае бачанне, пільны зрок абяцаюць нам новыя, цікавыя сустрэчы з пісьменнікам, які працуе ў складаным і не кожнаму даспадобы жанры.

## СУСТРЭЧЫ Ў МАЛЕЕЎЦЫ

Канец сакавіка 1982 года. Сонечным марозным ранкам рэйсавым аўтобусам з Дорахава дабраўся ў Малееўку, у Дом творчасці імя А. С. Серафімовіча. У першы ж дзень сустрэўся з Сцяпанам Шырабокавым, народным паэтам Удмурціі. Знаёмства адбылося незвычайна проста — нашы пакоі аказаліся побач.

— Вы адкуль? — усміхаючыся, запытаў у мяне шчуплы, сярэдняга росту мужчына, выходзячы раніцай са свайго пакоя.— Давайце знаёміцца: я з Іжэўска, Шырабокаў, Сцяпан Паўлавіч...

— Я з Беларусі, з Мінска,— паціскаючы працягнутую мне цёплую руку, назваў сябе.— Як вы дабраліся?..

— А, добра! — прыязна ўсміхнуўся Сцяпан Паўлавіч.— З Масквы аўтобусам. Ведаеце, якія тут прыгожыя мясціны. Лясное Падмаскоўе. Знакамітае Барадзіно... Радзіма Юрыя Гагарына... Трэба з'ездзіць, паглядзець усё гэта. Для нашага брата-літаратара вельмі важна як мага больш бачыць, як найчасцей сустракацца з людзьмі. Ці не праўда, цёзка?..

Сцяпан Паўлавіч сарамяжліва ўсміхнуўся і тут жа патушыў усмешку, паказаўся нейкім сумнавата-змораным; з-пад крута зломаных броваў мякка бліснулі іскрынкі прыжмураных блакітнаватых вачэй. Ён звыкла паправіў рукой прычоску, і я прыкмеціў — у яго прыгожы шырокі лоб у абрамленні густых светлаватых валасоў, і сам чалавек увесь жвавы, маладцавата-падцягнуты. Я сказаў, што ён так маладжава выглядае — Сцяпан Паўлавіч толькі паціснуў плячыма, зноў мяккая, добрая ўсмешка ўспыхнула на чыстым, бледнаватым твары і тут жа знікла.

— Дзе ўжо там! Не заўважыў, як прайшла-мінула маладосць. Ужо восенню семдзесят стукне...

— Юбілей, значыць!..

— Так, юбілей,— уздыхнуў Сцяпан Паўлавіч. Памаўчаў, тады весялей дабавіў: — Адчуваю сябе добра, ды вось зубы... Відаць, тут займуся гэтай справай. Як гаворыцца, між іншым...

Неяк ненаўмысна запытаў я ў Сцяпана Паўлавіча, ці быў ён на вайне, але чамусьці ашчадліва пашкадаваў, баючыся, каб не пакрыўдзіць чалавека — мы ж яшчэ не былі блізка знаёмыя.

Сцяпан Паўлавіч, трымаючыся правай рукою за шчаку ( у яго, бачна, разбалеліся зубы), коратка сказаў:

— Так, быў на вайне... Няхай яна, праклятая, больш ніколі не паўторыцца!.. Прайшоў і фінскую, радавым. На апошняй на розных франтах пабыў. Калі-небудзь пра гэта пагаворым...

...Аднойчы вечарам мы заседзеліся. Я запрасіў да сябе Сцяпана Паўлавіча, і ён ахвотна згадзіўся. Увогуле ён спачатку здаўся мне неразгаворлівым, нават больш таго, маўчуном. Сцяпан Паўлавіч успомніў сваё дзяцінства ў лясной вёсачцы Малы Казес, дзе нарадзіўся 18 кастрычніка 1912 года.

— Гэта невялічкая вёсачка,— разгаварыўшыся, расказваў госць,— згубілася ў глухім дрымучым лесе. Яе ўпрыгожвае звонка-серабрыстая рэчачка, якая назаўсёды мне дарагая як памяць незабыўнага маленства. Там жа закончыў пачатковую школу. Пасля — педтэхнікум. У 1939 годзе — педінстытут...

Сцяпану Паўлавічу, як і ўсяму нашаму пакаленню, была наканавана нялёгкая жыццёвая дарога воіна-франтавіка. Яго служба ў Чырвонай Арміі супала з фінскай кампаніяй. На Фінскім фронце, пад Выбаргам, ён, кулямётчык, быў цяжка паранены, доўга лячыўся ў шпіталях. Калі паправіўся, дэмабілізаваўся. Працаваў настаўнікам. І жонка — настаўніца, выкладчыца рускай мовы. У даваенны час Сцяпану Паўлавічу не давялося сур'ёзна ўзяцца за пісьменніцкую працу. «Увесь час,— казаў ён, уздыхнуўшы,— забірала школа». Можа быць, ён стаў бы паэтам і празаікам, але хутка пачалася Вялікая Айчынная...

— Мяне прызвалі ў дзеючую армію,— успамінаў Сцяпан Паўлавіч,— увосень 1942 года і адразу я папаў на фронт пад Харкаў. Зіма. Цяжкія баі. Вялікія нашы страты. Раненне. Медсанбат. Блуканні па шпіталях...

— Вы ведаеце,— памаўчаўшы і як бы збіраючыся з

думкамі, працягваў Сцяпан Паўлавіч.— Я вельмі ўзрадаваўся, калі даведаўся, што сусед мой з Беларусі. О, я ведаю, беларусы — надзвычай просты і добры народ. Я быў там, пад Віцебскам, у баях. І ў шпіталі там лячыўся. Ляжаў з беларусамі. Вельмі душэўныя, цудоўныя былі хлопцы. Асабліва я пасябраваў з адным... Яго імя, здаецца, Вася. Таксама малады настаўнік. Як ён хораша і натхнёна чытаў вершы Лермантава, Пушкіна. Вядома, па памяці... Раздзелы з паэмы Аляксандра Твардоўскага «Васіль Цёркін» дэкламаваў так, што за бокі браліся ад смеху. Мы яго называлі «беларускі Цёркін».

Я ўспомніў, што зімою 1981 года ў нас пад Мінскам, у Доме творчасці ў Каралішчавічах, адпачываў госць з Удмурціі. Здаецца, Чарноў. Малады, вельмі далікатны хлопец. Нам, хто з ім пазнаёміўся, ён вельмі спадабаўся.

— А, ведаю! — ажывіўся, павесялеў Сцяпан Паўлавіч.— Гэта наш малады празаік. Здольны. Пладавіты. А я — паэт. Вось пішу паэму для дзяцей. Хочацца закончыць да 70-годдзя...

Тады ж, у час нашай сустрэчы, я даведаўся, што Сцяпан Шырабокаў і драматург, вядомы і за межамі сваёй рэспублікі.

— Першая мая п'еса,— сказаў Сцяпан Паўлавіч,— была пастаўлена ў 1954 годзе — «У воўка свая сцяжына...»,— на удмурцкай і рускай мовах, у Рускім драмтэатры ў Іжэўску. Другая — камедыя «Калі няма кахання» пра жыццё вясковай моладзі. Ва Удмурцкім драмтэатры яна ішла каля трох гадоў. П'еса ў вершах «Дзяўчаты-прыгажуні» ішла на сцэне драмтэатра з вялікім поспехам. Яе — першую п'есу ў вершах на ўдмурцкай мове — ставілі і калектывы мастацкай самадзейнасці...

— У час вайны вершы пісаліся, Сцяпан Паўлавіч? — запытаў я, калі мы ўсё больш разгаварыліся.

— Не да гэтага было,— прызнаўся ён.— Але ўсё ж пісаў. Пачаў пісаць. Здаецца, адчуў, што не магу не пісаць. Пісалася ў ахвоту і плённа. У 1944 годзе выйшаў мой першы невялікі зборнік вершаў на роднай мове, называўся «Поле бою».

Поле бою! Канечне, яно жыло ў памяці стралка і кулямётчыка Сцяпана Шырабокава, пасля — вадзіцеля незаменнай працаўніцы «ГАЗ-АА», якую франтавікі з усмешкай называлі «Газ — два раз». У баях і паходах вясковы настаўнік з удмурцкай лясной вёскі пабываў у Румыніі і Балгарыі, Чэхаславакіі і Венгрыі. Дзень Перамогі сустрэў у Вене. Назаўсёды засталося ў памяці, як ліка-

валі і радаваліся народы, якім савецкія воіны прынеслі вызваленне...

Вядома, воін-франтавік, радавы атак і паходаў, не мог не пісаць пра тое, чым жыў, што бачыў і перажыў,— пра моцную салдацкую дружбу і баявое, франтавое пабрацімства. Паэма «Два браты», якая выйшла ў 1945 годзе,— натхнёная, патрыятычная песня мужнасці і гераізму савецкіх людзей, якія заваявалі вялікую Перамогу над зласнейшым ворагам чалавецтва — нямецкім фашызмам.

Паэт становіцца вядомым рускаму чытачу. У перакладзе на рускую мову выходзяць ягоныя зборнікі вершаў мірнага часу — «Песні палёў» і «Няхай пяюць салаўі».

Сцяпан Паўлавіч Шырабокаў — член Саюза пісьменнікаў СССР з 1951 года. Больш за сто песень пяецца ў роднай Удмурціі на яго словы. Урачыстыя, лірычныя, бытавыя і жартоўныя, яны сталі папулярнымі ў народзе, бо сугучныя радасцям і турботам народу.

У 1963 годзе Сцяпану Шырабокаву — першаму ў рэспубліцы — было прысвоена ганаровае званне народнага паэта Удмурціі.

Гэта ўсё я, вядома, даведаўся не толькі з нашай першай сустрэчы, а на працягу нашых сяброўскіх гутарак у Малееўцы, якія назаўсёды пасяліліся ў нашых брацкіх сэрцах.

...— Мне вельмі прыемна было з вамі пазнаёміцца,— сказаў я тады на развітанне Сцяпану Паўлавічу.— Заходзьце...

— Вядома,— сказаў ён, усміхаючыся сваёй адметнай, сарамяжлівай усмешкай.— Мы ж суседзі!..

Неяк на праходцы (у Малееўцы ёсць цудоўная ліпавая алея, якая вядзе ад старога корпуса да галоўнага ўезда) мы гаварылі аб прыродзе творчасці. З намі была Зайнаб Біішава, старэйшая пісьменніца Башкірыі, аўтар вядомай трылогіі «Да святла», актыўны грамадскі дзеяч. Вельмі абаяльная жанчына, чалавек цікавага і нялёгкага лёсу.

— Што сапраўднага пісьменніка робіць пісьменнікам нацыянальным? — казала яна, раздумваючы, і сама ж адказвала.— Пісаць праўду жыцця. Не крывіць душой перад праўдай і, вядома, мець талент — вось што робіць пісьменніка сапраўдным нацыянальным пісьменнікам.— І далей: — Калі пішу, я добра ведаю сваіх герояў — жывых людзей, за лёс якіх хвалююся, перажываю іх радасці і беды разам з імі...

Сцяпан Паўлавіч у знак згодыківаў галавой, але, здаецца, быццам быў заняты думкамі пра нешта сваё, вядомае толькі яму аднаму. Потым, калі маўчанне зацягнулася, сказаў коратка, магчыма, каб падтрымаць субяседніцу:

— Вядома, трэба ведаць сваіх герояў. І ўвогуле, прадмет сваіх пісанняў. Праўдзівасць, вернасць праўдзе і мастакоўскае майстэрства — без гэтага не можа быць сапраўднага мастака...

Загаварылі пра драматургію. Аказваецца, абое яны працуюць у гэтым цяжкім жанры, іх п'есы маюць поспех. Сцяпан Паўлавіч сказаў, што на сцэне Удмурцкага дзяржаўнага тэатра паспяхова ішла п'еса Зайнаб Біішавай «Зарок».

Зайнаб Абдулаўна сказала, што працуе над новай драматычнай паэмай у вершах «Зульхіза». «Мне тут пішацца добра,— гаварыла яна.— Хачу напісаць кнігу ўспамінаў. Мне ёсць што сказаць пра свой народ, пра нашых пісьменнікаў, маіх сучаснікаў, якія без часу пайшлі з жыцця. Калі я не скажу пра іх, то хто скажа? А яны заслугоўваюць добрага, сумленнага слова, бо гэта былі надзіва сумленныя, чэсныя людзі, якія аддана, да самазабыцця служылі свайму народу і аддалі за яго свае маладыя жыцці...»

— Правільна! Справядліва! — як не ўсклікнуў Сцяпан Паўлавіч.— А мне ўсё неяк не выпадае ўзяцца за ўспаміны. А трэба было б! Багата пражыта, а яшчэ больш перажыта!..

Аднойчы Сцяпан Паўлавіч, вяртаючыся з суседняга санаторыя «Дорахава», дзе яго лячылі ў стаматалогіі, сказаў мне па дарозе ў сталовую:

— Вось бачыш, цёзка, трэба было б працаваць — час якраз для працы тут, бачыш, найлепшы — мароз і сонца, а прыходзіцца адлежвацца. Нічога, перажывём!..

Я адчуў, як ён, гэты чалавек, загартаваны ў цяжкасцях і ліхалецці— і дабрадушны, і валявы, і цвёрды, як крэмень.

...У наступным, 1983 годзе, я пачуў журботную вестку — Сцяпана Паўлавіча не стала, у хуткім часе, як ва Удмурціі было ўрачыста адзначана яго сямідзесяцігоддзе. Няхай хаця гэтыя радкі будуць у вянок памяці першага народнага паэта Удмурціі С. П. Шырабокава, чалавека з адкрытым для людской любові сэрцам.

## ЗМЕСТ

### АПАВЯДАННІ



### НАРЫСЫ, ЭСЭ



### ЛІТАРАТУРНЫЯ ПАРТРЭТЫ

**Кухараў С.**

К 95 Спішанае поле: Апавяданні, нарысы, эсэ, літ. партрэты.— Мн.: Маст. літ., 1986.— 319 с.: іл.

«Спішанае поле» — кніга вядомага беларускага празаіка і публіцыста пра нашых сучаснікаў, аб іх каханні і працы, шчырасці і душэўнай прыгажосці. Цераз усе творы праходзіць эстафета іх вернасці абавязку, любві да роднай зямлі. Асобны раздзел — літаратурныя партрэты.

К $\frac{4702120200-104}{М 302(05)-86}$ 17—86 **ББК84 Бел7**

СТЕПАН ИВАНОВИЧ КУХАРЕВ

**ТИХОЕ ПОЛЕ**

**[Рассказы, очерки, эссе, литературные портреты**

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Рэдактар *І. І. Канановіч*
Мастак *Л. У. Паўленка*
Мастацкія рэдактары *М. Я. Шкурпіт, В. П. Жыжэнка*
Тэхнічны рэдактар *Г. П. Тарасевіч*
Карэктар *І. М. Паланейчык*

ІБ № 2513

Здадзена ў набор 25.11.85. Падп. да друку 16.06.86. АТ 00114. Фармат 84×108¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 16,80. Ум. фарб.-адб. 16,80. Ул.-выд. арк. 18,83. Тыраж 10 000 экз. Зак. 1969. Цана 1 р. 20 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11. З набору Мінскага ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбіната МВПА імя Я. Коласа, 220005, Мінск, Чырвоная, 23, друкарня Францыска (Георгія) Скарыны выдавецтва «Навука і тэхніка», 220600, Мінск, Ленінскі праспект, 68. Зак. 1060.